*На правах машынапісу*

*З блаславеньня а. Аляксандра Надсана*

**Увага рэдакцыі часопіса “Божым шляхам”:** Аўтар гэтых катэхэзаў сьв. п. а. д-р. Т. Падзява памёр год таму назад, 2 кастр. 1975 г (Гл.: Божым Шляхам, Нр. 3-4 (145-146), 1975, с. 8-10). За яго жыцьця было надрукавана ў нашым часапісе ўсяго толькі 15 катэхэзаў, а ўсіх ён апрацаваў 135. Сталася-б вялікая шкода, каб гэта арыгінальная, глыбока перадуманая праца, адзіная ў беларускай рэлігійнай літаратуры, засталася толькі ў рукапісу. Таму будзем прадоўжваць яе друк, не зьмяняючы парадку і стылю аўтара. (БШ №147-148/1976, с.9)

**Увага рэдактара новага машынапісу:** Усяго ў часопісе “Божым шляхам” было надрукавана 29 катэхэзаў (апошнія – ў БШ №151/1980, сс. 4-8). Але таксама і сёньня, праз больш як 35 год з моманту адыходу да вечнасьці сьв. памяці а. д-ра Тамаша Падзявы, у беларусаў-каталікоў ўсё яшчэ няма добрай катэхізмоўкі для моладзі і дарослых, напісанай зразумелай мовай, якую можна было б лёгка чытаць, паводле якой можна было б правяраць свае веды, якую можна было б карыстаць для самаадукацыі. Дзеля таго, каб даць сучаснаму каталіку добры дапаможнік для лепшага пазнаньня духоўных ведаў, мы вырашылі даць новае жыцьцё працы а.Тамаша і аднавіць памяць аб ім у народзе.

**Над тэкстам працавалі:**
Каардынатар працы: а. Сяргей Стасевіч.
Рэдактар тэксту: а. Алесь Аўдзяюк.
Кампутаровы набор тэксту: а. Алесь Аўдзяюк, а. Андрэй Крот.

## Прадмова

Патрэба новай катэхізмоўкі ў беларускай мове вельмі адчуваецца. Каталікі беларусы падрыхтавалі да друку новую катэхізмоўку, аднак яна, нажаль, яшчэ ня можа свабодна друкавацца на нашай дарагой Радзіме! Таму мы пастанавілі і ў радыё і ў «Божым Шляхам» перадаваць паміж іншым таксама і катэхізмы.

Як ведама, катэхізмам называецца навучаньне праз пытаньні і адказы. Гэтак яго звалі грэкі, бо па грэцку «катэхізм» значыць «рэха». Калі гукнуць у лесе, дык рэха жыва адгукнецца, паўтараючы нашыя словы, быццам хацела нам адказаць. Перадаючы катэхізмы, мы будзем таксама даваць важнейшыя пытаньні і адказы на іх, каб нашыя чытачы змаглі нават запісаць іх сабе і з часам мець падручную катэхізмоўку.

Найперш мы будзем гаварыць аб гісторыі выратаваньня (збаўленьня). Аб чым гаворыць гісторыя выратаваньня?

Гісторыя выратаваньня, або збаўленьня, гаворыць нам аб падзеях, праз якія Бог прыводзіў і вядзе людзей да Сябе.

1-я КАТЭХЭЗА

# 1. Бог гаворыць да чалавека

У Другой Кнізе Макавеяў (7, 28) мы чытаем: “Паглядзі на неба і на зямлю ... зьвярні ўвагу, што Бог стварыў іх з нічога”. А ў Кнізе Выхаду (20, 2) Бог кажа да гэбрайскага народу: «Я ёсьць твой Бог».

А хто такі БОГ? Кожны з нас ужо шмат чуў аб Ім, найчасьцей ад сваёй маткі. У вольным сьвеце аб Богу навучаюць нават у школах. І наогул нават малыя дзеці ведаюць, што Бог стварыў усё, што бачым навокал сябе. І Бог стварыў мяне і цябе: Бог – наш СТВАРЫЦЕЛЬ.

І БОГ любіць нас. А Яго ня любяць толькі тыя, што Яго яшчэ не пазналі і нічога аб Ім ня ведаюць.

Каб паказаць чалавеку сваю любоў, Бог гаварыў да людзей і аб'яўляўся ім.

Перадусім Бог гаворыць да чалавека праз гэты сьвет, які Ён стварыў. Бо **сьвет** нас вучыць, што Бог ёсьць і што Бог ёсьць вялікі, дасканалы і магутны, калі мог стварыць такі сьвет. Гэтак, наглядаючы і пазнаючы сьвет, чалавек можа пазнаваць і Бога.

Аднак Бог гаварыў да людзей яшчэ і шмат ясьнейшым спосабам. Ужо на самым пачатку аб'явіў Бог Сябе першым людзям. А пасьля ўжо — шмат пазьней — гаварыў і паклікаў Абрагама, з якога паўстаў увесь «выбраны народ» — Божы народ.

Бог узяў пад апеку выбраны народ, кіраваў ім і аб'яўляў яму недаступныя для чалавека праўды, якіх людзі самі ніколі не пазналі б. Гэтак Бог прыгатаваў людзей на прыход Свайго Сына, Ісуса Хрыста. А Сын Божы стаўся Чалавекам, нарадзіўся з Дзевы Марыі, памёр і ўваскрос, каб усе людзі маглі знайсьці пэўны шлях да Бога. Таму, што Бог ёсьць **Любоў** і Бог сваё шчасьце знаходзіць у Любові; дык і людзей стварыў такімі, што і яны ні ў чым іншым шчасьця знайсьці ня могуць.

Пасьля гэтага Божы Сын вярнуўся да свайго Айца, але Ён і далей памагае людзям ратавацца. Дый абяцаў у канцы прыйсьці яшчэ раз, каб ужо на заўсёды злучыць людзей з Сабою.

Усе гэтыя падзеі, карысныя для чалавека, мы называем *Гісторыяй збаўленьня*.

І ўсё, што Бог зрабіў для людзей перад Нараджэньнем Ісуса Хрыста запісана ў кнігах Старога Закону або Запавету. А тое, што Бог даканаў для нашага збаўленьня праз Хрыста, запісана ў кнігах Новага Закону або

Запавету. Сьвятое Пісьмо ёсьць голасам Бога, Які гаворыць да людзей і заклікае іх да лучнасьці з Ім.

Мэтай катэхізму і ёсьць памагчы людзям пазнаць і зразумець, што зрабіў Бог, каб выратаваць людзей.

А нашым адказам Богу будзе ахвотна пазнаць усё, што Бог даканаў для мяне і што робіць для нас у гісторыі збаўленьня.

Добрым знакам для меня будзе тое, што мне моцна захочацца самому сказаць ад сябе сваё слова Богу, інакш кажучы, памаліцца ! Але можа я ня буду ведаць, як гэта зрабіць? Аднак ёсьць на гэта добрая рада: на гэтую нагоду Сьвятое Пісьмо мае для нас багаты запас гатовых малітваў, якія будзем падаваць у канцы кожнай катэхэзы. І цяпер падаём некалькі вершаў з 97-га Псальму *(1-3)* дзеля прыкладу, як можна добра маліцца.

Калі б мы жадалі сказаць Богу нешта падобнае сваімі словамі, дык гэта была б яшчэ лепшая малітва і карысьць з яе большая. А тымчасам вучыць нас добрай малітвы Сьвятое Пісьмо:

*— Сьпявайце Госпаду новую песьню, бо Ён учыніў цуды!.. Госпад аб'явіў спасеньне сваё.*

*— Выхваляйце Госпада на гусьлях і галосным пяяньнем!*

*— На трубах і гукам рагоў, спраўляйце ўрачыстасьць прад Царом-Госпадам!*

*— Няхай забушуе мора і ўсё, што яго напаўняе, сусьвет і ўсё, што на ім жыве!*

*— Няхай пляскаюць у далонькі рэкі, а ўсе горы няхай радуюцца!*

*— Перад абліччам Госпада, бо Ён ідзе судзіць зямлю, Сусьвет Ён будзе судзіць справядліва і народы па праўдзе...*

*

Калі хто жадае запісаць першае пытаньне і адказ на яго, можа гэта рабіць цяпер. Паўтараем:

**Пытаньне да 1-й катэхэзы:**

1) Аб чым гаворыць гісторыя збаўленьня?

**Адказ:** Гісторыя збаўленьня гаворыць нам аб падзеях, праз якія Бог вядзе людзей да Сябе.

2-я КАТЭХЭЗА

# 2. Адказ чалавека на Божы заклік

У Сьвятым Пісьме запісаныя здарэньні, у якіх чытаем, як Бог гаварыў да выбраных людзей, а гаварыў зусім па людзку, як чалавек да чалавека. Гэтак гаварыў Бог да Абрагама, да Майсея, да прарокаў і да іншых. Усе яны адклікаліся на Божы голас.

А чаму Бог ня кліча так кожнага чалавека, а толькі некаторых? Ці можа таму, што любіць адных больш, а другіх менш? Як і мы больш любім прыгажэйшых, ці разумнейшых, ці лепшых...

Але перад Богам усе людзі роўныя і годныя, бо не глядзіць на іх паводле капрызу, або паводле патрэбы сваёй ці чалавечай; а чалавека любіць, як сваё тварэньне і дзіця. Калі возьмем параўнаньне з жыцьця, дык нельга сказаць, што чалавек любіць больш міску чым лыжку. Кожная пасудзіна зьмяшчае столькі, колькі магчыма...

Цяпер мне ня цяжка будзе зразумець, чаму Бог для мяне выбраў бацькоў на Беларусі, а не ў Кітаі, ці Індыі і чаму я нарадзіўся ў сям'і хрысьціянскай, а не ў юдэйскай.

І вось я, як сьвятар, пішу цяпер катэхэзу: гэта – мой адказ на Божы голас, які я ўвесь час чую, хоць і не так яўна, як чуў той Абрагам і прарокі, бо чую

Божы голас толькі “вухам” веры; але мне і гэтага досыць, каб рабіць тое, чаго ад мяне Бог вымагае. А я нават чуюся больш задаволеным, што Бог не гаворыць да мяне асабіста, бо тады я ня меў-бы такой свабоды паслухаць Бога, або і не... А гэтую свабоду дае мне мая вера.

Таму, калі Бог стварыў мяне свабодным, дык ня хоча прымушаць абсалютна да нічога, бо тады Бог забіраў-бы ад мяне назад тое, чым мяне абдараваў, значыць, маю вольную волю і свабоду.

А тымчасам усе неразумныя стварэньні спаўняюць Божую волю акуратна і адразу, але ўсё-ж пад прымусам і ня маюць аніякае заслугі. А я за свае ўчынкі маю заслугу — залежна ад маей волі.

Калі б я неразумна выкарыстаў сваю волю, каб рабіць ня тое або ня так, як Бог мяне кліча, дый каб я так адмовіўся ад Божай волі, дык стаў бы я не варты, каб Бог мяне любіў.

Дык і вера мяне вучыць, што адвярнуўшыся ад Бога, я адкідаю сваё шчасьце, бо стварыў мяне Бог на тое, каб падзяліцца са мною сваім шчасьцем. І вера мяне вучыць, што шчасьце я магу знайсьці толькі ў Богу: Бог мяне стварыў такім, што — акрамя Бога — ніхто іншы мяне ашчасьлівіць ня можа. Праўда, прыходзіць да нас шчасьце зямное і часова можам яго пакаштаваць, але гэтыя рэчы сапраўды называюцца «дачаснымі» — прамінаюць і зьнікаюць. Дык фактычна ў нашым жыцьці мы ня маем цяперашняга часу, а толькі прошлы і будучы, які на нашых вачах пралятае як фільм на экране.

Кожны фільм — гэта ўжо нейкае мінулае, якое людзі навучыліся запісаць так, як яно запісваецца ў нашай памяці. Таму чалавек можа яшчэ раз прыгледзецца ўсяму, як яно было. Было і ... ужо няма яго! І ніякая сіла ня зможа ўсяго гэтага вярнуць, каб яно перажылося так, як паўтараецца на экране ... А экран нам паказвае дзіўную зьяву: кожная хвілінка нашага жыцьця родзіцца і адразу памірае на нашых вачах, запісаўшыся толькі ў нашай памяці. І гэта ўсё, што жыцьцё нам дае і што можа даць. Дык ці можна такое жыцьцё наагул жыцьцём называць? Ці ня лепш было-б называць яго паміраньнем. А калі так, дык ці не паказвае яно нам, што недзе — паза часам — павінна быць іншае і сапраўднае **жыцьцё**, якога мы ўсьцяж чакаем у будучыні? Бо саліднае нашае шчасьце магчымае толькі ў тым пазачасовым жыцьці.

А што такое пазачасовае жыцьцё ёсьць, аб гэтым гаворыць нам духоўная асоба, якая ёсьць безупынным сьведкам усяго нашага жыцьця — гэта нашая **памяць**. І нашае “Я”, якое не мяняецца, належыць ужо да іншага, пазачасовага сьвету, дзе наш сапраўдны “бацькаўскі дом” і дзе любячы нас добры Бацька-БОГ жыве і чакае. І Бог сапраўды чакае, ці мы захочам дабравольна адазвацца, ці не, калі Ён пакліча нас да Сябе... Так, прыйдзе сьмерць — ужо апошняя, пасьля якой ужо больш нічога да нас ня прыйдзе і мы можам астацца з усімі незаспакоенымі надзеямі, пажаданьнямі і патрэбамі, назаўсёды адарваўшыся ад Бога. А Бог стварыў нас, не пытаючыся, ці мы захочам нарадзіцца беларусамі і мець такіх бацькоў, бо і ня мог Бог нас спытацца, калі нас яшчэ і не было! Але ратаваць нас у жыцьці без нашае згоды Бог напэўна ня будзе! Значыць, мы стаім на раздарожжы: тут нам у кожнай хвіліне трэба пытацца, дзе правільны шлях, куды ісьці і дзе ды ў які бок павярнуцца? Аб гэтым нам скажа наступная катэхэза. Прыступім да яе з поўнай развагай і адказнасьцю, бо і сказана: — «Якое жыцьцё, такая сьмерць; якая сьмерць, такая вечнасьць».

### 2. КАЛІ ХРЫСЬЦІЯНІН АДКАЗВАЕ НА БОЖЫ ЗАКЛІК?

Адказвае тады, калі прызнаецца да Бога **словам і** ўчынкам.

Хрысьціянін — гэта чалавек, які ўлучыўся ў гісторыю выратаваньня (збаўленьня) праз **хрост**. Напрыклад, кожны каталік ці праваслаўны, як малое дзіця быў ахрышчаны «У імя Айца і Сына і Сьвятога Духа». Царква, якая яго ахрысьціла, навучае, што гэтае дзіця бацькі ўлучылі праз гэта ў гісторыю выратаваньня. Бог, дзеля веры бацькоў, усынавіў іхняе дзіця, даючы яму магчымасьць жыць жыцьцём Самога Бога. Ад сваіх бацькоў дзіця вучыцца адрозьніваць дабро і зло. Бацькі тлумачаць яму, што зло прышло на сьвет ад злога духа, які жадае людзям згубы, і што злы дух толькі думае аб тым, як чалавеку зашкодзіць, Ён ужо раз ашукаў першых людзей так моцна, што праз гэта сьмерць прышла на ўсіх людзей. Таму нельга рабіць зла, да якога нячысты дух чалавека спакушае. Трэба рабіць дабро, бо гэтага жадае Бог, які нас стварыў да вечнага жыцьця з Сабой. Калі мы будзем паслушныя Богу, дык Бог будзе нас любіць яшчэ больш і нашае шчасьце пасля сьмерці будзе большае і гэта нам дасьць найбольшае шчасьце яшчэ ў гэтым жыцьці.

Хрыстос, Сын Божы, паказаў людзям, як трэба жыць, каб быць шчасьлівым. Хрыстос устанавіў Тайны, гэта знакі, што, калі мы хочам атрымаць Божую помач, трэба толькі зрабіць гэты знак і Бог акажа нам тую помач, якая нам патрэбна дзеля заслугаў Свайго Сына, Які нам выслужыў у Бога гэтую помач. Напрыклад, хрост лучыць нас з Хрыстом так, што ўсё добрае, што мы робім, мае ў вачах Божых такую самую вартасьць, як усё тое, што рабіў Сам Божы Сын.

У Тайне Еўхарыстыі Хрыстос жывіць нашую веру, надзею і любоў сваім Целам і Крывёю, каб і мы маглі так, як Ён сам, даказаць нават ахвярай са свайго цела і крыві, што мы сапраўды любім Бога і ўсіх людзей бяз вынятку, як Ён гэтага ад нас вымагае. Калі мы гэтак лучымся з Хрыстом, тады мы разам з Ім будуем Божае Валадарства, у якім усе людзі могуць бачыць, што Бог іх любіць.

Бог хоча аб'явіцца ўсім людзям, каб ратаваць усіх, але ня хоча паказвацца ў такіх выразных знаках ці цудах, што было б для людзей прымусам. Каб людзі маглі свабоднаісьці на Ягоны заклік, Бог кліча іх праз людзей. Нас, хрысьціян, Бог паклікаў якраз да таго, каб мы былі Ягонымі сьведкамі, каб сьведчылі аб Ім перад людзьмі нашымі словамі ды ўчынкамі. Тады нашае жыцьцё будзе адказам на Божы заклік. Як бачым, ад хрысьціян Бог вымагае больш, чым ад усіх іншых людзей, бо мы самі больш ад Бога атрымалі. Сам Хрыстос нам гэта сказаў: «Каму больш дадзена, ад таго больш і вымагаецца».

Для тых, хто хацеў бы запісаць 2-е пытаньне, дыктуем:

**Пытаньне да 2-й катэхэзы:**

2) Калі хрысьціянін адказвае на Божы заклік?

**Адказ:** Хрысьціянін адказвае на Божы заклік, калі словам і ўчынкам прызнаецца да Бога.

**Прыклад малітвы.**

*— Волю тваю выпаўняць, Божа мой, роскаш мая, і Закон твой — у сэрцы маім.*

*— Я абвяшчаў справядлівасьць тваю на вялізарным зборы і сапраўды вуснаў сваіх я не спыняў, — Ты гэта ведаеш, Госпадзе.*

*Праўды тваёй я не ўкрываў у сэрцы маім; пра вернасьць тваю я гаварыў і ўспамогу тваю; ласкі твае і справядлівасьць перад зборам вялізным я ня ўтойваў.*

*****

Гэтая катэхэза павінна ўзбудзіць нашае зацікаўленьне гісторыяй выратаваньня. Яна павінна была насунуць кожнаму шмат пытаньняў. Просім прысылаць нам пытаньні, калі што будзе незразумелае.

3-я КАТЭХЭЗА

# 3. Жыцьцё з Богам у Царкве

Апостал Павал піша ў Пасланьні да Эфэсцаў:

*«Вы ўжо не чужыя і не прыходныя, але суграмадзяне сьвятым і хатнія ў Бога, збудаваныя на фундаманце апосталаў і прарокаў, маючы Ісуса Хрыста за навугольны камень, на якім уся будыніна, разам змацаваная, расьце ў сьвяты храм у Госпадзе» (Эфэс. 2,19-21).*

*

Праз сьвяты **хрост** цябе ўлучылі ў гісторыю выратаваньня. Як малое дзіця прынесьлі цябе хросныя бацькі ў сьвятыню. Праз хрост ты быў прыняты ў ЦАРКВУ. Ты ўвайшоў у супольнасьць з Богам і ў сям'ю Божых дзяцей.

У Царкве ты атрымаў дар веры. Прасілі аб яго для цябе твае хросныя бацькі. Яны адгаварылі за цябе разам з сьвятаром «Веру ў Бога...». Ад Царквы ты маеш Божае Слова, запісанае ў Сьвятым Пісьме. Царква вучыць цябе разумець і любіць Божае Слова і жыць згодна з тым, як яно вучыць. У сьвятой Літургіі Царква зьвяртаецца да цябе з заклікам, з якім Бог шмат разоў зьвяртаўся да людзей у гісторыі выратаваньня.

У Царкве ты спаткаўся з Хрыстом. Гэта праз Яго Бог усынавіў цябе і ты стаўся братам для ўсіх людзей, якія вераць у Хрыста. Ты ўжо — не адзін. Бог — твой Айцец, Хрыстос — твой пасярэднік і Выратавальнік (Збавіцель). Царква – твая Матка, а ўсе веруючыя ў Хрыста і ў Бога – твае браты і сёстры.

Ты жывеш у Царкве і, калі захочаш, будзеш жыць у ёй да таго часу, калі Бог забярэ цябе назаўсёды да Сябе. У Царкве ты сустракаеш Бога ў Сьвятых Тайнах, праз якія дзейнічае Хрыстос. І ты сустракаеш Бога ў малітве, праз якую ты зьвяртаешся разам з Хрыстом да Бога, а ў Божым слове Хрыстос гаворыць да цябе.

У Царкве ты карыстаеш з выратаваньня, якое Хрыстос робіць табе даступным у сваёй Літургіі ды і асабліва ў Сьвятой Еўхарыстыі — Ахвяры. Гэтым спосабам ты ўмацоўваеш і разьвіваеш сваю любоў да Бога і сужыцьцё з Богам, з тваімі братамі і сёстрамі ў Хрысьце, ды і з усімі людзьмі.

Хто любіць, той бачыць патрэбы і справы сваіх бліжніх. Ён умее думаць аб іх ды ахвотна дапамагае, дзе толькі можа. Любоў лучыць людзей у працы для супольнага дабра, кліча да супрацоўніцтва ды робіць іх адказнымі адзін за другога. Гэтак і ты нясеш адказнасьць за Царкву, у якой ты жывеш. Гэтаксама ты нясеш адказнасьць і за Божае Валадарства, якое будуюць твае браты і сёстры, сярод якіх ты жывеш.

**Наш адказ Богу:** Хачу лепш пазнаваць жыцьцё Царквы, каб найбліжэй жыць з Богам, з Хрыстом, і з братамі маей веры.

**Прыклад малітвы:** *«О, як прыемна сяліба твая, Госпадзе сілаў! Шчасьлівыя, што жывуць у тваім доме, Госпадзе! Сапраўды, адзін дзень на тваім падворку лепшы, чым тысяча іншых. Лепш стаяць ля парогу ў Божым доме, чым жыць у палатах грэшнікаў»* (Пс. 83, 2-5-11).

**Пытаньні да 3-й катэхэзы, якія варта запісаць:**

1) Хто сёньня перадае Божы заклік да выратаваньня?

**Адказ:** «Божы заклік да выратаваньня перадае сёньня Царква».

2) Дзе сёньня чалавек сустракаецца з Богам і сужыве з Ім?

**Адказ:** «Сёньня чалавек сустракаецца і сужыве з Богам у Хрыстовай Царкве».

*На гэтым мы закончылі Ўступ да катэхізмоўкі.*

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ – Бог і чалавек.[1]

## *І. БОГ НАШЫХ БАЦЬКОЎ*

4-я КАТЭХЭЗА

### 4. Хрыстос, «Які мае прыйсьці»

*(Мац. 11, 3)*

*«Праз цябе народы ўсяе зямлі будуць атрымліваць блаславеньне».*
*(Кніга Быцьця, 12, 3)*

БОГ КЛІЧА АБРАГАМА: «Выйдзі з тваей зямлі ды і з дому бацькі твайго і ідзі ў край, які Я табе пакажу. Бо Я зраблю з цябе вялікі народ, буду табе бласлаўляць і зраблю тваё імя славутым: ты станешся блаславеньнем... Праз цябе ўсе народы будуць атрымліваць блаславеньне» (Кніга Быцьця, 12, 3).

Каля 2000 гадоў перад Нараджэньнем Хрыста ў краі над рэкамі Тыграм і Эўфратам у месьце Ур жыў чалавек, якога звалі АБРАМ. Бог заклікаў яго, каб праводзіць свой плян выратаваньня людзей. Таму Бог загадаў Абраму пакінуць родны край і адправіцца ў далёкую краіну Канаан. Прытым Бог абяцаў даць яму блаславеньне і вялікую нагароду. Ён сказаў, што размножыць патомства Абрама як зоркі на небе, так што ён ужо ня будзе звацца Абрам, але «Абрагам», што значыць, «айцец народаў», бо праз яго народы ўсяе зямлі будуць атрымліваць блаславеньне. Калі Абрагам знайшоўся ў зямлі Канаан, Бог сказаў яму: «Твайму патомству аддаю вось гэты край». Абрагам паверыў Богу. Дагавор Абрагама з Богам Сьвятое Пісьмо называе ЗАПАВЕТАМ.

Бог споўніў тое абяцаньне і Абрагам дачакаўся сына, якога патомкі разрасьліся ў гэбрайскі народ. Бог апекаваўся гэтым народам і гэты народ існуе ўжо блізка 4 тысячы гадоў. Калі гэбраі былі ў цяжкім палажэньні, Бог памагаў ім, напрыклад, у няволі ў Егіпце.

Таксама ў падарожжы ў Абяцаную Зямлю і калі жылі ў ёй.

*

ЗАКІД: Калі Бог абяцаў гэбраям зямлю Канаан, чаму сёньня гэбраі ня маюць усяе гэтае зямлі, бо Канаан — гэта цяперашняя Палестына?

**Адказ:** Далей мы ўбачым, што Бог зрабіў Абрагама бацькам ня толькі аднаго гэбрайскага народу, які выводзіцца ад Абрагама паводле цела, але і ўсіх народаў, якія праз веру ў Божыя прырачэньні, дадзеныя Абрагаму, стануцца Божым народам. Божыя прырачэньні адносяцца да ХРЫСТА, якому Бог Айцец аддаў ня толькі Палестыну, але і ўсе народы ўсяе зямлі, як аб гэтым Бог кажа праз прарока ў другім псальме (7-9): «Госпад сказаў да мяне: — Ты Мой Сын, сёньня Я спарадзіў Цябе і дам Табе народы зямлі ў спадчыну і межы зямныя ў валаданьне Табе. — І далей прарок кажа: «Дык памятайце, цары, зразумейце перасьцярогу, судзьдзі зямныя. Служыце Богу са страхам і радуйцеся з дрыжаньнем. Слаўце Сына, каб не разгневаўся, ды каб вы ня згінулі на дарозе сваёй, бо неўзабаве ўзгарыцца гнеў Ягоны».

Хрыстовая Царква ёсьць духоўным патомствам Абрагама і мае сваіх пасьлядоўнікаў сярод усіх народаў усяго сьвету. Гэтак усе народы належаць да Хрыста і служаць Яму.

Гэбрайскі народ, які паходзіў ад Абрагама паводле цела, стаўся парукай у Божых руках. Гэбраі захавалі сапраўдную веру ў Бога. З гэтага народу выйшаў Выратавальнік сьвету. Таму кнігі Новага Запавету часта ўспамінаюць Абрагама. Гэтак пачынаецца радавод Хрыста ад Абрагама (Мац. 1,1). Божая

[1] У аўтара загаловак адсутнічае. Загалоўкі пачынаюцца ад часткі другой. - рэд.

Маці Марыя дзякуе Богу за тое, што выпаўніў прырачэньне Абрагаму (Лука 1, 54-55).

Сьвяты Павал называе Хрыста патомкам Абрагама (Гал. 3, 16).

Толькі ў Ісусе Хрысьце Бог споўніў усё тое, што абяцаў Абрагаму.

*

**Наш адказ Богу:** Праз сьвяты хрост я прыймаю ўдзел у абяцаньні, што Бог даў Абрагаму. Пастараюся даведацца больш аб гэтым абяцаньні ад Царквы, калі буду вучыцца катэхізму.

Вось важнейшыя МАЛІТВЫ, у якіх ёсьць мова аб Абрагаме:

«Вялічай, душа мая, Госпада, бо ... прыняў Ён Ізраіля, свайго слугу, успомніўшы міласьць, як гаварыў да нашых айцоў, да Абрагама і ягонага патомства да веку» (Лука 1, 46-55).

**СТАРЫ ЗАПАВЕТ:** «Пачуў Бог іхняе кліканьне, бо помніў аб сваім саюзе з Абрагамам» (Вых. 2, 24).

«Глядзіце, даю вам гэты край. Ідзіце і займіце зямлю, якую Ягвэ пад прысягай абяцаў даць Абрагаму ... а пасьля яго ягонаму патомству» (Дэўт. 1, 8). «Толькі Госпад ёсьць вашым Богам... Ён помніць навекі аб сваім Запавеце, аб прырачэньні дадзеным на тысячу пакаленьняў, аб угаворы, які зрабіў з Абрагамам» (Пс. 104, 7-9). «А ты, патомак Абрагама, ... ня бойся, бо Я з табою» (Іс. 41, 8-10).

**НОВЫ ЗАПАВЕТ:** «(Бог Ізраіля) Ласку акажа бацьком нашым і ўспомніць сьвяты свой Запавет, прысягу, якую даў Абрагаму» (Лука 1, 72-73). «Абрагаму высказаны прырачэньні дый ягонаму патомству. Не сказана: — і патомкам — як аб многіх, але як аб адным: — і патомству твайму, якім ёсьць Хрыстос» (Гал. 1, 3-16).

**НАВУЧАНЬНЕ ЦАРКВЫ.** З дэкрэту аб нехрысьціянскіх рэлігіях: «Усеміласьцівы Бог, рупна пастанаўляючы і прыгатаўляючы выратаваньне ўсяго чалавечага роду, асаблівым пастанаўленьнем выбраў Сабе народ, якому мог бы даць свае прырачэньні. Зрабіўшы ўмову з Абрагамам і з гэбрайскім народам праз Майсея, гэтак аб'явіўся словам і дзеяньнем выбранаму народу як адзіны, сапраўдны і жывы Бог, каб Ізраіль досьледна пазнаў, якім шляхам вядзе Бог людзей і каб праз Божае слова вуснамі прарокаў з часам штораз лепш і ясьней гэты шлях разумеў і штораз шырэй будзіў гэтую сьведамасьць сярод народаў. Плян выратаваньня, прадказаны і выясьнены сьвятымі аўтарамі, знаходзіцца, як сапраўднае Божае слова ў кнігах Старога Запавету. Гэтыя кнігі, натхнёныя праз Бога. маюць трывалую вартасьць. «... бо ўсё, што напісана, было раней. напісана дзеля навукі, каб праз цярплівасьць і пацеху са Сьвятога Пісьма мы мелі надзею» (Рым. 14, 4). «Заглыбляючыся ў тайны Царквы, гэты Сьвяты Сабор помніць аб сувязі, якая духова лучыць народ Новага Запавету з племям Абрагама. Бо Хрыстовая Царква прызнае, што пачаткі ейнае веры і ейнага выбраньня знаходзяцца паводле Божае тайны ў патрыярхаў, Майсея дый прарокаў. Прызнае, што ў пакліканьні Абрагама зьмяшчаецца таксама пакліканьне ўсіх пасьлядоўнікаў Хрыста, сыноў паводле веры таго патрыярха і што выхад выбранага народу з зямлі няволі ёсьць містычным прадказаньнем і знакам выратаваньня Царквы».

**Пытаньні да 4-й катэхэзы:**

1) Што зьдзейсьніў Бог праз пакліканьне Абрагама?

**Адказ:** Праз пакліканьне Абрагама Бог зьдзейсьніў плян выратаваньня людзей.

2) У кім Бог выпаўніў прырачэньне дадзенае Абрагаму?

**Адказ:** Бог выпаўніў прырачэньне дадзенае Абрагаму ў Ісусе Хрысьце.

*

Тым людзям, якія маюць Біблію, радзім прачытаць разьдзел 12 з першае кнігі Майсеявай «Быцьця» аб пакліканьні Абрагама. Радзім таксама заглянуць у гісторыю народаў, якія жылі над рэкамі Тыграм і Эўфратам. Таксама будзе добра пачытаць аб гэтым краі ў геаграфіі.

5-я КАТЭХЭЗА

# 5. Абрагам — бацька ўсіх веруючых

Сьвяты Павал у Лісьце да Рымлянаў піша: "Абрагаму вера палічана за праведнасьць... так што ён стаўся айцом усіх веруючых" (Рым. 4, 9-11). У кнізе Быцьця мы чытаем: "Абрагам выбраўся ў дарогу, як загадаў яму Ягвэ... Забраў з сабою сваю жонку Сару і свайго пляменьніка Лота дый усю маемасьць. якую мелі яны абодвы... і адыйшлі ў Канаан" (Быц. 12, 4-7).

Ня лёгка было Абрагаму паверыць Богу і ў Божае абяцаньне: Бог вымагаў нялёгкіх справаў. Загадаў пакінуць родны край, бацькаўшчыну, адыйсьці да чужых людзей. Паабяцаў яму зямлю, на якой ужо жылі іншыя народы. Казаў, што размножыць ягоных патомкаў, як зоркі на небе; але Абрагам і Сара былі ўжо старыя і не спадзяваліся мець дзяцей.

Аднак жа Абрагам паверыў! "Праз веру... паслухаў Бога, кабісьці ў месца, якое меў дастаць у спадчыну і выйшаў, ня ведаючы, куды ідзе. Праз веру асеў ён на зямлі абяцанай, як на чужой... Праз веру ... Сара ... прыняла сілу на зачацьце, бо лічыла верным Таго, Хто даў абяцаньне" (Гэбр. 11, 8-11).

Гэтак вось «Абрагам паверыў і Ягвэ палічыў яму гэта за вялікую заслугу» (Быц. 15, 6. Рым. 4, 3).

Дзякуючы гэтаму Бог пачаў спаўняць праз яго сваё прырачэньне — выратаваць усё чалавецтва. Бо Божае прырачэньне адносілася ня толькі да патомкаў Абрагама, але і да ўсіх, што «пойдуць шляхам тае веры, якую меў наш айцец Абрагам» (Рым. 4, 16). Гэта значыць, будуць мець «Абрагамаву веру».

Божае прырачэньне, дадзенае Абрагаму, споўнілася ў Хрысьце дый сёньня спаўняецца ў Ягонай Царкве. Тыя, што праз веру прыймаюць гэтае прырачэньне, становяцца патомствам Абрагама, аб якім сказаў Бог, што яно размножыцца як зоркі на небе.

**Наш адказ Богу:** Буду верыць і спадзявацца на Бога, не зважаючы на цяжкасьці.

**Прыклад малітвы:** Божа Абрагама, Ісаака і Якуба, узглянь ласкава на нас і зрабі, каб мы сталіся ўдзельнікамі тых прырачэньняў, якія Ты даў праз патрыярхаў, прарокаў і ўканцы праз Ісуса Хрыста!

*

Каб пераканацца, што нашае тлумачэньне згаджаецца са Старым і Новым Запаветам, даём яшчэ два тэксты. Першы з кнігі Макавеяў (2, 52): "ці ж Абрагам у часе спакусы не аказаўся верным? І гэта было яму палічана як праведнасьць". І другі з Лісту Сьв. Паўла да Галятаў (3, 7): "Ведаеце ж, што, хто абапіраецца на веры, гэтыя ёсьць сыны Абрагамавы".

**Пытаньні да 5-й катэхэзы:**

7) Дзе спаўняецца сёньня Божае прырачэньне, дадзенае Абрагаму?

**Адказ:** Прырачэньне, дадзенае Абрагаму, спаўняецца ў Хрыстовай Царкве.

8) Што рабіць, каб стацца ўдзельнікам прырачэньня дадзенага Абрагаму?

**Адказ:** Каб стацца ўдзельнікам прырачэньня, дадзенага Абрагаму, трэба паверыць Богу!

Спрабуем самі пашукаць у Бібліі, каму Бог паўтарыў прырачэньне, дадзенае Абрагаму. Чытаць трэба разьдзел 26 Першае Кнігі Майсея «Быцьця» (2-6 і 23-25).

6-я КАТЭХЭЗА

# 6. Бог творыць бачны сьвет

Сьвятое Пісьмо пачынаецца словамі: «На пачатку Бог стварыў неба і зямлю» (Быцьцё 1,1).

Божае аб'яўленьне перададзена праз Патрыярхаў і праз гэбрайскі народ, а запісанае ў Сьвятым Пісьме і вучыць, што Бог стварыў сьвет: «Словам Божым неба паўстала і ўсе іхныя хоры подыхам Ягоных вуснаў. Бо Ён сказаў і ўсё паўстала. Ён Сам загадаў і яны пачалі існаваць» (Пс. 32, 6-9).

Богу ня быў патрэбны матэр'ял, ані прылады, ані памочнікі. Гэткае дзеяньне называецца «стварэньнем», а таго, хто гэта робіць, мы называем «Стварыцелем». Ствараць можа толькі БОГ, бо Ён – Усемагутны. Што толькі Бог захоча, усё робіцца паводле ягонае волі.

Праўду аб стварэньні сьвету Бог аб'явіў людзям, каб чалавек ведаў, што залежыць ад Бога, як ад свайго Стварыцеля і Гаспадара.

На пачатку Сьвятога Пісьма, у Кнізе Быцьця, апісана стварэньне сьвету. Гісторыя самога стварэньня — гэта паэма, напісаная натхнёным аўтарам, згодна з паняцьцем таго часу і гэтая паэма ёсьць доказам старадаўнасьці Сьвятога Пісьма.

Мы ведаем і верым, што Бог стварыў сьвет, а як Ён выканаў, мы ня ведаем, але аўтар Кнігі прадставіў Бога які творыць сьвет у шэсьць дзён, а ў сёмы адпачыў. З гэтага выплывае наступная навука:

1) Бог стварыў сьвет.
2) Бог паставіў законы, якія кіруюць прыродай і чалавекам.
3) Сьвет ёсьць добрым, бо яго стварыў добры Бог.
4) У кожны сёмы дзень трэба адпачыць і пасьвяціць сёмы дзень Богу.

*

У сьвятой Літургіі Царква часта славіць Бога як Стварыцеля. У Пісьме — у псальмах выяўляецца мудрасьць і магутнасьць Бога, напрыклад у псальме 103.

«Блаславі, душа мая, Госпада! Божа мой, Ты вялікі наўзьдзіў. У веліч і красу апрануўся Ты».

«Як жа многа, о Госпадзе, твораў тваіх! Усе Ты прамудра стварыў, зямля поўная твораў тваіх».

Пашану і абажаньне, належнае толькі Богу, мы завем адарацыяй. Калі Царква сьвяціць або бласлаўляе асобы або рэчы, тады ўспамінае Бога Стварыцеля неба і зямлі: «Успамога, у імя Госпада, Які стварыў неба і зямлю» (Пс. 125, 8).

Да малітвы належыць так называны Сымбаль Веры, які пачынаецца словамі: «Веру ў Бога, Айца Ўсёмагутнага, Стварыцеля неба і зямлі».

*

**Наш адказ Богу:** Калі думаю аб Богу, стараюся трымацца пакорна дый пабожна, бо пашана і абажаньне зьяўляюцца маім абавязкам адносна Бога, як майго Стварыцеля ды і Валадара.

**Прыклады малітвы:** *«Блаславіце Госпада ўсе творы Ягоныя па ўсіх месцах Валадарства Ягонага, Блаславі і ты, душа мая, Госпада!*

*Узвышаць Цябе буду, мой Божа і Цару і імя Тваё славіць буду навекі.*

*Бласлаўляць Цябе буду штодня і імя Тваё на векі-вечныя!*

*Вялікі Госпад і годны хвалы, а веліч Яго недасягненая.*

*Няхай хваляць Цябе ўсе творы твае і сьвятыя твае няхай славяць Цябе!*

*Хвалу Госпада гаварыць будуць мае вусны і славіць сьвятое імя Яго на векі!*

*Выслаўляй душа мая, Госпада! Хваліць буду Госпада, пакуль жыву; сьпяваць буду Богу майму, пакуль існую.*

*Аллілуя! Хваліце Госпада з неба, хваліце Яго на нябесных вышынях!*

*Хваліце Яго ўсе Ягоныя ангелы! Хваліце Яго ўсе Ягоныя войскі!*

*Хваліце Яго сонца і месяц, хваліце Яго ўсе ясныя зоры!*

*Хваліце Яго нябёсы-нябёсаў і вы, воды, што пад нябёсамі!*

*Няхай яны хваляць імя Госпада, бо Ён загадаў і яны стварыліся, і паставіў іх на ўсе часы і вякі, — даў ім закон і не пераступаюць яго.*

*Хваліце Госпада на зямлі, страхоцьці марскія і ўся бездань!*

*Агонь і град, сьнег і туман і ты вецер буйны, што загад Ягоны выпаўняеш. Вы, горы і ўзгоркі ўсе; вы, дрэвы фруктовыя і кедры ўсе; вы, зьвяры дзікія і кожная жывёла; вы, гады і крылатыя птушкі; вы, зямныя цары і ўсе народы, князі і ўсе судзьдзі зямлі; вы, юнакі, вы, дзяўчаты, старыя ды разам з малымі!*

*Хваліце імя Гасподняе, бо толькі Ягонае імя ўзвышана: бляск Яго над зямлёй і небам!»*

*****

ПАРАЎНАЙ гэтыя малітвы з іншымі текстамі Сьв. Пісьма! Напрыклад у Кнізе Іова: «Спытайце ў зьвяроў — навучаць. І нябесныя птушкі скажуць табе. Неразумнае стварэньне выясьніць і марскія рыбы высьвятляць. Бо хто ж з іх ня ведае, што ўсё зрабіў Ягвэ (гэбрайскае імя Бога) (Іова 12, 7-9). Кожны дом мусіў нехта збудаваць, а Бог збудаваў усё» (Гэбр. 3, 4).

**Увага:** Людзей вельмі цікавіць пачатак сьвету. Адны цьвердзяць, што сьвет існаваў заўсёды, што матэрыя (матэр'ял) існуе вечна і з матэрыі разьвіваецца ўсё. Другія ўважаюць, што Бог стварыў матэрыю і даў ёй законы, згодна з якімі разьвіваецца. Гэтак даходзім да выснаву, што першым пачаткам усяго ёсьць Бог.

Гэтак і сьвяты Павал выводзіць: «Нябачныя Ягоныя рэчы, прадвечная Ягоная магутнасьць і Боства ад стварэньня сьвету праз Ягоныя твары сталіся відавочнымі — бачнымі для розуму» (Ліст да Рымлян 1, 20. Кніга Мудр. 13).

**Пытаньні да 6-й катэхэзы:**

9) Скуль узяўся сьвет?

**Адказ:** Сьвет бярэ свой пачатак ад Бога.

10) Скуль мы ведаем аб стварэньні сьвету?

**Адказ:** Аб стварэньні сьвету мы ведаем са Сьв. Пісьма дый наш розум кажа нам пра гэта.

11) Што кажа нам стварэньне сьвету пра Бога?

**Адказ:** Са стварэньня сьвету разумеем, што Бог – усемагутны.

7-я КАТЭХЭЗА

# 7. Бог стварае духовы сьвет

У Псальме 102 мы чытаем:

*«Блаславіце Госпада, усе Ягоныя ангелы, сільныя волаты, што Ягоныя загады выпаўняеце, пакорныя голасу слова Ягонага!*

*«Блаславіце Госпада, усе войскі Ягоныя, слугі Яго, што волю Яго выпаўняеце! (Пс. 102, 20-21).*

*

Хто такія **ангелы**? Божае Аб'яўленьне нас вучыць, што існуюць нябачныя і несьмяротныя Божыя стварэньні, якія маюць розум і волю, але ня маюць цела. Бог стварыў іх, каб падзяліцца з імі сваім шчасьцем. Бог даў ім такую прыроду, што яны знаходзяць сваё шчасьце, калі выпаўняюць Ягоныя загады — служаць Яму, выказваюць Яму сваю пашану дый любяць Яго.

Аднак ня ўсе ангелы пагадзіліся з гэтым Божым плянам. Будучы, як і мы — людзі свободнымі, не хацеў іх Бог рабіць шчасьлівымі пад прымусам, але даў ім магчымасьць прыняць свабодна прыгатаванае ім шчасьце. Некаторыя з іх, нават самыя прыгожыя, захацелі самі для сябе пашукаць шчасьця ў чым іншым — у непаслушэнстве Богу, у любові сябе, замест Бога. Яны думалі, што Бог да шчасьця непатрэбны. За гэта спаткала іх справядлівая кара: яны сталіся вечна нешчасьлівымі. Гэтак яны страцілі духоўную прыгожасьць і сьвятасьць. Яны не захацелі любіць Бога, дык Бог не дае супраць іх волі магчымасьці любіць Яго.

Ад гэтага грэшныя ангелы пераносяць страшэнную муку, якая завецца пеклам. З ненавісьці да Бога яны ненавідзяць і людзей, якіх Бог стварыў падобнымі да Сябе. Са злосьці да Бога яны стараюцца бунтаваць няпраўдай і ашуканствам людзей супраць Бога, каб і людзі не асягнулі шчасьця, якое ім Бог вызначыў. Гэтак збунтаванаму ангелу ўдалося ашукаць ужо першых людзей у раі і ад таго часу ўсе людзі найбольш шукаюць шчасьця ня там, дзе яго можна знайсьці, значыць, у паслушэнстве Богу, а шукаюць у грахох. Таму Сьвятое Пісьмо называе збунтаванага ангела ворагам, па гэбрайску **шатан**. Каб адрозьніць іх ад добрых ангелаў, усіх дрэнных мы называем д'ябламі, чартамі і наагул нячыстымі, або злымі ангеламі.

Само слова **ангел** азначае тое самае, што па-беларуску пасланец, таму што Бог пасылае іх да людзей, як сваіх слуг, а ў гэтым ангелы знаходзяць сваё шчасьце, хоць Сам Бог мог бы ўсё рабіць і не патрабуе для Сябе памочнікаў. Пазваляючы Сабе памагаць, Бог дзеліцца са сваімі слугамі Сваім шчасьцем. Ангелы шчасьлівыя, што любяць Бога. Таму Хрыстос казаў, што ангелы «на небе заўсёды бачуць аблічча Майго нябеснага Айца» (Мац. 18, 10). Сьвятому Паўлу было аб'яўлена, што «ўсе яны — служачыя духі, пасланыя на служэньне тым, што маюць унасьледаваць збаўленьне» (Гэбр. 1,14).

Сьвет ангелаў вельмі багаты. Магчыма, шмат большы, чым нашага бачнага сусьвету. Мы бачым толькі тры царства: мінэралаў, расьлін і зьвяроў, да якога належыць і чалавек, але толькі целам. Сваёй душой чалавек ужо жыве ў сьвеце духовым, аб якім Сьв. Пісьмо кажа — дзевяць царстваў ангелаў, якія завуцца: Сэрафімы, Хэрувімы, Троны, Валадарствы, Княствы, Улады, Моцы, Ангелы і Архангелы. Ангел ёсьць духам і перавышае ўсе іншыя стварэньні, будучы залежным толькі ад Бога, які ёсьць нястворaным і вечным.

*

Сьв. Пісьмо расказвае таксама аб змаганьні, якое адбылося калісьці паміж добрымі і збунтаванымі ангеламі. Правадыром ангелаў быў Архангел Міхал, які затое называецца Правадыром нябеснага войска. У гісторыі выратаваньня з важнымі паручэньнямі ад Бога зьяўляліся: шмат разоў Архангел Габрыэль, а часамі Рафаэль. Габрыэль прынёс вестку ад Бога Дзеве Марыі, што Бог выбраў яе на Матку Свайму Сыну, які на небе нарадзіўся спрадвечна ад Бога Айца, без Маці, а на зямлі — ад Маці без Айца.

У кнізе Табіяша апісана зьяўленьне Архангела Рафаэля, а таксама цудоўнае падарожжа, у якім падтрымліваў і бараніў маладога Табіяша ў трагічных прыгодах.

Ангелы зьяўляюцца нашымі апекунамі і прыяцелямі. Кожнаму чалавеку Бог дае асобнага Вартаўніка, які заўсёды пры ім прабывае, сьцеражэ ад

злога і перасьцерагае, наколькі гэта не парушае веры і звычаяў. Ангел ня творыць цудаў, а толькі даводзіць да зразуменьня і пазнаньня верай, каб чалавек заўсёды аставаўся свабодным. А цуды толькі тады не бываюць прымусам, калі чалавек сам жадае і моліцца аб тым, чаго патрабуе. Таму можна клікаць і прасіць свайго ангела-Вартаўніка пра больш ясную, бачную помач і ён нам гэтую помач акажа і думку падкажа, калі толькі мы будзем мець дастатковую веру.

*

Царква часта лучыцца з ангеламі, калі славіць Бога ў малітвах, ужываючы слоў, якія прарокі чулі ў захапленьні ад ангелаў, што сьпявалі перад Божым тронам. Напрыклад: «Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Госпад, Бог войскаў нябесных! Неба і зямля поўныя Тваёй Славы». Або песьню, якую чулі пастухі, калі ангелы сьпявалі ў ноч нараджэньня Хрыста: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір у людзей добрай волі» (Лука 2, 13).

У Літургіі Ўсходняе Царквы даецца вельмі прыгожая песьня, званая хэрувімскай: «Мы, што таемна прадстаўляем хэрувімаў і пяём тройчы сьвятую песьню жыватворчай Тройцы, — адложым усялякую жыцьцёвую турботу, каб прыняць Валадара ўсіх, Якога нябачна нясуць войскі ангелаў».

Царква ўстанавіла ў гонар ангелаў адумысловыя сьвяткі, каб славіць Бога ў пашане, аказанай Ягоным ангелам.

*

**Пытаньні да 7-й катэхэзы:**

12) Каго мы называем ангеламі?

**Адказ:** Ангеламі называем духаў паслушных Богу.

13) Чаму Бог даў кожнаму ангела-Вартаўніка?

**Адказ:** Каб нас сьцярог і напамінаў у небясьпецы; а калі самі просім, каб нам памагаў асягнуць вечнае жыцьцё.

14) А хто такія **чэрці**?

**Адказ:** Чэрці — гэта збунтаваныя ангелы, якія ня любяць Бога і стараюцца фальшам і спакусай адвесьці людзей ад Бога.

8-я КАТЭХЭЗА

# 8. Бог творыць чалавека

Царква заўсёды верыла і навучала, што кнігі Сьвятога Пісьма Сам Бог памагаў людзям укладваць (пісаць) так, што і яны свабодна самі пісалі, як маглі ў тым часе, у якім жылі. Аднак Бог праз іх аб'явіў чыстую праўду. Толькі ў вельмі рэдкіх выпадках Бог дыктаваў пішучаму, што ён павінен напісаць. Тады тыя людзі, якіх мы называем Прарокамі, так і напісалі, што гэта словы самога Бога. Дзеля таго, што Бог пабуджаў людзей напісаць кнігі Сьвятога Пісьма і памагаў ім пісаць так, каб у іх не было нічога непраўдзівага аб Богу і аб чалавеку — на колькі гэта патрэбна для ягонага выратаваньня — усе гэтыя кнігі мы называем Божым Словам.

*

Пра стварэньне чалавека Сьвятое Пісьмо гаворыць у форме поэмы, як і пра стварэньне сьвету. Мы бачым Бога ў паэтычным абразе, як лепіць чалавека з зямлі, як майстар творыць гаршчок з гліны.

Гэта азначае, што чалавек ёсьць часткай прыроды, дык павінен пра гэта добра помніць. Бо цела чалавека складаецца з тых самых элементаў, што і зямля, расьліны і жывёла. Як расьліны, так і чалавек родзіцца, расьце і размнажаецца. А з жывёлай мае падабенства, што ўладае пачуцьцямі — глядзіць і чуе. І чалавеку, як і расьлінам і жывёле, патрэбныя для жыцьця

сонца, паветра, вада і ежа. Аднак, паміма такога падабенства, чалавек зьяўляецца вынятковым стварэньнем на зямлі.

Пры стварэньні чалавека Бог дзее асабліва і мы пра гэта чытаем у Сьвятым Пісьме дзе напісана вобразна: Бог, прыгатаваўшы цела, ажыўляе яго Сваім подыхам. Нічога падобнага мы не бачылі, калі Бог тварыў жывёлу.

І толькі чалавеку Бог дае загад — наказ, які чалавек павінен прыняць дабравольна і выканаць. Наогул чалавек — істота свабодная і вольная, аднак залежыць ад Бога. Гэта ясная Божая думка і воля. Перш чым стварыць чалавека, Бог гаворыць: «Створым чалавека на абраз і падабенства Нашае». Прарок ужывае прыгожую форму ў ліку множным, гаворачы аб Богу, хоць добра ведае, што Бог – адзін. І гэта не перашкаджае, бо хрысьціяне ведаюць, што Бог ёсьць адзін у Трох Асобах — (Сьвятая Тройца).

Багасловы згодна прызнаюць, што пры стварэньні сьвету і чалавека тварылі ўсе Тры Асобы Божыя, але спэцыяльна прыпісваецца гэтая падзея Богу Айцу. Словы: «на Наш вобраз і Падабенства» маюць для хрысьціян куды багацейшы зьмест, чым для гэбраяў. Гэбраі шукаюць «вобраза і падабенства Божага» ў адной асобе чалавека — дзеля чалавечай душы, свабоднай і разумнай. А для хрысьціян слова «чалавек» азначае ўсіх людзей — чалавечую прыроду, якая ёсьць адна, хоць маюць яе ўсе людзі... Праўда, людзей ёсьць многа асобаў, але ў гэтым яны якраз і падобны да Бога, бо і ў Богу ёсьць Тры Асобы, хоць Божая прырода адна і таму Бог — Адзін, калі мы гаворым толькі аб Ягонай прыродзе.

Сказана: «Стварыў Бог чалавека на Свой Вобраз, на Вобраз Божы стварыў яго: мужчыну і жанчыну стварыў іх» (Быцьцё І, 27).

Сьвятое Пісьмо выразна паказвае, што шматлікасьць асобаў таксама ёсьць у чалавеку вобразам Божым. Гэтак сама, калі Бог зьяўляецца Абрагаму ў постаці трох падарожных, дык гэбраі толькі ў адным з гэтых падарожнікаў прызнаюць Бога, аднак хрысьціянам нішто не перашкаджае прызнаваць у іх Тры Божыя Асобы.

Стварэньне жанчыны апісана так, каб не было сумненьня, што яна таксама чалавек: «Косьць з косьці і цела з цела мужчыны» (Быцьцё, 2, 23). Аўтар дае мужчыне імя «Адам», бо ў гэбрайскай мове зямля называецца «адама», а ён быў фармаваны з зямлі. Жанчыну ён назваў «Ева», бо ад яе меў быць зроджаны ўвесь чалавечы род, а жыцьцё па гэбрайску «гава», бо ўсе паходзяць ад першае пары людзей. Значыць, мы ўсе між сабою — «радня». Дык вось дзе трэба шукаць фундаманту агульначалавечага братэрства! Наогул у Сьвятым Пісьме слова «брат» — «сястра» азначаюць радню, як у Евангельлі ўся радня Хрыста называецца Ягонымі братамі і сёстрамі.

Чалавечая прырода лучыць душу і цела ў адну цэласьць. Бяз цела няма чалавека і бяз душы чалавек перастае быць чалавекам. Толькі ў лучнасьці душа і цела становяцца адным чалавекам. Пры сьмерці чалавека гаворым: «чалавек памёр», хоць памірае толькі цела, а душа – несьмяротная. Душа ня мае ў сабе нічога матэр'яльнага, а таму яна не распадаецца на часткі, з якіх складаецца матэрыя. Душа існуе вечна дый і матэрыя існуе ўсьцяж, бо ў «прыродзе нічога ня гіне»; аднак ёсьць вялікая розьніца між душою і целам. Матэр'яльныя часткі ўсьцяж мяняюцца, пераходзячы з адное формы ў іншыя. Але душа мяняцца ня можа, бо яна ёсьць духам. Душа можа існаваць паза прасторам і часам. У прасторы і часе душа існуе толькі ў лучнасьці з нашым матэр'яльным целам.

Душа мае розум і вольную волю. Таму чалавек можа гаварыць, думаць, жадаць і любіць, ненавідзець: сваім розумам душа можа разумна выбіраць паміж рознымі ўчынкамі і рэчамі. Найлепшым доказам духовасьці чалавека ёсьць тое, што чалавек можа зразумець, што такое дух і можа пазнаваць

Бога, Свайго Стварыцеля. Гэта накладае на чалавека абавязак кіравацца розумам у сваім жыцьці, каб яго не змарнаваць, бо розум ясна паказвае нам, што нашае жыцьцё толькі часовае.

*

**Наш адказ Богу:** Бог даў мне жыцьцё. Я цешуся з гэтага і дзякую Богу за сваё існаваньне. Хачу любіць Бога, як свайго Стварыцеля, а ўсіх людзей, як сваіх братоў і сясьцёр.

**Прыклад малітвы:** «Госпадзе, наш Валадару, як узьвялічана Імя Тваё на ўсей зямлі! Кім ёсьць чалавек, што Ты памятаеш аб ім? Або сын чалавечы, што Ты займаешся ім? Славай і гонарам ахутаў Ты яго і зрабіў яго ня шмат меншым ад ангелаў, гаспадаром над творамі рук Тваіх і ўсё Ты паклаў пад ногі яго» (Пс 8-2.5-7).

**Увага:** Калі-б навука даказала, што чалавечае цела Бог прыгатаваў праз **эвалюцыю** з цела жывёлаў, дык не было-б перашкоды з боку веры, каб гэтае прыняць і з боку Царквы. Толькі немагчыма прыняць, што людзкая душа разьвівалася з душы жывёлы, бо дух ня можа ўзрастаць-разьвівацца і можа быць толькі створаны Богам, аб чым сьведчыць і вучыць нас Божае Слова. Вось два тэксты са Старога і Новага Запавету: «Бог на пачатку стварыў чалавека і пакінуў яму вырашаць самому. Перад людзьмі жыцьцё і сьмерць, што табе спадабаецца, тое і будзе табе дадзена» (Мудр. 15, 14, 17).

«Ня бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы забіць ня могуць; а бойцеся больш таго, хто можа і душу і цела загубіць у пекле» (Мац. 10, 28).

**Пытаньні да 8-й катэхэзы:**

15) Хто такі чалавек?

**Адказ:** Чалавек — гэта найдасканалейшы твор Божы на зямлі, які жыве ў супольнасьці, можа пазнаваць і любіць Бога, ды асягнуць вечнае шчасьлівае жыцьцё.

16) У чым чалавек падобны да Бога?

**Адказ:** Чалавек падобны да Бога ў тым, што ён ёсьць супольнасьцю асобаў, якія маюць адну і тую самую натуру. А натура або прырода кожнага чалавека ёсьць падобнай да натуры Божай сваёй несьмяротнай, разумнай і вольнай душой.

17) Што мы называем натурай чалавека?

**Адказ:** Натурай чалавека мы называем ягонае цела разам з разумнай душой.

18) Хто нас аб гэтым вучыць?

**Адказ:** Аб усім гэтым вучыць нас Сьвятая Царква, абапіраючыся на Божым Законе Старога і Новага Запавету.

9-я КАТЭХЭЗА

# 9. Бог аб'яўляе сваю веліч і багацьце сваёй прыроды ў сваіх творах

Бесканечна багаты і шчасьлівы Бог ёсьць адначасна бесканечна добрым. Дабрата пабуджае Яго тварыць Ангелаў і людзей, каб дзяліцца зь імі сваім шчасьцем. Таму дае ім розум, каб маглі Яго пазнаць і палюбіць, бо толькі ў гэтым яны могуць знайсьці тое самае шчасьце, якое і Богу хапае на ўсю вечнасьць. Аднак паміж Богам і ягонымі стварэньнямі існуе цэлае прадоньне, так што стварэньне ня можа пазнаць Бога так, як Ён пазнае Сам Сябе. Убачыўшы Бога, чалавек ужо ня мог бы адарвацца ад Яго, ня мог бы не любіць Яго і тады ўжо чалавек ня сам дабравольна прымаў бы шчасьце, але Бог накідаў бы яму і прымушаў бы стаць шчасьлівым. Вось жа Бог гэтага ня

хоча. Бог хацеў, каб чалавек выбраў шчасьце бяз прымусу і толькі пасьля свабоднага выбару атрымаў яго ад Божае ўсемагутнасьці як узнагароду. Толькі гэткае шчасьце будзе самым вялікім, якое толькі Бог можа даць свайму стварэньню. Таму Бог і творыць бачны сусьвет, каб у ім паказаць Сябе чалавеку спосабам здавальняючым, каб чалавек даведаўся аб Богу ўсяго, што яму патрэбна ведаць і адначасна аставаўся свабодным прыняць або не прыняць тое шчасьце, якое Бог суліць яму.

Кажная створаная рэч ёсьць як бы адбіцьцём таго, чым ёсьць Бог і таму яны пераважна нам падабаюцца. Аднак мы ня можам знайсьці на сьвеце поўнага шчасьця, бо нашая натура створаная так, што толькі Бог можа нас цалкам ашчасьлівіць. А чалавек з усіх стварэньняў найбольш падобны да Бога, — таму найбольшую радасьць можам знайсьці любячы чалавека. Аднак чалавек зьмяняецца, старэе і ў канцы памірае. Толькі адзін Бог ніколі не зьмяняецца, не старэе і не памірае. Таму Яго толькі і варта пазнаваць і любіць, дык калі мы ў гэтым знойдзем сваё шчасьце, дык яно ўжо ніколі ня скончыцца! Бог ніколі ня зьменіцца, ніколі нас не пакіне, калі мы самі Яго не пакінем. Дый любіць Бога мы будзем што раз больш, бо Ён у сваёй натуры ёсьць такі вялікі, што ніколі Яго ўсяго не пазнаем. Пазнаваць Яго хопіць нам на ўсю вечнасьць: чым больш будзем Бога пазнаваць, тым больш будзем Яго любіць. Так нашае шчасьце будзе ўсьцяж узрастаць.

Нам падабаецца ўсё прыгожае, веліч і магутнасьць, сіла, мудрасьць і г. д. Вось жа Бог, які ўсё гэта стварыў, Сам ёсьць без параўнаньня большы і прыгажэйшы, магутнейшы дый мудрэйшы ад усяго тварэньня. — Увесь сусьвет хваліць і праслаўляе Бога самым сваім існаваньнем, як прыгожы малюнак славіць прыгожага чалавека. Чалавеку прыемна аглядаць сябе ў люстры ці ў малюнку, а яшчэ больш цешыцца, калі і іншыя хваляць яго. Гэтак і Бог ня толькі цешыцца са сьвету, які Сам стварыў, але і з таго, што ангелы і людзі захапліваюцца «дзелам рук ягоных».

Сьвятое Пісьмо кажа аб чалавеку: «Апрануў іх у моц падобную да сваёй і зрабіў іх падобнымі да Сябе...» Даў ім вольную волю, язык і вочы, вушы і сэрца, каб маглі думаць. Напоўніў іх ведай і розумам, навучыў іх аб добрым і злым. «Бо нябачнае Яго, вечная сіла Яго і Боства ад стварэньня сьвету праз разважаньне аб творах бачным робіцца» (Рым. 1, 20). Сьвятое Пісьмо ганіць тых людзей, якія не пазналі Бога: «З бачнага дабра не трапілі пазнаць Таго, Хто ёсьць; гледзячы на творы, не пазналі Тварца... Калі будучы захопленыя іхным хараством, прынялі іх за боства, — дык павінны пазнаць, наколькі больш цудоўны ёсьць іхны Валадар, бо стварыў іх Стварыцель хараства; а калі іхняя магутнасьць і сіла выклікалі зьдзіўленьне, дык павінны былі пазнаць з іх, наколькі магутнейшы Той, Хто іх учыніў. Бо зь велічы і прыгожасьці твораў пазнаецца праз падабенства іхні Стварыцель» (Мудр. 1-5).

У Царкве сходзяцца людзі, якія пазнаючы Бога, хочуць падзяліцца між сабою тымі ўражаньнямі, якія выклікае ў іх гэтае пазнаньне. Гэтак творыцца літургія, у якой супольнасьць веруючых славіць Бога сваімі перажываньнямі, пачуцямі і думкамі. Адначасна веруючыя лучацца з Богам праз веру, надзею і любоў, гавораць да Бога і слухаюць Божага слова, сьпяваюць Псальмы, напісаныя Прарокамі, песьні, уложаныя сьвятымі людзьмі дый прыймаць Сакраманты (Тайны), устаноўленыя Самым Богам. Каб мець куды зыходзіцца на іх, веруючыя будуюць святыні, у якіх артысты славяць Бога сваім мастацтвам, будуючы і аздабляючы іх. Гэтак Царква зблізжае людзей да Бога, а гэтым самым і да шчасьця, якога ніхто іншы даць ня можа.

**Наш адказ Богу:** Буду бачыць Бога ў прыгожасьці сьвету, у якім я жыву.

**Прыклад малітвы:** «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі мір людзям добрай волі». Хвалім Цябе, бласлаўляем Цябе, кланяемся Табе, дзякуем Табе дзеля вялікае славы Тваей, Госпадзе, Валадару нябесны, Божа Ойча Ўсемагутны!

**Божае слова:** «О, глыбіня багацьця і мудрасьці і Божае веды! Як недасяжныя прысуды Ягоныя і недасьледаваныя Ягоныя шляхі! Бо хто пазнаў розум Гасподні? Або хто быў парадчыкам Яму?» (Іс. 40, 13). «Ці хто даў Яму наперад, каб Ён аддаў яму?» (Там-жа). «Бо ўсё з Яго і праз Яго і ў Яго. Яму слава навекі. Амін» (Рым. 11, 33-36).

**ВАТЫКАНСКІ II-гі САБОР:** «Мастацтва з сваёй натуры ікмнецца выразіць рознымі спосабамі ў людзкіх творах бесканечнае Божае хараство. Так мастацтва будзе тым больш пасьвячанае Богу і тым болей будзе павялічваць Ягоныя гонар і славу, чым больш будзе ставіць сабе мэту, каб сваімі творамі набожна зварочваць чалавечую душу да Бога» (Канстытуцыя аб Літургіі).

**Пытаньні да 9-й катэхэзы:**

18) Што кажа сьвет аб Богу?

**Адказ:** Сьвет паказвае нам веліч і багацьце Божае прыроды.

10-я КАТЭХЭЗА

# 10. Бог уладарыць і кіруе сьветам

У Кнізе Прыповесьцяў Божая Мудрасьць кажа: «Калі Ён умацоўваў неба, я была з Ім; калі мерыў скляпеньне над акіянам; калі тварыў хмары там у вярху; калі мацаваў крыніцы ў глыбіні; калі ставіў граніцы мору, каб воды ня вышлі з берагоў; калі закладаў фундамант пад зямлю, Я была пры Ім настаўніцай» (8, 27-30).

Бог ня толькі стварыў сьвет, але ўсьцяж трымае яго пры існаваньні, гэта значыць, — заўсёды творыць яго, падобна, як электрычная станцыя ўсьцяж вытварае энэргію, каб гарэлі лямпы. Калі б выключыць энэргію, лямпы адразу гаснуць! Гэтак і сьвет зьнікнуў бы ўмомант, каб Бог, хоць на сэкунду перастаў яго тварыць. — Гэтак разумее справу хрысьціянская філязофія. — «Ты даеш ім, а яны падбіраюць; Ты разгартаеш сваю руку і яны добра насычаюцца. Ты хаваеш сваё аблічча і іх апаноўвае страх (жах). Дух адымаеш ад іх і яны здыхаюць і абертаюцца ізноў у пыл. Пашлеш твайго духа і яны торацца, і аблічча зямлі Ты аднаўляеш» (Пс. 103, 28-30).

Бог уладарыць і кіруе сьветам у нязьменных законах, якія ўстанавіў стварыўшы яго. Дзякуючы адвечным законам нябесныя целы, а між імі і нашая зямля, кружаць сваімі арбітамі. Гэтак сама бачныя законы кіруюць зьявамі ў прыродзе, даючы магчымасьць усім стварэньням жыць і разьвівацца. Таму аўтар Псальмаў кажа: «Ты загадваеш травам, каб расьлі для скаціны і зеляніна людзям на карысьць, каб з зямлі вырастала збожжа... і хлеб, каб чалавек здабываў з зямлі і віно, каб весяліла сэрца чалавека» (Пс. 103, 14-14).

Бог асабліва апякуецца чалавекам: ёсьць нашым найлепшым Айцом. Займаецца кожным, «бо Ён стварыў малога і вялікага і аднолькава клапоціцца аб усіх» (Мудр. 6, 7). Чалавек Богу абавязаны, што жыве дый мае ўсё патрэбнае для жыцьця. Як кажа Сьвятое Пісьмо: «Жыцьцё і дыханьне і ўсё» (Дз. 17. 25). — Аднак жа Божая апека не звальняе нас ад працы, але яе вымагае, бо інакш Божая помач была бы цудам, які разбураў бы парадак веры і пазбаўляў бы нас свабоды. Гэта і выразіў Хрыстос у прыповесьці аб талентах (Мац. 25, 26-30) і Кніга Прыповесьцяў (6, 6-11).

Але Бог прызначыў людзей да вечнага шчасьця. Таму кажа ім перш шукаць Божага Валадарства дый ягонае справядлівасьці і так кіруе іхнім

жыцьцём, каб маглі ў яго ўвайсьці. Людзі не заўсёды патрапяць зразумець тое, што Бог усё робіць і кіруе сьветам ня так як чалавек. Ён кажа аб гэтым праз прарока Ісаю: «Мае думкі — ня вашыя думкі, ані вашыя дарогі – мае дарогі... Бо як неба ад землі, так далёка мае шляхі ляжаць ад вашых шляхоў і мае думкі ад вашых думак» (Іс. 55, 8-9).

Бог ёсьць наймудрэйшы і ўсемагутны. Таму і сьветам кіруе так, што заўсёды дасягае таго, чаго жадае. Калі чалавек пазваляе Богу кіраваць сваім жыцьцём і спаўняе ягоныя загады, дык даходзіць да вечнага шчасьця. Божую ўправу і апеку над усімі стварэньнямі, асабліва над людзьмі, мы называем Божым Провідам. Мы верым у гэта, бо так нам гаворыць Божае Аб'яўленьне.

*

Калі чалавек, атрымаўшы ад Бога свабодную волю, разбурае парадак, устаноўлены Богам на сьвеце, тым ён супрацівіцца Богу, — інакш кажучы, грашыць. Часта пры гэтым мы прычыняем боль і цярпеньне сабе і другім. А верныя Богу людзі хочуць выпаўняць Божы закон і ў Малітве Гасподняй просяць: «Будзь воля твая, як на небе, так і на зямлі». У Псальме 118 мы аказваем пашану Божаму закону ды просім аб помач, каб яго выпаўніць.

**Наш адказ Богу:** Бог, Які кіруе сьветам, ёсьць маім Айцом. Маю да Яго давер і выпаўняю Ягоныя законы.

**Прыклад малітвы:** «Твае рукі стварылі мяне і далі мне выгляд; Дай жа мне розум навучыцца ўставаў Тваіх. Тыя, што баяцца Цябе, убачаць мяне і ўсьцешацца, бо я чакаю на Тваё слова. Ведаю, Госпадзе, што прысуды Твае слушныя і справядліва Ты мяне пакараў» (118, 73—75).

**Божае слова:** «Гляньце на нябесных птушак, што ня сеюць, ня жнуць і не зьбіраюць да сьвірнаў і Айцец ваш нябесны жывіць іх» (Мац. 6, 26). «Ці ж не два вераб'і прадаюцца за адзін асар? і ні адзін з іх не ўпадзе на зямлю бяз волі вашага Айца. У вас жа і валасы на галаве палічаныя» (Мац. 10, 28-30). «Ведаем, што тым, хто любіць Бога, усё ўспамагае да дабра» (Рым. 8, 28).

**Навука Царквы:** «Усе рэчы з самага факту, што яны створаныя, маюць сваю трываласьць, праўдзівасьць, дабрату ды адначасна свае асобныя законы і парадак, якія чалавек павінен шанаваць, прызнаючы адпаведныя мэтады паасобных навук і мастацтва (Пастаральная Канстытуцыя).

**Пытаньні да 10-й катэхэзы:**

19) Як Бог апякуецца сьветам?

**Адказ:** Бог захоўвае сьвет у існаваньні дый кіруе ім праз законы ПРЫРОДЫ.

20) У чым мы пазнаём **Божую мудрасьць**?

**Адказ: Божую мудрасьць** мы пазнаём у законах, праз якія Бог кіруе сьветам.

**Увага:** Найбольшая перашкода ў зразуменьні Божае апекі над сьветам – існаваньне ў сьвеце цярпеньня ды граху.

Бог дапускае цярпеньне, бо і яно вядзе нас да выратаваньня. Сын Божы якраз праз цярпеньне і сьмерць на крыжы выратаваў нас.

Таксама зло і грэх служаць Божым плянам. Таму Бог і дапускае іх, бо ня хоча адбіраць у людзей вольнае волі, якую даў чалавеку. «Цяперашніх цярпеньняў нават параўнаць нельга з той славай, якая аб'явіцца пасьля ў нас» (Рым. 8, 18).

11-я КАТЭХЭЗА

# 11. Бог кліча чалавека да супрацоўніцтва

Стварыўшы першую пару людзей, Бог сказаў ім: *«Пладзіцеся дый размнажайцеся, каб напоўніць зямлю і падпарадкаваць яе сабе, — каб вы панавалі над марскімі рыбамі, над птушкамі ў паветры ды над усялякім стварэньнем жывым, якое ходзіць па зямлі» (Быцьцё 1, 28)*

*

Бог мог стварыць адразу ўсіх людзей, але стварыў толькі аднога мужчыну — Адама і адну жанчыну — Еву; а далей падзяліўся з імі сваёй творчай сілай, творачы Сам толькі душу кожнаму дзіцяці, якое зьявіцца на сьвет залежна ад волі мужчыны дый жанчыны.

Божы загад «размнажайцеся» абыймае ня толькі перадачу жыцьця. Чалавек родзіцца слабы і недалужны: ён патрабуе яшчэ шмат гадоў апекі бацькоў, а таксама і духовага і фізычнага ўзгадаваньня. Так перадача жыцьця дый узгадаваньне чалавека мае месца ў сям'і.

Бог ёсьць Валадаром усяго, як «Усегаспадар». Чалавек, створаны на вобраз і падабенства Божае, згодна з думкай Божай павінен мець удзел у гэтым панаваньні: «Няхай пануе» (Быцьце 1, 26), кажа Бог. Значыць, Сам Бог паддаў зямлю дый усё, што на ёй знаходзіцца, пад панаваньне чалавека. Чалавек можа карыстаць з зямлі і з ейных дараў для заспакаеньня сваіх патрэбаў. «Вось Я даю вам, кажа Бог, усялякае збожжа, што родзіць зерне па ўсей зямлі дый усялякае дрэва, якога плод мае ў сабе насеньне: яны будуць ежай для вас» (Быццьця 1, 29). І Адам пачаў сваё «панаваньне» ад таго, што даў назву кожнай жывёле. Чалавек называе рэчы ня толькі, калі іх пазнае, але яшчэ больш тады, калі іх прысваівае ды пачынае над імі панаваць. Даючы імя жывёле, чалавек выконваў сваю ўладу.

Улада лучыцца з дзейнасьцю. Чалавек атрымаў ад Бога зямлю, каб яе эксплуатаваць сваёй працай. Праца стала нават абавязкам, калі першыя людзі праз грэх паказалі, што ім мала таго, каб атрымліваць усё гатовае толькі ад Бога. Чалавек захацеў сам, нават супраць Божай волі, знайсьці нешта яшчэ лепшае для сябе. Тады Бог сказаў, што ня будзе ўжо накідваць Адаму сваіх дароў і зямля будзе радзіць яму толькі церні ні на што непрыгодныя. Калі-ж ён захоча атрымаць зь яе хлеб, дык павінен працаваць да поту.

Так чалавек праз працу, кіраваную розумам, пры помачы волі дый фізычнае сілы, працуючы фізычна дый умыслова, пазнае законы прыроды, выкарыстоўвае іх і гэтак паляпшае зямлю. Прагрэс культуры, цывілізацыі дый тэхнікі ёсьць ня толькі выкананьнем Божага загаду, але і супрацоўніцтвам з Богам у стварэньні сьвету.

Кожны чалавек, які з сваёй працы ўтрымлівае сябе дый сваю сям'ю, гэтым самым разьвівае дзела Стварыцеля. А тыя, што пры большай здольнасьці і працавітасьці прычыняюцца да разьвіцьця цывілізацыі дый культуры, яшчэ лепш паказваюць веліч і дабрату Божую. Дык адсюль праца, паляпшэньне сьвету ды безупынны прагрэс становяцца абавязкам усіх людзей.

Царква ў сваёй Літургіі заклікае да супрацоўніцтва чалавека з Богам у перадачы жыцьця дый у дасканаленьні сьвету, напр. у тайнах (сакрамантах).

**Наш адказ Богу:** Праз чыстае жыцьцё буду рыхтаваць сябе да шлюбу, а праз навуку — да прафэсіі.

**Прыклад малітвы:**

МІЛАСЭРНЫ, ВЕЧНЫ БОЖА
Цябе просім, колькі зможам,
Ты зьвярні ласкавы вочы
На твой верны люд рабочы!
Дай нам сілы на змаганьне:
Хай шчасьлівы кожны стане;

Адвярні ад нас прыгоды,
Ухавай ад кожнай шкоды.
Дай нам моцну ў Цябе веру,
У жаданьнях дай знаць меру;
Ураджай дай нам на полі,
Збаў нас, Божа, ад няволі!
Не пакінь-жа нас навекі,
Божа, без тваей апекі;
Выбачай нам нашу слабасьць
І згатуй нябесну радасьць!

**Навука Царквы:** «Царква вучыла заўсёды і далей вучыць, што прагрэс навукі і тэхнікі ды вынікаючы зь яго дабрабыт трэба бязумоўна аднесьці да вартасных рэчаў і ўважаць іх за паказальнікі разьвіцьця чалавечае прыроды. Аднак адначасна Царква вучыць, што гэтыя рэчы трэба ацэньваць згодна зь іхняй сапраўднай натурай, гэта значыць, што трэба іх уважаць за прылады, патрэбныя чалавеку да асягненьня вышэйшае мэты, мяноўна, каб самому стацца лепшым, як у прыродным, так і ў надпрыродным парадку» (Ян XXIII, «Матэр эт Магістра»).

«Чалавек створаны на вобраз Божы атрымаў паручэньне, каб кіраваць сьветам справядліва і ў сьвятасьці, пануючы над зямлёй і над усім, што ў ёй ёсьць; а таксама, каб, прызнаючы Бога Стварыцелем усяго, адносіў да Яго самога сябе ды ўсе рэчы, так каб праз падданьне ўсяго чалавеку, Імя Божае было дзіўным па ўсей зямлі... Хрысьціяне не ўважаюць, што творы чалавечай вынаходлівасьці ды здольнасьці быццам супрацьстаўляюцца Божай магутнасьці, а разумнае стварэньне становіцца канкурэнтам Стварыцеля; але наадварот, хрысьціяне перакананыя, што перамога чалавечага роду ёсьць знакам Божай велічы ды вынікам Ягонага нявысказанага пляну. І чым больш узрастае магутнасьць людзей, тым шырэй расьцягваецца адказнасьць, як адзінак, так і грамадзтваў. Адсюль можна бачыць, што хрысьціянская навука не адрывае чалавека ад будаваньня сьвету і ня ўводзіць людзей у нядбайнасьць да дабра бліжняга; а наадварот, яшчэ мацней вяжа яго абавязкам выконваць гэтыя рэчы» (Пастаральная Канстытуцыя, 34).

**Пытаньне да 11-й катэхэзы:**

21) Да якога супрацоўніцтва кліча Бог чалавека?

**Адказ:** Бог кліча чалавека да перадачы жыцьця ў сям'і ды да паляпшэньня сьвету праз працу.

12-я КАТЭХЭЗА

# 12. Бог кліча чалавека да сужыцьця з Сабою

ЧАЛАВЕК, які́м ён ёсьць, ня выйшаў гэтакім з рук Божых. Бог ад пачатку меў для яго прыгатаваную без параўнаньня лепшую долю. Аднак не хацеў чалавека да яе прымушаць і даў яму поўную магчымасьць адкінуць яе, калі яна яму не спадабаецца. І чалавек паказаў, што лепш будзе сам выбіраць, чым слухаць хоць-бы Самога Бога. Дык і выбраў горшае і пажалеў толькі тады, калі праканаўся, што зрабіў дрэнна. Аб гэтым так кажа Сьвятое Пісьмо:

«А насадзіўшы сад на ўраджайнай раўніне на ўсходзе, ЯГВЭ-БОГ памясьціў там чалавека, каторага зьляпіў. На загад Бога Ягвэ вырасьлі з грунту ўсялякія дрэвы прыемныя на выгляд і родзячыя смачныя фрукты, ды дрэва жыцьця пасярод гэтага саду, а таксама дрэва пазнаньня дабра і зла. З гэтай-жа ўраджайнай раўніны выплывала рака, каб наваднять гэты сад... Дык узяў

Ягвэ Бог чалавека ды памясьціў яго ў садзе Эдэм, каб даглядаў і парадкаваў яго (Быцьця 2, 8-15).

*****

Чалавек жыў у блізкай лучнасьці ды ў дружбе з Богам. Тады быў ён шчасьлівы. Кніга Быцьця паказвае шчасьце першага чалавека ў абразах. Адам і Ева жывуць у садзе, які завецца Эдэм, а па-нашаму рай. Гэта — оазіс, дзе многа вады і багатая расьліннасьць. Ёсьць там дрэвы і фрукты. Ёсьць птушкі дый зьвяры. Разумны чалавек надае ім імёны, каб адрожніць і лепш пазнаваць, якую зь іх можна мець карысьць. Чалавек у раі быў спакойны ды ўнутрана апанаваны, а ўсе ягоныя пачуцьці ды імкненьні былі падпарадкаваныя розуму (Быцьцё 2, 25). Ён ня ведаў, што такое боль або сьмерць. Праца яго ня мучыла і ён ня ведаў стомленасьці (Быцьця 3, 19). Сам Бог наведваў іх.

Гэты ўнутраны мір і шчасьлівае жыцьцё ў раі былі Божым дарам і чалавек цешыўся ім, пакуль жыў у дружбе з Богам, сваім Стварыцелем. Паслушэнства Богу было патрэбна чалавеку да шчасьця. І яно патрэбна яму і цяпер.

Памяць аб «райскім жыцьці» засталася ў людзей назаўсёды. Перадусім яна перахавалася ў патомкаў Абрагама.

*

Цела і душу чалавека мы называем **прыроднымі** дарамі Божымі. Гэтыя дары мае кожны чалавек.

Вольнасьць ад хваробаў, болі і ад сьмерці, а таксама панаваньне розуму і волі над пачуцьцямі ды імкненьнямі, якія мелі людзі ў раі, мы называем **звышпрыроднымі** дарамі. Найбольшым дарам, перавышаючым усе іншыя, была жывая лучнасьць з Богам праз асобны дар, які называецца **надпрыродным жыцьцём,** або **асьвячаючай ласкай.** Гэта – асобнае жыцьцё, толькі тым яшчэ непадобнае да жыцьця Самога Бога, што і яно яшчэ ёсьць створанае Богам. Але гэтае жыцьцё ўжо дае магчымасьць чалавеку жыць жыцьцём Самога Бога ў гэтым нашым жыцьці праз **веру, надзею і любоў**, а пасьля сьмерці бачыць Бога такім, якім Ён ёсьць і дзяліць зь Ім Ягонае нястворанае, вечнае шчасьце. Гэты дар рабіў чалавека сьвятым сьвятасьцю Самога Бога, таму Бог усынавіў першага чалавека і першыя людзі былі Божымі дзецьмі. Сёньня гэты дар можа атрымаць кожны чалавек, калі паверыць Хрысту ды ахрысьціцца. Сьвяты Ян, улюбёны вучань Хрыстовы, напісаў: «А тым, што прынялі Яго, веруючым у Імя Яго, даў ім сілу дзяцьмі Божымі стацца, тым, што не ад крыві, не ад пажаданьня цела, не ад жаданьня мужа, але ад Бога нарадзіліся» (Ян 1, 12-13).

**Наш адказ Богу:** Буду цаніць дар надпрыроднага жыцьця, які я меў шчасьце атрымаць, калі мяне ахрысьцілі. Буду сьцерагчыся грахоў, каб не памерці душой: а калі-б здарылася са мной такое няшчасьце, пастараюся як найхутчэй адрадзіцца ізноў у тайне пакуты.

**Прыклад малітвы:** «Госпадзе, не дай мне ніколі адлучыцца ад Цябе *(З малітвы сьвятара ў лацінскім абрадзе перад сьвятым прычасьцем (камуніяй).*

**Пытаньне да 12-й катэхэзы:**

22) Які найбольшы дар атрымалі ад Бога першыя людзі?

**Адказ:** Першыя людзі атрымалі ад Бога дар надпрыроднага жыцьця, які інакш называецца асьвячаючай ласкай.

13-я КАТЭХЭЗА

# 13. Першыя людзі саграшылі

*Праз аднаго чалавека грэх увайшоў на сьвет, — Рым. 5, 12.*

Бог усынавіў чалавека — паклікаў яго да супрацоўніцтва і сужыцьця з сабою. Стварыў яго разумным і свабодным, каб ён уладжваў сьвет і сваё жыцьцё згодна з воляй Божай. Чалавек ведаў, што трэба захаваць парадак, які Бог устанавіў і што трэба пільнаваць яго, каб быў захаваны («даглядаць рай» — як кажа Кніга Быцьця, 2, 15), жыць і дзейнічаць згодна з воляй Стварыцеля.

Кніга Быцьця ў жывых вобразах апісвае няшчасьце першых людзей (Быцьця 2 і 3 раздзелы). Паводля гэтага расказу Бог даў Адаму і Еве загад і пажадаў, каб яны сьведама ды дабравольна Яго слухалі. Перасьцярог іх, што памруць, калі Яго не паслухаюць. Праз гэтую перасьцярогу Бог ясна паказаў, што любіць людзей і хоча, каб іхняе шчасьце было трывалае. Дзеля таго сьмерць узалежніў ад свабоднага выбару самога чалавека. І чалавек сам дабравольна выбраў для сябе сьмерць.

Першыя людзі не дацанілі Божае перасьцярогі. Кніга гаворыць далей, што паслухаўшы злога духа яны захацелі стацца «як Бог» і выкарысталі сваю свабоду супраць волі Бога — Стварыцеля. Яны сьведама аказаліся непаслушнымі. Яны паслухалі злога духа, аб якім Хрыстос сказаў, што ён ёсьць «брахун і бацька маны» (Ян 8, 44), замест таго, каб паверыць Богу, які ёсьць чыстая Праўда ды ад Якога апрача дабра нічога ня бачылі. Яны паставілі на першым месцы сваю волю замест Божае. Гэтым самым паказалі, што ня любяць Бога.

Далей Кніга Быцьця апісавае гэтаксама ў вобразах страшэнныя вынікі гэтага граху. Яна гаворыць аб выгнаньні першых людзей з раю, прадказвае ім жыцьцё ў цяжкой працы ды ў пакутах.

Царква вучыць, што грэх першых людзей пахіснуў сужыцьцё і парваў лучнасьць чалавека з Богам. Інакш кажучы, гэты грэх зьнішчыў у чалавеку надпрыроднае жыцьцё. Аслабіў таксама любоў і згоду паміж людзьмі ды пасварыў іх між сабою. Людзям нават у думку не прыходзіць, каб шукаць шчасьця любячы адзін другога, бо кожны шукае шчасьця ў любові да самога сябе — у сваім эгаізме. А якраз у Сьвятой Тройцы Божыя Асобы — Айцец, Сын і Сьвяты Дух — толькі ў гэтым і знаходзяць сваё шчасьце, бо іхняя любоў ёсьць зусім вольнай ад эгаізму. Дык і чалавек не інакш можа знайсьці сваё сапраўднае шчасьце, бо Бог стварыў яго на свой абраз і падабенства. Тымчасам людзі ня толькі не стараюцца любіць адзін другога, але яшчэ крыўдзяць адны другіх, або замест памагчы ў бядзе, астаюцца абыякавымі.

Трэцяй шкодай, якую грэх спрычыніў чалавеку, ёсьць непарадак у самай натуры чалавека. За кару, што чалавек не паслухаў Бога, частка матэрыяльная ягонае прыроды, супольная чалавеку з расьлінамі і жывёлаю, збунтавалася супраць вышэйшай, разумнай, духовай часткі. Інакш кажучы: цела збунтавалася супраць душы. Пачуцьці, імкненьні ды нахілы ня служаць ужо розуму, а воля таксама ня можна заўладаць над імі. Наадварот, разумная чалавечая воля сама аддаецца ў няволю гэтым сьляпым сілам. Замест сапраўднага дабра, яна часта выбірае дабро няпраўдзівае, уяўнае.

Гэтаксама грэх зрабіў чалавечае жыцьцё на сьвеце цяжкім і нецікавым. Замест таго, каб лёгка ўладаць сьветам, рабіць яго лепшым ды вясьці да Бога, чалавек робіць гэта з вялікай цяжкасьцю, мучыцца, зьнемагае, церпіць і ў канцы памірае. Бо, як кажа Апостал: «Грэх увайшоў у сьвет, а праз грэх сьмерць» (Рым. 5, 12). Грэх ёсьць найбольшым злом і няшчасьцем для чалавека. Толькі тады чалавек можа стацца вялікім і шчасьлівым, калі жыве ў лучнасьці з Богам і выконвае Ягоцую волю. Калі-ж адварочваецца ад Бога, дык траціць сваю веліч і шчасьце, як аб гэтым сказана ў Кнізе Быцьця: «Ты зямля і ў зямлю абернешся» (Быцьця 5, 19).

У лацінскім абрадзе Царква штогод прыпамінае гэтую праўду. У сераду, ад якой пачынаецца Вялікі Пост, сьвятар пасыпае вернікам галовы попелам, кажучы: «Помні, чалавеча, што ты ёсьць пыл і ў пыл ізноў пераменішся». Гэтым заклікае Царква кожнага верніка да перамены жыцьця, калі яно яшчэ неўпарадкаванае.

Грэх прынёс на сьвет сьмерць, аднак Хрыстос перамог грэх і сьмерць. Ён паміраў людзей з Богам і паміж сабою. Ён даў кожнаму чалавеку магчымасьць заўладаць розумам асьвечаным верай і воляй узмоцненай Божай помачай над сьляпымі, цёмнымі сіламі сваёй прыроды, абяцаючы за гэта ўваскрашэньне. Таму сьвятар у лацінскім абрадзе, пасыпаючы труну памёрлага зямлёй, кажа: «Ты пыл і ў пыл разсыпешся, аднак Госпад ажывіць цябе ў апошні дзень».

**Наш адказ Богу:** Буду сьцерагчыся граху, як найбольшага няшчасьця.

**Прыклад малітвы:** *(Псальм 50) —*

*Зжалься нада мною, Божа, паводле вялікай Тваёй міласэрнасьці дый паводле вялізнага Твайго зьлітаваньня ачысьці мяне ад майго беззаконьня.*

*Яшчэ больш абмый мяне ад нягоднасьці маей і вызвалі мяне ад віны маей.*

*Бо сваю нягоднасьць я ведаю і грэх мой заўсёды стаіць у мяне прад вачамі.*

*Бо Табе толькі аднаму я саграшыў і перад Табою рабіў дрэнна, каб Ты меў поўнае права абвінаваціць і асудзіць мяне.*

*Бо вось у беззаконьні я пачаўся і ў граху пачала мяне мая маці. Бо Ты палюбіў праўду і з глыбіны Тваей мудрасьці Ты мяне вучыш. Акрапі мяне гісопам і я буду чысты, абмыеш мяне і я буду бялейшы ад сьнегу.*

*Дай пачуць мне радасьць і вясельле і няхай усклікнуць ад радасьці косьці, якія ты скрышыў.*

*Адвярні Сваё аблічча ад маіх грахоў і ачысьці ўсю маю неправасьць. О, Божа! Ствары ўва мне чыстае сэрца і ўзнаві ў маіх грудзях моцнага духа.*

*Не адкінь мяне ад Твайго аблічча і не адбірай ад мяне Твайго Сьвятога Духа.*

*Вярні мне радасьць Твайго спасеньня і валадарным духам узмацуй мяне.*

*Пакажу беззаконным Твае шляхі і нягоднікі звернуцца да Цябе.*

*Ратуй мяне ад крыві, Божа майго выратаваньня і язык мой будзе славіць Тваю справядлівасьць.*

*Госпадзі, Ты адчыніш мае вусны і вусны мае будуць абвяшчаць Тваю славу.*

*Бо калі-б Ты зажадаў ахвяраў, я даў бы бязумоўна, аднак ахвяры спаленыя агнём Табе не ў спадобу.*

*Ахвяра для Бога – дух пакаянны, сэрцам разбітым і паніжаным Ты, Божа, не пагардзіш.*

*Зрабі, Божа, ласку з добрай Тваей волі Сыёну, ды няхай адбудуюцца муры Ерусаліму.*

*Тады Ты прыймеш ахвяру справядлівасьці, дары і ахвяры, тады на Твой аўтар паложаць цялят.*

*

**Божае слова:** Пажаданьне, зачаўшы, спараджае грэх, а зроблены грэх спараджае сьмерць (Як. 1, 15).

**НАВУКА АПОШНЯГА САБОРУ:** Бог стварыў чалавека справядлівым. А чалавек, дапусьціў зло ўжо на пачатку гісторыі, дрэнна выкарыстаў сваю свабоду — супрацівіўся Богу і захацеў асягнуць сваю мэту незалежна ад Яго. Пазнаўшы Бога, людзі не аказалі Яму пашаны як Богу, але «замарочылася неразумнае іхняе сэрца і яны ахвотней служылі стварэньню, чымся Стварыцелю».

Тое, што нам ведама дзякуючы Божаму Аб'яўленьню, згаджаецца з досьледам. Бо чалавек, калі загляне ў сваё сэрца, спасьцерагае, што ў ім ёсьць нахіл да злога і што сам ён патануў у шматлікім благоцьці, якое ня можа выходзіць ад добрага Стварыцеля. Не згаджаючыся часта прызнаць Бога за свой пачатак, ён разбурае належныя адносіны да сваёй апошняй мэты ды таксама разбурае ўсё сваё ўпарадкаванае накіраваньне як да самога сябе, так і да іншых людзей і да ўсіх створаных рэчаў.

Таму чалавек унутрана падзелены. Таму і ўсё людзкое жыцьцё, як індывідуальнае так і грамадзкае, выглядае быццам змаганьне і пры тым драматычнае паміж дабром і злом, паміж сьвятлом і цемрай. Больш таго, чалавек адкрывае, што ён ня здольны перамагаць пасьпяхова сваімі сіламі напасьці злога, так што ён чуецца як быццам зьвязаны ланцугамі. Але сам Госпад прыйшоў, каб чалавека вызваліць і даць яму сілу, абнаўляючы яго ўнутрана ды выганяючы вон «валадара гэтага сьвету» (Ян 12, 31), які трымаў чалавека ў няволі граху. Грэх робіць чалавека меншым, бо адводзіць яго ад асягненьня паўнаты.

У сьвятле гэтага Аб'яўленьня знаходзіць адначасна сваё апошняе выясьненьне ўзвышаны заклік і глыбокая нядоля, якія адчувае чалавек (Пастаральная Канстытуцыя, 13).

**Пытаньне да 13-й катэхэзы**:

23) Што выклікаў грэх першых людзей?

**Адказ:** Грэх першых людзей парваў іхную лучнасьць з Богам, парозьніў іх між сабою, разбурыў у іх унутраны лад ды сьцягнуў на іх сьмецць.

14-я КАТЭХЭЗА

# 14. Грэх Адама пераходзіць на ягоных патомкаў

Сьвяты Павал піша ў лісьце да Рымлянаў: “Праз аднаго чалавека ўвайшоў у сьвет грэх і праз грэх — сьмерць перайшла на ўсіх людзей, бо ў ім усе саграшылі...” (Рым. 5, 12).

Кніга Быцьця расказвае аб выніках граху першых людзей у жыцьці іхніх патомкаў. Патомкі Адама таксама грашылі. Як і Адам: яны часта бывалі непаслушнымі Богу. Калі старэйшы сын Адама, Каін, зьненавідзіў Абэля, свайго малодшага брата, сам Бог перасьцерагаў яго, каб стараўся запанаваць над ненавісьцю, бо інакш яна запануе над ім і давядзе яго да няшчасьця. Каін не паслухаў Бога і ненавісьць так засьляпіла яго, што забіў брата.

Калі людзі грашылі, яны, як Адам, адварочваліся ад Бога, а на месца Бога ставілі саміх сябе. Кніга Быцьця ў апавяданьні аб патопе паказвае, да якіх згубных вынікаў даводзіць грэх.

Бог ратуе тых, што як Ной слухаюць Яго, ратуе ад катаклізмаў у прыродзе, а непаслушных пакідае без сваёй помачы. Бог нікому не навязваецца супраць ягонае волі, а толькі паказвае чалавеку, што ён за малы і за слабы, каб даць сабе раду бяз Бога (Глядзі Кнігу Быцьця, разьдзелы 6-8).

Але і пасьля патопу грэх не зьнікае ў жыцьці людзей. Патомкі Ноя грашылі таксама. Сьвятое Пісьмо апісвае асабліва грахі ізраільскага народу. Грахі іхнія былі падобныя да граху першых людзей. Гэты народ ішоў за сваімі нахіламі насупраць таго, чаго вымагаў ад яго Бог.

Адам, як галава ўсяго чалавецтва, парваў з Богам лучнасьць і загубіў дар надпрыроднага жыцьця, які меў перадаць сваім патомкам. Бяз лучнасьці з Богам, без асьвячаючай ласкі чалавеку не хапае сілы, каб перамагчы зло. За выняткам Хрыстовае Маці, усе людзі родзяцца без асьвячаючай ласкі — бяз дару надпрыроднага жыцьця, які па Божай волі павінны былі б мець і таму гэты недахоп ласкі ў кожным чалавеку лічыцца грахом, хоць вінаваты за гэта толькі адзін Адам. Таму гэты грэх называецца першародным.

Ісус Хрыстос вярнуў нам лучнасьць з Богам, надпрыроднае жыцьцё дзяцей Божых. Хто праз хрост лучыцца з Хрыстом, атрымлівае ад Яго надпрыроднае жыцьцё і гэтак ужо ня мае першароднага граху, але стаўся сынам Божым. Але ў ахрышчаным чалавеку застаюцца яшчэ сьляды, якія існавалі ў прыродзе чалавека: гэта большая схільнасьць да граху, чым да добрых учынкаў, цярпеньне дый сьмерць.

**Наш адказ Богу:** Як Божае дзіця я хачу кіравацца ў жыцьці розумам асьвечаным верай. З помаччу Божай буду старацца апанаваць свае нахілы да зла.

**Прыклад малітвы:** О, Божа, не адкажы мне сваіх нябесных дароў. О, Божа, даруй мне тое, што саграшыў я думкаю, словам або ўчынкам. Барані мяне ад маладушнасьці і закамянеласьці сэрца. Выбаў мяне ад усялякай граховай спакусы. О, Божа, асьвяці маё сэрца, загіджанае дрэнным пачуцьцём. О, Божа, я грэшны чалавек, а Ты Бог міласьцівы: Ты знаеш маю слабасьць — зжалься нада мною. О, Божа, пашлі мне на помач Тваю ласку — праслаўляць сьвятое Імя Тваё!

О, Хрысьце, Збаўца мой! Упішы мяне, свайго Слугу, у кнігу жыцьця і дай мне шчасьлівую сьмерць, Божа мой, хоць дагэтуль не зрабіў я нічога добрага прад Табою. Успамажы мяне сваёю ласкай зрабіць пачатак добрага. О, Божа, пакрапі маё сэрца расою ласкі Тваей. О, Валадару неба і зямлі, успомні мяне грэшнага слугу Твайго ў валадарстве Тваім!

О, Божа, прымі мяне раскаянага. Не адступайся ад мяне. Не дай мне зваліцца ў бездань зла. О, Божа, дай мне сьлёзы пакуты і памяць на сьмерць. Дай мне цноты пакоры, чыстаты, послуху. Дай мне цярплівасьць, велікадушнасьць, лагоднасьць. О, Божа, залажы ўва мне фундамант добрага і страх прад Табою ў сэрцы маім. Няхай буду я здатным любіць Цябе з цэлага сэрца і чыніць заўсёды волю Тваю. Барані мяне ад сапсутых людзей, ад духаў нячыстых, ад злога пажаданьня. Божа мой, Ты ўсё робіш паводле Сваёй волі прадвечнай, няхай жа воля Твая споўніцца нада мною грэшным. О, будзь блаславёны на векі! Аман (З твораў сьв. Яна Златавустага).

**Божае слова:** “Характар чалавека дрэнны ўжо ад маладых гадоў” (Быцьця 21). “Бо ўсё, што ў сьвеце — пажаданьне цела, пажаданьне вачэй і пыха жыцьця — не ад Айца, але ад гэтага сьвету” (Ян 2, 16). “Мой унутраны чалавек знаходзіць здаваленьне ў законе Божым, але ў членах маіх я бачу другі закон, што змагаецца з законам майго розуму і робіць мяне нявольнікам закону граху, які ёсьць у членах маіх” (Рым. 7, 22-25).

**Увага:** Першародны грэх пакінуў у натуры чалавека сьляды або заганы, якія мы называем галоўнымі грахамі, бо ўсе грахі вырастаюць з гэтых заганаў, як дрэвы з карэньня. Ёсьць іх сем: 1) Пыха, 2) Прагавітасьць або хцівасьць, 3) Нячыстасьць, 4) Гнеў, 5) Абжорства і п'янства, 6) Зайздрасьць, 7) Ляніўства.

**Пытаньне да 14-ай Катэхэзы:**

24) Як называецца грэх, зь якім мы ўсе прыходзім на сьвет?

**Адказ:** Грэх, зь якім мы ўсе прыходзім на сьвет, называецца першародным грахом.

15-я КАТЭХЭЗА

# 15. Бог прыракае людзям паслаць Збавіцеля

У кнізе Быцьця гаворыцца аб тым, як Бог, пакараўшы першых людзей за грэх, зьвярнуўся да зьмея, які іх ашукаў, з наступнымі словамі: "Пасею варожасьць паміж табою і жанчынаю, паміж патомствам тваім і патомствам яе: яна скрушыць табе галаву, а ты будзеш старацца кусаць яе ў пяту» (Быцьця 3, 14-15).

Чалавек адышоў ад Бога, які ёсьць Любоўю і хоча вярнуць чалавеку дружбу, лучнасьць з Сабой і вызваліць яго ад уплыву чарта. І вось Бог абяцае пасеяць варожасьць паміж чартом і жанчынаю, паміж патомствам чарта і патомствам жанчыны. Патомства жанчыны ў канцы пераможа, бо скрушыць галаву злыдні, тады як ён будзе кусаць яе ў пяту.

Багасловы бачаць у гэтых словах больш чым экзэгеты[2], якія стараюцца пазнаць тое, што хацеў сказаць сам аўтар кнігі Быцьця, ды яшчэ што меў у думцы. У апошнім часе яны досыць згодна ўважаюць, што аўтар меў на думцы толькі змаганьне чалавека з чартом, бо яму Бог так абяцаў памагчы перамагаць "зло дабром" (Быцьця 17,21) і больш нічога. Аднак багасловы ўважаюць, што Бог у гэтых словах аб'явіў куды больш, чым мог зразумець сам чалавек, які нам гэтае аб'яўленьне напісаў.

Першае пытаньне, хто гэтая жанчына, паміж якой і чартом Бог сам пасеяў варожасьць?

Тут ёсьць толькі тры магчымасьці: 1) Жанчына гэтая Эва, 2) жанчына азначае наагул усіх жанчынаў, а тым самым увесь чалавечы род, і 3) гэта будзе нейкая асобная жанчына, паміж якой сам Бог пасее такую варожасьць, як паміж патомствам чарта і ейным. Багасловы адкідаюць першую і другую магчымасьць. Паводле аўтара натхнёнай Кнігі Эва сяброе са зьмеям і пэўна ж Бог можа гэтае сяброўства разбурыць ды замяніць у варожасьць, а нават у змаганьне, але ў жыцьці Эвы мы нідзе нічога такога ня бачым. І ў жанчын мы няраз заўважваем нейкую дзіўную сымпатыю да гадаў: колькі іх мроіць, каб насіць хоць абутак са зьмяінай скуры! І торбачкі, паясы ад розных гадаў, панчошкі разрысаваныя пад вужаку. Усё гэта зусім ня сьведчыць аб нейкай незвычайнай варожасьці жанчынаў да зьмеяў.

Але вось трэцяя магчымасьць сапраўды заслугоўвае на ўвагу, бо ёсьць у гісторыі адна жанчына паміж якой і чартом ніколі не было прыязьні, бо толькі яна адна нарадзілася на сьвет без першароднага граху і то таму, што Бог выбраў яе на Матку свайму адзінароднаму Сыну і ня мог Бог дапусьціць, каб чорт мог пахваліцца, што сама Божая Маці была ў ягонай няволі. Таму Бог стварыўшы ейную душу, надзяліў яе таксама надпрыродным жыцьцём, аказаўшы збаўленьне першай зь людзей, як Матцы Збавіцеля. Гэтым Бог пасеяў і варожасьць паміж чартом і ёю, як паміж грахом, як патомствам чарта і паміж Сынам Божым — патомкам жанчыны.

Ясна, што паміж грахом і Хрыстом не магло быць ніколі дружбы, а Хрыстос ёсьць патомствам тае адзінае жанчыны, паміж якой і чартом існуе такая самая варожасьць. Да гэтых высноваў даходзяць багасловы, бяручы пад

---

[2] Вучоныя, што займаюцца экзэгэзаю (вывучэньнем і тлумачэньнем тэкстаў Сьвятога Пісьма) – *рэд.*

увагу ўсе тэксты Сьвятога Пісьма, у якіх высказана гісторыя выратаваньня людзей.

Сьвяты Павал так тлумачыць значэньне Божага прырачэньня: Хрыстос як галава чалавецтва пераможа чарта. “Валадар” гэтага сьвету не патрапіць адвесьці Хрыста ад Бога, хоць будзе спакушаць Яго (Мац. 4, 11). Павал называе Хрыста другім Адамам. Як першы Адам прынёс на зямлю грэх, непаслушэнства, сьмерць і кару, так другі Адам прынёс ласку, паслушэнства справядлівасьць і жыцьцё (Кар. 1, 15, 45-49; Рым. 5, 12-21). Гэты паправіў тое, што той папсаваў і зрабіў гэта праз паслушэнства Богу. Таму сьв. Павал называе Хрыста новым чалавекам, а ягонае дзела абнаўленьнем усяго (Эф. 1, 10) або новым стварэньнем (2 Кар. 5, 17).

Маці Хрыстова Марыя будзе “другой Эвай” чалавецтва. Свабодная ад першароднага граху, або Непавінна Пачатая, ніколі не саграшыць і не пападзе ў няволю чарта. Як Маці Выратавальніка (Збавіцеля) Яна будзе Маткай “новага стварэньня”.

Гэтак вось прырачэньне ў раі абяцала людзям Выратавальніка. Таму гэты тэкст завецца “Протаевангельлем”, г. зн. “першай Добрай Навіной” аб выратаваньні. Гэтую “Добрую Навіну” передавалі людзі з пакаленьня ў пакаленьне, аж пакуль ня споўнілася ў Ісусе Хрысьце.

Ад прырачэньня ў раі людзі пачалі чакаць на Выратавальніка. На памятку аб гэтым поўным тугі чаканьні Царква ўстанавіла пост, які ў лацінскім абрадзе называецца адвэнт, што азначае чаканьне на прыход. Цяпер мы чакаем на другі прыход Хрыста, калі аб'явіцца ўся паўната «новага стварэньня».

**Наш адказ Богу:** Хачу супрацоўнічаць з Хрыстом і з Ягонаю Маткаю ў змаганьні за канчатковую перамогу над грахом.

**Прыклад малітвы:** Божа, Ты цераз пакуту Твайго Хрыста, а нашага Госпада, зьнішчыў сьмерць, якая была вынікам старога граху і як спадчына перайшла на ўсе наступныя пакаленьні, зрабі, каб мы стаўшыся падобнымі да Хрыста праз асьвячаючую ласку так насілі Божы вобраз, як з прымусу мы насілі кляймо адамавай натуры *(З лацінскае Літургіі ў Вялікую Пятніцу)*.

**Пытаньні да 15-ай катэхэзы:**

25) Што прырок Бог людзям у раі?

**Адказ:** Бог прырок людзям у раі змаганьне з чартом і перамогу над ім.

26) Калі людзі перамаглі чарта?

**Адказ:** Людзі перамаглі чарта тады, калі Ісус Хрыстос, «другі Адам», праз сваю сьмерць і ўваскрасеньне пагадзіў іх з Богам.

## *II. БОГ ЗАПАВЕТУ*

16-я КАТЭХЭЗА

# 16. Бог Запавету.

*Бог спрадвечна любіць чалавека і кліча яго да супольнасьці з Сабою.*

Гаворачы аб гісторыі выратаваньня сьв. Павал кажа: «Усё гэта толькі цень будучага» (Кал. 2, 17) і: «Усё гэта сталася, каб магло паслужыць як прыклад для нас» (І Кар. 10, 6).

Найстарэйшае Божае аб'яўленьне дайшло да нас праз патомкаў Абрагама. Запісанае ў Кнізе Быцьця, яно паказвае, што Бог зрабіў для чалавека. Адначасна адкрывае нам Божыя пляны і Божыя тайны. А робіць яно ўсё гэта ў форме апавяданьня аб трох вялікіх асобах: Адаме, Ною і Абрагаме.

Бог стварыў Адама. Надзяліў яго ўсялякім дабром. Зрабіў яго сваім сынам і ў ім хацеў зрабіць дзяцьмі ўсіх людзей. Хаця Адам не паслухаў Бога — Бог не зьмяніў свайго пляну. Ён далей вядзе сваю любоў: усім дзецям Адама прыракае перамогу над чортам і грэхам.

У апавяданьні аб тым, як Бог ратаваў Ноя ў час патопу, Кніга Быцьця падкрэсьлівае, што Бог зрабіў яго айцом новага чалавецтва і даў яму, як калісь Адаму, загад: «Няхай размнажаюцца!» (Быцьця, 8, 17). Бог з Ноем робіць дагавор, які ў Сьвятым Пісьме завецца Запаветам і абяцае, што гэтак больш людзей караць ня будзе: «Я раблю Запавет з вамі і з вашымі патомкамі, якія будуць пасьля вас» (Быцьця, 9, 9). Праз гэта Бог паказвае сваю любоў Ною і ягонай сям'і, а праз іх усім людзям аж да канца сьвету.

Калі Бог кліча Абрагама і прыракае яму, што ў ягоным патомстве «ўсе народы зямлі будуць атрымліваць дабро» (Быцьця 22, 18), гэтым самым робіць яго айцом усіх веруючых. Вядзе яго ў Абяцаную Зямлю, ды апякуецца ім і ягонымі патомкамі. Такім спосабам Бог прыгатаўляе край і народ, з якога пасьля стагодзьдзяў выйдзе Выратавальнік усіх людзей. Па сьмерці Абрагама Бог выкарыстае ягонае племя для сваёй справы. Зробіць гэта на карысьць усіх.

Апавяданьні Кнігі Быцьця паказваюць вялікую Божую тайну. Бог любіць людзей. Хоча ўсіх іх пацягнуць у супольнасьць і сужыцьцё з сабою. Робіць гэта цераз выбраных пасрэднікаў, выкарыстоўваючы як адзінкі так і цэлы народ. Калі паказваецца ім ды аб'яўляе сваю любоў, робіць гэта для ўсіх.

*

Падзеі апісаныя ў Кнізе Быцьця былі для людзей, якія іх перажывалі, дарам Божай любові. Адначасна яны прадказвалі адзінага і сапраўднага Пасрэдніка, ды прыгатаўлялі людзей усіх часоў да паўнаты ласкі і любові ў Ісусе Хрысьце. Гэтыя падзеі мы называем «фігурамі» або «тыпамі». Таму сьв. Павал называе Ісуса Хрыста «другім Адамам: «Стаўся першы чалавек, Адам, жывою душою, а апошні Адам ажыўляючым духам» (I Кар. 15, 45).

Сьв. Пётр тлумачыць таксама, што воды патопу і выратаваньне Ноя, былі прадказаньнем выратаваньня чалавека цераз хрост, устаноўлены Ісусам Хрыстом: “Гэтак і нас сёньня спасае на ўзор гэтага Хрышчэньне (не абмыцьцё цела ад бруду, але абяцаньне Богу добрага сумленьня) праз уваскрасеньне Ісуса Хрыста” (I Пятр. 3, 21). Таму таксама сьв. Павал, тлумачачы прырачэньне, дадзенае Богам Абрагаму, навучае: «Блаславеньне Абрагама сталася ў Ісусе Хрысьце ўдзелам паганаў і каб праз веру мы атрымалі абяцанага Духа» (Гал. 3, 14). І ўсе, выратаваныя цераз хрост у Хрысьце, сталіся “патомствам Абрагамавым і паводле прырачэньня насьледнікамі” (Гал. 3, 29). Таму і Царква прыпамінае ўсьцяж у літургіі, асабліва ў абрадах сьвятых Тайнаў, гэтыя падзеі, каб мы лепш разумелі дар, прынесены Ісусам Хрыстом і каб ахвотней адказвалі на адвечную любоў Божую.

*****

**Наш адказ Богу:** У фігурах і падзеях Старога Запавету буду бачыць выратавальнае дзеяньне Бога і таму пастараюся лепш іх пазнаць.

**Прыклад малітвы:** «Блаславёны Госпад Бог Ізраіляў, што адведаў свой народ і даў яму выратаваньне; і падняў для нас збаўчую моц у доме Давіда свайго слугі, як апавясьціў вуснамі быўшых адвеку сьвятых сваіх прарокаў, выратуе нас ад нашых ворагаў і ад рукі ўсіх тых, што нас ненавідзяць; і ўчыніць ласку нашым бацьком і ўспомніць сьвяты свой запавет, прысягу, што кляўся Абрагаму, нашаму айцу, даць нам, каб без баязьні, выратаваныя з рук нашых ворагаў, мы служылі Яму ў сьвятасьці і справядлівасьці прад ім у ва ўсе дні нашага жыцьця» (Лук. I, 68-75).

**Божае слова:** «Шмат разоў і шматлікімі спосабамі прамаўляў Бог да нашых бацькоў здаўна цераз прарокаў, а ў апошнія гэтыя дні прамовіў да нас праз свайго Сына, якога паставіў за насьледніка ўсяго, праз якога і стагодздзі стварыў» (Гэбр. 1, 1-2). «І, пачаўшы ад Майсея, з усіх прарокаў выясьняў ім усё напісанае аб Ім» (Лук. 24, 27).

**Навука Царквы:** «Плян выратаваньня ў Старым Запавеце быў накіраваны перадусім на тое, каб прыгатаваць, у прароцтвах прадказаць і рознымі вобразамі — як тыпамі — абазначыць прыход Хрыста Выратавальніка ўсіх і прыход Мэсіянскага Валадарства» (II-гі Ват. Сабор, Канстытуцыя аб Божым Аб'яўленьні, 15).

**Пытаньні да 16-ай катэхэзы**

27) Кім Бог паслугоўваецца ў гісторыі выратаваньня (збаўленьня)?

**Адказ:** Бог у гісторыі выратаваньня паслугоўваецца пасрэднікамі, гэта значыць выбранымі людзьмі і выбраным народам.

28) Што мы называем «фігурамі» у Старым Запавеце?

**Адказ:** «Фігурамі» ў Старым Запавеце называем выратавальныя падзеі, якія здарыліся перад прыходам Ісуса Хрыста ды прадказвалі паўнату выратаваньня ў Ісусе Хрысьце.

29) Хто ёсьць адзіным сапраўдным пасрэднікам паміж Богам і людзьмі?

**Адказ:** Адзіным сапраўдным пасрэднікам паміж Богам і людзьмі ёсьць толькі Ісус Хрыстос, Сын Божы, сапраўдны Бог і сапраўдны чалавек.

17-я КАТЭХЭЗА

## 17. Бог кліча выбраны народ.

У другой Кнізе Майсея, якая завецца Выхад, знаходзім апісаныя наступныя падзеі.

*Госпад сказаў да Майсея: «Я – Бог твайго бацькі, Бог Абрагама. Бог Ісаака і Бог Якуба... Нагледзеўся я даволі на пакуты майго народу ў Егіпце ды наслухаўся ягоных нараканьняў на прыгнятальнікаў... Вось я пасылаю цябе да фараона і ты вывядзі мой народ, Ізраіля, з Егіпту».*

*А Майсей сказаў Богу: «Вось я пайду да сыноў Ізраіля і скажу ім: Бог нашых бацькоў паслаў мяне да вас. Але, калі яны мяне спытаюць, як Яго завуць, то што я павінен ім сказаць?*

*Бог адказаў Майсею: «Я ЁСЬЦЬ ТОЙ, ХТО ЕСЬЦЬ», і прыбавіў: «Так і скажаш сынам Ізраіля: ТОЙ, ХТО ЁСЬЦЬ паслаў мяне да вас»* (Вых. 3, 1-15).

*****

Сыны Якуба, называнага таксама Ізраілям, які быў унукам Абрагама, пераехалі ў Егіпет. Там з часам разрасьліся ў цэлы народ. Егіпцяне прыгняталі ізраілітаў. Прымушалі іх працаваць на фараона, валадара Егіпту. Ізраіліты горка адчувалі сваю няволю. Тады сам Бог імі заапекаваўся.

Каля 1300 году перад нараджэньнем Хрыста паклікаў Бог Майсея, каб быў пасрэднікам паміж Ім і ізраілітамі. Па загаду Бога Майсей, разам са сваім братам Ааронам, зажадаў ад фараона вызваліць ізраілітаў. Фараон супрацівіўся Божым загадам. Тады Бог надзвычайным спосабам вывеў ізраілітаў з няволі. У назначаную ноч ізраіліты зыйшлі з Егіпту. Гэта ноч была паражэньнем для Егіпту, а выратаваньнем для ізраілітаў, якія азначылі свае дамы крывёй ягняці, як загадаў Бог цераз Майсея (Вых. 12, 7).

У дарозе ізраіліты дайшлі да Чырвонага Мора. Кніга Выхаду разказвае аб пераходзе праз мора: Майсей-Пасрэднік махнуў жэзлам, які насіў заўсёды пры сабе і вада разступілася і сыны Ізраіля ішлі цераз мора па сухім дне, а вада сьцяной стаяла ў іх з правага і левага боку (Вых. 14, 21-22).

*Выхад* гэты з егіпецкае няволі і *пераход* цераз Чырвонае Мора ізраіліты назвалі Пэйсах. Мы тое самае гэбрайскае слова выгаварваем Пасха. Для гэбраяў, як прынята па-беларуску называць ізраілітаў, Пасха сталася пачаткам іхняе гісторыі. Яна была таксама знакам іхняга паклíканьня на «выбраны народ» і таго, што Бог гэты народ любіць. Праз Пасху Бог пачаў урэчаісніваць свой збавіцельны намер адносна выбранага народу, а праз яго і ўсяго чалавецтва. Гэтак Бог споўніў свае прырачэньні, дадзеныя патрыярхам.

У Вялікую Суботу Царква прыпамінае кожны год Пасху Старога Запавету: — выхад з Егіпту, і лучыць яе з Пасхай Новага Запавету, г. зн. са сьмерцю і ўваскрасеньнем Хрыста, якія вызвалілі нас з няволі граху. Аднаўляючы прырачэньні сьвятога хросту, Царква прыпамінае наш пераход з няволі граху да свабоды Божых дзяцей, якую дае нам хрост.

**Наш адказ Богу:** Падзякую Богу за ласку сьвятога хросту.

**Прыклад малітвы:** «О Божа, мы ведаем, што і ў нашы дні здараюцца твае даўнейшыя цуды. Каб ратаваць усе народы, Ты робіш сёньня цераз ваду адраджэньня тое, што зрабіў Ты для аднаго народу, ратуючы яго сваёй моцай з егіпецкай няволі. Здзейсьні, каб усё чалавецтва ўвайшло ў сям'ю Абрагамавых сыноў і асягнула годнасьць выбранага ізраільскага народу» (Малітва Вялікай Суботы ў лац. абр.).

**Божае слова:** Пасха наша, Хрыстос, закалены за нас (І Кар. 5, 7).

**Пытаньне да 17-ай катэхэзы:**

30) Што для нас Пасха ізраільскага народа?

**Адказ:** Пасха ізраільскага народа ёсьць для нас пачаткам і прадказаньнем нашага вызваленьня і прызваньня ў Ісусе Хрысьце.

18-я КАТЭХЭЗА

## 18. Бог заключае дагавор з выбраным народам.

Сказаў Бог Майсею: «Вы бачылі, што я зрабіў з Егіпцянамі, як нёс я вас на арліных крыльлях і прыняў да сябе. Калі будзеце пільна слухацца майго голасу ды трымацца майго дагавору, вы будзеце маей асаблівай уласнасьцю з паміж усіх народаў, бо маей ёсьць уся зямля» (Вых. 19, 4-5).

Бог абяцаў цераз Майсея, што выратуе «свой народ» з егіпецкае няволі і завядзе яго ў Абяцаную Зямлю. Ізраіліты «паверылі Яму ды Ягонаму слузе Майсею» (Вых. 14, 31).

На Сынаі Бог заключыў з гэбраямі дагавор (запавет). Ён быў паглыбленьнем хаўрусаў Бога з патрыярхамі (Пс. 105, 8). Праз гэты дагавор Бог урачыста запэўніў, што прыйдзе збаўленьне. Іх выбраў, як народ, пасрэднікам, каб цераз іх давесьці да выратаваньня ўсе народы. Дагавор быў прыпячатаваны крывёй, прынесенай на алтары (Вых. 24, 8).

Бог прырок выбранаму народу сваю асаблівую апеку, аб'явіўшы яму сваё імя (Вых. 3). А гэбраі прыраклі службу адзінаму Богу, Ягвэ — «Які Ёсьць». Бачным знакам дагавору для гэбраяў была Скрыня Запавету.

Бог яшчэ няраз абнаўляў дагавор са сваім народам. Прыпомніў яго, калі гэбрайскі народ увайшоў у Абяцаную Зямлю (Ісуса Навіна 8, 30-35[3]; 24, 24-28). Абнавіў яго за цара Давіда і цара Салямона (3 Цар. 8, 52; 8, 61).

Дагавор (запавет) паміж Богам і выбраным народам прыпаміналі гэбраям прарокі. Яны тлумачылі, што Бог так вядзе свой народ, як *пастыр авечак* (Іс.

[3] У аўтара – 8, 30.

40, 11; Пс. 23, 1); клапаціцца пра Ізраіля як агароднік пра *вінаградник* (Іс. 5, 7); любіць свой народ як каханак сваю *каханую* (Оз. 1, 3).

Адначасова ў гэтых абразах-параўнаньнях прарокі прадказвалі Новы Запавет, у каторым Хрыстос будзе добрым пастырам, садоўнікам і каханкам, а Ягоная Царква будзе аўчарнікам:, вінаграднікам і каханкай. У гэтым Новым Запавеце любоў зьвяжа Бога і Божы народ: «Заключу з імі вечны дагавор, і не адступлю ад іх робячы ім дабро; і страх перада мною ўкладу ў іхнія сэрцы, каб мяне не пакінулі» (Ер. 32, 40).

Дагавор або Запавет уцьверджаны на Сынаі завецца Старым Запаветам. Наш пасрэднік Ісус Хрыстос заключыў Новы Дагавор або Запавет, які прыпячатаў сваёй крывёй (І Кар. 11, 25). Ён ужо абымае не адзін толькі народ, але ўсе народы, усіх людзей.

Цераз хрост мы пакліканы прыняць удзел у Новым Запавеце. Мы цяпер «новы Божы народ», новая супольнасьць у Ісусе Хрысьце.

**Наш адказ Богу:** Хачу быць верным Запавету, у якім я прымаю ўдзел цераз сьвяты хрост.

**Прыклад малітвы:** Божа, што пасьля заканчэньня Старога Запавету, заключыў Новы цераз адзінароднага твайго Сына, просім цябе, дай нам, каб мы — як новы Божы народ — злучаныя ў любові, што-раз то лепш цябе пазнавалі і што-раз лепш табе служылі.

**Божае слова:** «Майсей узяў кроў і пакрапіў ёю народ, кажучы: вось кроў Запавету (Дагавору), які Ягвэ заключыў з вамі» (Вых. 24, 8). «Госпад маім пастырам: ні ў чым ня буду мець нястачы!» (Пс. 23, 1). «Вінаграднікам Ягвэ Саваофа ёсьць дом Ізраілевы» (Іс. 5, 7). «Я пасадзіў цябе як адборную вінаградную лазу, найлепшае каліва. Якжа ты мог перамяніцца ў дзічку, выраднуто вінаградную лазу?» (Ер. 2, 21).

**Навука Царквы:** «І выбраў Бог сабе на народ ізраілітаў, з якім заключыў Запавет і які паступова вучыў, аб'яўляючы сябе і намеры сваёй волі ў яго гісторыі, ды робячы яго сьвятым дзеля самога сябе. Усё гэта аднак здарылася як прыгатаваньне і як тып таго Новага і дасканалага Запавету, які меў заключыць у Хрысьце, як і больш поўнага аб'яўленьня, якое мела перадаць само Божае Слова, якое сталася целам». «Вось надыходзяць дні, кажа Госпад, і я заключу з ізраільскім домам Новы Запавет... Палажу мой закон у іхніх унутранасьцях і на іхнім сэрцу напішу яго, і буду ім Богам, а яны будуць мне народам... Бо ўсе пазнаюць мяне ад малога да найвялікшага, кажа Госпад» (Ер. 31, 31-34) (ІІ-гі Ват. Сабор, Канстытуцыя аб Царкве, 9).

**Пытаньні да 18-ай катэхэзы:**

31) Як завецца Запавет заключаны на Сынаі?

**Адказ:** Запавет *(Дагавор)* заключаны на Сынаі завецца Старым Запаветам або Старым Законам.

32) Якое значэньне ў гісторыі выратаваньня *(збаўленьня)* мае Запавет заключаны на Сынаі?

**Адказ:** Запавет заключаны на Сынаі зрабіў выбраны народ пасрэднікам і прадказаў Новы Запавет у Ісусе Хрысьце.

**Увага:** Гісторыя Сынайскага Запавету знаходзіцца запісаная ў Бібліі ў Кнізе Выхаду, разьдзел 19. Радзім самім прачытаць яго.

19-я КАТЭХЭЗА

# 19. Царскае сьвятарства выбранага народу.

Сказаў Бог Майсею: «Калі будзеце пільна слухаць мой голас і трымацца майго Запавету, будзеце маей асаблівай уласнасьцю з паміж усіх народаў, бо

да мяне належыць уся зямля. Але вы будзеце мне царствам сьвятароў і святым народам» (Вых. 19, 5-6).

Бог выбраў гэбрайскі народ і зьвязаў яго з сабою Дагаворам (Запаветам). Выбраны народ — «народ, які належыць да Бога» (Другазак. 7, 6), Бог зрабіў яго царствам сьвятароў і сьвятым народам, даручаючы яму сьвятарскае заданьне.

Толькі гэбрайскаму народу Бог аб'явіў сваё права і свае законы. «Які ж вялікі народ мае ўставы і загады так справядлівыя, як увесь гэты закон, які я вам даю сёньня» (Другазак. 4, 8). З Божае волі гэты народ павінен быў сьцерагчы Божае аб'яўленьне, ды быць ягоным сьведкам перад іншымі народамі. «Вы мае сьведкі і мае слугі» — казаў Бог гэбраям цераз прарока Ісаю. «Народ гэты, які я Сабе стварыў, будзе апавяшчаць маю славу» (Іс. 43, 10-21). Бог хацеў, каб гэбрайскі народ апавяшчаў аб вялікіх Божых падзеях, якія здарыліся ў ягонай гісторыі і каб такім спосабам паказваў іншым народам шлях да адзінага жывога Бога.

Ізраіліты — народ сьвятароў, павінны былі аддаваць пашану сапраўднаму Богу. Калі фараон не выпускаў гэбраяў з Егіпту, Майсей ад імя Бога сказаў яму: «Вось што кажа Ягвэ: маім старшым сынам ёсьць Ізраіль. Кажу табе: пазволь майму сыну выйсьці, каб ён мне служыў» (Вых. 4, 22-23). Гэты загад ён паўтараў некалькі разоў: «Пазволь выйсьці майму народу і наладзіць урачыстасьць у мой гонар на пустыні» (Вых. 5, 1). Бог жадаў, каб гэбрайскі народ яму служыў і прынасіў ахвяры.

Распаўсюджваньне Божай славы і прынашэньне ахвяраў сапраўднаму Богу — гэта сьвятыя дзеяньні. Гэбрайскі народ, выдзелены самым Богам спасярод іншых народаў і выбраны на ягоную вылучную ўласнасьць, быў сьвятым. Дзеля таго ён павінен быў вясьці сьвятое жыцьцё. «Сьвятымі будзьце, казаў да іх Бог, бо Я – Сьвяты, Ягвэ, Бог ваш» (Левіт. 19, 2). «Дык асьвяціцеся і будзьце сьвятымі, бо Я – Сьвяты, Я – Ягвэ, Бог ваш... аддзяліў вас ад іншых народаў, каб вы былі Маімі» (Левіт. 20, 7-26).

Даючы Ізраілю гэтак вялікае прызваньне, Бог хацеў, каб гэты народ прыняў яго дабравольна. Народ адказаў: «Зробім усё, што Ягвэ загадаў» (Вых. 19, 8).

Вызначаючы Ізраілю сьвятарскі абавязак, Бог хацеў, каб выбраны народ стаўся каранём, да якога можна было-б прышчапіць іншыя народы, каб іх ратаваць. А сьвятарства гэбрайскага народу было тыпам усеагульнага сьвятарства новага Божага народу (І Пятра 2, 1-10). Пачатак новаму Божаму народу, якім ёсьць мы — Царква, даў Найвышэйшы Сьвятар Ісус Хрыстос. У Ім новы Божы народ дасканалей чым даўней народ гэбрайскі сьцеражэ аб'яўленьне, распаўсюджвае Божую славу, прыносіць найсьвяцейшую ахвяру — Эўхарыстыю.

Гэты новы Божы народ, сьвяты ў сваім сьвятарскім царстве, павінен весьці сьвяцейшае жыцьцё.

**Наш адказ Богу:** Належу да сьвятарскага Божага народу. Хачу выпаўняць звязаныя з гэтым абавязкі.

**Прыклад малітвы:** Госпадзі, прыймі нас, што прыходзім да цябе ў пакоры і з раскаяным сэрцам, а нашая ахвяра няхай сёньня будзе так споўненай перад табою, каб яна спадабалася табе, Госпадзе Божа, і была табой прынята.

**Божае слова:** «Вы таксама як жывыя каменьні будзеце паложаныя ў пабудову, як духовая сьвятыня, як сьвятое сьвятарства, каб прыносіць духоўныя ахвяры, прыемныя Богу цераз Ісуса Хрыста. Бо гэтак ёсьць у Пісьме... вы – выбранае племя, царскае сьвятарства, сьвяты народ, людзі

набытыя, каб аб'вяшчаць даброты паклікаўшага вас з цемры ў цудоўнае Сваё сьвятло» (Пятра 2, 5-10).

«Таму, хто нас любіць і цераз сваю кроў увольніў нас ад нашых грахоў, ды зрабіў нас царамі і сьвятарамі, Богу Айцу свайму, слава і дзяржава на вечныя стагодзьдзі. Амін» (Адкр. 1, 5-6).

**Пытаньні да 19-ай катэхэзы:**

33) Чым зрабіў Бог выбраны народ?

**Адказ:** Бог зрабіў выбраны народ царствам сьвятароў і сьвятым народам.

34) Хто ёсьць сёньня царствам сьвятароў?

**Адказ:** Сёньня царствам сьвятароў ёсьць новы Божы народ — ЦАРКВА.

20-я КАТЭХЭЗА

# 20. Бог дае закон Запавету.

*Сказаў Госпад: Я – Ягвэ, твой Бог, які цябе вывеў з егіпецкае зямлі, з дому няволі.*

*Ня мей іншых багоў апрача Мяне.*

*Не ўжывай Божага імя без патрэбы.*

*Памятай каб сьвяткаваць сьвяты дзень.*

*Паважай свайго бацьку і сваю матку.*

*Не забівай.*

*Не чужалож.*

*Не крадзі.*

*Ня сьведч фальшыва на свайго бліжняга.*

*Не пажадай чужой жонкі.*

*Не пажадай нічога чужога.*

*(Кн. Вых. 20).*

Ствараючы чалавека Бог выпісаў у ягонай душы закон, які трэба выпаўняць, каб чалавек быў чалавекам (Рым. 2, 12-16). Ён завецца прыродным законам. Першародны грэх настолькі папсаваў чалавечую прыроду, што чалавек часта не зьвяртае належнае ўвагі на гэты закон. Тады ягонае жыцьцё становіцца нягодным чалавека. І так чалавек забываўся аб сапраўдным Богу ды кланяўся кумірам, якіх сам сабе выдумаў. Бліжнім сваім не хацеў даваць таго, што ім належыцца. Жыў ня розумам, а нахіламі ды пачуцьцямі, як неразумная жывёла.

Каб прывесьці людзей да супольнасьці з Сабой, Бог паслужыўся гэбрайскім народам. Заключыў з ім Запавет (Дагавор) і даў яму пісаны закон. Гэты закон у сутнасьці быў толькі пацьверджаньнем прыроднага закону і быў аб'вешчаны ў форме дзесяці загадаў, якія прынята называць Дэкалогам. Дапаўнялі яго законы, абымаўшыя абавязкі адносна Бога і бліжняга.

Закон Запавету даў Бог ня толькі для гэбраяў, але і для ўсіх людзей. Гэбраі забавязаліся выпаўняць закон, каб жывучы паводле яго быць прыкладам для іншых людзей. Цераз гэбраяў Бог узгадоўваў усіх людзей, каб жылі і дзейнічалі годна чалавека.

*

Закон Запавету прыгатаўляў да больш дасканалага закону. Аб гэтым гаварылі прарокі. Ісая пісаў пра «гару Господняга Дому», да якой накіруюць свае крокі ўсе народы і навучацца хадзіць «па шляхах і сьцежках» Божых (Іс. 2, 2-3). Таксама прадказвае, што прыйдзе калісь Слуга Божы, які абавязкова прынясе Закон (Іс. 42, 3).

Прарок Езэкііл у «Божым захапленьні» (Ез. 40, 2) апісвае новае Царства, якое калісь заіснуе на зямлі. Аб больш дасканалым законе, які будзе ня

столькі вонкавым, колькі ўнатраным, піша Ерэмія: «Гэтакі будзе Запавет, які заключу з Домам Ізраіля, калі надыйдуць тыя дні. Гаворыць Ягвэ: глыбока пасаджу ў іх мой закон, выпішу яго ім на сэрцах. І буду ім Богам, а яны будуць маім народам» (Ер. 31, 33).

Прароцтвы гэтыя споўніліся ў Ісусе Хрысьце, ад Якога пачаўся Новы Закон. Стары Закон Хрыстос не адкінуў, але пацьвердзіў і ўдасканаліў. Ён-жа сам сказаў: «Ня думайце, што я прыйшоў, каб скасаваць Закон або прарокаў; я прыйшоў не скасаваць, а выпаўніць» (Мац. 5, 17).

Калі Царква далучае чалавека да Божага народу Новага Запавету, яна задае пытаньні і дае наступныя адказы перад Хростам:

— Чаго жадаеш ад Божае Царквы?

— Веры.

— А што дасьць табе вера?

— Вечнае жыцьцё.

— Дык, калі хочаш атрымаць вечнае жыцьцё, выпаўняй запаветы.

**Наш адказ Богу:** Буду заўсёды выконваць Божы Закон.

**Прыклад малітвы:** «Усім сваім сэрцам шукаю я Цябе; ня дай мне адхіліцца ад загадаў Тваіх! У сэрцы маім хаваю я слова Тваё, каб не зграшыць прад Табою. Бласлаўляю Цябе, Госпадзе, навучы мяне Тваіх запаветаў!» (Пс. 119, 10-12).

**Божае слова:** «Бойся Бога, ды выпаўняй Ягоныя загады, бо ў гэтым цэлы чалавек» (Экл. 12, 13). Ісус сказаў юнаку: «Калі-ж хочаш увайсьці ў жыцьцё, выпаўняй прыказаньні. Той запытаў: якія? Ісус-жа сказаў: не забівай, не чужалож, не крадзі, ня сьведчы ілжыва; шануй бацьку і маці і любі бліжняга твайго, як самога сябе» (Мац. 19, 18-19).

**Пытаньні да 20-ай катэхэзы:**

35) Калі Бог даў Дзесяць Запаветаў (Прыказаньняў)?

**Адказ:** Бог даў Дзесяць Запаветаў, калі на Сынаі заключыў з гэбраямі Запавет (Дагавор).

36) Што пацьвярджаюць Божыя Запаветы?

**Адказ:** Божыя Запаветы пацьвярджаюць закон прыроды

37) Каго абавязваюць Божыя Запаветы?

**Адказ:** Божыя Запаветы абавязваюць усіх людзей усіх часаў.

21-я КАТЭХЭЗА

# 21. Закон Запавету. Адносіны чалавека да Бога.

У кнізе Другога Закону чытаем: «Слухай, Ізраіль, наш Бог ёсьць Ягвэ і толькі адзін Ягвэ. Любі свайго Бога Ягвэ ўсім сэрцам сваім, усёй душою сваёю, усёю сілаю сваёй. Хай гэтыя словы застануцца ў тваім сэрцы, словы, якія для цябе ёсьць загадам. Навучыш ім сваіх дзяцей, гавары пра іх у доме, у падарожжы, кладучыся спаць і ўстаючы з пасьцелі» (Другазак. 6, 4-7).

Абавязкі чалавека ў адносінах да Бога выявіў сам Бог у законе запавету на Сынаі, а прыпамінаў іх пасьля шмат разоў у розных часах праз выбраных людзей. Выводзяцца яны з галоўнага загаду любіць Бога (Другазак. 6, 5). Гэта – першы і найвялікшы загад. З любові да Бога вынікае ўсё тое, аб чым гавораць тры першыя загады Дэкалёгу.

Хто любіць Бога, той аддае Яму пашану як адзінаму сапраўднаму «Богу Абрагама, Богу Ісаака, Богу Якуба» (Вых. 3, 6). Стараецца Яго пазнаць (Мудр. 15, 3). Чым лепш хто пазнае Бога, тым больш Яго любіць, ёсьць Яму

паслушны ды праслаўляе Яго. Ён сьцеражэцца ўсяго, што ад Бога адводзіць і што памыкаецца заняць месца Бога ў душы чалавека.

Хто **любіць** Бога, той ня будзе без патрэбы ўжываць Божае імя Ягвэ (Другазак. 5, 11). Ён будзе прамаўляць гэтае імя з пашанай і толькі ў сапраўднай патрэбе.

Хто **любіць** Бога, той памятае пра загад: «Шэсьць дзён будзеш працаваць і выконваць усю сваю працу, а сёмы дзень— гэта адпачынак Твайго Госпада Ягвэ. Ня будзеш нічога рабіць...» (Другазак. 5, 13-14).

Чалавек найлепш выказвае сваю залежнасьць ад Бога цераз ахвяры: Прынясі Богу пахвальную ахвяру, малітвы свае дай Найвышэйшаму» (Пс. 49, 14). Хто любіць Бога, той дбае пра Ягоную сьвятыню і ахвотна яе адведвае і паўтарае з псальмістам: «Люблю, Госпадзе, дом, у якім Ты жывеш і месца, дзе перабывае Твая слава» (Пс. 25, 8).

Аднак Бог жадае, каб людзі аддавалі Яму пашану ня толькі словамі, але і ўчынкамі (Іс. 29, 13). «Сынок, дай мне сваё сэрца, хай твае вочы трымаюцца Маіх шляхоў» (Прып. 23, 26).

*****

Бог Запавету, Ягвэ, ёсьць і нашым Богам. Закон, які Ён даў, ёсьць і нашым законам. Хрыстос не прыйшоў скасаваць Закон або Прарокаў, але выпаўніць (Мац. 5, 17). Калі адзін з гэбрайскіх настаўнікаў запытаў у Яго: які загад ёсьць найбольшы ў Законе? Хрыстос адказаў: «Будзеш любіць Госпада Бога свайго ўсім сэрцам сваім, усёй душой сваёй і ўсім сваім розумам. Гэта – найвялікшы і першы загад» (Мац. 22, 35-38). Ісус Хрыстос загадаў нам любіць Бога так, як дзеці любяць бацьку, бо хрысьціянін цераз хрост ёсьць сынам Бога.

**Наш адказ Богу:** Пакажу, што люблю Бога, выконваючы Ягоныя загады.

**Прыклад малітвы:** “Каго-ж маю на небе? І на зямлі — акрамя Цябе — не жадаю нічога. Хаця-б зьнемагалі маё цела і сэрца, Бог скала майго сэрца і ўдзел мой на векі” (Пс. 72, 25-26).

**Божае слова:** «Як-жа прыемная сяліба Твая, о Госпадзе сілаў! Нудзілася душа мая і тужыла на панадворках Гасподніх: сэрца маё і цела маё весяляцца ў Богу жывым» (Пс. 83, 2-3). «Хто любіць бацьку або матку больш чым Мяне, той Мяне нявартьі. І хто больш любіць сына або дачку чым Мяне, той нявартьі Мяне» (Мац. 10, 37). «Бо тое ёсьць любоў да Бога, каб мы выпаўнялі Ягоныя загады; а загады Ягоныя ня цяжкія» (1 Ян 5,3).

**Пытаньне да 21-ай катэхэзы:**

38) Які першы і найвялікшы Божы загад?

**Адказ:** Першы і найвялікшы Божым загад: Будзеш любіць Госпада Бога свайго ўсім сэрцам сваім, усёю сваёю душою і ўсім сваім розумам.

22-я КАТЭХЭЗА

# 22. Закон Запавету. Адносіны чалавека да бліжніх.

*«Будзеш любіць бліжняга, як сябе самога» (Лев. 19, 18).*

Закон Запавету ахоплівае ня толькі загад любіць Бога, але таксама загад любіць бліжняга: «Не адмоў у дабры таму, хто мае да яго права, калі рука твая можа даваць. Не кажы бліжняму: ідзі сабе, прыйдзі пазьней, дам заўтра, — калі можаш даць цяпер. Не рабі змовы супраць бліжняга, калі ён жыве пры табе безтурботна» (Пр. 3, 27-29).

З бліжніх трэба любіць перадусім бацькоў. Трэба іх шанаваць. Стары Товія казаў свайму сыну: «Зрабі Мне прыгожыя паховіны. Шануй сваю маці і не

забывайся аб ёй пакуль яна будзе жыць. Рабі тое, што ёй можа спадабацца і не засмучай ейнае душы ані адным сваім учынкам. Прыпомні сабе сынок на колькі розных небясьпек наражалася яна дзеля цябе, калі насіла цябе ў сваім улоньні. А калі памрэ, пахавай яе побач са мной у той самай магіле» (Таб. 4, 3-4).

Таксама трэба любіць і **чужых** ды добра ім рабіць: «Ня будзеш крыўдзіць чужынцаў, бо ведаеце, якое жыцьцё чужынца, бо-ж і самі вы былі чужынцамі ў Егіпце» (Вых. 23, 9). Нікога нельга крыўдзіць: «Забярыце проч з Маіх вачей зло вашых праступкаў! Перастаньце рабіць зло! Вучыцеся рабіць дабро! Клапаціцеся пра справядлівасьць, памажыце прыгнечанаму, аддайце сіраце належнае, выступайце ў абароне ўдавы» (Іс. 1, 16-17). «Калі сустракаеш вала свайго ворага або заблудзіўшага ягонага асла, адвядзі іх да яго» (Вых. 23, 4). «Заробак якога-колечы чалавека, які ў цябе працаваў, не затрымлівай да заўтра, а выплачвай адразу» (Тав. 4, 14). «Дурны той, хто чужаложыць, бо на сваю згубу робіць ён гэта. Цялеснае пакараньне і сорам ён знойдзе, а ганьбы ніколі ня змые» (Прып. 6, 32-33). «Бо людзкія шляхі перад вачыма ў Ягвэ. Ён бачыць усе людзкія сьцежкі, калі грэшніка зло агартае, ды калі зьвяжуць яго путы ягонага граху. Памрэ ён з нястачы навукі ў множасьці шалу свайго заблудзіць» (Прып. 5, 21-23). У адносінах да ўсіх людзей прарок вучыць: «любіце праўду і згоду» (Зах. 8, 19).

Закон Запавету бярэ ў асаблівую абарону ўбогіх: «Калі пазычыш грошы ўбогаму з Майго народу, які жыве поруч з табою, дык ня будзь з ім як ліхвяр і не загадвай яму плаціць табе працэнты» (Вых. 22, 24). «Хто бліжнім пагарджае — той грашыць; шчасьлівы, хто ўбогаму спагадае» (Прып. 14, 21). «На колькі хопіць тваей маёмасьці, давай з яе міласьціну. Будзеш мець мала — давай менш, але не аднеківайся даваць міласьціну нават з невялікае маёмасьці» (Тав. 4, 8).

Як бачым, са сьвятых Кніг вынікае ясна, што Бог жадае, каб людзі любілі адны другіх.

*

Закон Запавету імкнецца да таго, каб між людзьмі заўладалі любоў і ўзаемная згода, ды каб не было самалюбства і нянавісьці. Гэты Закон абавязвае ўсіх людзей у кожным часе. Ісус Хрыстос пацьвердзіў гэты закон і паставіў яго побач закону любові Бога. Аб законе, які загадвае любіць Бога, Хрыстос сказаў: «Гэта – найвялікшы і першы загад». І тут-жа дадаў: «А другі падобны да яго: будзеш любіць свайго бліжняга, як сябе самога. На гэтых двух загадах абапіраецца ўвесь Закон і Прарокі» (Мац. 22, 33-40).

Такім чынам для нас, хрысьціян, любоў бліжняга ёсьць меркай любові Бога. Аб гэтым вучань Хрыстовы кажа: «Калі-б хто казаў: я люблю Бога, а брата ненавідзіў бы, той брахун; бо хто ня любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога ня бачыць? (І Ян 4, 20).

*

**Наш адказ Богу:** Буду як найлепш выпаўняць загад любові бліжняга.

**Прыклад малітвы:** «Цешуся я з Твайго слова, як той, хто прыдбаў велічэзную карысьць. Ненавіджу ілжу ды брыджуся ёю, а Закон Твой люблю» (Пс. 118, 162-163).

**Божае слова:** «Загад новы даю вам, каб вы адны другіх любілі; як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго. Па гэтым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце любіць адзін аднаго» (Ян 13, 34-35).

**Пытаньне да 22-ой катэхэзы:**

39) Які Божы загад у Законе Запавету любіць бліжняга?

**Адказ:** Бог загадаў у Законе Запавету: «Будзеш любіць бліжняга як сябе самога».

23-я КАТЭХЭЗА

# 23. Бог заўсёды са сваім народам.

*«Буду жыць сярод сыноў Ізраіля... І пазнаюць, што Я - Ягвэ ёсьць Богам, Які вывеў вас з зямлі егіпецкай і быў з вамі Я, ваш Бог Ягвэ» (Вых. 29, 45-46).*

У кнізе Быцьця ёсьць гутарка аб тым, як Бог стварыўшы першых людзей паказваўся ім і сябраваў з імі. Цераз перварродны грэх чалавек парваў лучнасьць з Богам. Але заключыўшы на Сынаі запавет Бог аб'явіў, што жадае заставацца са сваім народам. Гэта азначала, што Бог жадае даваць азнакі сваёй прысутнасьці, бо-ж Ён заўсёды прысутны на небе, на зямлі і на кожным месцы, хаця Яго ня можна бачыць вачамі, бо Ён ёсьць духам. Нашыя вочы могуць бачыць толькі матэрыяльныя рэчы.

Знакам Божае прысутнасьці для гэбрайскага народу была перш Скрыня (Каўчэг) Запавету, у якой перахоўваліся 10 Божых Прыказаньняў, выпісаных на каменных плітах (Вых. 25, 16). Скрыню Запавету Бог загадаў памясьціць у падарожнай сьвятыні, якую гэбраі пераносілі з аднаго месца на другое ў час свайго падарожжа з Егіпту да Зямлі Абяцанай. Гэбраі верылі, што калі Бог з імі, дык Ён апякуецца народам, асабліва, калі ім прыходзілася змагацца з ворагамі. Аднак здаралася, што Скрыня трапляла ў рукі ворогаў (І Сам. 5, 1-7). Тады гэбраі маглі пераканацца, што Бог і надалей імі апякуецца, хаця Скрыні між імі не было.

Цар Давід памясьціў ужо назаўсёды сьвятыню ў Ерусаліме, а ягоны сын, Саламон, пабудаваў першую сьвятыню з дрэва і каменьняў. У гэтай сьвятыні, таксама як перш у падарожнай, было месца «сьвятое» і аддзеленае ад яго «сьвятое сьвятых» або «найсьвяцейшае». Тут перахоўвалася Скрыня Запавету. Сьвятыня са Скрыняй у Ерусаліме была новым знакам Божае прысутнасьці ў сваім народзе: «Буду жыць сярод ізраілітаў і не пакіну свайго ізраільскага народу» (ІІІ Ц. 6, 13).

Саламонаву сьвятыню разбурыў вавілонскі цар. Загінула тады і Скрыня Запавету. Бог аднак не пакінуў свайго народу. Гэбраі зразумелі, што і бяз Скрыні Бог усё роўна з імі. Прарок Езэкііл запісаў: «Вось што кажа Госпад Ягвэ: Хаця Я і выгнаў іх у сьвет іншых народаў і расьцярушыў па землях, аднак праз нейкі час буду ім сьвятыняй на гэтых землях, дзе яны знайшліся» (Ез. 11. 16).

Вярнуўшыся з няволі гэбраі адбудавалі сьвятыню. Скрыні Запавета ўжо ў ёй не было і месца найсьвяцейшае было ўжо пустое. Бог Запавету, дапусьціўшы разбурэньне сьвятыні ды загубу Скрыні, цяпер навучаў народ свой праз прарокаў аб тым, што Ягоным домам і сьвятыняй ёсьць увесь выбраны народ. Гэты дом Бог абяцаў адчыніць для ўсіх людзей (Іс. 56. 5).

*

Хрыстос заключыў Новы Запавет паміж Богам і **новым** Божым народам. Стары Запавет уступіў сваё месца Новаму. Калі Хрыстос уміраў на крыжы, заслона ў сьвятыні «раздзерлася надвое ад верху да нізу», (Мац. 27, 51), «сьвятое сьвятых» перестала быць знакам Божае прысутнасьці. Ад таго часу Бог ёсьць у Хрыстовай Царкве, у Божым народзе Новага Запавету. Сьвятыя Тайны сталіся цяпер знакамі таго, што Бог жыве і дзейнічае ў нас. Асаблівым знакам гэтае Божае прысутнасьці ёсьць сьвятая Літургія або Эўхарыстычны сход веруючых. Прысутнасьць Бога ў Царкве сьведчыць, што Ён хоча заставацца з усімі людзьмі, каб іх ратаваць. «Каб урэчаісніць гэтак вялікае дзела, Хрыстос ёсьць заўсёды прысутны ў сваёй Царкве, асабліва ў

літургічных дзеяньнях. Ён прысутны ў Эўхарыстычнай ахвяры сьвятой Літургіі ... прысутны сваёй сілай у сьвятых Тайнах ... прысутны ў сваім слове ... прысутны тады, калі Царква моліцца і пяе...» (Канстытуцыя аб Літургіі, 7).

**Наш адказ Богу:** Хачу ўсьцяж лепш зразумець, што Бог застаецца з намі, з новым Божым народам.

**Прыклад малітвы:** Божа, Ты з жывых і выбраных каменьняў прыгатаўляеш Сваёй Велічы вечнае месца перабываньня, памажы Свайму народу, які пакорна Цябе просіць, каб рост будынкаў Тваёй Царквы павялічыў духоўны ўзрост вернікаў (З Літургіі на пасьвячэньне Царквы).

**Божае слова:** «Неба маім тронам і зямля ў мяне пад нагамі! Які-ж дом вы мне можаце паставіць і якое месца прыдбаць мне на жыльлё? Гэта-ж усё зрабіла мая рука і да мяне ўсё яно належыць!» (Іс. 66, 1-2). «Ці-ж вы ня ведаеце, што вы – сьвятыня Божая і што Дух Божы жыве ў вас?... Божая сьвятыня – сьвятая, а гэтая сьвятыня – вы» (I Кар. 3, 16-17).

**Пытаньні да 23-ай катэхэзы:**

40) Што было знакам асаблівай сувязі Бога з выбраным народам?

**Адказ:** Знакамі асаблівай сувязі Бога з выбраным народам былі Скрыня Запавету і Сьвятыня.

41) Як мы сустракаемся з Богам, прысутным у Царкве?

**Адказ:** З Богам, прысутным у Царкве, мы сустракаемся ў малітве Царквы, у Божым Слове, у Сьвятых Тайнах, а перадусім на Эўхарыстычным сходзе або зборы.

24-я КАТЭХЭЗА

# 24. Бог – Валадар і Бацька свайго народу.

Бог жаліўся на свой народ прароку Малахіі: *«Сын павінен шанаваць свайго бацьку, а слуга свайго спадара; дык калі Я – ваш бацька, дзе-ж Мая пашана? І калі Я – спадар, дзе-ж мая павага?» (Мал. 1, 6).*

Бог аб'явіў гэбрайскаму народу, што Ён ёсьць ягоным Госпадам і Бацькам. Цераз выбраных пасрэднікаў прыпамінаў яму, што Ён ёсьць таксама Валадаром гэтага народу, бо Ён яго стварыў: «Мы толькі гліна, а Ты наш ганчар. Усе мы – твор Тваіх рук» (Іс. 64, 8). Бог называе сябе спадаром Ізраіля, бо **выбраў** яго з паміж усіх народаў і выкарыстоўваў яго ў гісторыі збаўленьня. Вывеў яго з Егіпту, у дарозе карміў яго маннай і паіў вадой са скалы, ды прывёў яго ў Абяцаную Зямлю: «Я – Ягвэ, Які вывеў вас з егіпецкай зямлі, каб быць вашым Богам» (Лев. 11, 45). Бог кіраваў падзеямі Ізраіля, пасылаў яму правадыроў і прарокаў. Надзяліў свой народ усялякім багацьцем: «На вяршыну зямлі вывеў яго, каб жыў ён пладамі поля, каб смактаў мёд са скалы, ды аліву з найцьвярдзейшага каменьня» (Прып. 32, 13). Калі гэбраі змагаліся, Бог даваў ім перамогу. «Ня бойцеся!... Ягвэ будзе змагацца за вас, а вы будзеце спакойныя (Вых. 14, 13-14). Гэтак заахвочваў Майсей гэбраяў.

«Горы акружаюць Ерусалім — гэтак Госпад акружае народ свой цяпер і на векі» (Пс. 125, 2).

Аднак гэбраі іншы раз забываліся пра свайго Госпада і не трымаліся Ягонага Закону. Тады паўставалі прарокі і перасьцерагалі іх: «Чаму парушаеце загады Ягвэ? Таму вам і не шанцуе! Таму што вы пакінулі Ягвэ, дык і Ён вас пакінуў» (2 Хрон. 24, 20). Бог сапраўды ў такіх выпадках быў суровы, «пакідаў» свой народ, дапускаючы на яго розныя няшчасьці, як няволю ці разбурэньне Ерусаліму. Гэтак Ён дзейнічаў, каб прывесьці выбраны народ на шлях выпаўненьня Божых загадаў.

Бог, калі вёў гэбрайскі народ цераз розныя цяжкасьці і цярпеньні, аднак заўсёды заставаўся для яго бацькам. Калі зажадаў, каб фараон выпусьціў гэбраяў з Егіпту, назваў народ гэты сынам (Вых. 4, 22-23). Вёў яго, як бацька свайго сына, цераз пустыню (Другазак. 3. 1, 31). Калі гэбраі зграшылі, Майсей казаў ім: «Дык вось гэтак хочаш адплаціцца свайму Ягвэ, дурны і неразумны народзе? Ці-ж ня Ён – твой Бацька і твой Стварыцель? Гэта-ж Ён цябе стварыў і даў табе моц існаваньня?» (Другазак. 3. 32, 6). Цераз прарокаў Бог пагражаў гэбраям, як бацька няверным сынам: «Гора збунтаваным сынам!» (Іс. 30, 1). Але адначасна прымаў іхнія просьбы ды і зноў дапускаў да сваёй любові (Іс. 43, 1-7; Ер. 31, 8-10. 20). Асабліва ставаўся бацькам для справядлівых і прасьледаваных (Пс. 67).

Аб'яўляючы Сябе Госпадам і Бацькам Ізраіля, гэтым самым Бог вучыў, што Ён – Госпад і Бацька ўсіх народаў: «Госпад для ўсіх добры і для ўсіх Сваіх стварэньняў міласэрны» (Пс. 144, 9).

Гісторыя выбранага народу – знак і прыклад таго, як Бог уваходзіць у жыцьцё паасобных людзей і народаў. Сёньня таксама Бог, як Госпад і Бацька, кіруе ўсімі. Кіруючы выбраным народам, Ён вёў усё чалавецтва да выратаваньня ў Ісусе Хрысьце. Сёньня Ён вядзе людзей да выратаваньня цераз Хрыстовую Царкву. Ён кіруе Ёю таксама як даўней выбраным народам. У Царкве Ён пакінуў надпрыродныя Дары — Божае слова і Тайны (Сакраменты). Дапускае і цярпеньні, бо цераз іх Царква асягае канчатковую перамогу (Ян 16, 33).

**Наш адказ Богу:** Бог ёсьць маім Госпадам — буду Яму паслушны. Ён мой Бацька — даверуся Яму, хаця-б мне прышлося пераносіць найвялікшыя цяжкасьці.

**Прыклад малітвы:** «Алілуя! Хваліце Госпада ўсе народы, слаўце Яго ўсе людзі! Бо вялікая ласка Яго над намі, і праўда Яго будзе трываць навекі! Алілуя!» (Пс. 116).

**Божае слова:** «Я – Ягвэ, што вас асьвяціў» (Вых. 31, 13). «Тады пераканаешся, што Я – Ягвэ; хто на мяне спадзяецца, ня будзе пасаромлены» (Іс. 49, 23). «І пазнаеш, што Я – Ягвэ, твой Збаўца і Ўсемагутны Якубаў — твой Адкупіцель» (Іс. 60, 16). «Ён будзе клікаць да мяне: Ты – мой Айцец, мой Бог і скала майго збаўленьня. А Я яго зраблю першаком (першанцам), найвышэйшым паміж валадарамі зямлі» (Пс. 88, 27-28). «Бо для Ізраіля Я – Бацька» (Ер. 31, 9).

**Пытаньні да 24-ай катэхэзы:**

42) Дзеля якой мэты Бог выбраў гэбрайскі народ і кіраваў ім?

**Адказ:** Бог выбраў гэбрайскі народ і кіраваў ім дзеля той мэты, каб ён стаўся знакам і прыкладам таго, што Бог - Госпад і Бацька ўсіх людзей і хоча іх ратаваць.

43) Як Бог вядзе сёньня новы Божы народ — Царкву да збаўленьня?

**Адказ:** Бог вядзе сёньня да збаўленьня Царкву — новы Божы народ, цераз Божае Слова і Тайны, а таксама цераз цярпеньні і змаганьні.

25-я КАТЭХЭЗА

# 25. Бог справядліва кіруе сваім народам

*Госпад існуе навекі; Ён паставіў пасад Свой, каб чыніць суд і будзе судзіць увесь сьвет па праўдзе і чыніць суд над народамі паводле справядлівасьці* (Пс. 9, 8-9).

Кнігі Старога Запавету паказваюць нам Бога добрага і поўнага любові. Аднак Кніга Быцьця апавядае, як першых людзей спаткала Божая кара за непаслухмянасьць, а Кніга Выхаду апісвае, якія кары пасыпаліся на фараона

і егіпцянаў, калі яны супрацівіліся Божым загадам. Сьвятыя Кнігі гавораць таксама часта аб карах, якія атрымоўваў нават выбраны народ, калі той не хацеў паслухаць голасу Свайго Госпада і Бацькі (Вых. 32, 28). Бо Бог любіць толькі тое, што добрае ды справядлівае, а ня можа любіць таго, што дрэннае і несправядлівае. За паслухмянасьць Сваім загадам Бог абяцае ўзнагароду (Пс. І, 6).

Гэбрайскі народ верыў, што Бог за добрыя ўчынкі ўзнагароджвае, а за дрэнныя карае, ужо тут на зямлі: «Справядлівы Ты ва ўсім, што нас спаткала, бо Ты ўчыніў так, як трэба дзеля таго, што мы правініліся» (Неем. 9, 33). Прарокі навучалі, што гэбрайскі народ страціў свабоду і быў узяты ў няволю, а сьвятыня разбураная, а гэта таму, бо ён адступіў ад свайго Госпада (Ер. 25, 8-11).

Гэбраі думалі, што хваробы і няшчасьці ёсьць карай за грахі, а здароўе, багацьці ды памыснасьць — узнагародай за добрасумленнае жыцьцё. Будучы аднак у няволі маглі ўпэўніцца, што добрыя і сумленныя таксама церпяць, а благім і круцялям шанцуе часамі нават лепш. Дык прарокі тлумачылі, што Бог – цярплівы; што кара не адразу навальваецца на грэшніка, а добры не адразу атрымлівае ўзнагароду. Яны вучылі, што толькі тады, калі настане «Гасподні Дзень», Бог узнагародзіць належна добрае і справядлівае жыцьцё, а ліхія атрымаюць заслужаную кару (Ян. 1, 1-15: Ез. 30. 3: Іс. 13, 6).

*

У Новым Запавеце Ян Хрысьціцель навучае, што «Гасподні Дзень» ужо блізка. Паказвае на Хрыста, Які надыходзіць і Які будзе судзіць справядліва: «Ён мае ў руцэ веялку і ачысьціць Свой умалот: пшаніцу зьбярэ ў сьвіран, а мякіну спаліць агнём неўгасаючым» (Мац. 3, 12).

І сапраўды Ісус Хрыстос навучаў людзей аб Богу справядлівым, Якога трэба слухаць. Ён вучыў, што «Айцец ня судзіць нікога, але ўвесь суд перадаў Сыну» (Ян. 5, 22). Жывучы на зямлі Хрыстос не судзіў, але шмат разоў прыпамінаў, што прыйдзе на зямлю другі раз, каб судзіць, узнагароджваць і караць: «За кожнае непатрэбнае слова, якое вымавяць людзі, дадуць адказ у дзень суду» (Мац. 12, 36). «Бо Сын Чалавечы прыйдзе ў славе Свайго Айца разам са Сваімі Ангеламі і тады аддасьць кожнаму паводле ягоных учынкаў» (Мац. 16. 27). Дзень Свайго прыходу Хрыстос назваў «апошнім днём» (Ян. 6, 54; 11, 24).

**Наш адказ Богу:** Веру, што Бог справядлівы нават тады, калі дапускае на мяне цярпеньне.

**Прыклад малітвы:** «Ён мне даў узнагароду за маю справядлівасьць, за чыстасьць рук маіх мне адудзячыўся. Бо трымаўся я шляху Гасподняга ды не грашыў супраць майго Бога; бо ўсе Ягоныя загады былі перада мною і ад Ягонае волі я не ўхіляўся. Я быў шчыры перад Ім і высьцерагаўся, каб не зграшыць. Дык адудзячыўся мне Госпад за маю справядлівасьць, за чыстасьць маіх рук перад Ягонымі вачыма» (Пс. 17, 21-25).

**Божае слова:** «Шчасьлівы чалавек, што не ідзе за радай грэшнікаў і мінае іхні шлях і паміж насьмешнікаў не засядае, але знаходзіць любоў у Законе Госпада і аб Ягоным Законе разважае ўдзень і ўначы. Той быццам пасаджанае ля патоку воднага дрэва, што плод дае ў сваім часе, а ягонае лісьцё ня вяне, і ўсё, што ён робіць, яму ўдаецца. Ня гэтак бязбожныя: яны падобныя да мякіны, што вецер разносіць. Ды не ўстаяць бязбожныя на судзе, ані грэшнікі на зборы справядлівых» (Пс. 1, 1-5).

«Мы ведаем Таго, Хто сказаў: Мне помста, Я аддам — кажа Госпад. І ізноў: Госпад будзе судзіць Свой народ. Страшна папасьці ў рукі жывога Бога» (Гэбр. 10, 30-31).

**Пытаньні да 25-ай катэхэзы:**

44) Чаму мы кажам, што Бог – справядлівы?

**Адказ:** Мы кажам, што Бог – справядлівы, бо Ён любіць дабро і ня можа любіць зла.

45) Калі Божая справядлівасьць выявіцца поўнасьцю?

**Адказ:** Божая справядлівасьць выявіцца поўнасьцю толькі ў Апошні Дзень.

26-я КАТЭХЭЗА

# 26. Бог спаўняе Свае абяцаньні і аказвае міласэрнасьць

«Міласэрны Госпад і добры, да гневу няхуткі і шчодры ласкай. Як літуецца бацька над дзецьмі, так Госпад літуецца над тымі, што баяцца Яго. Але ласка Гасподняя ахінае ўсьцяж тых, што баяцца Яго, і справядлівасьць Ягоная над сынамі сыноў тых, што сьцярагуць Ягоны запавет ды памятуюць пра Ягоны закон, каб спаўняць яго» (Пс. 102, 8. 13. 17-18).

* * *

Бог аб'явіўся свайму народу ня толькі як справядлівы Судзьдзя, але таксама як Госпад цярплівы і вялікай міласэрнасьці. Майсей называе Яго Богам «міласэрным і літасьцівым, багатым на прыхільнасьць і вернасьць» (Вых. 34, 6).

У час розных бедаў і няшчасьцяў, асабліва ў час бабілёнскае няволі, прарокі прыпаміналі гэбрайскаму народу, што Бог – міласэрны: «Ці-ж можа жанчына забыцца аб сваім дзіцяці? Маці, якая любіць свайго сына? Але, калі-б і яны забыліся, Я не забуду цябе! Вось Я выпісаў цябе на абедзьвух далонях!» (Іс. 49, 15-16).

Гэбраям, якія жаліліся на свае цярпеньні, прарокі тлумачылі, што Бог раніць, але адначасна і лечыць: «Хадзеце, вернемся да Ягвэ! Ён нас параніў, Ён і вылячыць, гэта Ён нас пабіў, Ён і раны абвяжа» (Оз. 6, 1).

Прарокі вучылі таксама, што Бог хоча, каб грэшныя людзі навярнуліся: «Я не хачу сьмерці грэшніка, але толькі таго, каб бязбожнік перамяніў сваё жыцьцё і пачаў жыць, як трэба. Пакіньце, пакіньце вашыя дрэнныя ўчынкі! Чаму гэта вам захацелася згінуць, Ізраільцяне?» (Ез. 33, 11).

Прарокі суцяшаюць, што Бог выбачае грэшнікам, якія папраўляюцца: «Хай бязбожнік пакіне свой шлях і несправядлівы чалавек – свае інтрыгі. Няхай зьвернецца да Ягвэ, а Той зжаліцца над ім, і да нашага Бога няхай зьвернецца, бо вельмі ахвотна Ён прабачае» (Іс. 55, 7). Яны кажуць таксама, што калі Бог раз адпусьціць грахі, ужо больш аб іх не ўспамінае і не карае за іх: «Які-ж Бог ёсьць да Цябе падобны, што адкідаеш несправядлівасьць, выбачаеш праступак астатку Тваей спадчыны? Ён не трывае ў гневе на заўсёды, бо спадабалася Яму выявіць міласэрнасьць. Мей літасьць ізноў над намі, зьнішчы нашыя даўгі ды кінь у глыбіню мора ўсе нашыя грахі» (Міх. 7, 18-19).

«На кароткую хвіліну я пакінуў цябе, але прыгарну цябе з вялікай любоўю. У ярасным гневе Я схаваў Мой твар на кароткі час, але любоўю вечнай я зьлітаваўся над табою, кажа Ягвэ, Твой Адкупіцель» (Іс. 54, 7-8).

І ўрэшце прарокі вучаць, што Бог пакажа веліч Сваёй міласэрнасьці ў тым, што збавіць усіх людзей. Тады споўняцца абяцаньні, якія Ён даў выбранаму народу на карысьць усіх народаў. Аб гэтым кажа Ісая: «Ці ж ня ёсьць Ягвэ, ды няма іншага бога, акрамя Мяне? Паза Мною няма Бога справядлівага і які мог-бы збавіць. Навярнецеся да Мяне, каб быць збаўленымі, усе канцы

сьвету, бо Я – Бог і ніхто іншы ім ня ёсьць! Прысягаю на Сябе Самога, што з Маіх вуснаў выходзіць справядлівасьць, безпаваротнае слова» (Іс. 45, 21-23).

* * *

Толькі ў Ісусе Хрысьце выпаўнілася Божая міласэрнасьць. За гэта дзякуе Марыя, Маці Хрыста, якую Царква ў лацінскім абрадзе называе «Маткай Міласэрнасьці»: «Узьвялічвае душа мая Госпада, і ўзрадаваўся дух мой у Богу Збаўцы маім ... бо Ўсемагутны ... прыняў Ізраіля, Свайго слугу, успомніўшы міласэрнасьць Сваю, як гаварыў аб гэтым да айцоў нашых, да Абрагама і ягонага патомства давеку» (Лук. 1, 46-55).

Гэтая міласэрнасьць трывае і далей у Хрыстовай Царкве: «Блаславёны Айцец Госпада нашага Ісуса Хрыста. Ён праз вялікую сваю ласку адрадзіў нас уваскрасеньнем Ісуса Хрыста з мёртвых дзеля жывое надзеі, дзеля незьнішчальнай спадчыны, без заганы, што не завяне і захавана для вас на нябёсах» (І П. 1, 3-4).

**Наш адказ Богу:** Навярнуся і буду мець надзею ў Божай міласэрнасьці!

**Прыклад малітвы:** «Блаславі, душа мая, Госпада і ўсё нутро маё імя сьвятое Яго! Блаславі, душа мая, Госпада і не забывайся аб тым, што Ён табе зрабіў! Ён дароўвае табе ўсе твае грахі, Ён вылечвае ўсялякую тваю немач, Ён ратуе ад магілы тваё жыцьцё, Ён ласкай і міласэрнасьцю вянчае цябе, Ён тваё жыцьцё сыціць дабром» (Пс. 102, 1-5).

**Божае слова:** «Кажа Ягвэ: калі грахі вашыя будуць як пурпур, як сьнег выбелюцца; калі будуць чырвоныя як пурпурны матэрыял, стануцца белыя як воўна» (Іс. 1, 18). «Госпад не марудзіць з выкананьнем таго, што абяцаў, — бо некаторыя думаюць, што Госпад марудзіць, але Ён з Вамі цярплівы, бо ня хоча згубы некаторых з вас, але давесьці ўсіх да пакаяньня» (2 Пятра 3, 9). «Верны Той, што вас паклікаў; Ён і зробіць» (І Тэс. 5, 24).

**Пытаньні да 26-е катэхэзы:**

46) У чым найвыразьней паказваецца Божая міласэрнасьць?

**Адказ:** Божая міласэрнасьць найвыразьней паказваецца ў тым, што Бог хоча збавіць усіх людзей.

47) У кім Бог выявіў паўнату Сваёй міласэрнасьці?

**Адказ:** Бог выявіў паўнату Сваёй міласэрнасьці ў Ісусе Хрысьце.

48) У чым праяўляецца вернасьць Божая?

**Адказ:** Божая вернасьць праяўляецца ў тым, што Бог спаўняе ўсё, што абяцаў.

27-я КАТЭХЭЗА

# 27. Бог ёсьць толькі адзін

Бог аб'явіўся ў гісторыі выбранага народа як адзіны Бог. Абавязкам гэбрайскага народа было ўтрымаць і пераказаць веру ў аднаго Бога. Аднак гэбраі мусілі жыць у суседзтве з паганскімі народамі. Таму няраз падпадалі пад іхні ўплыў і кланяліся паганскім багам, замест сапраўднага Бога. Аб гэтым можна прачытаць напрыклад у Кнізе Судзьдзяў (10, 6) або ў Чацьвёртай Кнізе Царстваў (21, 11). Тады ў абароне веры ў аднаго Бога выступалі прарокі: «Я – Ягвэ, і няма іншага. Я ствараю сьвятло і ствараю цемру» (Іс. 45, 7).

«Як сароміцца злодзей, калі яго зловяць, так сароміцца Ізраілеў дом; яны — цары іхнія ды саноўнікі, іхнія сьвятары і прарокі, калі кажуць зьвяртаючыся да дрэва: “Ты мой бацька”, а да скалы: “Ты мяне радзіла”. Гэтак адварочваюцца сьпіной да мяне, замест таго, каб тварам, але, калі пападуць у няволю, дык тады крычаць: “Устань, ратуй!”. Дзе ж твае багі, якіх

ты сабе нарыхтаваў? Няхай-жа ўстануць, калі здолеюць цябе выратаваць» (Ер. 2, 26-28).

Адзіны Бог аб'яўляўся ў гісторыі выбранага народу ня толькі як ягоны Бог, але таксама як Бог усіх народаў. Прарокі вучылі, што Ягвэ даў Дэкалог для ўсіх людзей і вымагае справядлівасьці ад усіх народаў. Таму Бог карае за праступкі ня толькі гэбраяў, але таксама і іншыя народы (Амос 1, 3-5). Бог апякуецца таксама іншымі народамі: «Ці-ж Ізраіля ня вывеў Я з егіпецкае зямлі, як Філістынаў з Кафтор, а Арамэйцаў з Кір?» (Амос 9, 7).

Бог паслугоўваецца іншымі народамі, каб памагчы гэбраям (Іс. 41, 1-5), а таксама каб іх пакараць (Іс. 10, 10). Гэтак Бог паказвае, што Ён – Валадар народаў, усіх без вынятку.

Гэбраі пераказвалі гэтаксама веру ў аднаго Бога, як адзінага Валадара ўсяго стварэньня. У Сьвятым Пісьме яны перахавалі паэму аб стварэньні сьвету. У Псальмах і іншых кнігах натхнёныя аўтары ўсьцяж прыпаміналі, што Бог ёсьць Стварыцелем і Валадаром усяго. Пераказвалі веру ў Бога, Які ёсьць вечны, Які ёсьць заўсёды: «Перш чым нарадзіліся горы, чым паўсталі зямля ды сусьвет, Ты, Божа, ёсьць спрадвеку і трываеш на векі вечныя» (Пс. 89, 2). «Аднак Ты, Ягвэ, трываеш на векі. Твой пасад цераз усе пакаленьні» (Тр. 5, 19).

Гэбраі верылі таксама, што Бог – *нязьменны* або *сталы*. «Ты заснаваў на пачатку зямлю і неба – твор Тваіх рук. Яны загінуць, а Ты астанешся. І ўсё як вопратка састарэе: Ты зносіш іх як адзеньне і яны зьменяцца. А Ты заўсёды Той самы і годы Твае ня будуць мець канца» (Пс. 101, 26-28).

Гэтак вось адзіны, вечны і нязьменны Бог аб'яўляўся цераз гэбраяў як Бог выбранага народу, як Бог усіх людзей і як Бог усяго сьвету.

*

Адзіны Бог жадае, каб усе прызналі Яго за Госпада і Айца, ды цераз гэта сталіся адною сям'ёю. Прарокі прадказалі, што станецца гэта ў новым Ізраілю, якім ёсьць Царква і яна абвяшчае ўсім народам веру ў аднаго, вечнага і нязьменнага Бога.

Царква шануе перакананьні гэбраяў, магамэтанаў, а нават тых, што «шукаюць няведамага Бога навобмацак і сярод цялесных уяўленьняў», як кажа II Ватыканскі Сабор у Канстытуцыі аб Царкве (нр. 16). Аднак яна жадае злучыць усіх у сапраўднай веры.

**Наш адказ Богу:** Буду маліцца за тое, каб усе людзі прызналі Бога за свайго Госпада і Айца, ды, каб выяўлялі Яму належную пашану.

**Прыклад малітвы:** «Сьпявайце Госпаду новую песьню, сьпявай Госпаду, усенька зямля! Сьпявайце Госпаду, бласлаўляйце Ягонае Імя! З дня на дзень абвяшчайце Ягонае выратаваньне! Апавядайце між паганамі Ягоную славу, між усімі народамі Ягоныя цуды» (Пс. 95, 1-3).

**Божае слова:** «Жыцьцё-ж вечнае ў тым, каб пазналі Цябе, адзінага праўдзівага Бога» (Ян 17, 3). «Айца сьветласьцяў, у Якога няма адмены ані зьменнасьці» (Як. 1, 17).

**Пытаньні да 27-е катэхэзы:**

49) Чаму мы кажам: Бог – вечны?

**Адказ:** Мы кажам: Бог – вечны, бо Ён заўсёды ёсьць.

50) Чаму мы кажам: Бог – нязьменны?

**Адказ:** Мы кажам: Бог – нязьменны, бо Ён заўсёды той самы — учора, сёньня і на векі.

28-я КАТЭХЭЗА

## 28. Бог ёсьць духам

Кнігі Старога Запавету апісваюць, як Бог гутарыць з першымі людзьмі — з Абрагамам. Майсеем, Давідам. У Сьвятым Пісьме мы знаходзім таксама выказваньні, з якіх можна было-б зрабіць памылковы выснаў, што Бог, як і чалавек, мае рукі, ногі, вочы. Напрыклад мы чытаем: «Гляджу на Тваё неба — твор Тваіх пальцаў» (Пс. 8, 4). Або: «Глянуў Госпад з неба на сыноў чалавечых» (Пс. 13, 2). Сьвятое Пісьмо таксама часта кажа, што Бог гневаецца, цешыцца, выбачае. Словам дзейнічае так, быццам сам быў-бы чалавекам. Аднак гэта зусім ня значыць, што Бог дзейнічае як чалавек. Аўтары Сьвятых Кніг жадаюць толькі паказаць, што Бог жывы і Ён таксама дзейнічае, хаця зусім інакш, па Свойму. Гэта толькі наша чалавечая мова зусім па-людзку выказвае дзейнасьць Божую славамі: глядзіць, чуе, гаворыць, гневаецца, выбачае і гэтак далей. Усякае параўнаньне Бога да чалавека ці да іншых стварэньняў, напрыклад такіх як агонь, бура, гром і інш., недакладнае і не паказвае, кім ёсьць Бог. Таму Права Запавету выразна забараняла гэбраям жывапісам або разьбой — няхай-сабе толькі сымбалічна — выяўляць Бога: «Ня будзеш мець іншых багоў апрача Мяне! Ня будзеш рабіць сабе фігуры ані іншага якога абраза... Ня будзеш аддаваць ім пашаны ані служыць ім, бо толькі Я, Ягвэ, – твой Бог» (Вых. 20, 3-5). Аб гэтым усьцяж прыпаміналі пракокі (Ер. 2, 26-28).

Бог займаўся выбраным народам, вёў Яго ў Абяцаную Зямлю. Знакам Божае прысутнасьці была Скрыня Запавету і сьвятыня. Аднак сьвятыя Кнігі вучаць, што Бог дзейнічае і навонкі Скрыні. Таму Давід, уцякаючы з Ерусаліму, не забраў з сабою Скрыні (2 Сам. 15, 25-27), бо ведаў, што Бог прысутнічае ня толькі ў сьвятыні. Таму прарок Ерэмія прадказваючы разбурэньне сьвятыні тлумачыць, што Бог у іншым месцы будзе атрымліваць пашану (Ер. 7, 12-14). Кніга Другога Закону кажа: «З дому Свайго сьвятога, з неба глянь і блаславі Ізраіля, Свой народ, так як і зямлю — краіну, у якой плывуць малако і мёд — якую Ты нам даў» (Другазак., 26, 15).

З гэтага бачым, што Бог ёсьць і ў небе. Гэтак гэбраі маглі даведацца, што Бог усюды (Пс. 138, 7-12).

Псалом 138 кажа, што Бог усё ведае. Аб гэтым таксама вучыць Кніга Ісуса сына Сіраха: «Ён пазнаў бездані і сэрцы людзкія і ведае ўсе іхнія інтрыгі, бо Найвышэйшы мае ўсю веду, ды прадбачыць найдалейшую будучыню. Аб'яўляе тое, што мінула і тое, што станецца, ды адкрывае сьляды рэчаў закрытых. Аніводная думка ня будзе Ім незаўважана і не схаваецца ад Яго аніякае слова» (Сір. 42, 18-20).

*

Бог, Якому кланяліся Абрагам, Ісаак і ўсе патомкі Ізраіля, прысутны ўсюды, дзейнічае ўсюды, усё ведае. Значыцца Ён ёсьць *Духам.* «Неба і найвышэйшыя нябёсы ня могуць Цябе агарнуць» (3 Цар. 8, 27).

Бог Ізраільцянаў ёсьць і нашым Богам. Многа расказаў нам пра Яго Ягоны Сын Ісус Хрыстос (Ян. 4, 24).

**Наш адказ Богу:** Буду помніць, што дзе я, там і Бог са мною.

**Прыклад малітвы:** «Госпадзе, Ты мяне выпрабаваў і Ты мяне ведаеш! Ты ведаеш, калі я сядаю і калі ўстаю; Ты здалёк разумееш думкі мае. Ці я хаджу, ці ляжу, Ты пры мне, усе шляхі мае Табе ведамыя. Бо не ўзышло яшчэ слова на мой язык, а Ты, Госпадзе, ужо ўсё добра ведаеш. Ззаду і сьпераду абняў Ты мяне і Тваю руку на мяне палажыў. Надта дзіўнае веданьне, надта высока для мяне, не магу яго сьцяміць! Куды мне ісьці ад Твайго духа ды куды ўцячы ад Твайго аблічча? Калі-б я на неба ўзыйшоў, Ты там; калі-б ложам пекла зрабіў, Ты і там! Калі-б крылле ў сьвітаньня я ўзяў і на самым канцы мора асеў, Твая рука і там вадзіла-б мяне, а правіца Твая трымала-б мяне» (Пс. 138, 1-10).

**Божае слова:** «Паганскія бажкі — срэбра ды золата, творы чалавечых рук. Маюць вусны, ды не гаворацць; маюць вочы, ды ня бачаць; маюць вушы і ня чуюць, маюць ноздры ды бяз нюху; іхнія рукі бяз дотыку; ногі ў іх, ды ня ходзяць; а з горла іхняга не пачуеш голасу» (Пс. 114, 4-7). «Бог – Дух» (Ян. 4, 24). «Ён і недалёка ад кожнага з нас: бо ў Ім мы жывем і варушымся ды існуем, як і некаторыя з вашых паэтаў сказалі: «Мы бо з Ягонага роду». Дык мы, як Божы род, не павінны думаць, быццам Боства падобнае да золата ці серабра або каменнай фігуры, выразанай здольнасьцю і чалавечай выдумкай» (Дз. 17, 27-29). «Няма стварэньня, укрытага ад Яго, але ўсё голае і адкрыта перад Ягонымі вачыма...» (Гэбр. 4, 13). Бог большы ад нашага сэрца і ўсё ведае» (I Ян 3, 20).

**Пытаньні да 28-ай катэхэзы:**

51) Чаму мы кажам, што Бог ёсьць Духам?

**Адказ:** Мы кажам, што Бог ёсьць Духам, бо Сьвятое Пісьмо вучыць, што Бог – усюды прысутны, усё ведае ды ўсюды дзейнічае.

52) Чаму мы кажам, што Бог – усюды прысутны?

**Адказ:** Мы кажам, што Бог – усюды прысутны, бо Ён ёсьць у небе, на зямлі і на кожным месцы.

53) Чаму мы кажам: Бог усё ведае?

**Адказ:** Мы кажам: Бог усё ведае, бо Ён ведае, што было (мінулае), што ёсьць (сучаснае) і што будзе (будучыня). Бог таксама знае нашыя найбольш скрытыя думкі.

29-я КАТЭХЭЗА

## 29. Бог ёсьць сьвяты

Бог аб'явіў, што Ен – усемагутны, наймудрэйшы, найсправядліўшы, найміласэрнейшы, найвярнейшы, вечны. Усе гэтыя ўласьцівасьці Бога Сьвятое Пісьмо абазначае адным словам «Сьвяты». Яно называе Бога: «Сьвяты Ізраіля» (Пс. 71, 22; Іс. 5, 24), а гэтую сьвятасьць называе яшчэ «Славай» або «Вялікасьцю» Бога. Мы аднак нічога ня ведалі-б пра Божую сьвятасьць, каб сам Бог не аб'явіў яе ў гісторыі выбранага народу.

Бог аб'яўляў Сваю славу і сьвятасьць або найвышэйшую вялікасьць у незвычайных і магутных дзеяньнях. Ён сам сказаў Майсею, што вызвалены з Егіпту Ізраіль «бачыў Маю славу і цуды, якія Я рабіў у Егіпце» (Ліч. 14, 22). Гэта былі: выхад з Егіпту, пераход праз Чырвонае Мора, кармленьне маннай (Вых. 14, 18; 16, 7). Божую апеку над гэбрайскай зямлёй Ісая называе «славай Ягвэ і вялікапышнасьцю нашага Бога» (Іс. 35, 2), а ў Псалме прарок кажа, што Божая слава аб'явіцца, калі Госпад адбудуе Сыён (Пс. 102, 17).

У Сьвятым Пісьме чытаем, што на Сынаі Бог паказаў Сваю моц у громе, хмарах і бліскавіцах (Вых. 19, 16). «А калі Майсей узышоў на гару, хмара яе закрыла. Слава Ягвэ зышла на гару Сынай» (Вых. 24, 15). Гэтаксама слава Госпада праяўлялася ў незвычайных знаках. Яна раз'ясьняла Майсеевы твар. «Калі Майсей зыходзіў з гары Сынай з дзьвюма каменнымі табліцамі пасьведчаньня ў руках, ён ня ведаў, што ягоны твар высылае праменьні таму, што ён гутарыў з Ягвэ» (Вых. 34, 29).

Слава Божая пакрыла і асьвяціла Сьвятыню (Вых. 29, 43). Калі Саламон збудаваў сьвятыню і перанясьлі ў яе нутро Скрыню Запавету, паказаўся туман напаўняючы сьвятыню Бога» (3 Цар. 8, 10).

Сьвятасьць і вялікасьць Бога аб'яўляліся таксама ў абрадах устаноўленых Законам Запавету. Дзеля гэтай мэты Бог зрабіў гэбраяў выбраным народам

(царскім сьвятарствам). Загадаў ім сьвяткаваць суботу і ўспаміны вялікіх Божых падзеяў: Пасха, Сьвята Шатроў. Устанавіў ахвяры. Выбраў сьвятароў і левітаў. Прыймаючы ўдзел у гэтай Літургіі Ст. Запавету выбраны народ пазнаваў і абвяшчаў Вялікасьць Бога.

Праз гэбраяў таксама іншыя народы пазнавалі славу і вялікасьць праўдзівага Бога (Пс. 147). Аб'яўляючы Сваю славу ў падзеях Ізраіля, Бог хацеў, каб гэты народ быў знакам для іншых народаў, як яны павінны шанаваць праўдзівага Бога (Пс. 147).

*

Аб'яўленьне славы і сьвятасьці Бога ў гэбрайскім народзе было прыгатаваньнем да аб'яўленьня Божае вялікасьці ў Ісусе Хрысьце. Ён стаўся «зьзяньнем славы і ўзорам Ягонае сутнасьці» (Гэбр. 1, 3), «Госпадам славы» (1 Кар. 2,8), «Сьвятым і Справядлівым» (Дз. 3, 14), «Сьвятым і Праўдзівым» (Ад. 3, 7). Ён даў пачатак новаму Ерусаліму — Царкве, якая была заснавана «на пахвалу Ягонае славы» (Эф. 1, 14). Божую славу аб'яўляе і праслаўляе Царква ў сваёй Літургіі. Таму сьв. Павал піша: «Яму слава ў Царкве ў Хрысьце Ісусе, на ўсе роды на векі вякоў. Амінь» (Эф. 3, 21).

**Наш адказ Богу:** Хачу так прымаць удзел у Літургіі, каб праслаўляць і паказваць Божую славу.

**Прыклад малітвы:** «Алілуя! Слаў, душа мая, Госпада! Буду славіць Госпада ў маім жыцьці; пяяць буду майму Богу, пакуль існую» (Пс. 145, 1).

**Божае слова:** «Воблака Ягвэ ўдзень закрывала сьвятыню, а ўночы сьвяціла як вагонь на вачах усяго ізраільскага Дому» (Вых. 40, 38). «Няхай хваляць Цябе, Госпадзе, усе Твае стварэньні і Твае сьвятыя няхай Цябе славяць!» (Пс. 144, 10). «Адзінаму мудраму Богу праз Ісуса Хрыста няхай будзе слава на векі. Амінь» (Рым. 16, 27).

**Пытаньні да 29-ай катэхэзы:**

54) Як пазналі людзі сьвятасьць і славу Бога?

**Адказ:** Людзі пазналі Божую сьвятасьць і славу, калі Бог аб'явіў іх у падзеях выбранага народу.

55) У кім найпаўней аб'явілася Божая слава і сьвятасьць?

**Адказ:** Божая слава і сьвятасьць найпаўней аб'явілася ў Хрысьце.

56) Дзе сёньня Бог паказвае Сваю славу і сьвятасьць?

**Адказ:** Сёньня Бог паказвае Сваю славу і сьвятасьць у Хрыстовай Царкве.

30-я КАТЭХЭЗА

# 30. Бог рыхтуе свой народ на “поўню часаў”.

Набліжаўся час, калі Бог меў выпаўніць Свае прырачэньні. Бог падрыхтоўваў на гэтую хвіліну, званаю “поўняй часаў” (Гал. 4,4), Свой народ, а цераз яго – ўсё чалавецтва. Гэбраі былі знакам для іншых народаў. Яны аддавалі пашану Богу праз ахвяры. Часта аднак задавальняліся толькі вонкавымі знакамі пашаны. Тады Бог вучыў іх і перасьцерагаў цераз прарокаў, сьвятых і глыбока веруючых людзей, што адной вонкавай пашаны замала, бо для Бога больш значыць вера, надзея, справядлівасьць і любоў: “Што Мне з шматлікасьці вашых ахвяраў? – кажа Ягвэ… Абмыйцеся і будзьце чыстымі! Забярэце проч з Маіх вачэй зло вашых учынкаў! Вучыцеся рабіць дабро!...” (Іс. 1,11).

Гэбраі атрымалі Божае аб’яўленьне, Абяцаную Зямлю, Ерусалім і сьвятыню з тою мэтаю, каб перахаваць і абвяшчаць веру ў аднаго Бога аж да “поўні часаў”. Аднак яны часта забываліся аб гэтым. Яны занадта прывязаліся да свае зямлі, дзяржавы і сьвятыні, забываючыся аб Богу. Тады Ерусалім і сьвятыня былі разбураны. Частка народа згінула, а частка была забрана ў

палон. Але Бог нават цераз няшчасьці і няволю ўзгадоўваў Свой народ. Прыгатаўляў яго да зразуменьня новага, духовага Запавету. Разбурэньне Ерусаліму і сьвятыні зрабіла немагчымым ахвяры і вонкавы культ, але не перашкодзіла аддаваць пашану Богу малітвай, добрым жыцьцём і добрымі ўчынкамі. А да гэтага і заклікалі прарокі ў часах няволі. У прарочых візіях і абразах яны прадказвалі заключэньне Новага Запавета з новым народам, які паўстане з “рэшты” Ізраіля разцярушанай па сьвеце. Прадказвалі, што Бог яе зьбярэ і перавядзе з няволі ў бацькаўшчыну, як калісьці Майсей перавёў Ізраіля з Егіпту ў Абяцаную Зямлю і будзе сьцерагчы гэты астатак, як пастыр сьцеражэ свой статак. Вольнаму народу дасьць Павадыра, Князя і Цара з рода Давіда. Будзе ім “Слуга Ягвэ”, паслушны Богу і маючы ў Ім надзею. Цераз цярпеньні, пакуты і сьмерць Ён адкупіць чужыя грахі і выслужыць для другіх прабачэньне (Іс. 50, 6-8)(55, 2-12).

Прарокі прыгатавалі выбраны народ, а цераз яго і ўсіх людзей на зразуменьне і прыняцьце гэтага прадказаньня. Бог паслужыўся Ізраілем, каб усяму сьвету паказаць Ісуса Хрыста як выпаўненьне Прырачэньня.

*

Усе гэтыя прадказаньні споўніліся часткова ў падзеях выбранага народа, які вярнуўся з няволі ў Палестыну, адбудаваў Ерусалім і сьвятыню ды аддаваў як даўней пашану Богу. Гэта быў знак і прадказаньне іншага вызваленьня, якое мела прыйсьці цераз Ісуса Хрыста. Ён, нявінны, пакорны і паслушны “Слуга Ягвэ” цераз Свае пакуты і сьмерць задаволіў за грахі ўсіх людзей і перавёў іх з няволі граху ў вольнасьць ласкі. Ён устанавіў новую і адзіную ахвяру і пашану аддаваную Богу ў духу і праўдзе. Заснаваная Ім Царква гэта новы Божы народ, які пілігрымуе цераз сьвет, як гэбраі цераз пустыню, да нябеснага Ерусаліму.

**Наш адказ Богу:** Буду ўважна слухаць чытаньні прароцтваў у сьвятынях у часе Літургіі Божага Слова, каб пазнаць і зразумець Божыя пляны, якія спаўняюцца ў Ісусе Хрысьце.

**Божае слова:** “Вось Я пасылаю да вас **пракокаў**, мудрацоў і кніжнікаў” (Мац. 23,34). – Прыповесьць аб несумленных вінаградарах (Мац. 21,33-45; Мар. 12,1-12; Лук. 20,9-19). “І, пачаўшы ад Майсея, з усіх прарокаў выясьняў ім усё напісанае аб Ім” (Лук. 24,27). – “Прадвяшчалі гэтыя дні ўсе прарокі ад Самуіла ды пасьля іх, якія толькі прамаўлялі” (Дз. 3,24).

**Пытаньні да 30-ае катэхэзы:**

57) Цераз каго Бог рыхтаваў выбраны народ і ўсё чалавецтва на “поўню часаў”?

**Адказ:** Бог рыхтаваў выбраны народ і ўсіх людзей на “поўню часаў” цераз прарокаў.

58) У кім споўніліся прадказаньні прарокаў?

**Адказ:** Прадказаньні прарокаў споўніліся часткова ў падзеях выбранага народа, а ў цэласьці – у Ісусе Хрысьце і Ягонай Царкве.

## *III. БОГ ВЫРАТАВАЛЬНІК*

31-я КАТЭХЭЗА

# 31. Бог вучыць аб месіянскім выратаваньні

Ад самага пачатку Бог навучаў аб збаўленьні, ратуючы Свой народ з небяспекаў. Вывеў яго з егіпецкае няволі. Шмат разоў ратаваў з рук ворагаў. Рабіў гэта цераз павадыроў і цароў, якіх выбіраў. На знак, што іх выбраў Сам Бог, іх памазвалі алівай. Адсюль бярэ пачатак гэбрайская назва “Месія”, якую грэкі пералажылі словам “Хрыстос”, што па-нашаму азначае “Памазанік”. Такімі пасрэднікамі былі цары Саул і Давід, якія ратавалі выбраны народ ад

Філістынаў. Такім пасрэднікам у руках Божых быў перскі цар Кір, які пазволіў гэбраям вярнуцца з бабілёнскае няволі ў бацькаўшчыну. Гэтае выратаваньне з няволі прарокі прадказвалі як дзеяньне Бога, бо Ён і быў тут сапраўдным Выратавальнікам (Глядзі Ез. 39, 25-29).

Выратаваньне з бабілёнскае няволі перавышала паводле прарокаў цудоўны выхад з Егіпту. "Таму надыходзяць дні, калі ня будуць ужо болей гаварыць: "На жыцьцё Ягвэ, Які вывеў сыноў Ізраіля з Егіпту", але "На жыцьцё Ягвэ, Які вывеў сыноў Ізраіля з паўночнага краю і з усіх краёў, у якія іх загнаў". І вярну іх у край, які Я даў іхнім бацькам" (Ер. 16,14-15). Ісая прадстаўляе вобразна гэты паварот і Божую апеку над народам. Ён піша, што раздаецца голас, які кліча, каб цераз пустыню правясьці дарогу для Бога, Які павядзе Свой народ зь няволі ў бацькаўшчыну (Іс. 40,3-5).

Выхад з Егіпту і выратаваньне з бабілёнскае няволі былі для Ізраіля "збаўленьнем". Адначасна яны прадказвалі выратаваньне ўсіх людзей ад грахоў, гэта значыць усеагульнае збаўленьне. Бог зьдзяйсьняе яго цераз выбранага Слугу, Які будзе "сьвятлом для народаў і збаўленьнем" (Іс. 42,1-7). "Слуга Ягвэ" збавіць сьвет паслухмянасьцю, якую пакажа нават у пакутах і сьмерці. Нявінны і сьвяты, бо "нікому не зрабіў крыўды і мана не паўстала на Ягоных вуснах" (Іс. 53,9), шмат будзе цярпець, але не за свае правіны, а толькі за нашыя. Аб гэтым так кажа прарок: "Пагарджаны і адкінуты людзьмі, чалавек болю, ведаючы, што значыць цярпець... А ён паранены за нашыя грахі, зьбіты за нашыя правіны. Біцьцё, карыснае для нас, спала на яго, а цераз ягоныя раны мы выздаравелі. Усе мы заблудзілі як авечкі... а Ягвэ зваліў на яго правіны нас усіх... за грахі майго народа яго забілі на сьмерць... А ён панёс грахі многіх і за злачынцаў заступаецца (Іс. 53, 3.5-6.8.12).

Слуга Ягвэ прыме сьмерць **дабравольна**: "Яго мучылі, але Ён Сам дазволіў над Сабою зьдзеквацца, нават вуснаў Сваіх не адчыніў. Як авечка, калі яе рэжуць і як нявіннае ягня, калі яго стрыгуць, так Ён не адчыніў Сваіх вуснаў!" (Іс. 53,7).

Цераз дабравольныя пакуты Слуга Ягвэ выслужыў людзям духоўнае аздараўленьне і асьвячэньне: "У ягоных ранах нашае здароўе... Сумленны Мой Слуга апраўдае (гэта значыць выратуе) многіх" (Іс. 53, 5.11). Цераз Сваю сьмерць Слуга Ягвэ атрымае ад Бога шматлікае патомства. Як змагар пасьля ваеннае перамогі бярэ ў палон шмат людзей і багатую здабычу, так і Слуга Ягвэ атрымае шмат усялякага дабра. "Калі аддасьць сваё жыцьцё за грахі на ахвяру, убачыць патомкаў, прадоўжыць свае дні... Таму дам яму частку між вялікімі і ад багачоў атрымае здабытак, за тое, што ахвяраваўся на сьмерць і быў залічаны да злачынцаў" (Іс. 53,10.12).

*

Прадказаньне вызваленьня з бабілёнскае няволі выпаўнілася ў падзеях выбранага народа, калі ён вярнуўся ў Палестыну і адбудаваў сталіцу ў сьвятыню, а яшчэ паўней у Новым Запавеце. Ян Хрысьціцель называе сябе голасам клічучага на пустыні: "Праступуйце шлях Госпаду" (Ян 1,23) і паказвае сапраўднага Выратавальніка ў асобе Ісуса Хрыста. Ён выразна навязвае да Ісаі, калі кажа: "Вось Ягнё Божае, што бярэ на Сябе грахі ўсяго сьвету" (Ян. 1,29.36). Ісус Хрыстос, паслушны Айцу аж да сьмерці, ня толькі ратуе ад хваробаў і небяспекаў, але адпускае грахі (Мац. 9,1-8; Лук. 7,48). Ён паміраe дабраахвотна за Свае авечкі (Ян. 10,15.18). Паміраe на крыжы за грахі ўсіх людзей і за цану Свае Крыві набывае Царкву, якая абымае ўсе народы. У Царкве Хрыстос збаўляе людзей аж да паўторнага Свайго прыйсьця. Толькі тады Ягонае выратаваўчае дзеяньне будзе закончана.

**Наш адказ Богу:** Падзякую Богу за выратаваньне, якое я знаходжу ў Хрыстовай Царкве.

**Прыклад малітвы:** “Блаславёны Госпад Бог Ізраіля, што адведаў народ Свой і даў выбаўленьне яму; ды збаўчую моц узьняў нам у доме Давіда Свайго слугі: як апавясьціў вуснамі быўшых ад веку сьвятых Сваіх прарокаў” (Лук. 1,68-70).

**Пытаньні да 31-ае катэхэзы:**

59) Што прадказвае Бог цераз выбаўленьне выбранага народа з егіпецкае і бабілёнскае няволі?

**Адказ:** Цераз выбаўленьне выбранага народа з егіпецкае і бабілёнскае няволі Бог прадказвае месіянскае выратаваньне.

60) У кім выпаўняецца выратаваньне, прадказанае ў песьні аб Слузе Ягвэ?

**Адказ:** Выратаваньне, прадказанае ў песьні аб Слузе Ягвэ, выпаўняецца ў Ісусе Хрысьце.

61) Калі закончыцца месіянскае выратаваньне?

**Адказ:** Месіянскае выратаваньне закончыцца, калі Ісус Хрыстос прыдзе судзіць жывых і памёрлых.

32-ая КАТЭХЭЗА

# 32. Бог прадказвае прыход валадарства Божага.

Ад заключэньня Запавету гэбраі прызнавалі Бога за свайго Госпада і Валадара, так як іншыя народы прызнавалі панаваньне і валадарства над сабой цароў. А сябе гэбраі ўважалі за Божы народ і Божых падданых, якія абавязаны выпаўняць Божыя загады і Божы закон. Яны лічылі на помач і апеку свайго Бога над імі. Аказвалі Яму пашану, як іншыя народы сваім царам. Праз доўгі час яны не хацелі мець цара з паміж сябе. Калі судзьдзі Гедэону запрапанавалі, каб стаўся іхнім спадчынным царом, той адказаў: “Ані я, ані мой сын ня будзем панаваць над вамі. Панаваць над вамі будзе Ягвэ” (Судзь. 8,23). Цары, якія пасьля панавалі над гэбраямі (Саул, Давід, Саламон і іншыя), былі толькі намесьнікамі Бога. Яны былі абавязаныя аддаваць пашану Богу як адзінаму і сапраўднаму цару, выпаўняць Ягоныя загады ды пільнаваць, каб увесь народ іх выпаўняў.

Калі цароў ня стала, прарокі абвясьцілі, што Божае панаваньне ня толькі не спынілася, але трывае і трываць будзе на векі: “Ягвэ ёсьць нашым судзьдзёю, Ягвэ наш заканадаўца, Ягвэ наш цар! Ён нас выратуе” (Іс. 33,32).

Прарокі вучылі, што Божае Валадарства абдыме ня толькі выбраны народ, але таксама іншыя народы: “А Ягвэ запануе над усёю зямлёю. У той дзень Ягвэ будзе адзіным і адзіным будзе Ягонае імя” (Зах. 14,9).

Цар судзіў і рабіў справядлівасьць. Таму Ісая кажа, што Бог “будзе арбітрам паміж народамі і выдасьць прысуды для шматлікіх народаў” (Іс. 2,4).

Божае Валадарства розніцца ад тых дзяржаваў, якія ёсьць на сьвеце. Паводле прарокаў Божае Валадарства будзе духовым, рэлігійным валадарствам. У гэтым Валадарстве ўсе пазнаюць сапраўднага Бога і Ягоныя загады: “шматлікія народы туды пойдуць і скажуць: “А ну, узыдзем на Гару Ягвэ ў сьвятыню Якубавага Бога, каб нас навучыў Сваіх шляхоў і каб мы хадзілі па Ягоных сьцежках. Бо Закон выйдзе з Сыёну і аўтарытэт Ягвэ з Ерусаліму” (Іс. 2,3).

У Божым Валадарстве наступіць мір паміж народамі: “Тады свае мячы перакуюць на лемяхі, а пікі на сярпы. Народ супраць народа не падніме мяча, больш ня будуць вучыцца ваеншчыны” (Іс. 2,4).

Прарокі вучылі таксама аб Заснавальніку Божага Валадарства на зямлі. Ён будзе патомкам цара Давіда, а Ягоная ўлада будзе справядлівая і вечная: “Бо нарадзілася нам Дзіця, атрымалі мы Сына, на плячах ягоных лягла ўлада. А Ягонае імя: Дзіўны Дарадчык, Усемагутны Бог, Прадвечны Айцец, Князь Міру. Вялікае будзе Ягонае панаваньне ў супакою без граніц на троне Давіда і над ягоным царствам, якое Ён умацуе ды ўсталюе законам і справядлівасьцю адгэтуль і на векі” (Іс. 9,5-6).

*

Прадказаньні прарокаў споўніліся ў асобе Ісуса Хрыста. Ангел прыракае Дзеве Марыі, што яе Сын атрымае ў спадку назаўсёды царства Свайго айца, гэта значыць далёкага продка, Давіда: “Ён будзе вялікі і Сынам Найвышэйшага назавецца, і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давіда, Ягонага бацькі, і царыць будзе над домам Якуба давеку, і Ягонаму царству ня будзе канца” (Лук. 1,32-33). Евангельле апісвае, як Ісус абвяшчаў Божае Валадарства, у якім цераз веру людзі пазнаюць сапраўднага Бога, а цераз любоў спаўняюць Ягоную волю і жывуць у згодзе адны з другімі, паміж сабою.

Ісус Хрыстос заснаваў Царкву. У ёй пачынае ажыцьцяўляцца Божае Валадарства на зямлі. Царква прыгатаўляе ўсё чалавецтва на паўнату Валадарства ў дзень, калі прыйдзе Хрыстос. Літургія лацінскага абраду на Сьвята Хрыста Валадара заве гэтае запачаткаванае ў Царкве Валадарства Царствам “справядлівасьці, любові і міру”. А Літургія Божага Нараджэньня і Богаяўленьня паказвае нам Хрыста, як адвечнага Цара міру і Госпада ўсіх людзей.

**Наш адказ Богу:** Падзякую Богу, што паклікаў мяне ў Сваё Валадарства.

**Прыклад малітвы:** Сьвяціся імя Тваё. Прыйдзі валадарства Тваё. Будзь Твая воля, як у небе, так і на зямлі.

**Навучаньне Царквы:** “Як у Старым Запавеце аб’яўленьне Валадарства часта прадстаўлена ў вобразах, так і цяпер вонкавая прырода Царквы пазнаецца намі цераз розныя абразы, якія ці з пастырскага жыцьця, ці з земляробства, ці то з будаўніцтва, ці ўрэшце з сямейнага жыцьця і шлюбу маюць сваю падставу ў кнігах прарокаў” (Канстытуцыя аб Царкве №6).

**Пытаньні да 32-ой катэхэзы:**

62) Хто ёсьць адзіным і вылучным царом выбранага народа?

**Адказ:** Бог ёсьць адзіным і вылучным царом выбранага народа.

63) У кім выпаўняюцца прадказаньні прарокаў аб Божым валадарстве?

**Адказ:** Прадказаньні прарокаў аб Божым Валадарстве выпаўняюцца ў Ісусе Хрысьце, у Ягонай Царкве на зямлі і ў будучым жыцьці ў небе.

64) Якім мае быць Божае Валадарства паводле прароцкіх прадказаньняў?

**Адказ:** Божае Валадарства паводле прароцкіх прадказаньняў мае быць духоўным, усеагульным, справядлівым царствам і панаваньнем супакою.

33-ая КАТЭХЭЗА

## 33. Бог вучыць аб асобе Месіі.

Аб тым, што прыйдзе Месія, які “мае быць пасланы і на якога будуць чакаць народы”, выбраны народ даведаўся ад патрыярхаў (Быць. 49,10). Прарокі вучылі ўжо ясьней аб Ягонай асобе. Прарок Натан прадказаў Давіду, што Бог возьме ягонага патомка пад асаблівую апеку, што ягоны род не загіне, але астанецца верным Богу на зямлі. Прырок таксама, што царства

Давіда і ягоная сталіца будуць трываць вечна (2 Сам. 7,12-17). Гэтыя словы адносіліся да Саламона, а выпаўніліся дакладна ў абяцаным Месіі. Таксама Ісая піша, што Месія прыйдзе з Давідавага роду: “Вырасьце галіна з Ясеевага кораня, атожылка выйдзе з ягонага пня” (Іс. 11,1.10). Ясей быў бацькам Давіда (Мац. 1,6). Жыў ён у мястэчку Бэтлеем, недалёка ад Ерусаліму (1 Сам. 16, 1-13). Пракрокі часта называюць Месію проста Давідам і прыпісваюць яму царскую годнасьць: “І ўстанаўлю над імі аднаго пастыра, які будзе пасьвіць іх (свае авечкі, гэта значыць выбраны народ), Майго слугу, Давіда: ён будзе іх пасьвіць, ён будзе іхнім пастырам. А Я, Ягвэ, буду іхным Богам, слуга-ж Мой Давід будзе паміж імі валадаром” (Ез. 34, 23-24). “Чужынцы ня будуць ужо над імі (гэта значыць над гэбраямі) панаваць. Але будуць служыць Самому Богу Ягвэ і Давіду, свайму цару, якога я ім дам” (Ер. 30,9).

Месца нараджэньня Месіі абазначыў прарок Міхей: “А ты, Бэтлеем Эфрата, ты ёсьць найменшае паміж юдэйскімі плямёнамі! З цябе мне выйдзе Той, што будзе панаваць у Ізраілю, а Ягонае паходжаньне ад пачатку, ад дзён вечнасьці” (Міх. 5,1).

Ісая прадказаў дзявочае пачацьце Месіі як знак Божы: “Вось Дзева зачне і народзіць сына” (Іс. 7,14). Ён назваў гэтага Сына Дзевы Эмануіл, што па гэбрайску абазначае “З намі Бог”. Ён таксама называў Яго Дзіўным Дарадчыкам, Усемагутным Богам, Адвечным Айцом і Князям Супакою (Іс. 9,5). Гэтыя тытулы да гэтага часу можна было надаваць толькі Богу. Ісая надае іх Месіі, каб адзначыць, якім Ён будзе незвычайным слаўным і вялікім. Ён таксама прадказвае, што да Месіі будуць маліцца народы: “У той дзень станецца гэта: Корань Ясея будзе пастаўлены на знак для народаў. Да яго народы прыйдуць з малітвай і слаўнае будзе месца Ягонага адпачынку” (Іс. 11,10). Месія будзе аздараўляць хворых, будзе адзначацца лагоднасьцю і запачаткуе перыяд вялікіх Божых ласкаў (Іс. 35,5-6). Ягоны прыход будзе днём разплаты і суду.

*

Эвангелісты адносяць словы прарокаў аб патомку Давіда да Ісуса Хрыста. Мацьвей і Лука падаюць у Ягоным радаслоўі Давіда і Ясея як Ягоных продкаў. Усе чатыры Эвангелісты ўспамінаюць, што хворыя, якіх прыводзілі да Хрыста, называлі Яго “Сынам Давіда” просячы аб выздараўленьні. Значыцца ня толькі верылі ў тое, што Ісус ёсьць Месіяй, але і ведалі, што Месія павінен быць патомкам Давіда. Мацьвей цэлае Эвангельле напісаў, каб даказаць, што месіянскія прароцтвы споўніліся ў асобе Ісуса Хрыста і таму Ён ёсьць Месіяй. Ісус Хрыстос нарадзіўся з Дзевы Марыі ў Бэтлееме. Быў поўны дабраты і лагоднасьці. Аздараўляў хворых, адпускаў грахі.

**Наш адказ Богу:** Буду ўважна слухаць прароцтвы аб асобе Ісуса Хрыста, што чытаюцца ў літургіі царкоўнага году.

**Прыклад малітвы:** Ісусе, сыне Давідаў, зьлітуйся нада мною!

**Божае слова:** “Мой слуга, Давід, будзе царом над імі і ўсе яны будуць мець Пастыра, і жыць паводле Маіх законаў, і будуць выпаўняць Мае загады і шанаваць іх” (Ез. 37,24). – “Пасьля аднак навернуцца сыны Ізраіля і будуць шукаць свайго Бога, Ягвэ, і свайго цара, Давіда; дрыжучы пабягуць да Ягвэ, да Ягонага дабра пад канец дзён” (Оз. 3,5).

“Радавод Ісуса Хрыста, сына Давідавага, сына Абрагамавага” (Мац. 1,1). “Ён будзе вялікі і Сынам Найвышэйшага назавецца, і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давіда, Ягонага бацькі” (Лук. 1,32). – “Ціж не сказана ў Пісьме, што Хрыстос прыйдзе з Давідавага роду і з Бэтлеему, сяла, скуль быў Давід?” (Ян 7,42). – “Павал, слуга Ісуса Хрыста, пакліканы Апостал, выбраны дзеля абвяшчаньня Божага Евангельля, якое Бог наперад абяцаў цераз Сваіх прарокаў у сьвятых Пісьмах, аб Ягоным Сыне, Які целам радзіўся з

Давідавага роду паводле цела, а паводле Духа сьвятасьці аказаўся цераз паўстаньне з мёртвых поўным сілы Божым Сынам – аб Ісусе Хрысьце нашым Госпадзе” (Рым. 1,1-4).

**Пытаньні да 33-яй катэхэзы:**

65) Цераз каго Бог вучыў аб асобе Месіі?

**Адказ:** Бог вучыў аб асобе Месіі цераз прарокаў.

66) У кім споўніліся прароцтвы аб асобе Месіі?

**Адказ:** Прароцтвы аб асобе Месіі споўніліся ў Ісусе Хрысьце.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ - “ХРЫСТОС УЧОРА І СЁНЬНЯ...” (Гэбр. 13,8)
## *І. ХРЫСТОС УЧОРА*

34-ая КАТЭХЭЗА
## 34. Ян Хрысьціцель прадказвае блізкі прыход Месіі.

*“Было гэта ў пятнаццатым годзе панаваньня Тыбэрыя Цэзара. Понці Пілат быў намеснікам у Юдэі, Ірад быў чацьвёртаўладнікам у Галілеі... пры архірэях Ганьне і Каяфе, быў голас Божы да Яна, сына Захаравага, у пустыні. І ён праходзіў па ўсіх ваколіцах Ярданскіх прапаведуючы хрост пакаяньня для адпушчэньня грахоў”* (Лук. 3,1-3).

*

Гэбраі чакалі на абяцанага цераз прарокаў Месію, які меў вызваліць свой народ. У сынагогах па вёсках і мястэчках чыталіся пільна, асабліва ў суботы, пісьма прарокаў. Пазнаваньне сьвятых кнігаў падтрымлівала ў народзе памяць аб даўнейшых прароцтвах. Таму ўсе чакалі, калі яны споўняцца.

І вось зьяўляецца між імі Ян Захараў сын. Ён жыў на пустыні, вёў пакутнае жыцьцё, заклікаў навярнуцца да Бога. Тых, што наварачваліся і каяліся са сваіх грахоў, Ян хрысьціў, гэта значыць абмываў вадою на знак, што яны хочуць пачаць зусім іншае, новае, лепшае жыцьцё.

Жыцьцё Яна Хрысьціцеля было так непадобнае да жыцьця іншых людзей, што многія застанаўляліся, ці часам ён не Месія (Лук. 3,15). Ян рашуча запярэчыў (Ян. 1,20). Ён выясьніў, што Месія ўжо надходзіць: “Я вас хрышчу вадою, але надходзе мацнейшы ад мяне, у каторага я ня варты разьвязаць рамень абутку. Ён будзе хрысьціць вас Духам Сьвятым і агнём. Ён мае веялку ў сваіх руках і ачысьціць Свой умалот: пшаніцу пазьбірае ў сьвіран, а мякіну спаліць няўгасным агнём” (Лук. 3,16-17. Ез. 36:25-27 і Яэль 2,28-30).

Ян Хрысьціцель быў апошнім прарокам Старога Запавету. Ён быў пасланы, каб “прыгатаваць шлях для Госпада”, як гэта прадказаў Ісая прарок (Мац. 3,3; Іс. 40:3). Ягонае выступленьне было знакам, што надышла “поўня часаў” (Гал. 4,4). Наступіў месіянскі час, Бог пачаў выпаўняць прырачэньні выратаваньня.

*

Жыцьцё Царквы ёсьць сталым чаканьнем на паўнату выратаваньня, якая наступіць у другім прыходзе Хрыста. Таму Царква кожны год прыпамінае сабе гісторыю першага прыходу Выратавальніка навязваючы да асобы і выказваньняў Яна Хрысьціцеля аб Месіі Выратавальніку. Яна пасьвячае на гэта чатыры тыдні часу ў лацінскім абрадзе, а сорак дзён ва ўсходнім абрадзе перад сьвятам Нараджэньня Хрыста. Пастом і малітвай Царква заахвочвае нас у гэтым часе сустракацца з Хрыстом у Слове Божым і ў Тайнах.

**Наш адказ Богу:** Цераз удзел у Эўхарыстыі буду рыхтавацца на другога прыходу Госпада.

**Прыклад малітвы:** Але, прыходзь, Госпадзе Ісусе!

**Божае слова:** “Бо ўсе Пракрокі і Закон прарочылі да Яна” (Мац. 11,13). “А сам Ян меў адзеньне зь вярблюдавага валосься і скураны пояс на сваёй паясьніцы, а ежай ягонай былі акрыды і дзікі мёд” (Мац. 3,4). – “І гаварыў да народу, які прыходзіў хрысьціцца ў яго: “Плод яхідны; хто перасьцярог вас, каб вы ўцякалі ад надыходзячага гневу? Зрабеце ж плады годныя

пакаяньня... Бо ўжо і сякера ля кораня дрэваў ляжыць; усякае дрэва, што не прыносіць добрага плоду, зрубаецца і кідаецца ў вагонь” (Лук. 3,7-9). – “Кажу вам: з народжаных жанчынамі няма большага за Яна Хрысьціцеля” (Лук. 7,28).

**Пытаньні да 34-ае катэхэзы:**

67) Што азначала выступленьне Яна Хрысьціцеля?

**Адказ:** Выступленьне Яна Хрысьціцеля азначала, што настала “поўня часаў”, значыць Месія ўжо блізка.

68) З якою мэтою Царква ўстанавіла пост перад Божым Нараджэньнем?

**Адказ:** Царква ўстанавіла пост перад Божым Нараджэньнем, каб прыпомніць веруючым гістарычны прыход Хрыста і цераз эўхарыстычны Ягоны прыход падрыхтаваць іх на другі Хрыстовы прыход у Апошні Дзень.

35-ая КАТЭХЭЗА

# 35. Ісус з Назарэту

Аб жыцьці і дзейнасьці Ісуса з Назарэту мы даведаліся з запісаных дакумэнтаў, якія паявіліся ў гадох 50-100 пасьля Хрыста. Гэтымі дакумэнтамі ёсьць Эвангельлі паводле Мацьвея, Марка, Лукі і Яна, Апостальскія Дзеяньні Лукі, Пасланьні (гэта значыць пісьмы) Паўла і іншых апосталаў. Аб існаваньні Ісуса з Назарэту ўспамінаюць таксама і рымскія крыніцы: рымскі гісторык Тацыт, Малодшы Пліні, які ўрадаваў у Бітыніі ў гадох ад 111-113, у пісьме да цэзара Траяна, ды Светоній (53 г.). Зараз па 94 годзе ўспамінае аб Хрысьце таксама гэбрайскі гісторык Іосіф Флавій у “Даўнешніх падзеях Ізраіля”.

Ісус нарадзіўся ў Бэтлееме пад канец жыцьця гэбрайскага цара Ірада Вялікага, калі рымскім цэзарам быў Актавіан Аўгуст, які правіў ад 31-га году перад Хрыстом да 14-га году пасьля Хрыста (Лук. 2,1-7). Маці Ісуса была Марыя, заручаная з Іосіфам – абодва з Давідавага царскага роду (Лук. 3,23-38) (Мац. 1,1-6). Дык Ісус належыў да выбранага народа і падлягаў усім ягоным звычаям і законам. Ён атрымаў імя ўжыванае ў гэбраяў. Пасьля 40 дзён Іосіф і Марыя ахвяравалі Ісуса як першароднага свайго сына ў сьвятыні (Лук. 2,21-23).

Дзеля таго, што Ірад меў намер забіць малога Ісуса, Бог загадаў Іосіфу і Марыі ўцячы ў Егіпет (Мац. 2,13-15). Пасьля сьмерці Ірада яны вярнуліся ў Палестыну і пасяліліся ў Назарэце, дзе ўжо жылі калісьці перад нараджэньнем Ісуса. Тут Ісус правёў дзіцячыя гады і маладосьць аж да трыццаці гадоў жыцьця. Жыў як усе ўбогія людзі, працаваў і маліўся. Бацькоў слухаўся ў ва ўсім (Лук. 2,51). Памагаў Іосіфу і Марыі ў працы, хадзіў разам зь імі на сьвята ў Ерусалім (Лук. 2,41-52). У Назарэце Ісус меў радню, якую Эвангельле па тадышняму звычаю завець “брацьцямі і сёстрамі” (Лук. 2,34-52). Звалі Яго “плотнікаў сын” (Мац. 13,55).

У пятнаццатым годзе панаваньня імператара Тыберыя, калі Понці Пілат гаспадарыў у Юдэі, Ірад быў чацьвёртаўладальнікам у Галілеі, пры архірэях Ганне і Каяфе (Лук. 3,1-2), Ісус выступае як настаўнік. Як шмат іншых вандроўных настаўнікаў, Ён навучаў у ва ўсей Палестыне. Ён прапаведваў, што надыходзіць Божае Валадарства і Ён прыйшоў ратаваць людзей. Сваю навуку Ён падтрымліваў шматлікімі цудоўнымі знакамі. Сабраў навокал Сябе вучняў і з іх выбраў дванаццаць, якіх пасьля назвалі апосталамі.

Архірэі Ганна і Каяфа выдалі Ісуса Понцкаму Пілату на крыжовую сьмерць (Лук. 23). Ісус памёр на крыжы, а цела Ягонае пахавалі ў гробе Іосіфа з Арыматэі. На трэці дзень Хрыстос уваскрос і 40 дзён паказваўся апосталам і іншым вучням. Урэшце ўзышоў з вялікаю славаю на неба, загадаўшы перш вучням, каб прапаведвалі Ягоную навуку ўсім народам.

*

Царква аказвае пашану памяткам, якія засталіся пасьля Ісуса ў Палестыне. Важнейшыя з іх гэта месцы, дзе Ён нарадзіўся, жыў, працаваў і памёр. У Назарэце пашана аказваецца месцу, дзе паводле традыцыі стаяла хатка Сьвятой Сям'і. У Бэтлееме – пячоры нараджэньня, а ў Ерусаліме – Гробу Хрыстоваму. Вялікую пашану аказвае Царква рэшткам Крыжа, на якім памёр Хрыстос. Царква ўстанавіла нават асобнае сьвята 14-га верасьня ў гонар Хрыстовага Крыжа.

**Наш адказ Богу:** Буду пільна ўчытвацца ў Эвангельле, дзе апісана жыцьцё Ісуса Хрыста на зямлі.

**Прыклад малітвы:** Госпадзе, Ісусе Хрысьце Сыне Божы, зжалься нада мной грэшным!

**Божае слова:** "Ён пайшоў зь імі і прыйшоў у Назарэт; і быў ім паслухмяны. А Ягоная маці захавала ўсе гэтыя словы ў сваім сэрцы. Ісус жа рос розумам і ўзростам ды ў ласцы ў Бога і ў людзей" (Лук. 2,51-52). "Ці-ж гэта ня сын цясьляра? Ці-ж Ягоная маці не называецца Марыяй, а Ягоныя браты: Якуб, Іосіф, Сымон і Юда? Такжэ Ягоныя сёстры ўсе ці ж не жывуць між намі?" (Мац. 13,55-56).

ТАЦЫТ: "Нерон вытанчанымі мукамі караў тых, якіх агульна завуць хрысьціянамі... ад Хрыста, Якога за панаваньня Тыберыя намесьнік Понці Пілат асудзіў на сьмерць" (Гадавікі, 15,44).

МАЛОДШЫ ПЛІНІЙ: (Піша аб хрысьціянах, што яны) "мелі звычай зьбірацца ў прызначаны дзень да золку і адгаворваць гімн Хрысту як Богу, ды пасьля пад прысягай абавязваліся, не на тое, каб задумаць які праступак, але каб ня красьці, не займацца разбоям, не чужаложыць, каб датрымліваць прырачэньняў і аддаваць доўг на першае жаданьне" (З пісьма да імператара Траяна).

**Пытаньні да 35-ае катэхэзы:**

69) З якіх крыніцаў пазнаём мы гістарычнае жыцьцё і дзейнасьць Ісуса з Назарэту?

**Адказ:** Аб жыцьці і дзейнасьці Ісуса з Назарэту мы даведваемся перадусім з найстарэйшых хрысьціянскіх дакумэнтаў. Аб Ісусе таксама пішуць некаторыя рымскія і гэбрайскія аўтары.

70) Якія хрысьціянскія дакумэнты лічацца найважнейшымі?

**Адказ:** Найважнейшымі гістарычнымі дакумэнтамі ёсьць: Эвангельлі, Дзеяньні Сьвятых Апосталаў і апостальскія Пасланьні.

71) Што кажуць найстарэйшыя дакумэнты аб Ісусе з Назарэту?

**Адказ:** Найстарэйшыя дакумэнты паказваюць, што Ісус жыў і дзейнічаў у першых гадох нашае хрысьціянскае эры.

36-ая КАТЭХЭЗА

# 36. Ісус аб'яўляецца як Месія.

Сярод людзей, якія прасілі Яна хрысьціць іх на знак пакуты, аказаўся таксама Ісус з Назарэту. Ахрысьціўшы яго Ян убачыў Сьвятога Духа, Які зышоў на Ісуса і пачуў пасьведчаньне Бога Айца. У гэтым здарэньні Бог аб'явіў Яну, што Ісус ёсьць Месіяй і Пасрэднікам, Якога прадказвалі пракокі.

Аб'яўленьне Бога Айца Ян перадаў народу. Паказваючы на Ісуса ён сказаў: "Вось Ягня Божае, Што бярэ на Сябе грахі ўсяго сьвету". І патлумачыў: "Я бачыў Духа, Які зыходзіў з неба, як голуб, і спусьціўся на Яго. Перш я ня ведаў Яго; але Той, што паслаў мяне хрысьціць вадою, сказаў мне: на каго ўгледзіш зыходзячага Духа, Гэты і ёсьць Той, што Сьвятым Духам хрысьціць. Я гэта бачыў і засьведчыў, што Ён – Сын Божы." (Ян. 1,32-34). Называючы

Ісуса: “Божае Ягня”, Ян навязаў да прароцтва Ісаі, які параўнаў Месію да “ягняці, якое вядуць на сьмерць” (Іс. 53,7). Словы Яна Хрысьціцеля прадказвалі, што Месія Сваёй сьмерцю адкупіць грахі ўсяго сьвету.

Аб Сваім пакліканьні, або памазаньні на Месіі, узгадаў Сам Ісус на пачатку Сваёй публічнай дзейнасьці. У Назарэце ў бажніцы Ён прачытаў словы прарока: “Дух Госпада на Мне, Ён памазаў Мяне, паслаў Мяне, каб занясьці ўбогім Добрую Навіну, вязьням абвясьціць свабоду, і сьляпым даць зрок; каб вызваліць прыгнечаных; каб абвясьціць Год Божае ласкі” (Іс. 61,1-2).

Калі Ісус прачытаў гэтыя словы, Як сказаў да прысутных: “Сёньня споўніліся гэтыя словы Пісьма, якія вы чулі” (Лук. 4,16-21).

Пасьведчаньне Яна Хрысьціцеля спрычынілася да таго, што да Ісуса далучыліся адразу над Ярданам першыя вучні, прызнаючы Яго за Месію: “Мы знайшлі Месію!” (Ян 1,41).

*

Ад хросту ў Ярдане Ісус-Месія дае сябе пазнаць і выступае як Пасрэднік. Ён ёсьць “Божым Сынам”, які выпаўняе пасольства, атрыманае ад Айца. Адначасна стаўшы ў чаргу тых, што прасілі аб хросьце пакуты і бяручы на Сябе “правіны ўсіх нас”, якія “Ягвэ ўзваліў на Яго” (Іс. 53,6). Ён выступае як прадстаўнік людзей. Ісус прыняў хрост пакуты, бо хацеў стацца падобным да нас у ва ўсім “з выняткам граху” (Гэбр. 4,15).

Царква сьвяткуе штогод Успамін Хросту Госпада на Захадзе 13 студня, а на Ўсходзе 6-га студня, называючы яго Божым Аб’яўленьнем, бо ў ім мы перажываем аб’яўленьне Божае славы ў Ісусе Хрысьце. У першых стагодзьдзях хрысьціянства ў гэты дзень хрысьцілі катэхуменаў.

Цераз хрост у Ярдане і памазаньне Духам Сьвятым пачалося выратавальнае дзеяньне Ісуса Хрыста. Таксама і нашае далучэньне да выратаваўчага дзеяньня пачынае сьвяты Хрост і памазаньне Сьвятым Духам у Тайне Мірапамазаньня або Канфірмацыі.

**Наш адказ Богу:** Цераз веру, надзею і любоў хачу сільна злучыцца з Ісусам Хрыстом у Ягоным выратаваўчым дзеяньні.

**Прыклад малітвы:** У Ярдане, калі Ты хрысьціўся, Госпадзе, патройны аб’явіўся знак пашаны: бо айцоўскі голас сьведчыў аб Табе, называючы Цябе ўлюбёным Сынам і Дух у галубінай постаці пацьвярджаў слоў гэтых праўдзівасьць. Хрысьце Божа, што зьяўляешся і асьвятляеш сьвет, слава Табе!

**Пытаньні да 36-ае катэхэзы:**

72) Што Бог абвясьціў у часе хросту Ісуса ў Ярдане?

**Адказ:** У часе хросту Ісуса ў Ярдане Бог абвясьціў, што Ісус ёсьць Месіяй, якога людзі чакалі.

73) Аб якім заданьні Месіі гаворыць нам хрост у Ярдане?

**Адказ:** Хрост у Ярдане вучыць, што Месія ёсьць Пасрэднікам, пасланым ад Бога.

**УВАГА:** Слова Месія (па лацінску Messias) бярэ пачатак з гэбрайскага слова Мешыях, што значыць: памазаны. Грэкі пераклалі гэтае слова: Хрыстос, якое і мы ўжываем.

37-ая КАТЭХЭЗА

# 37. Ісус пачынае змаганьне са злом

Ісус Хрыстос пачаў сваю дзейнасьць ад 40 дзён посту на пустыні. Там спакушаў Яго чорт, як калісьці першага чалавека.

Першы Адам саграшыў, бо даверыўся спакушальніку і самому сабе, а ня Богу. “Другі Адам” Ісус Хрыстос пераможна адкінуў спакусу, бо даверыўся Богу, Свайму Айцу. Таму Ісус Хрыстос стаўся пачаткам нашага выратаваньня.

Змаганьне з чортам трывала цэлы час на працягу дзейнасьці Хрыста на зямлі. Хрыстос выганяў злых духаў, аздараўляў хворых, ускрашаў памёрлых, адпускаў грахі. Гэткім спосабам ён вызваляў людзей ад граху і ягоных вынікаў.

Чорт аднак не спыніў сваіх атакаў і не адказаўся ад змаганьня. Бачыў ён, што “дзеля таго і зьявіўся Божы Сын, каб зьнічтожыць дзела чартоўскае” (1 Ян. 3,8). Таму чорт настройваў шмат людзей непрыязна да Ісуса. Схіляў іх да змаганьня з “Прарокам з Назарэту”. Уводзіў у памылку фарысеяў і кніжнікаў, а некаторых даводзіў да сьляпой нянавісьці. Гэта ён спакусіў Юду Іскарыёцкага, Сымонавага сына, каб выдаў Ісуса (Ян 13,2), а нават “увайшоў у Юду” (Лук. 22,3). Выглядала, што сьмерць Ісуса на крыжы была перамогай чорта (Лук. 22,53). У сапраўднасьці-ж Хрыстос цераз Сваё Ўваскрасеньне перамог сьмерць, грэх і чорта. Гэту перамогу атрымаў Ён як прадстаўнік людзей. Дзякуючы гэтаму “цяпер ужо няма ніякага асуджэньня тым, што ў Хрысьце Ісусе не паводле цела, але паводле духа ходзяць” (Рым. 8,1). Поўную перамогу над чортам атрымае Хрыстос на Апошнім Судзе.

Цераз хрост мы злучыліся з Хрыстом, таму прымаем таксама ўдзел у змаганьні, якое трывае паміж Ім і валадарамі цемры (Эф. 6,12). Кожны ахрышчаны зьвязаны прырачэньнем, зробленым у сьвятым Хросьце, што будзе змагацца з чортам, з ягонымі махінацыямі ды з ягонаю пыхаю. Каб прыпомніць нам гэты абавязак Царква ўстанавіла Вялікі Пост перад Пасхай, які нам таксама прыпамінае саракадзённы пост Хрыста, калі наш Госпад пачаў Сваё змаганьне з нячысьцікам.

**Наш адказ Богу:** Буду кожны год паважна праводзіць час Вялікага Посту пад кіраўніцтвам сьвятой Царквы.

**Прыклад малітвы:** Госпадзе, злітуйся над намі, бо Табе мы даверыліся! Ня гневайся занадта на нас і не прыпамінай нашых праступкаў, але збаў нас ад нашых ворагаў. Бо Ты наш Бог, а мы – Твае людзі, усе мы - дзела рук Тваіх і Тваё імя прызываем.

**Божае слова:** “Апранецеся ў-ва ўсю Божую зброю, каб здолелі вы ўстаяць проціў чартоўскіх хітрасьцяў; бо наша барацьба ня супраць крыві і цела, але супраць начальства, супраць уладаў, супраць сусьветных валадароў цемры гэтага веку, супраць паднябесных духаў злосьці” (Эф. 6,11-12). “Будзьце цьвярозымі! Чувайце! Бо вораг ваш, д’ябал, як рыкаючы леў ходзіць шукаючы, каго праглынуць” (1 Пятр. 5,8-9).

**Пытаньні да 37-ае катэхэзы:**

74) Што Ісус Хрыстос абвясьціў у часе спакушэньня на пустыні?

**Адказ:** У часе спакушэньня на пустыні Ісус Хрыстос абвясьціў, што пачынае змаганьне са злом.

75) Калі і як ты забавязаўся змагацца з чортам?

**Адказ:** На сьвятым Хросьце я прырок змагацца з чортам. Тады я абяцаў: вырачыся чорта, усіх ягоных махінацыяў і ўсялякай ягонай пыхі.

76) Калі ўся Царква асабліва рыхтуецца ў Хрысьце да змаганьня са злом?

**Адказ:** Царква рыхтуецца ў Хрысьце да змаганьня са злом асабліва ў часе Вялікага Посту.

38-ая КАТЭХЭЗА

# 38. Ісус Хрыстос абвяшчае пачатак Божага Валадарства

У часы Ісуса Хрыста гэбраі тужліва чакалі Божага Валадарства. Ня гледзячы на цяжкія ўмовіны, асабліва рымскую няволю, яны верылі, што Бог не перастаў быць іхным вылучным Валадаром, як аб гэтым пісалі пракорокі. Дык гэбраі спадзеваліся, што прыход Месіі будзе пачаткам новага Божага панаваньня над сьветам.

Аднак шмат зь іх думала перадусім аб зямным царстве. Яны думалі, што ў месіянскіх часах Ізраіль атрымае свабоду і незалежнасьць ды асягне вялікі дабрабыт. Марылі нават, што Месія заваюе ўвесь сьвет і яны будуць панаваць над усімі народамі.

Ян Хрысьціцель папраўляў памылковыя ўяўленьні аб Месіі ды ягоным Валадарстве. Ён вучыў, што Месія вымагае веры і пакуты, гэта значыць перамены жыцьця, што будзе адпускаць грахі і гэткім спосабам прынясе выратаваньне.

Так і сталася, як гаварыў Ян. Ісус Хрыстос ад першых Сваіх навук у Галілеі, аж да апошніх настаўленьняў, якія даў апосталам адходзячы на неба (Дз. 1,6-7), прапаведваў Божае Валадарства. Вучыў, што ў гэтым Валадарстве адзіным найвышэйшым Валадаром ёсьць Бог, а Ягоная воля ёсьць найвышэйшым законам. Ісус паклікаў у Божае Валадарства ня толькі гэбраяў, але таксама ўсіх людзей: “Кажу вам: шмат іх прыйдзе з Усходу і з Захаду і засядуць за стол з Абрагамам і Ісаакам і Якубам у Нябесным Валадарстве” (Мац. 8,11).

Ісус вымагаў навароту ад грахоў да Бога і веры ў Добрую Навіну (Эвангельле) аб выратаваньні. Даў загад прыймаць Хрост: “Калі хто не народзіцца з вады і з Духа, ня можа ўвайсьці ў Божае Валадарства” (Ян. 3,5).

Ісус ня толькі прапаведваў Божае Валадарства, але яно ў Ягонай Асобе ўжо пачалося на зямлі: цераз навуку, якую Ён прапаведваў, цераз цуды, якія рабіў, а перадусім цераз тое, што Ён “жыцьцё Сваё даў на адкупленьне многіх” (Мар. 10,45). Цераз сьмерць і ўваскрасеньне Ісуса Хрыста Божае Валадарства зьдзяйсьняецца ў Царкве і ёсьць даступным да ўсіх.

Сам Ісус Хрыстос цераз адкупленьне людзей стаўся Валадаром гэтага Валадарства.

*

Усе хрысьціяне згодна прызнаюць Ісуса Хрыста сваім Валадаром. Але дзеля таго, што пасьля Першае Сусьветнае Вайны ўрады сьвецкіх дзержаваў сьвядома пастанавілі вылучыць Царкву з усялякага ўплыву на міжнародную палітыку, каталіцкая Царква ўстанавіла асобнае сьвята Хрыста Валадара, каб зьвярнуць увагу ўсяго сьвету, што толькі Хрыстос можа даць людзям той мір, якога яны дарэмна хочуць шукаць бяз Бога. Другая Сусьветная Вайна пацьвердзіла гэтае прадказаньне Царквы і сёньня ўрады і палітыкі больш уважна прыслухоўваюцца да голасу Царквы, якая і далей перасьцерагае, што палажыць канец вайне бяз Бога ня ўдасца. У літургію сьвята Хрыста Валадара, якое выпадае ў апошнюю нядзелю кастрычніка, Царква прыпамінае нам сучасныя заданьні і мэты Божага Валадарства. Яно мае прерамяняць сьвет у “царства праўды і жыцьця, царства сьвятасьці і ласкі, царства справядлівасьці, любові і міру”.

**Наш адказ Богу:** Буду старацца працаваць для пашырэньня Божага Валадарства на зямлі і маліцца, каб яно хутчэй наступіла.

**Прыклад малітвы:** Прыйдзі Валадарства Тваё!

**Божае слова:** “Шукайце перш Божага Валадарства і Ягонае праўды, а тое ўсё прыложыцца вам” (Мац. 6,33). – “Божае Валадарства ў вас ёсьць” (Лук. 17,21). – “Калі Я Божым пальцам выганяю чартоў, то значыць прыйшло да вас Божае Валадарства” (Лук. 11,20). – “Божае Валадарства падобна да скарбу,

схаванага ў полі, які чалавек, знайшоўшы, прытаіў і ў радасьці ад гэтага йдзе і прадае ўсё, што мае, і купляе гэнае поле” (Мац. 13,44). – “Ня кожны, хто кажа Мне: Госпадзе! Госпадзе! Увойдзе ў Нябеснае Валадарства, а той, хто выпаўняе волю Айца Майго, што ў Нябёсах.” (Мац. 7,21).

**Навука Царквы:** “Тайна сьвятой Царквы адкрываецца ў ейным заснаваньні. Госпад Ісус запачаткаваў Царкву Сваю прапаведуючы радасную навіну, мяноўна прыход Божага Валадарства абяцанага ад вякоў у Пісьме: “Выпаўніўся час і прыблізілася Божае Валадарства” (Мар. 1,15). А Валадарства гэтае аб’явілася людзям у слове, дзеяньнях і ў прысутнасьці Хрыста. Вось слова прыраўняў Ён да зерня, якое сеецца на полі (Мар. 4,14); тыя, што слухаюць яго з верай і залічаюцца да малога статку Хрыстовага (Лук. 12,32), атрымалі ўжо само Валадарства; уласнай сілай зерне пасьля прарастае ды ўзрастае аж да часу жніва (Мар. 4,26-29). Также цуды Ісусавы сьведчаць, што настала ўжо Божае Валадарства на зямлі: “Калі Я Божай сілай выганяю чартоў, дык значыць прыйшло да вас Божае Валадарства” (Лук. 11,20; Мац. 12,28). Аднак перадусім Валадарства выяўляецца ў самой асобе Хрыста, Сына Божага і Сына Чалавечага, Які прыйшоў, “каб паслужыць і аддаць душу Сваю на выкупленьне многіх” (Мар. 10,45) (Канстытуцыя аб Царкве, п.5).

**Пытаньні да 38-ае катэхэзы:**

77) Хто пачаў будаваньне месіянскага Божага Валадарства на зямлі?

**Адказ:** Будаваньне месіянскага Божага Валадарства на зямлі пачаў Ісус Хрыстос.

78) Якімі славамі аб’яўляе Ісус Хрыстос пачатак Божага Валадарства на зямлі?

**Адказ:** Хрыстос аб’яўляе: “Час выпаўніўся і наблізілася Божае Валадарства. Пакайцеся і верце ў Евангельле” (Мар. 1,1).

39-ая КАТЭХЭЗА

# 39. Ісус Хрыстос тлумачыць тайны Божага Валадарства.

*“І сказаў ім: “Вам дадзена ведаць тайны Божага Валадарства, а тым вонках усё стаецца ў прыповесьцях”* (Мар 4,11).

*

З Ісусам Хрыстом і ў Ім прыйшло да людзей Божае Валадарства, поўнае тайнаў. Некаторыя з гэтых тайнаў вытлумачыў Сам Хрыстос, тлумачачы, якія прыкметы мае Божае Валадарства і як трэба жыць у ім. Ён зрабіў гэта ў прыповесьцях аб Валадарстве.

Зародкам Божага Валадарства былі вучні, якіх Хрыстос сабраў. Ён сказаў ім: “Ня бойся, малы статак, бо спадабалася вашаму Айцу даць вам Валадарства” (Лук. 12,32). Ім і даў магчымасьць “пазнаць” тайну Божага Валадарства” (Мар. 4,11). “І сказаў ім: Шчасьлівыя вашыя вочы, што бачаць, і вушы вашыя, што чуюць” (Мац. 13,16).

Гэтак запачаткаванае Божае Валадарства будзе ўсьцяж развівацца ды разрастацца, як “калі чалавек кідае зерне ў зямлю, і сьпіць, і ўстае ўначы і ўдзень, і насеньне ўзыходзіць і расьце, што ён ня ведае; бо зямля сама сабою родзіць сьпярша рунь, пасьля колас, пасьля зерне ў коласе. Калі-ж дасьпявае плён, ураз жа пасылае серп, бо надыйшло жніво” (Мар. 4,26-29). Або як яшчэ параўнаў яго Хрыстос да гарчычнага зерняці (Мац. 13,31-32; Мар. 4,30-32). Будзе яно таксама спаўняць сваю ролю ў сьвеце, як фэрмэнт у цесьце (Мац. 13,33), пранікаючы штораз глыбей у розумы ды сэрцы людзей. Валадарства

Божае будзе развівацца ў людзкіх душах: “Божае Валадарства ў вас ёсьць” (Лук. 17,21). Значыцца будзе ўнутраным, але адначасна і вонкавым, бо аб’явіцца ў Царкве збудаванай на Пятры (Мац. 16,18).

Жывучы на зямлі Хрыстос запачаткаваў Божае Валадарства. Сваё выпаўненьне яно атрымае толькі ў дзень другога прыходу Ісуса Хрыста (Мац. 25,34). А да гэтага часу яно мае даваць пасьведчаньне аб Хрысьце ўсім народам: “Ды і вы будзеце сьведчыць, бо вы ад пачатку са Мною” (Ян 15,27). Гэтае пасьведчаньне дае Царква, якая ёсьць зародкам Божага Валадарства.

Хоць Божае Валадарства ёсьць Божым дарам, але чалавек мусіць сам яго шукаць і здабываць: “Шукайце перш Божага Валадарства і Ягонае праўды” (Мац. 6,33). Шукаць трэба Валадарства радасна і вытрывала, як той, што шукае дарагую пэрлу, покуль яе ня знойдзе (Мац. 13,45-46). Чалавек павінен быць гатовым на ахвяры дзеля Божага Валадарства (Мац. 5,10). Трэба спаўняць волю Божую: “Ня ўсякі, хто кажа Мне: Госпадзе! Госпадзе! увойдзе ў нябеснае Валадарства, а той, хто выпаўняе волю Айца Майго, што ў Нябёсах” (Мац. 7,21).

У Нябеснае Валадарства пакліканы ўсе. Знаходзяцца ў ім добрыя і благія, як пшаніца і кукаль. У дзень суду благія будуць выкінуты з Божага Валадарства (Мац. 13,24-30).

Хто хоча ўвайсьці ў Божае Валадарства, павінен навярнуцца ды нарадзіцца нанова: “Калі хто не народзіцца нанова, ня можа бачыць Божага Валадарства” (Ян. 3,3). А пасьля павінен увесь час пільнавацца, каб Валадарства не праспаць, як неразумныя дзевы (Мац. 25, 1-13).

Як за жыцьця Хрыста на зямлі, так і сёньня Божае Валадарства прыходзіць да чалавека цераз Слова. Хрыстос прыраўняў яго да зерня, якое сейбіт выйшаў сеяць (Мац. 13,3-9.18-23). Сёньня Божае Слова абвяшчае Царква ў першай часьці сьвятой Літургіі, якая і называецца “літургіяй Слова”. Абвяшчае яго таксама ў тайнах Хросту і Пакуты або Пакаяньня. У гэтых тайнах чалавек навяртаецца. Божае Слова даходзіць яшчэ да чалавека ў тайнах: Эўхарыстыі, Памазаньня хворых, Сьвятарства і Шлюбу. Царква абвяшчае Божае Слова таксама ў катэхізацыі.

**Наш адказ Богу:** Хачу заўсёды пільна слухаць Божага Слова ў літургіі і катэхізацыі. Хачу часта лучыцца з Хрыстом у сьвятых тайнах, бо цераз Яго і ў Ім Божае Валадарства ёсьць сярод нас.

**Прыклад малітвы:** “Бласлаўлёны Ты, Госпадзе: навучы мяне Тваіх уставаў!” (Пс. 119,12).

**Божае слова:** Прыповесьць аб схаваным скарбе (Мац. 13,34); аб талантах (Мац. 25,14-30); аб запрошаных на банкет (Мац. 22,1-14). – “Маё Валадарства ня з гэтага сьвету. Каб Маё Валадарства было б з гэтага сьвету, Мае слугі біліся б, каб Я ня быў выдадзены гэбраям. А цяпер Маё Валадарства ня ёсьць адсюль” (Ян. 18,36). – “Пусьціце дзяцей і не перашкаджайце ім прыйсьці да Мяне; бо да гэтакіх належыць Божае Валадарства” (Мац. 19,14).

**Навука Царквы:** “А гэтае Валадарства засьвяціла людзям у слове, дзеяньні ды ў прысутнасьці Хрыста. Вось Слова прыраўнанае да зерня, якое сеецца на ральлі (Мар. 4,14); тые, што слухаюць яго з вераю і залічаюцца да малога Хрыстовага статку (Лук. 12,32), атрымалі ўжо і самое Валадарства; сваёю сілай прарастае пасьля зерне і расьце аж да жніва (Мар. 4,26-29)... Царква, абдараваная багацьцем свайго Заснавальніка і верна трымаючаяся Ягоных загадаў любові, пакоры і адрачэньня, атрымлівае прызначэньне, каб абвяшчаць і пашыраць Хрыстовае і Божае Валадарства сярод усіх народаў і становіць зародак ды пачатак гэтага Валадарства на зямлі. Сама тымчасам, узрастаючы памалу, тужыць за Валадарствам цалкам закончаным і з усіх

сілаў спадзяецца і жадае злучэньня са сваім Валадаром у славе” (Канстытуцыя аб Царкве №5).

**Пытаньні да 39-ае катэхэзы:**

79) Праз што разьвіваецца Божае Валадарства на зямлі?

**Адказ:** Божае Валадарства на зямлі развіваецца праз Божае Слова і сьвятые тайны.

80) Калі Божае Валадарства аб’явіцца ў ва ўсей паўнаце?

**Адказ:** Божае Валадарства аб’явіцца ў ва ўсёй паўнаце ў дзень другога прыходу Хрыста.

40-ая КАТЭХЭЗА

# 40. Ісус Хрыстос тлумачыць асноўны Закон Божага Валадарства.

*“Адзін законьнік, спакушаючы Яго, спытаўся, кажучы: Настаўнік! Які найбольшы загад у Законе? – Ісус сказаў яму: Палюбі Госпада Бога свайго ўсім сваім сэрцам і ўсёю сваёю душою і ўсім сваім разуменьнем (Другазак. 6,5). Гэта – першы і найбольшы загад. Другі-ж, падобны да яго: палюбі свайго бліжняга, як самога сябе (Лев. 19,18). На гэтых двух загадах грунтуецца ўвесь закон і пракокі”* (Мац. 22,36-40).

*

Закон любові Бога і бліжняга быў знаны ўжо ў Старым Запавеце. З часам аднак звузілі закон любові бліжняга да адных толькі гэбраяў. Таму Хрыстос прыпамінае, што любіць трэба ўсіх людзей. Ён сказаў: “Новы загад даю вам, каб вы любілі адзін аднаго; як Я палюбіў вас так і вы любеце адзін аднаго. Па гэтым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго” (Ян. 13,34-35).

Перш за ўсё трэба любіць Бога, бо гэта – “найбольшы і першы загад”. Трэба любіць Бога “усім сэрцам, усёю душою і ўсім разуменьнем” (Мац. 22,38). Каб заахвоціць да большае любові Бога, Хрыстос вучыў аб добрым Айцу ў небе, які “так палюбіў сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб усякі, хто верыць у Яго, ня згінуў, але меў вечнае жыцьцё” (Ян. 3,16). Ісус Хрыстос дамагаецца таксама любові да Сябе, бо Ён ёсьць Богам: “Хто больш любіць бацьку ці маці, чым Мяне, той ня варт Мяне. І хто любіць сына ці дачку балей за Мяне, той ня варт Мяне” (Мац. 10,37).

Хто любіць Бога, той выпаўняе Божыя загады: “Калі Мяне любіце, будзеце выпаўняць Мае загады... Хто мае Мае загады і выпаўняе іх, той Мяне любіць... Калі Мяне хто любіць, будзе выпаўняць Маё слова” (Ян. 14,15.21.23).

Найважнейшым доказам любові Бога ёсьць любоў да бліжняга. Абавязак любіць бліжняга Хрыстос называе “другім загадам, падобным да першага” (Мац. 22,39). Прыпамінае яго часта вучням: “Вось-жа ўсё, што хочаце, каб вам рабілі людзі, дык тое рабеце і вы ім. Бо гэта ёсьць закон і прарокі” (Мац. 7,12). На Апошняй Вячэры назваў гэты загад Новым Загадам, бо ў Старым Запавеце было загадана любіць бліжняга толькі як самога Сябе, а Хрыстос загадаў Сваім вучням любіць адзін аднаго так, як Ён іх палюбіў, Хрыстос – жа палюбіў людзей больш, чым самога Сябе, бо аддаў за іх Сваё жыцьцё.

У прыповесьці аб міласэрным Самараніне Хрыстос выясьняе, што нашым бліжнім ёсьць кожны чалавек, нават вораг (Лук. 10, 25-37). Таму кажа: “Любеце вашых ворагаў, рабеце дабро тым, што вас ненавідзяць, і маліцеся за тых, што вас крыўдзяць і ачарняюць” (Мац. 5,44).

Любоў бліжняга аб’яўляецца ў добрых дзеяньнях. Хрыстос вельмі заахвочваў да іх: “Калі ладзіш абед ці вячэру, ня кліч сяброў тваіх, ні сваіх

братоў, ні сваякоў, ні багатых суседзяў, каб і яны цябе не запрасілі некалі, і ты не дастаў адплату. Але, калі ладзіш, заклікай убогіх, калекаў, кульгавых, сьляпых. І шчасьлівы будзеш, што яны ня змогуць адплаціць табе, бо аддасца табе ва ўваскрасеньні справядлівых” (Лук. 14, 13-14). Пра гэтыя добрыя дзеяньні запытае Хрыстос на Апошнім Судзе (Мац. 25, 31-46).

Пасьля Ўшэсьця Хрыста ў неба Ягоную навуку аб законе любові прапаведуюць Апосталы. Падобна як Хрыстос і яны на першыя месцы ставяць любоў Бога больш за ўсё. Павал піша: “Хто адлучыць нас ад любові Бога? Гора, ці ўціск, ці перасьледаваньне, ці голад, ці нагата, ці небяспека, ці меч? Паводле напісанага: за Цябе забіваюць нас кожны дзень; лічаць нас за авечкі, ахвяраваныя на зарэз (Пс. 43, 23). Але ўсё гэтае перамагаем праз Палюбіўшага нас. Бо я пэўны, што ні сьмерць, ні жыцьцё, ні ангелы, ні ўлады, ні сілы, ні цяперашняе, ні будучае, ні вышыня, ні глыбіня, ні другое якое стварэньне ня можа адлучыць нас ад любові Бога, што ў Хрысьце Ісусе, нашым Госпадзе” (Рым. 8,35-39). “Бо хто любіць другога, выпаўніў Закон” (Рым. 13,8). Падобна як і Хрыстос, Ян вучыць, што знакам любові Бога ёсьць любоў да бліжняга: “Калі б хто казаў: “Я люблю Бога”, а брата свайго ненавідзіў бы, той ілгун, бо хто ня любіць свайго брата, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога ня бачыць?” (1 Ян. 4,20).

Той самы загад любові да Бога і бліжняга прапаведуюць наступнікі Апосталаў – Біскупы. У акружным пасланьні “Мір на зямлі” Ян XXIII вучыць, што мір на зямлі ня можа запанаваць, пакуль не запануе любоў паміж людзьмі. Ад яе ўсё залежыць.

Кожны эўхарыстычны збор (сьвятая Літургія) ёсьць зборам любові. Сустракаючыся разам мы прыпамінаем сабе загад Хрыста і яднаючыся з Ім у Эўхарыстыі, мы паглыбляем нашую любоў.

**Наш адказ Богу:** Ці я раблю так, каб людзі маглі пазнаць, што я – вучань Хрыста?

**Прыклад малітвы:** “Госпадзе, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што я люблю Цябе” (Ян. 21,17).

**Божае слова:** “Калі я гавару мовамі чалавечымі і ангельскімі, а любові ня маю, то я медзь зьвінячая ці гудзячыя цымбалы... А цяпер трываюць вера, надзея, любоў – гэтыя тры; але большая з іх – любоў” (1 Кар. 13,1-13). – “А панад усім (апранецеся) любоўю, якая ёсьць злучэньне дасканаласьці” (Кал. 3,14).

**Навука Царквы:** “Заданьне любові – давясьці людзей да шчырай і шматлікай еднасьці сэрцаў і дзеяньняў, з якіх можа вынікнуць для іх многа дабра” (Ян XXIII, “Мір на зямлі”. n.126).

“З любові да Бога родзіцца любоў да бліжняга, а любоў да бліжняга павялічвае любоў да Бога” (Сьв. Рыгор).

“У галоўных рэчах павінна быць еднасьць і згода, у няпэўных – свабода, у ва ўсім – любоў” (Сьв. Аўгустын).

**Пытаньні да 40-ое катэхэзы:**

81) Які ёсьць асноўны Закон Божага Валадарства?

**Адказ:** Асноўным Законам Божага Валадарства ёсьць закон любові: Палюбі Госпада, Бога свайго, усім сваім сэрцам, усёю душою і ўсім сваім разуменьнем. Палюбі свайго бліжняга, як самога сябе.

82) Як хрысьціяне павінны любіць адзін аднаго?

**Адказ:** Хрысьціяне павінны любіць адзін аднаго так, як Хрыстос іх палюбіў.

83) Што кажа Хрыстос аб любові ворагаў?

**Адказ:** Хрыстос кажа: “Любіце вашых ворагаў, рабіце дабро тым, што вас ненавідзяць і маліцеся за тых, што вас крыўдзяць і ачарняюць” (Мац. 5,44).

41-ая КАТЭХЭЗА

# 41. Ісус Хрыстос навучае, што Бог ёсьць Айцом.

*“Тады калі Закон быў дадзены праз Майсея, то ласка і праўда сталіся праз Ісуса Хрыста. Бога ніхто ніколі ня бачыў. Адзінародны Сын, што ў улоньні Айца, Той зьявіў” (Ян. 1.17-18). – “Я абвясьціў імя Тваё людзям, якіх Ты Мне даў ад сьвету”* (Ян. 17,6).

*

У гісторыі выратаваньня мы знаходзім шмат доказаў на тое, што Бог займаўся людзьмі як добры Айцец. У турбоце аб шчасьце чалавека паклікаў яго да веры (цераз Абрагама) заключыў з ім Запавет, пасылаў да яго прарокаў, ставіўся да яго як “Бог міласэрны і літасьцівы, цярплівы, багаты ў прыхільнасьць і вернасьць” (Вых. 34,6). Бог называў Сябе “Айцом Ізраіля”, а гэбраяў сваімі сынамі (Вых. 4,22; Паўт. Пр. 14,1). Асабліва аднак па айцоўску апекаваўся Ягвэ справядлівымі: “Хаця б мяне пакінулі бацька мой і матка, то аднак Госпад мяне прыгорне” (Пс. 26,10). Запэўніў Ён таксама, што будзе Айцом для Месіі: “Я буду яму бацькам, а ён будзе мне сынам” (2 Сам. 7,14).

Поўную навуку аб Богу як Айцу абвяшчае людзям Ісус Хрыстос. Бо толькі Ён адзін бачыў Бога (Ян. 1,18) і ўсё, што пачуў ад Айца, абвясьціў (Ян. 15,15).

Як Стары Запавет, так і Хрыстос вучыць, што Бог клапоціцца аб чалавеку (Мац. 6,25-34). У Старым Запавеце Бог быў “Айцом Ізраіля”. Ісус Хрыстос запэўнівае, што Бог ёсьць асабліва Айцом “малога статку”, гэта значыць тых, што паверацЬ і пойдуць за Хрыстом. Ім Хрыстос аб’яўляе тайны Айца (Мац. 11,25). Ад іх вымагае, каб яны ставіліся да Бога як да Айца: яны павінны даверыцца Богу (Мат.7,7-11), дароўваць так як Ён (Мац. 18,33-35), праяўляць міласэрнасьць (Лук. 6,36), быць падобнымі да Яго ў любові: “Будьце-ж беззаганнымі, як беззаганны ёсьць Айцец ваш, што ў нябёсах” (Мац. 5,48). Бо Ён толькі адзін ёсьць сапраўдным Айцом: “Нікога на зямлі не называйце вашым Айцом. Бо адзін ёсьць ваш Айцец, Той, Што ў небе.” (Мац. 23,9).

Хрыстос вучыць таксама, што Бог ёсьць Ягоным Айцом, а Ён ёсьць Ягоным Сынам. Ён адрозьнівае Бога як Айца ўсіх людзей і як Свайго Айца: “Узыходзіў да Айца Майго і Айца вашага, і Бога Майго і Бога вашага” (Ян. 20,17). Бо Хрыстос ёсьць адзіным і сапраўдным Сынам Божым, а нас Бог толькі ўсынавіў цераз Яго.

*

Мы становімся ўсынаўлёнымі дзецьмі Божымі цераз Хрост. Сабраўшыся на Эўхарыстычны Збор, званы сьвятой Літургіяй, мы выражаем сваю веру ў Божае айцоўства пяючы: “Веру ў аднаго Бога Айца” і молімся разам да Айца славамі тае малітвы, якой нас навучыў Сам Хрыстос: “Ойча наш, Каторы ёсьць у небе”.

**Наш адказ Богу:** Буду Бога любіць і паважаць як Айца.

**Прыклад малітвы:** Хто жыве пад апекай Найвышэйшага, бязпечна прабывае пад ценям Бога нябёсаў. Скажа Госпаду: “Ты мой прыпынак і цьвярдыня мая, мой Бог, на Якога спадзяюся” (Пс. 90, 1-2).

**Божае слова:** “Ці-ж ня два вераб’і прадаюцца за адзін асары! І ніводны з іх не ўпадзе на зямлю бяз волі Айца вашага. У вас жа і валасы на галаве палічаны” (Мат.10,29-30).

“А я вам кажу: любеце вашых ворагаў... каб сталіся сынамі Айца вашага, што ў нябёсах, бо Ён загадвае свайму сонцу ўсходзіць над добрымі і благімі...” (Мац. 5,44-45). “Дзеля гэтага схіляю калені мае перад Айцом

Госпада нашага Ісуса Хрыста, ад Якога мае назву ўсякае айцоўства на нябёсах і на зямлі” (Эф. 3,14-15).

**Пытаньне да 41-ае катэхэзы:**

84) Хто нам абвясьціў поўную навуку аб Богу як Айцу?

**Адказ:** Поўную навуку аб Богу як Айцу абвясьціў нам Ісус Хрыстос, Які Сам толькі бачыў Бога і перадаў нам тое, што пачуў ад Яго.

85) Што Ісус Хрыстос абвясьціў аб Богу як Айцу?

**Адказ:** Ісус Хрыстос абвясьціў, што 1) Бог ёсьць Айцом Свайго адзінага Сына, 2) ёсьць Айцом тых, што злучыліся з Сынам цераз Хрост і 3) ёсьць Айцом усіх людзей.

42-ая КАТЭХЭЗА

# 42. Ісус Хрыстос абвяшчае, што ён ёсьць сынам Божым.

*“Калі настаў дзень, сабраліся старшыны народа і архірэі і кніжнікі і ўвялі Яго ў свой сынэдрыён, кажучы: ці Ты Хрыстос? скажы нам. Ён сказаў ім: калі скажу вам, вы не паверыце, калі ж і Я спытаюся ў вас, ня будзеце адказваць мне і ня звольніце Мяне. Адгэтуль Сын Чалавечы сядзе праваруч сілы Божай. І сказалі ўсе: дык Ты Сын Божы? Ён адказаў ім: вы кажеце, што Я. Яны-ж сказалі: якое яшчэ трэба нам сьвядоцтва? бо-ж мы самі чулі з Ягоных вуснаў”* (Лук. 22, 66-71).

*

Ісус неаднаразова навучаў, што Ён ёсьць Сынам Божым. Ён казаў, што зьвязаны з Айцом, як ніхто больш. Ён адрозьніваў выражэньні: “Мой Айцец” і “ваш Айцец” (Мац. 7,21 і 7,11). Гаварыў людзям аб Сабе як аб “адзіным любым Сыне” (Мар. 12,6). Казаў, што толькі Ён знае тайны Айца і можа іх абвяшчаць (Мац. 11,25). Сказаў таксама, што між Ім і Айцом існуе ўнутранае адзінства. Бо Сын робіць усё тое, што і Айцец і тую самую атрымлівае Славу (Ян. 5,19). Айцец і Сын знаюць і любяць адзін аднаго (Ян. 5,20.23). Гэтую навуку Хрыстос падтрымліваў цудамі і гаварыў, што яны пацьвярджаюць Ягонае Божае сыноўства: “Хоць Мне ня верыце, верце Маім учынкам, каб вы маглі пазнаць і ўбачыць, што Айцец ёсьць у ва Мне і Я ў Айцу” (Ян. 10,38).

Тыя, што чулі Ісуса Хрыста, разумелі, што Ён уважае Сябе за Сына Божага, роўнага Айцу. Гэта высказаў Пётр: “Ты Хрыстос, Сын Бога Жывога” (Мац. 16,16). Гэтак сама разумелі словы Хрыста, толькі ня верылі Яму, Ягоныя ворагі і за гэта хацелі Яго забіць каменьнямі (Ян. 8,59; 10,33). На судзе перад Каяфам Хрыстос урачыста пацьвердзіў, што Ён ёсьць Сынам Божым і за гэта Яго асудзілі на сьмерць.

Гэтак вось Хрыстос, аб’яўляючы, што Ён ёсьць Сынам Божым, аб’яўляе нам, што ў Богу ёсьць Айцец і Сын.

*

Праўду, што Хрыстос ёсьць Сынам Божым перадалі нам Апосталы. Ян вучыць, што Ісус ёсьць адзіным і адвечным Сынам Божым, Які прыйшоў на сьвет, каб ратаваць людзей (Ян. 1,14.16; 3,16). Таксама сьвяты Павал піша, што Сын Божы прыйшоў нас ратаваць і зрабіць усынаўлёнымі дзецьмі Божымі (Кал. 4,5).

Царква ад самага пачатку верыла і навучала, што Ісус Хрыстос ёсьць Божым Сынам, роўным Айцу. Гэтую навуку яна выразіла ў Сымбалі веры “Веру” сьвятой Літургіі: “Веру... у аднаго Госпада Ісуса Хрыста, Сына Божага адзінароднага і ад Айца народжанага прад усімі вякамі, Бога з Бога, Сьвятло са Сьвятла, Бога праўдзівага з Бога праўдзівага, народжанага ня створанага,

суістотнага Айцу, праз Якога ўсё сталася. Які дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўленьня зышоў зь неба і ўзяў цела з Духа Сьвятога з Марыі Дзевы і стаўся чалавекам”.

Царква ў лацінскім абрадзе канчае літургічныя малітвы да Бога Айца пераважна “цераз Хрыста Госпада нашага”. Моліцца таксама і да Ісуса, Сына Божага, напрыклад у літургічных малітвах перад сьвятым Прычасьцем.

**Наш адказ Богу:** Веру, што Ісус Хрыстос ёсьць Сынам Бога Жывога. У гэтай веры хачу жыць і паміраць.

**Прыклад малітвы:** “Госпад мой і Бог мой!” (Ян. 20, 28).

**Божае слова:** “Узыходжу да Айца Майго і Айца вашага і да Бога Майго і Бога вашага” (Ян. 20,17). – “Меў яшчэ аднаго сына, любага яму, паслаў і яго да іх наканец, кажучы: пасаромяцца сына майго” (Мар. 12,6). – “Сын нічога ня можа рабіць Сам ад Сябе, калі ня будзе бачыць робячага Айца” (Ян. 5,19). – “Ойча! Прыйшла гадзіна: услаў Сына Свайго, каб і Сын Твой уславіў Цябе” (Ян. 17,1). “Я добры пастыр і ведаю Сваіх і Мае ведаюць Мяне. Як Айцец ведае Мяне, так і Я ведаю Айца” (Ян. 10, 14-15). – “І Слова целам сталася і пасялілася ў нас. І мы бачылі Ягоную славу, славу, якую Адзінародны атрымлівае ад Айца” (Ян. 1,14). – “Перш, чымся стаўся Абрагам, Я ЁСЬЦЬ” (Ян. 8,58).

“Божая любоў да нас у тым выявілася, што Бог паслаў на сьвет адзінароднага Свайго Сына, каб мы жыцьцё мелі праз Яго” (1 Ян. 4,9). – “А гэтае сьведчаньне ў тым, што Бог даў нам вечнае жыцьцё і гэтае жыцьцё ёсьць у Ягоным Сыне” (1 Ян. 5,11). – “Калі-ж прыйшла поўня часу, Бог паслаў Свайго Сына, Які нарадзіўся ад жанчыны і быў пад Законам, каб адкупіць тых, што пад Законам, каб нам узяць усынаўленьне” (Гал. 4,4-5).

**Пытаньне да 42-ой катэхэзы:**

86) Што Ісус Хрыстос аб’явіў нам аб Сабе?

**Адказ:** Ісус Хрыстос аб’явіў нам, што Ён ёсьць Сынам Божым, роўным Айцу.

43-яя КАТЭХЭЗА

# 43. Ісус Хрыстос навучае аб Духу Сьвятым.

*“А Я ўпрашу Айца і Ён дасьць вам другога Суцяшальніка, каб быў з вамі да веку – Духа праўды, Якога сьвет ня можа прыняць, бо ня бачыць Яго і ня ведае, а вы ведаеце Яго, бо Ён з вамі ёсьць і ў вас будзе”* (Ян. 14,16-17).

*

Ісус Хрыстос навучаў ня толькі аб Айцу, Які ёсьць у небе, і аб Сабе, як Божым Сыне, але таксама і аб Сьвятым Духу. Гэтую навуку мы пазнаём са слоў Хрыста і з падзеяў апісаных у Евангельлі.

Словы Хрыста аб Сьвятым Духу пераказаў сьвяты Ян у прамове Хрыста па Апошняй Вячэры. Хрыстос вучыў у ёй, што Дух Сьвяты бярэ пачатак ад Айца, але так, што і Сын у гэтым прымае ўдзел, так што ня будзе памылкай гаварыць, што Дух сьвяты паходзіць ад Айца і Сына, абы толькі ня думаць, што Ён паходзіць ад двух, бо ў Богу няма двух пачаткаў Сьвятога Духа, а толькі адзін. Хрыстос сказаў, што Дух Сьвяты паходзіць ад Айца, але сказаў адначасна: “Я і Айцец – адно” і “Усё, што мае Айцец ёсьць Маё”, значыць, калі Айцец мае тое, што ад Яго паходзіць Дух Сьвяты, дык і Сын гэта мае і паколькі Ён адно з Айцом, дык і ад Яго бярэ пачатак Дух Сьвяты. “Калі аднак прыйдзе Суцяшальнік, Якога Я пашлю вам ад Айца, Дух праўды, Які ад Айца паходзіць, Той будзе сьведчыць аба Мне” (Ян. 15,26). Дагэтуль Хрыстос вучыў Сам. Пасьля адыходу будзе вучыць праз Духа Сьвятога: “Калі ж прыйдзе Ён, Дух Праўды, то навучыць вас усякае праўды, бо не ад Сябе

будзе гаварыць, але гаварыцімецъ, што пачуе, і абвесьціць вам, што мае прыйсьці. Ён уславіць Мяне, бо з Майго возьме і вам абвесьціць (Ян. 16,13-14). Ён дасьць вучням поўнае зразуменьне навукі Хрыста: “Суцяшальнік жа, Дух Сьвяты, Якога пашле Айцец у імя Маё, навучыць вас усяго і напомніць вам усё, што Я казаў вам” (Ян. 14, 26) і зробіць здольнымі даваць пасьведчаньне Хрысту: “Калі Сьвяты Дух зыйдзе на вас прымеце Ягоную сілу і будзеце Мне сьведкамі”( Дз. 1,8).

Пасьля ўваскрасеньня Ісус Хрыстос прадказаў, што апосталы будуць ахрышчаныя ў Духу Сьвятым і загадаў ім чакаць на гэтую хвіліну (Дз. 1,4-5) (Лук. 24,29). Наступіла яна ў дзень пяцідзесятніцы, па нашаму Сёмухі. Усе вучні тады “напоўніліся Духам Сьвятым” (Дз. 2,1-4).

*

Ад таго часу аб’яўляецца ў сьвеце дзейнасьць Сьвятога Духа. Сьвяты Дух дзейнічае цераз незвычайные знакі, з якіх Апостальскія Дзеяньні ўспамінаюць: дар языкоў (Дз. 2,4.11), сілу аздараўляць і выганяць злых духаў (Дз. 5,12-16). Гэтыя надзвычайныя знакі, званыя харызмамі, падтрымлівалі місійную дзейнасьць Царквы. Сьвяты Дух уводзіць у Царкву паганцаў (Дз. 10,44), высылае выбраных на місіі (Дз. 13, 2-4), кіруе іхняю працаю (Дз. 15,28; 16,6). Сьвяты Дух дзейнічае таксама сёньня паводле Хрыстовых слоў: “А Я ўпрашу Айца і Ён дасьць вам другога Суцяшальніка, каб быў з вамі заўсёды” (Ян. 14,16). Ён пільнуе, каб Царква ніколі не адступіла ад праўды Хрыстовай. Ён асьвячае людзей у сьвятых тайнах. Ён дае адвагу цярпець перасьлед за веру (Дз. 4,13.31). Сільная вера ёсьць Ягоным дарам.

Царква пачынае свае малітвы прызываньнем Сьвятога Духа: “Нябесны Валадару, Дух Праўды, Які ёсьць усюды і ўсё напаўняеш, Скарбе дабра і жыцьця падаўча! Прыйдзі і пасяліся ў нас і ачысьці нас ад уселякае плямы і паратуй, о Добры, нашыя душы!”.

На Сёмуху Царква перажывае відавочны зыход Сьвятога Духа на Апосталаў. Спасланьне Сьвятога Духа ёсьць вынікам сьмерці і ўваскрасеньня Ісуса Хрыста. У літургіі тады канчаецца пасхальны перыяд царкоўнага году.

**Наш адказ Богу:** Буду помніць, што Сьвяты Дух прабывае ў Царкве, а гэта значыць, што і ва мне Ён дзейнічае.

**Прыклад малітвы:** Прыйдзі, Сьвяты Дух, пашлі нам зь неба прамень Сваёй яснасьці! Прыйдзі, Ойча ўбогіх, прыйдзі да нас з дарамі, прынясі нам сьветласьць сэрца! Прыйдзі, Суцяшальнік, Мілы Госьць душы, Мілае Суцяшэньне!

**Божае слова:** “Прыміце сілу, як зыйдзе на вас Дух Сьвяты, і будзеце Мне сьведкамі ў Ерусаліме... ды ажно па край зямлі” (Дз. 1,8). – “А нам Бог адкрыў праз Духа Свайго; бо Дух усё пранікае, нават глыбіны Божыя” (1 кар. 2,10).

**Літургія:** “Прыйдзі, Дух Сьвяты, напоўні сэрцы Тваіх вернікаў і запалі ў іх агонь Тваёй Любові” (З літургіі на Сёмуху). – “Веру ў Духа Сьвятога, Госпада і Ажывіцеля, Які ад Айца (і Сына) зыходзіць, Які з Айцом і Сынам разам паважаецца і славіцца, Які гаварыў праз пракокаў” (“Верую”).

**Навука Царквы:** “Хрыстос устанавіў гэты Новы Запавет, а мяноўна Новы Тэстамант у Сваёй крыві (1 кар. 11,25), паклікаўшы з паміж Гэбраяў і паганцаў народ, які не паводле цела, але дзякуючы Духу меў у адно зрастацца і быць новым Божым народам. Бо тыя, што вераць у Хрыста, што адрадзіліся ня з тлеючага насеньня, але з нятленнага праз Слова Бога Жывога (1 Пятр. 1,23), ня з цела, але з вады і Духа Сьвятога (Ян. 3,5-6), устанаўляюцца ў канцы “выбраным родам, царскім сьвятарствам, народам сьвятым, народам выбраным... што калісь ня быў народам, а цяпер ёсьць народам Божым” (1 Пятр. 2,9-10)” (Канстытуцыя аб Царкве 9).

“Розныя ёсьць дары Духа: адных кліча Ён, каб давалі яўнае пасьведчаньне пажаданьню неба і перахавалі яго жывым у чалавечай сям’і, іншых кліча, каб пасьвяцілі сябе на службу людзям тут на зямлі, прыгатаўляючы гэтым сваім паслугоўваньнем асновы Нябеснага Валадарства. Вызваляе аднак усіх, каб выракшыся себялюбства і запрогшы ўсе сілы на зямлі да працы для чалавечага жыцьця, накіроўваліся на будучыню, калі ўжо чалавецтва само станецца мілаю Богу ахвяраю” (Пастаральная Канстытуцыя 38).

**Пытаньні да 43-яе катэхэзы:**

87) Хто нас вучыў аб Духу Сьвятым?

**Адказ:** Аб Духу Сьвятым вучыў нас Ісус Хрыстос.

88) Як называе Ісус Хрыстос Сьвятога Духа?

**Адказ:** Ісус Хрыстос называе Сьвятога Духа Суцяшальнікам і Духам Праўды.

89) Як праяўляецца дзейнасьць Сьвятога Духа ў Царкве?

**Адказ:** Дух Сьвяты дае пасьведчаньне аб Хрысьце, кіруе Царквою, асьвячае яе ды ўзмацоўвае, а таксама дае ёй надзвычайныя дары.

44-ая КАТЭХЭЗА

# 44. Ісус Хрыстос абвяшчае ўнутранае жыцьцё Бога, або тайну сьвятой Тройцы.

*“Выслаўляю Цябе, Ойча, Госпадзе неба і зямлі, што ты ўтаіў гэтае ад мудрых і разумных, а выявіў тое дзецям. Так, Ойча, бо гэткая была Твая добрая воля. Усё Мне перадана Айцом маім, і ніхто ня знае Сына апрача Айца; і Айца ня знае ніхто апрача Сына і каму Сын хоча адкрыць”* (Мац. 11,25-27).

*

Хрыстос аб’явіў таксама ўнутраную тайну Божага жыцьця. Ён вучыў, што калі б хто добра пазнаў Сына, дык гэтым самым пазнаў бы і Айца, бо Айцец зусім такі самы, як і Сын, бо яны – адно: “Я і Айцец – адно” (Ян. 10,30). Калі Піліп сказаў: “Госпадзе! Пакажы нам Айца”, Хрыстос адказаў: “Гэтулькі часу Я з вамі і ты яшчэ не пазнаў Мяне, Піліп? Хто бачыў Мяне, бачыў Айца; якжа ты кажаш, пакажы нам Айца? Ці-ж ты ня верыш, што Я ў Айцу і Айцец у ва Мне? Словы, што кажу вам Я, не ад сябе кажу. Айцец, што ў ва Мне, Ён чыніць. Верце Мне, што Я ў Айцу, і Ён у ва мне; каліж ня верыце Маім славам, верце мне па самых учынках” (Ян. 14,8-11). – “Айцец мой дагэтуль робіць і Я раблю” (Ян. 5,17). – “Сын нічога ня можа рабіць сам ад сябе, калі ня будзе бачыць робячы Айца, бо што робіць Ён, тое і Сын робіць таксама. Бо Айцец любіць Сына і паказвае Яму ўсё, што Сам робіць, дый пакажа Яму большыя дзеяньні, чым гэтыя, ажно дзівавацца будзеце. Бо Як Айцец уваскрашае ўмершых і ажыўляе, так і Сын ажыўляе, каго хоча. Бо Айцец і ня судзіць нікога, але ўвесь суд аддаў Сыну, каб усе паважалі Сына, як паважаюць Айца. І хто не паважае Сына, не паважае і Айца, паслаўшага Яго” (Ян. 5,19-23). Айцец і Сын маюць супольную славу: “Ойча!... услаў Свайго Сына, каб і Сын Твой уславіў Цябе” (Ян. 17,1). Айцец любіць Сына: “Ойча... Ты палюбіў Мяне раней заснаваньня сьвету” (Ян 17,24). Таксама і Сын любіць Айца: “Каб сьвет ведаў, што Я люблю Айца і, як загадаў Мне Айцец, так раблю, - устаньце, пойдзем адгэтуль” (Ян. 14,31). “Я нічога не магу рабіць Сам ад Сябе; як чую, так і суджу, і суд Мой праўдзівы, бо я не шукаю волі Сваёй, але волі паслаўшага Мяне Айца” (Ян. 5,30). – “Бо Я зышоў зь неба не дзеля таго, каб чыніць Сваю волю, але волю паслаўшага Мяне Айца” (Ян. 6,38). – “Бо Я заўсёды раблю тое, што падабаецца Яму (Ян. 8,29). – “Маё вучэньне не Маё,

але Паслаўшага Мяне” (Ян. 7,16). – “Каб ведалі і паверылі, што Айцец у ва Мне і Я ў Ім” (Ян. 10,38).

Сын Божы аб’яўляючы Сябе людзям, гэтым самым аб’явіў ім і Айца. Але ня толькі Айца, бо і Духа Сьвятога, таму што Сьвяты Дух таксама падобны да Айца і Сына, як Айцец і Сын Адзін да Аднаго. Вось што казаў аб гэтым Хрыстос: “Калі-ж прыйдзе Суцяшальнік, Якога Я пашлю вам ад Айца, Дух Сьвяты, Які ад Айца зыходзіць, Ён будзе сьведчыць аба Мне.” (Ян. 15,26). – “Калі-ж прыйдзе Ён, Дух Праўды, дык навучыць вас усякае праўды, бо не ад Сябе гаварыць будзе, але гаварыцімець што пачуе, і абвесьціць вам, што мае прыйсьці. Той уславіць Мяне, бо з Майго возьме і вам абвесьціць. Усё, што Айцец мае, ёсьць Маё, таму Я і сказаў, што ад Майго возьме і абвесьціць вам” (Ян. 16,13-15). Усе тры Божыя Асобы ёсьць адным Богам. Таму Хрыстос загадаў хрысьціць усе народы “у імя Айца і Сына і Сьвятога Духа” (Мац. 28,18).

Хрыстос аб’явіў нам тайну ўнутранага жыцьця ў Богу для нашага выратаваньня. Бог стварыў чалавека падобным да Сябе, каб чалавек мог знайсьці шчасьце ў тым, у чым Сам Бог яго знаходзіць. А Бог знаходзіць Сваё шчасьце ў тым, што ўсе тры Божыя асобы жывуць як бы толькі адзін для аднаго, зусім ня думаючы аб сабе. У Богу няма нават ценю эгаізму. З гэтага мы пазнаём, што эгаізм ёсьць найбольшай заганай, якая адна толькі і робіць чалавека нешчасьлівым. Каб чалавек шукаў свайго шчасьця ў любові не да самога сябе, а да другіх, ён хутка знайшоў бы шчасьце, як гэта паказвае жыцьцё сьвятых усіх бяз вынятку. Усе яны ўважалі сябе за найшчасьлівейшых людзей на сьвеце, бо ўсе любілі толькі другіх, ажна зусім забываліся аб сабе. Таму ніводны з іх ня быў эгаістам. Няма ані аднаго сьвятога эгаіста. Гэтак сама кожная маці, якая любіць сваё дзіця так, што аж забываецца аб сабе, знаходзіць у гэтым найбольшае шчасьце, якое толькі даступна чалавеку на зямлі. Гэта Бог Стварыцель вучыць яе, а праз яе ейнага мужа і дзяцей, у чым маюць шукаць таго шчасьця, якога жадае кожны чалавек. Калі ж маці пачынае думаць аб сабе і чакае ад дзіцяці нейкай адплаты за сваю любоў, ейнаму шчасьцю хутка прыходзе канец. Радасьць пераходзе ў сумаваньне. Калі цяпер дзесяць тысяч чалавек што дня памірае з голаду, а два мільярды недаядаюць, то гэта не таму, што няма чым іх накарміць. Бог дае людзям на кожны дзень досыць уселякага дабра, каб яны маглі заспакоіць усе свае патрэбы. І каб людзі замест таго, каб думаць толькі аб сабе пачалі думаць усе як адзін толькі аб другім, як Божыя Асобы, усе іхніе патрэбы былі б заўсёды заспакоеныя, бо ніхто ня быў бы незаўважаны. На гэтым і палягае выратаваньне, якое прынёс нам Хрыстос. Бог запрашае нас праз Свайго Сына ўвайсьці ў Божую сям’ю, каб выракаючыся эгаізму пачалі мы любіць адзін аднаго, як цяпер любім сябе. І ў гэтым мы знайшлі б ня толькі тое шчасьце, якога жадаем, але не знаходзім у гэтым жыцьці, але і развязку ўсіх нашых трудных праблемаў, такіх як вайна, голад і ўсе іншыя хваробы нашага эгаізму. А ў любові да бліжняга мы пазналі б Бога, які ёсьць Любоў і любячы Яго мы знайшлі б такое шчасьце, аб якім нам і ня сьнілася. Хрыстос, як пачатак нашага выратаваньня, устанавіў Хрост, у якім цераз веру мы лучымся з Ім і ўжо можам пачынаць жыць тым самым жыцьцём, якім жывуць Тры Божыя Асобы. Гэта нам тлумачаць апосталы: “Глядзеце, якую любоў даў нам Айцец, каб нам называцца Дзяцьмі Божымі, і мы імі ёсьць” (1 Ян. 3,1). “Бо вы не прынялі духа няволі ізноў на страх, але прынялі Духа ўсынаўленьня, у якім і клічам: Авва, Ойча!” (Рым. 8,15).

*

Унутранае жыцьцё Бога ёсьць тайнай веры. Царква стагодзьдзямі ўдумвалася ў яе і назвала яе тайнай Сьвятой Тройцы. Царква вучыць, што ў Богу ёсьць Тры Асобы: Айцец, Сын і Сьвяты Дух. Сын родзіцца ад Айца. Апостал Ян заве Яго “Словам” (Ян. 1,1.14; 1 Ян. 1,1). Дух Сьвяты паходзіць ад Айца і Сына, як выражаюцца Айцы Царквы на Захадзе, або ад Айца цераз Сына, як кажуць Усходніе Айцы Царквы, што абазначае адно і тое самае, мяноўна, што каб у Богу была б толькі адна першая асоба, а не было б другой, то не было б і трэцяй. Дух Сьвяты ёсьць толькі таму, што ў Айца ёсьць Сын, а Сын толькі таму, што мае Айца, існуе. Аднак Бог ёсьць толькі адзін, гэта значыць, што ёсьць толькі адна Божая прырода. Гэтак і чалавек ёсьць фактычна адзін, бо прырода чалавечая ёсьць таксама толькі адна. Але ёсьць і розьніца: чалавечую прыроду, але аддзельна ад іншых чалавечых асобаў. Божая-ж прырода духоўная, непадзельная і яе маюць супольна Тры Асобы. Вось гэта і ёсьць самае незразумелае для нас у Богу, які ёсьць Духам, а мы толькі душу маем духоўную. Наша душа неразрыўна зьвязана з целам, так што нам трудна сказаць, дзе канчаецца адно і дзе пачынаецца другое. Хоць думаць і разумець можа толькі наша духовая душа, аднак у гэтым жыцьці яна патрабуе матэрыяльнага цела, каб цераз гэты матэрыяльны сьвет пазнаць хоць штоколечы. Ня дзіва, што нават вялікія багасловы шукалі вобраза і падабенства Божага толькі ў чалавечай душы, хоць Слова Божае выразна кажа, што Бог стварыў чалавека, а не ягоную душу толькі на “Свой вобраз і падабенства”. Больш таго, яно кажа, што чалавека трэба разумець як мужчыну і жанчыну, прынамсі дваіх, каб у іх можна было б ужо бачыць Божы вобраз і падабенства.

Божае адзінства трэба так разумець, каб за выняткам Асобаў, Якія ня могуць быць зрэдукаваныя да адной, усё ў Богу было адно: адна Божая Мудрасьць, адна Ўсемагутнасьць, адзін Розум, адна Воля, адна Любоў і гэтак далей. Таму і выратаваньне чалавека ёсьць дзелам усяе Сьвятое Тройцы.

У царкоўнай літургіі ўсе тайны адпраўляюцца ў імя Сьвятой Тройцы. Калі мы робім на сабе знак крыжа, мы выражаем нашую веру ў Сьвятую Тройцу, Якой мы абавязаны нашым выратаваньнем.

Хоць усё, што зрабіў Бог, зрабіла Сьвятая Тройца, аднак мы адносім паасобныя Божыя дзеяньні да адной толькі Асобы. Напрыклад, мы дзякуем Богу Айцу за тое, што нас стварыў, Божаму Сыну за тое, што нас адкупіў, а Сьвятому Духу за тое, што нас асьвяціў.

Царква ўрачыста сьвяткуе ў гонар тайны Сьвятой Тройцы на Ўсходзе – Сёмуху, а на Захадзе – нядзелю пасьля Сёмухі.

**Наш адказ Богу:** Дзякую Богу за абʼяўленьне тайны Сьвятой Тройцы і пакорна буду сьведчыць аб гэтай праўдзе перад цэлым сьветам.

**Прыклад малітвы:** Слава Сьвятой, Аднасутнай (Суістотнай), Непадзельнай і Ажыўляючай Тройцы цяпер і заўсёды, і на векі вечныя. Амін. Найсьвяцейшая Тройца, зжалься над намі! Госпадзе, ачысьці нашыя грахі; Валадару, даруй нам нашыя правіны; Сьвяты, наведай і вылеч нашыя слабасьці, каб уславілася Тваё імя!

**Пытаньні да 44-ае катэхэзы:**

90) Што Хрыстос абʼявіў аб Сьвятой Тройцы?

**Адказ:** Хрыстос абʼявіў, што ёсьць адзін Бог: Айцец, Сын і Дух Сьвяты.

91) Як Царква тлумачыць тайну Сьвятой Тройцы?

**Адказ:** Царква вучыць, што ў Богу ёсьць адна прырода і тры Асобы.

92) Дзеля чаго Хрыстос абʼявіў нам тайну Сьвятой Тройцы?

**Адказ:** Хрыстос абʼявіў нам тайну Сьвятой Тройцы, каб мы цераз веру і Хрост маглі прыняць удзел ва ўнутраным жыцьці Самога Бога.

45-ая КАТЭХЭЗА

# 45. Ісус Хрыстос ёсьць Богам і Чалавекам.

*“Пасланы быў ад Бога Ангел Габрыэль у места Галілейскае, называнае Назарэт, да Дзевы, заручанай з мужам іменьнем Іосіф, з Давідавага дому; а імя Дзевы – Марыя. Ангел, увайшоўшы да яе, сказаў: Радуйся, Абрадаваная! Госпад з Табою; бласлаўлена Ты між жанчынамі. Яна-ж, убачыўшы яго, спалохалася ад ягоных слоў і разважала, што б магло значыць гэтае прывітаньне? І сказаў Ёй Ангел: ня бойся, Марыя; бо ты знайшла ласку ў Бога. І вось зачнеш у чэраве і народзіш Сына і дасі Яму імя: Ісус. Ён будзе вялікі і назавецца Сынам Найвышэйшага, і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давіда, Ягонага бацькі, і валадарыць будзе над домам Якуба давеку, і Ягонаму царству ня будзе канца”.* (Лук. 1, 26-33).

*

У выратаваньні людзей Бог паслугоўваўся заўсёды выбранымі праз Сябе людзьмі, пасрэднікамі, як Абрагам, Майсей, пракокі. Таксама ўвесь гэбрайскі народ быў пасрэднікам. Усе пасрэднікі Старога Запавету падрыхтавалі пасрэдніцтва Ісуса Хрыста (Гал. 4,4).

Калі Дзева Марыя згадзілася быць Маці Выратавальніка Месіі, Сын Божы, Які з Айцом і Сьвятым Духам жыве вечна, падрыхтаваў Сабе з Яе цела цераз Сьвятога Духа, бо Божыя Асобы з радасьцю служаць адна адной, а ведаючы, што гэта дае радасьць, даюць адна адной магчымасьць паслужыць і прыслужыцца. Стварыўшы гэтак само сабе Душу чалавечую, Сын Божы нарадзіўся як чалавек. Мы кажам аб гэтым здарэньні, што Бог-Сын учалавечыўся.

Сын Марыі ёсьць сапраўдным Богам і сапраўдным чалавекам. Богам Ён ёсьць заўсёды, Чалавекам Ён стаўся ў часе. Ён мае дзьве прыроды: Божую і чалавечую, таму мы завём Яго Бог-Чалавек. Ян Евангеліст піша аб учалавечаньні Сына Божага: “Слова целам сталася і пасялілася ў нас” (Ян. 1,14). Словам гэтым ёсьць прадвечны Божы Сын. У Старым Запавеце знакам прысутнасьці Бога сярод выбранага народа была Скрыня Запавету, Шацёр сьвяты і Сьвятыня. У Новым Запавеце новай і сапраўднай сьвятыняй Бога сталася Цела Божага Сына (Ян. 2,19).

Ісус Хрыстос, Бог-Чалавек, ёсьць сапраўдным Пасрэднікам, паміж Богам і Людзьмі. Ад Бога Ён прыносіць людзям любоў, а Богу ў імя ўсіх людзей аказвае любоў і паслухмянасьць. Як чалавек Ён ёсьць адначасна адным з нас (Філіп. 3,5-7). Стаўся падобны ўва ўсім да нас акрамя граху (Гэбр. 7,15).

Ісус Хрыстос ёсьць Пасрэднікам вечным, бо жывучы з Айцом і Сьвятым Духам заўсёды заступаецца за нас (Гэбр. 7,25).

Ісус Хрыстос ёсьць адзіным Пасрэднікам: “Адзін ёсьць Бог і адзін Пасрэднік паміж Богам і людзьмі, Чалавек, Хрыстос Ісус, Які выдаў Самога Сябе на выкуп за ўсіх” (1 Цім. 2,5-6). Таму, што Ён Сам Сябе ахвяраваў, Сьвятое Пісьмо называе Яго “Пасрэднікам лепшага запавету” (Гэбр. 8,6).

Учалавечаньне Божага Сына ёсьць тайнай веры. Мы яе выражаем адгаварваючы Сымбаль Веры – Апостальскі, прыняты на Захадзе ў штодзенных асабістых малітвах, або Ніцэйска-Канстантынапалітанскі, які ўжываецца ў сьвятой Літургіі ды завецца ў скароце “Верую”. У лацінскім абрадзе на Дабравешчаньне, калі пяюцца словы гэтага Сымбалю: “і ўзяў цела праз Духа Сьвятога з Марыі Дзевы і стаўся чалавекам”, веруючыя становяцца на калені, каб прымаючы сьведама ўдзел у тайне, якая прыпамінаецца ў гэты дзень, прыняць выратаваньне, якому пачатак палажыла ўчалавечаньне Сына Божага.

**Наш адказ Богу:** Пастараюся ў сьвята Дабравешчаньня і Божага Нараджэньня лучыцца з Хрыстом-Пасрэднікам у сьвятым Прычашчэньні.

**Прыклад малітвы:** Просім Цябе, Госпадзе, Сваю ласку ўлей у нашыя сэрцы, каб мы пазнаўшы праз ангельскае дабравешчаньне ўчалавечаньне Хрыста, Твайго Сына, цераз Ягоную Пакуту і Крыж былі даведзены да славы ўваскрасеньня. Цераз таго-ж Хрыста, нашага Госпада. Амін.

**Божае слова:** "Так Бог палюбіў сьвет, што аддаў Свайго Адзінага Сына, каб усякі, хто верыць у Яго, ня згінуў, але меў вечнае жыцьцё (Ян. 3,16). – "Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Свайго Сына, Які нарадзіўся з жанчыны і быў пад Законам, каб адкупіць тых, што пад Законам, каб нам узяць усынаўленьне" (Гал. 4,4). – "Пішам вам аб тым, што было ад пачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачыма, што разглядалі і да чаго датыкаліся нашыя рукі..." (1 Ян. 1,1).

**Пытаньне да 45-ае катэхэзы:**

93) Хто гэта Ісус, сын Марыі з Назарэту?

**Адказ:** Ісус, сын Марыі з Назарэту, гэта ёсьць Сын Божы, Які стаўся чалавекам дзеля нашага выратаваньня.

94) Цераз што Сын Божы стаўся нашым пасрэднікам?

**Адказ:** Сын Божы стаўся нашым Пасрэднікам цераз учалавечаньне.

46-ая КАТЭХЭЗА

# 46. Багародзіца. Маці Бога-Чалавека.

*"У той час Марыя... увайшла ў дом Захарыі і прывітала Альжбэту. І сталася, як толькі ўчула Альжбэта прывітаньне Марыі, узварухнулася дзіцятка ў чэраве ейным і напоўнілася Альжбэта Сьвятым Духам і прагаварыла моцным голасам і сказала: "Бласлаўлёна ты між жанчынаў і блаславёны плод улоньня твайго. І скуль гэтае мне, што маці Госпада майго прыйшла да мяне?... І шчасьлівая ты, што паверыла, бо збудзецца сказанае табе ад Госпада". Тады Марыя сказала: "Велічае душа мая Госпада, і ўзрадаваўся дух мой у Богу, маім Збаўцы: бо ўзглянуў на пакорнасьць Сваёй слугі. Адгэтуль вось шчасьлівай зваць мяне будуць усе пакаленьні"* (Лук. 1,39-48).

*

Сьвятое Пісьмо шмат разоў заве Марыю з Назарэту "Маткай Ісуса" (напрыклад: Мац. 1,16;2,11; Лук.2,7.34.48; Дз.1,14). Дзеля таго, што Ісус Хрыстос ёсьць учалавечаным Словам Божым, Сынам Божым, і сапраўдным Богам, адсюль і Ягоная Маці ёсьць Маткай Бога або Багародзіцай.

Годнасьць Божае Маці вывышае Марыю над усе стварэньні, нават вышэй Ангелаў.

Бог адвеку выбраў Дзеву Марыю на Маці Свайму Сыну. Асьцярог яе ад пераводнага граху. Яна ёсьць Бязьвінна Зачатая, гэта значыць, што ейная душа ад першай хвіліны свайго існаваньня была напоўнена ласкай або інакш кажучы, атрымала тое жыцьцё, якое нас робіць дзецьмі Бога і якое мы атрымліваем толькі цераз Хрост.

У Сваім мацярынстве Марыя асталася Дзевай. Сын Божы вышаў з Яе цудоўным спосабам, як пасьля выйшаў з гробу, не разрываючы пячацяў, або як да Апосталаў увайшоў цераз замкнутыя дзьверы, як аб гэтым прыгожа пяецца ва ўсходняй літургіі: "Нараджэньне Тваё аказалася беззаганным: Бог вышаў з Твайго ўлоньня, як носячы цела аб'явіўся на зямлі і жыў зь людзьмі" (Задастойнік на Спаса). Ісус ня меў бацькі на зямлі. Іосіф, Муж Марыі, быў толькі Ягоным апекуном. Бог аб'явіў яму ўва сьне, што Марыя цераз Сьвятога Духа сталася Маці Выратавальніка-Месіі (Мац. 1,20).

Дзякуючы незвычайнай помачы Божай Марыя заўсёды выпаўняла волю Божую і назвала сябе слугой Госпада. Яна заўсёды была вольнай ад найменшага Граху, Яна ёсьць найсьвяцейшай і найчысьцейшай з усіх людзей.

*

Словы Ангела і словы Альжбэты, выказаныя да Марыі, Царква злучыла ў адну малітву, якая завецца "Ангельскае прывітаньне".

Радуйся, Марыя, поўная ласкі, Госпад з Табою, блаславёная Ты між жанчынамі і блаславёны плод улоньня Твайго, Ісус.

Да гэтых слоў, запісаных у Сьвятым Пісьме, Царква дадала яшчэ пакорную просьбу:

Сьвятая Марыя, Маці Божая, маліся за нас грэшных, цяпер і ў часіну сьмерці нашай. Амін.

Гэтая малітва агульна прынята на Захадзе. Усходнія хрысьціяне маюць крыху іншую версію гэтае малітвы:

Багародзіца Дзева, радуйся! Абрадаваная Марыя, Госпад з Табою. Блаславёная ты між жанчынаў і блаславёны плод улоньня Твайго, бо Ты нарадзіла Выратавальніка душ нашых.

Словы, якія Дзева Марыя выказала ў форме малітвы ў доме Альжбэты, Царква пяе як гімн на Ўсходзе раніцай на Ютрані, а на Захадзе – вечарам на Вячэрніцы.

Аддаючы пашану Хрысту ў тайне ўчалавечаньня, Царква адначасна аказвае пашану Ягонай Маці. У гонар Яе Царква ўстанавіла асобныя сьвяты, як Непавіннае Зачацьце – 8 сьнежня (на Ўсходзе 9-га) і Божага Мацярынства – 11-га кастрычніка ў лацінскім абрадзе. 19-га марта Царква сьвяткуе ў гонар сьвятога Іосіфа, як годнага мужа Марыі, а 1-га мая – як Працаўніка.

**Наш адказ Богу:** Цераз жывое пражыванне Багародзічных Сьвятаў буду аказваць Богу ўдзячнасьць за багацтва вялікіх дараў, якімі абдараваў Багародзіцу.

**Прыклад малітвы:** Дай нам, слугам Тваім, просім Цябе, Госпадзе, цешыцца заўсёды здароўям душы і цела, і праз слаўнае заступніцтва бласлаўлёнай заўсёды Дзевы Марыі ад цяперашняга смутку быць вольнымі і карыстацца зь вечнай радасьці. Праз Хрыста нашага Збаўцу. Амін.

**Навука Царквы:** "А гэтую лучнасьць Маці з Сынам у выратаваўчай працы можна запрыкмеціць ад моманту дзявочага пачацьця Хрыста аж да Ягонае сьмерці; спачатку калі Марыя ідзе сьпешна, каб адведаць Альжбэту, і тая, кіруючыся верай у абяцанае выратаваньне, вітае яе як бласлаўлёную, а Папярэднік зварушыўся ва ўлоньні маці (Лук. 1,41-45); пасьля ізноў у моманце нараджэньня, калі Багародзіца ў абрадаваньні паказвае пастырам і Магам Свайго перварароднага Сына, Які не парушыў Ейнае дзявочае чыстасьці, але асьвяціў яе. Калі-ж прадставіла Яго Богу ў сьвятыні, складаючы дар убогіх, пачула Сімяона, які прадказваў адначасна, што Сын будзе знакам супраціўленьня, душу маці праб'е меч, каб вышлі на яў замыслы многіх сэрцаў (Лук. 2,34-35). Згубленае і з тугою шуканае дзіця, Ісуса, знайшлі бацькі ў сьвятыні, занятае тым, што належыць Ягонаму Айцу; і не разумелі слоў Сына. Але Ягоная Маці захавала ўсё гэтае ў Сваім сэрцы, каб разважаць (Лук. 2,41-51)" (Канстытуцыя аб Царкве 57).

**Пытаньні да 46-ае катэхэзы:**

95) Чаму Марыю мы завём Божаю Маці і Багародзіцаю?

**Адказ:** Марыю мы завём Божаю Маці і Багародзіцаю, бо Яна ёсьць Маці Ісуса, Бога-Чалавека.

96) Што гэта значыць, што Марыя ёсьць Бязьвінна Зачатай?

**Адказ:** Марыя ёсьць Бязьвінна Зачатай, бо ад першае хвіліны Свайго існаваньня Яна была вольнай ад першароднага граху.

47-ая КАТЭХЭЗА

# 47. У Ісусе Хрысьце Айцец аб'яўляе сваю выратавальную любоў да людзей.

*"Гэтак кажа Ягвэ-Госпад: Вось Я Сам буду шукаць Сваіх авец і буду імі апекавацца... Выратую іх з усіх месцаў, у якія трапілі яны ў цёмныя, хмурныя дні... загубленую знайду, тую, што заблудзіла вярну назад, скалечаную вылечу, хворую пастаўлю на ногі".* (Ез. 34,11-12.16).

*

Ужо ў падзеях Старога Запавета Бог аб'явіў Сваю выратаваўчую любоў да людзей. Як найлепей бацька абдароўваў іх Сваімі ласкамі. Цераз выбраных мужоў і прарокаў паведамляў людзей аб тым, што хоча іх ратаваць. Прыраўноўваў Сябе да пастыра, які шукае авец і вядзе іх у аўчарнік (Ез. 34, 11-12.16).

У ва ўсёй паўнаце паказаў Бог сваю выратавальную любоў да людзей, калі паслаў Свайго Сына на зямлю: "Бог ёсьць любоў. Божая любоў да нас у тым выявілася, што Бог паслаў на сьвет адзінароднага Свайго Сына, каб мы жылі праз Яго. У тым любоў, што ня мы палюбілі Бога, але што Ён нас палюбіў і паслаў Свайго Сына дзеля зьмілаваньня над нашымі грахамі" (1 Ян. 4,8-10).

Гэтая любоў аб'явілася людзям у навуцы, жыцьці і дзейнасьці Ісуса Хрыста. Ён быў добрым пастырам (Лук. 15,1-7), які шукаў згубленых авец (Ян. 10,11-15). Ён рупіўся аб хворых і грэшніках (Мац. 8 і 9). Спаралізаванаму сказаў: "Мацуйся, дзіця, адпускаюцца табе твае грахі" (Мац. 9,2). А грэшнай жанчыне ў доме Сымона сказаў: "Адпускаюцца табе грахі" (Лук. 7,48). Перайшоў цераз жыцьцё "робячы добра" (Дз. 10,38). Казаў: "Прыйдзеце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжоныя, і Я супакою вас" (Мац. 11,28).

Аб любові Бога да людзей учыў таксама Ісус у прыповесьці аб марнатраўным сыне (Лук. 15,11-32).

Найбольш выразна аб'явілася выратавальная любоў Бога Айца ў сьмерці Ісуса Хрыста: "Бог Сваю любоў да нас даводзіць тым, што Хрыстос памёр за нас" (Рым. 5,8). Бо Бог хацеў праз гэтую сьмерць даць нам надпрыроднае жыцьцё і зрабіць нас Сваімі дзецьмі. "Глядзеце, якую любоў даў нам Айцец, што мы дзяцьмі Божымі завёмся і сапраўды мы імі ёсьць" (1 Ян. 3,1).

*

Выратавальная любоў Бога, якая аб'явілася ў Ісусе Хрысьце, дзейнічае таксама сёньня ў Царкве. Божае Слова, якое абвяшчае Царква, ёсьць Добраю Навіною, якая прапаведуецца ўсім людзям, асабліва ўбогім, пакутуючым, грэшнікам. У Тайне Хросту Хрыстос ратуе чалавека і дае яму Божае сыноўства. У Тайне Пакуты марнатраўны сын вяртаецца да свайго Айца. У Эўхарыстыі становіцца прысутнай Ахвяра нашага выратаваньня, а чалавек найбольш беззаганным спосабам лучыцца з Богам.

**Наш адказ Богу:** У Ісусе Хрысьце, Богу і Чалавеку, любоў Божая сустракаецца з чалавечай любоўю. Злучаны цераз Хрост з Хрыстом буду цэлым жыцьцём любіць Бога.

**Прыклад малітвы:** "Блаславі, душа мая, Госпада і не забывайся аб тым, што Ён табе зрабіў! Ён даруе ўсе твае грахі, вылечвае ўсякую тваю немач, ратуе ад магілы тваё жыцьцё, вянчае цябе ласкай і міласэрнасьцю, насычае дабром тваю старасьць, тваю моладасьць, як і арла, аднаўляе" (Пс. 102, 2-5).

**Божае слова:** “Я ёсьць добры пастыр. Добры пастыр аддае сваё жыцьцё за авец” (Ян. 10,11). – “Сын Чалавечы прыйшоў шукаць і ратаваць тое, што загінула” (Лук. 19,10). – “І хадзіў Ісус па ўсей Галілеі навучаючы ў іхных школах і абвяшчаючы Эвангельле царства ды лякуючы ўсякую хворасьць і ўсякую немач у людзей” (Мац. 4,23). – “Калі прыйшла поўня часу, Бог паслаў Свайго Сына... каб нам даць усынаўленьне” (Кал. 4,4-5).

**Пытаньні да 47-ае катэхэзы:**

97) Праз што Бог аб’явіў Сваю выратавальную любоў да людзей?

**Адказ:** Бог аб’явіў Сваю выратавальную любоў да людзей праз пасланьне на зямлю Свайго Сына і цераз Ягоную сьмерць на Крыжы.

98) Калі і як аб’яўляе Бог сёньня Сваю выратавальную любоў да людзей?

**Адказ:** Сваю выратавальную любоў да людзей Бог сёньня аб’яўляе ў Царкве праз прапаведваньне Добрай Навіны і праз сьвятые тайны.

48-ая КАТЭХЭЗА

# 48. Ісус Хрыстос зьбірае сапраўдных паклоньнікаў Айца – Новы Божы народ.

*“Прыходзе час, дый ужо прыйшоў, калі праўдзівыя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэткіх паклоньнікаў шукае Сабе Айцец”* (Ян. 4,23).

*

Бог хоча ратаваць сьвет і для гэтае мэты паслужыўся выбраным народам. Аб’явіўся яму і заключыў зь імі Запавет. Гэты Запавет у планах Божых быў падрыхтаваньнем да Новага Запавету, які Бог меў заключыць з “новым народам”. Прадказваюць яго прарокі: У ізраільскім народзе паўстане “Слуга Ягвэ”, які зьбярэ каля сябе людзей верных Богу. Яны разрастуцца ў новы, сьвяты народ Божы (Іс. 52,13-53,12). Гэты народ будзе кіравацца законам выпісаным на сэрцах (Ер. 31,33), а Бог выльле на яго свой Дух (Ез. 36,25).

Прадказаньні прарокаў споўніліся ў Ісусе Хрысьце. Ён – “павадыр, які будзе кіраваць гэбрайскім народам” (Мац. 2,6; Міх. 5,2).

Ад хросту ў Ярдане Ісус абходзіў усю Галілею, вучачы ў школах і абвяшчаючы Эвангельле Царства. І слава аб Ім разышлася па ўсей краіне і ішлі за Ім вялікія грамады (Мац. 4,23). Шмат людзей паверыла ў Яго і пакланілася Айцу.

З паміж сваіх староньнікаў Ісус дабіраў сабе вучняў (Лук. 9,59-62 і 10,1), якія з Ягонага дазволу навучалі і рабілі цуды.

З групы вучняў Ісус выбраў дванаццаць, якіх назваў апосталамі (гэта значыць пасланцамі, Лук. 6,13) і зрабіў сваімі прыяцелямі. Разам з імі прабываў, тлумачачы ім тайны Божага Валадарства (Мац. 13,11).

З усіх апосталаў Хрыстос адзначваў рыбака з-над возера Генісарэт, Сымона, сына Ёны. Назваў яго Пятром, што па-грэцку значыць скала, камень. З ягонае лодкі навучаў мноства людзей, якія сабраліся на берагу, а пасьля загадаў яму “выехаць на глыбіну” і закінуць невад, які захваціў столькі рыбы, што Пётр аж спалохаўся. А Хрыстос сказаў яму: “Ня бойся. Ад гэтага часу будзеш лавіць людзей!” (Лук. 5,10). Пётр і два Сыны Зэбэдэя, Якуб і Ян, былі сьведкамі, як Хрыстос перамяніўся на гарэ Табор і як маліўся перад крыжовай сьмерцю ў Гэтсіманскім аліўкавым садзе.

Адзін раз Пётр, адказваючы ад імя апосталаў Ісусу, сказаў: “Ты ёсьць Хрыстос, Сын Бога Жывога!” Тады Ісус сказаў яму: “Шчасьлівы Ты, Сымон, сын Ёны! Бо ня цела і кроў падказалі табе гэта, але Айцец мой, Які ёсьць у небе. Дык і Я табе кажу, што ты – скала (Пётр) і на гэтай скале я збудую Маю

Царкву і пякельныя брамы не пераможуць яе. І табе дам ключы нябеснага Валадарства і што ты зьвяжаш на зямлі, будзе зьвязана і на небе і што разьвяжаш на зямлі, будзе разьвязана і ў небе” (Мац. 16,16-19).

З гэтых веруючых, вучняў і апосталаў сабраных навокал Ісуса Хрыста, паўставаў “новы Божы народ”. І калі гэбрайскі народ не пажадаў прыняць Хрыста, усе яны, як новы выбраны народ, атрымалі ўсю спадчыну Божых прырачэньняў (Рым. 11,7).

*

“Малы статак”, аўчарнік Добрага Пастыра (Ян. 10) дзейнічаў пачаткова сярод гэбраяў (Мац. 10,5). Пасьля Ўваскрасеньня Ісуса ён абняў сваім уплывам і дзейнасьцю ўсе народы і стаўся вялікаю Божаю Царквою. Царква, новы “Божы народ”, “ёсьць зародкам еднасьці, надзеі і выратаваньня для ўсяго чалавечага роду. Устаноўленая Хрыстом, дзеля супольнасьці жыцьця, любові і праўды, служыць яму як прылада выратаваньня ўсіх і пасылаецца на ўвесь сьвет як сьвятло сьвету і соль зямлі” (Канстытуцыя аб Царкве 9).

**Наш адказ Богу:** Бог выбраў мяне і паклікаў у Свой народ. Хачу ў ім быць сапраўдным паклоньнікам Айца, Які ёсьць у небе: верыць у Яго, любіць яго штораз вярней і пакланяцца Яму словам і ўчынкамі.

**Прыклад малітвы:** Божа, Ты вызваліў Сваю Царкву ад страху пякельных брамаў асноўваючы яе на моцнай апостальскай Скале, дай, каб яна трывала ў Тваёй праўдзе і ўзмацоўвалася ў пастаяннай бязьпецы (З лацінскай літургіі на ўрачыстасьць сьвятога папы).

**Божае слова:** “А калі Ён праходзіў берагам Галілейскага возера, убачыў двух братоў, Сымона, званага Пятром, і ягонага брата, Андрэя, як закідвалі сець у возера; бо яны былі рыбакамі. І кажа да іх: ідзеце за Мною і Я зраблю вас лаўцамі людзей” (Мац. 4,18-19). “А Ісус глянуўшы на яго сказаў: Ты – Сымон, Сын Ёны, Ты будзеш звацца Кіфа, што значыць камень (Пётр)” (Ян. 1,42).

**З Акружнога Пасланьня Піуса XII аб містычным Целе Хрыста**: “Будову Царквы пачаў Божы Выратавальнік ужо тады, калі навучаў і абвяшчаў Божыя загады. Тады выбраў апосталаў і паслаў іх...”

**Пытаньне да 48-ае катэхэзы:**

99) Калі Ісус пачаў сабіраць новы Божы народ?

**Адказ:** Ісус пачаў сабіраць новы Божы народ – Царкву ў часе Свае публічнае дзейнасьці.

49-ая КАТЭХЭЗА

# 49. Ісус Хрыстос вучыць маліцца да Айца.

*“Сказаў ім (Хрыстос): Калі молецеся, кажыце (Лук. 11,2):*
*Ойча наш, каторы ёсьць у небе.*
*Сьвяціся імя Тваё.*
*Прыйдзі валадарства Тваё.*
*Будзь Твая воля, як у небе, так і на зямлі.*
*Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня.*
*І адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым.*
*І ня ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога”* (Мац. 6,9-13).

*

Ісус часта маліўся. Рабіў гэта асабліва тады, калі мелі здарыцца выратавальныя падзеі. Гэтак учыніў у Кафарнауме пасьля аздараўленьня Сымонавай цешчы і іншых хворых, калі абяцаў, што будзе абвяшчаць Эвангельле также іншым гарадом (Мар. 1,35). Таксама зрабіў пасьля памнажэньня хлеба (Мац. 14,23; Ян. 6), па каторым наступіла гутарка аб

Эўхарыстыі, якую Хрыстос абяцаў устанавіць. Маліўся на гарэ Табор, калі перамяніўся перад вучнямі (Лук. 9,28-29).

Маліўся перад ускрашэньнем Лазара (Ян. 11,41-42). Маліўся таксама на Апошняй Вячэры (Ян. 17,1-26). Асабліва горача маліўся ў Аліўкавым Садзе перад Сваёй пакутнай сьмерцю (Мац. 16, 35-44). На крыжы маліўся за тых, што Яго крыжавалі.

Ісус загадаў таксама апосталам, каб безупынна, добра і вытрывала маліліся, бо такая малітва ёсьць усемагутнай: "Прасіце, і будзе вам дадзена; шукайце і знойдзеце; стукайцеся і адчыняць вам" (Мац. 7,7). У прыповесьцях навучаў, што малітва павінна быць пакорнай як малітва мытніка, што трэба маліцца з надзеяй: "Усё, чаго б вы ні прасілі ў малітве, верце, што атрымаеце і будзе вам" (Мар. 11,24).

Адзін раз вучні папрасілі Ісуса, каб навучыў іх маліцца. Ісус сказаў ім тады як яны маюць маліцца і як павінна выглядаць іхняя малітва. Навучыў іх малітвы "Ойча наш", якую мы дзеля гэтага і завём "Малітвай Гасподняй". Паводле гэтае малітвы хрысьціянін павінен зьвяртацца да Бога як да Айца, з верай, любоўю і адданасьцю. Мае прасіць Яго перадусім аб тым, каб усе людзі пакланяліся Богу, будавалі Ягонае Валадарства і спаўнялі Ягоную волю на зямлі так верна і ахвотна, як яе спаўняюць ангелы ў небе.

Хрыстос кажа таксама, каб мы паручалі Богу ўсе нашыя турботы, прасілі ў Яго штодзённага хлеба, асабліва-ж, каб нам дараваў нашыя грахі, і то ў такой меры, у якой мы адпускаем нашым вінаватым. Кажа маліцца, каб Бог памагаў нам перамагаць спакусы і каб нас ратаваў ад злога.

*

Царква ў літургіі моліцца паводле Хрыстовых радаў. Аддае пашану і славу Айцу, просіць аб прыходзе Божага Валадарства, аб узаемнай любові і еднасьці хрысьціянаў і ўсіх людзей. Перадусім робіць гэта ў малітвах вернікаў. Гэтак званы Канон сьвятой Літургіі выражае ўсе просьбы першае часьці "Гасподняе Малітвы". Каб выразіць супольнасьць усіх веруючых, сабраных навокал Хрыста, усе прысутныя на сьвятой Літургіі адгаворваюць перад Прычасьцем або пяюць "Ойча наш".

**Наш адказ Богу:** Пастараюся ахвотней маліцца з Царквою і прыватна, паводле навукі Хрыста.

**Прыклад малітвы:** Госпадзе, Ісусе Хрысьце, Ты сказаў Сваім Апосталам: мір Мой пакідаю Вам, мір Мой даю вам, не зважай на мае грахі, але на веру Сваёй Царквы і паводле Сваёй волі будзь ласкавы абдараваць яе мірам і ўмацаваць у еднасьці. Ты што жывеш і валадарыш праз усе векі вечныя. Амін (Малітва сьвятара перад Прычасьцем у лацінскай Літургіі).

**Божае слова:** "Аб чым толькі папросіце ў імя Маё, Я зраблю, каб Айцец праславіўся ў Сыне" (Ян. 14,13). – "Калі будзеце ў-ва Мне, і словы Мае ў вас будуць, тады чаго хочаце, прасіце, і станецца вам" (Ян. 15,7). – "Просіце і не атрымліваеце, бо просіце кепска, стараючыся толькі здаволіць свае пажаданьні" (Як. 4,3).

**Традыцыя:** "Малітва Гасподняя абымае ня толькі тое, што ёсьць сутным у кожнай малітве, мяноўна праслаўленьне Бога і просьбу з боку чалавека, але і ўсё амаль Божае Слова, увесь зьмест навукі, так што ў малітве знаходзіцца "сапраўды скарочаны зьмест усяго Эвангельля" (Тэртуліан, Аб малітве, разьд. 1).

**Пытаньні да 49-ае катэхэзы:**

100) Аб чым трэба маліцца?

**Адказ:** Трэба маліцца перадусім аб 1) прыходзе Вожага Валадарства і нашым выратаваньні ды 2) аб нашых жыцьцёвых справах.

101) Як трэба маліцца?

**Адказ:** Маліцца трэба: пакорна, з надзеяй, вытрывала і згаджаючыся з воляй Божай.

50-ая КАТЭХЭЗА

## 50. На апошняй вячэры Хрыстос прадказвае сваю сьмерць і ўстанаўляе яе памятку

*“Вечарам перад Сваёй пакутнай сьмерцю Ісус сеў за стол з дванаццацьцю апосталамі і сказаў ім: “Вельмі ж Я жадаў есьць гэтую Пасхальную Вячэру з вамі перш, чым буду цярпець”. І ўзяўшы хлеб падзякаваў Богу, ламаў і даваў вучням кажучы: “Прыміце, ешце, гэта ёсьць Цела Маё, за вас ламанае”. Пасьля ўзяў чару і гэтак сама дзякаваўшы даў яе вучням кажучы: “Піце зь яе ўсе, бо гэта ёсьць Кроў Мая Новага Запавету, Якая ліецца за многіх дзеля дараваньня грахоў. Рабіце гэта на ўспамін аба Мне”* (Мац. 26,26-28; Мар. 14,17-25; Лук. 22,14-20; 1 Кар. 11,23-26).

*

Перад Сваёй мукай Ісус урачыста павячэраў з апосталамі паводле гэбрайскага звычаю на ўспамін аб выхадзе з Егіпту. Пасхальнаяе Ягня, прэсная маца, падзячныя малітвы і словы, якія гаварыў галава сям’і на гэтай вячэры, усё гэта прыпамінала вызваленьне з няволі ды заключэньне запавету. Пасхальная Вячэра была таксама прарочым вобразам банкету і шчасьця ў будучым Божым Валадарстве (Іс. 25, 6 і 65,13).

Накарміўшы цудоўна мноства народа на пустыні, Хрыстос абяцаў, што дасьць людзям есьці Сваё цела і піць Сваю Кроў як задатак вечнага жыцьця. “Я – хлеб жывы, што зыйшоў з неба. Хто есьць гэты хлеб, жыць будзе вечна. Хлеб жа, які Я дам, ёсьць Цела Маё, каторае Я аддам за жыцьцё сьвету” (Ян. 6,51). Гэтае прадказаньне Хрыстос споўніў на Апошняй Вячэры. На гэты пасхальны банкет Хрыстос падрыхтаваў Сваіх вучняў асаблівым спосабам: вымыў ім ногі (Ян. 13,1 і н.). Зрабіў гэта на знак, што яны павінны адзін аднаго любіць і служыць адзін аднаму.

У часе пасхальнай вячэры, споўніўшы ўсё, чаго вымагаў звычай, Ісус адгаварыў падзячную малітву, якая па-грэцку завецца Эўхарыстыя, і, паламаўшы хлеб, раздаў яго вучням, кажучы: “Прыміце, ешце, гэта ёсьць Цела Маё, што за вас даецца на мукі”. Пасьля ўзяў чару і падзякаваўшы, даў яе вучням, кажучы: “Піце зь яе ўсе, бо гэта ёсьць Мая Кроў, Кроў Новага Запавета, Якая за вас і за многіх будзе пралітая на адпушчэньне грахоў. Рабіце гэта на ўспамін аба Мне”. Апосталы добра ведалі, што Хрыстос заўсёды гаварыў праўду, дык калі даючы ім хлеб сказаў: “Гэта Маё цела”, яны зразумелі так, як і нам перадалі, што гэта ўжо ня быў хлеб, але цела Хрыста, хоць выгляд хлеба аніколькі не зьмяніўся, ані смак, ані запах, бо інакш словы Хрыста былі б не праўдзівыя, Хрыстос не сказаў: гэты вось хлеб ёсьць маё цела. Тады яшчэ можна было б думаць, што хлеб толькі ёсьць знакам ці сымбалам Хрыстовага цела. Але калі Хрыстос кажа: гэта вось, што вы бачыце, ёсьць маё цела, то тут немагчыма ўжо аніякае іншае тлумачэньне, як толькі тое, што гэты хлеб пасьля слоў Хрыстовых ня мог ужо быць хлебам так сама, як немагчыма, каб Хрыстос Бог-Чалавек мог сказаць няпраўду. Гэтак сама і віно, калі даючы Яго Хрыстос сказаў: гэта ёсьць Мая кроў, не магло ўжо ня быць Ягонаю Крывёю.

На Апошняй Вячэры Хрыстос ахвяраваў Сваё Цела і Кроў Богу-Айцу за людзей. Ён ведаў, што заўтра памрэ на кржыы. Даючы вучням Цела і Кроў пад выглядам хлеба і віна, Ісус паказаў у прарочым вобразе Сваю сьмерць. Ён так быў увесь зранены, што на Крыжы ўся Кроў выйшла з Яго і калі Ён

памёр, то яшчэ рымскі жаўнер прабіў Яму дзідай бок і сэрца. Так што апошняя кроў і нават вада выйшла зь Яго. Гэта вось і выразіў Хрыстос, ужываючы хлеб і віно, каб містычна паказаць тое аддзяленьне цела ад крыві, якое наступіла пры Ягонай сьмерці. Але на Апошняй Вячэры Хрыстос быў яшчэ жывы і гэтага аддзяленьня яшчэ не было, дык апосталы прымаючы як цела так і кроў Хрыста пад выглядам хлеба ці віна заўсёды прыймалі жывога Хрыста, так што споўнілася тут першы раз Ягонае прадказаньне: “Хто есьць цела Маё і п’е кроў Маю, у ва Мне ёсьць і Я ў ім” (Ян. 6,56). Гэта было першае сьвятое Прычасьце апосталаў.

Славамі: “Рабіце гэта на ўспамін аба Мне”, Хрыстос загадаў паўтараць тое, што Ён тады зрабіў. Гэтым самым Ён даў Сваім вучням сілу перамяняць Ягонымі словамі хлеб у Ягонае Цела і віно ў Ягоную Кроў. Дзеля таго, што Ягоная сьмерць на крыжы была выратавальнай Ахвярай, якую Хрыстос ахвяраваў Богу, такой самай ахвярай было і тое, што яе выразіла на Апошняй Вячэры і тое, што яе цяпер прыпамінае, калі цераз Сваіх сьвятароў у Царкве Хрыстос паўтарае ўстаноўленую на Апошняй Вячэры Містэрыю, якую мы сёньня завём сьвятой Літургіяй. Паўтарэньне “Госпадавай вячэры” ёсьць “успамінам Госпада” і “абвяшчэньнем Ягонае сьмерці”. Яно будзе трываць аж покуль Хрыстос ня прыйдзе другі раз.

*

На Апошняй Вячэры Ісус Хрыстос прынёс Богу Ахвяру, Якая ёсьць адно з Ахвярай прынесенай на крыжы. Тут і там ёсьць тыя самыя ахвярныя дары: Цела і Кроў Сына Божага. Тут і там ёсьць той самы Сьвятар: Ісус Хрыстос, які ахвяраваў Сябе Самога за людзей.

Таксама і на кожнай сьвятой Літургіі ёсьць тыя самыя дары ахвярныя і той самы Сьвятар. Толькі ў сьвятой Літургіі Цела Хрыстовае ёсьць ужо праслаўленае і кроў праслаўленая, бо прыносіць іх ужо праслаўлены Хрыстос пасьля Свайго Ўваскрасеньня. Таму **Эўхарыстыя** ёсьць памяткай і прыбліжэньнем да нас усёй Пасхальнай Містэрыі, гэта значыць сьмерці і ўваскрасеньня Ісуса Хрыста.

Веруючые прымаюць удзел у эўхарыстычнай Ахвяры цераз прыманьне Цела і Крыві Госпада. Яны лучацца тады найцясьней з Хрыстом і атрымліваюць задатак вечнага жыцьця (Ян. 6,56-60).

Царква перажывае падзеі Апошняй Вячэры асабліва ўрачыста ў Літургіі ў Вялікі Чацьвер. Сувязь жа Эўхарыстыі з Пасхальнай Містэрыяй Царква стараецца паказаць у Літургіі Вялікае Суботы.

**Наш адказ Богу:** Хачу сьведама прымаць удзел у Найсьвяцейшай Ахвяры Новага Запавета з увагай, удзячнасьцю і любоўю.

**Прыклад малітвы:** Божа, што ў дзіўнай Тайне пакінуў нам памяць Тваёй мукі, дазволь нам, просім Цябе, такую пашану аказваць сьвятым тайнам Твайго Цела і Крыві, каб мы заўсёды адчувалі ў сабе плады Твайго Адкупленьня.

**Божае слова:** “Чара баслаўленьня, якую баслаўляем, ці-ж ня ёсьць супольнасьцю Крыві Хрыстовае? Хлеб, што ламаем, ці-ж ня ёсьць супольнасьць Цела Хрыстовага?” (1 Кар. 10,16).

**Пытаньні да 50-ае катэхэзы:**

102) У якіх словах устанаўленьня Эўхарыстыі прадказаў Хрыстос Сваю сьмерць?

**Адказ:** Хрыстос прадказаў сваю сьмерць у словах: “Гэта ёсьць Маё Цела, якое будзе выдана” і “Гэта ёсьць Кроў, якая будзе пралітая”.

103) Што прыпамінае нам і робіць прысутным Эўхарыстыя?

**Адказ:** Эўхарыстыя прыпамінае нам і робіць прысутнымі сьмерць і ўваскрасеньне Ісуса Хрыста.

51-ая КАТЭХЭЗА

# 51. “Таму і любіць Мяне Айцец, што Я жыцьцё Сваё аддаў, каб ізноў узяць яго. Ніхто не аднімае яго ў Мяне, але Я сам аддаў яго: бо маю ўладу аддаць яго і ўладу ізноў узяць яго. Гэты загад дастаў Я ад Айца Майго” (Ян. 10,17-18).

Сьмерць на крыжы была вялікім паніжэньнем, а для гэбраяў яшчэ і знакам Божага пракляцьця (Кал. 3,13); для паганцаў крыж быў знакам ганьбы і пагарды, як кара нявольнікаў і злачынцаў.

Хрыстос прыняў сьмерць на крыжы дабравольна. “Ведаю аб усім, што зь Ім будзе” (Ян. 18,4). Яшчэ ў Галілеі, пасьля таго як перамяніўся на гары, сказаў апосталам: “Сын чалавечы будзе выданы ў рукі людзей і заб’юць яго, але на трэці дзень уваскрэсьне” (Мац. 17,21-22). Прадказаньне Сваёй сьмерці паўтарыў, калі апошні раз ішоў у Ерусалім: “Вось ідзём у Ерусалім, і Сын Чалавечы выданы будзе архірэям і кніжнікам, і засудзяць Яго на сьмерць; і выдаюць Яго паганцам на зьдзек і біцьцё і ўкрыжаваньне; і на трэці дзень уваскрэсьне” (Мац. 20,18-19). Ісус не адступіў перад мукай і не перашкодзіў ёй, хоць мог гэта зрабіць (Ян. 18,4-5). Хрыстос праз усё Сваё жыцьцё быў паслушны Айцу, бо толькі гэтай паслухмянасьцю Ён мог праканаць людзей, што Ён сапраўды любіць Айца больш чым Самога Сябе. Любоў у Ім прыняла форму паслухмянасьці, а найвышэйшую паслухмянасьць паказаў прыймаючы дабравольна пакутную сьмерць на крыжы. Таму і Айцец, хоць любіць Сына больш чым Самога Сябе, дазволіў Яму на гэта.

Гэтая дасканалая паслухмянасьць Ісуса Хрыста была прадказана прарокамі. Сам Хрыстос выразна гаварыў аб гэтым: “Сын Чалавечы не прыйшоў, каб яму служылі, але каб паслужыць і аддаць душу Сваю на выкупленьне многіх” (Мар. 10,45; Іс. 53,4). А на Апошняй Вячэры сказаў: “Кажу вам, што павінна выпаўніцца на Мне тое, што напісана: і да злачынцаў залічаны. Бо ўсё на Мне спаўняецца (Лук. 22,37; Іс. 53,12). Ісусавы вучні таксама вучылі, што Ён быў тым праз пракорокаў прадказаным “Слугою Ягвэ”, які самога сябе склаў на ахвяру за грэшнікаў (Дз. 8,32-35; Іс. 53,7).

Пасьля Ахвяры, якую прынёс Богу Сын Божы, зрабіліся няважнымі ахвяры Старога Запавета, якія толькі прадказвалі Ахвяру Хрыста.

Ісус Хрыстос направіў парушаны грахамі парадак Божае справядлівасьці. Ён зрабіў гэта як “другі Адам”, як Галава новага, адроджанага чалавецтва: “Як непаслухмянасьцю аднаго чалавека многія зрабіліся грэшнымі, так і паслухмянасьцю аднаго ўсе стануцца праведнымі” (Рым. 5,19). Канстытуцыя аб Царкве Другога Ватыканскага Сабору кажа: “Ісус Хрыстос цераз Сваю паслухмянасьць зьдзейсьніў выратаваньне” (№ 3).

*

Дзеля таго, што Ісус Хрыстос адпакутаваў перад Божай справядлівасьцю за грахі ўсіх людзей, кожны з нас напраўляе несправядлівасьць свайго граху тым, што лучыцца з Хрыстом, адзіным Пасрэднікам. Адбываецца гэта ў тайнах Хросту, Пакуты і Эўхарыстыі. Патрэба толькі, каб і нас ажыўляў той самы дух сыноўскае паслухмянасьці, якім адзначаўся Хрыстос. Гэтага духа мы вучымся ад Ягонае Маці.

У лацінскім абрадзе Царква пасьвячае літургічнаму разважаньню цярпеньняў Госпада нашага Ісуса Хрыста два тыдні перад Вялікаднем. Разважае Ягоную паслухмянасьць, пяючы псальмы, якія ёсьць малітвай нявінна прасьледаванага (Псальмы: 21,42,68,142).

Сьмерць Выратавальніка Царква перажывае ў Вялікую Пятніцу. На знак жалобы ў гэты дзень сьвятой літургіі не бывае. У лацінскім абрадзе адбываецца пакланеньне сьвятому Крыжу, якое на Ўсходзе бывае ў трэцюю нядзелю Вялікага Посту.

**Наш адказ Богу:** Буду часта разважаць цярпеньні і сьмерць майго Выратавальніка, а ў Вялікую Пятніцу буду абавязкова ў сьвятыні на літургічным набажэнстве.

**Прыклад малітвы:** Кланяемся Табе, Хрысьце і блаславуляем Цябе, бо цераз сьвяты Свой Крыж Ты адкупіў сьвет.

Крыжу Твайму пакланяемся, Уладару наш, і сьвятое Тваё Ўваскрасеньне славім.

**Божае слова:** “Хадзіце ў любові, як і Хрыстос палюбіў нас і выдаў Сябе за нас, як дар і ахвяру Богу, на пах прыемны” (Эф. 5.2).

**Пытаньне да 51-ае катэхэзы:**

104) Што зьдзейсьніў Хрыстос цераз Сваю паслухмянасьць аж да сьмерці на крыжы?

**Адказ:** Цераз Сваю паслухмянасьць аж да сьмерці на крыжы Хрыстос ПРЫНЁС АХВЯРУ за грахі ўсіх людзей.

52-ая КАТЭХЭЗА

# 52. Ісус Хрыстос цераз сваю пакутную сьмерць на крыжы прымірыў людзей з Богам.

*“Мы прымірыліся з Богам праз сьмерць Ягонага Сына”* (Рым. 5,10).

Каля дзевятае гадзіны Ісус сказаў: “Збылося!” Пасьля клічучы моцным голасам сказаў: “Айцец, у рукі Твае аддаў дух Мой!” І схіліўшы галаву аддаў дух (Ян. 19,30; Лук. 23,46).

Ісус выпаўніў волю Айца аж да сьмерці ў вялікіх муках на крыжы. Ён гаварыў: “Каб сьвет ведаў, што Я люблю Айца, і як загадаў Мне Айцец, так раблю” (Ян. 14,31).

Адначасна Ісус любіў нас, людзей. “Ніхто ня мае любві большае за тую – казаў Ён – калі хто аддасьць жыцьцё за другаў сваіх” (Ян. 15,13). Мукі пераносіў з найвялікшай цярплівасьцю. “Калі Яго зьневажалі, Ён не зьневажаў у аддачу, церпячы мукі, не пагражаў” (1 Пятр. 2,23; Іс. 53,7). На крыжы маліўся да Айца за ворагаў (Лук. 23,34). Цераз Ісуса Хрыста і праз Ягоную Ахвяру аб’явілася “дабрата і ласкавасьць Збавіцеля нашага, Бога” (Ціт. 3,4). Бог так любіць людзей, што даў Свайго Сына, каб чалавека вызваліць ад граху (1 Ян. 4,9-10). Сын Божы прыняў на Сябе нашыя грахі (Рым. 8,5). Бог “дзеля нас зрабіў грахом Таго, хто граху ня ведаў, каб мы ў Ім сталіся праведнасьцю Божай” (2 Кар. 5,21).

Калісьці кроў ягняці выратавала гэбрайскіх дзяцей ад сьмерці (Выхад. 12). Гэта было прадказаньне выратаваньня ўсяго чалавечага роду цераз Кроў Сапраўднага Пасхальнага Ягняці, Ісуса Хрыста. Яно споўнілася ў Хрыстовай сьмерці, цераз якую ўсе людзі аказаліся выратаванымі або вызваленымі з няволі граху. Бог пакіраваў, што Хрыстос памёр якраз тады, калі гэбраі абходзілі Пасху.

Калісьці Бог, вызваляючы выбраны народ з егіпецкае няволі, набыў яго Сабе на ўласнасьць. Цяпер цаною Сваёй Крыві Ісус Хрыстос **адкупіў** нас, што

**нанова** набыў нас для Бога (Гэбр. 9,12). Людзі ізноў сталіся ўласнасьцю Божай, усыноўленымі Божымі дзяцьмі (Ян. 1, 12).

Стары Запавет быў падрыхтаваньнем Новага і скончыўся са сьмерцю Хрыста. На крыжы быў заключаны **Новы Запавет**, Запавет Бога з усімі людзьмі. Прыпячатвала яго "Кроў пралітая дзеля дараваньня грахоў" (Мац. 26,28).

Гэтак вось у Ісусе Хрысьце Бог пагадзіў з Сабою сьвет. Ісус ёсьць **Выратавальнікам сьвету**. "У ім маем адкупленьне цераз Ягоную Кроў, адпушчэньне грахоў" (Эф. 1,7; Кал.1,20).

У часе сьмерці Выратавальніка нарадзілася і атрымала жыцьцё Хрыстовая Царква. "З боку ўміраючага на крыжы Хрыста нарадзілася дзіўная тайна ўсяе Царквы" (Канстытуцыя аб Царкве 5).

"Вісячы на крыжы закончыў Хрыстос будаваньне містычнае сьвятыні Свае Царквы. Крывёю, пралітай на крыжы, залагодзіў Божы гнеў і зрабіў, што ўсе нябесныя дары, а перадусім тайны Новага і Вечнага Запавету, маглі пацячы з крыніц Адкупіцеля на выратаваньне людзей. На дрэве крыжа прыдбаў Сабе Сваю Царкву, гэта значыць усе члены Свайго містычнага Цела" (Пій XII, Акружное Пасланьне аб містычным Хрыстовым Целе).

Тайну нашага Выратаваньня Царква перажывае ў Вялікаю Суботу. У лацінскім абрадзе цяпер пасьля літургічнае рэформы Служба Божая адбываецца вечарам да паўночы. Цераз сувязь з Пасхай Старога Запавету гэтае Сьвяткаваньне таксама называецца Пасхай. Літургія пасхальнае начы тлумачыць нябачныя рэчы бачнымі і матэрыяльнымі знакамі, паслугоўваючыся сьвятлом, агнём і вадою.

Сымбалем Хрыста Выратавальніка ёсьць пасхальная сьвечка, якая і завецца пасхал. Хрыстос – гэта сьвятло, якое разьясьняе начную цемру граху. Ён робіць, што мы з цемры пераходзім у сьвятло (Эф. 5,8). Ён збавіў нас "праз купелю адраджэньня і абнаўленьня" (Ціт. 3,5), гэта значыць цераз сьвяты Хрост. "Цяпер ужо няма асуджэньня тым, што ў Хрысьце ходзяць" (Рым. 8,1).

У Вялікую Суботу Царква перажывае свой Хрост. Тыя, што яго ўжо атрымалі, паўтараюць прырачэньні дадзеныя пры хросьце, а катэхумены цераз Хрост улучаюцца ў новы Божы народ. Цераз Хрост мы становімся падобнымі да Хрыста: "Бо, усе вы, што ў Хрыста ахрысьціліся, у Хрыста апрануліся" (Гал. 3,27). – "Мы пахавалі сябе з Ім хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрос з памёрлых цераз славу Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці" (Рым. 6,4).

**Наш адказ Богу:** Цераз Хрост я ўлучыўся ў Божы народ Новага Запавету. Аднаўляючы што год прырачэньні Хросту ў Вялікую Суботу, я хачу жыць як адкуплены Крывёй Хрыста.

**Божае слова:** (Хрыстос) "удасканаліўшыся, зрабіўся для ўсіх, хто Яму паслухмяны, прычынаю вечнага збаўленьня" (Гэбр. 5,9). – "Не трухлеючым серабром ці золатам адкуплены вы ад марнага жыцьця, данага вам ад айцоў, але шматкаштоўнаю крывёю Хрыста, як чыстага ягняці без хібы" (1 Пятр. 1,18-19). – "І мы бачылі і сьведчым, што Айцец паслаў Сына, Збавіцеля сьвету" (1 Ян. 4,14).

**Навука Царквы:** "Прадвечны Айцец, паводле як найбольш свабоднага і таемнага замеру Свае мудрасьці і дабраты, стварыў увесь сьвет, а людзей пастанавіў падняць да ўдзелу ў Божым жыцьці; дык не пакінуў іх пасьля граху ў Адаме, даючы ім безупынна помач да збаўленьня, праз погляд на Хрыста, Адкупіцеля..." (Канстытуцыя аб Царкве 2).

**Пытаньні да 52-ой катэхэзы:**

105) Што выслужыў нам Ісус Хрыстос цераз Сваю муку і Сьмерць на крыжы?

**Адказ:** Цераз муку і сьмерць на крыжы Ісус Хрыстос выслужыў нам выратаваньне ад грахоў і прымірэньне з Богам.

106) Што ўлучае чалавека ў Хрыстовае выратаваньне?

**Адказ:** У Хрыстовае выратаваньне чалавек улучаецца цераз Хрост.

107) Калі нарадзілася Хрыстовая Царква?

**Адказ:** Хрыстовая Царква нарадзілася ў момант заключэньня Новага Запавету, гэта значыць у момант сьмерці Хрыста на крыжы.

53-яя КАТЭХЭЗА

# 53. Ісус Хрыстос ёсьць сьвятаром Новага і Вечнага Запавету.

*“Хрыстос палюбіў нас і выдаў Сябе за нас на ахвяру”* (Эф. 5,2).

“Хрыстос, зьявіўся, як Архірэй, ... не з крывёю казлоў і цялят, але з уласнай крывёю адзін раз увайшоў у сьвятыню, знайшоўшы вечнае адкупленьне. Бо, калі кроў быкоў і кароў... асьвячае на чыстасьць цела, дык наколькі болей Кроў Хрыста, Які Духам Сьвятым прынёс Сябе беззаганнага Богу, ачысьціць вашае сумленьне ад мёртвых дзел, каб вы маглі служыць Жывому Богу? Дзеля таго Ён ёсьць Пасрэднік Новага Запавету” (Гэбр. 9,11-15).

*

У Старым Запавеце Бог паклікаў шмат сьвятароў. Шмат таксама прынасілася ахвяраў. Яшчэ пры жыцьці Хрыста ў ерусалімскай сьвятыні сьвятары прынасілі Богу розныя ахвяры. Сьвятарства Старога Запавету было “вобразам” Хрыстовага сьвятарства.

Той, хто прыносіць ахвяру, ёсьць сьвятаром. Хрыстос, Які “быў заколены, як нашая Пасха” (1 Кар.5,7), ёсьць адначасова сьвятаром і ахвярай. Ён Сам Сябе ахвяраваў. Ягоная ахвяра мае нясканчоную вартаснасьць, бо яе зляжыў Божы Сын.

Ахвяра Ісуса Хрыста заключае і зацьвярджае Новы Запавет паміж Богам і “новым Божым народам”. Як пры заключэньні Старога Запавету на Сынаі была прынесена на ахвяру кроў ягняці, гэтак сама пры заключэньні Новага Запавету на Кальварыі была праліта Кроў Хрыста, “чыстага Ягняці бяз хібы” (1 Пятр. 1,19).

Ахвяра Ісуса Хрыста ёсьць адзінай Ахвярай Новага Запавету. Яна была прынесена толькі адзін раз, ад імя ўсіх людзей, за ўсе грахі, дык трывае вечна (Гэбр. 10,10-14). Гэтая Ахвяра становіцца прысутнай у кожнай сьвятой Літургіі.

Ісус Хрыстос ёсьць Архірэям і Пасрэднікам Новага Запавету. Ён ёсьць Пасрэднікам найдасканалейшым, бо Ён ёсьць адначасна Богам і Чалавекам. Сьвятаром і Пасрэднікам Ён стаўся ўжо ў моманце ўцелаўленьня або ўчалавечаньня. Ахвяру прынёс на крыжы. Выконвае Сваё сьвятарства пасьля паўстаньня з памёрлых. Жывучы ў Айца вечна праслаўляе Яго ды заступаецца за нас (Гэбр. 7,25).

*

Няма для нас іншага шляху да Айца, як толькі цераз Ісуса Хрыста, нашага Пасрэдніка. Літургія Царквы ёсьць удзелам у сьвятарскай дзейнасьці Хрыста. Царква разам з Хрыстом аддае Богу пашану, дзякуе Яму, перапрашае Яго ды

просіць аб помачы, якая завецца ласкай. Цэнтрам літургіі Царквы ёсьць Эўхарыстыя, безупынная Ахвяра Хрыста-Архірэя.

І ад Бога няма іншага шляху да людзей, як толькі цераз Ісуса Хрыста, Пасрэдніка. Усе дары і ласкі ад Бога прыходзяць да нас цераз нашага Выратавальніка, Які дзейнічае і асьвячае нас перадусім у тайнах.

Царква заўсёды помніць аб гэтым. Колькі разоў зьвяртаецца да Бога, заўсёды робіць гэта “цераз Госпада нашага Ісуса Хрыста” (лацінскі абрад).

**Наш адказ Богу:** Дзеля таго, што ў літургіі Царквы мы лучымся з Хрыстом-Архірэям, буду прымаць удзел у гэтай літургіі заўсёды з найбольшай увагай і пабожнасьцю, каб быць падобным да Хрыста.

**Прыклад малітвы:** Цераз Яго – і з Ім – і ў Ім – прыносіцца Табе Божа Ойча Ўсемагутны – у еднасьці Духа Сьвятога – усякая пашану і слава – цераз усе векі вякоў. Амін.

**Божае слова:** “Хто асуджае? Ці-ж Хрыстос, Які памёр, што больш – уваскрос, Які сядзіць праваруч Бога і які заступаецца за нас?” (Рым. 8,34). – “А Гэты праз тое, што вечна трывае, мае сьвятарства непраходзячае, дык і можа назаўсёды збаўляць тых, што прыходзяць праз Яго да Бога. Заўсёды жывы, каб заступацца за іх” (Гэбр. 7,24-25). – “Дзеткі мае! Пішу вам гэтае, каб вы не грашылі. А калі бы хто саграшыў, дык маем Заступніка перад Айцом, Ісуса Хрыста Праведніка” (1 Ян. 2,1).

**Навука Царквы:** “Літургія на зямлі дае нам як бы скаштаваць смак удзелу ў нябеснай літургіі, што адпраўляецца ў сьвятым месцы Ерусаліме, да якога пілігрымуем, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога як слуга сьвятыні і сапраўднага Дому Божага” (Канст. аб Літургіі 8).

**Пытаньне да 53-яе катэхэзы:**

108) Хто ёсьць адзіным сьвятаром Новага Запавету?

**Адказ:** Адзіным сьвятаром Новага Запавету ёсьць Ісус Хрыстос.

109) Чым ёсьць літургія Царквы?

**Адказ:** Літургія Царквы ёсьць удзелам у сьвятарскай дзейнасьці Ісуса Хрыста.

54-ая КАТЭХЭЗА

# 54. Маці Божая поўная болю.

*“Вы ўсе, што праходзіце міма, падняміце вочы і паглядзеце, ці ёсьць боль такі, як мой боль”* (Плач Ер. 1:12).

*Сказаў Сымеон Марыі, Ягонай Маці: “Вось Гэты пакладзены на ўпадак і на паўстаньне многіх у Ізраілю, і на знак, якому будуць працівіцца. І табе самой меч пранікне ў душу”* (Лук. 2,34).

*

Ісус Хрыстос усё на зямлі рабіў з паслухмянасьці Айцу і любові да людзей. Ён казаў: “Я заўсёды раблю тое, што Яму падабаецца” (Ян. 8,29). Цераз Сваю паслухмянасьць Богу Ён направіў непаслушэнства першых людзей і выслужыў людзям збаўленьне. Цераз Сваю паслухмянасьць Айцу і выратавальную Любоў да людзей Ён прыняў пакуту і сьмерць на крыжы. Ён ёсьць добрым пастырам, які жыцьцё сваё аддае за авец” (Ян. 10,11).

Ісусаву паслухмянасьць Айцу і любоў да людзей найдасканалей пераняла Ягоная Маці Марыя.

Гатоўнасьць выпаўняць Божую волю на карысьць усяго чалавецтва выразіла Дзева Марыя ў Назарэце: “Вось я – слуга Госпада; няхай станецца мне па твайму слову” (Лук. 1,38). Дзеля выратаваньня ўсіх людзей яна згадзілася быць Маткай Ісуса.

Таксама паслухмянасьць Богу і любоў да людзей выразіла Марыя, калі старык Сымеон прадказаў: “Вось Гэты пакладзены на ўпадак і на паўстаньне многіх у Ізраілі, і на знак, якому будуць працівіцца. І табе самой меч пранікне ў душу” (Лук. 2,34). Марыя не бунтавалася, не наракала, але моўчкі схавала гэтыя словы ў сваім сэрцы, згаджаючыся на ўсе ахвяры, якія яе чакалі, як Матку Выратавальніка.

У найвышэйшай ступені паказала Марыя паслухмянасьць Богу і любоў да людзей на Кальварыі (Галгоце), калі стаяла ля крыжа свайго Сына (Ян. 19,25). Тады яе сэрца сапраўды прабіў меч болю.

Ідучы верна сьледам за сваім Сынам у паслухмянасьці Богу і ў любові да людзей Марыя гэтым самым улучылася ў Ягоную выратавальную задачу.

*

Царква называе Марыю Маткай поўнай болю і Царыцай Мучанікаў. Аддае пашану ейным вялікім цярпеньням, узгадваючы прароцтва Сымеона (Лук. 2,34-35), уцёкі ў Егіпет (Мац. 2,13-15), згубленьне Сына ў Ерусаліме (Лук. 2,44-45), сустрэчы ў дарозе на Кальварыю (Галготу) і пад крыжом (Ян. 19,25), зняцьце з крыжа і палажэньне ў гроб (Мац. 27,9-60). Царква пакланяецца цярпеньням Божае Маці 15 верасьня (у лацінскім абрадзе) і ў пятніцу перад Вербнай Нядзеляй.

Цераз культ Божае Маці Поўнае болю Царква хоча навучыць нас любові да Бога і да людзей паводле прыкладу, які нам дае Найсьвяцейшая Дзева Марыя.

**Наш адказ Богу:** Буду часьцей разважаць жыцьцё Дзевы Марыі Поўнае болю, кабісьці Ейнымі сьлядамі.

**Прыклад малітвы:** Дай мне, Матухна бязьвінна,
Каб з Табою я крыж Сына
Нёс у кожную пару!
Каб памерці мне з Табою,
Раздзеляць бяду душою, -
Дай у кожную пару.

**Навука Царквы:** “Блаславёная Дзева йшла наперад у пілігрымцы веры і верна вытрымала сваё злучэньне з Сынам аж да крыжа, ля каторага не бяз Божага пастанаўленьня знайшлася (Ян. 10,25), найглыбей са сваім Адзінародным суцярпела і з Ягонаю ахвяраю злучалася матчыным духам, з любоўю згаджаючыся, каб народжаная з Яе Ахвяра была зьнішчана на ахвяру; а ў канцы тойжа Ісус Хрыстос, уміраючы на крыжы, аддаў яе як матку вучню гэткімі славамі: “Жанчына, вось твой сын” (Ян. 19,26-27)(Канст. аб Царкве 58).

**Пытаньне да 54-ае катэхэзы:**

110) У чым Маці Божая Поўная болю йшла сьледам за Сваім Сынам?

**Адказ:** Маці Божая Поўная болю йшла сьледам за Сваім Сынам у Ягонай паслухмянасьці Айцу і ў любові да людзей.

55-ая КАТЭХЭЗА

# 55. Ісус Хрыстос зыйшоў у пякельную бездань.

*“Хрыстос... пацярпеў за грахі нашыя, Праведнік за няправедных, забіты целам, але ажыўшы духам, у Якім Ён і тым духам, што ў вязьніцы, зышоўшы, абвяшчаў”* (1 Пятр. 3,18-19).

*

Калі Ісус памёр, душа Ягоная адлучылася ад цела. Ягонае Цела было пахавана ў гробе (Мац. 27,57-60) і аставалася ў ім да трэцяга дня. Аднак не

папсавалася, як аб гэтым прадказваў Давід: “Не дасі Сьвятому Свайму ўбачыць тленьне” (Пс. 15,10; Дз. 2,27; 13,35-37).

А душа Ісуса зыйшла ў месца, якое Пётр вобразна называе “вязьніцай”, а “Апостальскі Сымбаль веры” – “пеклամі”: “Зыйшоў да пеклаў”. Каталіцкая Царква, каб адрожніць гэтае месца ад месца вечнага асуджэньня, называе яго прадоньне (продня) ці бездань.

Царква ад найдаўнейшых часаў навучала, што прадоньне перад Хрыстом было месцам для тых сьвятых, што памёрлі ў поўнай сьвятасьці або перайшлі свой чысьцец. Гэтыя душы не маглі яшчэ йсьці ў неба, бо яшчэ не было выканана Хрыстовае адкупленьне. Толькі калі Ісус памёр, зыйшоў у Сваім духу ў прадоньне і аб’явіў свабоду душам, якія там знаходзіліся.

Пасьля сьмерці Хрыста Ягоная Боскасьць аставалася злучанай як з Ягоным Целам, так і з душою.

*

На ўспамін аб прабываньні Цела Хрыстовага ў Гробе Ўсходняя Царква ўстрайвае ў сьвятыні прыгожа прыбраны гроб, у якім кладзе ў Вялікую Пятніцу на Вячэрніцу Абраз Хрыста, лежачага ў гробе, званы Плашчаніцай. Гэты абраз прабывае ў гробе аж да поўначы з Вялікай Суботы на нядзелю сьвятой Пасхі, калі ўносіцца ў аўтар і аж да Ўшэсьця знаходзіцца на “Прастоле”. Пад уплывам праваслаўных і вуніятаў у нас на Беларусі, а нават і ў суседняй Польшчы таксама каталікі лацінскага абраду пачалі ў сваіх сьвятынях устрайваць гробы, памяшчаючы ў іх ужо не абраз, а сьвятыя Дары, перад якімі безупынна моляцца вернуючыя. Асабліва ў Вялікую Суботу, якая ёсьць днём цішыні і сабраннасьці, вернуючыя супольна адведваюць гроб Збавіцеля, разважаючы Ягоныя пакуты і сьмерць.

**Наш адказ Богу:** Цераз сваю муку і сьмерць Хрыстос адчыніў неба ўсім праведнікам. Буду маліцца аб тым, каб і мне калісьці адчыніў Хрыстос нябесныя дзьверы.

**Прыклад малітвы:**

Зыйшоў у прадоньне духам моцы Божай,
Вызваліў душы зь вязьніцы варожай.
Целы памёрлых з гробаў паўставалі,
Сьведкамі сталі.
Нікадым, Іосіф у Пілата сьмела
Просяць дазволу зьняці Хрыста цела.
Пілат прашкодаў ня робе
Схаваць у гробе.
Вучні Хрыстовы ўзялісь да работы,
Каб Збаўцы цела схаваць да суботы.
Як з крыжа зьнялі цела, стала Маці
Сьлязамі змываці.
А змыўшы раны, з сумам анямелым
Бальзамам зьліўшы, у палотны белы
Як звычай кажа, Збаўцу ахілілі,
У гроб палажылі.
Верны народзе, што Бога баіся,
За свае віны сьлязамі заліліся,
Хрысту падзяку пашлі і маленьне
За адкупленьне.

**Божае слова:** “Бо на тое-ж і памёрлым была абвешчана Добрая Навіна, каб засуджаным па чалавечаму целам, жылі па Божаму духам” (1 Пятр. 4,6).

**Навука Царквы:** “Ісус Хрыстос зыйшоў з душою ў прадоньне” (IV Латэранскі Сабор, у 1215 годзе).

Зыйшоў пад зямлю, каб адтуль увольніць праведнікаў. Пытаюся, ці ты не хацеў бы, каб жывые атрымалі ласкі, хоць ня мала іх ёсьць сьвятымі; а тыя, якія аж ад Адама так доўга былі замкнёнымі, каб у канцы ня мелі атрымаць вызваленьня? Ісая прарок голасна высказаў аб Ім столькі прадказаньняў; ці ты не хацеў бы, каб Валадар зыйшоў да яго ды вызваліў свайго прапаведніка? Быў там Давід, быў Самуіл, былі прарокі ўсе, а нават Ян, які праз сваіх пасланцоў клікаў: Ці Ты ёсьць той, што мае прыйсьці, ці яшчэ іншага маем чакаць? (Мац. 11,3). Ці не хацеў бы ты, каб Ён зыйшоў да гэткіх мужоў і вызваліў іх? (Кірыл Ерусалімскі).

- “Боства пастанавіла выпаўніць усё тое, што датычыла тайны мукаў, і з душою зыйсьці ў прадоньне, каб прынесьці выратаваньне тым, што перад тым памёрлі” (Эпіфані). – “Хрыстос зыйшоў у прадоньне, каб абвясьціць і ім прыход, бо тыя, што веруць у Яго, атрымліваюць дараваньне грахоў” (Ірэней).

**Пытаньні да 55-ае катэхэзы:**

111) Што абазначаюць словы: “зыйшоў у пекла”?

**Адказ:** Словы: “зыйшоў у пекла” абазначаюць, што душа Ісуса Хрыста АДРАЗУ пасьля разлукі з целам зыйшла ў прадоньне (пякельную бездань).

56-ая КАТЭХЭЗА

# 56. Ісус Хрыстос уваскрос на трэці дзень.

*“Уваскрос, так як сказаў” (Мац. 28,6).*

*“Калі мінула субота, у час сьвітаньня першага дня тыдня, прыйшла Марыя Магдаліна і другая Марыя паглядзець магілу. І вось сталася вялікае трасеньне зямлі, бо Ангел Гасподні, зыйшоўшы зь неба, падыйшоўшы, адваліў камень ад дзьвярэй магілы і сеў на ім...*

*Ангел-жа сказаў жанчынам: “Ня бойцеся; бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса ўкрыжаванага. Яго тут няма: Ён уваскрос, так як сказаў”.*

*

На трэці дзень пасьля сьмерці Ісуса Ягоная Душа злучылася ізноў зь целам і Ён устаў жывы з гробу.

Хрыстос уваскрос сваёй уласнай сілай, бо Ён ёсьць сапраўдным Богам. Аднак таму, што Ён ёсьць і сапраўдным чалавекам, Сьвятое Пісьмо кажа, што “Бог уваскрасіў Яго на трэці дзень” (Дз. 10,40).

Цела Хрыста пасьля ўваскрасеньня было праслаўлена. Яно ўжо не магло цярпець ані памерці. “Хрыстос, уваскросшы з памёрлых, ужо больш не ўмірае: сьмерць ня мае ўжо ўлады над ім” (Рым. 6,9). Цераз Сваё ўваскрасеньне Ён перамог сьмерць і “таго, хто меў уладу над сьмерцю, гэта значыць д’ябла” (Гэбр. 2,14). Ягонае новае жыцьцё напоўнена ўжо толькі нябеснай радасьцю і шчасьцям.

Цераз уваскрасеньне Бог Айцец узвысіў Свайго Сына і паказаў, што Той, Каго людзі асудзілі і ўкрыжавалі, ёсьць Месіяй і Сынам Божым. Уваскрасеньне Хрыста ёсьць пахвальным завяршэньнем выратаваньня цераз адкупленьне.

“Хрыстос уваскрос першаком з пасярод тых, што памёрлі... І як у Адаме ўсе паміраюць, гэтак у Хрысьце ўсе ажывуць” (1 Кар. 15,20-22). Уваскросшы Хрыстос стаўся Галавою новага, выратаванага чалавецтва. “Ён уміраючы разбурыў нашую сьмерць і ўваскросшы вярнуў нам жыцьцё” (З лацінскай пасхальнай Літургіі). Ня толькі сьмерць, але і ўваскрасеньне Хрыста ёсьць

прычынай нашага выратаваньня: “Бо Ён быў выданы за нашыя грахі і ўваскрос за нашае апраўданьне” (Рым. 4,25).

Пасьля Свайго ўваскрасеньня Хрыстос прабываў на зямлі яшчэ сорак дзён. У гэтым часе Ён паказвае ўжо “не ўсяму народу, але толькі тым, якіх Бог выбраў, каб былі сьведкамі” (Дз. 10,41). Ён паказаўся Марыі Магдалене (Мар. 16,9), вучням, што йшлі ў Эмаус (Лук. 24,13-35), апосталам: на Сыёне, дзе адбылася Апошняя Вячэра (Ян 20,19-29), над возерам Генісарэт (Ян 21, 1-15), на Гары Аліўнай (Дз. 1,6-9). “Пасьля зьявіўся болей чым пяцістам братам зараз” (1 Кар. 15,6). Апосталы ня толькі бачылі Хрыста пасьля ўваскрасеньня, але датыкаліся да Яго, гутарылі і елі зь Ім. Апостал Тамаш бачыў Ягоныя рукі, ногі і бок, праканаўся і паверыў: “Госпад мой і Бог мой” (Ян 20,28).

*

Хрыстос ёсьць “уваскрасеньне і жыцьцё” (Ян 11,25). Ягонае ўваскрасеньне дае нам паруку, што і мы таксама ўвасрэсьнем. “Той, што ўваскрасіў Госпада Ісуса, уваскросіць праз Ісуса і нас ды з вамі паставіць” (2 Кар. 4,14). Ісус Хрыстос ёсьць Галава ўсяго стварэньня (Кол. 11,17). У Ягоным Уваскрасеньні Бог пачаў ужо новую перабудову сьвету, якая закончыцца ў Апошні Дзень.

Уваскросшы Выратавальнік дае нам новае жыцьцё ўжо цяпер пры сьвятым Хросьце. Кожны ахрышчаны аджывае са сьмерці граху, каб атрымаць дар жыцьця. “Мы пахавалі сябе з Ім хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрос з памёрлых цераз славу Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці” (Рым. 6,4).

У Пасхальнай Літургіі Царква перажывае Ўваскрасеньне Хрыста і наш пераход ад сьмерці граху, перамогу Хрыста і пакланяемся ёй. Таму Пасха ёсьць найвялікшым сьвятам Хрыстовае Царквы. Апрача таго кожная нядзеля ёсьць прыпамненьнем Хрыстовага Ўваскрасеньня.

**Наш адказ Богу:** Каб захаваць жыцьцё атрыманае ў сьвятым Хросьце буду часта лучыцца з Уваскросшым Хрыстом прымаючы тайну Эўхарыстыі, якая ёсьць задаткам нашага ўваскрасеньня.

**Прыклад малітвы:** Хрыстос з памёрлых паўстаў, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што былі ў гробе, жыцьцё дараваў.

Ангел Поўнай ласкі радасьць абвяшчаў: Чыстая Дзева радуйся! Бо Сын Твой уваскрос, пасьля трох дзён прабываньня ў гробе і памёрлых ажывіў. Радуйцеся людзі!

Запаляйся ясна сьвятло ў новым Ерусалім, бо слава Госпада засьвяціла над табой! Няхай радасна кліча і весяліцца Сыён, а Ты, Чыстая, выступі ва ўсім Сваім харастве, Багародзіца, з нагоды паўстаньня Свайго Сына!

**Божае слова:** “Калі вы ўваскрэсьлі з Хрыстом, дык шукайце ўзгорняга, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога; аб узгорным думайце, а не аб зямным” (Кал. 3,1-2).

**Пытаньне да 56-ае катэхэзы:**

112) Чым ёсьць уваскрасеньне Ісуса Хрыста?

**Адказ:** Уваскрасеньне Ісуса Хрыста ёсьць: 1) Слаўным заканчэньнем Адкупленьня людзей. 2) Перамогай Хрыста над сьмерцю і чортам. 3) Парукай нашага ўвасрасеньня.

57-ая КАТЭХЭЗА

# 57. Ісус Хрыстос прысутны ў Царкве пераказвае ёй сваю місію.

*Калі Хрыстос сабраўшы Сваіх вучняў зьявіўся ім апошні раз, яны спыталі Яго: “Госпадзе, ці ня ў гэтым часе адбудуеш царства Ізраілю?” Ён адказаў ім:*

*“Ня вам ведаць час ці пару, што Айцец паклаў у Сваёй уладзе; але прымеце сілу, як зыйдзе на вас Дух Сьвяты, і будзеце Мне сьведкамі ў Ерусаліме, і ў-ва ўсёй Юдэі і Самарыі, ды ажно па край зямлі”* (Дз. 1,6-8).

*

Уваскросшы Хрыстос паказваўся апосталам праз сорак дзён. Аднак гэта ўжо не была тая самая прысутнасьць, як перад уваскрашэньнем. Ісус Хрыстос жыў ужо ў Айца, а вучням толькі зьяўляўся на кароткі час. Гэтак Ён прыгатаўляў іх на Сваю сапраўдную, але нябачную прысутнасьць у Царкве.

Хрыстос паказваўся толькі “выбраным сьведкам”, а не ўсяму народу (Дз. 10,41). Бог ня хоча занадта прымушаць верыць тых, што самі ня рупяцца і не цікавяцца сваім лёсам. Апосталам даў уладу адпускаць грахі: “Як паслаў Мяне Айцец, так Я пасылаў вас. Прыйміце Духа Сьвятога. Каму адпусьціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца” (Ян. 20,21-23). Сымону-Пятру Хрыстос перадаў апеку над Сваім Аўчарнікам, пад Царквой: “Пасі ягнят Маіх. Пасі авечак Маіх!” (Ян. 21,15-17). Апосталам пераказаў Сваю Місію: “Дык ідзеце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць усяго, што Я сказаў вам: і вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэньня веку” (Мац. 28,19-20). Абяцаў, што застанецца з імі назаўсёды, хоць інакш, чым адразу пасьля ўваскрасеньня. Яны ня будуць ужо Яго бачыць, гаварыць з ім ці датыкацца да Яго. Гэта будзе нябачная прысутнасьць, “цераз знакі” і будзе трываць аж да другога Ягонага прыходу.

*

Хрыстос, Які вечна жыве ў Айца, прысутны і дзейнічае ў Сваёй Царкве цераз Апосталаў і іхных наступнікаў. Ён прысутны ў Сваім слове, якое ім пераказаў. Дзейнічае ў Тайнах сілаю, якую ім выслужыў у Айца Сваёй сьмерцю і ўваскрасеньнем. Дзейнічае таксама ў-ва ўсіх членах Свайго містычнага Цела, асабліва цераз тых, якім перадаў сваю пастырскую ўладу.

Часткай Царквы ёсьць кожны прыход, або з-польскай “парафія”. Прысутны ў ёй Хрыстос дзейнічае, гэта значыць: навучае, раздае сьвятыя Тайны, вядзе веруючых да выратаваньня, ды цераз іх хоча ратаваць увесь сьвет.

**Наш адказ Богу:** Буду актыўна прымаць удзел у жыцьці майго прыходу.

**Прыклад малітвы:** “Які ж Божы, які мілы, ды які прыемны Твой голас! Бо Ты, Хрысьце, абяцаў, што будзеш з намі аж да канца веку. Маючы гэткі пэўны фундамант нашае надзеі, усе мы, што Табе верым, цешымся” (З дзевятае песьні Канону на сьвятую Пасху).

**Божае слова:** “Што было ад пачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачыма, што разглядалі і да чаго датыкаліся рукі нашыя... абвяшчаем вам і сьведчым аб тым, што мы бачылі і чулі, каб і вы мелі лучнасьць з намі. А нашая лучнасьць – з Айцом і з Сынам Ягоным Ісусам Хрыстом” (1 Ян. 1,1-3).

**Навука Царквы:** “Божы Выратавальнік выбраў апосталаў і паслаў іх так, як Сам быў пасланы ад Айца, як настаўнікаў, як пастыраў і як раздатчыкаў сьвятасьці паміж веруючымі. Назначыў з паміж іх Свайго намесніка на зямлі і аб’явіў ім усё, што Сам пачуў ад Айца” (Пій XI Акружнае Пасланьне аб містычным Целе Хрыста).

**Пытаньні да 57-ае катэхэзы:**

113) Як Царква выпаўняе місію пераказаную ёй Хрыстом?

**Адказ:** Царква выпаўняе місію, пераказаную ёй Хрыстом гэткім спосабам, што навучае, асьвячае і вядзе ўсіх людзей да выратаваньня.

## 58-ая КАТЭХЭЗА

# 58. Апосталы і вучні ёсьць сьведкамі Ўваскрасеньня Хрыста.

*“Тады (Хрыстос) асьвяціў іхны розум, каб яны зразумелі Пісьмо і сказаў ім: “Так напісана і так належыла цярпець Хрысту і ўваскрэснуць з памёрлых на трэці дзень, і прапаведвацца ў Ягонае імя пакаяньню ды адпушчэньню грахоў ува ўсіх народах, пачаўшы ад Ерусаліму; а вы – сьведкі гэтага”* (Лук. 24,45-48).

*

“Будзеце Мне сьведкамі” (Дз. 1,8). Гэткае заданьне вызначыў Ісус Хрыстос Сваім вучням, калі спаткаўся зь імі пасьля ўваскрасеньня. На чым палягала гэтае “сьведчаньне”? Апосталы прапаведвалі Эвангельле, гэта значыць усё тое, што чулі і бачылі пачаўшы ад хросту ў Ярдане аж да ўшэсьця Хрыста на неба.

Асабліва ж падкрэсьлівалі апосталы сваю ролю сьведкаў, калі гаварылі аб выратавальнай сьмерці ды ўваскрасеньні Бога-Чалавека, якіх значэньне яны зразумелі цалкам толькі тады, калі на іх зыйшоў Сьвяты Дух (Лук. 24,45-46).

Таксама зразумелі апосталы і прапаведвалі тую праўду, што Хрыстос памёр і ўваскрос дзеля нас людзей і дзеля нашага выратаваньня: “Ён быў выданы за грахі нашыя і ўваскрос дзеля нашага апраўданьня” (Рым. 4,25).

Вера ва ўваскросшага Хрыста ёсьць абавязкова патрэбнай да выратаваньня: “каб ты, як вуснамі тваімі будзеш вызнаваць Ісуса Госпадам і ў сваім сэрцы верыць, што Бог уваскрасіў Яго з памёрлых, быў збаўлены” (Рым. 10,9).

Сьмерць і паўстаньне Хрыста з памёрлых былі галоўнымі праўдамі ў навучаньні апосталаў: “(Давід), прадбачачы, казаў аб уваскрасеньні Хрыста... Гэтага Ісуса ўваскрасіў Бог, і ўсе мы сьведкі гэтага” (Дз. 2,31-32). Апосталы ня толькі славамі прапаведвалі ўваскрасеньне Хрыста, але за гэтую праўду ўсе аддалі сваё жыцьцё. Толькі адзін Ян быў за гэта сасланы, а ўсе іншыя былі замучаны на сьмерць.

*

Сёньня Царква сьведчыць аб уваскрасеньні Хрыста. Яна сьведчыць словамі ды дзеямі. У сьвятой Літургіі робіцца прысутнай сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста.

**Наш адказ Богу:** Хачу сапраўдным хрысьціянскім жыцьцём сьведчыць аб тым, што і я належу да ўваскросшага Хрыста.

**Прыклад малітвы:** “Ты нас адкупіў ад законнага пракляцьця дарагою Сваёй Крывёю будучы прыбіты цьвікамі да крыжа і прабіты дзідай, Ты выліў на людзей несьмяротнасьць, Спасе наш, слава Табе!”.

**Божае слова:** “Калі-ж споўнілі ўсё напісанае аб Ім, дык, зьняўшы зь дрэва, палажылі ў магілу. Але Бог уваскрасіў Яго з памёрлых, і шмат дзён Ён паказваўся тым, што прыйшлі разам зь Ім у Ерусалім з Галілеі; яны – сьведкі Яго перад народам” (Дз. 13,29-31). – “Судзіце, ці справядліва перад Богам слухацца вас больш, чым Бога? Мы-ж ня можам не гаварыць аб тым, што бачылі і чулі” (Дз. 4,19-20).

**Пытаньні да 58-ае катэхэзы:**

114) Чаго пажадаў Хрыстос ад апосталаў па Сваім уваскрасеньні?

**Адказ:** Па Сваім уваскрасеньні Хрыстос пажадаў, каб апосталы сьведчылі аб Ягоным паўстаньні з памёрлых.

115) Як апосталы сьведчылі аб уваскрасеньні Хрыста?

**Адказ:** Апосталы сьведчылі аб уваскрасеньні Хрыста славамі, жыцьцём, а нават сьмерцю.

59-ая КАТЭХЭЗА

# 59. Ісус Хрыстос узыходзіць на неба і вядзе дзела выратаваньня аж да другога Свайго прыходу.

*Хрыстос “узьняўся перад іхнімі вачыма, і хмара ўзяла Яго ад іхніх вачэй. Калі ж яны пільна ўглядаліся ў неба, як Ён адыходзіў, вось двое мужоў сталі перад імі ў белых вопратках, дый сказалі ім: “Мужы галілейскія! Чаго стаіце, узіраючыся на неба? Гэты Ісус, узяты ад вас на неба, прыдзе гэтак сама, як бачылі вы Яго ўзыходзячым на неба”* (Дз. 1,9-11).

На саракавы дзень пасьля ўваскрасеньня Ісус паказаўся вучням апошні раз і на іхных вачах “узышоў на неба”. Ушэсьце на неба Ісуса Хрыста ёсьць аб’яўленьнем Ягонае славы, якая перавышае ўсеялякую славу людзей і ангелаў. Ісус Хрыстос як чалавек узнёсься вышэй ад ангелаў і сеў “праваруч Бога” (Рым. 8,34) ў славе Айца. Споўнілася прадказаньне ангела: “Ягонаму царству ня будзе канца” (Лук. 1,33).

Найвышэйшая ўлада над сьветам належыцца Божаму Сыну ад веку (Кал. 1,15-17). Цераз Адкупленьне Ісус Хрыстос таксама як чалавек атрымаў “усялякую ўладу на небе і на зямлі” (Мац. 28,18). Хрыстос ёсьць Валадаром сусьвету, зямлі і космасу. “Айцец славы, даў вам Духа мудрасьці і адкрыцьця на пазнаньне Яго, ... каб вы пазналі, ... якое багацьце слаўнае Ягонае спадчыны для сьвятых, ды як бязьмерная веліч Ягонае магутнасьці ў нас веруючых праз дзеяньне магутнае Ягонае сілы, якую Ён зьдзеяў у Хрысьце, уваскрасіўшы Яго з памёрлых і пасадзіўшы праваруч Сябе на нябёсах... і ўсё пакарыў пад ногі Яму” (Эф. 1,17.22).

Ісус Хрыстос ёсьць Валадаром усяго стварэньня. Зь неба далей вядзе дзела выратаваньня. І вядзе яго цераз Сьвятога Духа ў Царкве, якую заснаваў на зямлі. Ён Сам ёсьць нябачнай Галавой гэтае Царквы (Эф. 1,22). Праз Сваю Царкву Хрыстос вядзе да еднасьці ды перабудоўвае сьвет.

Хрыстос ёсьць таксама ўстаноўленым Богам Судзьдзёю жывых і памёрлых: “Айцец увесь суд перадаў Сыну, каб усе аказвалі пашану Сыну, так як аказваюць пашану Айцу” (Ян 5,22). Гэтая ўлада акажацца поўнай, калі Хрыстос прыйдзе яшчэ раз на гэты сьвет, каб “судзіць жывых і памёрлых” (2 Цім. 4,1).

Ісус Хрыстос адчыніў нам неба, якое было замкнутае цераз грэх. “Прыйду ізноў і вазьму вас да Цябе, каб і вы былі, дзе Я” (Ян. 14,3). Гэтыя словы ўжо споўніліся адносна Найсьвяцейшай Маці Хрыста, якую Ён уваскрасіў і ўзяў з душою і целам у неба.

*

На саракавы дзень пасьля Пасхі мы сьвяткуем Ушэсьце Госпада нашага ў неба. Гэтае сьвята прыпамінае нам, што Хрыстос, перамогшы сьмерць, жывы прабывае ў нябеснай славе. Адначасна гэта гаворыць нам, што Хрыстос зь неба кіруе Сваёю Царквою, апякуецца ёю дый вядзе яе цераз пераменныя падзеі гэтага сьвету. Хрыстос кіруе жыцьцём і дзейнасьцю Царквы, якая ёсьць Ягоным містычным Целам.

У сьвята Хрыста Валадара, якое пасьля Сабору будзем сьвяткаваць ужо не ў апошнюю нядзелю кастрычніка, а ў апошнюю нядзелю літургічнага году, якая выпадае перад нядзеляй найбліжэйшай да сьвята сьвятога Андрэя – 30 лістапада, мы перажываем таксама і гэтую праўду, што Бог усё перадаў Хрысту.

**Наш адказ Богу:** Хрыстос ёсьць маім Валадаром. Буду верны Яму аж пакуль не злучуся зь Ім у небе.

**Прыклад малітвы:** “Ты – Валадар славы, Хрысьце!

Ты ёсьць вечным Сынам Айца.

Ты прымаючы чалавека, каб асвабадзіць, не пагардзіў улоньнем Дзевы.

Ты, перамогшы джала сьмерці, адчыніў веруючым валадарства нябеснае.

Ты сядзіш праваруч Бога ў Айцоўскай славе.

Вера кажа, што прыйдзеш Ты як Судзьдзя.

Дык просім Цябе, памажы Сваім слугам, якіх Ты дарагой крывёй адкупіў” (З гімну “Цябе Бога славім”).

**Божае слова:** “(Бог) даў нам пазнаць тайну Сваёй волі, праз Сваю ласкавасьць, што раней пастанавіў у Сабе, дзеля ўпарадкаваньня поўні часаў, каб усё было пад галавою Хрыстом, тое, што ў нябёсах, і тое, што на зямлі” (Эф. 1,9-10). – “Зыйшоўшы, Ён ёсьць і Той, Што ўзыйшоў вышэй за ўсе нябёсы, каб споўніць усё” (Эф. 4,10). – “Бо ў Ім жыве ўся поўня Боства цялесна, і вы напоўнены ў Ім, Які ёсьць Галава ўсякага начальства і ўлады” (Кал. 2,9-10). “І глядзеў я і чуў голас мноства ангелаў навакол пасаду і жывёлаў і старыкоў; і лічба іх была мірыяды мірыядаў і тысячы тысячаў, мовячы вялікім голасам: Годна забітае Ягнятка ўзяць сілу і багацьце, і мудрасьць, і моц, і пашану, і хвалу, і благаслаўленьне” (Ап. 5,11-12).

**Пытаньні да 59-ае катэхэзы:**

116) Што аб’явіў нам Госпад цераз Сваё Ўшэсьце?

**Адказ:** Цераз Сваё Ўшэсьце Госпад аб’явіў нам, што як Чалавек Ён МАЕ найвышэйшую ўладу над сьветам.

117) Як Хрыстос кіруе зь неба Сваею Царквою?

**Адказ:** Хрыстос кіруе зь неба Сваёю Царквою апякуючыся ёю ды ёсьць яе нябачнай Галавою.

## *II. ХРЫСТОС СЁНЬНЯ.*

60-ая КАТЭХЭЗА

# 60. Хрыстос цераз Духа Сьвятога дзее ў Царкве.

*“Узьнесены праваруч Бога ды ўзяўшы ад Айца абяцаньне Сьвятога Духа, Ён выліў тое, што цяпер бачыце і чуеце”* (Дз. 2,1-4.41).

Пасьля Ўшэсьця Хрыста ўсе апосталы вярнуліся ў дом на Сыёне, дзе адбылася Апошняя Вячэра і “трывалі аднадушна ў малітвах і просьбах разам з жанчынамі і Марыяй, Маці Ісусавай” (Дз. 1,14). Чакалі на абяцанага Сьвятога Духа. Калі-ж Дух Сьвяты зыйшоў на іх, дык пры гэтым паказаліся і такія вонкавыя бачныя знакі, што жыхары Ерусаліму і пілігрымы, якія прыйшлі на сьвята зьбегліся ды акружылі дом, у якім знаходзіліся Пётр і вучні Хрыстовыя, славячыя ў розных мовах вялікія Божыя справы. Пётр прамовіў да іх, пераказваючы ім Добрую Навіну аб выратаваньні ў Ісусе Хрысьце. Тыя, што слухалі Пятра, бачачы ўсё тое, што тады дзеялася, пажадалі ўлучыцца ў выратаваньне і прасілі ахрысьціць іх. Гэтак у той дзень да грамадкі вучняў Хрыстовых “далучылася каля трох тысяч душ” (Дз. 2,41).

Хрысьцілі іх Пётр, Ян, Якуб і іншыя апосталы. Аднак яны рабілі гэта не сваёй сілай, але сілай Хрыстовай. Хрыстос дзеяў у іх цераз Сьвятога Духа, Якога ў гэты дзень паслаў Сваёй Царкве. Цераз апосталаў Сам Хрыстос даваў выратаваньне новаахрышчаным і ўлучаў іх у выбраны Свой народ.

У здарэньні сасланьня Сьвятога Духа аб’явілася выратаваўчая дзейнасьць Хрыста, узьнесенага праваруч Айца; яе бачым мы ў дзейнасьці апостальскае грамады. Цераз апосталаў Хрыстос навучаў далей як Архірэй і Пасрэднік, памнажаў лік Божых сыноў, асьвячаў і збаўляў. Апостальская Грамада была знакам нябачнай дзейнасьці Хрыста.

Тайну здарэньня Пяцідзесятніцы Царква перажывала на пяцідзесяты дзень пасьля сьвята Пасхі. Сьвята Сасланьня Сьвятога Духа на апосталаў ёсьць сьвятам Царквы, якая ёсьць знакам выратаваўчай дзейнасьці Хрыста. Цяпер веруючыя на ўсім сьвеце зьбіраюцца па сваіх сьвятынях, сваіх Божых дамах. Чытач, званы лектарам, чытае аб здарэньні запісаным у “Дзеяньнях сьвятых Апосталаў”. Сьвятар або дыякан чытае ім з Эвангельля словы Хрыста, у якіх Ён абяцаў Сваёй Царкве Суцяшальніка, Духа Сьвятога, а пасьля тлумачыць веруючым тайну дзейнасьці Хрыста ў Царкве сілай Сьвятога Духа. У гэтым слове Хрыстос таксама ёсьць прысутны. Гэта Ён сёньня навучае.

Веруючые атрымліваюць выратаваньне ў Эўхарыстычным сабраньні. Хрыстос Сам іх збаўляе. Ён застаецца нябачным, як быў ужо нябачным і ў Ерусалімскай грамадзе. Аднак Ягоным бачным знакам ёсьць для ўсіх жадаючых выратаваньня прысутнасьць у сьвеце хрысьціянскіх грамадаў або ўсеагульнае Царквы, бо гэта Хрыстос дзее ў ёй сілай Сьвятога Духа, Якога безупынна зсылае Царкве так, як у дзень Пасхальнае Пяцідзесятніцы.

**Наш адказ Богу:** “Веру ў Ісуса Хрыста, Які ўваскрос на трэці дзень, узыйшоў на неба... сядзіць праваруч Айца... веру ў Духа Сьвятога, у сьвятую ўсеагульную Царкву”.

**Прыклад малітвы:** “Баславёны Ты, Хрысьце, наш Божа, Які зрабіў мудрымі рыбакоў і цераз іх ловіш сусьвет. Слава Табе любячаму людзей!”

**Божае слова:** “А Суцяшальнік, Сьвяты Дух, Якога Айцец пашле ў Маё імя, Той вас усяго навучыць і прыпомніць вам усё, што Я вам сказаў” (Ян. 14,26). – “Калісь прыйдзе Ён, Дух Праўды, Ён навучыць вас усяе праўды. Бо Ён ня будзе гаварыць вам ад Сябе, але скажа тое, што пачуе, ды будучыя рэчы вам аб’явіць. Ён Мяне праславіць, бо возьме з Майго і вам аб’явіць” (Ян. 16,13-14). – “Калі-ж Ён прыйдзе, дык праканае сьвет аб граху, аб справядлівасьці і аб судзе” (Ян. 16,8). – Калі-ж будуць выдаваць вас, ня дбайце аб тым, як і што вам гаварыць, бо вам у той час будзе дадзена, што сказаць. Бо ня вы будзеце гаварыць, але Дух Айца вашага будзе гаварыць у вас” (Мац. 10,19-20).

**Навука Царквы:** “Калі хто хрысьціць у Царкве, гэта Сам Хрыстос хрысьціць” (Сьвяты Аўгустын). – “Хрыстос ёсьць прысутны ў слове, чытаным у літургіі” (Канстытуцыя аб Літургіі, 7). – “Сьвяты Дух быў пасланы Царкве ў дзень Пяцідзесятніцы, каб яе безупынна рабіў сьвятою і каб цераз гэта веруючыя мелі праз Хрыста ў адным Духу доступ да Айца” (Канстытуцыя аб Царкве, 4). “Мужчын, жанчын, дзяцей розных расаў, народнасьцяў, моваў, спосабаў жыцьця, працы, узгадаваньня, годнасьці і маемасьці... усіх у Духу адраджае Хрыстос. На ўсіх выціскае Божую форму...” (Сьвяты Максім Іспаведнік).

**Пытаньні да 60-ае катэхэзы:**

118) Праз Каго дзее Ісус Хрыстос у Сваёй Царкве?

**Адказ:** Ісус Хрыстос дзее ў Царкве праз Сьвятога Духа.

119) Што робіць Хрыстос у Сваёй Царкве праз Сьвятога Духа?

**Адказ:** Праз Сьвятога Духа Хрыстос навучае, асьвячае, развівае Царкву і вядзе яе ў неба.

120) Што ёсьць знакам, што Хрыстос пасьля свайго праслаўленьня далей збаўляе людзей?

**Адказ:** Знакам таго, што Хрыстос пасьля Свайго праслаўленьня далей збаўляе людзей, ёсьць Царква.

61-ая КАТЭХЭЗА

# 61. Хрыстос, дзеючы ў Тайнах, аддае пашану Богу і асьвячае Царкву.

*“Хрыстос палюбіў Царкву і выдаў Сябе за яе, каб асьвяціць яе, ачысьціўшы купеляй воднаю ў слове (абмыцьцём вадою цераз слова)”* (Эф. 5,25-26).

“Пакайцеся, ды няхай кожны з вас ахрысьціцца ў імя Ісуса Хрыста дзеля адпушчэньня грахоў; вазьміце дар Сьвятога Духа” (Дз. 2,38).

Ісус Хрыстос жывучы на зямлі аддаваў пашану Айцу цераз малітву, цераз спаўненьне Ягонае волі, а больш за ўсё цераз Сваю сьмерць на крыжы. Ягоная малітва, паслухмянасьць і ахвяра выслужылі помач і асьвячэньне для ўсіх людзей. На Апошняй Вячэры Хрыстос устанавіў Ахвяру Новага Запавету, у часе якой аддаў Богу на ахвяру Сваё Цела і Кроў пад відамі хлеба і віна. Гэтую Ахвяру Ён загадаў апосталам паўтараць, кажучы: “Рабіце гэтае на памяць аба Мне”. Гэтак Ён загадаў ім выконваць ТАЙНУ Эўхарыстыі і аддаваць цераз яе пашану Богу, ды адначасна асьвячаць тых, што яго будуць прымаць. Бо-ж Эўхарыстыя дае ласку і сьвятасьць; дае вечнае жыцьцё. Аб гэтым выразна кажа Хрыстос: “Хто есьць Цела Маё і п’е Кроў Маю, мае жыцьцё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень” (Ян. 6,54). Апрача Эўхарыстыі Хрыстос устанавіў яшчэ іншыя тайны, цераз якія гэтак сама аддае пашану Богу і памагае людзям. Гэтымі тайнамі ёсьць: Хрост, Мірапамазаньне або Канфірмацыя, Пакута, Сабораваньне хворых, Сьвятарства і Шлюб.

Хрыстос загадаў апосталам ня толькі навучаць, але і раздаваць тайны. Ён сказаў ім: “Навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа” (Мац. 28,19). Ён даў ім уладу адпускаць грахі, каб развязвалі з грахоўных путаў тых, што навяртаюцца і гэтак давалі ім вечнае жыцьцё (Ян. 20,23). Дык апосталы і выпаўнялі гэты загад Хрыста: ускладалі на ахрышчаных рукі і маліліся, каб на іх зыйшоў Сьвяты Дух, “Ламалі хлеб” або інакш кажучы адпраўлялі Эўхарыстычнае набажэнства і кармілі веруючых і ахрышчаных Целам і Крывёй Хрыстовай; адпускалі грахі тым, што саграшылі, а пасьля навярталіся і каяліся; пасылалі да хворых сьвятароў, каб ускладалі на іх рукі і мазалі іх алівай, молячыся аб выздараўленьні іхняга цела і душы (Як. 5,14-15); у заснаваных імі царквах перадавалі ўладу сваім заступнікам цераз узлажэньне рук у тайне Сьвятарства; заснаваньне сям’і ўважалі таксама за тайну і бласлаўлялі Шлюб. Гэтак Хрыстос дзеяў цераз іх і аддаваў пашану Богу ды асьвячаў Царкву.

*

Сёньня таксама Хрыстос дзее ў Тайнах. Тайны – гэта бачныя знакі, цераз якія Хрыстос аддае пашану Айцу і раздае помач, званую ласкай або благадацьцю, Царкве. З гэтымі бачнымі знакамі лучацца яшчэ словы або малітвы. Хрыстос дзее ў Тайнах як Пасрэднік і Архірэй. Тых, што яшчэ не належаць да Царквы, Ён уводзіць у яе цераз Хрост і робіць іх Божымі дзяцьмі і членамі Божага народа. У Тайне Мірапамазаньня дае ім сілу Сьвятога Духа, каб перамаглі ўсе труднасьці, якія перашкаджаюць ім любіць Бога і ўсіх людзей і каб гэтак сталіся падобнымі да Хрыста, Сына Божага. У Эўхарыстыі Хрыстос дае веруючым магчымасьць улучыцца ў Ягоныя пакуты і Выратавальную Сьмерць на крыжы, якая ёсьць вечнай Ахвярай. Ён дае ім удзел у Сваім Сьвятарстве і разам з Божым народам аддае Айцу пашану

цераз дасканальнаю паслухмянасьць. Адначасна Ён раздае тым, што веруць у Яго, патрэбную ім помач і развівае ў іх жыцьцё Божае.

У Тайне Сьвятарства Хрыстос выбірае некатарых членаў Царквы і дае ім уладу адпраўляць найважнейшую Багаслужбу – Эўхарыстыю і раздаваць тайны, каб усе веруючые маглі аддаваць Богу пашану, асьвячацца і збаўляцца. Тым, што цераз грэх згубілі Божае жыцьцё, так што ня могуць ужо прымаць поўнага ўдзелу ў Тайне Эўхарыстыі, Ён прабачае, калі яны навяртаюцца, каб ізноў злучыўшыся зь Ім аддавалі пашану Айцу і што раз то болей асьвячаліся і гэтак павялічвалі сваё шчасьце да якога створаны. Хворым і тым, што церпяць усялякія пакуты, Хрыстос дае магчымасьць злучыць свае цярпеньні з Ягонымі выратавальнымі пакутамі дзеля славы Айца, дзеля іхняга ўласнага выратаваньня і дзеля карысьці ўсяе Царквы. Бацькам дае помач, каб вялі да Бога і ўзгадоўвалі сябе і новых членаў Царквы, якіе маюць аддаваць пашану Богу, асьвячаць сябе і вясьці да вечнага шчасьця.

**Наш адказ Богу:** У сьвятых Тайнах я сустракаюся ня толькі са сьвятаром, якога бачу, але і з Хрыстом, хаця Яго ня бачу. Буду прымаць Тайны так, як гэтага вымагае Божая пашана і слава ды вечнае шчасьце, да якога цераз іх я імкнуся.

**Прыклад малітвы:** Цераз Яго, і з Ім, і ў Ім аддаецца Табе, Божа Ойча Ўсемагутны, у еднасьці Духа Сьвятога, усялякая пашана і слава цераз усе векі вякоў. Амін.

**Навука Царквы:** “Мэтай Тайнаў ёсьць асьвячэньне чалавека, будаваньне містычнага Хрыстовага Цела ды ў канцы аддаваньне пашаны Богу. Як знакі яны павінны таксама вучыць. Яны ня толькі вымагаюць веры, але пры помачы слоў і прадметаў даюць ёй узрост, умацоўваюць яе ды выражаюць. Дык справядліва яны завуцца Тайнамі веры. Яны даюць і ласку, але спосаб іх адпраўленьня таксама як найлепш рыхтуе веруючых на атрымліваньне з карысьцю гэтай ласкі, на аддаваньне Богу належнае пашаны і актыўнай любові.” (Канстытуцыя аб Літургіі 59).

Гэтак літургія Тайнаў і трэбаў робіць, што амаль кожная абставіна жыцьця належна прыгатаваных вернікаў асьвячаецца ласкай, якая родзіцца з Пасхальнае Містэрыі мукі, сьмерці ды ўваскрасеньня Хрыста, ад Якога атрымліваюць сваю сілу ўсе Тайны і трэбы, ды прычыняецца да таго, што амаль кожнае дазволенае карыстаньне з матэрыяльных рэчаў можа адначасна служыць асьвячэньню чалавека і праслаўленьню Бога” (Канстытуцыя аб Літургіі, 61).

**Увага:** Трэбамі называюцца такія знакі, якія хаця і даюць помач Божую, як і Тайны, але іх устанавіла Царква пад уплывам Духа Сьвятога, хоць ня мела на гэта выразнага загаду Хрыста. Таму, каб атрымаць праз іх помач Божую, званую ласкай, патрэбна мецьбольшую веру і надзею, чым прыступаючы да Тайнаў, якія даюць ласку Божаю незалежна ад унутранага распалажэньня чалавека, абы толькі ён у душы не супраціўляўся Тайне. Напрыклад Хрост: можна хрысьціць малое дзіця і яно атрымае дар сыноўства Божага, хоць яшчэ не разумее таго, што над ім адбываецца. Але нельга хрысьціць дарослую асобу, якая ня хоча хрысьціцца, бо тады яна анічога не атрымае, а толькі Тайна будзе зьняважана. Зусім інакш трэбы. Яны даюць тую помач, якую чалавек хоча атрымаць дакладна столькі, колькі чалавек атрымаць спадзяваецца. Тут уся пасьпяховасьць знаку залежыць ад веры і надзеі таго, хто гэтых знакаў ужывае. Калі напрыклад хто жагнаецца перад ядой з думкай, каб яму гэтая яда не пашкодзіла, калі часам яна можа ня ёсьць адпаведнай, то Бог можа зрабіць нават цуд, як гэта здаралася ў жыцьці

сьвятых людзей і тады нават атрута не зашкодзіць, абы толькі вера была даволі моцнай. Гэта абяцаў Сам Хрыстос, а Царква ўстанавіла асобныя знакі, каб лягчэй было чалавеку абудзіць веру. Гэтыя вось знакі і завуцца трэбамі, бо мы іх ужываем у розных нашых патрэбах. Важнейшыя зь іх гэта ёсьць пасьвячэньні, блаславеньні і закляцьці. Царква сьвенціць або пасьвячае асобы, рэчы і месцы, часам на вылучную службу Божую, як напрыклад манахаў і манашак, ваду, алей, віно, пшаніцу, сьвечкі, крыжы, абразы (іконы), мэдалікі, літургічны посуд і начыньне, адзеньне сьвятароў і прыслужнікаў царкоўных, званы, сьвятыні, капліцы, магільнікі і гэтак далей. Цераз бласлаўленьні Царква выпрошвае людзям або рэчам асобную помач Божую. Напрыклад блаславіць веруючых у часе набажэнстваў, матак і дзяцей, пілігрымаў да сьвятых месцаў, хворых, ежу, напрыклад на Вялікдзень, каб людзі не хварэлі, калі пачыналі есьць скаромнае пасьля доўгага посту, палі, жывёлу і гэтак далей. Цераз закляцьці Царква хоча аслабіць уплыў нячыстай сілы на людзей і рэчы.

**Пытаньні да 61-ае катэхэзы:**

121) Што дзее Хрыстос у тайнах?

**Адказ:** Хрыстос у тайнах аддае пашану Айцу, будуе Царкву і асьвячае яе членаў.

122) Што гэта такое знак званы Тайнай?

**Адказ:** Знак званы Тайнай – гэта абрад, які складаецца з дзеяньня і слова.

123) Колькі ёсьць Сьвятых Тайнаў?

**Адказ:** Ёсьць сем Сьвятых Тайнаў: Хрост, Мірапамазаньне, Эўхарыстыя, Пакута, Памазаньне Хворых, Сьвятарства і Шлюб.

62-ая КАТЭХЭЗА

# 62. Хрыстос ёсьць жыцьцём сваёй Царквы.

*“Я ёсьць вінаградная лаза, а вы – парасткі”* (Ян. 15,5).

*“Я ёсьць сапраўдная вінаградная лаза, а Айцец Мой ёсьць вінаградарам. Усякую галіну ў Мяне, якая не дае плоду, Ён адсякае; і ўсякую, што дае плод, абчышчае, каб больш пладоў давала... Хто прабывае ўва Мне і Я ў ім, той прыносіць шмат пладоў”* (Ян 15,1).

Ад дня сасланьня Сьвятога Духа лік вучняў Хрыстовых, сапраўдных паклоньнікаў Бога, стала ўзрастаў. Яны тварылі адну сям’ю. “Адзін дух і адно сэрца ажыўляла ўсіх веруючых. Ніхто не называў сваім таго, што меў, але ўсё мелі супольнае” (Дз. 4,32). Усе ведалі, што яны – Божы народ, пакліканы заняць месца першага Запавету. Аб гэтым казаў Пётр у дзень сасланьня Сьвятога Духа, а сьвяты Сьцяпан гаварыў аб гэтым самым перад сваім мучаніцтвам. Сьвяты Павал называў хрысьціян “рэштай” выбранага народа, аб якой прадказвалі прарокі (Рым. 11,5). Як Ізраіль яны ёсьць Божым аўчарнікам, вінаграднікам Госпада, але такім, які прыносіць плады (Мац. 21,33-43).

Хрысьціяне сталіся новым Божым народам, новым аўчарнікам, ды ўрадлівым вінаграднікам цераз прышчэп да Хрыста. Гэтую праўду ім прыпомніў сьвяты Ян у сваім Эвангельлі, запісаўшы словы Ісуса Хрыста аб вінаграднай лазе і яе атожылках. Веруючыя прышчэплены да Хрыста і таму ў іх разьвіваецца Божае жыцьцё. “Будзеце-ж у ва Мне, і Я ў вас. Як галіна ня можа даваць плоду сама з сябе, калі ня будзе на лазе – так і вы, калі ня будзеце ў ва Мне.” (Ян. 15,4)

Веруючыя, крэпка злучаныя з Хрыстом, ёсьць злучанымі паміж сабою. У ва ўсіх іх ёсьць тое самае Божае жыцьцё, атрыманае дзякуючы Ісусу Хрысту. Яны павінны таксама супрацоўнічаць у развіцьці царкоўнага арганізму. Аб

гэтым якраз навучаў хрысьціян у Карынце сьвяты апостал Павал, прыраўноўваючы Царкву да цела: “Бо, як цела адно, але мае многа членаў, і ўсе члены аднаго цела, хаця іх і многа, але ёсьць адно цела, - гэтак і Хрыстос. Бо ўсе адным Духам ахрышчаны ў адно цела... Вы-ж – Хрыстовае цела, а паасобку – члены” (1 Кар. 12,12-13.27).

*

Царква ёсьць ня толькі арганізацыяй, супольнасьцю, але згуртаваньнем сапраўдных паклоньнікаў Бога, злучаных з Хрыстом і паміж сабою нябачнымі сувязямі – Божым жыцьцём, якое ім дае Сьвяты Дух. Гэтае Божае жыцьцё ёсьць дарам, ласкай; багасловы завуць гэты дар асьвячаючай ласкай. Цераз яе мы становімся Божымі дзецьмі, “удзельнікамі Божае прыроды”, як кажа сьвяты Пётр (2 Пятр. 1,4). Дзякуючы ёй Царква ёсьць жывым арганізмам, падобным да дрэва з галінамі або да чалавечага цела.

Дар гэтага надпрыроднага жыцьця мы атрымліваем у сьвятым Хросьце, а разьвіваем і павялічваем яго ў ва ўсіх Тайнах, найбольш у Эўхарыстыі, якая ёсьць ежай для гэтага жыцьця.

Ахрышчаныя маюць абавязак думаць ня толькі аб сабе, аб сваім толькі выратаваньні. Яны таксама як і члены чалавечага цела павінны служыць адзін аднаму (1 Кар. 12,12-27). Кожнаму ў Царкве ёсьць праца: адзін ёсьць сьвятаром, другі – бацькам або маці сям’і, трэці – вучоным, чацьвёрты – рамесьнікам, пяты – хлебаробам, шосты – вучнем і гэтак далей.

Аднак адной толькі вонкавай помачы яшчэ будзе мала. Члены Царквы памагаюць сабе ня толькі добрым прыкладам, але і нябачным уплывам, які іхняе Божае жыцьцё мае на другіх. Божы вінаград тады прыносіць найбольшы ўраджай, калі ўсе ягоныя галіны жывыя Божым жыцьцём. Калі хрысьціянін траціць супольнасьць жыцьця з Хрыстом, ён становіцца сухім атожылкам, на якім ня можа зьявіцца плод і гэтым ён паменшвае ўраджай, якога жадае Бог, Гаспадар вінаградніка, гэта значыць Царквы.

**Наш адказ Богу:** Пастараюся, каб быць жывым атожылкам, які дае плод і жывой клеткай у арганізме Хрыстовага Цела – Царквы.

**Прыклад малітвы:** “Узглянь зь неба Божа, убач і адведай гэты вінаграднік, які насадзіла Правая Твая Рука” (гэта значыць Хрыстос, Які сядзіць праваруч Бога Айца).

**Божае слова:** “Гэтак мы многія складаем адно цела ў Хрысьце, а паасобку мы адзін для аднаго члены” (Рым. 12,5). – “І ўсё пакарыў пад Ягоныя ногі, а Яго Самога даў за галаву над усім у Царкве” (Эф. 1,22).

**Навука Царквы:** “Бо ўсе веруючыя разкіданыя па ўсім сьвеце маюць паміж сабою лучнасьць у Духу і гэткім спосабам жыхар Рыму ведае, што індусы ёсьць членамі таго самога, што і ён, арганізму” (Канстытуцыя аб Царкве 13).

**Пытаньні да 62-ой катэхэзы:**

124) Чым ёсьць асьвячаючая ласка?

**Адказ:** Асьвячаючая ласка ёсьць Божым жыцьцём, якое дае нам Айцец праз Ісуса Хрыста ў Духу Сьвятым.

125) Што нам дае асьвячаючая ласка (якая з яе карысьць)?

**Адказ:** Асьвячаючая ласка прышчапляе нас да Хрыста і цераз гэта робіць нас Божымі дзяцьмі.

126) Што ёсьць унутранай сувязьзю, якая лучыць членаў Царквы?

**Адказ:** Унутранай сувязьзю, якая лучыць Царкву з Айцом і ўсіх братоў паміж сабою, ёсьць асьвячаючая ласка.

## 63-яя КАТЭХЭЗА

# 63. Хрыстос дае Царкве ўдзел у сваім сьвятарстве.

*“Кожны дзень аднадушна бываючы ў сьвятыні ды ламаючы хлеб па дамох, прымалі страву ў радасьці і прастаце сэрца, славячы Бога і маючы ласку ў усяго народа. Госпад жа што-дня дадаваў Царкве тых, што збаўляліся”* (Дз. 2,46-47).

*

Жыцьцё Царквы ў першых днях яе існаваньня канцэнтравалася навокал эўхарыстычнай Ахвяры і малітвы. Цераз супольную літургічную малітву, а асабліва цераз Эўхарыстыю, Царква пакланялася Айцу, прымаючы ўдзел у сьвятарскіх дзеяньнях Хрыста, у Ягонай малітве ды Ягонай Ахвяры. Эўхарыстычную Ахвяру прынасілі з Хрыстом толькі ахрышчаныя. Бо толькі цераз Хрост хрысьціянін атрымліваў удзел у Хрыстовым сьвятарстве. Таму сьвяты Пётр піша да хрысьціян у Малой Азіі: “Вы – выбраны род, царскае сьвятарства, народ сьвяты, людзі адабраныя, каб абвяшчаць цноты Паклікаўшага вас з цемры ў цудоўнае Сваё сьвятло” (1 Пятр. 2,9). Пётр называе хрысьціян “выбраным родам”, выбраным праз Бога, “народам сьвятым” цераз асьвячаную ласку, “Людзьмі адабранымі”, гэта значыць прызначанымі да асягненьня вызначанай ім мэты. Заве іх таксама “царскім сьвятарствам”, бо і яны, гэта значыць Царква, як выбраны народ у Старым Запавеце, таксама прыносіць Богу найдасканалейшую Ахвяру і ўсім народам паказваюць шлях да Бога. Царква ёсьць знакам Бога.

*

Новы выбраны народ мае дасканалае сьвятарства. Бо-ж ён ёсьць Целам Хрыста. Ён робіць тое, што робіць Хрыстос, адзіны, сапраўдны і найвышэйшы Архірэй. Ён ахвяраваў адзіную, дасканалую Ахвяру са Свайго жыцьця, Ахвяру Новага Запавету, і стаўся “Сьвятаром на векі” (Гэбр. 7,2-25; 8,11-12). Абвяшчаючы Добрую Навіну, Ён паказваў людзям Бога. Як Бог-Чалавек Ён ёсьць сапраўдным Пасрэднікам паміж Богам і людзьмі. Ад Бога Ён прыносіць выратавальную любоў, а зь людзьмі разам Ён аддае Богу дасканалую пашану. Калі Царква прапаведвае Божую праўду сьвету, калі прыносіць Ахвяру і пасрэднічае паміж Богам і сьветам, робіць гэта самае, што і Хрыстос. Яна бярэ ўдзел у Ягоных заданьнях Пасрэдніка і Архірэя. Яна ёсьць сапраўды сьвятарскім народам, хоць і ня ўсе члены Царквы ў аднолькавы спосаб бяруць удзел у Хрыстовым сьвятарстве.

Усе члены сьвятарскага народа павінны прымаць актыўны ўдзел у эўхарыстычнай Ахвяры, у Тайнах і ў Літургіі Царквы. Яны павінны быць “не чужымі і маўклівымі сьведкамі, але сьвядома прымаць у іх удзел” – кажа Канстытуцыя аб Літургіі (14; 21; 48). Хрысьціянін пакліканы да грамадскага праслаўленьня Бога.

Як Ісус Хрыстос і першыя хрысьціяне, а даўней – выбраны народ Старога Запавету, так цяпер кожны хрысьціянін павінен сьведчыць аб Богу ня толькі словам, але жыцьцём, і ў гэты спосаб быць Ягоным знакам у сьвеце.

**Наш адказ Богу:** Буду сьведчыць аб Богу ў часе сьвятой Літургіі, у малітве і ў цэлым жыцьці, ды буду Ягоным знакам.

**Пытаньні да 63-ае катэхэзы:**

127) Чаму мы завём Царкву “сьвятарскім народам”?

**Адказ:** Мы завём Царкву “сьвятарскім народам” таму, што яна прымае ўдзел у Хрыстовым сьвятарстве.

128) Якія заданьні спаўняе Царква, як “сьвятарскі народ”?

**Адказ:** Царква як “сьвятарскі народ”: a) аддае пашану Богу цераз прынашэньне Ахвяры і цераз грамадзкую малітву (публічны культ); b) паказвае людзям Божую праўду цераз пропаведзь Божага Слова і цераз сьвятое жыцьцё; c) вядзе людзей да выратаваньня цераз тайны.

64-ая КАТЭХЭЗА

## 64. Хрыстос дае асаблівы ўдзел у сваім сьвятарстве архірэям і іхным памочнікам – сьвятарам.

*“Бо ўсякі архірэй, з паміж людзей выбіраны, дзеля людзей ставіцца на тое, што Божае, каб прынасіць дары і ахвяры за грахі, каб мог выбачаць няцямлючым і блукаючым, бо і сам абложаны нядужасьцю. І дзеля гэтага павінен, як за народ, гэтак і за сябе, прынасіць ахвяры за грахі. І ніхто сам сабою не прыймае гэтае пашаны, але той, хто пакліканы Богам, так і Аарон”* (Гэбр. 5,1-4).

*

Усе веруючыя цераз Хрост маюць удзел у Хрыстовым сьвятарстве: яны ёсьць сьвятарскім народам. Аднак некаторыя зь іх у асаблівы спосаб бяруць удзел у Хрыстовым сьвятарстве. Гэтак было ад пачатку хрысьціянства. У першай хрысьціянскай грамадзе Эўхарыстыю адпраўлялі толькі апосталы. Бяз іх не магло адбыцца “ламаньне хлеба”. Толькі яны давалі Духа Сьвятога (Дз. 8,14), толькі яны “ўскладалі рукі” на дыяканаў і на сваіх наступнікаў (Дз. 6,5; 13,5).

Гэтак было з волі Хрыста. Гэта Ён выбраў “дванаццаць”, падрыхтоўваў будучы зь імі, вучыў іх ды ўзгадоўваў. Пасьля Свайго ўваскрасеньня даў ім права адпускаць грахі, загадаў ім прапаведваць Эвангельле і хрысьціць па ўсім сьвеце. А перадусім толькі апосталам даў уладу прынасіць Ахвяру. Ён Сам зрабіў гэта на Апошняй Вячэры, калі ахвяраваў бяскроўную Ахвяру, ды ім сказаў: “Рабіце гэтае на ўспамін аба Мне” (Лук. 22,19). Гэткім спосабам Хрыстос даў апосталам асаблівы ўдзел у Сваім сьвятарстве – іншы і розны ад усеагульнага сьвятарства вернікаў.

Ісус Хрыстос, як Галава Царквы, хацеў цераз апосталаў і іхных наступнікаў паўтараць Сваю Ахвяру. Як няма Царквы бяз Хрыста – Архірэя ды Ягонае Ахвяры, гэтак сама ня можа быць Царквы бяз Тайны Сьвятарства. У Царкве павінна заўсёды прынасіцца эўхарыстычная Ахвяра аж да другога прыходу Госпада.

Таму апосталы спаўняючы Хрыстовы загад засноўвалі новыя грамады (цэрквы) і ўстанаўлялі ўсюды сваіх наступнікаў. Ускладалі на іх рукі ды гэтак пераказвалі ім сваю сьвятарскую ўладу, якую атрымалі ад Хрыста.

За жыцьця апосталаў побач са сьвятарствам вернікаў існавала асобнае сьвятарства, якое сёньня мы завём гіерархічным або сакрамэнтальным, ад лацінскае назвы Тайны “сакрамэнтум”, Ягоным заданьнем ёсьць служыць да павялічваньня духовае карысьці Царквы. Таму Другі Ватыканскі Сабор называе яго служэбным (Канстытуцыя аб Царкве 18). Цераз сакрамэнтальнае сьвятарства Хрыстос як Галава Царквы асьвячае, навучае і вядзе веруючых да выратаваньня.

Поўнае гіерархічнае сьвятарства маюць архірэі. Яны атрымалі яго праз хіротонію або ўзлажэньне рук архірэяў. Яны кіруюць усёю Божаю службаю: адпраўленьнем Найсьвяцейшай Ахвяры, раздаваньнем усіх тайнаў і самі раздаюць **усе** тайны – таксама і Сьвятарства (Канстытуцыя аб Царкве 26).

Архірэі ў сваіх япархіях засноўваюць сэмінарыі, гэта значыць такія школы, якія рыхтуюць сьвятароў, памочнікаў архірэя. Пасьля экзамінаў архірэй ускладае рукі на тых, якіх уважае за годных сьвятарства і гэтак дае ім Тайну Сьвятарства. З дазволу архірэя сьвятары прапаведуюць Божае Слова, прыносяць Найсьвяцейшую Ахвяру, раздаюць тайны. “У паасобных мясцовых зборах вернікаў сьвятары заступаюць у пэўным значэньні архірэя, з якім лучацца даверліва і велікадушна, бяручы частку ягоных абавязкаў на сябе ды старанна выконваючы іх што дня. Тыя, што пад уладай архірэя асьвячаюць даручаную ім частку Госпадавага статку і кіруюць ею, будуюць на сваёй тэрыторыі ўсеагульную Царкву і эфэктыўна прычыняюцца да ўзросту ўсяго Хрыстовага Цела (Эф. 4,12)” (Канстытуцыя аб Царкве 28).

Таго, хто мае быць сьвятаром, архірэй перш пасьвячае на дыякана. Гэта – першая ступень сьвятарства. Другой ёсьць ярэйства або прэзьбітэрат. У нас ярэяў проста называюць сьвятарамі. Але архірэй таксама сьвятар, толькі гэта ўжо трэцяя, апошняя і найвышэйшая ступень сьвятарства. Кожная ступень мае сваю назву, каб ясьней выступіла розніца паміж імі. Калі хто жадае, можа заставацца дыяканам праз усё жыцьцё. Тады і вымаганьні яму ставяцца меншыя, чым таму, хто жадае быць сьвятаром. А ўжо абавязкі архірэя ёсьць настолькі вялікімі, што жадаць іх было б доказам, што гэты чалавек ня варты, каб быць архірэям, бо сам добра ня ведае, чаго жадае. Добрым архірэем нармальна бывае толькі той, каго іншыя прызнаюць годным гэтае вялікае годнасьці. Дыякану архірэй можа дазволіць прапаведваць Божае Слова, памагаць архірэю або сьвятару адпраўляць Божую службу, асабліва Літургію, хрысьціць, бласлаўляць шлюбы і займацца харытатыўнай дзейнасьцю ў прыходзе.

**Наш адказ Богу:** Буду ставіцца з пашанай і любоўю да архірэяў і іхных памочнікаў – сьвятароў. Гэта цераз іх Хрыстос выконвае Сваё сьвятарства дзеля нашага выратаваньня.

**Божае слова:** “Вы ўжо не чужыя і ня прыхадні, але суграмадзяне сьвятым і хатнія ў Бога – збудаваныя на падваліне апосталаў і прарокаў, маючы Самога Ісуса Хрыста за вуглавы камень, на якім уся будыніна, разам змацаваная, расьце ў сьвяты храм у Госпадзе, на якім і вы разам будуецеся на жыльлё Божае духам” (Эф. 2,19-22).

**Пытаньні да 64-ае катэхэзы:**

129) З якою мэтою Ісус Хрыстос устанавіў Тайну Сьвятарства на карысьць для Царквы, а асабліва каб аж да веку прынасілася Эўхарыстычная Ахвяра.

130) Што робяць у Царкве архірэі або біскупы?

**Адказ:** Архірэі, як намесьнікі Хрыста, Які ёсьць Галавою Царквы, асьвячаюць Царкву, навучаюць і кіруюць ею.

131) Што робяць у Царкве сьвятары?

**Адказ:** Сьвятары як памочнікі архірэяў бяруць удзел у асьвячэньні веруючых цераз раздачу тайнаў і цераз навучаньне.

65-ая КАТЭХЭЗА

# 65. Хрыстос прысутны на эўхарыстычным зборы вернікаў або на сьвятой літургіі.

*“Дзе двое ці трое зыйшліся ў імя Маё, там – Я сярод іх” (Мац. 18,20).*

*“Яны трывалі ў навуцы апосталаў у супольнасьці, у ламаньні хлеба і ў малітвах” (Дз. 2,42).*

*

Члены ерусалімскае грамады зьбіраліся разам. Яны гэтак выпаўнялі жаданьне Хрыста, які хацеў “разцярушаных Божых дзяцей сабраць у адно” (Ян. 11,52). Таму Царква і называецца ад пачатку па-грэцку “Экклезія”, што абазначае сход або збор.

Зыйшоўшыся хрысьціяне слухалі Божае Слова, маліліся ды дзякавалі Богу за адкупленьне, якое атрымалі цераз Ісуса Хрыста. Таму гэтыя сходкі або зборы яны па-грэцку называлі “Эўхарыстыя”, што па-нашаму азначае “падзяка”.

Трываючы на супольнай малітве, слухаючы Божае Слова, бяручы ўдзел у “ламаньні хлеба” ды спажываючы Хрыстовае Цела і Кроў, хрысьціяне мелі быць знакам для ўсіх, хто яшчэ нічога ня ведаў аб Ісусе Хрысьце. Гэтак яны паказвалі шлях да сапраўднай рэлігіі і да выратаваньня ў Ісусе Хрысьце.

*

Эўхарыстычны сход, званы сёньня сьвятой Літургіяй, быў за жыцьця апосталаў і аж да нашых дзён застаецца найважнейшым зборам Царквы ў імя Ісуса Хрыста. Апрача таго ён ёсьць сустрэчай, спатканьнем з Самым Хрыстом, бо ў Эўхарыстычным зборы заўсёды прысутны Ісус Хрыстос.

Перадусім Ён ёсьць прысутны ў сабраным Божым народзе: “Дзе два ці тры зыйшліся ў імя Маё, там Я паміж імі” (Мац. 18,20).

Ісус Хрыстос таксама прысутны ў Эўхарыстычным Зборы як Галава Царквы. Архірэй ці сьвятар, які кіруе зборам, ёсьць толькі бачным намеснікам Хрыста. Хрыстос Сам прысутны як Архірэй. Таму ўсе ўстаюць, калі ўваходзіць сьвятар, калі моліцца як наш прадстаўнік, калі да нас звяртаецца і вітае нас. Мы тады аказваем пашану Хрысту прысутнаму ў ім і дзеючаму праз яго.

Гэтак сама ёсьць прысутным Хрыстос у Сваім Слове. Калі архірэй, сьвятар або дыякан чытае Божае Слова ў эўхарыстычным Зборы, мы чуем Самога Хрыста: “Бо калі ў царкве чытаецца Сьвятое Пісьмо, тады Ён Сам гаворыць” – кажа Сабор (Канстытуцыя аб Літургіі 7). Таму перад чытаньнем Эвангельля сьвятар моліцца, а калі яго чытае дыякан або іншы сьвятар, той, хто кіруе набажэнствам, бласлаўляе яго. Прачытаўшы, сьвятар цалуе Эвангельле.

Найвыразьней выступае прысутнасьць Хрыста ў эўхарыстычным Зборы пад відамі хлеба і віна. Хрыстос кажа цераз сьвятара над хлебам тыя самыя словы, якія сказаў на Апошняй Вячэры: “Гэта ёсьць Маё цела”, а над віном: “Гэта ёсьць Мая Кроў” і гэтыя словы ня могуць быць няпраўдзівыя, бо сьвятар выпаўняе загад Хрыста, дык і сам моцна верыць і ў прысутных абуджае жывую веру ў прысутнасьць Хрыста ў сьвятых Тайнах так доўга, як доўга гэты хлеб застаецца хлебам, а віно – віном для нашых пачуцьцяў. Але наш розум адказваецца верыць сваім пачуцьцям. Ён больш верыць словам Хрыста, чым сваім вачам, свайму смаку ці свайму паху або дотыку. Розум чалавечы заўсёды лічыў магчымым, што хтось можа мець такую таемную сілу, званаю чарадзейскай, што мог бы замяніць чалавека ня толькі ў ваўка ці сабаку, але і ў кусок хлеба. Вось-жа, каб хто на нашых вачах замяніў Янку ці Сымона ў кавалак хлеба, мы хоць і вельмі дзівіліся б, але не ўважалі б гэтай рэчы за немагчымую і хоць бачылі б хлеб, ніколі не згадзіліся б, што гэты хлеб ёсьць сапраўдным хлебам, толькі сказалі б, што гэта ёсьць знаёмы нам чалавек – Янка ці Сымон, - які толькі выглядае як сапраўдны хлеб. Калі ўсе людзі заўсёды мелі гэткае пракананьне, ня будзе рэчай неразумнай верыць, што ўсемагутны Бог робіць вось у нашай прысутнасьці вельмі падобны цуд, бо-ж для Бога няма рэчаў немагчымых, дык можа Ён зрабіць тое, што нават чалавек уважае за магчымае для вышэйшай чым чалавечая сілы. Гэтая нашая вера аддае Богу найвялікшую пашану, бо прызнае Ягоную Магутнасьць.

Па-за эўхарыстычным Зборам Царква перахоўвае Найсьвяцейшыя Тайны ў асобных начыньнях і ў шанаваным месцы для хворых і тых, што ня могуць бываць на эўхарыстычным зборы. Гэтым Сьвятым Дарам аддаецца заўсёды найглыбейшая пашана, а на Захадзе нават вытварыліся асаблівыя вонкавыя спосабы публічнага культу Сьвятых Дароў. Мэтаю гэтага культу ёсьць – зьвярнуць увагу веруючых, што цераз прысутнасьць Ісуса Хрыста ў Сьвятых Дарах спаўняецца прырачэньне дадзенае Богам у Старым Запавеце, што Бог будзе заўсёды прабываць са Сваім народам і таму Хрыста прарокі завуць Эммануіл, што азначае “з намі Бог”.

**Наш адказ Богу:** У эўхарыстычным Зборы я сустракаюся з Хрыстом. Таму буду ахвотна хадзіць на сьвятую Літургію. Не забудуся і аб тым, што Ісус Хрыстос ёсьць прысутны ў нашых сьвятынях і па-за сьвятой Літургіяй. Пры нагодзе буду Яго адведваць.

**ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ ПЕРАД СЬВЯТЫМІ ДАРАМІ:**

“Так вялікі тут Сакрамант,
Аддавайма пашану яму!
Уступіў Стары Тэстамант
Свайго месца Новаму.
Вера будзе за дакумэнт
Чалавеку слабаму” *(Пяецца ў лацінскім абрадзе).*

**Навука Царквы:** “... Царква ніколі не пераставала зьбірацца на адпраўленьне пасхальнае містэрыі, чытаючы тое, “што было аб Ім у ва ўсіх Пісьмах” (Лук. 24,27), адбываючы Эўхарыстыю... і адначасна дзякуючы Богу за невыражальны дар” (2 Кар. 9,15) у Хрысьце Ісусе, дзеля праслаўленьня Ягонае хвалы”... Для здзяйсьненьня гэтае вялікае справы Хрыстос ёсьць заўсёды прысутны ў Сваёй Царкве... Ён ёсьць прысутны ў Ахвяры сьвятой Літургіі, як у асобе таго, хто яе адпраўляе... так і пад эўхарыстычным выглядам, выглядам хлеба і віна. Ён прысутны ў Сваім слове... Ды прысутны і тады, калі Царква моліцца і пяе псальмы...” (Канстытуцыя аб Літургіі 6,7).

**Пытаньні да 65-ае катэхэзы:**

132) Як Хрыстос прысутны ў эўхарыстычным Зборы?

**Адказ:** У эўхарыстычным Зборы Хрыстос прысутны: ва ўсіх зыйшоўшыхся, у сьвятары, які старшынствуе, у чытаным слове, а найвыразьней пад відамі, гэта азначае, пад выглядам хлеба і віна.

133) Калі Хрыстос пачынае быць прысутны пад выглядам хлеба і віна?

**Адказ:** Хрыстос пачынае быць прысутны пад выглядам хлеба і віна ў часе сьвятой Літургіі пасьля слоў, якія перамяняюць хлеб і віно ў Ягонае Цела і Ягоную Кроў і застаецца пад гэтым выглядам так доўга, як доўга трывае гэты выгляд.

134) З якою мэтаю зьбірае Хрыстос веруючых у эўхарыстычным сходзе?

**Адказ:** Хрыстос зьбірае Свой народ у эўхарыстычным Сходзе, каб цераз удзел у Хрыстовай малітве і ахвяры ён аддаваў пашану Богу ды імкнуўся да выратаваньня.

66-ая КАТЭХЭЗА

# 66. Хрыстос робіць прысутнай у Эўхарыстыі сваю выратавальную ахвяру.

*“Кожны раз, калі вы ясьцё гэты хлеб і п’еце гэтую чару, Гасподнюю сьмерць абвяшчаеце, дакуль Ён прыйдзе”* (1 Кар. 11,26).

Хрыстос на Апошняй вячэры ўзяў у рукі хлеб і віно, паблаславіў і даў вучням кажучы: “Гэта ёсьць Маё Цела, што за вас даецца... Гэтая чара ёсьць Новы Запавет у Маёй Крыві, што за вас праліваецца” (Лук. 22,19-20). Апосталы спаўняючы загад “рабеце гэтае на ўспамін аба Мне” зыходзіліся з веруючымі на “ламаньне хлеба”, у часе якога рабілі прысутнай выратавальную Ахвяру Хрыста. Сьвяты Павал піша аб гэтым выразна ў пасланьні да Карынцянаў: “Я ад Госпада прыняў, ды тое і вам перадаў, што Госпад Ісус у тую ноч, калі быў выданы, узяў хлеб і, аддаўшы хвалу, паламаў ды сказаў: “Прымеце, ешце, гэта ёсьць Цела Маё, за вас...”. Таксама... узяўшы чару, кажучы: “Гэтая Чара ёсьць Новы Запавет у Маей Крыві...” Дык кожны раз, калі вы ясьцё Гэты Хлеб і п’еце гэтую чару, сьмерць господнюю абвяшчаеце, дакуль Ён прыйдзе” (1 Кар.11,23-26). Хрысьціяне за жыцьця апосталаў і абапіраючыся на гэтую навуку разумелі, што “абвяшчаньне Господняе сьмерці” ня ёсьць толькі яе прыпамінаньнем, але і робіць прысутнай выратавальную Ахвяру Хрыста, каб гэтая прысутнасьць магла трываць аж да новага Ягонага прыходу.

*

Сьвядомасьць, што мы маем выратавальную Хрыстовую Ахвяру, была заўсёды жывою ў Царкве. Гэтую навуку вельмі моцна падкрэсьліў Другі Ватыканскі Сабор, прыпамінаючы, што Хрыстос “устанавіў эўхарыстычную Ахвяру Цела і Крыві Сваёй, каб у ёй да веку, аж да Свайго павароту замацаваць ахвяру крыжа...” (Канстытуцыя аб Літургіі 47).

У эўхарыстычным Зборы сьвятар, паўтараючы тое, што зрабіў Хрыстос, Ягонымі славамі **пераменяе** хлеб у Цела, а віно ў Кроў Хрыста. Ён робіць прысутным “ламанае” Цела і Кроў Новага Запавету. Гэтак робіцца прысутным Хрыстос, Бог-Чалавек, паслушны Айцу аж да сьмерці і любячы Айца ды людзей аж да выданьня самога сябе. Але Хрыстос ужо не памірае. Становіцца прысутным Хрыстос уваскросшы ды праслаўлены. Робіцца прысутнаю ўся праца Выратаваньня: сьмерці і ўваскрасеньня Хрыста.

Таму Царква пачынае прынашэньне гэтыя Ахвяры ўрачыстым заклікам да вернікаў – падняць свае сэрцы да Бога, а пасьля дзякаваць Яму за Выратаваньне ў ва ўсіх звязаных зь ім падзеях, ад уцелаўленьня і нараджэньня, цераз мукі, сьмерць і ўваскрасеньне, аж да новага спатканьня з Хрыстом у дзень Ягонага другога прыходу.

Поўныя радасьці і ўдзячнасьці, вернікі ўлучаюцца ў Ахвяру Хрыста. З вераю і любоўю сочаць яны за ўсім, што робіць і гаворыць сьвятар, які старшынствуе на эўхарыстычным Сходзе. У “сьвятым маўчаньні”, у ціхай малітве злучанай з малітвай сьвятара, яны таксама ўдзельнічаюць у ахвяры свайго Галавы, а таксама разам з Ім прыносяць і самых сябе. Як Хрыстос і яны ажыўляюць у сабе любоў Айца над усё і выражаюць Яму паслухмянасьць аж да ахвяры за свайго жыцьця. Гэтак яны выпаўняюць сваю сьвятарскую місію.

Адказ “Амін” на малітвы сьвятара якраз выражае агульную гатовасьць веруючых служыць Айцу цераз Хрыста і ў Ім. Гэтак па ўсіх мейсцах і ў кожным часе прыносіцца ў эўхарыстычным Зборы Ахвяра Новага Запавету, Якую прыносіць Хрыстос з новым выбраным народам, Царквой – Хрыстовым Целам. Гэтак выпаўняюцца вобразы ахвяраў Старога Запавету, прадказаньні прарокаў, з якіх найясьнейшым ёсьць прароцтва Малахіі: “Бо ад усходу сонца аж да ягонага захаду вялікім будзе Маё імя паміж народамі, ды на кожным месцы будзе прынасіцца Майму імю кадзільны дар і чыстая ахвяра” (Мал. 1,11).

**Наш адказ Богу:** У сьвятой Літургіі разам з Хрыстом прынясу на ахвяру Богу Айцу сваё жыцьцё, свае працы, радасьці ды цярпеньні.

**Прыклад малітвы:** “Найсьвяцейшую, Прачыстую, Найблаславёную, Слаўную Валадарыню нашую, Багародзіцу і заўсёды Дзеву Марыю з усімі сьвятымі ўспомніўшы, самі сябе, адзін аднаго і ўсё нашае жыцьцё Хрысту Богу аддаймо. Табе, Госпадзе” (З Усходняе Літургіі).

**Божае слова:** “Чара бласлаўленьня, якую бласлаўляем, ці ня ёсьць супольнасьцю Крыві Хрыстовае? Хлеб, што ламаем, ці ня ёсьць супольнасьць Цела Хрыстовага?” (1 Кар. 10,16).

**Пытаньні да 66-ае катэхэзы:**

135) Што Хрыстос робіць прысутным у эўхарыстычным Зборы?

**Адказ:** У эўхарыстычным Зборы Хрыстос робіць прысутнай працу Выратаваньня, гэта значыць Сваю сьмерць і ўваскрасеньне.

136) Калі Хрыстос робіць прысутнай Сваю выратавальную Ахвяру?

**Адказ:** Хрыстос робіць прысутнай Сваю выратавальную Ахвяру ў моманце перамены хлеба і віна ў Сваё Цела і Сваю Кроў.

137) Як удзельнічаюць веруючыя ў сьвятой Літургіі?

**Адказ:** Веруючыя удзельнічаюць у ахвяры Ісуса Хрыста, а разам з ім прыносяць у ахвяры і самых сябе.

67-ая КАТЭХЭЗА

# 67. Хрыстос у Эўхарыстыі лучыць Царкву ў любові.

*“Адзін хлеб, адно цела мы, многія; бо ўсе прычашчаемся ад аднаго хлеба” (1 Кар. 10,17).*

Хрыстос ахвяраваў некрывавую Ахвяру Новага Запавету першы раз на Апошняй Вячэры на Пасху. Гэта вось і падкрэсьліваў сьвяты Павал, навучаючы Карынцянаў аб Эўхарыстыі: “Бо я ад Госпада прыняў, ды тое і вам перадаў, што Госпад Ісус у тую ноч, калі быў выданы, узяў хлеб і, аддаўшы хвалу, паламаў ды сказаў: “Гэта ёсьць Цела Маё” (1 Кар. 11,23-24). Таму вось хрысьціяне ў апостальскіх часах і называлі эўхарыстычны Збор “ламаньне хлеба”, што азначала банкет, вячэру. І сапраўды Бог корміць Свой народ у Новым Запавеце гэтак сама, як карміў у Старым Запавеце народ на пустыні маннай ды паіў вадою са скалы (1 Кар. 10,3-4). Манна была прадказаньнем Эўхарыстыі.

Аднак гэта ня ёсьць звычайны банкет, але банкет зьвязаны са складаньнем ахвяры. Таму сьвяты Павал прыпамінае, што веруючые ядуць Цела “за нас ламанае” і п’юць Кроў, якая на крыжы была за нас пралітая. Таму прыпамінае: “Бо кожны раз, калі вы ясьцё гэты хлеб і п’еце гэтую чару, сьмерць Гасподнюю абвяшчаеце” (1 Кар. 11,26).

Сьвяты Ян прыпомніў хрысьціянам, што бяручы ўдзел у гэтым банкеце яны лучацца як найцясьней з Ісусам Хрыстом. Бо Хрыстос сказаў: “Хто есьць Маё Цела і п’е Маю Кроў, у ва Мне трывае і Я ў ім” (Ян. 6,56). Апрача таго сьвяты Ян вучыў, што лучачыся ў эўхарыстычным банкеце з Сынам Божым, мы лучымся адначасна з Айцом і Сьвятым Духам, значыць з усёй Сьвятой Тройцай. У сваім Эвангельлі ён прыпомніў Хрыстовую малітву: “Няхай будуць усе адно, як Ты, Айцец, у ва Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно, каб сьвет паверыў, што Ты паслаў Мяне” (Ян. 17,21).

Хрысьціяне лучацца ў Эўхарыстыі з Хрыстом як з Галавой новага Божага народа, як з вінаграднай лазой і цераз гэта лучацца таксама як найцясьней паміж сабой. Аб гэтай праўдзе вучыў сьвяты Павал (1 Кар. 10,17), як і сьвяты Ян, які ў сваім Эвангельлі прыпамінае, што Хрыстос “новы Свой загад” даў

якраз на Апошняй Вячэры: “Вось Мой загад: любеце адзін аднаго, як Я палюбіў вас” (Ян. 15,12).

Навуку аб Эўхарыстыі, як аб ежы і банкеце злучаным з прынашэньнем ахвяры Царква абвяшчае праз усе стагодзьдзі. У кожнай сьвятой Літургіі сьвятар спажывае хлеб і віно перамененыя на гэтай Літургіі. Аўтары маюць форму сталоў, бо гэта і былі перш звычайныя сталы, а толькі пасьля формы іх мяняліся ў залежнасьці ад розных прычын і ўмовінаў. Хто хоча прымаць поўны ўдзел у эўхарыстычным Банкеце, той павінен ня толькі прыносіць ахвяру, але і спажываць Цела і Кроў Хрыстовую. Каб паказаць, што сьвятое Прычасьце ёсьць удзелам у ахвяры, Царква нават у лацінскім абрадзе цяпер вымагае, каб веруючыя прычашчаліся па магчымасьці толькі ў часе сьвятой Літургіі і Дарамі, якія былі асьвячаныя на гэтай Літургіі (Канстытуцыя аб Літургіі 55).

Прычашчэньне веруючых, асабліва ў нядзельным эўхарыстычным Зборы, ёсьць знакам іхняе глыбокае веры і што яны помняць словы Хрыста: “Я – хлеб жывы, што зыйшоў зь неба: хто есьць гэты хлеб, жыць будзе вечна” (Ян. 6,51)

Адначасна Царква прыпамінае навуку апосталаў аб Эўхарыстыі, як аб тайне адзінства і любові. Яна называе Эўхарыстычны Банкет “Камуніяй”, што значыць: супольнасьць, адзінства. Гэтае самае абазначае і слова “Прычасьце”. Прыгатаўляючы веруючых да ўдзелу ў ім, Царква заклікае іх адгаварыць супольна малітву дзяцей Божых “Ойча наш”; прыпамінае ім абавязак дараваньня правінаў адзін аднаму і пагаджэньне між сабою, каб мір Божы запанаваў між імі.

**Наш адказ Богу:** Кожную нядзелю бываючы на сьвятой Літургіі буду прымаць удзел у эўхарыстычным Банкеце.

**Прыклад малітвы:** “У адно нас сабрала любоў Хрыстова. Дзе ёсьць узаемная любоў і адна думка, там ёсьць Бог. Дзе любоў узаемная і дабрата, там знойдзеш Жывога Бога.

**Божае слова:** “Калі ты прынясеш сваю ахвяру на ахвярнік і там прыпомніш,  што твой брат мае нешта супраць цябе, пакінь там ахвяру перад ахвярнікам і пайдзі перш пагадзіся з тваім братам, а тады ўжо прыйдзі і прынясі сваю ахвяру” (Мац. 5,23-24).

**Царкоўная традыцыя:** “Як гэты ламаны хлеб быў разсеяны па гарах, а сабраны, стаўся адным, так няхай збярэцца Твая Царква з канцоў зямлі ў Тваё Валадарства” (Дыдахэ).

**Пытаньні да 67-ае катэхэзы:**

138) Што робіць Хрыстос у эўхарыстычным Банкеце?

**Адказ:** Хрыстос у эўхарыстычным Банкеце лучыць Царкву ў любові.

139) З кім лучацца веруючые, прымаючы сьвятое Прычасьце?

**Адказ:** Веруючые прымаючы сьвятое Прычасьце лучацца з Хрыстом, а цераз Яго са Сьвятой Тройцай і з усімі членамі Царквы.

140) У які спосаб веруючыя найлепш прымаюць удзел у Сьвятой Ахвяры?

**Адказ:** Веруючые найлепш прымаюць удзел у Найсьвяцейшай Ахвяры, калі прымаюць Цела і Кроў Госпада.

68-ая КАТЭХЭЗА

# 68. Царква рыхтуецца да Эўхарыстыі праз дзейную любоў.

*“Усе веруючыя былі разам, і ўсё ў іх было супольнае” (Дз. 2,44).*

*“У грамады-ж веруючых было адно сэрца і адна душа, і ніхто нічога з маёмасьці сваёй не называў сваім, але ўсё ў іх было супольнае” (Дз. 4,32).*

Хрыстовая любоў, якая бярэ пачатак з Эўхарыстыі, праяўлялася ў апостальскай грамадзе ў шматлікі спосаб. Калі хрысьціяне ў Антыохіі даведаліся аб голадзе, які пагражаў іхнім братом у Юдэі, “пастанавілі, колькі хто мог, кожны з іх пасла̀ць на дапамогу братом, што жылі ў Юдэі”. “І ўчынілі гэта, паслаўшы старшым праз рукі Варавы і Саўла” (Дз. 11,29-30). Да гэткіх учынкаў часта заклікаў сьв. Павал. Ён пісаў да Карынцянаў: “Пры складцы-ж, што для сьвятых, рабеце і вы так, як я ўстанавіў у цэрквах Галацкіх: у першы дзень тыдня кожны з вас няхай складае ў сабе і захоўвае, як яму вядзецца, каб не рабіць збораў тады, як я прыду. Калі ж прыду, дык, якіх выберацe, тых пашлю з пісьмамі занесьці ваш дар у Ерусалім, а калі прыстойна будзе і мне пайсьці, дык са мною пойдуць” (1 Кар. 16,1-3). Гэтымі справамі займаліся дыяканы, што прыслужвалі таксама пры Эўхарыстыі.

Веруючыя ўтрымлівалі таксама тых, што служылі аўтары. Аўтар тут абазначае ахвярнік, стол, на які веруючыя прыносяць і кладуць ахвяры. У гэтым значэньні слова “аўтар” ужывае сьвяты Павал, калі піша да Карынцянаў, што яны маюць абавязак утрымліваць тых, што будучы занятымі прапаведваньнем Эвангельля і службай аўтару, не маглі працаваць на сваё ўтрыманьне. Пры гэтым ён паклікаўся на словы Хрыста, які сказаў: “варты работнік стравы сваёй” (Мац. 10,10). “Ці-ж ня ведаеце, што тыя, хто пры сьвятым працуе, ядуць са сьвятога? Што паслугуючыя пры ахвярніку бяруць долю ад ахвярніка? Гэтак і Госпад загадаў тым, што Эвангельле абвяшчаюць, жыць ад Эвангельля” (1 Кар. 9,4-14). Усходняя царква сёньня аўтаром называе частку сьвятыні, у якой маюць права прабываць толькі сьвятары і асобы, што ім прыслужваюць у часе набажэнства. У лацінскім абрадзе гэтая частка сьвятыні назваецца “прэсбітэрыум”.

Сапраўдная і ўсеагульная любоў выражалася таксама ў малітве адных за другіх. Гэткае малітвы прасіў сьвяты Павал ад Рымлянаў: “Малю вас, браты, Госпадам нашым Ісусам Хрыстом і любоўю Духа, памагаць мне малітвамі за мяне да Бога” (Рым. 15,30). Заклікаў ён таксама да малітвы за другіх: “Дык перш за ўсё прашу ўпрашаць, маліцца, умаляць ды дзякаваць за ўсіх людзей, за цароў і за ўсіх, што на версе” (1 Цім. 2,1-2).

Вонкавым знакам сапраўднай і дзейнай любові было ў часах апосталаў спалучэньне Эўхарыстыі з супольнымі вячэрамі. Кожны прыносіў ежу. Дзяліліся ёю ўсе. Аднак, калі ў Карынцкай грамадзе багатыя не хацелі есьці разам з убогімі, сьвяты Павал зганіў іх за гэта вельмі гостра: “Дык калі гэтак зьбіраецеся, няма ў вас спажываньня Госпадняе Вячэры”. А спажываньне Госпадняе Вячэры бяз любові бліжняга назваў “нягодным” спажываньнем. “Бо хто есьць і п’е нягодна, той есьць і п’е ў прысуд сабе, не разважаючы аб Целе Госпаднім” (1 Кар. 11,20-29). Гэтак вось эўхарыстычны Збор аб’яўляў дзейную любоў і ўзаемную адказнасьць першых хрысьціянаў.

Супольныя банкеты, званыя агапамі – банкетамі любові, у пазьнейшых стагодзьдзях выйшлі з царкоўнае практыкі. Царква аднак ніколі не забылася, што сапраўдная падрыхтоўка да ахвяры адбываецца ў сапраўднай і дзейнай любові. Хоць ужо не было супольных банкетаў, веруючыя прыносілі на ахвяру дары ў натуры (хлеб, віна, аліву, воск, палатно) на патрэбы Царквы і для ўбогіх. Ад сёмага стагодзьдзя замест дароў у натуры, пачалі даваць на ахвяру грошы. Гэтак ёсьць і сёньня. За грошы сабраныя ў царкве купляецца ўсё, што ёсьць патрэбным у царкве да службы Божай. За гэтыя грошы будуюцца новыя сьвятыні і аднаўляюцца старыя. З гэтых грошаў аплачваецца ўтрыманьне тых, што працуюць пры Царкве. Частка грошаў прызначана на ўбогіх і патрабуючых у парафіі. У часах, калі не было

грамадзкае апекі толькі Царква і апекавалася ўсімі, каго спаткала старасьць або іншая бяда ці няшчасьце, а і сёньня найлепш зарганізаваная грамадзкая апека ня можа абняць усіх выпадкаў, дзе чалавек патрабуе помачы і дзе толькі Царква можа яшчэ прыйсьці ды гэтую помач аказаць. Аб гэтых абяздоленых братах Царква нам прыпамінае асабліва перад вялікімі хрысьціянскімі сьвяткаваньнямі. З ахвяраў зьбіраных у часе сьвятой Літургіі Царква ўтрымлівае клерыкаў, якія вучацца на сьвятароў і старых сьвятароў, якія ўжо ня могуць працаваць. Цераз гэтыя ахвяры, рыхтуючыся да Эўхарыстыі, мы зьдзяйсьняем узаемную любоў і адказнасьць за Царкву.

Царква і сёньня як за апостальскіх часаў жадае, каб мы рыхтуючыся да ахвяры абнялі сваёй любоўю і адказнасьцю прысутных у эўхарыстычным Зборы людзей нашых братоў як і ўсю Царкву. З гэтаю мэтай Другі Ватыканскі Сабор аднавіў практыку “малітвы вернікаў” у лацінскім абрадзе, якая адгаворваецца пасьля гаміліі. У ёй веруючыя моляцца за сьвятога Айца, за свайго біскупа, за кіраўнікоў дзяржавы, за ўсіх веруючых і няверуючых, за тых, што церпяць і патрабуюць помачы, за ўсе царкоўныя справы.

Гэтак праз дзейную любоў і адказнасьць за ўсю Царкву хрысьціянская грамада рыхтуецца да ўдзелу ў выратавальнай Ахвяры ды да банкету еднасьці і любові.

**Наш адказ Богу:** Хачу з сапраўднай любоўю і адказнасьцю прымаць удзел у “прыгатаваньні ахвярных дароў”.

**Прыклад малітвы:** “Каб сьвятой сваёй Царквою кіраваць і захаваць яе Ты меў ласку, Цябе просім, выслухай нас, Госпадзе.

Каб князём і ўрадам хрысьціянскім мір і згоду даць Ты меў ласку, Цябе просім, выслухай нас, Госпадзе.

Каб нас самых уцьвярдзіць і захаваць у Сваёй сьвятой службе Ты меў ласку, Цябе просім, выслухай нас, Госпадзе” (З літаніі да ўсіх Сьвятых).

**Божае слова:** “А хто мае дастатак у сьвеце, але бачачы свайго брата ў патрэбе зачыняе ад яго сваё сэрца, - дык як прабывае ў ім любоў Божая? Дзеткі мае! Будзем любіць ня словам ці языком, але дзелам і праўдаю!” (1 Ян. 3,17-18). “Я вельмі ўцешыўся ў Госпадзе, што вы ўжо калісьці пачалі думаць аба мне, аб якім і раней думалі, ды не было нагоды. Па-за гэтым вы добра зрабілі, дзелячы са мною мой сум. Вы і ў Тэсалоніку і раз і два прысылалі мне ў патрэбе” (Філіп. 4,10.14.16).

**Пытаньне да 68-ае катэхэзы:**

141) Як рыхтуецца Царква да прынашэньня Найсьвяцейшае Ахвяры?

**Адказ:** Царква рыхтуецца да прынашэньня Найсьвяцейшае Ахвяры перадусім цераз дзейную любоў бліжняга і суадказнасьць.

142) Што такое малітва вернікаў?

**Адказ:** Малітва вернікаў – гэта малітва эўхарыстычнага Збору за патрэбы ўсеагульнае Царквы, за патрэбы дзяржаваў і народаў, за патрэбы парафіі дый паасобных людзей.

69-ая КАТЭХЭЗА

## 69. Хрыстос з Царквою моліцца да Айца ў Сьвятой Літургіі.

*“Госпаду памолімся” – “Госпадзе зьмілуйся” (З Літургіі).*

*“Яны трывалі ў навуцы апосталаў, у супольнасьці і ламаньні хлеба, ды ў малітвах” (Дз. 2,42).*

*

Сьвяты Лука, апісваючы жыцьцё Хрыстовых апосталаў і вучняў у апостальскіх часах, вельмі часта ўспамінае аб іхняй малітве. Сабраўшыся на малітву яны чакаюць на спасланьне Сьвятога Духа. Пасьля гэтага здарэньня таксама трываюць разам на малітве пяючы псальмы. Аднак перадусім яны маліліся разам у эўхарыстычным Зборы. Ён быў для іх ня толькі Зборам ахвяры і банкету, Зборам слова і любові, але таксама Зборам малітвы. Сьвяты Ян апісваючы Апошнюю вячэру якраз запісаў найпрыгажэйшую малітву Хрыста-Архірэя. Сьвяты Павал заахвочваў хрысьціян у Эфезе якраз думаючы аб эўхарыстычных сходах: “напаўняйцеся Духам, гаворачы да сябе псальмамі і гімнамі і духоўнымі песьнямі, пяючы і граючы Госпаду ў вашых сэрцах” (Эф. 5,18-19). Гэтую самую заахвоту ён паўтарыў таксама ў пасланьні да Каласянаў (Кал. 3,16).

*

У эўхарыстычным Зборы веруючыя пяюць тыя самыя псальмы, якія адгаворваў Хрыстос, апосталы і першыя хрысьціяне. Гэтыя псальмы мяняюцца ў кожную нядзелю і кожнае сьвята, залежна ад таго настрою, які перажываецца Царквою. Тады падбіраецца і адпаведны зьмест Божага Слова, асобны на выражэньне радасьці, асобны для пакуты або ўдзячнасьці.

Веруючыя сабраўшыся навокал архірэя або сьвятара аддаюць зь ім разам пашану Богу Адзінаму ў Сьвятой Тройцы, праслаўляючы Яго за дзела Выратаваньня. Яны адгаварваюць: Слава Айцу і Сьвятому Духу..., Слава на вышынях Богу..., Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты Госпад нябесных сілаў..., Ойча наш..., і Алілуя. Ёсьць часьці малітвы, якія адгаварвае толькі сьвятар ад імя сабраных, якія вернікі толькі слухаюць і ў канцы адказваюць: “Амін”, што па гэбрайску значыць: “Сапраўды так”, або “Няхай так будзе”. Ёсьць малітвы, якія адгаварвае толькі сьвятар, калі вернікі пяюць або слухаюць голасна чытанай малітвы.

Малітва вернікаў укладзена ў форме літаніі. Гэтая форма ва ўсходнім абрадзе завецца Эктэніяй і ёсьць найлепшай формай малітвы, бо ў ёй Царква выпаўняе раду Самога Госпада. Хрыстос з аднаго боку вучыў аб патрэбе малітвы: “Маліцеся. Маліцеся заўсёды. Трэба маліцца безупынна”. А з другога боку перасьцярагаў, каб мы не маліліся як паганцы, якія ня ведалі, што ёсьць адзін Бог, які ведае. Дык зьвяртаючыся да сваіх багоў, яны зьвярталіся так, як чалавек зьвяртаецца да чалавека, калі чаго патрабуе. Ён мусіць дакладна патлумачыць, чаго яму трэба. Толькі тады можа спадзявацца, што можа і захоча яму памагчы. Далей паганцы думалі, што і багі таксама як людзі могуць быць не ласкавы, або гневацца на чалавека, нелюбіць яго, а прынамсі быць абыякавымі. Дык вялікай турботай паганцаў было, каб зьвярнуцца да бога ў як найпрыгажэйшай ветлівай форме, каб яго да сябе ўспасобіць. Вось жа Хрыстос і аб’явіў нам аб Богу дзьве вельмі важныя рэчы: першая, - што Бог ведае ўсё, усе нашыя патрэбы перш, чы мы да Яго зьвернемся. Таму ня трэба Яго вучыць, ня трэба Яму нічога тлумачыць. Другая рэч, - Бог ёсьць нашым Бацькам, Айцом, а добры бацька ня можа не жадаць дабра для сваіх дзяцей. Таму зусім не патрэбна паганцы шукаюць прыгожых слоў, якімі можна ашукаць чалавека, але ня Бога, які бачыць праўду. Таму і зьвяртацца да Яго трэба ў духу і праўдзе. Бог бачыць нас такімі, якімі мы ёсьць і гэта зусім не перашкаджае Яму любіць нас, бо мы Ягоныя дзеці. Таму ў Царкве дыякан або сьвятар перш прыпамінае ўсе патрэбы, якія толькі мы маем, але прыпамінае іх ня Богу, бо гэта было б не патрэбным, але нам, бо мы самі часта ня ведаем, чаго нам найбольш патрэба. А ня ведаючы мы ніколі і не зьвярнуліся б да Бога, Які жадае нам дапамагчы. З гэтаю вось мэтаю і прыпамінае нам Царква, каб мы, пазнаўшы свае патрэбы, сапраўды папрасілі Бога і гэтым самым пазволілі Яму нам памагчы,

а ня толькі паўтаралі вуснамі просьбу даць нам тое, чаго мы і ня думалі ў Бога папрасіць.

Царква паслугоўваецца малітвамі, якім Сам Бог навучыў сьвятых людзей і таму яны запісаны ў сьвятым Пісьме, як напрыклад псальмы, або і сама вучыць нас маліцца так, як трэба, укладаючы для людзей малітвы. Усе гэтыя малітвы ад веку ўжываныя ў царкоўнай практыцы ў часе эўхарыстычнага Збору.

**Наш адказ Богу:** Разам з Хрыстом, які паслугоўваецца сьвятаром, каб нам памагаць маліцца, з усімі веруючымі буду маліцца згодна з навукай Хрыста ў часе эўхарыстычнага Збору.

**Прыклад малітвы:** Ойча наш, каторы ёсьць у небе. Сьвяціся Тваё імя, прыйдзі Тваё валадарства, будзь твая воля, як у небе так і на зямлі. Хлеба нашага штодзённага дай нам сёньня. І адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым, і ня ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога. Бо Тваё ёсьць Царства і сіла і слава на векі. Амін.

**Пытаньне да 69-ае катэхэзы:**

143) Хто моліцца ў эўхарыстычным Зборы?

**Адказ:** У эўхарыстычным Зборы моліцца праслаўлены Ісус Хрыстос разам з усёю Царквою.

**ЭЎХАРЫСТЫЧНАЯ МІСТЭРЫЯ**

Канстытуцыя аб Літургіі называе сьвятую Літургію эўхарыстычнай Містэрыяй. У сьвятой Літургіі, якая ў лацінскім абрадзе завецца Імшой, па-лаціне Місса, Хрыстос выконвае дзела нашага выратаваньня. У гісторыі выратаваньня можна бачыць тры этапы:

Прыгатаваньне на прыход Хрыста.

Выратавальная дзейнасьць Ісуса Хрыста ў часе Ягонага жыцьця на зямлі.

Выратаваўчая дзейнасьць Ісуса Хрыста аж да Ягонага другога прыходу робіцца прысутнай усьцяж у Літургіі, асабліва ў эўхарыстычнай Містэрыі.

Літургія эўхарыстычнай Містэрыі сьвятой Імшы абымае літургію Слова і літургію Эўхарыстыі.

**ЛІТУРГІЯ СЛОВА**

Перш чым Бог пачне гаварыць да Свайго народа цераз Слова, гэты народ зьбіраецца ў сьвятыні. Нас улучылі ў Божы народ цераз Хрост. Адтуль звычай ставіць пры ўваходзе ў сьвятыні сьвятую ваду. Веруючыя ўходзячы робяць на сабе знак крыжа, каб прыпомніць сабе, што яны ахрышчаны і цяпер ізноў хочуць увайсьці ў лучнасьць з Айцом, Сынам і Сьвятым Духам.

Калі народ зьбярэцца, выходзіць сьвятар, які будзе Старшынёй у Эўхарыстычнай Містэрыі. Ён займае месца Самога Хрыста. Таму веруючыя ўстаюць і пяецца Introit. Гэтак завецца па лаціне верш, званы таксама Антыфонай на ўход сьвятара. Пачынаецца супольная малітва, пасьля якой Бог прамаўляе ў Сваім Слове. Веруючыя слухаюць спачатку чытаньня са Старога Запавету, з Апостальскіх Дзеяньняў, або з пасланьняў Апосталаў. Сваю ўдзячнасьць за Божае Аб’яўленьне народ выражае радасным “Алілуя” з вершамі сьвятога Пісьма.

Для Божага народа асаблівае значэньне маюць Словы Хрыста – Ягоная добрая Навіна або Эвангельле. Перад чытаньнем Эвангельля сьвятар моліцца, а дыякан, калі сьпявае Эвангельле, просіць перш на гэта ў сьвятара блаславеньне. Потым сьвятар вітае народ славамі: “Госпад з вамі”, што абазначае: “Хрыстос ужо ёсьць прысутны, зара пачуеце Яго. Ва ўсходняй Царкве сьвятар вітае людзей славамі Хрыста і ад Яго імя: Мір усім. На Захадзе толькі архірэй мае права ў імя Хрыста вітаць веруючых славамі: Мір

вам! Калі веруючыя пачуюць тытул Эвангельля, пяюць у адказ: “Слава Табе, Госпадзе!”. Прачытаўшы Эвангельле сьвятар выясьняе ў гаміліі тайны веры і асновы хрысьціянскага жыцьця. Малітвай Вернікаў канчаецца літургія Божага Слова.

**ЛІТУРГІЯ ЭЎХАРЫСТЫІ**

Турботай аб патрэбах Царквы, якую выражала малітва Вернікаў, пачынаецца таксама эўхарыстычная літургія. Бо веруючыя пачуваюцца да адказнасьці за жыцьцё Царквы, якая мае таксама матэрыяльныя патрэбы. Цераз ахвярныя дары хлеба і віна Божы народ прыгатаўляе эўхарыстычную Ахвяру і да гэтага далучае свае турботы аб патрэбах сьвятыні, духавенства, убогіх і бяздольных. У часе прыгатаваньня і зьбіраньня дароў на ахвяру пяецца асобная антыфона.

Потым сьвятар моліцца над дарамі прадстаўляючы Богу нашыя ахвяры і просьбы.

Далей ідуць наступныя часткі Эўхарыстычнай Містэрыі:

- Прыгаватаньне веруючых да Хрыстовае Ахвяры.
- Эўхарыстычная малітва, у канцы якой веруючыя чуюць Словы Самога Хрыста, Які гаворыць праз вусны сьвятара і перамяняе хлеб і віно ў Сваё Цела і Кроў.

Сьвятар разам з народам улучаюцца ў бязкроўную Ахвяру Хрыста, ахвяруючы яе Богу, а з ею і сябе самых, адзін аднаго і ўсё сваё жыцьцё з усімі яго патрэбамі.

Пачынаецца прыгатаўленьне да сьвятога Прычасьця. Галоўным момантам прыгатаваньня веруючых ёсьць супольная Гасподняя малітва “Ойча наш”. Веруючыя прымаюць Цела і Кроў Хрыста пад постацямі хлеба і віна, каб мець у сабе жывучага Хрыста і самым прабываць у Ім.

Канчаецца Эўхарыстычная Містэрыя кароткай падзякай за сьвятое Прычасьце і блаславеньнем сьвятара, які аб’яўляе аб заканчэньні эўхарыстычнай Ахвяры і жадае веруючым разыходзіцца з мірам у душы. Веруючыя дзякуюць Богу і разыходзяцца.

70-ая КАТЭХЭЗА

# 70. Хрыстос, прысутны ў Сваім Слове, вучыць Царкву ў часе Сьвятой Літургіі.

*“Вы адроджаныя ня з тлеючага насеньня, але з нятленнага, праз Слова Бога Жывога і прабываючае да веку” (1 Пятр. 1,23).*

*“Дзеля гэтага і мы несупынна дзякуем, што вы, прыняўшы ад нас, пачутае слова Божае, прынялі яго не як слова чалавечае, а (як яно ёсьць па праўдзе), слова Божае, якое і дзее ў вас, веруючых” (1 Тэс. 2,13).*

Хрыстос прышоў на сьвет, каб ратаваць людзей. Да выратаваньня людзям патрэбна вера, а верыць можна толькі тады, калі нехта чагось вучыць. Таму Хрыстос і навучаў людзей, каб абудзіць у іх веру. “Вера ад слуханьня, а тым, што слухаем, ёсьць Слова Божае” (Рым. 10,13).

Ісус Хрыстос адыйшоў у неба. Аднак астаўся і з людзьмі цераз Сваё выратавальнае слова. Бо загадаў апосталам, каб яны далей навучалі: “Ідзіце па ўсім сьвеце і абвяшчайце Эвангельле ўсякаму стварэньню” (Мар. 16,15). Апосталы выпаўняючы гэты загад лучылі абвяшчаньне Божага Слова з Эўхарыстычным Зборам. Сьвяты Лука, апісваючы жыцьцё хрысьціянскай грамады ў Ерусаліме, зазначыў: “Трывалі яны ў навуцы апосталаў, у супольнасьці і ламаньні хлеба, ды ў малітвах” (Дз. 2,42). Гэтак сама сьвяты

Павал абвяшчаў Божае Слова ў эўхарыстычным Зборы: “У першы дзень тыдня, калі вучні сабраліся на ламаньне хлеба, Павал, манючыся назаўтра выйсьці, вёў зь імі гутаркі і зацягнуў яе ажно да поўначы. І, падняўшыся наверх ды разламаўшы хлеб і паеўшы, гутарыў даволі ажно да сьвітаньня дый пайшоў” (Дз. 20,7.11).

Супольнасьць хрысьціянаў выражалася ў любові, Эўхарыстыі і навуцы Хрыста. Хрысьціяне заўсёды верылі, што Хрыстос ёсьць прысутны між імі пад відамі хлеба і віна ў Тайне Эўхарыстыі а таксама ў Сваім Слове.

Гэтак сама сёньня Ісус Хрыстос ёсьць прысутны між намі цераз Сваё Слова, якое Царква абвяшчае ў эўхарыстычным Зборы. Літургія Слова папераджае літургію Эўхарыстыі. Хрысьціяне сабраўшыся навокал ахвярніка слухаюць перш Божае Слова. Яно складаецца з двух розных чытаньняў. Адно бярэцца з кніг Старога Запавету, або з Дзеяньняў ці Пасланьняў апостальскіх. Яго можа чытаць кожны ахрышчаны чалавек. Затое другое чытаньне адбываецца больш урачыста, бо на яго складаюцца выняткі са сьвятога Эвангельля. Таму чытае яго сьвятар або, прынамсі, дыякан. У нядзелі і сьвяты сьвятар або дыякан гаворыць пасьля Эвангельля гамілію. Яна выясьняе літургічнае чытаньне, абставіны таго літургічнага дня, або навучае праўдаў веры ці хрысьціянскага жыцьця. Чытаньні і гамілія належаць да цэласьці сьвятой літургіі. Божае Слова абвяшчанае ў Літургіі Слова прабуджае і ўзмацоўвае веру дый прыгатаўляе да карысьнейшага ўдзелу ў літургіі Эўхарыстыі. Таму пасьля літургіі Слова пяецца або адгаварваецца супольна Ніцэйска-Канстантынопальскі Сымбаль веры – “Веру ў аднаго Бога”. У лацінскай Імшы ён пяецца не заўсёды, як на Ўсходзе, а толькі ў нядзелі і большыя сьвяты.

На кожнай сьвятой Літургіі веруючыя ў часе перамены хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыстовую сваім вонкавым захаваньнем поўным пашаны выражаюць сваю веру і прысутнасьць выратавальнай Ахвяры Хрыста, у збаўчую любоў Бога. А прымаючы сьвятыя Тайны і адказваючы сьвятару “Амін”, яны выражаюць сваю веру ў сапраўдную прысутнасьць Хрыста пад відам хлеба і віна ды ў сапраўднасьць злучэньня з Ім, з усёй Сьвятой Тройцай і адначасна з усёю Царквою.

**Наш адказ Богу:** Заўсёды ўважліва буду слухаць Божае Слова і пастараюся не пазьніцца на сьвятую Літургію.

**Прыклад малітвы:** “Няхай засьвеціць у нашых сэрцах, чалавекалюбівы Валадару, непрамінаючае сьвятло Тваей разтаропнасьці. І адчыні вочы нашае думкі, каб разумець Твае эвангельскія прапаведваньні: укладзі ў нас і страх сьвятых тваіх загадаў, каб патаптаўшы цялесныя пажадлівасьці, мы праходзілі праз духоўнае жыцьцё ўсё думаючы і робячы так, каб яно Табе падабалася. Бо Ты – сьвятло для душ і целаў нашых, Хрысьце Божа, і Табе мы шлём славу з Айцом Тваім, Які ня мае пачатку, і з Найсьвяцейшым і Добрым і Жыцьцятворчым Тваім Духам, цяпер і заўсёды і на векі вечныя. Амін.

**Божае слова:** “Словы, якія вам кажу, ёсьць дух і жыцьцё” (Ян 6,63). – “У Тваіх пастановах будзе ўцеха мая, слова Твайго не забуду. Слова Тваё – сьветач для стоп маіх і сьвятло на сьцежцы маей” (Пс. 118,16.105). – “Слова Божае жывое і дзеючае, ды гастрэйшае за ўсякі меч двусечны” (Гэбр. 4,12).

**Літургія:** “Хай словы Эвангельля зьніштожаць нашыя грахі” (кажа сьвятар, цалуючы Эвангельле пасьля чытаньня).

**Навука Царквы:** Каб багацейшым зрабіць для веруючых стол Слова Божага, трэба шырэй адчыніць біблійны скарб, так каб у назначаным часе змагчы прачытаць вернікам значнейшую частку Сьвятога Пісьма.

Вельмі рэкамендуецца гамілія як частка самой літургіі, бо ў ёй на падставе сьвятых тэкстаў тлумачацца на працягу літургічнага году тайны веры і

прынцыпы хрысьціянскага жыцьця. Без паважнае прычыны ня трэба яе прапускаць у нядзелі і сьвяты, калі веруючыя маюць абавязак бываць на сьвятой Літургіі” (Канстытуцыя аб Літургіі 51-52).

**Пытаньне да 70-ае катэхэзы:**

144) Як называецца першая частка сьвятой Літургіі?

**Адказ:** Першая частка сьвятой Літургіі называецца літургіяй Слова.

145) Чым ёсьць літургія Слова?

**Адказ:** Літургія Слова ёсьць пераказам Божае навукі з мэтою разбудзіць веру і падрыхтаваць веруючых да прыманьня ўдзелу ў літургіі Эўхарыстыі.

71-ая КАТЭХЭЗА

# 71. Хрыстос робіць прысутным Сваё выратавальнае дзела ў літургіі літургічнага году.

*“На працягу году Царква адсланяе ўсю Хрыстовую містэрыю, ... адчыняе багаты скарб выратавальных дзел і заслугаў свайго Госпада, так што яны робяцца прысутнымі як бы ў кожным часе, каб веруючыя сутыкнуліся зь імі і атрымалі ласкі выратаваньня” (Канстытуцыя аб Літургіі 102).*

*“У першы дзень тыдня, калі вучні сабраліся на ламаньне хлеба” (Дз. 20,7).*

Днём, вызначаным на эўхарыстычны Збор, ад часоў апостальскіх была нядзеля. Гэта быў першы дзень тыдня пасьля гэбрайскае суботы. Хрысьціяне выбралі гэты дзень таму, што Хрыстос уваскрос у нядзелю і ў нядзелю спаслаў Сьвятога Духа. Гэты дзень быў сьвятам хрысьціянаў першых стагодзьдзяў. Ён і сёньня – дзень урачыстага эўхарыстычнага Збору. У нядзелю хрысьціяне зьбіраюцца, каб прыняць удзел у Пасхальнай Містэрыі Ісуса Хрыста, якая робіцца прысутнай у Эўхарыстыі, каб выслухаць навуку Ісуса Хрыста і разам зь Ім аддаць пашану Айцу ў супольнай малітве. Аднак у кожную нядзелю прыпадаюць розныя чытаньні, іншыя псальмы і пераменныя малітвы.

Адну з гэтых нядзель хрысьціяне абыходзілі і абыходзяць асабліва ўрачыста. Гэта – нядзеля, якая што год прыпадае больш-менш у тым самым часе, калі Ісус Хрыстос уваскрос. Гэтую нядзелю мы завём Вялікаднем або Пасхай. Яна ёсьць гадавінай Хрыстовай Пасхі і найвялікшым хрысьціянскім сьвятам.

Царква вельмі старанна рыхтуецца да гэтага Сьвята. На працягу гэтак званага Вялікага Посту Царква прыпамінае грэх першародны з ягонымі страшнымі наступствамі, стары Запавет і цераз 40 дзён паказвае нам Хрыста, які змагаецца са злом і кліча нас прыняць удзел у гэтым змаганьні. У канцы тлумачыць нам Тайну Хросту, каб прыпамінаючы сабе сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста і мы разам зь Ім памёрлі для граху і ўваскрэсьлі для новага, справядлівага жыцьця ды гэтак аб’явіліся ў Хрысьце.

Дзень уваскрасеньня Хрыста – гэта дзень радасьці. Гэтая радасьць трывае 50 дзён, званых вялікодным пэрыядам або Пасхальнай Пяцідзесятніцай. Пэрыяд гэты канчаецца Сёмухай, Сьвятам Спасланьня Сьвятога Духа. У гэтым часе мы праслаўляем Хрыста, які нас выратаваў цераз Сваю сьмерць і Ўваскрасеньне дый дзее ў Царкве праз Духа Сьвятога.

У нядзелі пасьля Сёмухі мы разважаем жыцьцё Хрыста ў Царкве і ў нас саміх ды паглыбляем нашую веру, надзею і любоў. Гэты пэрыяд канчаецца прыпамненьнем, што Царква вядзе нас на спатканьне з Хрыстом, які прыйдзе яшчэ раз у дзень апошняе перамогі.

Апрача Пасхальнага пэрыяду ёсьць яшчэ другі літургічны пэрыяд. Ён абдымае 40 дзён прыгатаваньня да Сьвята Божага Нараджэньня, (у лацінскім абрадзе 4 тыдні, якія завуцца адвэнтам), Само сьвята Божага Нараджэньня, якое трывае 8 дзён, Сьвята Божага Аб’яўленьня, званае Вадохрышчам на памяць аб Хросьце Госпада ў Ярдане і Асьветай (па царкоўна-славянску “Просвещение”). Гэты пэрыяд канчаецца 14 студня, а ў лацінскім абрадзе 2 лютага ў сьвята Ахвяраваньня Ісуса ў сьвятыні і Спатканьня Яго з Старазапаветнымі справядлівымі Сымеонам і Ганнай прарочыцай. У гэты пэрыяд Царква прыпамінае і тлумачыць веруючым Тайну Ўчалавечаньня і аб’яўленьня любові Божай у Ісусе Хрысьце.

*

Усю гісторыю выратаваньня, ад чаканьня на Хрыста да Ягонага другога прыходу, Царква зьмяшчае ў адным годзе. Апрача ўспаміну здарэньняў месьцяцца ў ім таксама асноўныя праўды Аб’яўленьня і галоўныя навукі аб хрысьціянскім жыцьці. Гэта ёсьць **літургічны год**, які зьяўляецца пастаяннай катэхэзай Царквы. Царква вучыць у ёй тых, што прымаюць удзел у эўхарыстычным Зборы.

Сёньня літургічны год канцэнтруецца навокал двух вялікіх хрысьціянскіх сьвятаў: Божага Нараджэньня і Пасхі. Аднак ён – ня толькі ўспамін выратавальных здарэньняў, але перажываньне іх у эўхарыстычным Зборы. Гэтыя здарэньні, хоць дзеяліся таму 2000 гадоў, Хрыстос робіць прысутнымі, будучы Сам прысутны ўсюды, дзе ў Ягонае імя зьбіраюцца Ягоныя вучні, якія вераць Яму. Бо Ён жыве вечна ды вядзе далей Сваё выратавальнае дзела аж да Свайго другога прыходу. Дык веруючыя, якія прымаюць удзел у эўхарыстычным Зборы і сустракаюцца з прысутным і ратуючым Хрыстом, сустракаюцца як бы і з Ягоным нараджэньнем, якое прыпамінаецца ў Сьвята Божага Нараджэньня, або з Ягонай сьмерцю і ўваскрасеньнем у Сьвята Вялікадня, або Пасхі. І таму веруючыя, біручы ўдзел у эўхарыстычным Зборы і сустракаючыся з прысутным Хрыстом-Выратавальнікам у Эўхарыстыі, слухаючы Слова, атрымліваюць Божую ласку, якая ёсьць зьвязанай з гэтымі здарэньнямі.

Таму ў літургічных тэкстах царкоўнага году так часта паўтараецца слова “сёньня”, “днесь” па-царкоўна-славянску, або hodie па-лаціне. У Вялікі Чацьвер напрыклад пяецца: “Тваей Тайнай Вячэры сёньня, Сыне Божы, зрабі мяне ўдзельнікам”.

Гэткім спосабам Ісус Хрыстос робіць прысутным Сваё выратавальнае дзела ў ва ўсіх здарэньнях літургічнага году. Робіць іх прысутнымі для нашае духоўнае карысьці, каб узбагаціць нас Божым жыцьцём.

**Наш адказ Богу:** Буду лучыцца з Хрыстом у Эўхарыстыі ў ва ўсе дні, сьвяткаваныя ў літургічным годзе, каб карыстаць з Божага дару.

**Прыклад малітвы:**

“Вясёлы дзень для нас настаў,
Якога цэлы сьвет жадаў;
Сягоньня Хрыстос з гробу ўстаў! Аллелуя!

**Пытаньні да 71-ае катэхэзы:**

146) Якія ёсьць галоўныя перыяды літургічнага году?

**Адказ:** Галоўнымі пэрыядамі літургічнага году ёсьць пэрыяд Пасхі і пэрыяд Божага Нараджэньня.

147) Чым ёсьць сьвяты літургічнага году?

**Адказ:** Сьвяты літургічнага году ёсьць ня толькі ўспамінамі, але і прысутнасьцю выратавальнага дзела Ісуса Хрыста.

## 72-ая КАТЭХЭЗА

# 72. Хрыстос у Царкве абвяшчае выратаваньне ўсяму сьвету.

*“Ідзеце і навучайце ўсе народы” (Мац. 28,19).*

*“Пётр ... сказаў: Сапраўды спасьцерагаю, што не на аблічча ўглядаецца Бог, але ў кожным народзе прыемны Яму той, хто баіцца Бога і чыніць справядліва... Калі Пётр яшчэ гаварыў, зыйшоў Дух Сьвяты на ўсіх, што слухалі ягонае слова. І веруючыя з абрэзаных, якія былі прыйшоўшы разам з Пятром, здумеліся, што дар Сьвятога Духа зыходзе і на паганаў” (Дз. 10,34-45).*

*Ісус Хрыстос як Галава новага чалавецтва памёр за ўсіх людзей. Адыходзячы да Айца даручыў апосталам занясьці добрую навіну аб выратаваньні ўсяму сьвету: “Ідзеце і навучайце **ўсе** народы” (Мац. 28,19).*

Апосталам спачатку трудна было зразумець гэты загад Хрыста. Бо яны належалі да народу, які згодна з Майсеевым законам адсунуўся ад паганцаў. Толькі пад уплывам Сьвятога Духа апосталы паступова і памалу пазнаюць, што да **новага Божага** народу належаць ня толькі гэбраі, але і ўсе народы сьвету.

Аб гэтай праўдзе Сьвяты Дух павучыў Пятра, калі ён прабываў у Яффе, з нагоды пасольства да яго ад рымскага сотніка Карнэля, які навярнуўся. Цераз з’яву Пётр быў павучаны, што Бог кліча да веры як гэбраяў, так і іншыя народы. Таму Пётр атрымаў загад хрысьціць паганца Карнэля. Выразным знакам, што Бог хоча выратаваньня паганцаў, было тое, што на іх зыйшоў Дух Сьвяты перш, чым яны былі ахрышчаны (Дз. 10,1-11,18).

Ад гэтага часу Пётр і апосталы навучаныя Сьвятым Духам абвяшчаюць Добрую Навіну ўсяму сьвету. Пётр адправіўся ў Рым, які тады быў сталіцаю рымскае імпэрыі. Месцам працы апостала Андрэя былі – паводле традыцыі – пабярэжжа Чорнага Мора і Грэцыя. Ян эвангелізаваў Малую Азію. Барталамей абвяшчаў Хрыста ў Армэніі, Тамаш дайшоў аж да Індыі. Мацей і Мацьвей навярталі Пэрсію і Этыёпію. Юда Тадэвуш абвяшчаў Эвангельле перш у граніцах Палестыны, а пасьля ў Арабіі, Мэзапатаміі і Сырыі.

Да працы між паганцаў быў спэцыяльна пакліканы сьвяты Павал, апостал народаў. Ён кажа аб сабе: “Мне... дадзена гэтая ласка – абвяшчаць паганам добрую навіну аб недасьледным багацьці Хрыстовым...” (Эф. 3,8). Гэтае заданьне спаўняў Павал праз доўгія гады, адважна, не шкадуючы сіл, працы і ахвяраў: “Ад гэбраяў пяць разоў дастаў па сорак удараў без аднаго; тройчы білі мяне кіямі, аднойчы каменавалі, тры разы разьбіваўся карабель, ноч і дзень прабыў я на глыбіні. У працы і ў зьнемажэньні, часта бяз сну, у голадзе і смазе, часта ў пастох, у холадзе і нагаце...” (2 Кар. 11,23-27).

Гэткім спосабам зьдзяйсьнялі апосталы Хрыстовыя словы: “Маю я таксама іншых авечак, што ня з гэтага двара, і гэных трэба Мне прывесьці, каб і яны пачулі голас Мой. І станецца адзін статак і адзін пастыр” (Ян. 10,16).

*

Дзела разпачатае праз апосталаў вядуць далей іхнія наступнікі, архірэі або біскупы. Ім Хрыстос даручыў турботу аб усей Царкве. Таму архірэі павінны дбаць аб прапаведваньне Божага слова ўсім людзям у сваіх дыяцэзіях або эпархіях, ды адначасна мусяць думаць і аб тых рэгіёнах, дзе хрысьціяне жывуць у меншасьці, каб і там абвяшчалася Эвангельле. Эвангелізацыю гэтых рэгіёнаў мы завём **місіямі**.

Абвяшчаць Добрую Навіну маюць абавязак ня толькі біскупы, але і ўся Царква. У лацінскім абрадзе прыпамінае гэта літургія сьвята Божага Аб’яўленьня (Асьветы) 6 студня. У першым чытаньні з Кнігі Ісаі прарока гэты

прарок зьвяртаецца да Новага Ерусаліму, да Божае Царквы: “Устань, запалі сваё сьвятло Ерусалім... І будуць пагане хадзіць у тваім сьвятле... Падымі вочы навокал ды паглядзі: усе тыя сабраліся, прышлі да цябе”. Божая Царква мае абняць усе народы, у ёй споўніцца прырачэньне, дадзенае Абрагаму: “У табе блаславёны будуць усе народы (Быць. 12,3), як вучыць сьвяты Павал (Гал. 3,8). Магі з Усходу ёсьць пачаткам, “першым умалотам” паганаў прыходзячых да Хрыста. Другі раз гэтую праўду аб адказнасьці ўсяе Царквы за абвяшчэньне Эвангельля прыпамінае Літургія ў сьвята Зыходу Сьвятога Духа. Дар языкоў ёсьць знакам злучэньня ў Хрысьце ўсіх людзей, якіх калісьці падзяліў грэх (вежа Бабель).

Дык на місіі едуць сьвятары, манахі і манахіні, дактары, вучыцелі ды іншыя, хто толькі хоча памагаць міс’янэрам. А тыя, што астаюцца дома ў сваёй бацькаўшчыне, могуць памагаць місіям і духова, молячыся за іх, і матэрыяльна – цераз ахвяры на місыйную працу.

Але і ў хрысьціянскіх краях ёсьць шмат людзей, якія ня ведаюць аб Хрысьце. І для іх мы павінны быць сьведкамі Хрыста і Ягоным знакам, як да гэтага Ён Сам заахвочвае: “Гэтак няхай сьвятло вашае сьвеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя дзеяньні і ўславілі вашага Айца, што ў нябёсах” (Мац. 5,16).

Гэткім спосабам Хрыстовая Царква, якая абвяшчае Добрую Навіну ўсяму сьвету, ёсьць **усеагульнай Царквою**. Гэтая Царква ёсьць адначасна толькі **адна**, бо зьбірае ў грамаду ўсіх людзей навокал **аднаго** Пастыра і аднаго адзінага Пасрэдніка паміж Богам і людзьмі, Ісуса Хрыста ў адзін Ягоны Статак. Бо Хрыстос ёсьць **адзінай** брамай Свайго Аўчарніка (Ян. 10,9) і **адзіным** шляхам да Бога (Ян. 14,6).

**Наш адказ Богу:** Хачу быць знакам Хрыста ў маім найбліжэйшым акружэньні.

**Божае слова:** “Госпад сказаў: Я ёсьць Ісус, Якога ты прасьледуеш... Я дзеля таго зьявіўся табе, каб зрабіць цябе слугой ды сьведкам таго, што ты бачыў і што адкрыў табе, бяручы цябе з народу і ад паганаў, да якіх цяпер пасылаю цябе, каб расчыніў ім вочы, каб зьвярнуліся ад цемры да сьвятла і ад улады сатаны да Бога, ды праз веру ў Мяне атрымалі адпушчэньне грахоў і ўдзел сярод пасьвячаных” (Дз. 26,15-18). – “З чаго чытаючы можаце пазнаць маё разуменьне тайны Хрыстовай, якая не была пазнана сынамі чалавечымі ў іншых родах, і цяпер адкрыта Ягоным апосталам і пракорам у Духу, каб і паганам быць насьледнікамі і адным целам і супольнікамі прырачэньня Яго ў Хрысьце Ісусе праз Эвангельле” (Эф. 3,4-6).

**Пытаньні да 72-ой катэхэзы:**

148) Якое заданьне паручыў Хрыстос Царкве?

**Адказ:** Хрыстос паручыў Царкве заданьне абвяшчаць Добрую Навіну ўсяму сьвету.

149) Хто мае абвяшчаць Эвангельле ўсяму сьвету?

**Адказ:** Эвангельле ўсяму сьвету маюць абвяшчаць перадусім архірэй, а таксама сьвятары і ўсе веруючыя.

150) Чаму Хрыстовая Царква ёсьць усеагульнай?

**Адказ:** Хрыстовая Царква ёсьць усеагульнай таму, што яна пасрэднічае ў выратаваньні ўсіх людзей.

151) Чаму Хрыстовая Царква ёсьць толькі адна?

**Адказ:** Хрыстовая Царква ёсьць толькі адна, бо толькі адзін ёсьць Пасрэднік паміж Богам і людзьмі – Ісус Хрыстос, які ратуе людзей цераз Сваю Царкву.

73-яя КАТЭХЭЗА

# 73. Хрыстос цераз Духа Сьвятога ўмацоўвае сваю Царкву ў веры.

*“Вось Я – з вамі ў-ва ўсе дні да сканчэньня веку” (Мац. 28,20).*

*“Слова Хрыстовае няхай прабывае ў вас багата. Ва ўсякай мудрасьці: навучайце і настаўляйце адзін аднаго псальмамі і гімнамі і духоўнымі песьнямі, у ласцы сьпяваючы ў вашых сэрцах Госпаду” (Кал. 3,16).*

Пасьля Спасланьня Сьвятога Духа і пасьля таго, як апосталы пакінулі Ерусалім, Божая Царква абвяшчала Добрую Навіну аб выратаваньні ў Ісусе Хрысьце ўсяму сьвету. Староньнікаў Эвангельля было што раз больш”, а Госпад штодня дадаваў Царкве спасаючыхся” (Дз. 2,47; 5,14). Веруючыя трывалі ў апостальскай навуцы, умацняючыся ўзаемна ў веры слова і прыкладам жыцьця. Сьвяты Павал заахвочвае да гэтага грамаду ў Калосах: “Хрыстовае слова няхай прабывае ў вас багата, ва ўсякай мудрасьці: навучайце і настаўляйце адзін аднаго” (Кал. 3,16). Гэты ўзаемны ўплыў ставаўся бачным перадусім на эўхарыстычных Зборах.

За навучаньнем у грамадах сачылі апосталы і старшыны імі пастаўленыя. Яны дбалі аб тым, каб навучаньне ў грамадзе было згоднае з Эвангельлем. Вось як напрыклад сьвяты Павал настаўляў Старшын Эфэзскае Царквы: “Пільнуйце самі сябе і ўвесь статак, у якім Сьвяты Дух паставіў вас архірэямі, каб пасьвіць Царкву Бога, якую Ён прыдбаў уласнаю Сваёй Крывёю. Я-ж ведаю гэта, што пасьля адыходу майго прыйдуць да вас лютыя ваўкі, якія не пашкадуюць статку, дый спасярод вас самых паўстануць людзі, што гаварыцімуць наадварот, каб пацягнуць за сабою вучняў” (Дз. 20,28-30).

Калі зьяўляўся сумніў адносна веры і прынцыпаў хрысьціянскага жыцьця, тады радзіліся з апосталамі. Гэтак было напрыклад у 49-50 годзе, калі апостальская калегія ў Ерусаліме разам з Пятром вырашыла спор паміж веруючымі гэбрайскага паходжаньня ды веруючымі паганскага паходжаньня. Апосталы разам з Пятром, паклікаючыся на Сьвятога Духа, напісалі: “Надумалася Сьвятому Духу і нам ніякага больш цяжару на вас не ўскладаць, апрача гэтага неабходнага” (Дз. 15,28).

Гэткім спосабам пачалі спаўняцца Хрыстовыя словы, сказаныя на Апошняй Вячэры да Пятра: “Я маліўся за цябе, каб не паменшала твая вера; і ты некалі, навярнуўшыся, умацуй братоў тваіх” (Лук. 22, 32).

*

Хрыстос сказаў, што будзе прабываць у Царкве “аж да сканчэньня веку” (Мац. 28,20) значыць і па сьмерці Пятра і апосталаў. Сапраўды Хрыстос прабывае ўсьцяж у Царкве і гаворыць цераз наступнікаў Пятра і апосталаў. Наступнікам Пятра ёсьць рымскі архірэй – Папа, а наступнікамі апосталаў усе іншыя архірэі – біскупы. Яны зьяўляюцца найвышэйшай уладай у Царкве. Яны творац найвышэйшы настаўніцкі ўрад. Архірэі цераз узлажэньне рук сваіх папярэднікаў атрымліваюць удзел у настаўніцкай уладзе Хрыста ў Царкве. Гэтую ўладу яны выконваюць у лучнасьці з усей архірэйскай калегіяй, якой старшынёй ёсьць Папа. Кіруе імі Сам Дух Сьвяты (Ян. 14,17-26).

Архірэі асьвечаныя Сьвятым Духам вучаць таго, чаго вучыць Хрыстос. Калі згодна як адзін і ў лучнасьці з Папам навучаюць аб справах веры і маральнасьці, тады іхняе навучаньне ёсьць безпамылковай навукай Самога Хрыста.

Безпамылковыя таксама аканчальныя і ўрачыстыя заявы, выданыя архірэямі на скліканым Папай усеагульным Саборы.

Становішча Папы таксама робіць яго безпамылковым, калі ён урачыста і аканчальна выказваецца ў справе веры або аб хрысьціянскім жыцьці.

Апрача ўрачыстага навучаньня Сабораў і Папаў ёсьць яшчэ ў Царкве **звычайнае навучаньне**. Гэта – штодзённая ўсеагульная і згодная навука ўсіх Архірэяў Царквы, якую яны ў лучнасьці з Папам абвяшчаюць усяму сьвету.

Аб’яўленыя праўды, якія вучыцельскі ўрад Царквы безпамылкова падае нам, каб мы ў іх верылі, называюцца **дагматамі**.

Гэткім спосабам Хрыстос сілай Сьвятога Духа ўтрымлівае ў Царкве ненарушаны скарб веры.

Як і калі прамаўляе да нас вучыцельскі ўрад Царквы?

Папы выдаюць акружныя пасланьні, званыя па-лаціне “энцыклікі”, якія навучаюць усю Царкву.

Архірэі выдаюць пастырскія пасланьні да веруючых сваёй эпархіі або дыцэзіі. Архірэі кіруюць таксама ўсім навучаньнем рэлігіі ў сваіх дыяцэзіях або эпархіях. Бяз іхняга дазволу ніхто ня мае права навучаць рэлігіі ў іхняй эпархіі. Дазвол гэты завецца “кананічнай місіяй”. Архірэі таксама кантралююць усе рэлігійныя кнігі: ці няма ў іх памылак супраць веры і даюць дазвол на іх друкаваньне.

Хрыстос цераз Сьвятога Духа дзее таксама ў-ва ўсіх веруючых. Яны таксама могуць умацняць другіх у веры, як прыкладам жыцьця, так і словам выказаным або запісаным. Асаблівае заданьне маюць бацькі – будаваць і ўзмацняць веру сваіх дзяцей. Усе веруючыя прымаюць удзел ва ўзмацненьні веры, толькі ў лучнасьці з вучыцельскім урадам Царквы. Памятаючы словы Хрыста: “Хто слухае вас – Мяне слухае, і хто вас чураецца, той Мяне чураецца” (Лук. 10.16), хрысьціяне вераць у праўды, якія безпамылковы вучыцельскі ўрад Царквы ім падае. Паслушна і з любоўю яны паддаюцца разпараджэньням Сьвятога Айца і Архірэяў, біскупаў.

**Наш адказ Богу:** Хачу паглыбляць сваю веру і абвяшчаць яе словам і дзелам.

**Прыклад малітвы:** “Госпадзе, Ты, Што паслаў Найсьвяцейшага Свайго Духа а трэцяй гадзіне Сваім Апосталам, не забірай Яго, будзь добры, ад нас, але абнаві нас, што да Цябе молімся” (З Трэцяй гадзіны).

**Божае слова:** “Я ўпрашу Айца і Ён дасьць вам другога Суцяшальніка, каб быў з вамі да веку, Духа Праўды... Той навучыць вас усяго і прыпомніць вам усё, што Я вам казаў” (Ян. 14,16.26). – “Сьцеражыцеся, каб вам не захапіцца блудам бязбожнікаў ды не адысьці ад свайго ўмацаваньня, але ўзрастайце ў ласцы і пазнаньні Госпада нашага і Збавіцеля Ісуса Хрыста” (2 Пятр. 3,17-18).

**Пытаньні да 73-яе катэхэзы:**

152) Як Хрыстос умацоўвае Божы народ у веры?

**Адказ:** Хрыстос умацоўвае Божы народ у веры цераз вучыцельскую ўладу ў Царкве.

153) Хто належыць да вучыцельскай улады ў Царкве?

**Адказ:** Да вучыцельскай улады Царквы належаць Папа і злучаныя зь ім архірэі, біскупы.

154) Як называюцца праўды, якія вучыцельскі ўрад безпамылкова акрэсьлівае і падае, каб у іх верыць?

**Адказ:** Праўды, якія вучыцельскі ўрад безпамылкова акрэсьлівае і падае, каб у іх верыць, называюцца дагматамі.

74-ая КАТЭХЭЗА

# 74. Царква сьцеражэ аб’яўленую навуку і паглыбляе яе зразуменьне.

*“Я сказаў вам усё, што Я чуў ад Свайго Айца” (Ян. 15,15).*

*“Дык тыя, што прыхільна прынялі ягоныя словы, ахрысьціліся, і ў гэны дзень далучылася каля трох тысяч душ. І трывалі ў навуцы апосталаў” (Дз. 2,41-42).*

Хрысьціяне пільна сьцераглі Божае Слова. Таму як тыя, што былі з гэбраяў, так і тыя, што навярнуліся з паганства ўважалі далей кнігі Старога Запавету за сьвятыя. У іх яны знаходзілі прадказаньне Добрае Навіны (Рым. 1,2). Гэтаму таксама вучыў Хрыстос, Які сказаў, што Пісьмо “ня можа быць парушана” (Ян. 10,35), што ў ім нічога нельга зьмяняць (Мац. 5,10). У Хрысьце мела выпаўніцца ўсё, аб чым гэтыя кнігі пісалі (Мац. 26,54; Лук. 24,44). Яны сьведчылі аб Ісусе Хрысьце (Ян. 5,32.45-47). Апосталы яшчэ лепш зразумелі прадказаньні Старога Запавету пасьля сьмерці і ўваскрасеньня Ісуса Хрыста (Ян. 2,22; Дз. 8,32-35). Таму сьвяты Павал заахвочваў свайго вучня Цімафея, каб трываў пры навуцы Старога Запавету, бо гэтае Пісьмо можа навучыць яго “мудрасьці на збаўленьне вераю, што ў Хрысьце Ісусе. Усенькае Пісьмо натхнёна Богам і карысна дзеля навукі, дзеля дакору, дзеля папраўленьня, дзеля ўзгадаваньня ў праведнасьці, каб дасканалым быў Божы чалавек, на ўсякае добрае дзела гатовым” (2 Цім. 3,15-17). Кнігі Старога Запавету натхнёныя Богам. Бог пабудзіў іхных аўтараў, каб гэтыя кнігі напісалі, а пры пісаньні памагаў ім усьцерагчыся памылак, каб запісалі дакладна ўсё, што Бог цераз іх хацеў пераказаць людзям. Гэткую Божую помач пры пісаньні мы называем натхненьнем. Таму гаворачы аб гэтых кнігах і мы можам сказаць, як сьвяты Павал у Пасланьні да Гэбраяў: “Шмат разоў і шматлікімі спосабамі прамаўляў Бог некаліс да айцоў праз прарокаў” (Гэбр. 1,1). Кнігі Старога Запавету сьпісаныя пад Божым натхненьнем зьмяшчаюць у сабе ўсё Божае Аб’яўленьне дадзенае перад Ісусам Хрыстом.

Ісус Хрыстос не пакінуў аніякіх Пісьмаў. Ён навучаў толькі вусна, жывым словам. І апосталаў паклікаў толькі да такога навучаньня.

Апосталы перш прапаведвалі навуку Ісуса Хрыста вусна, а пісаць пачалі толькі тады, калі зьявілася патрэба. Гэтак паўсталі 4 Эвангельлі, Апостальскія Дзеяньні, Пасланьні дый Апакаліпсіс. Яны прадстаўляюць дзеяньні і словы Хрыста пераказваныя апосталамі ў апавяданьнях, а таксама ў вызнаньнях веры (1 Кар. 15,1 і наст. 1 Пятр. 1,12 і наст.), у малітвах, літургічных гімнах (1 Кар. 11,23; Мац. 6,9-13; Філіп. 2,6-11; Эф. 5,14; 1 Цім. 3,16; Ап. 7,12 і г.д.).

Хрысьціяне вельмі старанна перахоўвалі і пераказвалі апостальскую навуку, да чаго заахвочваў сьвяты Павал у сваіх Пасланьнях (2 Тэс. 2,15; Філіп. 4,9).

*

Апостальская навука зьяўляецца для Царквы крыніцай веры. Божае Аб’яўленьне пераказвалі нашым часам Сьвятое Пісьмо Старога і Новага Запавету і вечна жывая Традыцыя, або вуснае навучаньне і вусны пераказ. Як Сьвятое Пісьмо так і Традыцыя зьмяшчаюць тую самую і цэлую аб’яўленую навуку.

Чарговыя пакаленьні хрысьціян выражаюць і замацоўваюць Аб’яўленьне замкнутае ў Традыцыі. Асаблівае значэньне маюць пісьма найстарэйшых царкоўных пісьменьнікаў. Выдатнейшых мы называем Айцамі Царквы. Аднак іхных Пісьмаў мы не ўважаем за натхнёныя. Сёньня традыцыю пераказвае Царква цераз вучыцельскі ўрад, праз багасловаў, праз літургію, а нават цераз практыку хрысьціянскага жыцьця.

Царква ня толькі сьцеражэ сталасьць і нязьменнасьць Божае навукі, але яшчэ стараецца, каб разьвівалася і паглыблялася зразуменьне аб’яўленых праўдаў. Бо з часам Царква аб’яўляе ўжо як дагматы праўды, якія знала і

раней, але пасьля лепш акрэсьліла, напрыклад, дагмат аб Унебаўзяцьці Найсьвяцейшай Дзевы Марыі. Гэтае разьвіцьцё адбываецца пад уплывам Сьвятога Духа.

**Наш адказ Богу:** “Любі Сьвятое Пісьмо, а мудрасьць палюбіць цябе” (кажа сьвяты Гэронім, адзіны славянін паміж Айцамі Царквы).

**Прыклад малітвы:** Дзякуй Табе, Божа, што Ты быў ласкавы гаварыць шматлікімі спосабамі да нашых айцоў. Гавары і да мяне, “гавары, Госпадзе, бо слуга твой слухае” (1 Сам. 3,10). “Тваё слова ёсьць сьветач для ног маіх і святло на сьцежцы маей” (Пс. 118,105). “Вядзі мяне ў Тваёй праўдзе і навучы мяне; бо Ты – Бог, Які мяне ўспамагае” (Пс. 24,5).

**Божае слова:** “Перадусім ведайце, што ніякае прароцтва ў Пісьме ня дзеецца сваім уласным развязаньнем. Бо ніколі прароцтва не выказвалася чалавечай воляй, але выказывалі яго сьвятыя Божыя людзі, ведзеныя Сьвятым Духам” (2 Пятр. 1,20-21). – “Дык, браты, стойце і трымайце пераказы, якіх ты навучыліся ці праз слова, ці праз пасланьне нашае” (2 Тэс. 2,15).

**Традыцыя:** “Кожны з нас знаходзіць у Сьвятым Пісьме свае справы... бо Яно дае адзін адказ нам усім на тое, што кожны з нас адчувае. У ім жыцьцё мінулых пакаленьняў становіцца прыкладам для наступных” (Сьвяты Рыгор Вялікі).

**Пытаньні да 74-ае катэхэзы:**

155) Што зьмяшчае ў сабе Сьвятое Пісьмо?

**Адказ:** Сьвятое Пісьмо зьмяшчае ў сабе Божае Аб’яўленьне запісанае пад натхненьнем Сьвятога Духа.

156) Што зьмяшчае ў сабе сьвятая Традыцыя Царквы?

**Адказ:** Сьвятая Традыцыя Царквы зьмяшчае ў сабе Божае Аб’яўленьне пераказанае жывым словам, вусна.

157) Якое заданьне мае Царква адносна Божага Аб’яўленьня?

**Адказ:** Царква сьцеражэ Божае Аб’яўленьне, пераказвае яго ды стараецца што раз то лепш яго пазнаваць.

75-ая КАТЭХЭЗА

# 75. Ісус Хрыстос вядзе Царкву да выратаваньня цераз апосталаў і іхных наступнікаў

*“І выбраў з іх Дванаццацёх, каб з Ім былі, і каб пасылаць іх прапаведваць” (Мар. 3,14).*

*“Падыйшоўшы, Ісус прамовіў да іх: Дадзена Мне ўсякая ўлада на небе і на зямлі. Дык ідзіце, навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць усё, што Я сказаў вам; і вось Я з вамі ў-ва ўсе дні да сканчэньня веку” (Мац. 28,18-20).*

Апосталы верна спаўнялі загад навучаньня, хрышчэньня ды кіраваньня веруючымі, які атрымалі ад Хрыста. Адразу ў першых днях пасьля ўшэсьця Хрыста выбіраюць на апостала Мацея (Дз. 1,15-26). Пасьля загадваюць выбраць сем мужоў “дазнаных, поўных Сьвятога Духа і мудрасьці”, каб пільнавалі справядлівасьць у заспакойваньні патрэбаў першае хрысьціянскае грамады, і пацьвярджаюць выбар праведзены грамадой цераз малітвы і ўзкладаньне рук на выбраных (Дз. 6,1-6).

Пачуўшы, што Самарыя навярнулася, апосталы пасылаюць туды Пятра і Яна, якія ўскладаючы на ахрышчаных рукі даюць ім Сьвятога Духа (Дз. 8,14-17). У Антыёхію апосталы пасылаюць Варнаву, каб арганізаваў там рэлігійнае

жыцьцё. Варнава сьцягнуў туды Паўла з Тарсу і разам зь ім доўгі час навучаў (Дз. 11,22-26). У сваю чаргу Павал арганізоўвае рэлігійнае жыцьцё ў цэрквах, якія заснаваў; вучыць таго, чаго сам навучыўся ад апосталаў аб Эўхарыстыі; выясьняе сумнівы, ганіць злоўжываньні на супольных набажэнствах, асуджае грахі, арганізуе матэрыяльную помач убогім, пасылае вучняў з Пасланьнямі і ўстанаўляе ў заснаваных праз сябе Цэрквах старшын і біскупаў, каб навучалі, напаміналі і заахвочвалі да хрысьціянскага жыцьця.

"Прапаведуй слова, настойвай у час і ня ў час, дакарай, пагражай, малі з усенькай доўгацярплівасьцю і навучаньнем" (2 Цім. 4,2) – радзіць ён Цімафею. Ад веруючых вымагае пашаны для сваіх старшынаў і духаўнікоў: "Просім вас, браты, ведаць тых, што працуюць у вас і пастаўлены над вамі ў Госпадзе дый вас навучаюць і паважайце іх вельмі высока ў любві за справы іх" (1 Тэс. 5,12-13).

Найвышэйшую ўладу ў Царкве выконвае Пётр. Ён атрымаў яе ад Хрыста: "Пасі авец Маіх, пасі ягнят Маіх". Пётр арганізоўвае выбар апостала Мацея, ён прамаўляе ў дзень Спасланьня Сьвятога Духа і перад гэбрайскім судом – Сынэдрыёнам. Ён судзіць Ананію і Сафіру. Ён візітуе ўсе цэрквы ў Юдэі (Дз. 9,32); ён прымае ў Царкву першага паганца, Карнея (Дз. 10). На першым Саборы ў Ерусаліме, на якім старшынёю быў апостал Якуб, як архірэй мясцовае ерусалімскае Царквы, Пётр грае галоўную ролю. Ягоная апінія вырашае спор і Якуб, фармулюючы рэзалюцыю, паклікаецца на яго (Дз.15). Цераз Пятра і ягоных наступнікаў, як цераз старшыню апостальскае калегіі, Хрыстос вёў ужо першую Царкву да выратаваньня.

Сёньня Хрыстос вядзе далей да выратаваньня Сваю Царкву цераз калегію архірэяў, якой старшынёй ёсьць Папа. Папа, або рымскі архірэй, ёсьць наступнікам Сьвятога Пятра, які быў першым рымскім архірэем і памёр у Рыме. **Архірэі** ёсьць наступнікамі апосталаў. Яны кіруюць эпархіямі, кожны сваёй, але разам з Папам яны адказныя за ўсю Царкву. Выяўляецца гэта асабліва на ўсеагульным саборы, калі архірэі забіраюць голас у справах усяе Царквы. Папа і архірэі, якіх на захадзе завуць біскупамі, кіруюць рэлігійным жыцьцём веруючых. Асьвячаць, навучаць Божы народ і кіраваць ім памагаюць біскупам **сьвятары**. Тыя з іх, якім архірэі даюць кіраўніцтва цэлым прыходам, або парахвіяй, завуцца настаяцелямі, або парахамі. Яны атрымліваюць да помачы іншых сьвятароў, якія завуцца вікарымі, што па-лаціне значыць "заступнікі". Папа і біскупы належаць да гэрархіі. Грэцкае слова "гэрархія" абазначае сьвятую ўладу. Цераз іх Ісус Хрыстос навучае, асьвячае і вядзе Свой народ да выратаваньня. Веруючыя аказваюць паслухмянасьць Папе, архірэям і іхным памочнікам сьвятарам ды супрацоўнічаюць зь імі.

**Наш адказ Богу:** Буду аказваць пашану майму айцу духоўнаму і архірэю. Буду маліцца за іх і за сьвятога Айца Рымскага Папу.

**Прыклад малітвы:** "Сапраўды годна і справядліва, слушна і збавенна ёсьць, пакорна прасіць Цябе, Госпадзе, каб Ты, як вечны Пастыр, не пакідаў Сваёй аўчарні, але цераз блаславёных апосталаў Сваіх меў яе ў пастаяннай апецы, каб ёю кіравалі тыя кіраўнікі, якім Ты як намесьнікам Свайго дзела перадаў пастырскую ўладу" (З прэфацыі аб апосталах).

**Навука Царквы:** "Госпад Ісус Хрыстос устанавіў у Царкве Сваёй для кіраўніцтва Божым народам і пастаўленага памнажэньня гэтага народу розныя паслугі, якія маюць на мэце дабро ўсяго Цела. Бо надзеленыя сьвятой уладай раздатчыкі служаць сваім братам, каб усе з Божага народу, што цешацца сапраўднай хрысьціянскай годнасьцю, імкнучыся свабодна і адначасна ў належным парадку да тае самае мэты, асягнулі выратаваньне" (Канстытуцыя аб Царкве 18).

**Пытаньні да 75-ае катэхэзы:**

158) Каму Ісус Хрыстос паручыў кіраўніцтва Божым народам?

**Адказ:** Ісус Хрыстос паручыў кіраўніцтва Божым народам апостальскай калегіі ды калегіі іхных наступнікаў, архірэяў.

159) Якую ўладу даў Хрыстос Пятру?

**Адказ:** Хрыстос даў Пятру найвышэйшую ўладу ў Царкве, зрабіўшы яго галавой апостальскай калегіі.

160) Хто ёсьць наступнікам сьвятога Пятра?

**Адказ:** Наступнікам Пятра ёсьць Рымскі Архірэй, або Папа.

161) Якую ўладу маюць Архірэі?

**Адказ:** Архірэі або Біскупы разам з Папам кіруюць усёю Царквою, а паасобна – кожны сваёй эпархіяй або дыецэзіяй.

**ЦАРКОЎНЫЯ ЗАГАДЫ:**

Папа і Біскупы, праз якіх Хрыстос вядзе людзей да выратаваньня, устанаўляюць асобныя законы. Яны ўсе сабраныя ёсьць у “Кодэксе кананічнага Права”. Важнейшыя з гэтых законаў выбраныя з Кодэксу падаюцца веруючым як “Царкоўныя загады”, якія іх абавязуюць у сумленьні.

Адным з найважнейшых царкоўных загадаў ёсьць закон аб сьвяткаваньні на раўні зь нядзеляй сьвятаў устаноўленых Царквою. Другі закон загадвае прымаць удзел у эўхарыстычным Зборы або ў сьвятой Літургіі ў кожную нядзелю і сьвята. Гэты загад абавязвае ўсіх каталікоў ад сёмага году жыцьця. Трэці загад абавязвае ад чатырнаццатага году жыцьця кожнага каталіка паўстрымлівацца ў посныя дні ад мясной ежы, а тых, што скончылі 21 год і не пачалі яшчэ шасьцідзесятага году, не хварэюць і не працуюць цяжка – абавязвае яшчэ ў пост есьці толькі адзін раз да поўнае сытасьці, а паза гэтым яны могуць есьці яшчэ два разы ў дзень столькі, каб узятае разам гэта не саставіла б яшчэ аднаго поўнага насычэньня. У якія дні трэба пасьціцца – акрэсьліваюць архірэі і паведамляюць веруючых праз сьвятароў, або асобнымі пасланьнямі.

Чацьвёрты загад вымагае ад веруючых прынамсі раз у год скарыстаць з Тайны Пакуты або споведзі і ў Пасхальным Пэрыядзе прыняць Сьвятыя Тайны Цела і Крыві Хрыстовай у Сьвятым Прычасьці.

Пяты загад забараняе гучных забаваў у пэрыядах двух пастоў перад Калядамі і Перад Пасхай. Апрача гэтых загадаў Царква можа выдаваць і іншыя, а таксама зьмяняць іх і нават скасаваць, калі зьмяняюцца ўмовы жыцьця так, што гэтыя загады становяцца ўжо не мэтазгоднымі. Толькі ад Божых загадаў Царква нікога звольніць ня можа, бо не яна іх устанавіла.

КАТЭХЭЗА LXXVI.

# 76. Маці Царквы

*“Ісус... кажа Матцы: Жанчына, вось сын твой! Пасьля кажа вучню: вось Маці твая” (Ян 19, 26-27).*

*“Вось зачнеш у чэраве і народзіш Сына і дасі Яму імя: Ісус. Ён будзе вялікі і Сынам Найвышэйшаганазавецца, і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давіда, Ягонага бацькі і будзе царыць над домам Якуба да веку і Царству Ягонаму ня будзе канца... І сказала Марыя: вось я – слуга Госпада; няхай станецца мне паводле твайго слова” (Лук. 1, 31-33).*

Ісус Хрыстос, Божы Сын, а паводле чалавечае натуры патомак Абрагама, Якуба і Давіда, дае пачатак новаму Божаму народу, якім ёсьць Царква. Маткай Ісуса Хрыста ёсьць Найсвяцейшая Дзева Марыя. Цераз Хрыста, Які ёсьць Галавой Містычнага Цела – Царквы, Марыя ёсьць Маткаю Царквы.

Марыя сталася Маткаю Царквы і Хрыста цераз паслухмянасьць волі Бога Айца. Бо калі ангел абвясьціў Ёй, што Яна будзе Маткай Ісуса, Яна сказала:

“Вось я – слуга Госпада; няхай станецца мне паводле твайго слова” (Лук. 1, 38).

Марыя сталася таксама Маткай усіх нас, усяго Божага народу, цераз ласку або благадаць. Бо з Яе нарадзіўся Ісус Хрыстос, Яна Яго карміла, ахвяравала ў сьвятыні, цярпела разам з Ім пад Ягоным крыжом. Гэтак супрацоўнічала са сваім Сынам у выратавальным Ягоным дзеле, каб аднавіць у нас надпрыроднае жыцьцё.

Найсьвяцейшая Дзева Марыя як Матка апекавалася Хрыстовай Царквой. Яшчэ калі жыў Ісус, Ейная апека выразілася ў просьбе, з якой зьвярнулася Яна да свайго Сына ў Кане Галілейскай, калі не хапіла віна на вясельлі.

Пасьля Ўшэсьця Ісуса Хрыста на неба, Марыя разам з апосталамі чакала абяцанага Сьвятога Духа (Дз 1, 14). Ня цяжка здагадацца, што рэшту Свайго жыцця на зямлі Марыя прысьвяціла Царкве, молячыся і дапамагаючы апосталам у ерусалімскай грамадзе.

Ня маючы першароднага граху і будучы найсвяцейшай з людзей Марыя ня мела абавязку ўміраць, але, будучы членам Царквы, улучылася і ў сьмерць Свайго Сына, Які адразу ўваскрасіў Яе і ўзяў з душой і целам на неба. Усходняя Царква вельмі аглядна гаворыць аб сьмерці Божае Маці: кажа, што яна “заснула”, бо для Яе сьмерць ня мела як для нас характару кары за грахі, якіх Яна ня мела. Праўду аб унебаўзяцьці Багародзіцы пераказала нам Традыцыя. Дзеля таго, што Яна мела ўдзел у сьмерці Свайго Сына як ніхто іншы з людзей, выпадала, каб мела і асаблівы ўдзел у Ягоным Уваскрасеньні, Ушэсьці і ў праслаўленьні.

З неба Божая Маці апякуецца далей Царквою дый жадае выратаваньня ўсяго Божага народу. “Дзякуючы сваёй мацярынскай любові апякуецца братамі свайго Сына, якія яшчэ пілігрымуюць і выстаўлены на труды і небясьпекі, пакуль ня будуць даведзеныя да шчасьлівай бацькаўшчыны” (Канстытуцыя аб Царкве 62).

Найсьвяцейшая Дзева Марыя ёсьць Маткай Царквы ад пачатку ейнага існаваньня. Гэты тытул з’явіўся ў Царкве нядаўна, бо толькі на Другім Ватыканскім Саборы Папа Павал VI-ты на заканчэньні трэцяй сесіі 21 лістапада 1964 году ўрачыста абвясьціў Яе Маткаю Царквы.

“На ейную славу і нашае ўзмацаваньне аб’яўляем Найсьвяцейшую Дзеву Марыю Маткай Царквы, гэта значыць усяго Божага народу, як веруючых так і пастыраў. Называем Яе найбольш любячай Маткай. Жадаем, каб ад гэтага часу ўвесь хрысьціянскі народ паважаў яшчэ больш Гэтым тытулам Найсьвяцейшую Дзеву”. (З прамовы Паўла VI-га)

**Наш адказ Богу:** Буду маліцца за Царкву да Божае Маці.

**Прыклад малітвы:** “О Марыя Дзева, Маці Царквы, Табе даручаем усю Царкву… Ты з’яўляешся “апорай біскупаў”, барані і падтрымай у апостальскай працы як іх, так і ўсіх тых сьвятароў, манахаў і асобаў сьвецкіх, якія ім памагаюць у іхным трудным прызначэньні.

Цябе Божы Сын уміраючы за выратаваньне людзтва даў як Матку ўлюбёнаму вучню, памятай аб усім хрысьціянскім народзе, які ў Табе мае надзею. Помні аб усіх Сваіх дзецях. Прадстаўляй Богу іхныя малітвы; сьцеражы іхную веру, каб была моцнай; узмацні надзею; павяліч іхную любоў” (З малітвы Паўла VI-га на заканчэньне III сесіі).

**Навука Царквы:** “Сьвяты Сабор наўмысна падае да ведама гэтую каталіцкую навуку, адначасна заахвочваючы ўсіх дзяцей Царквы, каб шчыра падтрымлівалі культ Блаславёнай Дзевы, асабліва літургічны, а практыкі і пабожныя практыкаваньні, ад веку існуючыя ў яе гонар і рэкамендаваныя вучыцельскім урадам, каб высока цанілі, ды тое, што было пастаноўлена ў

мінулых часах аб кульце абразоў Хрыста, Бласлаўлёнай Дзевы і сьвятых, каб пабожна захавалі” (Канстытуцыя аб Царк.)

**Пытаньні да семдзесят шостае катэхэзы:**

162) Чаму Марыя ёсьць Маткай Царквы?

**Адказ:** Марыя ёсьць Маткай Царквы, бо а) Яна ёсьць Маткай Галавы Містычнага Цела Хрыстовага – Царквы, б) бо Яна супрацоўнічала са Сваім Сынам у Ягоным выратавальным дзеле.

КАТЭХЭЗА LXXVII.

## 77. У Хрыстовай Царкве мы ідзем да злучэньня з Богам у вечнасьці

*“Адзін Госпад, адна вера, адзін Хрост. Адзін Бог і Айцец усіх, Які над усімі, і праз усіх, і ў-ва ўсіх нас” (Эф. 4, 5-6).*

*“Бо не прызначыў нас Бог на гнеў, але на атрыманьне збаўленьня праз Госпада нашага Ісуса Хрыста, што памёр за нас, каб мы, ці чуваем, ці сьпім, зь Ім разам жылі” (1 Тэс. 5, 9-10).*

Апошні раз спаткаліся апосталы і вучні з Хрыстом на Элеонскай Гары перад Ягоным Ушэсьцем у неба. Калі Ён скрыўся ад іхных вачэй, паказаліся ім два мужы, якія сказалі: “Мужы Галілейскія: Чаго стаіцё, узіраючыся на неба? Гэты Ісус, узяты ад вас на неба, прыйдзе гэтак сама, як бачылі вы яго ўзыходзячым на неба” (Дз. 1, 11).

Апосталы і вучні вярнуліся ў Ерусалім помнячы гэтыя словы. Дык у сваіх зборах, асабліва эўхарыстычных, часта прыпаміналі прырачэньне другога прыходу Госпада і канчалі свае малітвы заклікам: “Прыйдзі, Госпадзе Ісусе!” Уся Царква звала “Прыйдзі!” (Ап. 22, 17; 1 Кар 16, 22).

Сьвяты Павал, разбудзіўшы ў Рымлянаў сум, што яны ня бачылі Хрыста, суцяшаў іх тым, што Хрыстос спаслаў Сьвятога Духа, Які сваімі дарамі можа іх суцешыць (Рым. 8, 18-23). Ясьней пісаў аб гэтых дарах да свайго вучня Ціта. Дарам Сьвятога Духа ёсьць тайны (Тыт. 2, 11-12). Аднак сьвяты Павал вучыў, што хрысьціяне не павінны бязьдзейна толькі чакаць, але павінны выйсьці на сустрэчу Госпаду, працаваць і змагацца са злом, ведаючы, што “Госпад – блізка” (Рым. 13, 11-14).

Усё жыцьцё апостальскай грамады было выхадам на сустрэчу Госпада, прапаведваньнем Слова, раздачай тайнаў, турботай апосталаў і біскупаў, а таксама і асабістым жыцьцём усіх ахрышчаных. Сьвяты Ян паказвае вечнае жыцьцё ў Айца як славу і шчасьце Божага народу ў новым Божым Ерусаліме – у Царкве (Ап. 21, 2-4).

Гэтую самую праўду сёньня мы перажываем у Царкве, у ейных набыжэнствах на працягу літургічнага году. Чытаньні на эўхарыстычных Зборах прыпамінаюць нам, што мы павінны на зямлі жыць і дзейнічаць як пілігрымы, што вяртаюцца да бацькаўскага дому. Асабліва калядны перыяд прыпамінае нам, што і мы чакаем і ідзём на сустрэчу Хрысту, Які прыйдзе ў славе апошняга дня.

Адначасна ў сьвятой Літургіі нам паказваецца і спаўняецца новая тайна. Мы ўспамінаем апосталаў, мучанікаў, молімся за памёрлых. Бо калі мы лучымся з Хрыстом як атожылкі з вінагараднай лазой, мы лучымся і з усімі братамі разцярушанымі па ўсім сьвеце, лучымся з тымі, што ўжо цешацца з Айцом у небе і з тымі, што ўжо адышлі ад нас, але ў чыстцу чакаюць на ўшэсьце ў неба. З усімі імі мы творым адну вялікую Царкву, трыумфуючую ў небе, церпячую ў чыстцы і пілігрымуючую на зямлі, злучаную тут у Хрысьце.

Гэтую супольнасьць мы называем лучнасьцю сьвятых. Гэтак вось ужо тут на зямлі мы жывем вечным жыцьцём.

Асьвячаныя тайнамі, навучаныя Божым Словам, кіраваныя нашымі пастырамі, заахвочаныя прыкладам апосталаў, мучанікаў і ўсіх сьвятых, мы ідзём да вечнасьці. Адначасна абапіраючыся на тайны мы маем абавязак вясьці за сабой увесь сьвет, усё стварэньне, якое “з надзеяй чакае аб’яўленьня Божых сыноў” (Рым. 8, 19), на славу “новага неба і новае зямлі” (2 Пятр. 3, 13).

У апошні дзень, у сапраўднай нашай бацькаўшчыне, у новым Ерусаліме Ісус Хрыстос “ператворыць цела зьнявагі нашае, каб яно сталася падобным да цела Ягонае славы, сілаю, якою Ён дужы і пакарыць сабе ўсё” (Філіп. 3, 21), каб Бог быў “усім у ва ўсіх”.

**Наш адказ Богу:** Буду паглыбляць сваю лучнасьць з Хрыстом у жыцьці Царквы, каб магчы злучыцца цераз Яго з Богам у вечнасьці.

**Прыклад малітвы:** “Госпад ёсьць пастыр мой, ні ў чым мець ня буду нястачы! На зялёных пасьвішчах ён пасьвіць мяне і да водаў сьвежых водзіць мяне. Ён узмацняе душу маю, на сьцежкі праўды вядзе мяне дзеля Свайго імя. Дык нават праходзячы далінаю ценю сьмяротнага ня буду баяцца напасьці, бо ж Ты са мною: Твой кій і Твая палка – яны мяне суцешылі. Ты накрыў перада мной стол на вачах у тых, што прыціскаюць мяне; Ты памазаў алівай маю галаву, а чарка мая, якая ж яна поўная! Ласка твая будзе са мной праз усе дні майго жыцьця; і ў Гасподнім доме я застануся назаўсёды” (Пс. 23).

**Божае Слова:** “Умілаваныя! Мы цяпер Божыя дзеці, але яшчэ не выявілася, чым мы будзем. Ведаем толькі, што, калі выявіцца, дык будзем падобныя да Яго, бо ўгледзім Яго, як Ён ёсьць” (1 Ян. 3, 2).

“Але цяпер, вызваліўшыся ад граху і стаўшыся слугамі Бога, мейце плод свой на сьвятасьць, а канец – жыцьцё вечнае” (Рым. 6, 22).

“Сьвятога Духа, Якога выліў на нас шчодра цераз Ісуса Хрыста, нашага Збавіцеля, каб апраўдаўшыся Ягонай ласкай зрабіліся мы паводле спадзяваньня спадкаемцамі вечнага жыцьця” (Ціт. 3, 6-7).

**Навука Царквы:** “Хрыстос… дзее пастаянна ў сьвеце, каб вясьці людзей у Царкву і цераз яе мацней злучыць з Сабой, а кормячы іх Целам і Крывёй Сваёй зрабіць іх удзельнікамі Свайго жыцьця ў славе” (Канстытуцыя аб Царкве 48).

**Пытаньні да семдзесят сёмае катэхэзы:**

163) Якая ёсьць апошняя мэта Хрыстовае Царквы?

**Адказ:** Апошняю мэтаю Хрыстовае Царквы ёсьць давясьці людзей да злучэньня з Богам у вечнасьці.

164) Што такое лучнасьць сьвятых?

**Адказ:** Лучнасьць сьвятых гэта надпрыродная супольнасьць пілігрымуючай Царквы з Царквою ў чыстцу і ў небе.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ - Хрыстос жыве і дзее ў кожным з нас

## *I) Новае стварэньне*

### *А) Новае нараджэньне*

*“Хрыстос учора і сёньня. Пачатак і канец. Альфа і Амэга. Ягонымі ёсьць часы і стагоддзі стагоддзяў” (З пасхальнай літургіі лацінскага абраду).*

КАТЭХЭЗА LXXVIII.

# 78. Хрыстос цераз Сваю сьмерць і ўваскрасеньне накіроўвае ізноў усё да Бога

*“Калі хто ў Хрысьце, той новае стварэньне; старое мінула, вось настала ўсё новае” (2 Кар. 5, 17).*

Літургія царкоўнага году гуртуецца навокал Пасхі, якая ёсьць найвялікшым хрысьціянскім сьвятам. Ноч з Вялікае Суботы на нядзелю хрысьціяне праводзяць на ўрачыстых набажэнствах, поўных сымбалічнага зьместу. Хрысьціянскі Ўсход і Захад маюць кожны сваю асобную сымболіку, якая аднак выражае адну і тую самую праўду: Пасхальная Містэрыя ёсьць паваротным пунктам у гісторыі сьвету. Сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста запачаткавала перамену, якую літургія выражае супрацьстаўленьнямі: цемра і сьвятло, няволя і свабода, сьмерць і жыцьцё, а Ўсход, які глядзіць на гэты сьвет пэсымістычна, супрацьставіць яшчэ зямлю і неба, хоць адно і другое стварыў Той Самы Добры Бог. Толькі створаная Богам свабодная воля нарушыла парадак гэтага сьвету так, што ён стаўся немагчымы да зьнясеньня. Першыя людзі выбралі дарогу збунтаванага духа, нязгодную з воляй і любоўю Божай, парвалі лучнасьць супольнага з Богам жыцьця, што парозьніла іх таксама паміж сабою, ды і кожны чалавек пачаў адчуваць раздваеньне ў самым сабе. Бог стварыў чалавека такім, што ён можа знаходзіць шчасьце толькі ў любові да другіх і ягоная прырода гэтага дамагаецца. Але збунтаваны чалавек упорыста шукае шчасьця толькі ў любові да самога сябе і пэўна ж не знаходзіць. Адсюль унутранае раздваеньне і незадавальненьне, бо эгаізм або шуканьне шчасьця ў любові да сябе перашкаджае чалавеку любіць другіх, а бяз гэтае любові да другіх няма і быць ня можа шчасьця. А любіць другіх немагчыма без ахвяры са свайго эгаізму, таму і паўстае ў чалавеку ўнутранае змаганьне паміж любоўю да сябе і любоўю да другіх. Адна любоў можа ў чалавеку ўзрастаць толькі коштам другой, бо гэта два паны, як сказаў Хрыстос, якім ніхто не патрапіць адначасна служыць. Калі б чалавек пачаў кіравацца толькі сваім эгаізмам, ён вельмі хутка прывёў бы яго найперш да нянавісьці да ўсіх людзей бяз вынятку, пасьля да нянавісьці Бога, бо чалавек будучы нешчасьлівым абвінаваціў бы за гэта Бога, а не сваю дурнату, якую эгаізм не пазваляе яму ўбачыць. Але тады цярпеньні такога чалавека сталіся б так вялікімі, што яму не хапіла б сіл пераносіць іх, бо гэта ўжо і ёсьць пекла на зямлі. Таму такі таталітарны эгаізм прыводзіць да самагубства, бо чалавек ня бачыць аніякага сэнсу ў тым, каб гэтак далей цярпець і з жаласьці да самога сябе хоча ўцячы ад гэтага цярпеньня, якое сам сабе стварыў, ня думаючы ўжо аб тым, што душы сваёй забіць нельга і ягоняе цярпеньне пойдзе за ім у вечнасьць. Вось так выглядае шырокі шлях, які вядзе да згубы і шмат людзей ідзе ім, як казаў Хрыстос. І Ён радзіў нам увайсьці на іншы, вузкі і цярністы шлях ахвярнай і бескарыснай любові, якая вынішчыць наш эгаізм, але зь ім разам зьнішчыць у нас і адзіную прычыну ўсіх нашых сумаваньняў, цярпеньняў і неспакояў. Любоў да Бога і да людзей можа ў нас расьці аж да нянавісьці самога сябе і тыя з людзей, якім удалося дайсьці да гэтага, цешыліся непахіснай унутранай радасьцю і такім вялікім супакоем, што нічога ўжо не магло іх засмуціць. Бо толькі любоў да самых сябе папіхае чалавека бурыць парадак устаноўлены Богам, дае пачатак нянавісьці ды іншым грахам, цераз якія на сьвет прышлі цярпеньні і сьмерць.

Але Бог Стварыцель паслаў Хрыста Свайго Сына, адзінага і сапраўднага Пасрэдніка, каб “праз Яго пагадзіць з Сабою ўсё, уціхамірыўшы праз Яго Крывёю Ягонага крыжа” (Кал. 1, 20). У ахвяры крыжа Хрыстос у імя ўсіх

людзей, як новы Адам, адказаў любоўю на любоў Богу цераз дасканалую паслухмянасьць. Гэткім спосабам Ён навязаў ізноў сталую лучнасьць людзей з Богам, якая была на пачатку, калі іх стварыў. Гэтым самым Хрыстос даў пачатак новаму чалавецтву. Людзі, злучаныя з Хрыстом, могуць жыць ва ўзаемнай любові, як першыя людзі перад грахом і цераз гэта аб’яднацца. Таму сьвяты Павал кліча да сваіх вучняў: “Няма ўжо гэбрая, ані грэка; няма слугі паднявольнага, ані свабоднага; няма мужчынскага полу, ані жаноцкага: бо ўсе вы адно ў Хрысьце Ісусе” (Гал. 3, 28).

Хрыстовае выратавальнае дзела агартае таксама ўвесь створаны сьвет. Людзі, злучаныя з Богам і аб’яднаныя паміж сабою ў Хрысьце, могуць перабудоўваць сьвет для супольнае карысьці і гэтак накіроўваць усё да Бога, як гэта мелі рабіць першыя людзі.

Пасхальнае Хрыстовае дзела сьвяты Павал называе “новым стварэньнем” (2 Кар. 5, 17). Чалавека ў гэтае новае стварэньне ўлучае сьвяты хрост як Тайну новага нараджэньня. Гэтак назваў яго Сам Хрыстос у гутарцы з Нікадэмам (Ян, 3, 38). Цераз Хрост чалавек становіцца новым стварэньнем.

Сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста ёсьць пачаткам гэтага новага стварэньня і крыніцай ягонага пастаяннага развіцьця. Яно дойдзе да сваёй паўнаты і пакажацца ў цэлай сваёй славе толькі пры другім прыходзе Хрыста. Усё тады будзе новае: “Новае неба і новая зямля” (Ап. 21, 1). Увесь сьвет чакае на гэтую хвіліну. Аб гэтым так кажа сьвяты Павал: “Усё стварэньне чакае ў надзеі адкрыцьця славы Божых сыноў” (Рым. 8, 19). Дык цяпер, гэта значыць ад Пасхальнае Містэрыі да паўторнага прыходу Хрыста, людзі пакліканы да супрацоўніцтва зь Ім. Яны павінны жыць у еднасьці з Богам і са сваімі братамі, ды ўсё стварэньне прыходзіць у парадак згодна з планам Стварыцеля. Гэтым самым яны скіруюць яго да Бога.

**Наш адказ Богу:** Цераз Хрост я прымаю ўдзел у новым стварэньні. Дык хачу жыць у еднасьці з Богам і з людзьмі, каб Бог з усіх нас меў славу.

**Прыклад малітвы:** Крыжу Твайму кланяемся, Валадару, і славім Тваё сьвятое ўваскрасеньне, бо цераз крыж прыйшла радасьць усяму сьвету.

**Божае Слова:** “Бо Я ствараю новыя нябёсы і новую зямлю; ня будзе ўжо ўспаміну даўнейшых дзён і ў думку ня прыйдуць яны. Наадварот, будзе радасьць і вясельле назаўсёды з таго, што я ствару” (Іс. 65, 17-18). “… нам даў пазнаць тайну Сваёй волі, праз Сваю ласкавасьць, што раней пастанавіў у Сабе, дзеля ўпарадкаваньня поўні часаў, каб усё было пад галавою Хрыстом: тое, што ў нябёсах, і тое, што на зямлі” (Эф. 1, 9-10). “Бо мы – Яго стварэньне, створаныя ў Хрысьце Ісусе на добрыя ўчынкі, якія Бог загадзя празначыў, каб мы ў іх хадзілі” (Эф. 2, 10).

**Пытаньні да семдзесят восьмае катэхэзы:**

165) Што асягнуў Ісус Хрыстос праз Сваю сьмерць і ўваскрасеньне?

**Адказ:** Ісус Хрыстос праз Сваю сьмерць і ўваскрасеньне пагадзіў людзей з Богам, прымірыў людзей паміж сабой і ўвесь сьвет скіраваў да Бога.

166) Як сьвяты Павал называе хрыстовае пасхальнае дзела?

**Адказ:** Сьвяты Павал называе хрыстовае пасхальнае дзела “новым стварэньнем”.

КАТЭХЭЗА LXXIX.

## 79. Хрыстос цераз хрост улучае чалавека ў сваю сьмерць і ўваскрасеньне

*“Колькі вас у Хрыста ахрысьціліся, у Хрыста апрануліся” (Гал. 3, 27).*

*“Няўжо-ж ня ведаеце, што ўсе мы, якія ахрысьціліся ў Хрыста Ісуса, у сьмерць Яго ахрысьціліся? Дык мы пахавалі сябе з Ім хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрос з памерлых цераз славу Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці” (Рым. 6, 3-4).*

Хрыстос улучае чалавека ў новае стварэньне. Таму ў Вялікую Суботу, у лацінскім абрадзе, зараз пасля літургіі сьвятла, якая выражае сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста, адбываецца пасьвячэньне вады да хросту. У чытаньнях і ў прэфацыі, якая пяецца над вадой да хросту, Царква праслаўляе Бога за Ягонае вялікае дзела, якое сталася ў гісторыі выратаваньня цераз знак вады. Апавядае аб водах на пачатку стварэньня, над якімі ўзнімаўся Божы Дух; аб водах патопу, якія для адных былі карай, а для другіх – ратункам; аб водах Чырвонага Мора, якія загубілі Егіпцянаў, а ратавалі гэбраяў; аб жыцьцядайных водах, якія прадказвалі прарокі; аб хросьце Ісуса ў Ярдане, ды ўрэшце аб жывой вадзе, якая выплыла з боку Хрыста на крыжы і дала пачатак жыцьцю Царквы.

Царква загадвае, каб пасьля асьвячэньня вады да хросту хрысьціць, калі ёсьць дарослыя, якія яшчэ не ахрышчаны, а ўжо прыгатаваліся, каб прыняць Тайну Сьвятога Хросту. Цяпер у лацінскім абрадзе сьвятар палівае галаву таго, каго хрысьціць, вадою кажучы: “Я цябе хрышчу ў імя Айца і Сына і Духа Сьвятога”. Усходняя Царква захавала старадаўны звычай хрысьціць цераз патройнае апусканьне ў ваду, якое выразна навязвае да слоў сьвятога Паўла аб нашым апусканьні ў сьмерць Хрыста і ўваскрасеньні разам зь Ім. Стары чалавек, памёрлы з Хрыстом і пахаваны пад вадой, родзіцца з вады ўжо як Божае дзіця цераз заслугі Ўваскросшага Хрыста.

Пасьля хросту новаахрышчаныя пераходзяць з месца, дзе адбываўся хрост, у царкву. Пачынаецца эўхарыстычная ахвяра і эўхарыстычны банкет. Усе ахрышчаныя маюць права прыняць у ім удзел, а нават гэта ёсьць для іх ужо абавязкам.

Пераход Хрыста ад сьмерці да жыцьця ёсьць і для ўсіх ахрышчаных іхнім пераходам разам з Хрыстом ад сьмерці да жыцьця, іхняй пасхай.

Цераз знак вады Бог адзіны ў Тройцы ўлучае чалавека ў дзела выратаваньня. Вызваляючы чалавека зь няволі граху, Бог уводзіць чалавека ў Сваю сям’ю і дае яму магчымасьць прыняць удзел у жыцьці ўсіх Трох Божых Асобаў. А таму што ў Богу жыцьцё атаесамліваецца з Божай прыродай, чалавек атрымлівае ўдзел у Божай адзінай прыродзе, супольнай усім Тром Божым Асобам і прытым назаўсёды, на векі вечныя! Як знак гэтага ўсынаўленьня Хрост выціскае на душы чалавека незмывальную пячаць, якую багасловы завуць характарам Хросту. Таму хрост можна прыняць толькі адзін раз у жыцьці. Бо Бог застаецца заўсёды верны Сваім прырачэньням і ніколі ўжо не перастане яго ўважаць за свайго сына, хоць бы чалавек ад Яго і адрокся, ён заўсёды можа калі толькі захоча вярнуцца да Бога, як да свайго Бацькі. Бог шануе так сама свабоду чалавека, якой яго абдараваў і таму не перашкаджае яму адракацца ад свайго Айца і выбраць сабе замест вечнага жыцьця, вечную сьмерць, як называе Сьвятое Пісьмо вечнае няшчасьце тых, што назаўсёды адлучылі сябе ад Бога, які хацеў іх ашчасьлівіць, дзелячыся зь імі Сваім уласным шчасьцем.

Усё гэта адбываецца цераз Хрыста і ў Хрысьце, адзіным Пасрэдніку і Выратавальніку, сілай Сьвятога Духа, Якога ахрышчаны атрымаў у Тайне Хросту. Ахрышчаны злучыўся з Хрыстом, “у Хрыста апрануўся”, зрабіўся падобным да Хрыста ў Ягонай сьмерці і ўваскрасеньні, прымае ўдзел у Ягонай перамозе, “ён ёсьць у Хрысьце”. Гэтак злучаны з Хрыстом ён стаўся

сынам Божым: “Бо ўсе вы сыны Божыя праз веру ў Хрыста Ісуса. Бо, колькі вас у Хрыста ахрысьцілася, у Хрыста апрануліся” (Гал. 3, 26-27). Ахрышчаны стаўся братам Хрыста, сынам нябеснага Айца і сьвятыняй Сьвятога Духа.

Цераз лучнасьць з Хрыстом ахрышчаны прымае ўдзел у Божым жыцьці і сьвятарстве Хрыста. Гэтую годнасьць ахрышчанага сымбалічна абазначае памазаньне сьвятым мірам, якое адбываецца безпасрэдна пасьля Хросту. Калісь памазаньнем назначалі цароў, сьвятароў і прарокаў, якія таму і называліся “Памазаньнікамі”: па-гэбрайску “Месіямі”, а па-грэцку “Хрыстамі”. Пры пасьвячэньні міра ў Вялікі Чацьвер у малітве над мірам Царква просіць Бога: “Няхай, упрыгожаныя царскай сьвятарскай і прароцкай годнасьцю, яны апрануцца ў незьнішчальную вопратку ласкі...”. Не што іншае хацеў выразіць і сьвяты Павал, калі пісаў: “І ўжо ня я жыву, але жыве ўва мне Хрыстос” (Гал. 2, 20). Ахрышчаны мае абвяшчаць усяму сьвету Добрую Навіну словам і прыкладам, ён мае ператвараць сьвет на карысьць братам і на славу Айцу, якому ён такжэ мае аддаваць дасканалую пашану цераз прынашэньне духоўных ахвяраў. Перадусім ён гэта выпаўняе цераз удзел у Эўхарыстыі. Таму Хрост і Эўхарыстыя так цесна зьвязаныя з сабой. Хрост адчыняе шлях да прыманьня ўдзелу ў Эўхарыстычнай Ахвяры, а Эўхарыстыя дасканаліць плады Хросту. Яна зацясьняе сувязь ахрышчанага з Хрыстом, а цераз Яго з усёй Сьвятой Тройцай, і паглыбляе ягоны ўдзел у місіі Хрыста. Гэтая сувязь Хросту з Эўхарыстыяй выражаецца пабожным звычаем трымаць асьвячаную ваду пры ўваходзе ў сьвятыню, каб веруючыя, робячы ёю на сабе знак сьвятога крыжа, прыпаміналі сабе, што яны ахрышчаны.

**Наш адказ Богу:** З удзячнасьці Богу за дар Сьвятога Хросту буду старацца ўзбагачаць Божае жыцьцё ў сабе і трывала супрацоўнічаць з Хрыстом у выпаўненьні сьвятарскай, вучыцельскай і царскай Ягонай місіі.

**Прыклад малітвы:** “Як лань, што смагне ваду з крыніцаў, так душа мая, Божа, імкнецца да Цябе! Душа мая смагне Бога, Бога жывога! Калі-ж я прыйду і пакажуся перад Божым абліччам?” (Пс. 41, 2-3).

**Божае Слова:** “Забяру вас з пасярод народаў, зьбяру вас з усіх краёў і прывяду вас назад у ваш край, акраплю вас чыстаю вадою для таго, каб вы сталіся чыстымі ад усялякае нечыстоты... І дам вам новае сэрца, і дыхну ў вашае нутро новы дух... ” (Ез. 36, 24-26). – “Сапраўды, сапраўды кажу табе: калі хто не народзіцца нанова, ня можа бачыць Божага Валадарства” (Ян. 3, 5).

**Навука Царквы:** “І гэтак цераз Хрост людзі прышчэпліваюцца да Хрыстовае Пасхальнае Містэрыі. Як памёрлыя разам зь Ім, пахаваныя і ўваскросшыя – яны атрымліваюць дух усынаўленьня, у якім “мы клічам: Авва Ойча”, і гэтак яны становяцца сапраўднымі паклоньнікамі, якіх Айцец шукае” (Канстытуцыя аб Літургіі 6). “Бо ахрышчаныя асьвяціліся цераз адраджэньне і памазаньне Сьвятым Духам, як духоўны дом і сьвятое сьвятарства, каб цераз усе прыстойныя хрысьціяніну ўчынкі прынасіць духовыя ахвяры і абвяшчаць моц Таго, хто іх паклікаў з цемры да свайго сапраўднага сьвятла” (Канстытуцыя аб Царкве 10).

**Пытаньні да семдзесят дзевятае катэхэзы:**

167) Што здзяйсьняе Хрыстос у Тайне Хросту?

**Адказ:** У Тайне Хросту Хрыстос улучае чалавека ў Пасхальную Містэрыю, лучыць у адно з Сабой выціскаючы на душы незмывальны знак, дае Сьвятога Духа і разам зь Ім Божае жыцьцё, дае ўдзел у Сваім сьвятарстве і ачышчае ад першароднага граху як і ад усіх іншых грахоў, калі хрост прымае чалавек дарослы.

168) Якая сувязь ахрышчанага са Сьвятой Тройцай?

**Адказ:** Ахрышчаны стаўся братам Хрыста, сынам Айца і сьвятыняй Сьвятога Духа.

169) У якіх Хрыстовых заданьнях прымае ўдзел ахрышчаны?

**Адказ:** Ахрышчаны абвяшчае словам і жыцьцём Добрую Навіну аб выратаваньні, ператварае сьвет на карысьць для братоў і на славу для Айца, аддае Айцу дасканалую пашану, перадусім цераз удзел у Эўхарыстыі.

170) Якая дзейнасьць і якія словы неабходна патрэбныя, каб ахрысьціць?

**Адказ:** Каб ахрысьціць неабходна паліць вадою галаву таго, хто хрысьціцца, і адначасна выгаварыць словы: "Я цябе хрышчу ў імя Айца і Сына і Духа Сьвятога".

КАТЭХЭЗА LXXX.

# 80. Хрыстос цераз Хрост уводзіць нас у Царкву

*"Хрыстос палюбіў Царкву і выдаў Сябе за яе, каб асьвяціць яе, ачысьціўшы купальняй воднай у слове..." (Эф. 5, 26).*

У Вялікую Суботу Хрост адбываецца ў прысутнасьці ўсяго Збору. Прысутныя моляцца за прымаючых Хрост, пяючы Літанію да Ўсіх Сьвятых. Гэтак пілігрымуючая Царква лучыцца з Царквой праслаўленай у турбоце аб катэхумэна. Ужо перад гэтым Царква памагала катэхумэну прыгатаўляцца да Хросту ў пэрыядзе, які завецца катэхумэнатам, або па-царкоўна-славянску – аглашэньнем. Прымаючы кандыдата ў катэхумэнат, прыхаджане вітаюць яго хлебам і сольлю. Гэтак аказваюць яму зычлівасьць і адначасна сымбалізуюць сапраўдную ежу Хрыстовых вучняў, якую Ён пасьля ад іх атрымае. Значаць яго знакам крыжа і прымаюць пад сваю апеку. Настаўляюць яго аб выратаваньні ў Ісусе Хрысьце ды ў новым жыцьці, якое ён павінен будзе вясьці. За ім сочаць і пасьля вырашаюць, ці можна яго ахрысьціць. У Вялікую Суботу хрысьцяць яго і дапускаюць да эўхарыстычнае супольнасьці. Тады новаахрышчаны першы раз прыносіць свой дар на ахвяру. Гэтым ён паказвае, што і на ім ляжыць адказнасьць за ўсю Царкву. Разам з усімі братамі ён прыносіць эўхарыстычную ахвяру і прымае з імі тое самае Цела і тую самую Кроў Выратавальніка Хрыста. Ён становіцца адно з усімі братамі. Гэтае адзінства ўсяе Царквы, якое асягаецца цераз тайны Хросту і Эўхарыстыі, мы перажываем у літургіі Вялікае Суботы.

У хросьце малых дзяцей, які адбываецца на працягу году, прыход не заўсёды прымае ўдзел. Ягонымі прадстаўнікамі ёсьць кумы, або хросныя бацькі. Яны ад імя Царквы маюць зрабіць для малога дзіцяці тое, што робіць прыход для ўзрослых катэхумэнаў. Яны прыносяць дзіця ў царкву, просяць аб прыняцьце і прымаюць адказнасьць за ягонае хрысьціянскае жыцьцё. Робяць гэта яны не ад сябе, але ад імя Царквы.

Ісус Хрыстос цераз Хрост улучае чалавека ў Пасхальную Містэрыю, лучыць у адно з Сабой, дае ўдзел у Сваім жыцьці і ў Сваёй місіі, але ўсё гэтае робіць толькі ў Царкве і цераз Царкву. Хрыстос Царкве пераказаў Сваю місію: "Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у імя Айца і Сына і Духа Сьвятога" (Мац. 28, 19). Нават Саўлу, якога паклікаў па дарозе ў Дамаск, Хрыстос загадаў: "Устань, ідзі ў Дамаск, там табе скажуць усё, што маеш рабіць" (Дз. 22, 10). Царква ў Дамаску ахрысьціла яго.

Ахрышчаны лучыцца ў адно з Хрыстом такім спосабам, што ўлучаецца ў Ягонае Цела. Ён жыве Божым жыцьцём, як галіна жыве жыцьцём дрэва. Ён прымае ўдзел у Хрыстовым сьвятарстве, бо належыць да народа Новага Запавету, які ёсьць "царскім сьвятарствам і сьвятым народам" (1 Пятр. 2, 9). Ахрышчаны мае ўдзел у новым стварэньні, ён ёсьць вольным ад граху, бо ён

– у Царкве, якую “Хрыстос палюбіў і выдаў Сябе за яе, каб асьвяціць яе, ачысьціўшы купальняй воднай у Слове” (Эф. 5, 25-26).

Як у вызваленьні з Егіпту і пераходзе цераз Чырвонае Мора нарадзіўся народ Старога Запавету, гэтак у сьмерці і ўваскрасеньні Хрыста нарадзілася Царква, новы Божы народ, а кожны чалавек улучаецца ў дзела выратаваньня і хаўрусу з Богам толькі цераз сувязь з Царквою.

У Хросьце багацее ня толькі ахрышчаны, але і ўся Царква. Цераз кожны Хрост узрастае ў Царкве Божае жыцьцё. У кожным Хросьце паглыбляецца адзінства паміж членамі Царквы: “Бо ўсе мы адным Духам ахрышчаны ў адно цела” (1 Кар. 12, 13). Усе становяцца адказнымі за новаахрышчанага – а ён прымае адказнасьць за ўсю Царкву. Гэтак паўстае новая сувязь, паглыбляючая адзінства.

Гэтак хрышчэньне ёсьць заданьнем Царквы, але адначасна Хрост ёсьць будаваньнем і надпрыродным багаценьнем Царквы – а кожны ахрышчаны карыстае са скарбаў Царквы і абавязваецца супрацоўнічаць зь ею.

Цераз Хрост Хрыстос улучае ахрышчанага ў Сваю Царкву. Ён дае ахрышчанаму ўдзел у Сваім жыцьці і кліча яго да супрацоўніцтва з Сабой у сьвеце. Адначасна Хрыстос будуе Царкву, узбагачвае яе ды паглыбляе ейнае адзінства.

**Наш адказ Богу:** Ведаючы, якім багацьцем ёсьць Хрост, хачу быць жывою і адказнаю часткай Царквы.

**Прыклад малітвы:** Усемагутны, вечны Божа, будзь прысутны ў гэтых вялікіх тайнах Тваей дабраты, будзь прысутны ў тайнах і зышлі Духа ўсынаўленьня, каб даць новае жыцьцё народу, які родзіцца ў купелі Хросту (Малітва на пасьвячэньне вады да Хросту ў Вялікую Суботу ў лацінскім абрадзе).

**Божае Слова:** “А цяпер у Хрысьце Ісусе вы, што былі калісь далёка, сталіся блізкімі Крывёю Хрыстоваю” (Эф. 2, 13).

**Навука Царквы:** “У кожным амаль часе, у кожным народзе прыемны Богу той, хто Яго баіцца і робіць справядліва; аднак Богу спадабалася асьвячаць і ратаваць людзей не па адным, з вылучэньнем усялякай паміж імі ўзаемнай сувязі, а зрабіўшы зь іх народ, які пазнаваў бы Яго ў праўдзе і пабожна служыў бы Яму… Хрыстос устанавіў Новы Запавет, мяноўна Новы Тэстамант у Сваёй Крыві, паклікаўшы спасярод гэбраяў і паганаў народ, які не паводле цела, але праз Духа меў зрасьціся ў адно і быць новым Божым народам. Бо тыя, што вераць у Хрыста, адроджаныя не са зьнішчальнага насеньня, але з незьнішчальнага цераз Слова Жывога Бога, ня з цела, але з вады ў Сьвятога Духа, устаноўленыя ў канцы “выбраным патомствам, царскім сьвятарствам, сьвятым народам, людзкім набыткам… што калісь ня быў народам, а цяпер ёсьць Божым народам” (Канстытуцыя аб Царкве 9).

**Пытаньні да васьмідзесятае катэхэзы:**

171) Каму Ісус Хрыстос даз загад хрысьціць?

**Адказ:** Загад хрысьціць Хрыстос даў Царкве: “Дык ідзіце і навучайце ўсе народы: хрысьцячы іх у імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа”.

172) Якім спосабам Хрыстос дае ўдзел ахрышчанаму ў Сваім жыцьці і ў Сваёй місіі?

**Адказ:** Ісус Хрыстос дае ахрышчанаму ўдзел у Сваім жыцьці і ў Сваёй місіі ўлучаючы яго ў Царкву.

173) Што Хрост дае Царкве?

**Адказ:** Хрост узбагачае Божае жыцьцё ў Царкве і паглыбляе адзінства Божых дзяцей.

174) Хто мае права хрысьціць?

**Адказ:** Толькі Царква мае права хрысьціць і гэтае права яна дае дыяканам, сьвятарам, а часам, калі патрэба, кожнаму ахрышчанаму, а нават неахрышчанаму, калі толькі ён згаджаецца рабіць гэта ў імя Царквы.

КАТЭХЭЗА LXXXI.

# 81. Хрыстос дамагаецца ад таго, хто прыймае Хрост, сапраўднае перамены жыцьця

*“Калі-ж мы памерлі з Хрыстом, дык верым, што і жыць будзем зь Ім разам, ведаючы, што Хрыстос, уваскросшы з памёрлых, ужо не ўмірае: сьмерць ня мае ўжо ўлады над Ім. Бо, што Ён памёр, дык памёр раз для граху, а што жыве, то жыве для Бога. Гэтак і вы лічыце сябе памёрлымі для граху, жывымі ж для Бога ў Хрысьце Ісусе” (Рым. 6, 8-11).*

У абрадзе Хросту сьвятар, перш чым абмыць катэхумэна вадою да Хросту, вымагае ад яго, каб ён выраксся злога Духа і зрабіў вызнаньне веры. Гэтак рабілася заўсёды ад часаў апостальскіх. Катэхумэн прыракаў дабравольна перамяніць сваё жыцьцё, каб ад гэтага часу паступаць як Божае дзіця, злучанае з Хрыстом і асьвячанае Сьвятым Духам.

Цераз трохразовае вырачэньне злога духа і вызнаньне тройчы веры ў Бога адзінага ў Тройцы катэхумэн перад усей Царквой выбірае шлях Хрыста, шлях Божага Валадарства, шлях новага стварэньня, а не шлях чорта і зла.

Абрад памазаньня алеем катэхумэнаў, які наступае пасьля, сымбалізуе прыгатаваньне да барацьбы з чортам, які трымае ў няволі чалавека, ня злучанага з Хрыстом. У часе катэхумэнату над катэхумэнам адгаворвалі асаблівыя малітвы, каб бараніць яго ад чорта; яны завуцца экзарцызмамі. Сёньня іх адгаворваюць у часе абрадаў, папераджаючых хрост.

Каталікі лацінскага абраду ў Вялікую Суботу аднаўляюць прырачэньні Хросту: вызнаюць веру ў Хрыста і адракаюцца ад чорта. Гэта самае робяць таксама ўсе, дапушчаныя да Тайны Мірапамазаньня або Канфірмацыі. Ёсьць таксама звычай аднаўляць гэтыя прырачэньні перад першым сьвятым Прычасьцем.

У Тайне Хросту Хрыстос у Царкве і праз Царкву ўлучае чалавека ў дзела выратаваньня. Аднак вымагае ад чалавека дабравольнага супрацоўніцтва. Чалавек павінен дабравольна навярнуцца да Бога пакідаючы даўнейшыя грахі. Гэтае абвяшчаў яшчэ Ян Хрысьціцель (Мар. 1, 4). Гэтае самае вымаганьне паставіў сьвяты Пётр у дзень сасланьня Сьвятога Духа: “Пакайцеся, ды няхай кожны з вас ахрысьціцца ў імя Ісуса Хрыста” (Дз 2, 38). Тайна Хросту ёсьць тайнай павароту са шляху зла на шлях Хрыстовы. Хрост ёсьць пачаткам зусім іншага жыцьця: “Дык калі вы ўскрэсьлі з Хрыстом, шукайце-ж узгорнага, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога” (Кал. 3, 1-2). Хрысьціянін ёсьць новым стварэньнем: “Бо мы – Ягонае стварэньне, створаныя ў Хрысьце Ісусе на добрыя ўчынкі, якія Бог загадзя празначыў, каб мы ў іх хадзілі” (Эф. 2, 10).

Аднак існуе небясьпека сталага адступніцтва ад Хрыста і паварот да граху. Перад ім перасьцерагае сьвяты Павал, прыпамінаючы Карынцянам, што хоць мноства з выбранага народа вышлі з Егіпецкае няволі і перайшло цераз Чырвонае Мора, ня ўсе дайшлі да абяцанае Зямлі, бо былі няввернымі Богу (1 Кар. 10). Гэтак і хрысьціяне, цераз ваду Хросту вызваленыя ад граху, могуць таксама не дайсьці да вечнае Бацькаўшчыны з Хрыстом, калі будуць няверныміі Богу.

Жыцьцё ахрышчанага павінна быць безупынным змаганьнем. Таму сьвяты Павал прыраўнівае жыцьцё хрысьціяніна да спаборніцтва спартоўцаў (1 Кар. 9, 24-27) або да ўзброенага змаганьня жаўнераў (Эф. 6, 10).

Аднак хрысьціянін змагаецца не сам адзін. На хросьце ён атрымаў Сьвятога Духа: "А тыя, што да Хрыста належаць укрыжавалі сваё цела з афектамі і пажаданьнямі. Калі мы жывём Духам, дык павінны і дзейнічаць згодна з Духам" (Гал. 5, 24-26).

Дарослы катэхумэн пачынае гэтае змаганьне яшчэ перад Хростам. Малое дзіця, ахрышчанае ў веры Царквы, павінна быць даведзена да перамены жыцьця праз бацькоў і хросных, калі толькі пачне адрозьніваць дабро і зло. Тады яно само павінна пацьвердзіць выбар, які за яго зрабілі ягоныя апекуны і дзейнічаць згодна з гэтым сваім пакліканьнем і выбарам.

Хрысьціяне прыпамінаюць сабе часта абавязкі, якія налажыў на іх хрост: жагнаючыся, ужываючы пры гэтым асьвячонай вады, абходзячы свае імяніны, асабліва-ж прыпамінаючы і перажываючы пасхальную Містэрыю ў Вялікую Суботу.

**Наш адказ Богу:** Помнячы аб прырачэньні Хросту буду перамагаць у сабе зло.

**Прыклад малітвы:** Божа, што дзіўным спосабам стварыў чалавека, ды яшчэ дзіўней яго адкупіў, просім Цябе, зрабі, каб мы сілаю духа перамаглі пацяг да граху і заслужылі на вечную радасьць. (З малітваў у Вялікую Суботу).

**Божае Слова:** "Дык мы пахавалі сябе зь Ім хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрос з памерлых цераз славу Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці. Бо, калі мы злучаны зь Ім падабенствам сьмерці Яго, дык павінны быць злучаны і падабенствам уваскрасеньня, ведаючы тое, што адвечны наш чалавек укрыжаваны зь Ім разам, каб зьніштожана было грэшнае цела, каб нам ня быць ужо слугамі граху; бо хто памёр, той вызваліўся ад граху" (Рым. 6, 4-7). – "Ня смуціце Сьвятога Духа Божага, Якім вы запячатаныя на дзень адкупленьня" (Эф. 4, 30).

**Пытаньні да восемдзесят перашае катэхэзы:**

175) Чаму Хрост ёсьць тайнай перамены жыцьця?

**Адказ:** Хрост ёсьць тайнай перамены жыцьця таму, што злучаныя з Хрыстом мы паміраем для граху, каб жыць для Бога.

176) Хто ёсьць сьвятлом і помаччу у нашым жыцьці для Бога?

**Адказ:** Сьвятлом і помаччу ў нашым жыцьці для Бога ёсьць для нас Сьвяты Дух, атрыманы ў Хросьце.

## *В) "Цяпер трываюць вера, надзея, любоў – гэтыя тры" (1 Кар. 13, 13).*

*"Устань ды йдзі да места, і будзе табе сказана, што трэба табе рабіць" (Дз. 9, 6).*

КАТЭХЭЗА LXXXII.

# 82. Хрыстос дае ахрышчаным дар веры.

*"Бо ласкай вы выбаўлены праз веру. І гэта не ад вас – Божы дар: не ад дзел, каб ніхто не хваліўся" (Эф. 2, 8-9).*

Абрад хросту пачынаецца дыялогам паміж сьвятаром і катэхумэнам або хроснымі бацькамі, якія прынесьлі дзіця да Хросту. Сьвятар пытае: "Чаго

жадаеш ад Божае Царквы?” Катэхумэн адказвае: “Веры”. “А што табе дае вера?” – пытае далей сьвятар. “Вечнае жыцьцё” – адказвае катэхумэн.

Катэхумэн і хросныя бацькі могуць вясьці гэтую гутарку аб веры, бо іх да гэтага прыгатавала Царква. Яны чулі аб Ісусе – Выратавальніку, аб веры ў Яго ды аб Хросьце як шляху выратаваньня. Ад чацьвёртае нядзелі Вялікага Посту Царква асаблівым спосабам прыгатаўляе катэхумэнаў і веруючых да Пасхальнае Містэрыі, да цэрымоніяў сьвятла веры і Хросту ў Вялікую Суботу. У сераду пасьля чацьвёртае нядзелі Вялікага Посту ў лацінскім абрадзе чытаецца Эвангельле аб аздараўленьні сьляпога ад нараджэньня. Хрыстос зрабіў, што ён стаў бачыць і першы раз у жыцьці мог цешыцца з сьвятла. Адначасна ён атрымаў ад Хрыста яшчэ іншае сьвятло, сьвятло веры ў Ісуса Хрыста, Выратавальніка. Эвангельле так піша аб гэтым: “Пачуў Ісус што фарызэі выгналі яго з сынагогі і, спаткаўшы яго, сказаў яму: “Ці ты верыш у Божага Сына?” А ён у адказ запытаўся: “А хто гэта такі, Госпадзе, каб я мог верыць у яго?” І сказаў яму Ісус: “Ты ўжо яго бачыў, і цяпер ён гаворыць з табой”. А тады той сказаў: “Веру, Госпадзе” і пакланіўся Яму”.

У гэтым самым тыдні ў суботу чытаецца Эвангельле аб Хрысьце, Які ёсьць Сьвятлом. Ісус кліча: “Я – Сьвятло сьвету; хто пойдзе за мною, той ня будзе хадзіць у цемры” (Ян. 8, 12). Ісьці за Хрыстом абазначае тое самае, што мець сьветласьць, якая дае вечнае жыцьцё, гэта значыць веру, тую самую веру, якую Хрыстос дае ахрышчаным.

Гэтак прыгатаваныя катэхумэны або хросныя бацькі, што выступаюць ад імя хрышчаных дзяцей, просяць Царкву на пачатку абраду Хросту даць веру, якая дае вечнае жыцьцё.

Цераз первародны грэх чалавек парваў лучнасьць з Богам. Ён што раз больш забываўся аб тым, што Бог яго любіць і пэўне-ж ня ведаў аб тым, што Бог не пераменіў сваіх адносінаў да яго. Таму і жыцьцё станавілася для яго незразумелым і сьвет ня меў для яго сэнсу, як гэта сёньня мы бачым у людзей няверуючых. У вялікім няшчасьці, асабліва-ж калі прыходзіць сьмерць, яны зьдзіўленыя пытаюцца: чаму я жыў? На што існуе гэты сьвет? На гэтыя пытаньні няверуючыя не знаходзяць адказу, таму пападаюць у розныя сумнівы, розпач і нават пачынаюць вясьці жыцьцё, нягоднае чалавека.

Бог, жадаючы злучыць з Сабой усіх людзей, выходзіць на сустрэчу чалавеку і Сам вучыць яго праз жыцьцё і навуку Ісуса Хрыста, у Якім аб’явілася людзям адвечная Божая любоў і дабрата. Сёньня Добрую Навіну аб выратаваньні і павароце ўсіх да Бога чалавек знаходзіць у жыцьці і навуцы Царквы. Аднак самога толькі пазнаньня Добрае Навіны ня хопіць. Навярнуцца да Бога чалавек ужо сам не патрапіць. Яму патрэба яшчэ Божае помачы да гэтага. Сам Хрыстос сказаў: “Ніхто ня можа прыйсьці да Мяне, калі яго не пакліча Айцец, Які Мяне паслаў” (Ян. 6, 44). А калі Пётр вызнаў веру ў Яго як Бога, Хрыстос сказаў: “Шчасьлівы ты, Сымон, сын Ёны, бо ня цела і кроў аб’явілі гэта табе, але Айцец Мой, Які ёсьць у небе” (Мац. 16, 17). Дык чалавек пазнае Царкву, як знак Бога і толькі тады звяртаецца да Хрыста, Збаўцы і Пасрэдніка, калі яго пацягне ўнутраны голас Божае ласкі, як называем мы Божую помач. У дарослага чалавека навяртаньне адбываецца перад Хростам. Ён прымае Хрост, бо паверыў, як Абрагам, Божым прырачэньням і хоча злучыцца з Хрыстом, каб цалкам аддацца Богу.

Гэтак вось Бог прыводзіць чалавека да злучэньня з Хрыстом цераз веру. У Тайне Хросту дае яму яшчэ большы дар: дае яму ўдзел у Сваім жыцьці, у Сваёй прыродзе, дае яму надпрыродны дар веры. Яна ёсьць зусім новай надпрыроднай здольнасьцю чалавека. Дзякуючы гэтай здольнасьці чалавек ужо як бы прымае ўдзел у пазнаваньні Божым. Ён бачыць ясьней Божую

любоў і ейны адвечны план злучэньня людзей з сабою. З большым даверам цалкам аддаецца Богу.

Надпрыродная здольнасьць веры, якую багасловы завуць цнотай, дае кожнаму ахрышчанаму магчымасьць прымаць удзел у веры ўсяго Божага народа, які атрымаў ад Бога дар веры, які можна назваць “пачуцьцём веры” (Канстытуцыя аб Царкве 12). Гэтае пачуцьцё веры робіць тое, што Царква што раз то лепш пазнае аб’яўленьне, што раз то жывей пераказвае яго другім, ды безпамылкова выражае яго праз вучыцельскі ўрад або магістэрыюм.

**Наш адказ Богу:** Буду дзякаваць Хрысту за дар веры.

**Прыклад малітвы:** Божа, Які аб’яднаў розныя народы ў вызнаваньні Твайго імя, дай, каб тыя, што адрадзіліся з вады хросту, захавалі адзінства веры ў духу і любові ва ўчынках.

**Божае Слова:** “Дык вось, як вы прынялі Хрыста Ісуса Госпада, хадзіце ў Ім, укараніўшыся і збудаваныя ў Ім, дый акрэпшы ў веры, як вы былі навучаны, з падзякаю багацеючы ею” (Кал. 2, 6-7). – “Дык вы, улюбёныя, як ужо папярэджаныя, сьцеражыцеся, каб вам не захапіцца памылкай бязбожнікаў ды не адпасьці ад свайго ўмацаваньня, але ўзрастайце ў ласцы і пазнаньні Госпада нашага і Выратавальніка Ісуса Хрыста” (2 Пятр. 3, 17-18).

**Навука Царквы:** Богу, што дае Аб’яўленьне, трэба аказаць “паслухмянасьць веры”, цераз якую чалавек з вольнае волі давярае ўсяго сябе Богу, аказваючы “поўную пакорнасьць” розуму і волі перад Богам аб’яўляючым і дабравольна прызнаючы дадзенае Ім Аб’яўленьне. Каб магчы аказаць гэткую веру, трэба мець папераджаючую і ўспамагаючую Божую ласку ды ўнутраную помач Сьвятога Духа, Які мог бы парушаць сэрцы і зьвяртаць іх да Бога, і даваць “усім раскошу у прызнаваньні і даваньні веры праўдзе”. А каб зразуменьне Аб’яўленьня было што раз глыбейшым, той-жа Дух Сьвяты Сваімі дарамі пастаянна дасканаліць веру” (Канстытуцыя аб Аб’яўленьні 5).

Агульнасьць веруючых, што маюць памазаньне ад Сьвятога (1 Ян. 2, 20 і 27), ня можа мыляцца ў веры і гэтую сваю асаблівую здольнасьць праяўляе цераз надпрыроднае пачуцьцё веры ўсяго народа, калі, пачынаючы ад архірэяў аж да апошняга сьвецкага веручага, выяўляе ён сваю ўсеагульную здольнасьць у справах веры і маральнасьці. Бо дзякуючы тому пачуцьцю веры, якое ўзбуджае і падтрымлівае Дух праўды, Божы народ пад кіравецтвам сьвятога вучыцельскага ўраду – за якім верна йдучы, прымае ўжо не чалавечае, але сапраўднае Божае слова – непахісна трывае пры веры раз дадзенай сьвятым, глыбей унікае ў яе з помачай справядлівага асуду і паўнейшым спосабам практыкуе яе ў жыцьці” (Канстытуцыя аб Царкве 12).

**Пытаньні да восемдзесят другой катэхэзы:**

177) У што перадусім верыць хрысьціянін?

**Адказ:** Хрысьціянін верыць перадусім у дзела выратаваньня, якое ў Ісусе Хрысьце выпаўніла Сьвятая Тройца.

178) Што значыць верыць?

**Адказ:** Верыць гэта значыць прыняць Аб’яўленьне Божай Любові ды цалкам і дабравольна аддацца Богу.

179) Што такое надпрыродная цнота веры?

**Адказ:** Надпрыродная цнота веры – гэта дар, які атрымліваецца ў Хрысьце і які робіць чалавека здольным прыняць Аб’яўленьне і на ўсё глядзець так, як яно вучыць.

180) Каму прыносіць карысьць надпрыродная цнота веры?

**Адказ:** Надпрыродная цнота веры прыносіць карысьць ахрышчанаму, усей Царкве ды ўсім людзям, а гэтак служыць усяму чалавецтву.

*“Шчасьлівыя, што ня бачылі, а паверылі” (Ян. 20, 29).*

КАТЭХЭЗА LXXXIII.

# 83. Хрыстос узбагачае веру ахрышчаных на карысьць усім людзям

*“Дык вось, як вы прынялі Хрыста Ісуса Госпада, хадзеце ў Ім, укараніўшыся і збудаваныя ў Ім, дый акрэпшы ў веры, як вы былі навучаны, з падзякаю багацеючы ею” (Кал. 2, 6-7).*

Хто зьвярнуўся да Бога ў веры і злучыўся з Хрыстом у Хросьце, той прымае ўдзел у выратаваньні: “Бо кожны, народжаны ад Бога, перамагае сьвет; і гэтая перамога, што перамагла сьвет, ёсьць нашая вера” (1 Ян. 5, 4). Аднак удзел у выратаваньні павінен разьвівацца далей. Дык на працягу цэлага першага тыдня пасьля Пасхі і пасьля Хросту новаахрышчаныя прыходзілі штодзень на эўхарыстычны Збор, каб паглыбіць сваё жыцьцё веры. У чытаньнях гэтага тыдня яны прыпаміналі сабе выратавальныя здарэньні сьмерці і ўваскрасеньня Хрыста ды свой удзел у іх праз веру і Хрост. Літургічные тэксты павучалі ахрышчаных і аб тым, што яны прынялі Хрост ня толькі для сябе, але дар веры павінны дзяліць з усімі людзьмі, апавядаючы Божыя справы як сьведкі сьмерці і ўваскрасеньня Хрыста. Літургічныя навукі адносяцца ня толькі да новаахрышчаных, але і да ўсіх, што цераз веру навярнуліся да Бога, ды цераз Хрост злучыліся з Хрыстом. Літургія ўсяго году як і літургія ўсіх тайнаў імкнецца да таго, каб узмацаваць ахрышчаных у веры і ў прырачэньнях Хросту.

Бог жадае злучыць з Сабою ўсіх людзей і робіць гэта ў Царкве і праз Царкву. Аднак трэба, каб Царква што раз лепш пазнавала і што раз лепш разумела Божае Аб’яўленьне. У жыцьці веруючых гэтае асягаецца праз чытаньне сьвятога Пісьма, праз студыяваньне багаслоўя, праз жывы ўдзел у літургіі ды іншых зборах. Для ахрышчаных змалку прыгатаваньнем да гэтага паглыбленьня веры ёсьць катэхізацыя, якая трывае праз увесь час школьнага навучаньня. Гэткім спосабам узбагачаецца жыцьцё веры ўсяе Царквы, а таксама разьвіваецца і дзее надпрыродная цнота веры ў кожным ахрышчаным. Пільнуе гэтае паглыбленьне веры ў Божым народзе вучыцельскі ўрад Царквы.

Аднак існуе небязьпэка аслабленьня, а нават страты веры. Нагодаю да гэтага можа быць дрэнны прыклад, бязкрытычнасьць у чытаньні кніжак, а пераважна ляніўства ды нядбайнасьць чалавека. Сьвяты Пётр перасьцярагае: “Дык вы, узлюбленыя, як ужо народжаныя, сьцеражыцеся, каб вам не захапіцца памылкамі бязбожнікаў ды не адпасьці ад свайго ўмацаваньня” (2 Пятр. 3, 17).

Ляніўства і нядбайнасьць могуць давесьці да сумніваў, а нават да адмовы верыць. Тады чалавек вылучае сябе з супольнасьці з Хрыстом і з выратаваньня. Гэта называецца цяжкім грахом. Аб гэтым вучыць сьвяты Ян: “Хто ня веруе, той ужо засуджаны, бо ня ўвераваў у імя Адзінароднага Божага Сына” (Ян. 3, 18). Калі хрысьціянін ня дбае аб сваёй веры, ён аслабляе тады жыцьцё веры ўсяе Царквы і прычыняецца да таго, што Царква менш пасьпяхова выпаўняе сваю місію ў сьвеце. Жыцьцё, нязгоднае з верай, ёсьць галоўнай прычынай адыходу ад яе.

Але аднаго толькі зразуменьня Аб’яўленьня ня хопіць. Трэба яшчэ каб жыцьцё Божага народа было згодным з верай: “Што за карысьць, браты мае, калі хто кажа, што ён мае веру, ды ўчынкаў ня мае? Ці можа гэтая вера збавіць яго?... Гэтак і вера, калі ня мае ўчынкаў, сама па сабе ёсьць

мёртвая… Ты верыш, што Бог адзін: добра робіш; і злыя духі вераць і дрыжаць” (Як. 2, 14-19). Жыцьцё, згоднае з верай, выражаецца ва ўчынках любові. “Калі я маю прароцтва, і ведаю ўсе тайны і ўсякае веданьне, і калі маю ўсю веру, каб і горы перастаўляць, а ня маю любові, дык я нішто” (1 Кар. 13, 2).

Што раз глыбейшае пазнаваньне Аб’яўленьня і жыцьцё згоднае з верай ня ёсьць толькі дзелам чалавека, але перадусім дзелам Бога. Таму апосталы прасілі Хрыста: “Дадай нам веры” (Лук. 17, 5). А сьвяты Павал перасьцерагаў Карынцянаў, якія зашмат прыпісвалі чалавечай дзейнасьці: “Я сеяў, Апалос паліваў, але Госпад даў узрост… а вы – Божая ніва” (1 Кар. 3, 6-9). Найлепшым спосабам узросту ў веры ёсьць лучнасьць з Хрыстом у тайнах ды малітвах, асабліва літургічная.

**Наш адказ Богу:** Каб адыграць сваю ролю ў сьвеце згодна з Божай думкай, буду старацца паглыбляць веру і жыць згодна з ею.

**Прыклад малітвы:** Усемагутны, вечны Божа, Які ўстанавіў Пасхальную Містэрыю, заключаючую з чалавецтвам запавет прабачэньня, дай нам ласку, каб мы ўчынкамі зьдзейсьнілі тое, што выражаем цераз гэтую ўрачыстасьць. (З лацінскай літургіі ў пятніцу пасьля Вялікадня).

**Божае Слова:** “Будзьце-ж выпаўніцелямі слова, а не слухачамі толькі, ашуківаючымі самых сябе… Але хто ўглыбляецца ў дасканалы закон свабоды і трывае ў ім, той, стаючыся не слухачом забываючымся, але выпаўніцелям дзела, шчасьлівы будзе ў дзеяльнасьці” (Як. 1, 22-25).

**Навука Царквы:** “Сьвяты Божы народ мае ўдзел гэтаксама ў прарочай функцыі Хрыста, пашыраючы аб Ім жывое пасьведчаньне перадусім жыцьцём веры і любові…” (Канстытуцыя аб Царкве 12).

“Таксама Сьвяты Сабор настойліва і асабліва прыпамінае ўсім веруючым,… каб цераз частае чытаньне Сьвятога Пісьма набывалі ўзвышанага пазнаньня Ісуса Хрыста. Дык няхай ахвотна прыступаюць да сьвятога тэксту, як цераз сьвятую літургію, так і праз пабожнае чытаньне. Аднак няхай помняць аб тым, што сьвятое Пісьмо трэба чытаць з малітвай, каб гэтае чытаньне было гутаркай паміж Богам і чалавекам” (Канстытуцыя аб Царкве 25).

“Пэўна-ж не бяз віны будуць тыя, што прабуюць дабравольна загарадзіць Богу доступ у сваё сэрца… аднак і самыя веруючыя ёсьць часта за гэта адказнымі. У гэткай гэнэзе атэізму веруючыя могуць прымаць не малы ўдзел, калі ў выніку занядбаньня ў рэлігійным узгадаваньні або фальшывага прадстаўляньня навукі веры, або і з недахопаў у іхным асабістым рэлігійным, маральным і грамадскім жыцьці, трэба аб іх сказаць, што яны больш засланяюць, чым паказваюць сапраўднае аблічча Бога і рэлігіі” (Пастаральная Канстытуцыя 21).

**Пытаньні да восемдзесят трэцяе катэхэзы:**

181) Які абавязак мае чалавек, што цераз веру і Хрост аддаўся Богу?

**Адказ:** Чалавек, які цераз веру і Хрост аддаўся Богу, мае абавязак разьвіваць сваю веру цераз што раз лепшае разуменьне Аб’яўленьня ды цераз рупнае сакраментальнае жыцьцё.

182) З якой мэтаю ахрышчаны павінен разьвіваць сваю веру?

**Адказ:** Ахрышчаны павінен разьвіваць сваю веру, каб паглыбіць сваё злучэньне з Богам і прычыніцца да большай пасьпяховасьці місіі Царквы ў сьвеце.

183) Хто грашыць супраць веры?

**Адказ:** Супраць веры грашыць той, хто ня дбае аб паглыбленьні сваёй веры і не стараецца знаходзіць адказ на свае сумнівы. Найцяжэй грашыць той, хто дабравольна адракаецца ад веры.

КАТЭХЭЗА LXXXIV.

# 84. Хрыстос дае ахрышчаным надпрыродную любоў

*"... цяпер пішу вам аб новым загадзе, які ёсьць праўдзівы і ў Ім і ў вас: што праходзіць цемра і праўдзівае сьвятло сьвеціць ужо. Хто кажа, што ён у сьвятле, а ненавідзіць свайго брата, той у цемры знаходзіцца і ў цемры ходзіць ды ня ведае, куды йдзе, бо цемра вочы яму асьляпіла" (1 Ян. 2, 8-11).*

Уступны дыялог у абрадзе Хросту паказвае веру як шлях выратаваньня. Але як угавор ставіць выпаўненьне загаду любові: "Калі хочыш асягнуць вечнае жыцьцё, выпаўняй загады: Будзеш любіць свайго Госпада Бога з усяго свайго сэрца, з усяе сваёй душы ды з усяе сваёй думкі, а свайго бліжняга як самога сябе". Вера, Хрост і любоў неразрыўна зьвязаны паміж сабой.

Хрыстос-Сьвятло паказваецца ў літургіі Вялікае Суботы як пераможца граху, як крыніца Божае Праўды, ды яшчэ як Аб'яўленьне Божае любові. Дыякан пяе: "О, якая дзіўная ласкавасьць дабраты Тваёй, Госпадзе, для нас! О, які незразумелы выбар любові: каб выкупіць нявольніка, Ты выдаў Сына!" Выратаваньне ў Хрысьце ёсьць дзелам любові Бога. Адказ на гэтую Божую любоў можа даць толькі жыцьцё поўнае любові.

"Гэткае ёсьць абвяшчэньне ад пачатку, што вы чулі, каб мы любілі адзін аднаго... Мы ведаем, што мы перайшлі ад сьмерці ў жыцьцё, бо любім братоў, а хто ня любіць брата, той прабывае ў сьмерці... У тым пазналі мы любоў, што Ён Сваё жыцьцё аддаў за нас: і мы павінны аддаваць сваё жыцьцё за братоў" (1 Ян. 3, 11-16).

Літургія Вялікае Суботы ў лацінскім абрадзе кончыцца малітвай: "Улей ў нас, Госпадзе, Духа Тваей Любові ды ў Сваёй дабраце злучы ў адно тых, каторых Ты накарміў Пасхальнай Тайнай. Праз Таго-ж Госпада нашага Ісуса Хрыста... у адзінстве Таго самага Духа Сьвятога". Вера ды любоў і ёсьць пладом сьмерці і ўваскрасеньня Хрыста, адначасна яны ёсьць угаворам карыснага ўдзелу ў гэтай Пасхальнай Містэрыі.

Чалавек мае права любіць сябе. Толькі першародны грэх зрабіў, што чалавек не патрапіць пагадзіць любоў да сябе з любоўю да другіх, бо ў ім гэтыя дзьве любові пачалі вылучаць адна другую. Такая любоў да сябе, якая ня дасца пагадзіць з любоўю да другога чалавека, хто б ён ні быў, завецца эгаізмам. Эгаізм аддзяляе аднаго чалавека ад другога, нясе з сабою няпраўду, крыўду, цярпеньне і сьмерць. Вядзе да эксплуатацыі аднаго чалавека праз другога і аднаго народа праз другі. Ён патрапіць разьбіць дружбу, а нават любоў дваіх асобаў. Гэтак эгаізм вядзе да ізаляцыі, адзінокасьці, замкнутасьці чалавека ў сабе. Ён таксама вядзе да атэізму.

Пасхальная Містэрыя, даючы пачатак новаму стварэньню, перадусім лечыць чалавека ад эгаізму.

"Бог ёсьць любоў" (1 Ян. 4, 8). Сваю любоў аб'явіў Бог ратуючы чалавека: "Божая любоў да нас у тым выявілася, што Бог паслаў на сьвет адзінароднага Свайго Сына, каб праз Яго мы жылі. У тым любоў, што ня мы палюбілі Бога, але што Ён палюбіў нас і паслаў Свайго Сына дзеля зьмілаваньня над грахамі нашымі" (1 Ян. 4, 9-10). Якраз вера і ёсьць адказам на гэтую любоў: "Мы пазналі і паверылі ў любоў, якую Бог мае да нас" (1 Ян. 4, 16).

Бог ня толькі аб'яўляе любоў, але і надзяляе чалавека найвышэйшай годнасьцю: "Глядзіце, якую любоў даў нам Айцец, што мы называемся дзяцьмі Божымі, ды мы імі ёсьць" (1 Ян. 3, 1). Як Божыя дзеці мы прымаем

удзел у Ягоным жыцьці ды ў Ягонай прыродзе, бо ў Богу жыцьцё і прырода атаясамліваюцца. Бог ёсьць само чыстае жыцьцё, паўната жыцьця. Таму і ў любові Божай мы прымаем удзел: “Любоў Божая вылілася ў нашыя сэрцы Сьвятым Духам, Які нам ёсьць дадзены” (Рым. 5, 5). Дае нам гэта Хрост. Таму ахрышчаны, дзякуючы надпрыроднай здольнасьці веры, пазнае Божую любоў і верыць у яе. Пры гэтым ён можа любіць Бога Ягонай любоўю, бо Хрост дае здольнасьць любіць Бога.

Ад моманту Хросту хрысьціянін павінен развіваць у сабе надпрыродную цноту любові. Ён робіць гэта ідучы сьледам за Хрыстом: “Хто кажа, што ў Ім прабывае, той павінен хадзіць так, як Ён хадзіў” (1 Ян. 2, 6). А любоў Ісуса да Айца прыняла форму паслухмянасьці: “Калі выпаўніце Мае загады, будзеце ў Маей любові, як і Я выпаўніў загады Майго Айца і застаўся ў Ягонай любові” (Ян. 15, 10).

Любоў Божая пабуджае нас, каб любіць усіх людзей. Любоў да людзей ёсьць доказам і меркай нашае любові да Бога. “Узлюбленыя, калі Бог гэтак нас палюбіў, то і мы павінны любіць адзін аднаго” (1 Ян. 4, 11). “Хто кажа: я люблю Бога, а брата свайго ненавідзіць, той брахун; бо хто ня любіць свайго брата, якога бачыць, як можа любіць Бога, Якога ня бачыць? І мы маем ад Яго гэткі загад, каб той, хто любіць Бога, любіў і свайго брата” (1 Ян. 4, 20-21). Дзякуючы надпрыроднай здольнасьці любіць, ахрышчаны можа любіць бліжняга такой самай любоўю, якой любіць яго Бог.

Гэтак чалавек адроджаны ў Хрысьце пазнае Божую любоў. Прымаючы ў ёй удзел ён можа перамагчы свой эгаізм, а любоў да сябе злучыць з любоўю да Бога і да ўсіх людзей. Гэтак ён выпаўняе адвечны Божы плян, каб у любові, якая ёсьць Самым Богам, злучыць усіх.

Як надпрыродная цнота веры, так і надпрыродная цнота любові, разьвіваецца ў нас цераз учынкі любові, аднак перадусім цераз жывы ўдзел у Эўхарыстыі. Толькі лучачыся з Хрыстом мы становімся здольнымі любіць Божай любоўю.

Надпрыродную здольнасьць Божае любові як і ўдзел у Божым жыцьці дае нам Хрост. Трацім мы іх толькі цераз цяжкі грэх. Праз цяжкі грэх мы ізноў пападаем у няволю эгаізму. Дык хто раз паверыў у любоў, той павінен трываць у ёй (1 Ян. 4, 16).

**Наш адказ Богу:** З удзячнасьці за аб’яўленьне і дар любові хачу ў сваім жыцьці кіравацца любоўю Бога і бліжняга.

**Прыклад малітвы:** Божа, што ўсе народы злучыў у вызнаваньні Цябе, дай, каб тыя, што адрадзіліся ў вадзе Хросту, утрымалі адзінства веры ў духу і любоў ва ўчынках (Малітва з Вялікоднага часу).

**Божае Слова:** Але Бог Сваю любоў да нас паказвае тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі” (Рым. 5, 8). – “Мы любім Яго, бо Ён першы палюбіў нас” (1 Ян. 4, 19). – “І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім, каб яны былі адно, як Мы ёсьць адно. Я ў іх, і Ты ў-ва Мне; каб былі злучаны ў адно, каб пазнаў сьвет, што Ты паслаў мяне і палюбіў іх, як палюбіў Мяне”… “І Я абвясьціў ім Тваё імя і абвяшчаю, каб любоў, якою Ты палюбіў Мяне, у іх была, і Я ў іх” (Ян. 17, 22-26). – “Хто ня любіць, той не пазнаў Бога, бо Бог ёсьць любоў” (1 Ян. 4, 8). – “І малюся аб тым, каб любоў вашая яшчэ болей і болей узрастала ў пазнаньні і ўсякім пачуцьці” (Філіп. 1, 9). – “А вас няхай Госпад напоўніць і ўзбагаціць узаемнай любоўю і любоўю да ўсіх, як і мы да вас” (1 Тэс. 3, 12).

**Пытаньні да восемдзесят чацьвёртае катэхэзы:**

184) Што такое надпрыродная цнота любові?

**Адказ:** Надпрыродная цнота любові – гэта здольнасьць любіць Бога і бліжняга.

185) Калі мы атрымалі надпрыродную цноту любові?

**Адказ:** Мы атрымалі надпрыродную цноту любові на Хросьце разам з удзелам у жыцьці Самога Бога.

186) Для чаго мы атрымалі надпрыродную цноту любові?

**Адказ:** Мы атрымалі надпрыродную цноту любові, каб любіць Бога і бліжняга разам з Хрыстом лучыць усіх людзей у любові Божай.

187) Калі чалавек траціць і калі знаходзіць ізноў надпрыродную цноту любові?

**Адказ:** Чалавек траціць любоў праз цяжкі грэх, а знаходзіць – разам з Божым жыцьцём.

КАТЭХЭЗА LXXXV.

# 85. Хрыстос дае ахрышчаным надзею

*“Мы самі, што маем зачатак Духа, і мы ў сабе стогнем, чакаючы ўсынаўленьня, выкупленьня цела нашага. Бо мы вызваленыя надзеяй. Надзея-ж бачная ня ёсьць надзеяй; бо калі хто бачыць, дык чаго яму і спадзявацца? Але калі спадзяёмся таго, чаго ня бачым, дык чакаем цярпліва” (Рым. 8, 23-25).*

Пасьля Хросту новаахрышчаным давалася белая вопратка, дый сёньня пасьля Хросту малога дзіцяці на яго ўскладваецца белая сарочка. А сьвятар пры гэтым кажа: “Вазьмі белую вопратку і данясі яе чыстай на суд Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб мець вечнае жыцьцё”.

Пасьля дае хросным – а калі ахрышчаны ўзрослы, то яму самому ў руку – запаленую сьвечку, кажучы: “Вазьмі запаленую сьвечку ды беззаганна сьцеражы свайго Хросту, выпаўняй Божыя загады, каб, калі Госпад прыйдзе на вясельле, магчы табе выйсьці Яму на сустрэчу з усімі сьвятымі ў нябесным валадарстве і жыць на векі вякоў. Амін”.

Белая вопратка ў Новым Запавеце абазначае жыцьцё блізка Бога. Эвангельле кажа аб ангелах у белых вопратках (Мац. 28, 3; Мар. 16, 5). Аб’яўленьне сьвятога Яна, апавядаючы аб сьвятых у небе, таксама паказвае іх у белых вопратках (Ап. 7, 9. 13). У белай як сьнег вопратцы ўбачылі апосталы Госпада, калі Ён перамяніўся перад імі на гары Табор. (Мац. 9, 3). Белая вопратка прыпамінае таксама прыповесьць Хрыста аб запрошаных на царскі банкет. Угаворам удзелу ў банкеце была асобная вопратка.

Сьвечка, якая даецца ахрышчанаму, прыпамінае яму ўдзел у жыцьці Хрыста, Які ёсьць Сьвятлом сьвету. А таксама прыпамінае другую прыповесьць аб мудрых і дурных дзевах, якія чакаюць на прыход Маладога на вясельле.

Вось гэтак абрад белай вопраткі, як і абрад запаленай сьвечкі, паказваюць сувязь Хросту з другім прыходам Госпада ў славе. Ахрышчаны, які ўжо прымае ўдзел у жыцьці і перамозе Хрыста, яшчэ мае прайсьці даўжэйшы шлях, пакуль злучыцца з Хрыстом на векі. Аднак ён павінен данясьці на гэтую сустрэчу з Хрыстом незабруджанай вопратку Божага жыцьця ды агонь веры і любові. Хрост ёсьць пачаткам. На апошнюю перамогу яшчэ трэба пачакаць.

Шмат цяжкасьцяў сустракае чалавека ў жыцьці. Як у сябе самога, так і ў другіх, бачыць ён эгаізм, які руйнуе найлепшыя намеры. Калі здарыцца няшчасьце, хвароба, цярпеньне чалавек чуецца бязрадны і бязьсільны, асабліва, калі прыходзе сьмерць. Тут ніякая навука ні тэхніка не памагае, таму людзі лёгка пападаюць у пэсымізм, які ня толькі не бароніць ад эгаізму, але пераважна вядзе да яго. Чалавек, замест адрывацца ад таго, што рана ці позна трэба будзе пакінуць, яшчэ больш прывязваецца да яго, да багацьцяў,

да славы, да свайго цела, якое з зямлі створана, вяртаецца ў зямлю. Дагаджаючы яму, чалавек закапвае скарб дадзены яму Богам у зямлю.

Хрысьціянін, які пазнаў ужо Божую любоў, хоча ў адказ любіць Бога. Ён гэтак сама бачыць у сабе і ў сваіх братах эгаізм і пажадлівасьць, якая яго цягне да граху: “Бо добрага, што хачу, не раблю, а зло, якога не хачу, раблю” (Рым. 7, 19). Хрысьціянін ведае, што ад перамогі Хрыста ў сьмерці і ўваскрасеньні да выпаўненьня гэтае перамогі трывае час змаганьня, спробы, пілігрымаваньня. Дык і ён можа баяцца, што ня вытрывае на Хрыстовым шляху.

Каб узмацаваць ахрышчанага, Хрыстос дае яму надпрыродную здольнасьць надзеі. Ахрышчаны верыць Богу. Надзея дае яму ўжо наперад бачыць тое шчасьце, якое чакае чалавека ў вечным жыцьці з Богам. Чалавек пачынае моцна жадаць яго ды тужыць за ім, а гэта адрывае ягоныя думкі ад таго, што ня ёсьць вартае, каб аб ім думаць, бо сёньня яно ёсьць, а заўтра ўжо яго няма. Чалавек вучыцца жадаць таго толькі, што трывае вечна, гэта значыць Бога, бо толькі Бог трывае вечна і ў Ім ёсьць усё, што чалавеку патрэбна да шчасьця. Толькі Бог і можа ашчасьлівіць сапраўды чалавека. “Дык будзьма добрае мысьлі і жадайма лепей жыць паза целам, ды жыць у Госпадзе” (2 Кар. 5, 8). Ахрышчаны жадае, каб хутчэй прышло Божае валадарства. Адначасна ён спадзяецца, што Бог яму паможа вытрываць і дасьць усё тое, што абяцаў у Хрысьце: “Якіператворыць цела зьнявагі нашае, каб яно сталася падобным да цела славы Яго, сілаю, якою Ён дуж і пакарыць Сабе ўсё” (Філіп. 3, 21).

Падставай надзеі ёсьць перамагаючая Божая любоў, аб’яўленая нам у Пасхальнай Містэрыі Хрыста: “А Бог Сваю любоў даводзіць тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі, дык тым болей цяпер, калі мы апраўданы Крывёй Яго, збаўлены будзем праз Яго ад гневу. Бо, калі будучы ворагамі мы пагадзіліся з Богам праз сьмерць Ягонага Сына, дык шмат болей, пагадзіўшыся, мы ўратуемся ў Ягоным жыцьці” (Рым. 5, 8-10).

Надзея, якая родзіцца з веры, умацоўвае адначасна веру і любоў, ды пазваляе ахрышчанаму цярпліва пераносіць усе цяжкасьці. Яна таксама ўмацняе яго на барацьбу са злом, якое магло б аддзяліць ад Бога, “усякаю сілаю па магутнасьці Ягонае славы на ўсякую цярплівасьць і вялікадушнасьць з радасьцю” (Кал. 1, 11). Гэтак хрысьціянін у цярпеньні, у змаганьні і перад сьмерцю можа заставацца поўны радасьці ды аптымізму, як гэта мы бачым у сьвятога Паўла: “Цяпер я радуюся ў сваіх муках за вас і дапаўняю недахоп у целе маім сумаваньняў Хрыстовых за Ягонае цела, якім ёсьць Царква” (Кал. 1, 24).

Як вера і любоў, гэтак і надпрыродная цнота надзеі можа і павінна ў ахрышчаным развівацца. Развіваецца яна тады, калі ахрышчаны жыве ею, гэта значыць узбуджае акты надзеі, асабліва ў цяжкасьцях. Тады можа адчуваць ейную сілу і карысьць з яе. Але сапраўдны ўзрост надзеі можа нам даць толькі Бог: “Бог жа надзеі няхай напоўніць вас усякай радасьцю і мірам у веры, каб вы, сілаю Сьвятога Духа, абагаціліся надзеяй” (Рым. 15, 13). Дык трэба развіваць надзею ў малітве, выражаючы ў ёй любоў і жаданьне злучыцца з Богам. Сьвятыя кажуць, што ў малітве мы атрымліваем столькі, колькі спадзяваемся атрымаць. Асабліва ўзбагачае надзею наш удзел у Эўхарыстыі, бо з ім зьвязаны найважнейшыя прырачэньні Хрыста. Мы прымаем уваскросшага Хрыста, як задатак нашага ўваскрасеньня да вечнага з Ім жыцьця.

**Наш адказ Богу:** Буду змагацца з пэсымізмам абуджаючы акты надзеі.

**Прыклад малітвы:** “Толькі ў Богу супакойваецца мая душа, ад Яго мая ўспамога. Але. Ён мая скала і мая помач, Ён мая цьвярдыня; дык не

пахіснуся… Але, толькі ў Богу спачынеш, мая душа! Бо на Яго я спадзяюся. Але: Ён мая скала і мая помач, Ён мая цьвярдыня: дык не пахіснуся” (Пс. 61, 2-6).

**Божае Слова:** “Калі Бог за нас, хто супраць нас? Той, Які Свайго Сына не пашкадаваў, але аддаў Яго за ўсіх нас, як не даруе і нам зь Ім усяго? Хто будзе абвінавачваць Божых выбраных? Бог, Які апраўдвае. Хто асуджае? Хрыстос, Які памёр, але-ж і ўваскрос. Ён і просіць за нас. Хто адлучыць нас ад Божае любові? Гора, ці ўціск, ці перасьледаваньне, ці голад, ці нагата, ці небясьпека, ці меч?” (Рым. 8, 31).

“Няхай будзе блаславёны Бог і Айцец Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які праз вялікую Сваю ласку адрадзіў нас уваскрасеньнем Ісуса Хрыста з памёрлых дзеля жывое надзеі, дзеля нятленнае спадчыны, бяз сказы, што не завяне ды захавана для вас на нябёсах Божаю сілаю праз веру ахоўваных дзеля выбаўленьня, што гатова адкрыцца ў астатні час! З гэтага цешцеся, крыху цяпер, калі трэба, патужыўшы ад розных спакусаў” (1 Пятр. 1, 3-6). – “Гэтае сказаў Я вам, каб мір мелі ў ва Мне. На сьвеце гора мець будзеце, але спадзявайцеся: Я перамог сьвет” (Ян. 16, 33).

**Пытаньні да восемдзесят пятае катэхэзы:**

188) Што такое надпрыродная цнота надзеі?

**Адказ:** Надпрыродная цнота надзеі – гэта здольнасьць, дзякуючы якой ахрышчаны вытрывала перамагае ўсе перашкоды на шляху да спатканьня з Хрыстом, калі Ён прыйдзе са славай у апошні дзень.

189) Калі даецца чалавеку гэтая здольнасьць надзеі?

**Адказ:** Здольнасьць надпрыроднае надзеі даецца чалавеку праз Хрост разам са здольнасьцю верыць і любіць.

190) Што ёсьць падставай хрысьціянскае надзеі?

**Адказ:** Падставай хрысьціянскае надзеі ёсьць хрыстова перамога.

191) Калі мы трацім надпрыродную цноту надзеі?

**Адказ:** Надпрыродную цноту надзеі мы трацім цераз грэх роспачы.

### C) Умацаваньне Сьвятым Духам

*“У апошнія дні – кажа Бог – вылью Майго Духа на кожнае цела” (Дз. 2, 17).*

КАТЭХЭЗА LXXXVI.

## 86. Праслаўлены Хрыстос дае Царкве сілу Сьвятога Духа

*“Карысьней для вас, каб Я пайшоў. Бо калі Я не пайду, Суцяшальнік ня прыйдзе да вас. Калі-ж пайду, пашлю Яго да вас. І Ён, калі прыйдзе, пераканае сьвет аб граху, аб праўдзе і аб судзе” (Ян. 16).*

Пасхальныя сьвяткаваньні абыймаюць ня толькі Вялікдзень, Праводную (гэтак у нас завуць першую нядзелю па Вялікадні), але яны трываюць цэлых пяцьдзесят дзён, якія гэтак і завуцца ў літургічных кнігах: Пасхальная Пяцьдзесятніца. У гэтым часе – ад Вялікае Суботы аж да сасланьня Сьвятога Духа – хрысьціяне перажываюць дзела выратаваньня, якое Сьвятая Тройца здзеяла ў Хрысьце. У чытаньнях усьцяж успамінаюцца здарэньні сьмерці, уваскрасеньня, адыходу да Айца, сасланьне Сьвятога Духа, бо яны ўсе разам твораць адну містэрыю нашага выратаваньня. Ушэсьце і Сасланьне Сьвятога Духа гэта не асобныя сьвяты, але абавязковыя завяршэньні пасхальнага пэрыяду. Таму ў суботу перад сёмухай калісь хрысьцілі тых, якіх не пасьпелі ахрысьціць у Вялікую Суботу.

Дзела выратаваньня ёсьць дзелам усяе Сьвятое Тройцы. Ахрышчаны прымае ўдзел у жыцьці Сьвятой Тройцы. Ён увайшоў у Божую сям’ю. Таму павінен ведаць, што Сьвяты Дух робіць у Царкве.

У Старым Запавеце Бог, прадказваючы праз прарокаў новае вызваленьне, Новы Запавет, нарадзіны новага Божага народа, абяцаў “выліць” Сьвятога Духа: “Будзе выліты на нас Дух Ягвэ з вышыні. Тады пустыня зробіцца садам, а сад будзе ўважацца за лес” (Іс. 32, 15).

Эвангелісты пішучы аб “выпаўненьні часаў” падкрэсьліваюць дзейнасьць Божага Духа. Ён дзее ўжо пры пачацьці Божага Сына (Лук. 1, 35). Божы дух аб’яўляецца пасьля хросту Ісуса ў Ярдане. Ён сьведчыў тады аб Ісусе як аб Слузе Ягвэ, Месіі, Які мае здзейсьніць дзела выратаваньня. Божы Дух у аб’яўленьні Яну Хрысьціцелю паказваецца як знак паўнаты Духа якім ёсьць “памазаны” Ісус (Лук. 3, 22). На гэтае “памазаньне” Духам паклікаўся Сам Ісус у бажніцы ў Назарэце: “Разгарнуўшы кнігу Ён знайшоў месца, дзе было напісана: Дух Гасподні на Мне: бо Ён памазаў Мяне дабравесьціць убогім… І зачыніўшы кнігу ды аддаўшы служцы, сеў; і вочы ўсіх у школе былі зьвернены на Яго. І Ён пачаў гаварыць да іх: “Цяпер выпаўнілася гэтае Пісьмо ў вашых вушах” (Лук. 4, 17-21).

Эвангелісты паказваюць гэтак сама дзеяньне Сьвятога Духа ў навуцы і дзеяньнях Хрыста, асабліва пры выганяньні нячысьцікаў (Мац. 4, 1; 12, 38). Гэтага Духа дае Яму Айцец (Ян. 3, 34).

Сьмерць і ўваскрасеньне не закончылі выратавальнага дзела Хрыста. У Пасхальнай Містэрыі нарадзілася Царква, у якой Хрыстос дзее далей, але нябачным спосабам. У членах Свайго Цела Ён абвяшчае Добрую Навіну па ўсім сьвеце, ратуе праз Тайны, лучыць з Сабою ды асьвячае людзей усіх краёў аж да Свайго другога прыходу. Гэта Ён робіць сілай Сьвятога Духа, Якога дае Сваёй Царкве.

Ён дае Яго як плод Сваёй сьмерці і ўваскрасеньня, седзячы праваруч Айца.

Аб’яўленьнем дару сілы Сьвятога Духа былі здарэньні ў дзень Пяцьдзесятніцы ў Ерусалім, калі Сьвяты Дух зыйшоў на апосталаў. Гэты дар быў дадзены ўсім веруючым. Тады Пётр гэтак абвясьціў гэтую праўду:

“Вазьміце дар Сьвятога Духа. Бо абяцаньне належыць вам і вашым дзецям, дый усім далёкім, колькі іх пакліча Госпад наш Бог” (Дз. 2, 38-39). Гэтую праўду пацьвярджае апісаньне рэзультатаў Мірапамазаньня, якое веруючыя ў Эфэзе атрымалі ад сьвятога Паўла. Яны гэтак сама як і веруючыя ў Ерусалім на Сёмуху атрымалі дар моваў і прароцтваў (Дз. 19, 6-7).

Усё далейшае жыцьцё хрысьціянскае грамады ў Ерусалім, як і пашырэньне Царквы па ўсім сьвеце ёсьць дзелам Сьвятога Духа. Ён быў крыніцай навучаньня апосталаў, цудаў, якія яны рабілі, іхняе вытрываласьці ў прасьледаваньнях (Дз. 4, 29-31). Сьвяты Дух быў сілай сьвятога Сьцяпана першага мучаніка, асабліва ягонае апошняе малітвы, якая прыпамінае апошнюю малітву Хрыста (Дз. 7, 54-60). Сьвяты Дух вучыў апостала Пятра, калі ён хрысьціў першага паганца Карнея, што Хрыстос жадае, каб і пагане атрымалі Хрост (Дз. 10, 1-14). Сьвяты Дух таксама адправіў Паўла і Варнаву ў місійнае падарожжа (Дз. 13, 1-12).

Пасхальны дар Сьвятога Духа ёсьць заўсёднай крыніцай сілы ды місійнай дзейнасьці ў Царкве. Хрыстос саслаў Яго ў дзень Пасхальнай Пяцьдзесятніцы, а ўсім членам Божага народа дае Яго праз усе стагодзьдзі ў Тайне Мірапамазаньня.

**Наш адказ Богу:** Ведаючы, што Сьвяты Дух дзее ў Царкве, буду паслушны Ягоным натхненьням.

**Прыклад малітвы:** Госпадзе, Што паслаў сваім апосталам а трэцяй гадзіне з неба Найсьвяцейшага Свайго Духа, будзь добры, не адбірай Яго ад нас, але абнаві нас, што да Цябе молімся.

**Навука Царквы:** “А калі было споўнена дзела, якога спаўненьне на зямлі Айцец паручыў Сыну, быў сасланы ў дзень Зялёных Сьвяткоў Сьвяты Дух, каб заўсёды асьвячаў Царкву ды каб гэтак веруючыя мелі праз Хрыста ў адным Духу доступ да Айца. Гэта Ён ёсьць Духам жыцьця, або крыніцай вады, б’ючай на вечнае жыцьцё… І гэтак вось уся Царква паказваецца як народ аб’яднаны адзінствам Айца і Сына, і Сьвятога Духа” (Канстытуцыя аб Царкве 4).

**Пытаньне да восемдзесят шостае катэхэзы:**

192) Чым ёсьць для Царквы Пасхальны дар Сьвятога Духа?

**Адказ:** Пасхальны дар Сьвятога Духа ёсьць для Царквы крыніцай надпрыроднага жыцьця і ейнае апостальскае дзейнасьці ў сьвеце.

КАТЭХЭЗА LXXXVII.

# 87. Хрыстос дае сілу Сьвятога Духа ў абрадзе “ўскладаньня рук” і ў памазаньні мірам

*“Дык ускладалі на іх рукі і яны прымалі Сьвятога Духа” (Дз. 8, 17).*

*“Калі апосталы ў Ерусаліме пачулі, што Самарыя прыняла Божае слова, паслалі да іх Пятра ды Яна, якія прыйшоўшы памаліліся за іх, каб яны прынялі Сьвятога Духа. Бо Ён ня быў на нікога з іх зыйшоўшы, а толькі былі яны ахрышчаны ў імя Госпада Ісуса. Тады яны паўскладалі на іх рукі, і тыя прынялі Сьвятога Духа” (Дз. 8, 14-17).*

За часаў апостальскіх тайны Хросту і Мірапамазаньня даваліся ў розных пэрыядах году. Ужо тады веруючыя прымалі часам гэтыя две тайны асобна ў розным часе. Аднак калі прынялося толькі ў Вялікую Суботу ўлучаць людзей у Пасхальную Містэрыю Хрыста, стала адбывацца гэта ў тры прыёмы. Катэхумэны, ахрышчаныя праз дыякана або сьвятара ў асобнай капліцы, званай баптістэрыем, пераходзілі з яе ў царкву, дзе архірэй даваў ім поўню Сьвятога Духа ў Тайне Мірапамазаньня. Толькі атрымаўшы гэтую другую

тайну, новаахрышчаныя лучыліся з усёю грамадою хрысьціян у Эўхарыстыі. Гэтыя тры тайны да гэтага часу так і называюцца тайнамі “хрысьціянскае ініцыяцыі” або “ўводзін і інфармацыі”.

Калі павялічыўся лік веруючых і паўсталі прыходы значна аддаленыя ад пасаду архірэя, бацькі і пастыра хрысьціянскае грамады, Хрост і Мірапамазаньне пачалі давацца асобна. У лацінскім абрадзе Мірапамазаньне дае архірэй – біскуп. Абрады Мірапамазаньня пасьля аддзяленьня іх ад Вялікае Суботы, ад Хросту і Эўхарыстыі, складаюцца з трох знакаў: узкладаньня рук, памазаньня мірам і знаку крыжа. Другі Ватыканскі Сабор прыпомніў ізноў цесную лучнасьць паміж тайнамі ініцыяцыі. Ён увёў у абрад Мірапамазаньня аднаўленьня прырачэньняў Хросту і радзіць даваць Тайну Мірапамазаньня ў часе эўхарыстычнага Збору.

Тайна Мірапамазаньня цяпер даецца ў кожным пэрыядзе літургічнага году. Дзеля таго, што яно дае ўдзел у пасхальным прыняцьці Сьвятога Духа, за літургічную гадавіну прыняцьця гэтай тайны прынята ў Царкве ўважаць Пасхальную Пяцьдзесятніцу, гэта значыць сьвята Сасланьня Сьвятога Духа.

Цераз Хрост Хрыстос улучае чалавека ў Сваю Пасхальную Містэрыю і лучыць яго з Сабою, як з Сынам Бога Айца. Гэтак Ён дае чалавеку ўдзел у жыцьці Сьвятой Тройцы, ды ў Сваёй царскай і сьвятарскай годнасьці. Хрыстос робіць яго часткай Свайго Цела і дае яму права навучаньня.

Чалавек ужо на Хросьце прымае Сьвятога Духа як крыніцу жыцьця і адзінства. Але як Хрыстос пачаўся з Духа Сьвятога і быў Сьвятым Духам напоўнены, аднак перад тым, як пачаў Сваю месіянскую дзейнасьць, быў “памазаны” Сьвятым Духам, гэтак і Царква, якая радзілася на крыжы, пачала сваю місію ў сьвеце толькі пасьля “памазаньня” Сьвятым Духам у дзень Пяцьдзесятніцы. Таму і хрысьціянін атрымаўшы цераз Хрост надпрыроднае жыцьцё і здольнасьці патрабуе “памазаньня” сілай Сьвятога Духа. Цераз гэта і ён як частка Хрыстовага Цела можа пасьпяхова выпаўняць сваю місію ў сьвеце. Хрысьціянін у ва ўсім сваім жыцьці павінен сьведчыць аб выратаваньні, якое здзееў Ісус Хрыстос і якое безупынна дзеецца ў Царкве. У гэтым яму памагае Сьвяты Дух, Які прыходзе ў Тайне Мірапамазаньня: “Калі ж прыйдзе Суцяшальнік, Якога Я пашлю вам ад Айца, Дух Праўды, Які ад Айца зыходзіць, Ён будзе сьведчыць аба Мне. Ды і вы будзеце сьведчыць, бо вы ад пачатку са Мною” (Ян. 15, 26-27).

Сутнасьць Тайны Мірапамазаньня выражаецца ў знаках або абрадах гэтай Тайны. На першым месцы выступае “узкладаньне рук”. Гэтак рабілі апосталы. У гэтым жэсьце выражаецца пераказ атрыманай перш сілы, а таксама перадача місіі або заданьня. Апосталы атрымалі поўню Сьвятога Духа. Яны пераказалі яе сваім наступнікам, а тыя Сьвятога Духа раздаюць веруючым. Таму ў лацінскім абрадзе Мірапамазаньне выконвае архірэй – біскуп.

Гэтую самую праўду выражае і абрад памазаньня мірам. Ісус з Назарэту як Божы высланьнік, Пасрэднік і Выратавальнік называўся Хрыстом, гэта значыць “памазаным” Сьвятым Духам. Аб’яўленьнем гэтага памазаньня быў Хрост Ісуса ў Ярдане: “Бо Айцоўскі голас сьведчыў аб Табе, называючы Цябе ўзлюбленым Сынам і Дух у постаці галубінай аб’яўляў праўдзівасьць гэтых слоў”, пяе Ўсходняя Царква пры пасьвячэньні вады ў Сьвята Божага Аб’яўленьня. А ў лацінскім абрадзе на пасьвячэньне міра ў Вялікі Чацьвер пяецца: “Праз гэта ты яўна пацьвердзіў, што гэта аб Ім пяяў прарок Давід, што Ён мае быць памазаны алівай радасьці перад тымі, што з Ім дзеляць долю”. Гэтымі словамі Царква падкрэслівае, што памазаныя мірам прымаюць удзел у Хрыстовым памазаньні Сьвятым Духам.

Гэтае памазаньне адбываецца ў форме крыжа, каб выразіць сувязь гэтай тайны з Пасхальнай Містэрыяй Хрыста і адначасна сувязь мірапамазанага з усёю Сьвятою Тройцаю. Адначасна гэты знак прыпамінае, што Мірапамазаньне, так як і Хрост, выціскае на душы нязмыўную пячаць, што выразна відаць з формулы, прынятай ва ўсходнім абрадзе: “Пячаць Дару Духа Сьвятога”.

Гэтая ўсходняя формула, як ранейшая, ад заходняй, якая аканчальна злажылася ў Сярэднявякоўі, выражае сымбалічна, што мірапамазаны стаўся жаўнерам Хрыстовым. Даўней не было ўсеагульнага абавязку служыць у войску, бо войска складалася вылучна з наёмных дабравольцаў-прафэсіяналаў. Князі і павадыры войска прымалі жадаючых да сябе на службу ў войска. Яны вызначалі кожнаму жаўнеру сталую пэнсію на ўтрыманьне, давалі вопратку і зброю, але вымагалі аддацца назаўсёды свайму павадыру, які распаленым жалезам ставіў ім на целе нязмыўную пячаць, каб у часе вайны яны не ўцякалі, але былі абавязаны нават сваё жыцьцё аддаць, калі будзе патрэба. Калі ж хто ўцёк, яго, злавіўшы, можна было па гэтым знаку разпазнаць і жорстка пакараць, найчасьцей сьмерцю на крыжы, за нявернасьць. З другога боку служба ў знатнага пераможца давала ня толькі ўсё патрэбнае да жыцьця, але і славу з кожнае ягонае перамогі. Царква выкарыстала падабенства вайсковае службы да хрысьціянскае адданасьці Хрысту як пераможцы нячыстай сілы, граху і сьмерці, каб ясьней паказаць веруючым іхнія абавязкі вернасьці і службы Хрысту, з якой выплываюць для іх усе карысьці Хрыстовае перамогі, вечная слава і вечнае жыцьцё. На Захадзе гэтая сымболіка крыху перамянілася пад уплывам рыцарскіх звычаяў сярэднявечча. Тут годнасьць рыцара яшчэ лепш аддавала натуру вернае службы Хрысту. Таму і Мірапамазаньне адбывалася ў спосаб, які быў прыняты пры надаваньні рыцарскае годнасьці. Кароль або іншы высокі дастойнік датыкаў мячом кандыдата, які стаяў перад ім на каленях. Сёньня лацінскі біскуп датыкае рукою твар мірапамазанага, кажучы пры гэтым: “Мір з табою”, што абазначае прыняцьце да супольнасьці супрацоўнікаў у тым, каб разам з біскупам сьведчыць аб Хрысьце.

Дзякуючы помачы Сьвятога Духа мірапамазаны можа і павінен сьведчыць аб выратаваньні ў Хрысьце. Ён можа і павінен прымаць актыўны ўдзел у літургіі, асабліва ў еўхарыстычным Зборы. Ён можа і павінен усё накіроўваць да Бога. Сілай Сьвятога Духа мірапамазаны даходзіць да поўнае дасьпеласьці надпрыроднага жыцьця.

Мірапамазаньне, як і Хрост, можна прыняць толькі адзін раз у жыцьці. Аднак сіла Сьвятога Духа можа ў нас узрастаць, калі мы выпаўняем нашыя абавязкі ды паддаёмся кіравецтву Сьвятога Духа. Аднак перадусім яна ўзрастае цераз удзел у Эўхарыстыі. Лучачыся з Ісусам Хрыстом, мы адначасна паглыбляем нашу сувязь са Сьвятым Духам.

**Наш адказ Богу:** Буду старацца адудзячыцца Богу за дар сілы Сьвятога Духа, выпаўняючы свае абавязкі, якія накладае на мяне ўдзел у місіі Хрыста, каб даваць усім пасьведчаньне аб вырачэньні.

**Прыклад малітвы:** Нябесны Уладару, Суцяшальніку, Духу Праўды, што ўсюды ёсьць і ўсё напаўняеш, Скарбніца дабра і Жыцьцядацелю, прыйдзі і пасяліся ў нас і ачысьці нас ад усякага зла ды збаў, Добры, нашыя душы.

**Божае Слова:** “Ды і вы маеце памазаньне ад Сьвятога і ведаеце ўсё” (1 Ян. 2, 20). – “Дзеля гэтага схіляю мае калені перад Айцом Госпада нашага Ісуса Хрыста, ад Якога мае назоў усякае айцоўства на нябёсах і на зямлі, – каб даў вам, водле багацьця Сваёй славы, сілай умацавацца цераз Ягонага Духа ва ўнутраным чалавеку…” (Эф. 3, 14-16).

**Навука Царквы:** Веруючыя, улучаныя праз Хрост у Царкву, дзякуючы атрыманаму знаку прызначаныя прымаць удзел у кульце хрысьціянскае рэлігіі ды, адрадзіўшыся як Божыя дзеці, маюць абавязак вызнаваць перад людзьмі веру, атрыманую ад Бога цераз пасрэдніцтва Царквы. Праз Тайну Мірапамазаньня яны яшчэ цясьней лучацца з Царквою, атрымліваюць асабліваю сілу Сьвятога Духа і гэткім спосабам яшчэ большы маюць абавязак, як сапраўдныя сьведкі Хрыста, пашыраць веру словам і дзелам, як і бараніць яе…” (Канстытуцыя аб Царкве 11).

**Пытаньні да восемдзесят сёмае катэхэзы:**

193) Што нам дае Хрыстос у Тайне Мірапамазаньня?

**Адказ:** У Тайне Мірапамазаньня Хрыстос дае нам удзел у дары Ствятога Духа, спасыланага на Царкву.

194) З якою мэтаю дае нам Хрыстос сілу Сьвятога Духа?

**Адказ:** Хрыстос дае нам сілу Сьвятога Духа, каб мы, як дасьпелыя члены Хрыстовага Цела, словам і дзелам сьведчылі аб выратаваньні ў Хрысьце.

**Як адбываецца Мірапамазаньне ў лацінскім абрадзе?**

**Новае імя.** Хрысьціянін, прымаючы Тайну Мірапамазаньня, прымае разам другое імя, каб мець яшчэ аднаго сьвятога Патрона ўжо паводле свайго свабоднага выбару.

**Сьведка Мірапамазаньня.** Сьведкам пры Тайне Мірапамазаньня можа быць веруючы і практыкуючы католік, які скончыў чатырнаццаты год жыцьця і прыняў ужо сам Тайну Мірапамазаньня. Ён мае абавязак дапільнаваць, каб мірапамазаны атрымаў хрысьціянскае ўзгадаваньне.

**Мірапамазаньне адбываецца ў часе сьвятой Літургіі:** тады яно адбываецца пасьля Эвангельля. Можа яно адбывацца і паза Літургіяй. Тады біскуп гаворыць казань, а тыя, што прымаюць Мірапамазаньне, аднаўляюць прырачэньні сьвятога Хросту.

Біскуп выцягвае рукі над кандыдатамі і адгаварвае ўступныя малітвы, у якіх просіць, каб Бог спаслаў на гэтых ахрышчаных Сьвятога Духа Суцяшальніка разам з Ягонымі дарамі, якіх ёсьць сем: мудрасьць, розум, рада, мужнасьць, умеласьць, пабожнасьць і богабойнасьць.

**Абрад тайны**

Прымаючы Мірапамазаньне становіцца на калені. Сьведка кладзе яму руку на правае плячо. Біскуп кладзе правую руку на галаве таго, хто прымае Мірапамазаньне і памазвае яго сьвятым мірам у форме крыжа, кажучы пры гэтым: ЗНАЧУ ЦЯБЕ ЗНАКАМ КРЫЖА І ЎМАЦОЎВУЮ ЦЯБЕ МІРАМ ВЫРАТАВАНЬНЯ Ў ІМЯ АЙЦА І СЫНА І ДУХА СЬВЯТОГА. Мірапамазаны адказвае: Амэн. Біскуп, датыкаючы рукою твару мірапамазанага, кажа: Мір з табою! (Рыцарскі сярэднявечны знак).

Канчаецца абрад мірапамазаньня малітвай і асобным урачыстым блаславенствам. А мірапамазаным біскуп загадвае адгаварыць сымбаль веры, Госпадаву малітву і Ангельскае прывітаньне.

## *D) Сэрца новага чалавека*

*“Ягвэ глядзіць на сэрца” (1 Сам. 16, 7).*

КАТЭХЭЗА LXXXVIII.

# 88. Хрыстос фармуе сумленьне хрысьціяніна

*“Дык не падстройвайцеся да гэтага сьвету, але пераабражайцеся абнаўленьнем вашага розуму, каб вам пазнаваць, што ёсьць Божая Воля што ёсьць добрае, што ёсьць прыемнае Богу, што ёсьць дасканалае” (Рым. 12, 2).*

Калі хочам пахваліць чалавека за ягоныя добрыя паводзіны, кажам, што ён ёсьць добрасумленным. Аб чалавеку, які дапусьціўся вялікіх злачынстваў або шмат каго скрыўдзіў, кажам, што ён ня мае сумленьня. Асабліва пасьля апошняй вайны гостра была пастаўлена справа сумленьня ў міжнародных судах над ваеннымі злачынцамі. Шмат фільмаў, драматаў або літаратурных твораў займаецца гэтым пытаньнем. У сусьветнай літаратуры яно выступае ад найдаўнейшых часаў. Праблема сумленьня датычыць усіх людзей, бо сумленьне ёсьць падставай маральнага жыцьця чалавека і ягонай маральнай ацэны. Чалавек тым і розьніцца ад зьвяраці, што мае сумленьне.

Голасам сумленьня называецца ўнутраны загад, каб рабіць дабро, а сьцерагчыся зла. Гэты голас ня толькі ацэньвае, які ўчынак будзе добры, а які дрэнны, але адначасна вымагае ад чалавека, каб ён рабіў дабро, а ўстрымаў сябе ад зла. Голас сумленьня не перастае гаварыць і тады, калі чалавек ужо зрабіў нешта добрае ці дрэннае. Залежна ад таго, што ён зрабіў, чалавек адчувае або задаваленьне, або незадаваленьне, якое называецца дакорам сумленьня. Калі чалавек дзейнічае згодна з вымаганьнем сумленьня, кажам аб ягоных учынках, што яны ёсьць маральна добрыя. Калі ж ён дзейнічае нязгодна з голасам свайго сумленьня, мы называем ягоныя ўчынкі маральна дрэннымі, або немаральнымі.

Кожны чалавек адрозьнівае дабро і зло. Аднак ня ўсе людзі аднолькова добра судзяць аб тым, што сапраўды ёсьць дабром, а што злом. Наагул усе згаджаюцца, што красьць, забіваць, маніць заўсёды будзе злом. А наадварот, шанаваць чужое, асабліва здароўе, ўсе прызнаюць за дабро. Пазнаючы сьвет і парадак, які ў ім пануе, чалавек адкрывае маральныя законы, якія паказваюць яму выразьней, што ёсьць дабром, а што злом. Напрыклад чалавек пазнае правы чалавечае асобы, законы здаровага сужыцьця людзей у грамадзтве і гэтак далей. Пазнаючы гэтыя маральныя законы, а гэтак сама і іхнюю падставу – прыродны закон, чалавек адкрывае закон створаны Богам. Гэтак сумленьне лучыць чалавека з Богам, хоць чалавек можа аб гэтым і ня ведаць.

Правільнае развіцьцё здольнасьці адрозьніваць дабро і зло вельмі залежыць ад уплыву асяродзьдзя, у якім жыве чалавек. Найбольшую ролю тут грае сям’я і найбліжэйшае атачэньне. Яны могуць уфармаваць правільна або скрывіць сумленьне. Таксама вялікае значэньне мае самаўзгадаваньне чалавека. Калі чалавек дзейнічае згодна з сумленьнем, яно ўзбагачаецца. Учынкі супярэчныя з сумленьнем могуць заглушыць і скрывіць яго.

У цяперашніх умовах тэхнічнае і гарадзкое цывілізацыі чалавек часта асабіста не ацэнівае нормаў паводзін. Ён проста глядзіць, як дзейнічаюць другія, зусім ня ставячы сабе пытаньня, ці гэта добра ці не. Дык сёньня больш, чым калі-колечы кожны чалавек павінен парупіцца, каб развіць сваё сумленьне.

Прыродны закон абавязуе ўсіх людзей, дык таксама і хрысьціян. Аднак хрысьціянін можа лепш пазнаць, зразумець і выпаўніць гэты закон дзякуючы таму, што знае Дэкалог. Апрача таго пазнаць і ацаніць дабро і зло хрысьціяніну памагае навука і прыклад Ісуса Хрыста паказаны ў Эвангельлі. Перадусім аднак ахрышчаны ведае аб сваёй лучнасьці з Хрыстом у новым стварэньні. Ахрышчаны і мірапамазаны мае сьвядомасьць таго, што ў ім прабывае Сьвяты Дух, Дух мудрасьці і любові. І гэта дае яму ўнутраную сілу каб быць паслушным голасу сумленьня ды ўсё накіроўваць да Бога.

Аб’яўленая навука не дае адказу на ўсе маральныя пытаньні. Гэтак сама і вучыцельскі ўрад у Царкве ня мае гатовых адказаў на ўсе маральныя цяжкасьці. Дзеля гэтага члены Царквы яшчэ больш, чым іншыя людзі павінны рупіцца аб сталае развіцьцё свайго сумленьня. З гэтаю мэтаю яны павінны

што раз больш паглыбляць веду аб духу Эвангельля ды ўсяго Аб’яўленьня, каб у канкрэтных выпадках ведаць як жыць і дзейнічаць. Адначасна хрысьціянін павінен усьцяж працаваць над сабой, панаваць над сваімі нахіламі і пачуцьцямі, каб ягонае сумленьне заўсёды было чуткім і правільным.

**Наш адказ Богу:** Буду фармаваць сваё сумленьне праз што раз то лепшае пазнаваньне духа эвангельскай маральнасьці.

**Прыклад малітвы:** “Усім сваім сэрцам шукаю я Цябе: ня дай мне адхіліцца ад Тваіх загадаў! У сваім сэрцы я хаваю Тваё слова, каб не зграшыць перад Табою. Блаславўлю Цябе, Госпадзе; навучы мяне Сваіх установаў! Сваімі вуснамі я абвяшчаю ўсе Твае прысуды. З шляху, што загаданы Тваімі аб’явамі, я радуюся, быццам з вялікага багацьця. Аб Тваіх загадах буду разважаць і пазіраць на Твае шляхі. У Тваіх пастановах будзе мая ўцеха, не забуду я Твайго слова” (Пс. 118, 10-16).

**Божае Слова:** “Калі пагане, ня маючы закону, па прыродзе робяць законнае, то, ня маючы закону, яны самі сабе закон: яны паказваюць дзела закону, у сэрцах у іх напісанае, аб чым сьведчыць сумленьне іх і іхныя думкі, то абвінавачваючыя, то апраўдваючыя іх” (Рым. 2, 14-15).

**Навука Царквы:** “У глыбіні сумленьня чалавек адкрывае закон, які ён не накладаў сабе сам, але якому ён павінен быць паслушны і якога голас заўсёды кліча яго туды, куды трэба, каб любіць і рабіць дабро і сьцерагчыся зла, гучыць у сэрцы загадам: рабі гэтае а таго высьцерагайся. Бо чалавек у сваім сэрцы мае выпісаны закон праз Бога. Паслухмянасьць гэтаму закону, паводле якога яго будуць судзіць, вырашае аб яго вартасьці. Сумленьне ёсьць самым таемным цэнтрам і сьвятыняй чалавека, дзе ён сам адзін прабывае з Богам, Якога голас чуваць у ягоным нутры. Цераз сумленьне дзіўным спосабам чалавек пазнае той закон, які выпаўняецца, калі ён любіць Бога і бліжняга. Цераз вернасьць сумленьню хрысьціяне лучацца з усімі людзьмі ў пошуку праўды і вырашэньні ў праўдзе шматлікіх маральных праблемаў, якія напатыкаюцца ў жыцьці як адзінкі так і ў грамадзкім жыцьці” (Пастаральная Канстытуцыя 16).

**Пытаньні да восемдзесят восьмае катэхэзы:**

195) Што такое сумленьне?

**Адказ:** Сумленьне – гэта ўнутраны голас, які загадвае чалавеку жыць і дзейнічаць згодна з Божым законам, аб’яўленым у прыродзе.

196) Калі чалавек мае абавязак слухацца свайго сумленьня?

**Адказ:** Чалавек мае абавязак быць паслушны голасу свайго сумленьня, калі яно зусім выразна загадвае яму або забараняе чаго-колечы.

## *II.Сапраўдные паклоньнікі Айца ў духу і праўдзе*

КАТЭХЭЗА LXXXIX.

# 89. Хрыстос збірае ахрышчаных у сьвяты дзень на паклон Айцу

*“Павер Мне, жанчына, што надыйдзе час, калі не на гэтай гарэ і не ў Ерусаліме будзеце пакланяцца Айцу; вы ня ведаеце, чаму пакланяецеся, а мы ведаем, чаму пакланяемся, бо выратаваньне бярэ пачатак ад гэбраяў. Але прыйдзе час, дый ён ужо прыйшоў, калі сапраўдныя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэткіх паклоньнікаў шукае Сабе Айцец” (Ян. 4, 21-23).*

Усе рэлігіі сьвету аддаюць нейкім спосабам Богу пашану. Выражаюць гэтую пашану на вонкі. Будуюць сьвятыні, прыносяць ахвяры, арганізуюць пілігрымкі або ўрачыстыя супольныя малітвы. Маюць таксама сьвятыя дні, прызначаныя на супольную малітву. Гэтак яны пакланяюцца Богу як Стварыцелю. Яны прызнаюць, што душа і цела чалавека, а таксама ягонае грамадзкае жыцьцё залежаць ад Бога. Яны йдуць у гэтым за голасам сумленьня, якое загадвае пакланяцца Богу, таксама публічна.

Гэтак сама першы выбраны народ публічна пакланяўся Богу. Месцам гэтага пакланеньня была ерусалімская сьвятыня. У ёй урачыста сьвяткаваліся рэлігійныя сьвяты. Сёмы дзень, субота, быў асабліва пасьвячаны Богу. Паэма аб стварэньні паказвае гэты дзень тыдня, як дзень адпачынку Бога і чалавека, і пацьвярджае загад Дэкалогу: “Помні, каб ты сьвяткаваў сьвяты дзень”. Публічны культ гэбрайскага народа абапіраўся ня толькі на прыродным праве, але і на Аб’яўленьні, на выразным загадзе Госпада Запавету. Асабліва важным было ў суботу каб паўстрымацца ад усякае працы.

Як у гэбрайскай рэлігіі, так і ў іншых рэлігіях, дзень свабодны ад працы дзеля заработку мае агромнае значэньне для духовага жыцьця чалавека. Гэты дзень дае магчымасьць чалавеку адарвацца ад штодзённых заняткаў, турбот і думак, каб пасьвяціць крыху часу духовым справам і грамадзкім кантактам. У сучасных умовах свабодны ад працы дзень ёсьць амаль адзіным днём сапраўднай духовай супольнасьці ў сям’і.

Божы народ Новага Запавету будуе таксама сьвятыні для публічнага пакланеньня Богу. Ён збіраецца ў іх на супольную малітву ды прыносіць Ахвяру. Ён мае таксама свае сьвяты і сталы дзень Божага культу, нядзелю. Аднак у Новым Запавеце публічны культ не выводзіцца толькі з прыроднага закону ані нават з выразнага загаду. Публічны культ Бога ў Царкве ёсьць рэзультатам Пасхальнай Містэрыі Хрыста, Ягонае сьмерці і ўваскрасеньня.

І дзеля гэтага ўжо ад апостальскіх часоў хрысьціяне збіраюцца ў нядзелю, гэта значыць у дзень, калі Хрыстос уваскрос (Дз. 20, 7). Даўней называлі нядзелю восьмым днём, гэта значыць днём пасьля суботы Старога Запавету, якая была сёмым днём. Цяпер нядзеля ў літургічных кнігах называецца першым днём, таму што ад яе пачалося новае жыцьцё ў Ісусе Хрысьце. Завецца яна таксама Гасподнім днём, бо гэта ёсьць дзень Хрыста, праслаўленага праваруч Бога Айца.

Галоўным момантам Господняга дня ёсьць эўхарыстычная Ахвяра. Хрыстос робіць прысутнай Сваю Ахвяру, у якой найдасканалей праславіў Айца і адначасна асьвяціў людзей, лучачы іх з Богам. У эўхарыстычным Зборы передусім Бог прыбліжаецца да свайго народа. Ён прамаўляе да яго ў Слове, узбагачае яго Сваім жыцьцём у Эўхарыстыі. А Божы народ, злучаны з Хрыстом цераз Хрост, лучачыся зь Ім у Эўхарыстыі, разам са сваім Архірэем аддае Богу Айцу найвышэйшую пашану любові і паслушэнства.

Нядзеля ёсьць сьвятам Новага Запавету, сьвятам Божага Народа. Зыйшоўшыся пры ахвярным стале на банкет, Божы народ аднаўляе сваё адзінства ў Богу, і адначасна паказваецца як знак, што Бог жадае, каб усе людзі злучыліся ў любові.

У сьвятой Літургіі пілігрымуючая Царква лучыцца з Царквой праслаўленай. Таму нядзеля ёсьць днём сапраўднае радасьці, якая вырастае з Эўхарыстыі. Нядзеля павінна быць днём вольным ад працы. Яе трэба выкарыстаць на паглыбленьне рэлігійнага жыцьця адзінак і сем’яў. Апрача таго яна павінна стацца днём хрысьціянскае любові. Царква, каб памагчы ўсім веруючым належна выкарыстаць нядзелю, вымагае ад іх удзелу ў сьвятой Літургіі і паўстрыманьня ад цяжкай працы. Гэтая забарона не адносіцца да працаў

неабходных для дабра грамадзтва ці вымаганых патрэбай любові бліжняга. Дзеля гэткіх працаў можна нават ня быць на сьвятой Літургіі.

Царква жадае, каб веруючыя штораз глыбей перажывалі сваю лучнасьць з Богам, зьдзейсьненую ў Пасхальнай Містэрыі Хрыста. Таму ўстанаўляе яшчэ іншыя сьвяты, у якіх вымагае, каб веруючыя прымалі ўдзел у эўхарыстычным Зборы. Гэтымі сьвятамі ёсьць: Пасха, Ушэсьце, Спасланьне Сьвятога Духа, Божае Цела, Божае Нараджэньне, Богаяўленьне ды сьвяты Непавіннага Пачацьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, Яе Ўсьпеньне або Ўнебаўзяцьце, Апосталаў Пятра і Паўла, Усіх Сьвятых. Трэба помніць, што галоўным момантам у гэтыя сьвяты, як і ў нядзелю, ёсьць удзел веруючых у эўхарыстычным Зборы, хаця-б гэтыя дні і ня былі вольнымі ад працы. Царква ідзе насустрач працуючым, ладзячы для іх эўхарыстычны збор вечарам.

**Наш адказ Богу:** Памятаючы аб сваім улучэньні ў сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста, буду па-хрысьціянску перажываць сьвятыя дні.

**Прыклад малітвы:** “Дай нам, просім Цябе, Усемагутны Божа, каб мы заслужылі дайсьці да вечнае радасьці цераз пасхальныя сьвяткаваньні, якія з пашанай абыходзім” (З лацінскай літургіі ў Вялікую Суботу).

**Божае Слова:** “А ў першы дзень тыдня мы зыйшліся на ламаньне хлеба” (Дз. 20, 7). – “Вось дзень, які стварыў Госпад: узрадуемся і ўзвесялімся” (Пракімен на Вялікдзень).

**Навука Царквы:** “Згодна з апостальскай традыцыяй, якая выводзіцца ад самога дня Ўваскрасеньня Хрыста, Царква сьвяткуе кожны сёмы дзень, які справядліва завецца днём Госпада, Пасхальную Містэрыю. Бо ў гэты дзень, званы нядзеляй, веруючыя зыходзяцца разам, каб пачуць Божае Слова і прыняць удзел у Эўхарыстыі, каб гэтак прыпомніць цярпеньні, уваскрасеньне і славу Госпада Ісуса і дзякаваць Богу, Які “адрадзіў іх цераз Уваскрасеньне Ісуса Хрыста для жывой надзеі” (1 Пятр. 1, 3). Дык нядзеля ёсьць з усіх сьвятаў найстарэйшым і першым сьвяточным днём, які выпадае так прадставіць і ўпаіць у сьведамасьці веруючых, каб стаўся яшчэ днём радасьці ды адпачынку ад працы” (Канстытуцыя аб Літургіі 106).

**Пытаньні да восемдзесят дзевятае катэхэзы:**

197) Чым ёсьць хрысьціянская нядзеля?

**Адказ:** Хрысьціянская нядзеля ёсьць днём радаснага ўспаміну і ўдзелу ў Пасхальнай Містэрыі Хрыста.

198) Што ахрышчаны мае абавязак рабіць у нядзелю і сьвята?

**Адказ:** Ахрышчаны мае абавязак у нядзелю і сьвята браць удзел у эўхарыстычным Зборы і паўстрымацца ад цяжкой працы.

КАТЭХЭЗА LXL.

# 90. Хрыстос праслаўляе Айца ў малітве ахрышчаных

*“Гэтак сама і Дух дапамагае ў нашых слабасьцях; бо мы ня ведаем, аб чым маліцца, як трэба, але Сам Дух стараецца за нас невымоўнымі стагнаньнямі” (Рым. 8, 26).*

Усе рэлігіі сьвету знаюць малітву, таксама як знаюць сьвятыні і сьвяты. Першабытныя народы, жывучы ў пастаянным страху перад сіламі прыроды, у пастаяннай няпэўнасьці адносна заўтрашняга дня, найчасьцей у малітве просяць усяго таго, што патрэбна да жыцьця. Хоць вельмі часта да гэткае малітвы іх пабуджае страх і патрэба помачы, аднак гэтая малітва выражае адначасна веру ў Бога як Стварыцеля і Госпада сусьвету. Падобнае значэньне мае малітва дзякуючая за атрыманае дабро.

У ва ўсіх рэлігіях гэтаксама існуе перапрашаючая малітва. Чалавек ведае, што часам робіць дрэнна і таму ў гэтай малітве выражае веру ў сьвятасьць і справядлівасьць Бога. Ён прызнае, што Бог ёсьць ягоным Валадаром, Судзьдзёй і Адплатчыкам.

Апрача таго шмат рэлігіяў маюць яшчэ дасканалейшую малітву, малітву пакланеньня Богу за Ягоную магутнасьць, веліч і Сьвятасьць. Гэтую малітву мы знаходзім нават у людзей, якія не прызнаюцца да ніякае рэлігіі. Яны захопліваюцца прыгожасьцю сусьвету ды цераз гэты сьлед адчуваюць прыгожасьць Бога-Стварыцеля. Гэткіх малітваў шмат можна знайсьці напрыклад у паэзыі.

Аднак чалавек шукае ў малітве перадусім кантакту з Богам як з Асобай. Дзеля таго, што рэлігія – гэта лучнасьць з Богам, чалавек ня можа мець сапраўднага рэлігійнага жыцьця, калі ён ня моліцца. Да прыходу на сьвет Хрыста найдасканалей маліўся народ Першага Запавету. Ягоная малітва брала пачатак з Божага Аб’яўленьня, абапіралася на вялікіх дзелах Бога Запавету і зміяшчала ў сабе Божыя выратавальныя прырачэньні. Кнігі Старога Запавету перапоўненыя глыбокімі і прыгожымі малітвамі. Гэткай кнігай аб’яўленай Богам малітвы ёсьць Кніга Псальмаў, званая Псалтыром. Чалавек, які моліцца славамі псальмаў, гаворыць да Бога мовай, якую Сам Бог яму падсказаў. Таму няма малітвы прыгажэйшай, чым Псалтыр.

Хрысьціяне моляцца гэтак сама, як і члены іншых веравызнаньняў. Яны просяць і заступаюцца ў малітве: “Дык перш за ўсё прашу ўпрашаць, маліцца, умаляць ды дзякаваць за ўсіх людзей, за цароў і за ўсіх на версе…” (1 Цім. 2, 1-2). Вось гэтак і моліцца Царква ў так званых эктэніях, да якіх у Лацінскім абрадзе належыць “малітва веруючых” у эўхарыстычным Зборы, якая адгаварваецца пасьля Сымбалю веры на заканчэньне Літургіі Божага Слова перад Эўхарыстычнай Містэрыяй, а таксама ў Літургіі Вялікае Пятніцы і Суботы.

Ведаючы, што Бог іх любіць, хрысьціяне дзякуюць Яму. Усе пасланьні сьвятога Паўла перапоўнены дзякуючай малітвы і заклікамі да гэтай малітвы: “Дзякуйце заўсёды і за ўсё Богу і Айцу ў імя Госпада нашага Ісуса Хрыста” (Эф. 5, 20). Эўхарыстычная ахвяра ёсьць найвышэйшай безупыннай падзякай, як гэта і выражае сама грэцкая назва, якая па нашаму значыць “Падзяка”.

У сваіх літургічных зборах Царква праслаўляе Бога такімі гімнамі і песьнямі, як “Слава на вышынах Богу” або “Сьвяты, Сьвяты, Сьвяты”. Мае яна і пакутныя песьні, якімі перапрашае публічна Бога.

Таксама карыстае царква і з малітвы народа Старога Запавету. Псальмы становяць галоўны тэкст малітваў, якія веруючыя пяюць у эўхарыстычным Зборы Божага народа. З псальмаў складаецца галоўны тэкст афіцыйнае малітвы Царквы, званай Правілам. У некатарых часьцях Правіла, як Вячэрніца (Вячэрня) ці Утраніца (Ютрань) прымаюць удзел усе веруючыя, хоць і ня маюць абавязку, як сьвятары або манахі.

Аднак у малітвах новага Божага народа ёсьць нешта зусім новае. Цераз Хрост чалавек злучыўся з Хрыстом, зрабіўся сьвятыняй Сьвятога Духа. Гэтым самым ён улучыўся ў праслаўленьне, якое Бог Айцец атрымлівае ад Хрыста. Гэта ўжо не сам адзін толькі хрысьціянін праслаўляе Айца. Праслаўляе Яго ў хрысьціяніне Хрыстос праз Сьвятога Духа. Дык малітва хрысьціяніна ня ёсьць звычайным пошукам Бога праз чалавека. Яна ёсьць сапраўднай лучнасьцю з Айцом цераз Хрыста ў Духу Сьвятым. Гэтак вось і ўложаны ўсе афіцыйныя малітвы Царквы. Найлепш выражана гэтая праўда ў даксалёгіі (услаўленьні) вялікай эўхарыстычнай малітвы лацінскай Літургіі: “Праз Хрыста, і з Хрыстом

і ў Хрысьце прыносіцца Табе, Божа Ойча Ўсемагутны, у адзінстве Сьвятога Духа, усякая пашана і слава…”

Дык дзеля гэтага ці хрысьціянін моліцца ў эўхарыстычным Зборы ці разам са сваёй сям’ёй, ці сам адзін, ён заўсёды пакланяецца Айцу з Хрыстом у Сьвятым Духу. Гэтак ён выконвае галоўную задачу свайго жыцьця. Як член Божага народу ён пакланяецца Айцу, “а гэткіх паклоньнікаў жадае мець Айцец” (Ян. 4, 23). А з другога боку хрысьціянін, які ня моліцца, або моліцца рэдка і нядбала, дзейнічае нязгодна са сваімі прырачэньнямі на Хросьце, аслабляе сваю лучнасьць з Хрыстом, а цераз гэта і з усей Сьвятой Тройцай.

Хрысьціянін павінен навучыцца маліцца сваімі славамі, Аднак каб ягоная малітва была сапраўды хрысьціянскай, ён павінен паслугоўвацца літургічнымі малітвамі, асабліва псальмамі. У гэтым яму паможа разважаньне тэкстаў Сьвятога Пісьма.

**Наш адказ Богу:** Буду ўзбагачваць сваю малітву тэкстамі Сьвятога Пісьма.

**Прыклад малітвы:** Божа, прыйдзі мне на помач, Госпадзе, пасьпяшы, каб мяне ратаваць. Божа. Ты, зьвярнуўшыся, ажывіў нас, і народ Твой узрадуецца ў Табе. Пакажы нам, Божа, Тваю міласэрнасьць і дай нам Тваё збаўленьне. Божа, пачуй маю малітву і голас мой хай дойдзе да Цябе”.

**Божае Слова:** “Напаўняйцеся Духам, гаворачы аб сабе псальмамі і гімнамі і песьнямі духоўнымі, пяючы і іграючы ў вашых сэрцах Госпаду, дзякуючы заўсёды і за ўсё Богу і Айцу ў імя Госпада нашага Ісуса Хрыста” (Эф. 5, 18-20).

**Навука Царквы:** “Найвышэйшы Сьвятар Новага Запавету, Ісус Хрыстос, прымаючы чалавечую прыроду ўнёс у гэтае зямное выгнаньне той гымн, які ў нябёсах гучыць ад веку. Ён лучыць з Сабою ўсё людзкое грамадзтва, каб супольна пяяць гэтую Божую песьню славы. Гэты Свой сьвятарскі ўрад ён далей выконвае праз Сваю Царкву, якая безупынна славіць Бога і заступаецца за збаўленьне ўсяго сьвету не толькі праз адпраўленьне Эўхарыстыі, але таксама іншымі сродкамі, асабліва праз афіцыйную малітву” (Канстытуцыя аб Літургіі).

**Пытаньні да дзевяностай катэхэзы:**

199) Як моляцца ахрышчаныя?

**Адказ:** Ахрышчаныя ў лучнасьці з Хрыстом праслаўляюць Айца сілай Сьвятога Духа.

200) Чаму хрысьціянін павінен маліцца?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен маліцца таму, што цераз Хрост ён належыць да сьвятарскага народа, пакліканага, каб безупынна славіць Бога.

КАТЭХЭЗА LXLI.

# 91. Хрыстос вучыць пашаны да Божых спраў

*“Зруйнуйце гэты дом, і Я ў тры дні адбудую яго”… а Ён гаварыў гэтае аб доме Свайго цела. І, як уваскрос пасьля сьмерці, Ягоныя вучні прыпомнілі, што Ён казаў гэтае, і паверылі Пісьму і слову, якім мовіў Ісус” (Ян. 2, 19-22).*

Усе рэлігіі выражаюць сваю веру ў Бога і Ягоную ўладу над сьветам праз будаваньне сьвятыняў або вызначаньне сьвятых дзён. Адначасна верацьу Божую сьвятасьць і дасканаласьць. Разьбіраюцца добра і ў тым, што Бог ёсьць зусім іншы, чым усё, што ведае чалавек. Гэтую поўную розніцу паміж Богам і людзьмі яны спрабуюць выражаць часам вельмі дзіўнымі скульптурамі ці малюнкамі. Каб падкрэсьліць асаблівую дастойнасьць сьвятыняў імі апякуюцца спецыяльна да гэтага прызначаныя людзі, якіх завуць “сьвятарамі”. Толькі яны маюць доступ да Бога, толькі яны прыносяць

ахвяры, толькі яны маюць права дакранацца да прадметаў культу. Народ толькі з далеку з пашанай прыглядаецца ўрачыстым цэрэмоніям. Пашана для Бога праяўляецца гэтак сама і ў звычаях пры малітве, напрыклад паданьне на твар, паклоны, здыманьне абутку і гэтак далей.

Асабліва моцна была падкрэсьлена пашана для Божых справаў у гэбрайскім рэлігійным кульце. У мейсца, якое называлася Сьвятое Сьвятых меў права ўвайсьці толькі архірэй і толькі ў строга акрэсьленыя дні (Лев. 16). Да Скрыні Запавету маглі дакрануцца толькі прадстаўнікі сьвятарскага роду. Кнігі Старога Запавету гавораць аб карах, якія спалі на тых, што нарушылі гэтыя загады (2 Сам. 6, 7).

Гэтак людзі, абапіраючыся як на прыродным законе так і на Божым Аб’яўленьні Старога Запавету, аказвалі Богу пашану.

Пасхальная Містэрыя пачынае новы культ Бога. Бо Хрыстос ёсьць адзіным і найвышэйшым Архірэем, які поўнасьцю сапраўды праслаўляе Айца. А ўсе злучаныя зь Ім цераз Хрост і веру прымаюць удзел у Ягоным сьвятарстве і твораць царскае сьвятарства Божага народа. Дык вось хрысьціяне адносяцца інакш да Божых справаў, чым члены іншых рэлігіяў, а нават інакш, чым народ Старога Запавету.

Усе хрысьціяне на падставе супольнага сьвятарства зьяўляюцца пакліканымі і маюць права прымаць актыўны ўдзел у літургіі. Хоць сьвятар у імя Хрыста выконвае перамену хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста, усе прыносяць супольна ахвяру. Гэтак сама ў эўхарыстычным банкеце ў першых стагодзьдзях, а ў некаторых Цэрквах і цяпер, веруючым сьвятар дае на руку Цела Хрыстовае, хоць яно ёсьць найвялікшай сьвятасьцю ў Царкве, дазваляе тым, што прыслужваюць дакранацца да літургічных начыньняў і чытаць Божае Слова ў эўхарыстычным Зборы.

Хрыстос запачаткаваў новае пакланеньне Богу “ў духу і праўдзе” (Ян. 4, 24). Ён Сам у Сваім жыцьці на зямлі, а пасьля і ў Сваім містычным Целе – Царкве ёсьць сапраўднай сьвятыняй пакланеньня Богу. Таму хрысьціянскія сьвятыні ёсьць ня толькі месцамі пакланеньня Богу, але перадусім месцам, у якім зьбіраецца і паказваецца Царква, містычнае Цела Хрыста. І таму ў хрысьціян знакамі Божае прысутнасьці ёсьць ня толькі сьвятыня, літургічныя кнігі ці начыньня, але перадусім знакам гэтым ёсьць увесь Божы народ сабраны ў Хрысьце. Таму гэты народ, маючы ўдзел у Хрыстовым сьвятарстве, і ёсьць пакліканы да большае і чыста духовае пашаны для Божых актаў, для сьвятыняў, начыньняў, кніг ці іншых літургічных прадметаў.

Гэтае пашаны для Божых справаў вучыць нас літургія. Вось прыклады: Каб падкрэсьліць неабходнасьць гэтае пашаны архірэй памазвае сьвятыню Сьвятым Мірам, падобна як новаахрышчанага, асьвячае яе і кажа: “Пасьвячаю гэтую сьвятыню ў імя Айца і Сына, і Духа Сьвятога на Божую Славу і збаўленьне душаў”. Гэтаксама пасьвячае чару ды іншыя прадметы культу: “Асьвяці, Госпадзе Божа, гэтую чару праз гэтае памазаньне і нашае блаславенства ў Ісусе Хрысьце, нашым Госпадзе”.

Пашану для сьвятых кніг падкрэсьліваюць розныя літургічныя звычаі, асабліва ў эўхарыстычным Зборы: абкаджваньне, сьвечкі, уставаньне падчас Эвангельля і гэтак далей. Гэтую пашану выражае таксама ўзвышанае месца, з якога чытаецца Божае Слова.

Асаблівую пашану аказваюць хрысьціяне сьвятому крыжу, які ім прыпамінае выратаваўчую любоў Бога да людзей. Гэтае пашаны вучыць перадусім пакланеньне сьвятому Крыжу ў Вялікім Посьце. Божую Любоў прыпамінаюць хрысьціяніну таксама абразы ды іконы, якім аказваецца таксама асаблівая пашана.

Божы дом, сьвятыя кнігі, літургічныя начыньні ды іконы зьяўляюцца для хрысьціян прыпамінаньнем, што Бог прабывае са Сваім народам. Цераз пашану да гэтых рэчаў хрысьціянін аказвае пашану да Бога. Вера Божага народа, якая выражаецца ў пашане да Божых законаў, ёсьць для няверуючых знакам прысутнасьці Бога ў сьвеце.

Зьнявага сьвятыні або рэчы ахвяраванай Богу завецца сьвятатацтвам. Гэта ёсьць цяжкі грэх супраць Бога. Адначасна сьвятатацтва ці недахоп пашаны да Божых рэчаў ёсьць у хрысьціян злачынствам адносна няверуючых, бо для іх гэткія паводзіны хрысьціян могуць быць перашкодай на шляху да Бога.

**Наш адказ Богу:** Помнячы, што я зьяўляюся знакам Бога, буду старацца аказваць сапраўдную пашану да Божых справаў.

**Прыклад малітвы:** Божа, Які з жывых і выбраных каменьняў будуеш для Сваёй славы вечнае прабываньне, памажы Твайму народу, які Цябе просіць, каб матэрыяльнае павялічэньне будынку Тваёй Сьвятыні прычынілася да духовага ўзросту (З малітвы на пасьвячэньне сьвятыні).

**Божае Слова:** “Тады зрабіўшы біч з вяровак, выгнаў з царквы ўсіх таксама і авец і валоў, ды грошы мянялаў разсыпаў і сталы іхныя абярнуў; і сказаў прадаўцам галубоў: забярыце гэнае з гэтуль: не рабіце дому Майго Айца домам торгу. І прыпомнілі Ягоныя вучні, што напісана: Руплівасьць аб Тваім доме зьядае Мяне” (Ян. 2, 15-17). – “Бог ёсьць дух і тыя, што Яму пакланяюцца, павінны пакланяцца ў духу і праўдзе” (Ян. 4, 24).

**Навука Царквы:** “За найбольш высакародныя дзеяньні чалавечага духа справядліва ўважаецца мастацтва, асабліва рэлігійнае мастацтва і ягонае завяршэньне, мяноўна царкоўнае мастацтва. Па самой сваёй прыродзе гэтыя рэчы імкнуцца нейкім спосабам выразіць у чалавечай дзейнасьці безканечнае Божае хараство” (Канстытуцыя аб Літургіі 122).

**Пытаньні да дзевяноста першае катэхэзы:**

201) Чаму ахрышчаны адносіцца з пашанай да Божых справаў?

**Адказ:** Ахрышчаны адносіцца з пашанай да Божых справаў, бо ён ёсьць членам сьвятарскага народа, пакліканага аддаваць Богу дасканалую пашану.

202) Чым ёсьць для сьвету пашана, якую хрысьціяне аказваюць Божым справам?

**Адказ:** Пашана, якую хрысьціяне аказваюць Божым справам, ёсьць знакам іхняе веры, а гэтым самым – знакам Божае прысутнасьці ў сьвеце.

КАТЭХЭЗА LXII.

# 92. Царква праслаўляе ў Дзеве Марыі найдасканальшае Божае дзела

*“Адгэтуль шчасьлівай называцімуць мяне ўсе роды,*
*бо вялікае ўчыніў мне Моцны” (Лук. 1, 48-49).*

Царква праслаўляе Матку Выратавальніка, Марыю, асаблівым спосабам. Яна ўстанавіла ў Ейны гонар шмат сьвятаў, што прыпамінаюць здарэньні з Ейнага жыцьця або тайны зьвязаныя з Ейным удзелам у Выратаваньні. Найвялікшым з гэтых сьвятаў ёсьць Непавіннае Зачацьце (8-га сьнежня), Унебаўзяцьце (15 жніўня), Дабравешчаньне (25 марца). Апрача таго Ўсходняя Царква пасьвячае кожную сераду, а Заходняя – кожную суботу, у якую няма іншага сьвята, Божай Маці.

Гэтак сама праслаўляе Царква Найсьвяцейшую Дзеву Марыю ўспамінаючы Ейнае імя часта ў кожнай сьвятой Літургіі. У Ейны гонар пабудавана ў працягу стагодзьдзяў шмат сьвятыняў і аўтароў.

Найсьвяцейшая Дзева Марыя цешыцца асаблівай пашанай з боку ўсяго Божага народа. Ёй пасьвячаны месяцы май і кастрычнік, калі веруючыя сходзяцца на асобныя набажэнствы ў Ейны гонар. Да месцаў, у якіх Яна аб’явілася, як Лурд або Фаціма, безупынна ідуць пілігрымкі. Праявам культу Найсьвяцейшай Дзевы ёсьць таксама шматлікія капліцы з фігурамі ці абразамі Божае Маці, збудаваныя пры дарогах, як і ейныя іконы, абразы і фігуркі ў дамах каталікоў і праваслаўных. У кожнай сьвятыні лацінскага абраду тройчы ў дзень званы заклікаюць веруючых адгаварыць малітву, у якой прыпамінаецца тайна Ўчалавечаньня ды ўдзел у ёй Дзевы Марыі. У штодзенных пацерах мы адмаўляем малітву да Божае Маці, якая завецца Ангельскім Прывітаньнем.

Бог выбраў Дзеву Марыю на Матку для Свайго Сына, Бога-Чалавека Ісуса. Царква ўважае, што да Яе адносяцца словы Божага прырачэньня, сказаныя ў раі да Эвы, Маткі чалавецтва: “Палажу варожасьць паміж табой і жанчынай” (Быць. 3, 15). Марыя атрымала ад Бога найвышэйшую ад усіх людзей ступень ласкі. Аб’явіў Ёй гэта Божы пасланец ангел у дзень Дабравешчаньня: “Прывітана будзь, поўная ласкі, Госпад з Табой, бласлаўлена Ты паміж жанчынаў” (Лук. 1, 28).

Усе людзі ўлучаюцца ў дзела выратаваньня цераз Хрост, які ўвальняе іх ад першароднага граху. Марыя ад першае хвіліны свайго існаваньня была вольнай ад першароднага граху. Таму мы завем Яе Бязвінна Зачатай. Царква называе Яе “Заўсёды шчасьлівай і Найнявіньнейшай”, па-царкоўнаславянску “Присноблаженная і Пренепорочная”, “слаўнейшую без параўнаньня ад Серафімаў”, ад найбліжэйшых да Бога ангелаў, якія ніколі ня мелі граху.

Нават пасьля выратаваньня патомкі першых людзей адчуваюць у сабе пацяг да граху. Хрыстос праз Сваю Пасху асвабадзіў Сваю Матку ад усякіх нахілаў да граху. Таму Царква да Яе адносіць словы: “Буду радавацца ў Госпадзе і дух мой будзе цешыцца ў маім Богу: бо апрануў мяне ў вопратку выратаваньня і ўзлажыў на мяне адзеньне сьвятасьці як на нявесту прыбраную дарагімі каменьнямі” (З Літургіі лацінскага абраду на сьвята Бязьвіннага Зачацьця).

Першародны грэх зрабіў, што ўсе людзі паміраюць. Хрыстос у Пасхальнай Містэрыі вярнуў людзям нават жыцьцё цела, якое ўваскросьне ў апошнім дню. Цела Божае Маці было праслаўлена адразу як толькі закончылася Ейнае жыцьцё на зямлі. Яна была ўзятая на неба з душой і целам і атрымала там першае месца пасьля Свайго Сына. Хрыстос перайшоў цераз сьмерць і ўваскрасеньне, каб мы маглі разам зь Ім увайсьці ў славу Айца. Божая Маці першая з людзей скарыстала ў ва ўсёй паўнаце з гэтае Пасхі.

Божай воляй было, каб Марыя найдасканалей прыняла ўдзел у сьмерцы і ўваскрасеньні Хрыста. Гэта не магло стацца бяз Ейнае згоды. Хрыстос выратаваў нас цераз Сваё паслушэнства. Гэтак сама і Марыя паслушэнствам адказала на заклік Божы, асабліва ў дзень Дабравешчаньня: “Вось я слуга Госпада, няхай мне станецца паводле Твайго слова” (Лук. 1, 38). Сваім паслушэнствам Яна ўлучылася ў выратавальнае дзела Хрыста. Таму пасьля Бога Ёй аказваюць найбольшую пашану.

Марыю мы можам называць сваёй Маткай. Бо Ейны Сын жыве ў таемны спосаб у нас. Як ад Яе Ён атрымаў Сваё чалавечае жыцьцё, так ад Яе мы маем Божае жыцьцё. Дык Яна ёсьць Маткай усіх ахрышчаных. Аб’явіў гэта Сам Хрыстос на крыжы: “Жанчына, вось Твой сын! Пасьля сказаў вучню: “Вось твая Маці!” (Ян. 19, 26-27).

Найлепш праслаўляем мы Божую Маці і паказваем, што мы Яе любім, калі стараемся быць падобнымі да Яе ў паслушэнстве.

**Наш адказ Богу:** Каб прыняць удзел у выратавальным дзеле Хрыста, буду дзейнічаць бяручы прыклад паслушэнства з Ягонае Маці.

**Прыклад малітвы:** “Няхай ахвяра нашага самааддданьня паднімецца да Цябе, Госпадзе, і праз пасрэдніцтва Найсьвяцейшай Дзевы Марыі Ўнебаўзятай няхай нашыя сэрцы запаленыя агнём любові заўсёды пылаюць да Цябе” (З Літургіі на Ўнебаўзяцьце).

**Навука Царквы:** “Марыя, дзякуючы Божай ласцы ўзвышаная больш ад усіх ангелаў і сьвятых пасьля Свайго Сына, як Найсьвяцейшая Маці Бога, Якая прымала ўдзел у тайнах Хрыста, справядліва мае ў Царкве асаблівую пашану... Гэты культ – такі які заўсёды існаваў у Царкве – розніцца аднак у вельмі сутны спосаб ад культу пакланеньня, якое аказваецца ўчалавечанаму Слову нароўні з Айцом і Сьвятым Духам, і як найбольш гэтаму культу спрыяе” (Канстытуцыя аб Царкве 66).

**Божае Слова:** “Тыя, што слухаюць Божае Слова і выпаўняюць яго, ёсьць Маей маткай і Маімі братамі” (Лук. 8, 21). – “Адна жанчына, азваўшыся з народу, сказала Яму: шчасьлівае ўлоньне, насіўшае Цябе, і грудзі, Цябе карміўшыя! А Ён сказаў: шчасьлівыя, чуючыя Божае Слова і выпаўняючыя яго” (Лук. 11, 27-28).

**Пытаньні да дзевяноста другой катэхэзы:**

203) Чаму мы праслаўляем Найсьвяцейшую Дзеву Марыю?

**Адказ:** Мы праслаўляем Найсьвяцейшую Дзеву Марыю, бо Яна ёсьць Маткай Ісуса Хрыста і найпрыгажэйшым пладом Ягонага выратаваньня.

204) Якім спосабам найдасканалей мы праслаўляем Дзеву Марыю?

**Адказ:** Найдасканалей мы праслаўляем Дзеву Марыю, калі стараемся любіць Бога і быць Яму паслушнымі так як Яна.

КАТЭХЭЗА LXIII.

## 93. Царква праслаўляе ў сьвятых вялікія Божыя справы

*“Пасьля гэтага глянуў я, і вось вялізарны натоўп, якога ніхто ня мог палічыць, із усіх пляменьняў і родаў, і народаў, і языкоў, стаіць перад пасадам і перад Ягнём, апрануўшыся ў белыя адзеньні, і пальмы трымалі ў руках; і загукалі вялікім голасам, мовячы: Спасеньне нашаму Богу, што сядзіць на пасадзе, ды Ягняці” (Ап. 7, 9-10).*

Чалавек з натуры памятае аб тых, што ў ягоным жыцьці адыгралі важную, дабратворную ролю. Аб іх памятаюць нават пасьля іхнае сьмерці. На першым месцы тут знаходзяцца бацькі. Таму некатарыя рэлігіі, напрыклад канфуцыянская, асабліва падкрэсьліваюць культ памёрлых бацькоў. Людзі памятаюць народных гэрояў праз цэлыя стагодзьдзі, а таксама вялікіх вучоных, вынаходцаў, мастакоў, якія пакінулі па сабе вартасныя памяткі. Каб памяць аб іх трывала як найдаўжэй, ім ставяць помнікі, асабліва на магілах, дамы, у якіх жылі, замяняюцца ў музэі, абіраюць памяткі і рэчы, з якіх яны карысталі ды перахоўваюць у музэях. Гэтак і тыя, што ніколі зь імі не сустракаліся, але карыстаюць з дасягненьняў іхнага жыцьця, пазнаюць іх і праслаўляюць.

Апрача таго ёсьць у чалавеку яшчэ іншы нахіл. Кожны з нас па прыродзе шукае для сябе адпаведнага шляху ў жыцьці і паказальніка дарогі. Найлепшым паказальнікам ёсьць ня толькі навучаньне, але яшчэ больш прыклад другога чалавека. Таму чалавек, асабліва ў маладосьці, шукае прыкладу, каб пайсьці за ім. Ён выбірае тыя, што найбольш адказваюць ягоным намерам і схільнасьцям. Вельмі часта моладзь бярэ прыклад з

жыцьця тых людзей, якія ў ейным пракананьні зрабілі нешта вялікае. Аб такіх людзях усе памятаюць і праслаўляюць іх.

У Царкве гэтак сама мы праслаўляем вялікіх людзей і прыгожыя прыклады. Мы праслаўляем сьвятых. Ужо ў першых стагодзьдзях хрысьціяне пачалі праслаўляць мучанікаў, якія аддалі сваё жыцьцё, сьведчачы аб Хрысьце. У наступных стагодзьдзях культ мучанікаў быў пашыраны на тых, што патрапілі ісьці сьледам за Хрыстом, поўнасьцю здзейсьнілі хрысьціянскае пакліканьне і сваім жыцьцём дасканала сьведчылі аб выратаваўчай любові Бога.

Ёсьць аднак вялікая розьніца паміж культам гэрояў і культам сьвятых. У сьвятых мы праслаўляем на першым месцы ня іхняе гэройства, а нават не намаганьне каб імкнуцца да сапраўднай хрысьціянскай дасканаласьці, але дзела сьмерці і ўваскрасеньня Хрыста, у якое яны ўлучыліся цераз Хрост. Гэта Хрыстос у Сваёй Пасхальнай Містэрыі даў ім здольнасьці перавышаючыя сілы чалавечае прыроды. Ён даў ім удзел у Божым жыцьці. У Мірапамазаньні яны атрымалі сілу Сьвятога Духа і ўдзел у Хрыстовай сьвятасьці, якую Ён дае Царкве. Яны атрымалі ўдзел у сьвятасьці Самога Бога. І вось сёньня яны атрымалі ўдзел у Божай славе: “Дзе Я ёсьць, там будзе Мой слуга. А калі Мне хто служыць, будзе ў пашане ў Майго Айца” (Ян. 12, 26).

Найбольшую пашану аказвае Царква сьвятым у эўхарыстычным Зборы. Бо тады яна лучыць успамін аб сьвятых з успамінам і перажываньнем Пасхальнае Містэрыі Хрыста. Праслаўляючы сьвятых, мы праслаўляем Хрыста за поўныя плады новага стварэньня. Аднак сьвятыя не належаць толькі да гісторыі, бо ёсьць яшчэ іншая сувязь паміж сьвятымі Царквы і намі. Яна зусім іншая, чым сувязь паміж гэроямі і тымі, што бяруць з іх прыклад. Мы творым разам са сьвятымі тую самую Царкву: яны – праслаўленую Царкву, а мы – пілігрымуючую. Асновай адзінства Царквы ёсьць супольнасьць Божага жыцьця ў Хрысьце. Заслугі сьвятых бяруць пачатак з Хрыстовага дзела і яны жывуць сёньня ў прыслаўленым Хрысьце, а для нас яны ёсьць крыніцай Божых ласкаў. Мы называем гэта лучнасьцю сьвятых, а таксама заступніцтвам за нас сьвятых у небе. Мы можам маліцца да іх, бо нас лучыць тая самая Божая любоў. Калі ў літургіі мы пакланяемся Богу, мы лучымся з пакланеньнем, якое яны аддаюць Богу. Таму ў Каноне сьвятой Літургіі мы молімся: “Аб’яднаныя ў Лучнасьці Сьвятых, мы ўспамінаем найперш праслаўленую заўсёды Дзеву Марыю… а таксама сьвятога Іосіфа… сьвятых тваіх апосталаў і мучанікаў… Дзеля іхных заслугаў і малітваў акажы нам ласкава ў ва ўсім Сваю магутную апеку”. Гэтак вось сапраўдны культ сьвятых прычыняецца да ўзмацаваньня адзінства пілігрымуючай і праслаўленай Царквы.

Надзяляючы чалавека Сваімі багатымі дарамі і ласкамі, Бог не агранічвае ягонае свабоды. Сьвятыя супрацоўнічалі з Богам. Яны гатовы былі слухаць Божае Слова, якое іх перамяняла. Яны шукалі Бога ў тайнах і на малітве. Яны любілі Бога больш за усё і былі Яму паслушнымі аж да сьмерці, часта мучанічаскай. І гэтаю поўную аддачу сябе Богу яны здзейсьнівалі ў розных умовах жыцьця: у царскіх палацах і пры варштаце ў рабочым месцы, у працы на полі і ў сьвятарскім паслугоўваньні, у турботах бацькоў і ў абавязках дзяцей або падросткаў. Бо кожны шлях хрысьціянскага жыцьця ёсьць шляхам сьвятасьці, і кожны ахрышчаны ёсьць да сьвятасьці пакліканы.

Жыцьцё сьвятых было і ёсьць аб’яўленьнем сьвятасьці і любові Бога ў Царкве. Яно было і ёсьць сьведчаньнем аб Богу ў сьвеце. Таму сьвятыя ёсьць для нас паказальнікамі дарогі ў нашым хрысьціянскім жыцьці. Навучаючая Царква, паказваючы нам іхнае жыцьцё ў працягу літургічнага году, заклікае нас браць прыклад з іх.

Культ сьвятых палягае на тым, што мы любім іх як нашых братоў у Хрысьце. Гэтая любоў праяўляецца ў супольнай з імі малітве за ўсю Царкву ды ў тым, што мы стараемся быць падобнымі да іх. Гэтак мы сільней лучымся з Хрыстом і пакланяемся Богу "дзіўнаму ў Сваіх сьвятых".

**Наш адказ Богу:** Буду старацца пазнаваць і праслаўляць сьвятых.

**Прыклад малітвы:** Усемагутны, вечны Божа, Што пазваляеш нам супольным абходам праслаўляць заслугі сьвятых: просім Цябе даць нам тым багацейшых ласкаў пажаданага Твайго зьмілаваньня, чым большы лік мы маем пасрэднікаў (З Літургіі сьвята Ўсіх Сьвятых).

**Навука Царквы:** "Апрача таго Царква памясьціла ў працягу году ўспаміны мучанікаў і іншых сьвятых, якія дзякуючы шматлікай Божай ласцы асягнулі дасканаласьць і, дайшоўшы да вечнага выратаваньня, пяюць у небе Богу вечную славу і заступаюцца за нас. У гэтае сьвята Царква абвяшчае Пасхальную Містэрыю ў сьвятых, што разам з Хрыстом цярпелі і разам з Ім праславіліся, прадстаўляе веруючым іхныя прыклады, пацягваючыя ўсіх да Айца цераз Хрыста, а праз іхныя заслугі выпрашвае Божыя дабрадзействы" (Канстытуцыя аб Літургіі 104).

"Дык лучнасьць пілігрымаў з братамі, што заснулі ў Хрыстовым супакоі, ня толькі не спыняецца, але наадварот, паводле пастаяннай веры Царквы, яшчэ ўзмацоўваецца дзякуючы ўзаемнаму абдзяляньню сябе духовымі дарамі" (Канстытуцыя аб Царкве 49).

"Аднак ня толькі з узгляду на самы іхны прыклад мы праслаўляем памяць жыхароў неба, але яшчэ больш дзеля таго, каб узмацоўвалася адзінства Царквы ў Духу цераз практыку братняй любові... лучнасьць са сьвятымі лучыць з Хрыстом... Бо ўсякае сапраўднае пасьведчаньне любові, якое мы аказваем жыхарам неба, па сваёй прыродзе імкнецца ў канцы да Хрыста... а цераз Яго да Бога... Дык прыносячы эўхарыстычную Ахвяру, мы лучымся бадай найцясьней з пакланеньнем, якое аддае Богу Царква ў небе" (Канстытуцыя аб Царкве 50). "...сапраўдны культ сьвятых палягае ня столькі на шматлікасьці вонкавых актаў, колькі больш на сіле нашае актыўнае любові раз якую мы шукаем – для большага дабра свайго і Царквы – як прыкладу ў жыцьці сьвятых, так і ўдзелу ў іхнай супольнасьці ды помачы ў іхным пасрэдніцтве" (Канстытуцыя аб Царкве 51).

**Пытаньні да дзевяноста трэцяй катэхэзы:**

205) Чаму мы праслаўляем сьвятых?

**Адказ:** Мы праслаўляем сьвятых, бо яны ёсьць дасканалымі пладамі выратаваньня.

206) Як найлепш праслаўляць сьвятых?

**Адказ:** Найлепш мы праслаўляем сьвятых, калі лучымся з імі ў малітве на карысьць Царквы і стараемся любіць Бога так, як яны.

## *III.Соль зямлі*

*"Ідзіце і вы ў Мой вінаграднік" (Мац. 20, 7).*

КАТЭХЭЗА LXLIV.

# 94. Хрыстос кліча кожнага хрысьціяніна да будаваньня Божага валадарства ў сьвеце

*"Чаму вы стаіце тут цэлы дзень бяз дзела?" Адказалі Яму: "Бо ніхто нас не наняў". Ён кажа ім: "Ідзіце і вы ў мой вінаграднік" (Мац. 20, 6-7).*

Чалавек ёсьць грамадзкая істота. Ён заўсёды жыве ў якой-колечы супольнасьці, напрыклад у сям'і, у грамадзтве, у народзе. Бяз сувязі з другімі

людзьмі чалавек ня можа ані жыць, ані развівацца. З другога боку асабісты прагрэс чалавека ды ягоная праца ёсьць карыснымі для ўсяго грамадзтва, у якім ён жыве, а ягоныя памылкі і заганы аслабляюць усё грамадзтва.

Цераз Хрост Бог улучыў нас у супольнасьць Хрыстовую, у Царкву, якая ёсьць Божым вінаграднікам. Царква ёсьць зародкам і пачаткам Божага Валадарства на зямлі. Божае Валадарства абыймае многа людзей. Яно развіваецца ў сэрцы чалавека (Лук. 17, 21). Адсюль цераз фармаваньне нашых сэрцаў паводле прынцыпаў Эвангельля мы будуем Божае Валадарства. Калі мы яго будуем у сабе, мы гэтым самым памагаем і іншым будаваць яго. Дык кожны добры ўчынак, кожная вартасная праца прычыняецца да ўзросту Божага Валадарства і будуе яго. Наадварот кожны грэх ёсьць ня толькі нашай асабістай стратай, але ў нейкай меры аслабляе будуваньне Божага Валадарства.

Царква тады пасьпяхова будуе Божае Валадарства, калі ўсе яе члены, адпаведна да атрыманых ад Бога дараў, выпаўняюць сваю задачу: “Кожнаму з нас дадзена ласка водле меры дару Хрыстовага... Ён паставіў адных апосталамі, другіх прарокамі, іншых эвангелістамі, іншых пастырамі і вучыцелямі дзеля збудаваньня сьвятых, на дзела служэньня, на будаваньне Хрыстовага Цела, дакуль усе дойдзем да еднасьці веры і пазнаньня Божага Сына, да мужа дасканалага, да меры ўзрастаньня Хрыстовае поўні” (Эф. 4, 7-13).

Бог паклікаў нас да будаваньня Свайго валадарства цераз заклік да веры і ласкі сьвятога Хросту. Пасьля ў жыцьці Бог часта прыпамінае нам нашае пакліканьне, асабліва тады, калі мы прымаем сьвятыя тайнствы. Асабліва поўны і сьведамы адказ на гэты заклік мы даём, калі з поўнай развагай прымаем тайну Мірапамазаньня. Гэты заклік і адказ на яго паўтараюцца гэтак сама, калі мы прымаем іншыя тайны: Шлюб, Памазаньне алівай хворых, а асабліва Тайну Сьвятарства. Гэтак сама кожны ўдзел у Эўхарыстыі ды прыманьне Тайны Пакуты ёсьць безупынным абнаўленьнем Божага закліку і нашага адказу.

Божае Валадарства мы будуем у сабе і ў бліжніх цераз супольны ўдзел у кожным эўхарыстычным Сходзе. Мы молімся тады ўсе за ўсіх, разам стаім, разам кланяемся, творым адну бачную супольнасьць. Узаемная малітва мае бязумоўны ўплыў на ўзрост Божага Валадарства. Мы заахвочваем адны другіх сваім прыкладам да веры, да хрысьціянскае надзеі, да поўнае аддачы сябе Богу, да ўзаемнае любові.

Асаблівая сьвятасьць кожнага хрысьціяніна ёсьць найлепшым матэрыялам Божага Валадарства ў Царкве. Яе крыніцай ёсьць ласка сьвятых тайнаў. Гэтую сьвятасьць мы паглыбляем праз руплівае выпаўненьне абавязкаў свайго званьня і прафесыі, праз спаўненьне загадаў, праз шуканьня ў ва ўсім Божае волі.

**Наш адказ Богу:** Ня буду адказвацца ад працы ў Божым вінаградніку і буду працаваць адпаведна да помачы атрыманай ад Бога.

**Прыклад малітвы:** Божа, Які хочаш, каб усе людзі збавіліся і прыйшлі да пазнаньня праўды, просім Цябе, пашлі працаўнікоў на Сваё жніва ды дай ім з усей надзеяй абвяшчаць Тваё слова, каб Твая навука пашыралася і была ведамай і каб усе народы пазналі Цябе, адзінага і сапраўднага Бога і пасланага праз Цябе Ісуса Хрыста.

**Божае Слова:** “Ня кожны, што кажа да Мяне: “Госпадзе, Госпадзе”, увойдзе ў Нябеснае Валадарства, але той, хто спаўняе волю Айца, Які ёсьць у небе” (Мац. 7, 21). – “Божае Валадарства ня ёсьць ежа і піцьцё, але справядлівасьць і мір і радасьць у Сьвятым Духу. А хто ў гэтым служыць Хрысту, той падабаецца Богу і людзі яго паважаюць. Дык вось будзем

шукаць таго, што служыць дзеля міру ды ўзаемнага збудаваньня” (Рым. 14, 17-19).

**Навука Царквы:** “Царква, багатая дарамі свайго Заснавальніка і верна спаўняючы Ягоныя загады любові, пакоры і вырачэньня, атрымала місію абвяшчаць і пашыраць Хрыстовае і Божае Валадарства сярод усіх народаў і становіць ядро і зародак гэтага валадарства на зямлі. Сама тымчасова ўзрастаючы памалу тужыць за поўнасьцю завяршоным Валадарствам і з усіх сілаў спадзеваецца і жадае злучыцца са сваім Валадарствам у славе” (Канстытуцыя аб Царкве 5).

**Пытаньне да дзевяноста чацьвёртае катэхэзы:**

207) Як Божы народ будуе ў сьвеце Божае Валадарства?

**Адказ:** Божы народ будуе ў сьвеце Божае Валадарства цераз паглыбленьне жыцьця ласкі і працу над сабой.

*“Служыце адзін аднаму кожны тым дарам, які атрымаў” (1 пятр. 4, 10).*

КАТЭХЭЗА LXLV.

## 95. Хрыстос кліча сьвецкіх людзей служыць Богу – кожнага ў сваім званьні і прафэсіі

*“Нябеснае Валадарства ёсьць падобнае да рашчыны, якую жанчына, ўзяўшы, палажыла ў тры меры мукі, дакуль ня скісла ўсё” (Мац. 13, 33).*

Хрысьціяне ўлучаныя праз Хрост у Хрыста твораць Божы народ Новага Запавету. Цераз Хрост яны таксама прымаюць удзел у Хрыстовым сьвятарстве. Яны могуць разам з Хрыстом і праз Хрыста лучыць свае асабістыя ахвяры з Ягонай архірэйскай ахвярай. Іхная ахвяра абымае ўсё іхнае жыцьцё. Бог кліча іх, каб жывучы ў сям’і, выконваючы сваю прафэсію, яны кіраваліся духам Эвангельля і ў гэткі спосаб прычыніліся да сьвятасьці сьвету. Яны шукаюць Божага Валадарства, калі займаюцца справамі гэтага сьвету і кіруюць ім паводле Божае думкі. Прыкладам свайго жыцьця, сьвецячы верай, надзеяй і любоўю, яны паказваюць другім Хрыста, як кажа Канстытуцыя аб Царкве ў 31 нумары. Гэтак яны дзеяць у сьвеце ўсярэдзіне, як рашчына або дрожджы.

Хрысьціяне, што жывуць у сьвеце, завуцца лаікамі або сьвецкімі, каб адрозьніцца ад клеру або духавенства. Яны пакліканы да таго, каб рабіць прысутнай Царкву ды дзеюць у імя Царквы ў такіх месцах і ў такіх абставінах, дзе толькі цераз іх Царква можа стацца сольлю зямлі і сьвятлом для сьвету. Кожны сьвецкі хрысьціянін сілай дароў Сьвятога Духа, якія атрымаў у тайне Мірапамазаньня, становіцца сьведкай і выканаўцам царкоўнай місіі. На лаікаце ляжыць пачотны абавязак пашыраць Божы плян выратаваньня на ўсіх людзей, усіх часаў і ўсіх месцаў на зямлі (Канстытуцыя аб Царкве 33).

“Веруючыя ва ўсіх часовых справах павінны кіравацца хрысьціянскім сумленьнем” (Канстытуцыя аб Царкве 36).

“Сьвецкі чалавек павінен быць перад сьветам сьведкам уваскрасеньня і жыцьця Ісуса Хрыста і знакам жывога Бога. Усе разам і кожны ў аддзельнасьці яны павінны карміць сьвет духовымі пладамі (Гал. 5, 22) і напоўніць яго такім духам, які ажыўляе тых убогіх, лагодных і творачых мір, якіх Госпад у Эвангельлі назваў шчасьлівымі (Мац. 5, 3-9). Словам, чым ёсьць душа ў целе, тым няхай будуць у сьвеце хрысьціяне” (Канстытуцыя аб Царкве 38). Гэтак яны прымаюць удзел у місіі Царквы і на гэтым палягае іхнае апостальства.

Абавязак і права быць апосталам у сьвеце выводзяцца з лучнасьці хрысьціяніна з Хрыстом. Гэтая лучнасьць, запачаткаваная цераз сьвяты Хрост, узмацоўваецца Сьвятым Духам у Тайне Мірапамазаньня. Пасьпяховасьць дзейнасьці ў сьвеце залежыць ад цеснай лучнасьці з Хрыстом (Ян. 15, 5). Паглыбляе яе вытрывалае і руплівае карыстаньне з тайнаў.

Уся дзейнасьць Царквы, яе літургія і душпастырскія намаганьні імкнуцца да таго, каб веруючыя з Хрыста чэрпалі энэргію і помач да выпаўненьня сваёй ролі ў сьвеце. Таму веруючыя прымаюць удзел у Найсьвяцейшай Ахвяры, бяруць удзел у ахвярным Банкеце і карыстаюць з усіх надпрыродных помачаў, якія толькі ёсьць у супольным жыцьці Царквы.

Апрача ўдзелу ў літургіі хрысьціянін паглыбляе веду аб рэлігіі чытаючы Сьвятое Пісьмо, асабліва Эвангельле, студыюючы часапісы і рэлігійныя кніжкі ды і цікавячыся справамі ўсяе Царквы. Цераз усё гэта ён фармуе сваё хрысьціянскае сумленьне.

**Наш адказ Богу:** Хачу сваім добрым жыцьцём сьведчыць аб Богу і аб Ісусе Хрысьце.

**Прыклад малітвы:** Божа, што бароніш маючых у Табе надзею, без Каго няма нічога сільнага і нічога сьвятога, павяліч Сваё міласэрдзе над намі, каб пад Тваім кіравецтвам мы так праходзілі сярод багацьцяў гэтага сьвету, каб ня страціць вечных.

**Божае Слова:** “Я – вінаградная лаза, а вы – галіны; хто прабывае ў-ва Мне і Я ў ім, той прыносіць шмат пладоў; бо без Мяне вы на можаце рабіць нічога” (Ян. 5, 15). – “Усё, што-б вы ні рабілі, словам або дзелам, усё рабіце ў імя Госпада Ісуса Хрыста, дзякуючы праз Яго Богу і Айцу” (Кал. 3, 17).

**Навука Царквы:** “Сьвецкія людзі, як пасьвячаныя Хрысту і памазаныя Сьвятым Духам, дзіўным спосабам пакліканыя і прыгатаваныя да таго, каб у іх радзіліся заўсёды што раз то багацейшыя плады Духа. Бо іхнія ўчынкі, малітвы і апостальскія працы, сямейнае жыцьцё, штодзённы адпачынак духа і цела, калі адбываюцца ў Духу – а нават прыкрасьці жыцьця, калі іх цярпліва зносіць – становяцца духовымі ахвярамі, мілымі Богу праз Ісуса Хрыста; гэтыя ахвяры пабожна прыносяцца Айцу разам з Ахвярай Цела Хрыстовага. Гэткім спосабам і сьвецкія людзі, як пабожна ўсюды дзеючыя паклоньнікі Бога, самы сьвет пасьвячаюць Яму” (Канстытуцыя аб Царкве 34). – “Сьвецкія людзі, нават калі іх абсарбуюць жыцьцёвыя турботы, могуць і павінны вясьці вартасную дзейнасьць, якая мае на мэце эвангелізацыю сьвету… Абвяшчаньне Хрыста, як пры помачы сьведчаньня жыцьцём, так і словам, прымае асобны характар і асаблівую пасьпяховасьць цераз тое, што адбываецца ва ўмовах чыста сьвецкіх” (Канстытуцыя аб Царкве 35).

**Пытаньне да дзевяноста пятай катэхэзы:**

208) Да чаго пакліканыя сьвецкія як члены Божага народа?

**Адказ:** Сьвецкія як члены Божага народа пакліканыя, каб і праз іх Божае Выратаваньне дайшло да ўсіх людзей.

КАТЭХЭЗА LXLVI.

## 96. Хрыстос асобна кліча некаторых хрысьціян на выключную Божую службу

*“Калі хочаш быць дасканалым, пайдзі, прадай сваю маемасьць і раздай убогім; і будзеш мець скарб на небе; і прыходзь ды йдзі за Мною” (Мац. 19, 21).*

Спаміж Божага народа Хрыстос выбірае і кліча на Сваю службу людзей, якія маюць выпаўняць Ягоную асабістую місію. Цераз Тайну Сьвятарства Хрыстос робіць іх прадстаўнікамі Свайго Сьвятарства, даючы ім уладу фармаваць Божы народ і кіраваць ім. Тайна Сьвятарства дае ім таксама ўладу заступаць Хрыста ў прынашэньні Богу эўхарыстычнай Ахвяры і ахвяраваць яе ў імя ўсяго народа (Канстытуцыя аб Царкве 10). Сьвятары атрымліваюць Тайну Сьвятарства на карысьць усяго Божага народа. Хрыстос вучыць, што сьвятая ўлада, па-грэцку "гэрархія", ёсьць службай усім. Таму хрысьціянскае сьвятарства завецца служэбным.

Да сьвятарства Хрыстос кліча толькі выбраных. Пакліканьне да сьвятарства чалавек адчувае вельмі розна і часам дзіўна. Таму Царква старанна пазнае яго ў семінарыях і спраўджае на працягу доўгіх студыяў. Кожны веруючы ў Царкве мае права выразіць сваю апінію аб кандыдаце на сьвятара. Апошні голас належыць да архірэя, які і вырашае, ці кандыдата сапраўды кліча Бог. Архірэй мае права і абавязак прыняць кандыдата ў лік сваіх супрацоўнікаў у сьвятарстве.

З Эвангельля мы бачым, што Хрыстос вымагае ад сьвятара, каб ён любіў Бога і бліжняга, каб умеў ахвяраваць сабою для паручанага яму Госпадам аўчарніка ды нават для аднэй авечкі, каб быў працавіты, адважны, шчодры для ўбогіх і цярплівы. Ад сьвятароў лацінскага абраду Царква вымагае яшчэ, каб яны былі нежанатымі, як архірэі, бо абавязкі сьвятара ёсьць так вялікімі, што каб іх выпаўніць, чалавеку не хапае часу на сваё асабістае жыцьцё. Царква прымае абавязак даваць сьвятару штодзённы хлеб і абяцае апеку з боку веруючых.

Некатарых людзей Хрыстос кліча жыць паводле эвангельскіх радаў. Яны зьвязваюць самі сябе асобнымі прырачэньнямі і абяцаюць Богу, што будуць жыць у беднасьці, паслухмянасьці Царкве і чыстаце або ўстрыманасьці да сьмерці. Гэтак яны імкнуцца зрабіць сваё жыцьцё як найбольш падобным да Хрыстовага. Іхняе жыцьцё вымагае поўнае аддадзенасьці Богу ды вернае службы Царкве. Гэтым і займаюцца законы ды згуртаваньні манахаў, як называюцца часам у Царкве законьнікі.

Кандыдаты, якія жадаюць аддацца Богу ў законным жыцьці, павінны перш перайсьці спробу, якую ім вызначае Царква. Толькі пасьля гадоў спробы і навіцыяту ім пазваляюць зрабіць першыя прырачэньні.

Манастыры на працягу стагодзьдзяў шмат зрабілі для Царквы. Яны абвяшчалі Хрыста ня толькі словам, але і прыкладам жыцьця, вялі цывілізацыйную і культурную дзейнасьць, разьвівалі навуку і пашыралі асьвету цераз школы, перахавалі для будучых пакаленьняў помнікі літаратуры і мастацтва, перапісваючы кнігі і зьбіраючы бібліятэкі. Некатарыя манастыры вучылі людзей земляробства і рамёстваў, вялі бальніцы ды апекаваліся бяздомнымі. Няма бадай галіны жыцьця, якой бы яны не займаліся. Аднак заўсёды першым абавязкам манахаў была малітва, а гэтак званыя кантэмпляцыйныя законы толькі ёю і займаліся ды да нашых дзён выпаўняе гэтую задачу.

Супольнае жыцьцё ў манастыры, хоць труднае і поўнае ахвяры, дае шмат радасьці і пацехі, найлепш праслаўляе Бога, бо робіць Царкву больш падобнай да Хрыста.

Справа пакліканьня да сьвятарства і да законнага жыцьця ёсьць адной з вялікіх турботаў Царквы. Выразіў яе Другі Ватыканскі Сабор у "Дэкрэце аб узгадаваньні сьвятароў":

"Абавязак узгадаваньня пакліканьняў належыць да ўсяе хрысьціянскае супольнасьці. Яна выпаўніць яго тады, калі перадусім будзе жыць па-хрысьціянску. Найбольш могуць тут зрабіць сем'і, поўныя духа веры, любові і

пабожнасьці, якія стануцца як бы першымі семінарыямі – як і прыходы, у якіх багатым жыцьці прымае ўдзел моладзь… Усе сьвятары няхай праявяць як найбольшую апостальскую рупнасьць, каб будзіць пакліканьні. Сваім жыцьцём, пакорным і працавітым ды поўным радасьці, а таксама цераз узаемную сьвятарскую любоў і братэрскую помач у працы хай пацягваюць душы маладога пакаленьня да сьвятарства” (“Дакрэт аб Узгадаваньні Сьвятароў” 2).

**Наш адказ Богу:** Буду заўсёды гатовым пайсьці за воляй і голасам Божым.

**Прыклад малітвы:** “Госпадзе, што хочаш, каб я рабіў?” (Дз. 22, 10).

**Божае Слова:** “Ісус убачыў чалавека, які сядзеў ля мытніцы ды зваўся Мацьвеем і кажа яму: ідзі сьледам за Мною. І, ўстаўшы, ён пайшоў за Ім” (Мац. 9, 9). – “Калі хто хоча йсьці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай возьме свой крыж і ідзе за Мною” (Лук. 9, 23). – “Ідзі – сказаў Госпад да Ананіі – бо ён Мне выбраная пасудзіна, каб несьці Маё імя перад паганамі і царамі і сынамі Ізраіля” (Дз. 9, 16). – “Каліж спадабалася Богу, які выбраў мяне ад улоньня маёй маткі ды паклікаў Сваёй ласкай, каб аб’явіць у ва мне Свайго Сына, Якога я меў дабравесьціць сярод паганаў, дык я не пачаў зараз-жа радзіцца з целам і крывёю… а пайшоў у Арабію” (Гал. 1, 15-17).

**Навука Царквы:** “Цераз прырачэньні або іншыя сьвятыя путы падобныя па сваёй прыродзе да прырачэньняў, якімі хрысьціянін забавязвае сябе да практыкаваньня эвангельскіх радаў, ён аддаецца цалкам на службу ўзлюбленаму над усё Богу… А таму, што тры эвангельскія рады цераз любоў, да якой прыводзяць, асаблівым спосабам лучаць з Царквой і з ейнаю тайнай тых, што за імі йдуць, праз гэта і іхняе жыцьцё павінна быць аддадзена на карысьць усяе Царквы” (Канстытуцыя аб Царкве 44). – “Манахі рупна павінны старацца аб тым, каб праз іх Царква з часам што раз то лепш як веруючым так і няверуючым паказвала Хрыста – як з таго часу, калі Ён маліўся на гары, так і з часу, калі Ён навучаў народ аб Божым Валадарстве, аздараўляў хворых і калекаў, навяртаў да добрага жыцьця грэшнікаў, бласлаўляў дзяцей і рабіў дабро ўсім, а заўсёды быў паслушны Айцу, Які Яго паслаў” (Канстытуцыя аб Царкве 46).

**Пытаньні да дзевяноста шостае катэхэзы:**

209) Хто ў Царкве судзіць, ці кандыдата кліча Бог?

**Адказ:** Аб тым, ці кандыдата да сьвятарства сапраўды кліча Бог, мае права судзіць толькі архірэй, як пастыр эпархіі (дыяцэзіі).

210) Да чаго Бог кліча манаха?

**Адказ:** Бог кліча манаха да выпаўненьня ў жыцьці эвангельскіх радаў праз законныя прырачэньні і службу Царкве.

КАТЭХЭЗА LXLVII.

## 97. Хрыстос жадае каб чалавек усестаронна развіваўся

*“Нейкі чалавек, выяжджаючы, паклікаў сваіх слуг і здаў ім сваю маемасьць: аднаму даў пяць талентаў, другому – два, іншаму – адзін, кожнаму паводле ягонае сілы” (Мац. 25, 14-15).*

Мы жывем у часах, калі чалавек атрымаў магчымасьць развіваць усебакова свае здольнасьці – як цела, так і душы.

Бацькі ды школа стараюцца аб тым, каб моладзь магла развіваць свае фізычныя сілы. Праяўляецца рупнасьць аб гігіене ейнага жыцьця ды каб усьцерагчы яе ад розных хваробаў. Дзеці выяжджаюць у горы, над мора, каб адпачываючы летам карысталі з паветра, сонца і вады. У школе моладзь займаецца гімнастыкай і спортам. Каб падняць фізычную культуру ладзяцца спаборніцтвы спартоўцаў і алімпіяды. Аб здароўі чалавека рупіцца сёньня ўсё грамадзтва.

Шмат рупнасьці праяўляецца сёньня і аб духовым развіцьці чалавека. Кожны мае абавязак скончыць пачатковую школу, якая дае яму агульную веду патрэбную да жыцьця. Хто мае здольнасьці, паступае ў сярэднюю школу, а пасьля ў вышэйшую, дзе студыюе розныя галіны веды, як мэдыцыну, архітэктуру, мастацтва, філасофію і гэтак далей. Іншыя ідуць у прафэсіянальныя школы, каб пасьля карысьней працаваць у фабрыках, гаспадарцы ці ў іншых установах і прадпрыемствах. Чым хто больш умее, тым будзе карысьнейшым для грамадзтва.

Гэтае агульнае імкненьне да развіцьця цела і душы ёсьць згодным з воляй Стварыцеля, Які жадае, каб чалавек быў шчасьлівым. Бог зрабіў чалавека “царом стварэньня”. Але даў яму яшчэ нешта шмат большае: удзел у Сваім, Божым жыцьці, якое ў Богу атаясамліваецца з Божай прыродай і праз гэта чалавек атрымаў магчымасьць жыць вечна з Богам ды дзяліць з Ім вечнае шчасьце. Калі чалавек саграшыў, Бог адкупіў яго, гэта значыць направіў зло граху цаною і коштам пакуты і сьмерці Свайго Сына Ісуса Хрыста, які вярнуў нам паўнату чалавецтва. Яно складаецца з жыцьця цела, жыцьця душы і з жыцьця Божага. Дык вось хрысьціянін павінен развіваць у сабе гэтыя тры роды жыцьця. Ня можа ён абмінуць аніводнага. Ён павінен развіваць свае фізычныя сілы, каб лепш служыць Богу і людзям. Ён павінен развіваць свае духовыя здольнасьці, каб быць карысным членам грамадзтва і Царквы. Асабліваж ён павінен так развіваць у сабе Божае жыцьцё, каб з Хрыстом ён мог будаваць Божае Валадарства. Нельга чалавеку змарнаваць свайго таленту, які атрымаў ад Бога (Мац. 25, 14). Гэтае развіцьцё ёсьць асновай службы Богу і людзям і дае чалавеку сапраўдную хрысьціянскую радасьць.

Апошняю мэтаю развіцьця хрысьціяніна ёсьць утварэньне ў ім Самога Хрыста (Гал. 4, 19), да якога ён імкнецца праз усё жыцьцё: “Калі-ж зьявіцца Хрыстос, вашае жацьцё, тады і вы з’явіцеся разам з Ім у славе” (Кал. 3, 4).

**Наш адказ Богу:** Буду старацца, каб разьвіць усе свае прыродныя і надпрыродныя сілы, каб гэткім спосабам утварыць у сабе Хрыста.

**Прыклад малітвы:** Памажы мне, Добры Божа, каб я штодзень дасканаліўся ў духу майго пакліканьня, каб я развіваў сваю веру, чыстату, пакору, паслухмянасьць, стрыманасьць, любоў, рупнасьць і сапраўдную пабожнасьць, каб Госпад мой Ісус Хрыстос у ва мне ўтвараўся ды каб я мог сказаць аб сабе: жыву ўжо не я, але жыве ў ва мне Хрыстос.

**Божае Слова:** “... дакуль усе дойдзем да еднасьці веры і пазнаньня Божага Сына, да дасканалага мужа, да меры ўзросту Хрыстовае поўні” (Эф. 4, 13).

**Навука Царквы:** “Уласьцівай і безпасрэднай мэтай хрысьціянскага ўзгадаваньня ёсьць тое, каб цераз супрацоўніцтва з Божай ласкай зрабіць чалавека сапраўдным і дасканалым хрысьціянінам, гэта значыць, каб у людзях адроджаных праз Хрост вырабіць і ўтварыць Хрыста згодна з выразнымі славамі апостала: “Дзеткі мае, якімі я ізноў мучуся ў радзінах, пакуль ня знойдзе Свой абраз у вас Хрыстос!” (Гал. 4, 19)... Сапраўдны хрысьціянін, выраблены цераз хрысьціянскае ўзгадаваньне, гэта не што іншае, толькі надпрыродны чалавек, які думае, судзіць і дзейнічае заўсёды і пасьлядоўна паводле здаровага розуму, асьвечанага надпрыродным

сьвятлом прыкладаў і навукі Ісуса Хрыста. Іншымі славамі: чалавек з характарам” (Піус XI, Энцыкліка: “Божы наш Настаўнік”).

**Пытаньні да дзевяноста сёмае катэхэзы:**

211) Што хрысьціянін павінен у сабе развіваць?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен развіваць у сабе ўсе прыродныя і надпрыродныя здольнасьці, патрэбныя, каб знайсьці шчасьце, служачы Богу і сваім бліжнім.

212) Якая апошняя мэта развіцьця хрысьціяніна?

**Адказ:** Апошняя мэта развіцьця хрысьціяніна – ўтварэньне ў ім Хрыста.

КАТЭХЭЗА LXLVIII.

# 98. Хрыстос ужо тут на зямлі дае ахрышчаным дар сапраўднае радасьці

*“Браты! Радуйцеся заўсёды ў Госпадзе; ды ізноў кажу: радуйцеся! Вашая ціхасьць няхай пазнана будзе ўсімі людзьмі. Госпад блізка!” (Філіп. 4, 4-5).*

Чалавек шукае радасьці, бо яна яму патрэбна да здароўя і творчага жыцьця. Радасьці вымагае сямейнае жыцьцё – бяз радасьці яно становіцца нязносным цяжарам, як і штодзенная праца, крыніцай недаразуменьняў, горычы, а часам і разрыву. Бяз радасьці праца не дае спадзеванае карысьці. Няма галіны чалавечага жыцьця, якая не ўзрастала б у радасьці і не зьмяншалася б, калі яе не хапае.

Каб заспакоіць гэтую патрэбу сваёй прыроды, людзі шукаюць радасьці ў гульнях і забавах – часам за любую цану. Здаецца ім, што хрысьціянства быццам зьмяншае радасьць жыцьця. Тымчасам ёсьць якраз наадварот, Хрыстовая рэлігія ёсьць рэлігіяй сапраўднае радасьці.

Рэлігія, якая дае нам сьвядомасьць, што Бог ёсьць прысутны сярод нас, заўсёды напаўняе людзей радасьцю. Божы народ Старога Запавету заўсёды радаваўся, калі мог збірацца ў Божай Сьвятыні: “Як-жа прыемна сяліба Твая, о Госпадзе сілаў! Маё сэрца і маё цела весяляцца ў Жывым Богу” (Пс. 83, 23). “Усьцешыўся я, калі мне сказалі: Хадзем да Госпадняга дому!” (Пс. 123, 1).

Прыходзячы на сьвет Божы Сын прынёс радасьць усім людзям (Лук. 1, 44), а перадусім напоўніў радасьцю Сваю Матку, Марыю. У Альжбэты пяяла Яна аб гэтай радасьці: “Узрадаваўся дух мой у Богу, маім Выратавальніку” (Лук. 1, 47).

Да навучаючага Хрыста гарнуліся людзі (Мар. 3, 7-8) і трывалі пры Ім (Мар. 8, 2). “Славілі Бога і казалі: вялікі прарок паўстаў між намі, і Бог адведаў Свой народ” (Лук. 7, 16).

Найбольшую радасьць даў Хрыстос апосталам і ўсёй Сваёй Царкве (Дз. 1, 15), калі пасьля Сваёй сьмерці на крыжы на трэці дзень уваскрос: “Увечары таго-ж першага дня тыдня... прыйшоў Ісус і стануў пасярэдзіне і сказаў ім: “Мір вам!”... І ўзрадаваліся вучні, убачыўшы Госпада” (Ян. 20, 19-20). Гэтая радасьць так была магутнай, што трывае ў Царкве да веку.

Які ўплыў мела гэтая радасьць на маладую Царкву можна бачыць з наступнага факту: “Усе веруючыя былі разам, і ўсё ў іх было супольнае; і прадавалі дабро сваё і дастаткі, і дзялілі між усіх, як каму трэба было. І, кожны дзень аднадушна бываючы ў сьвятыні ды ламаючы хлеб у дамох, прымалі страву ў радасьці і прастаце сэрца, славячы Бога і маючы ласку ў усяго народа” (Дз. 2, 44-47).

Цераз Хрост мы злучаны з Хрыстом. Хрыстос жыве ў нашых сэрцах і напаўняе іх мірам. Ён паслаў нам Духа Сьвятога, Суцяшальніка, Які ў нас таксама прабывае і дзейнічае (1 Кар. 3, 16). Кожны ўдзел у Эўхарыстыі

павялічвае ў нас гэтую сьведамасьць лучнасьці з Хрыстом. Сьвятое Прычасьце дае магчымасьць пачуць тую радасьць, якой будуць напоўнены злучаныя з Хрыстом у вечнасьці ды ёсьць задаткам гэтае радасьці (Ян. 6, 51. 54. 57).

Лучнасьць з Хрыстом дае нам пачуцьцё бязьпекі, унутраны мір, радасьць і супакой душы, які так выразна адрознівае веручага ад няверучага ў пераменнасьць гэтага сьвету: "Калі Бог за нас, хто супраць нас?" (Рым. 8, 31).

Хрысьціянскую радасьць перажываем мы ў літургічных зборах у працягу царкоўнага году. Яна выражаецца ў літургічных песьнях і музыцы, у літургічных вопратках і ў аздобах прыгожых Божых сьвятыняў. Пачынаючы літургію мы часта пяём: "Клічце Госпаду, усенька зямля! Служыце Госпаду з радасьцю..." Асабліва на Каляды і на Вялікдзень хрысьціянская радасьць праяўляецца ня толькі ў сьвятынях, але пранікае ўсё жыцьцё. Яна ўвайшла ў звычаі і культуру хрысьціянскіх народаў, якія праяўляюць яе ў сямейным і нават грамадзкім жыцьці, выгляд дому, сьвяточная вопратка, лепшая ежа ды адведваньне радні і прыяцеляў – усё гэта выражае тую надпрыродную радасьць, якая напаўняе жыцьцё хрысьціяніна і ёсьць прадвесьцем вечнае радасьці.

**Наш адказ Богу:** Перажываючы радасьць, буду дзякаваць Хрысту за яе.

**Прыклад малітвы:** "Мы пакланяемся Твайму Прачыстаму Абразу, Добры, просячы даразаньня нашых грахоў, Хрысьце Божа, бо Ты дабравольна захацеў целам узысьці на крыж, каб выратаваць тых, якіх Ты стварыў, з варожай няволі. Таму з удзячнасьцю мы клічам да Цябе: Ты радасьцю напоўніў усіх, наш Спасе, Які прыйшоў, каб ратаваць сьвет".

**Божае Слова:** "Прыйдзіце да Мяне ўсе, працуючыя і абцяжоныя, і Я супакою вас. Вазьміце Маё ярмо на сябе, і навучыцеся ад Мяне: бо Я ёсьць ціхі і лагоднага сэрца, і знойдзеце супакой вашым душам" (Мац. 11, 28-29).

**Пытаньне да дзевяноста восьмае катэхэзы:**

213) Што дае ахрышчаным сьведамасьць лучнасьці з Хрыстом?

**Адказ:** Сьведамасьць лучнасьці з Хрыстом дае ахрышчаным радасьць, супакой духа і пачуцьцё бязьпекі.

КАТЭХЭЗА LXLIX.

# 99. Хрыстос кліча ахрышчаных прыняць удзел у Ягоным крыжы

*"Разам з Хрыстом я прыбіты да крыжа" (Гал. 2, 19).*

*"Калі хто хоча йсьці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе самога і возьме свой крыж ды сьледуе за Мною" (Мац. 16, 24).*

На кожным шагу мы сустракаем людзей, якія церпяць. Адны хварэюць, часам невылечна. Другія радзіліся або сталіся калекамі – сьляпымі, глухімі, кульгавымі. Ёсьць шмат такіх, што плачуць па сваіх пакойніках – дзеці па бацьках, бацькі па дзецях. Заўсёды ёсьць людзі, што церпяць ад рознае нястачы: голаду, холаду і іншых бедаў. Вельмі многа людзей цярпела і цярпіць з прычыны войнаў, прасьледаваньняў, варожых адносінаў. Ёсьць і такія, што перажываюць унутраныя цярпеньні – спакусы, сумнівы, турботы. Няма чалавека, які раней ці пазьней не перажыў бы якогась сумаваньня або цярпеньня.

Людзі церпяць па-рознаму, неаднолькова. Адны, як Ёў, наракаюць і кажуць: "Каб ён згінуў той дзень, калі я радзіўся... На што даваць жыцьцё тым, што мучацца, існаваньне зламаным духова... Плач стаўся маей ежай, з

вачэй як вада плывуць сьлёзы. Спаткала мяне тое, чаго я баяўся, хоць я баяўся аднак яно прыйшло. Ня ведаю цішыні ані супакою” (Іяў 3, 1-26). Іншыя дамагаюцца ад Бога, каб забраў ад іх цярпеньне. І Бог часам спаўняе іхняе жаданьне, хоць найчасьцей маўчыць, так што чалавек думае, што Бог яго пакінуў.

Толькі Хрыстос памагае хрысьціяніну зразумець цярпеньне. Ён стаўся падобным да нас у ва ўсім “з выняткам граху” (Гэбр. 4, 15). Цярпеньне пачалося для Яго ад нараджэньня. Цераз цярпеньне Ён адкупіў сьвет. Ён казаў Сваім вучням, што “Ён мусіць ісьці ў Ерусалім і шмат перацярпець ад старэйшын ды архірэяў і кніжнікаў, ды быць забітым і на трэці дзень уваскрэснуць” (Мац. 16, 21). Ён дабравольна паддаецца цярпеньню, каб споўніць волю Айца. Калі Пётр пачынае Яго адгаварваць, што гэтага быць ня можа, Хрыстос кажа яму: “Адыйдзі ад мяне, шатан! Ты мне спакуса; бо думаеш не аб тым, што Божае, але што чалавечае” (Мац. 16, 23).

Бог выбраў гэты шлях, бо ў цярпеньні найлепш выражаецца любоў: “Бог Сваю любоў да нас даводзіць тым, што Хрыстос памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі” (Рым. 5, 8). Праз цярпеньне і сьмерць Хрыстос даў доказ, што любіць Айца: “Каб сьвет ведаў, што я люблю Айца і, як загадаў мне Айцец, так раблю” (Ян. 14, 31). Праз цярпеньне і сьмерць Хрыстос даказаў таксама, што любіць нас: “Ніхто ня мае любові большай за тую, калі хто аддасьць сваё жыцьцё за сваіх сяброў” (Ян. 15, 13).

Цярпеньнем адзначалася таксама жыцьцё Божае Маці. Гэткі шлях выбраў для яе Бог: “І табе самой меч пранікне ў душу” (Лук. 2, 35). Божая Маці прыняла гэтае цярпеньне спакойна з любові да Бога і да людзей, асабліва пад крыжом: “Стаяла-ж ля крыжа Ісусавага Ягоная Маці” (Ян. 19, 25).

Шлях цярпеньняў прадказаў Хрыстос і Сваім вучням: “Калі Мяне перасьледавалі, будуць перасьледаваць і вас” (Ян. 15, 20). На цярпеньне паклікаў Ён усіх, што хочуць пайсьці за Ім: “Калі хто хоча пайсьці за Мною, няхай адрачэцца ад самога сябе, няхай возьме свой крыж і сьледуе за Мною” (Мац. 16, 24).

Цераз Хрост мы сталіся падобнымі да памёрлага за нас Хрыста. Таму і нашыя цярпеньні ёсьць доказам і знакам любові Бога. Мы аднак церпім ня самі толькі, а ўлучаемся ў цярпеньне Хрыста. “Бо водле таго, як памнажаюцца ў нас мукі Хрыста, гэтак памнажаецца Хрыстом і нашая пацеха” (2 Кар. 1, 5). Гэткім спосабам праз дабравольнае прыняцьце цярпеньня паглыбляецца наш удзел у выратаваньні.

Цярпеньне злучанае з цярпеньнем Хрыста вядзе да праслаўленьня і ўваскрасеньня. “Ён зьняважыў сябе, будучы паслухмяным ажно да сьмерці ды сьмерці на крыжы. Дзеля гэтага і Бог узвысіў Яго і даў Яму імя па-над усякае імя” (Філіп. 2, 8-9). Выясьніў гэтае выразна Хрыстос двум вучням па дарозе ў Эмаус: “Ці-ж ня гэтак і трэба было цярпець Хрысту і ўвайсьці ў славу Сваю?” (Лук. 24, 26). Падобная доля чакае і тых, што свае цярпеньні лучаць з цярпеньнямі Хрыста: “Бо Сын Чалавечы прыйдзе ў славе Свайго Айца разам з Ангеламі Сваімі; і тады аддасьць кожнаму водле ягоных дзеяньняў” (Мац. 16, 27). “Калі мы злучаны зь Ім падабенствам Ягонае сьмерці, дык павінны быць злучаны і падабенствам уваскрасеньня” (Рым. 6, 5).

Хрысьціянін ёсьць членам містычнага Хрыстовага Цела. Дык калі ён церпіць, ягонае цярпеньне мае вартасьць для Царквы і для ўсяго чалавецтва. Сьвяты Павал піша: “Цяпер радуюся ў маіх муках за вас і дапаўняю недахоп у маім целе Хрыстовых сумаваньняў за Ягонае Цела, якім ёсьць Царква” (Кал. 1, 24). Пэўна-ж Хрыстос даволі выцерпеў. Але Хрыстос ёсьць галавою Царквы. Калі хто з членаў лучыць свае цярпеньні з

цярпеньнямі Хрыста, дапаўняе тое, што адбылося на крыжы, ды што ўсьцяж адбываецца ў Царкве. Гэткім спосабам чалавек лучыць свае цярпеньні з Хрыстовымі цярпеньнямі дзеля выратаваньня сьвету (Канстытуцыя аб Царкве 41). Цераз свае цярпеньні ён прычыняецца да ўзросту ўнутранай сілы і вонкавага развіцьця Царквы. Вось тыя мэты, дзеля якіх Хрыстос кліча ахрышчаных, каб з Ім разам цярпелі.

**Наш адказ Богу:** Хачу аблягчыць людзям цярпеньне, а свае цяжкасьці буду ахвотна лучыць з цярпеньнямі Хрыста.

**Прыклад малітвы:** “Ойча мой! Калі магчыма, няхай абміне мяне гэтая чара; аднак, не як я хачу, але як Ты” (Мац. 26, 39).

**Божае Слова:** “Вы заплачаце і загалосіце, а сьвет будзе цешыцца; вы сумныя будзеце, але сум ваш у радасьць зьменіцца” (Ян. 16, 20). – “Калі мы з Ім памерлі, дык з Ім і жыць будзем; калі мучымся, дык з Ім і валадарыць будзем” (2 Цім. 2, 11-12).

**Навука Царквы:** “Няхай таксама ведаюць, што асабліва яны лучацца з Хрыстом церпячым дзеля выратаваньня сьвету тыя, якіх прыгнятае беднасьць, слабасьць, хвароба ды розныя турботы, або якія церпяць перасьлед дзеля справядлівасьці; гэта іх Госпад у Эвангельлі назваў шчасьлівымі, іх “Бог усякае ласкі, Які паклікаў вас да вечнае Сваёй славы ў Хрысьце Ісусе, пасьля нядоўгае мукі ўдасканаліць, угрунтуе і зробіць непарушнымі” (1 Пятр. 5, 10)” (Канстытуцыя аб Царкве 41).

**Пытаньні да дзевяноста дзевятае катэхэзы:**

214) З якою мэтаю кліча нас Хрыстос мець удзел у Ягоным цярпеньні?

**Адказ:** Хрыстос кліча нас прыняць удзел у Ягоным цярпеньні, каб мы мелі большы ўдзел у дзеле выратаваньня.

215) Якую вартасьць для Царквы мае цярпеньне хрысьціяніна ў злучэньні з цярпеньнем Хрыста?

**Адказ:** Цярпеньне хрысьціяніна ў злучэньні з цярпеньнем Хрыста дае Царкве ўнутраную сілу і вонкавае развіцьцё.

КАТЭХЭЗА С.

# 100. Хрыстос узмацоўвае церпячых праз памазаньне хворых

*“Занедужае хто з вас? Хай пакліча сьвятароў Царквы, і няхай памоляцца над ім, памазаўшы яго алівай у імя Госпадавае. І малітва веры вылячыць хворага, і Госпад падыме яго; і калі ён саграшыў, будуць яму дараваныя грахі” (Як. 5, 14-15).*

З прыкрасьцяў, якія сустракаюць людзей, найбольш прыкрымі ёсьць хваробы. Аднак хвароба хрысьціяніна становіцца для яго нагодай зрабіцца падобным да церпячага Хрыста. Угаворам гэтага ёсьць тое, каб ён сьведама ўлучыўся ў Хрыстовыя цярпеньні.

Зрабіць гэта ня лёгка. Хворы чалавек фізычна і псыхічна аслаблены. Ён можа перажываць трывогу, страх, і нават хістаньне надзеі на Бога. Таму Хрыстос узмацоўвае яго ў Тайне Аліватамазаньня або Сабораваньня.

Памазаньне ў тайнах абазначае ўдзел чалавека ў Хрыстовым Сьвятарстве. У гэтай тайне памазаньне абазначае асаблівы ўдзел у выратавальным цярпеньні Хрыста Архірэя. У тайне Памазаньня Хворых Хрыстос кліча хрысьціяніна пайсьці за Ім Ягоным шляхам.

Хворы, памазаны алівай хворых і ўзмацаваны малітваю Царквы, лучыцца з Хрыстом, Які ў аліўкавым садзе Гэтсэманіі “пачаў сумаваць і баяцца” (Мац.

26, 37) і маліўся: “Ойча мой, калі гэта магчыма, няхай абміне мяне гэтая чара; аднак не як Я хачу, але як Ты” (Мац. 26, 39).

У гэтай тайне хворы лучыцца з Хрыстом, Якому паказаўся з неба ангел і ўзмацоўваў Яго (Лук. 22, 43). І хворы ідзе з Хрыстом аж на Кальварыю. Ён не разлучаецца са сваім Выратавальнікам і з Ім разам аддаецца Богу: “Ойча, у Твае рукі аддаю мой дух” (Лук. 23, 46).

Удзел у выратавальным цярпеньні Хрыста Архірэя ўлучае хворага ў Пасхальную Містэрыю. Таму Царква прыносіць хвораму на дом Эўхарыстыю, якая робіць прысутным сьмерць і ўваскрасеньне Хрыста (Канстытуцыя аб Літургіі 74).

На гэтым шляху, якім хворы йдзе разам з церпячым Хрыстом, ідзе з ім разам і ўся Царква. Хворага акружае найбліжэйшая радня, суседзі ды іншыя сябры прыходу. Тайну яму дае старшыня прыходу, настаяцель, званы з польскага “пробашчам”, як памочнік архірэя, званага таксама біскупам, які штогод пасьвячае аліву хворых у Вялікі Чацьвер. На гэтым шляху не пакідае хворага таксама праслаўленая Царква: Дзева Марыя, сьвяты Іосіф апякун паміраючых, апосталы, мучанікі і вызнаўцы (пасьлядоўнікі), якіх Царква пілігрымуючая кліча да пасьцелі хворага.

Хворы аддае свае цярпеньні на ахвяру Царкве. Як Хрыстос ахвяраваў Свае цярпеньні за другіх, гэтак сама і хворы ахвяроўвае свае цярпеньні не толькі за свае грахі, але і за грахі іншых і гэтак прычыняецца да ачышчэньня Царквы.

У Памазаньні Хворых, як сам хворы, так і ўсе прысутныя пры гэтай Тайне, аддаюць Богу публічную пашану і славу, як Валадару жыцьця і сьмерці чалавека.

Хрыстос устанавіў Тайну Памазаньня Хворых, бо апосталы навучалі толькі таго, што загадаў ім Хрыстос, дык сьвяты апостал Якуб і апісаў нам дакладна гэтую тайну ў сваім пасланьні (Як. 5, 14-15). Гэта ёсьць тайна хворых. Таму яно даецца ня толькі паміраючым, але ўсім, хто сапраўды паважна хварэе. Памазаньне Хворых нармальна даецца ня толькі дарослым, якія маглі саграшыць, але і дзецям, каб выпрасіць ім у Бога здароўе, асабліва калі дахтары адказваюцца памагчы, бо навука ня ёсьць усемагутнай, дык і цуду зрабіць ня можа.

Калі хворы яшчэ пры памяці і можа спавядацца, ён прымае гэтую тайну пасьля споведзі і сьвятога Прычасьця. Але калі хворы ўжо ня можа спавядацца, яму даецца толькі гэта адна тайна, бо яно адпускае грахі, калі толькі хворы яшчэ пры памяці хацеў атрымаць дараваньне грахоў.

Усходняя Царква жадае, каб гэтую тайну адпраўляла некалькі сьвятароў і таму Памазаньне Хворых завецца Сабораваньнем. Але калі трудна знайсьці больш сьвятароў, даволі будзе і аднаго, нават калі ён ня ёсьць ані настаяцелям, ані памочнікам або вікарым.

**Наш адказ Богу:** Буду заахвочваць хворых, каб прымалі гэтую тайну, дый сам у хваробе папрашу, каб мне далі яе.

*Малітва, якую адмаўляе сьвятар памазваючы хворага:*

“Ойча Сьвяты, Лекар душ і целаў, Што паслаў Аднароднага Свайго Сына, Госпада нашага Ісуса Хрыста, Які лечыць усе хваробы, і ратуе ад сьмерці: вылеч і слугу Свайго (або Сваю служку – і гаворыцца імя пры гэтым) ад апанаваўшай яго (або яе) немачы цела і душы, і ажыві яго (або яе) ласкай Твайго Хрыста: Дзеля малітваў Найсьвяцейшай нашай Спадарыні Багародзіцы, і заўсёды Дзевы Марыі…”

**Навука Царквы:** “Апошняе памазаньне, якое яшчэ лепш можна назваць “Памазаньнем Хворых”, ня ёсьць тайнай, празначанай толькі для тых, якім безпасярэдня пагражае сьмерць. Адпаведны час на прыняцьце гэтай тайны

ёсьць і тады, калі для веруючых толькі пачынаецца небяспека сьмерці з прычыны хваробы або старасьці” (Канстытуцыя аб Літургіі 73).

“Цераз сьвятое Памазаньне Хворых і малітвы сьвятароў уся Царква паручае хворых пакутуючаму і праслаўленаму Госпаду, каб іх падняў і выратаваў, а пры тым заахвочвае іх, каб лучачыся дабравольна з цярпеньнем і сьмерцю Хрыста прынасілі карысьць Божаму народу” (Канстытуцыя аб Царкве 11).

**Пытаньне да сотае катэхэзы:**

216) Што дае Хрыстос у Памазаньні Хворых?

**Адказ:** Хрыстос у Памазаньні Хворых улучае хворага ў Свае Цярпеньні, з якіх хворы можа пачарпнуць выратавальную сілу для сябе і для другіх.

***Увага:*** Што трэба прыгатаваць дома ў хворага перад прыходам сьвятара, які мае адпраўляць Тайну Памазаньня Хворых?

Накрыць трэба стол белым абрусом, паставіць на ім крыж, дзьве сьвечкі, пасьвячоную ваду, крапіла, вату, лустачку хлеба, соль, шклянку з вадой і сталовую лыжку.

КАТЭХЭЗА СІ.

## 101. Праз сьмерць хрысьціянін лучыцца з Хрыстом на векі

*“Як заўсёды, гэтак і цяпер, узьвялічаны будзе Хрыстос у маім целе, ці то жыцьцём, ці сьмерцю. Бо для мяне жацьцё – гэта Хрыстос, а сьмерць – гэта набытак. А як жыцьцё водле цела – гэта мне плод дзела, дык і ня ведаю, што выбраць. Цягне тое і другое: маю жаданьне разьвязацца і быць з Хрыстом, бо гэта шмат лепшае” (Філіп. 1, 20-23).*

Жыцьцё кожнага чалавека кончыцца сьмерцю: “Усякае цела старэецца як вопратка, і гэта ад веку: абавязкава памрэш” (Сыр. 14, 17).

Сьмерць ёсьць разлучэньнем душы ад цела. Аб’яўленьне вучыць нас, што гэта вынік першароднага граху: “Праз аднаго чалавека ўвайшоў у сьвет грэх і праз грэх – сьмерць, гэтак і сьмерць перайшла на ўсіх людзей” (Рым. 5, 12).

Пасьля сьмерці душа адразу йдзе на суд: “Людзям наканавана раз памерці, а пасьля суд” (Гэбр. 9, 27). Навука царквы называе гэты суд паасобным або асабістым і адрознівае яго ад усеагульнага суду, які будзе ў канцы сьвету. Цела памёрлага чалавека кладуць у магілу. Чалавек баіцца сьмерці, бо яна разбівае адзінства ягонае натуры і разрывае ягоную сувязь з найбліжэйшымі. Таму чалавек глядзіць на сьмерць, як на найвялікшае зло. Змагаецца з ею і стараецца як найбольш адцягнуць яе прыход. Адняк ня гледзячы на вялікі прагрэс навук, чалавек застаецца бязсільным перад сьмерцю і гэтая сьвядомасьць напаўняе шмат каго сумам і пэсымізмам. Толькі Хрыстовая вера паказвае сьмерць у іншым сьвятле.

Хрыстос таксама памёр, паддаўшыся дабравольна закону сьмерці. Ягоная сьмерць на крыжы была балючай і цяжкой, як сьмерць іншых людзей, але не была безнадзейнай. Бо на трэці дзень пасьля сьмерці Хрыстос уваскрос і “увайшоў у Сваю славу” (Лук. 24, 26).

Гэткім спосабам Хрыстос перамог сьмерць (1 Кар. 15, 22). Сьмерць для Хрыста была пераходам і павяртаньнем да Айца, каб з Ім прабываць назаўсёды і атрымаць славу, якую Айцец прыгатаваў Яму як Чалавеку. Хрыстос памёр як першы з новага стварэньня, над якім сьмерць ня будзе ўжо мець улады (Кал. 1, 18; Рым. 6, 9).

Хрысьціянін, злучаны з Хрыстом цераз Хрост, жыве з Ім разам на зямлі і дзеліць свае труды і цярпеньні. Дык разам з Хрыстом і памірае. Сьмерць для

хрысьціяніна ёсьць ня менш балючай як і для іншых людзей, але яе разьясьняе надзея ўваскрасеньня. Бо хрысьціянін, будучы злучаны з Хрыстом цераз веру і любоў у гэтым жыцьці, застаецца з Ім злучаны гэтак сама ў сьмерці і як Хрыстос пераходзіць з гэтага жыцьця ў вечнасьць, каб з Ім не разлучацца ўжо на векі.

Каб паглыбіць свой удзел у сьмерці Хрыста, хрысьціянін прымаючы Хрост прымае абавязак усьцяж паміраць для граху і жыць новым жыцьцём: “Мы пахавалі сябе з Ім хрышчэньнем у сьмерць, каб, як Хрыстос уваскрос з памерлых цераз славу Айца, так і нам хадзіць у абноўленым жыцьці” (Рым. 6, 4). Неабходнасьць гэтак уміраць з Хрыстом прыпамінае нам штогод літургічная Пасха Хрыста і прысутнасьць яе ў кожнай сьвятой Літургіі.

Удзел у цярпеньні і сьмерці Хрыста мае выразна месца ў цярпеньнях апошняе хваробы хрысьціяніна і ягонае сьмерці, калі толькі хрысьціянін сапраўды лучыць свае цярпеньні і сьмерць з цярпеньнямі і сьмерцю Хрыста.

Царква, якая не адступае ад чалавека ва ўсіх важных момантах ягонага жыцьця, ёсьць так сама прысутнай і пры ягонай сьмерці. На гэтую важную ды трудную хвіліну чалавечага жыцьця Царква прыносіць уміраючаму Эўхарыстыю як харч на дарогу ў вечнасьць. Бо Хрыстос заручыў, што “хто есьць гэты хлеб, жыць будзе вечна” (Ян. 6, 58). Каб прыняць гэты харч, не канечна быць хворым, даволі аднае небясьпекі сьмерці. Яго дае Царква жаўнерам перад боям, хвораму перад апэрацыяй і асуджанаму на сьмерць перад экзэкуцыяй. Эўхарыстыю як апошні харч можна прымаць і часьцей, калі сьмерць усьцяж пагражае. Перад прычасьцем у гэтым выпадку не абавязуе эўхарыстычны пост. Даючы яго сьвятар у лацінскім абрадзе кажа: “Прыймі брат (або сястра) Харч Госпада нашага Ісуса Хрыста, які няхай цябе сьцеражэ ад злога ворага і завядзе ў вечнае жыцьцё”.

**Наш адказ Богу:** Буду так жыць, каб калісьці я мог памерці з Хрыстом і разам з Ім уваскроснуць.

**Прыклад малітвы:** “Госпадзе Ісусе, прымі дух мой” (Дз. 7, 59).

**Навука Царквы:** “Тайна чалавечай долі найвыразьней выяўлаецца ў хвіліну сьмерці. Ня толькі болі ды прагрэсыўны разклад цела мучыць тады чалавека, але такжа і пры тым яшчэ больш страх перад поўным зьнішчэньнем. Чалавек не памыляецца, калі інстынктам свайго сэрца ня хоча пагадзіцца з аканчальным зьнішчэньнем назаўсёды сваёй асобы і адкідвае думку аб гэтым. Зародак вечнасьці, які чалавек носіць у сабе, дзеля таго, што ён ня ёсьць толькі матэрыяй, бунтуецца супраць сьмерці. Усе намаганьні тэхнікі, хоць вельмі карысныя, ня могуць перамагчы гэтага страху, бо біялагічнае прадоўжваньне жыцьця ня можа заспакоіць жаданьня, каб жыць далей, якое прабывае ў сэрцы чалавека і не даецца вырваць зь яго” (Пастаральная Канстытуцыя 18).

**Пытаньні да сто першае катэхэзы:**

217) Чым ёсьць сьмерць хрысьціяніна?

**Адказ:** Сьмерць хрысьціяніна ёсьць злучэньнем на векі з Хрыстом.

218) Як хрысьціянін прымае ўдзел у Хрыстовай сьмерці?

**Адказ:** Хрысьціянін прымае ўдзел у Хрыстовай сьмерці цераз Хрост, цераз пастаяннае ўміраньне для граху і праз злучэньне сваіх цярпеньняў і сьмерці з цярпеньнямі і сьмерцю Хрыста.

КАТЭХЭЗА CII.

## 102. Злучаныя з Хрыстом у гэтым жыцьці астаюцца пасьля сьмерці злучанымі з Ім на заўсёды ў небе

*“Хто слухае Маё слова і верыць Таму, Хто Мяне паслаў, мае вечнае жыцьцё і на суд ня йдзе, але перайшоў ад сьмерці ў жыцьцё” (Ян. 5, 24).*

Хрыстос прыйшоў на зямлю на тое, каб даць людзям надпрыроднае жыцьцё. “Я прыйшоў, каб мелі жыцьцё і мелі болей” (Ян. 10, 10). Ужо тут на зямлі Ён дае гэтае жыцьцё тым, што ў Яго паверaць і ахрысьцяцца: “Хто прабывае ў ва Мне і Я ў ім, той прыносіць багата пладоў” (Ян. 15, 5). Прышчэпленыя ў Хрыста ёсьць Божымі дзяцьмі. Цераз Хрост яны прымаюць удзел у жыцьці Найсьвяцейшай Тройцы пры помачы веры, надзеі і любові. Хрысьціянскае жыцьцё развіваецца цераз паглыбленьне гэтага ўдзелу.

Калі чалавек вытрывае да сьмерці ў лучнасьці з Хрыстом, астанецца на заўсёды з Ім у небе. “Умілаваныя! Мы цяпер дзеці Бога, але яшчэ ня выявілася, чым мы будзем. Ведаем толькі, што калі выявіцца, дык будзем падобныя да Яго, бо ўбачым Яго такім, якім Ён ёсьць” (1 Ян. 3, 2). Супольнасьць з Хрыстом дае ўдзел у Ягонай славе: “Вы прынялі духа ўсынаўленьня, у якім і клічам: “Авва, Ойча!” А калі мы дзеці, дык і насьледнікі: насьледнікі Божыя, насьледнікі супольна з Хрыстом, калі і церпім з Ім мукі, дык каб з Ім і ўславіцца” (Рым. 8, 15-17).

Хрысьціянская надзея асягае сваю мэту. Вера, якая на зямлі пазваляе нам пазнаваць Бога яшчэ няясна, уступіць месца яснаму і безпасярэдняму пазнаньню (1Кар. 13, 12). Гэтае пазнаньне адслоніць перад намі тайны ўнутранага жыцьця Бога ды ўсё тое, што Бог для чалавека зрабіў. Толькі тады людзі пазнаюць, як Бог выратаваньне прыгатаваў, як здзейсьніў яго цераз Свайго Сына. Тады пазнаюць таксама, кім для сьвету ёсьць Ісус Хрыстос і як Ён цераз Сьвятога Духа дзеяў у Царкве і ў кожнай чалавечай душы.

З гэткага поўнага пазнаньня любоў набярэ новай сілы і зьвяжа выратаваных з Богам неразрыўна і назаўсёды. Сьвяты Пётр называе жыцьцё ў небе “незьнішчальным і невянучым” (1 Пятр.1, 4). А сьвяты Павал – “ня маючай канца ўзнагародай” і “бязмерам славы” (2 Кар. 4, 17).

Гэтак сама збаўленыя ў небе пазнаюць тайну Царквы, ейную сувязь з Хрыстом-Сьвятаром і адзіным пасрэднікам. Даведаюцца таксама, чым яны абавязаныя сваім братам у Хрысьце. Гэтае пазнаньне павялічыць узаемную любоў усіх збаўленых. Гэтая любоў ня будзе ўжо ніколі нічым закалочана і ня спыніцца ніколі.

Неба дае найвялікшае шчасьце і вынікаючую з яго радасьць: “Чаго ня бачыла вока і ня чула вуха, і што не ўзыходзіла ў сэрца чалавека, тое Бог прыгатаваў тым, што Яго любяць” (1 Кар. 2, 9).

Царква, паглыбляючыся ў Божае Аб’яўленьне, навучае, што найвялікшае шчасьце ў небе дае магчымасьць бачыць Бога. Таму заве гэтае шчасьце ашчасьліўліваючым агляданьнем Бога. Яна вучыць гэтак сама, што неба – гэта стан шчасьлівасьці і месца, дзе ангелы і сьвятыя лучацца з Богам. Аднак нам нічога ня ведама, дзе гэтае месца знаходзіцца.

Абапіраючыся на Аб’яўленьні Царква таксама навучае, што шчасьце ў небе будзе ня роўнае для ўсіх, але будзе залежнае ад ступені заслугаў і злучэньня з Богам, асягнутых на зямлі: “Хто сее скупа, той скупа і пажне; а хто сее шчодра, той шчодра і пажне” (2 Кар. 9, 6).

У неба пойдзе адразу пасьля сьмерці той, хто памірае ў стане асьвячаючае ласкі, ня мае малых грахоў і даўгоў адносна Бога і бліжніх.

Літургія часта зьвяртае нашыя думкі на неба. Асабліва робіць гэта ў такія сьвяты, як Ушэсьце Госпада або Ўнебаўзяцьце Найсьвяцейшае Дзевы Марыі. А ў сьвята Ўсіх Сьвятых мы праслаўляем усіх выратаваных у небе.

**Наш адказ Богу:** Буду старацца жыць паўней верай, надзеяй і любоўю.

**Прыклад малітвы:** Усемагутны, вечны Божа, Ты прыняў у нябесную славу цела і душу Бязвіннай Дзевы Марыі, Маткі Твайго Сына, зрабі, просім мы Цябе, каб мы зьвяртаючыся безупынна да нябесных справаў, заслужылі сабе ўдзел у Ейнай славе.

**Божае Слова:** “Зьбірайце сабе скарбы ў небе, дзе ані моль, ні іржа ня нішчыць, і дзе злодзеі не падкопваюцца і не крадуць” (Мац. 6, 20). – “Павал, Божы слуга і апостал Ісуса Хрыста дзеля пашырэньня веры… ў надзею вечнага жыцьця, якое прарок Бог, Які не ашуківае” (Ціт. 1, 1-2). – “Калі зямны наш дом, хаціна, разваліцца, дык мы маем ад Бога будоўлю на нябёсах, дом нерукатворны, вечны” (2 Кар. 5, 1). – “Радуйцеся і цешцеся, бо вялікая ўзнагарода чакае вас на небе” (Мац. 5, 12).

**Навука Царквы:** “Душы тых, што пасьля сьвятога Хросту ня заплямілі сябе ніякім грахом, як і тыя душы, якія хоць і спляміліся грахамі, але ачысьціліся ці яшчэ пры жыцьці, ці пасьля сьмерці, ідуць адразу ў неба і бачаць Бога Адзінага ў Тройцы тварам у твар” (Дакрэт Сабору ў Флёрэнцыі 1439 год).

**Пытаньні да сто другой катэхэзы:**

219) Хто прабывае ў небе?

**Адказ:** У небе прабываюць тыя, што ў хвіліну сьмерці былі злучаныя з Богам у Хрысьце Ісусе.

220) Што ў небе дае найвялікшае шчасьце?

**Адказ:** Найвялікшае шчасьце ў небе дае магчымасьць бачыць Бога такім, якім Ён ёсьць і любіць Яго.

КАТЭХЭЗА CIII.

## 103. Хрыстос у Сваёй міласэрнасьці дае магчымасьць дапоўніць пакуту пасьля сьмерці

*“Усё, што дае мне Айцец, прыйдзе да Мяне, і таго, што да мяне прыходзе, Я ня выганю вон, бо Я зыйшоў з неба не дзеля таго, каб чыніць Маю волю, але волю паслаўшага Мяне Айца; воля ж паслаўшага Мяне Айца ёсьць тая, каб з таго, што Ён Мне даў, нічога не загубіць, але ўваскрасіць усё гэнае ў апошні дзень” (Ян. 6, 37-39).*

Пілігрымуючая Царква рупіцца аб долі душаў, якія аддзяліўшыся ад цела ня могуць адразу пайсьці ў неба, бо патрабуюць яшчэ выплаціць Божай справядлівасьці даўгі граху. Царква пасьпешна прыходзе ім на помач. Пабуджае яе любоў, якая лучыць пілігрымуючую, церпячую і праслаўленую Царкву.

У кожнай сьвятой Літургіі пасьля перамены Сьвятых Дароў Царква моліцца за памёрлых: “Прыпомні таксама, Госпадзе, Сваіх слугаў і служак (успамінае імёны тых, за каго асабліва моліцца), якія нас папярэдзілі са знакам веры і сьпяць сном супакою. Ім ды ўсьм адпачываючым у Хрысьце вызнач, просім Цябе, Госпадзе, месца халадку, сьвятла і супакою”.

Каб зьвярнуць увагу веруючых на канечнасьць памяці аб памерлых, Царква ўстанавіла на Захадзе Задушны Дзень другога лістапада, у якім кожны сьвятар мае права адправіць аж тры сьвятыя Літургіі за памерлых. Адну можа ахвяраваць за каго сам хоча, другую за ўсіх памёрлых веруючых, а трэцяю за душы тых людзей, якія зрабілі вялікія ахвяры на манастыры, спадзяваючыся, што манахі будуць за іх маліцца пасьля іхняе сьмерці. Пачынаючы ад францускай рэвалюцыі бязбожнікі шмат дзе абрабавалі манастыры, разагналі манахаў і зьнішчылі запісы на карысьць гэтых рупных аб сваю вечнасьць людзей. Але Царква аб іх не забылася і загадала

сьвятарам, якія захочуць у гэтым дню адправіць трэцюю сьвятую Літургію, каб ахвяравалі яе за гэтыя душы. На Ўсходзе Царква моліцца за памёрлых у кожную суботу і ўстанавіла некалькі Задушных Субот, а таксама Задушны Дзень, званы ў нас на Беларусі “Раданіцай”, у першы дзень пасьля Праводнай Нядзелі.

Царква адпраўляе сьвятую Літургію за памерлых у дзень сьмерці або паховін, а таксама на Захадзе ў трэці, сёмы і трыццаты, на Ўсходзе – ў трэці, дзевяты і саракавы дзень пасьля сьмерці. У ва ўсей Царкве трымаецца пабожны звычай адпраўляць сьвятую Літургію ў кожныя ўгодкі сьмерці. За памёрлых можна ахвяраваць кожную сьвятую Літургію незалежна ад колеру адзеньня ў якім яна адпраўляецца, бо гэта залежыць ад гэтак званае “клясы” сьвяткаваньня.

Доказам рупнасьці з боку Царквы аб памёрлых ёсьць шмат прыгожых малітваў і багаслужбаў за памёрлых, асабліва сам абрад паховін.

Молячыся за памёрлых, Царква верыць, што душа чалавека, які памёр ня маючы на сумленьні цяжкага граху, а толькі звычайныя, дробныя, ды яшчэ не адпакутаваў за цяжкія, дараваныя ўжо грахі, можа дапоўніць сваю пакуту пасьля сьмерці. Гэтая пакута завецца “чысцам”. Міласэрны Бог, які ня хоча, каб грэшны чалавек вечна згінуў, дае яму гэтую магчымасьць адбыць пакуту пасьля сьмерці. Гэтую веру Царква атрымала з Божага Аб’яўленьня дадзенага яшчэ ў Старым Запавеце. Калі Юда Макавей перамог Сырыйцаў, пасьля бою ягоныя жаўнеры маліліся за забітых сваіх сяброў, а сам Юда, сабраўшы даволі многа серабра, паслаў у Ерусалім, каб там у сьвятыні прынясьлі ахвяры за памёрлых. Як бачым, ён верыў, што цераз гэтую ахвяру, памёрлым могуць быць дараваныя грахі (2 Мак. 12, 43-46).

Гэтую веру пацьвярдзіў Новы Запавет. Сьвяты Ян піша, што ў неба “ня ўвойдзе нічога нячыстага” (Ап. 21, 27; Мац. 5, 26; 12, 32; 1 Кар. 3, 11-15).

Душы ў чысцы вельмі мучацца тым, што ня могуць яшчэ злучыцца з Богам, якога вельмі ўжо любяць, але саромяцца сваёй брыдоты і ні за што не згадзілісяб прыблізіцца да яго гэткімі нячыстымі. Дык згаджаюцца на гэтую балючаю для іх апэрацыю, якая вымагае часу і гэтага часу Бог ім не шкадуе. А скароціць яго яны самі ня могуць. Дык цярпяць спакойна, бо ведаюць, што нічога горшага ім ужо не пагражае і як толькі скончыцца іхная пакута, знойдуцца ў небе. Але яны вельмі ўдзячныя і часта патрапяць адплаціцца тым, што ім памагаюць з гэтага сьвету зьменшыць ці скараціць іхную пакуту.

**Наш адказ Богу:** Буду штодзень маліцца за памерлых.

**Прыклад малітвы:** Вечны адпачынак дай ім, Госпадзе, і вечнае сьвятло няхай ім засьвеціць.

**Навука Царквы:** “Калі яны памруць з сапраўдным сумам з прычыны сваіх грахоў, але перш, чым пасьпеюць пладамі годнымі пакуты направіць тое, што зрабілі дрэнна, або чаго не зрабілі, хоць павінны былі ды маглі зрабіць, тады іхнія душы пасьля сьмерці ачышчаюцца ў чысцовых муках, званых ачышчаючымі. І гэтыя мукі ім могуць аблягчыць жывыя веруючыя людзі: ахвярай сьвятой Літургіі, малітвамі, міласьцінай і іншымі пабожнымі ўчынкамі” (II Ліонскі Сабор, 1274 г.) – “Прызнаю, што існуе чысьцец і што прабываючая ў ім душа атрымлівае помач цераз заступніцтва веруючых” (Трыдэнцкае Вызнаньне Веры і Канстытуцыя аб Царкве 49 і 50).

**Пытаньне да сто трэцяе катэхэзы:**

221) У чым аб’яўляецца Божая міласэрнасьць адносна памерлых?

**Адказ:** Божае міласэрдзе адносна памерлых аб’яўляецца ў тым, што яно пазваляе ім дапоўніць у чысцу пакуту за грахі, калі яны не зрабілі гэтага жывучы на гэтым сьвеце.

## *IV. Адыход і паварот*

*“Прад Табой, Табой адзіным саграшыў я і зрабіў прыкрае Табе” (Пс. 50, 6).*

КАТЭХЭЗА CIV.

# 104. Хрысьціянін праз грэх адыходзіць ад Бога і аслабляе сьвятасьць Царквы

*“У аднаго чалавека былі два сыны. І сказаў малодшы з іх бацьку: “Айцец, дай мне належную мне частку маемасьці”. І бацька падзяліў ім маемасьць. І праз нейкі час малодшы сын, сабраўшы ўсё, пайшоў у далёкую старану і там змарнаваў сваю маемасьць, жывучы распусна” (Лук. 15, 11-13).*

У Тайне Хросту Бог усынаўляе чалавека і прымае яго ў Сваю сям’ю. Чалавек уваходзе ў супольнасьць сьвятых, якія жывуць верай, надзеяй і любоўю спаўняючы ва ўсім Божую волю і працуюць каб навесьці на нова парадак папсаваны грэхам ды каб накіраваць увесь сьвет да Бога.

У Тайне сьвятога Хросту чалавек атрымлівае Сьвятога Духа. Сьвяты Дух памагае ахрышчанаму што раз лепш любіць Бога і бліжніх, ды праз гэта прычыняцца да ўзросту сьвятасьці ў Царкве і да скіраваньня ўсяго сьвету да Бога.

Калі чалавек дабравольна не спаўняе Божай волі – грашыць. Тады любоў слабее ў ім і ён адыходзіць ад Бога. Часам толькі аддаляецца, а часам дык адыходзіць зусім ад Яго. Тады ён, як марнатраўны сын, пакідае бацькоўскі дом, перастае быць членам Божае сям’і, Божым сынам. Перастае Яго любіць. Адмаўляецца супрацоўнічаць з Ім у супольнасьці сьвятых, аслабляе сьвятасьць і пасьпяховасьць уплыву на сьвет гэтае супольнасьці, на чым траціць усё чалавецтва.

Адыход ад Бога можа быць поўны або частковы. Поўны ёсьць тады, калі чалавек зусім сьведама і дабравольна адварочваецца ад Бога, адказваючыся выпаўніць Божую волю, выражаную ў выразным загадзе ды пры тым у важнай рэчы. Гэта ёсьць правіннасьць ня толькі супраць Бога, але і супраць Царквы, бо памяншае ейную сьвятасьць, і супраць самога чалавека, бо парывае ягоную лучнасьць з Богам. Частковы адыход ад Бога завецца лёгкім грахом. Чалавек грашыць лёгка, калі ён супраціўляецца Божай волі ў менш важнай рэчы, або хоць і ў важнай рэчы, але не зусім свабодна і дабравольна або не зусім сьведама. Частковы адыход ад Бога ёсьць таксама правінаю супраць Бога, бо чалавек не аказвае Богу належнай любові, ды ёсьць правінаю супраць Царквы, бо памяншае ейную сьвятасьць і супраць самога чалавека, бо аслабляе ягоную лучнасьць з Богам.

**Наш адказ Богу:** Ведаючы, чым ёсьць грэх, буду яго вельмі сьцерагчыся.

**Прыклад малітвы:** Божа, Які робіш так, каб любячым Цябе ўсё служыла да дабра, дай нашым сэрцам пачуцьцё такой стойкай Тваёй любові, каб аніякая спакуса не змагла пагасіць жаданьняў, якія ад Цябе прыходзяць.

**Божае Слова:** “Бо што за карысьць чалавеку, калі б здабыў увесь сьвет, а сваёй душы прычыніў бы шкоду” (Мар. 8, 36). – “Адзін грэшнік можа папсаваць шмат дабра” (Экл. 9, 18). – “Хто грашыць, той крыўдзіць сваю душу” (Сыр. 19, 4). – “Сынок, ты саграшыў? Не рабі больш гэтага і за папярэднія свае грахі прасі прабачэньня. Уцякай ад граху, як ад гадзіны, бо ўкусіць цябе, калі прыблізішся. Ягоныя зубы – гэта зубы льва, што зьядаюць чалавечае жыцьцё. Кожнае нарушэньне закону як двухбаковы гостры меч і на рану ад яго няма лякарства… Шлях грэшнікаў гладкі і бяз каменьняў, але вядзе ён у бездань пекла” (Сыр. 21, 1-10).

**Пытаньні да сто чацьвёртае катэхэзы:**

222) Чым ёсьць грэх?

**Адказ:** Грэх ёсьць бунтам процiў волі Божай.

223) Што робіць цяжкі грэх?

**Адказ:** Цяжкі грэх парывае нашую лучнасьць з Богам і памяншае сьвятасьць Царквы.

224) Што робіць лёгкі грэх?

**Адказ:** Лёгкі грэх аслабляе нашую лучнасьць з Богам і зьмяншае сьвятасьць Царквы.

КАТЭХЭЗА CV.

*“Усякае дрэва, што не дае добрага плоду, асякаюць і кідаюць у агонь” (Мац. 7, 19).*

## 105. Тыя, што паміраюць адлучанымі ад Хрыста, ня будуць Яго бачыць на векі

*“Памёр убогі і ангелы занесьлі яго на лона Абрагама. Памёр і багач, і пахавалі яго. І ў пекле, будучы ў муках, ён падняў свае вочы ды ўбачыў здалёк Абрагама і Лазара ў яго на лоне. Дык пачаў крычаць: “Ойча Абрагам! Зжалься нада мною і пашлі Лазара, каб абмакнуў у ваду канец свайго пальца і асьвяжыў мой язык, бо я страшэнна мучуся ў гэтым полымі” (Лук. 16, 22-24).*

Ісус Хрыстос, у Якім аб’явілася любоў Бога Айца і Які аказваў міласэрдзе грэшнікам ды ўсё рабіў, каб іх да сябе прыцягнуць, гаварыў таксама часта, што хто не навернецца, будзе назаўсёды адкінуты.

У прыповесьцях Ён вучыў, што добрыя будуць аддзелены ад дрэнных так, як пшаніца ад кукалю (Мац. 13, 24-30), як добрая рыба ад дрэннай (Мац. 13, 47-50). Аб гэтым самым Ён навучае гаворачы аб страшным судзе: “І пойдуць гэтыя на вечныя мукі, а праведнікі – ў вечнае жыцьцё” (Мац. 25, 46). Добрыя будуць з Хрыстом і са сьвятымі, а дрэнных адлучаць ад Яго і ад супольнасьці сьвятых. Гэтае адлучэньне будзе аканчальным і на заўсёды.

У прыповесьці аб багачу і Лазару (Лук. 16, 19-31) Хрыстос тлумачыць, што апрыч аддзяленьня ад Бога, адкінутых чакаюць яшчэ такія страшныя мукі, як смага пасярод агню: “страшэнна мучаюся ў гэтым полымі” (Лук. 16, 24). Гэтае адлучэньне ёсьць аканчальным і вечным.

Гаворачы аб апошнім судзе Хрыстос гэтак сама кажа, што асуджаныя пойдуць у вечны агонь прыгатаваны чорту і ягоным слугам: “Ідзіце ад Мяне праклятыя, у вечны агонь, прыгатаваны чарту і ягоным ангелам” (Мац. 25, 41).

Хрыстос навучае гэтак сама, што цярпець будзе ўвесь чалавек – цела і душа: “Ня бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы ня могуць забіць; бойцеся больш таго, хто можа і душу, і цела загубіць у пекле” (Мац. 10, 28).

Гэтая сумная доля чакае тых, што ня прынялі Хрыстовага закліку каб навярнуцца, што не супрацоўнічалі з Божай ласкай і не зрабілі нічога добрага, што адкінулі Божую любоў. Яны былі як дрэва, што не дае пладоў (Мац. 7, 19), як чалавек, якога запрасілі на банкет, а ён прыйшоў бяз адпаведнае вопраткі (Мац. 22, 1-14), як дурныя дзевы, што не прыгатаваліся,

каб спаткаць на вясельлі маладога (Мац. 25, 1-13). Гэтыя ня могуць увайсьці ў вечнае шчасьце.

Кожны цяжкі грэх аддзяляе чалавека ад Хрыста. Аканчальнае аддзяленьне чалавека ад Хрыста наступае тады, калі чалавек памірае. Чалавек адразу пераходзіць на заўсёды ў такі стан, які ён сам сабе ў жыцьці дабравольна выбраў. Калі ён памірае адкінуўшы Хрыста, Хрыстос яго адкідвае.

Страшная доля чакае адкінутых. Пакуль ён жыў, як хрысьціянін, ён толькі верай пазнаваў Бога. Цяпер ён ужо ведае, Хто такі Бог і зразумеўшы, Каго страціў, пачынае страшэнна сумаваць і мучыцца. Кожны хрысьціянін пакуль жыве цешыцца надзеяй. Цяпер страціўшы на заўсёды Бога, ён ня можа мець аніякае надзеі. А гэта ёсьць найвялікшым цярпеньнем, якое ведама чалавеку і якога чалавек звычайна не перажывае. Але найстрашнейшай карай за грэх ёсьць не магчымасьць любіць Бога, бо толькі ў гэтым кожны чалавек можа знайсьці сваё поўнае і найвялікшае шчасьце. Цяпер чалавек бачыць, што гэтае магчымасьці ён ужо ня мае і мець ня можа, бо сам дабравольна ад яе адрокся.

Аб цярпеньнях цела як і аб месцы, дзе будуць прабываць адкінутыя, нічога Божае Аб’яўленьне выразна нам не гаворыць.

**Наш адказ Богу:** Буду так жыць, каб сьмерць знайшла мяне злучаным з Хрыстом.

**Прыклад малітвы:**

З жахам бачу грахоў хмары,
Чырванее стыд на твары,
Добры Божа, збаў ад кары!
Дараваў Ты Магдалене,
Душагубцы даў збаўленьне –
Мне-ж надзею ў адкупленьне.
Мая просьба мала знача, –
Добры Божа, дай аднача, –
Ў вечных муках хай ня плачу.

**Божае Слова:** “Калі зводзіць цябе твая рука, адсячы яе; лепей табе калекаму ўвайсьці ў жыцьцё, чымся з дзьвума рукамі йсьці ў пекла, у неўгасаючы агонь” (Мар. 9, 43). – “Так будзе пры сканчэньні сьвету: зыйдуць Ангелы і выдзяляць благіх спасярод справядлівых і ўкінуць іх у вагністую печ; там будзе плач і скрыгат зубоў” (Мац. 13, 49-50). – “Дык ня сьпіце, бо ня ведаеце ні дня, ні гадзіны” (Мац. 25, 13).

**Пытаньні да сто пятае катэхэзы:**

225) Хто прабывае ў пекле?

**Адказ:** У пекле прабываюць тыя, што памерлі адлучанымі ад Бога.

226) Што нам ведама аб няшчасьці тых, хто прабывае ў пекле?

**Адказ:** Аб тых, што прабываюць у пекле, нам ведама, што яны назаўсёды адкіненыя ад Бога і ад супольнасьці сьвятых у небе, ды мучаюцца тым самым агнём, што і чэрці.

КАТЭХЭЗА CVI.

## 106. Што нас можа адвясьці ад Хрыста?

*“Шчасьлівы чалавек, які перατрывае спакусу, бо калі скончыцца для яго спроба, ён атрымае вечнае жыцьцё, якое Бог абяцаў тым, што Яго любяць” (Як. 1, 12).*

Хоць грэх ёсьць найвялікім злом для самога чалавека, аднак шмат людзей, нават ахрышчаных, адказваюцца спаўняць Божую волю і адварачваюцца ад Бога, інакш кажучы па-багаслоўску – грашаць.

Паўстае пытаньне: Што людзей даводзіць да граху? Можна лёгка праканацца, што ёсьць тры галоўныя крыніцы граху.

Першай крыніцай граху ёсьць сама прырода чалавека, якую першародны грэх папсаваў так, што цяпер зло пацягвае яе мацней, чым дабро. Аб гэтым так піша сьвяты Павал: "Ведаю, што не жыве ў-ва мне (гэта значыць у целе маім) добрае; бо жаданьне ёсьць ува мне, але каб зрабіць добрае, таго не знаходжу. Бо добрага, што хачу, не раблю, а благое, якога не хачу, раблю. Калі-ж раблю тое, чаго не хачу, ужо не я раблю гэта, але грэх, што жыве ў-ва мне. І вось я знаходжу закон, што, калі хачу рабіць добрае, ляжыць прада мною благое. Бо, водле нутранога чалавека, знаходжу задавальненьне ў Божым законе; але ў маіх членах бачу другі закон, што змагаецца з законам майго розуму і робіць мяне нявольнікам закону граху, які ёсьць у маіх членах" (Рым. 7, 18-23).

Гэтае вось раздваеньне, аб якім піша сьвяты Павал і ёсьць наступствам першароднага граху. Дык у кожным чалавеку ёсьць благія нахілы або пажадлівасьці, якія яго цягнуць да злога. "Кожны спакушаецца, захоплены і прываблены ўласным пажаданьнем, а пасьля пажаданьне, зачаўшы, спараджае грэх, а зроблены грэх родзіць сьмерць" (Як. 1, 14-15). Сьвяты Ян называе тры галоўныя пажадлівасьці: пажадлівасьць цела або пачуцьцёвасьць, пажадлівасьць вачэй або прагавітасьць багацьця ды пыха жыцьця або ўзвышаньне сябе над другімі (1 Ян. 2, 16). Калі чалавек паддаецца гэтым пажадлівасьцям і паўтарае часта вынікаючыя з іх учынкі, дык прывыкае да іх. А дрэнныя прывычкі павялічваюць у чалавеку раздваеньне і яшчэ лягчэй даводзяць яго да граху.

Другой крыніцай граху ёсьць гэтак званы сьвет. Асяродзьдзе, у якім мы жывём, мае на нас магутны ўплыў. Яно памагае нам да добрага, калі яно добрае, але гэтак сама папіхае і да благога, калі яно будзе благое. Пераварodны грэх ня толькі разбудзіў у людзей нахілы да граху наагул, але аддаў усё чалавецтва ў няволю той страшнай нячыстай сілы, ад якой Хрыстос прыйшоў нас вызваліць. Хрыстос называе сьветам людзей, якія дабравольна астаюцца ў няволі "князя або валадара гэтага сьвету", чорта, ад якога Хрыстос прыйшоў адабраць уладу, каб у канцы аддаць яе Богу, да Якога яна заўсёды належала. Толькі Бог Сваё Валадарства ня хоча ствараць прымусам, бо шануе свабодную волю ангелаў і людзей. Чорт гэтак сама запанаваў над чалавецтвам хітрасьцю і маной, але сваіх нявольнікаў ён вучыць ужываць прымус, каб толькі не дапусьціць наступленьня Божага Валадарства. Таму каб перамагчы прымус і паказаць ягонае бязсільле Хрыстос выбраў Крыж, якім пакрышыў зброю чорта – грэх і сьмерць – і ягоных уласных руках. Сьмерцю можна страшыць людзей, якія абапіраюцца толькі на самых сябе, але ня можна застрашыць Бога, ані тых, каму Бог абяцаў за вернасьць Сабе вечнае жыцьцё.

Нявольнікаў чорта Хрыстос і назваў гэтым словам "сьвет". Іх ня трудна будзе пазнаць па нянавісьці і варожасьці да Бога і да Хрыста Бога, які стаўся чалавекам. "Калі сьвет вас ненавідзіць, ведайце, што Мяне ён раней чым вас зьненавідзіў. Калі-б вы былі са сьвету, сьвет пэўна-ж любіў бы сваё, але таму што вы ня з сьвету, дык за гэта ненавідзіць вас сьвет" (Ян. 15, 18-19). Перад благім сьветам, які вядзе да граху, перасьцерагае сьвяты Ян: "Ня любіце сьвету, ні таго, што ў сьвеце. Хто любіць сьвет, у тым няма любові Айца. Бо ўсё, што ў сьвеце, – пажаданьне цела, пажаданьне вачэй і жыцьцёвая пыха, – ня ёсьць ад Айца, але ад гэтага сьвету. І сьвет праходзе, і ягоная

пажадлівасьць, а хто выпаўняе Божую волю, той трывае да веку” (1 Ян. 2, 15-17).

Як трэцюю крыніцу граху Аб’яўленьне называе чорта, які намагаецца запанаваць над намі ды зрабіць з нас сваіх нявольнікаў з дапамогаю граху. Сьвяты Пётр піша: “Будзьце цьвярозымі, ня сьпіце, бо вораг ваш д’явал, як леў рыкаючы ходзіць навокал, шукаючы, каго праглынуць” (1 Пятр. 5, 8). Чорт выкарыстоўвае нашыя благія нахілы і адпаведна да іх падсоўвае нам уяўленьні, думкі і нагоды да граху.

Хоць небяспекі да граху і ёсьць вялікімі, аднак хрысьціянін можа супраціўляцца ім з Божай помачай. А Бог толькі аб тым і думае, каб яму памагаць. Усё, што Бог зрабіў у гісторыі выратаваньня, заахвочвае да таго, каб чалавек злучаны з Хрыстом перамагаў грэх. Трэба толькі супрацоўнічаць з Божай помачай. Спосаб змаганьня з небяспекамі граху падае Хрыстос: “Ня сьпіце і маліцеся, каб не паддацца спакусе” (Мац. 26, 41).

Трэба ня спаць, гэта значыць быць асьцярожным, сьцерагчыся таго, што можа давесьці да граху. “Хто любіць небяспеку, той у ёй згіне… а нахабнік будзе прыбаўляць грэх да граху” (Сыр. 3, 26-27). Таму: “Уважай на абставіны і сьцеражыся благога, дык і ня трэба будзе пасьля сароміцца перад самім сабой” (Сыр. 4, 20). Перад грахом перасьцерагаюць нас бацькі, настаўнікі, старэйшыя. Дык хто паддаецца ўплывам добрага ўзгадаваньня, той усьцеражэцца многіх грахоў. Аднак нельга жыць толькі чужым розумам. Дык каб навучыцца самому змагацца з спакусамі да граху, чалавеку патрэбна яшчэ пастаяннае самаўзгадаваньне. Тым больш, што грэх ляжыць ня ў вонкавых рэчах, а толькі ў нашай вольнай волі.

І яшчэ трэба помніць, што аднаго толькі, хоць бы і найлепшага, ўзгадаваньня ці самаўзгадаваньня ня хопіць бяз Божай помачы. Таму трэба яшчэ маліцца, каб яе атрымаць. Бог заўсёды гатовы даць нам яе, але мы бываем непрыгатаваны, каб яе прыняць. Дык вось малітва і прыгатаўляе нас на прыняцьце помачы Божай. Перасьцерагаючы перад чортам, сьвяты Пётр піша: “Станьце насупраць яму цьвёрдыя вераю” (1 Пятр. 5, 8). А сьвяты Павал кажа: “Дзеля гэтага прыміце ўсю Божую зброю, каб вы маглі ўстаяць у ліхі дзень і, усё зрабіўшы, застацца стаяць” (Эф. 6, 13). Гэтай “поўнай Божай зброяй” у змаганьні са спакусамі ёсьць малітва ды Эўхарыстыя: “Я – хлеб жыцьця… хто есьць яго, не памрэ” (Ян. 6, 48-50).

**Наш адказ Богу:** Буду ня спаць і маліцца, каб не паддацца спакусе.

**Прыклад малітвы:** Ня ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога.

**Божае Слова:** “Пакарыцеся Богу, супраціўцеся чорту, і ўцячэ ад вас. Падыйдзіце бліжэй да Бога, і прыблізіцца да вас. Ачысьціцце рукі, грэшнікі, папраўце сэрцы, двудушныя” (Як. 4, 7-8). – “Па-над усё вазьміце шчыт веры, якім зможаце затушыць усе распаленыя стрэлы нячысьціка; і шалом збаўленьня вазьміце, і меч духоўны, якім ёсьць Божае слова; усякаю малітваю і просьбаю малецеся ў-ва ўсякі час духам” (Эф. 6, 16-18).

**Навука Царквы:** “Чалавек ёсьць унутрана падзелены. Дзеля гэтага ўсё чалавечае жыцьцё, як адзінак, так і грамадзтва, прадстаўляецца як змаганьне, ды пры тым драматычнае паміж дабром і злом, паміж сьвятлом і цемрай. Больш таго, чалавек адкрывае, што ён не патрапіць пасьпяхова перамагчы сваімі сіламі напасьці зла, так што кожны чуецца як бы зьвязаныя ланцугамі. Але сам Госпад прыйшоў, каб чалавека асвабадзіць і ўзмацаваць, аднавіўшы яго ўнутрана і выганяючы вон “Князя гэтага сьвету” (Ян. 12, 31), які дзяржаў чалавека ў няволі граху” (Пастаральная Канстытуцыя 13).

**Пытаньні да сто шостае катэхэзы:**

227) Што даводзіць хрысьціяніна да адыходу ад Хрыста?

**Адказ:** Да адыходу ад Хрыста даводзіць хрысьціяніна: ягоная прырода з нахіламі да благога, благое асяродзьдзе ды нячыстая сіла.

228) Як хрысьціянін можа супраціўляцца небясьпекам граху?

**Адказ:** Хрысьціянін можа супраціўляцца небясьпекам граху праз неаслабляльную асьцярожнасьць і пільнаваньне сябе, праз малітву і Прыманьне сьвятых тайнаў.

*"Устану і пайду да свайго бацькі" (Лук. 15, 18).*

КАТЭХЭЗА CVII.

# 107. Хрысьціянін праз пакуту звяртаецца да Бога і хоча направіць шкоду, якую зрабіў Царкве

*"Апамятаўшыся, сказаў: колькі наймітаў у майго бацькі маюць лішку хлеба, а я ўміраю ад голаду! Устану, пайду да свайго бацькі і скажу яму: "Айцец! Я саграшыў перад небам і перад табою, і ўжо ня варты называцца тваім сынам; прыймі мяне, як аднаго з тваіх наймітаў". Устаў і пайшоў да свайго бацькі" (Лук. 15, 17-20).*

Царква ведае аб сваёй сьвятасьці. Яна ведае аб тым, што "Хрыстос, Сын Божы, якога яна разам з Айцом і Сьвятым Духам праслаўляе, як "адзінага Сьвятога", палюбіў Царкву як Сваю нявесту, аддаючы Сябе Самога за яе, каб яе асьвяціць… Таму ўсе ў Царкве пакліканыя да сьвятасьці" (Канстытуцыя аб Царкве 39).

Але Царква ведае таксама, што да яе належаць таксама грэшнікі, толькі грэх ня мае ў Царкве аніякага права на існаваньне. Грэх у Царкве існуе толькі на тое, каб яго перамагаць ды замяняць у сьвятасьць. Таму Царква патрабуе ачышчэньня (Канстытуцыя аб Царкве 6). Яна помніць словы сьвятога Якуба: "Усе мы шмат грашым" (Як. 3, 2). І словы сьвятога Яна: "Калі мы скажам, што ня маем граху, – мы ашуківаем саміх сябе і няма ў нас праўды" (1 Ян. 1, 8). Таму ў Царкве ад пачатку можна было пачуць: "Пакайцеся і навярніцеся, каб былі знятыя з вас вашыя грахі" (Дз. 3, 19).

Каб грэшнікі маглі навярнуцца лягчэй, Царква безупынна моліцца за іх, каб выпрасіць для іх Божае зьмілаваньне. У кожнай сьвятой Літургіі яна ахвярue Хрыстовыя і свае пакуты. У Гасподняй Малітве просіць дараваць грахі: "Адпусьці нам нашыя грахі" (Мац. 6, 12). Да Божай Маці звяртаецца з просьбай: "Маліся за нас грэшных". Гэтак сама і да сьвятых у небе.

Асабліва заахвочвае нас да пакуты за грахі Царква ў Вялікім Посьце. Якраз прыгатаўляючы да Хросту ці да прыпамненьня ахрышчаным гэтай тайны ды праз пакуту веруючыя прыгатаўляюцца да абходу Пасхальнае Містэрыі. Разумеючы ролю пакуты Царква жадае, каб яна была ня толькі ўнутранай і індывідуальнай, але таксама вонкавай і калектыўнай (Канстытуцыя аб Літургіі 109-110).

Таксама Царква ахвотна ставіць нам перад вачамі прыклад сьвятых сваіх членаў. Яна хоча, каб іхняе жыцьцё, поўнае пакутаў і вырачэньняў, заахвоціла нас пайсьці сьледам ды разбудзіла жаданьне поўнага павароту да Бога праз пакуту.

Гэткія паводзіны Царквы ёсьць для нас знакам асаблівых адносінаў Бога да грэшнікаў. Бог ня хоча сьмерці грэшніка, але толькі таго, каб ён паправіўся і жыў (Рым. 33, 11). Цярпліва чакае Ён павароту марнатраўнага сына (2 Пятр. 3, 9). Аднак Ён ня толькі чакае. Як добры пастыр Ён шукае згубленай авечкі (Мац. 18, 12-14), або як жанчына шукае згубленай драхмы

(Лук. 15, 1-10), гэтак Бог пацягвае грэшнікаў усьцяж Сваёй ласкай, каб яны захацелі да Яго вярнуцца.

Сам заклік Царквы ёсьць ужо ласкай, якая часта парушае грэшніка, так што ён усьведамляе сабе зло, якога дапусьціўся.

Цераз непаслухмянасьць ён адвярнуўся ад Хрыста, свайго Выратавальніка і Ягонае супольнасьці, якой ёсьць Царква. Гэтым аказаў зьнявагу найлепшаму Айцу і зрабіў крыўду Царкве. Гэта разбуджае ў ім агіду да граху, і жаданьне вярнуцца да Бога. Ён перажывае тое, што ў прыповесьці Хрыста перажываў марнатраўны сын: “Устану і пайду да свайго бацькі” (Лук. 15, 18). І йдзе. Адварочваеццца ад граху і адчувае сум, што саграшыў. Адначасна зьвяртаецца да Бога і жадае пры Ім застацца на заўсёды.

Гэты вось паварот да Бога і да Царквы завецца пакутай. Пакута ёсьць перадусім дзелам Божае ласкі, бо бяз помачы Божай чалавек сам не патрапіў бы гэтага зрабіць: “Ніхто ня можа прыйсьці да Мяне, калі яго не прывабіць Айцец, што паслаў Мяне” (Ян. 6, 44). Але гэта ёсьць таксама дзела самога грэшніка, які сваім розумам прызнае, што грэх ёсьць злом: “Перад Табой, Табой адзіным саграшыў я і зрабіў прыкрае Табе” (Пс. 50, 6). І ганіць тое, што перш хваліў. Воляй адварочваецца ад граху і хоча жыць справядліва. Гэтую сваю ўнутраную перамену грэшнік выражае на вонкі пакутнымі ўчынкамі.

Паварот да Бога вяртае грэшніку Божую любоў, атрыманую на Хросьце і дае яму ізноў магчымасьць жыць як Божае дзіцё. Навернены грэшнік становіцца жывым членам містычнага Хрыстовага Цела. Калі сумуе шчыра, што зрабіў прыкрасьць любаму Айцу, гэты сум ачышчае душу з найцяжэйшых грахоў і робіць у ёй на нова Божае жыцьцё.

Поўную Пакуту перажывае хрысьціянін у Тайне Пакуты. Яно ўстаноўлена як ратунак для ахрышчаных, калі яны ізноў пападуць у няволю граху, які забівае ў іхных душах надпрыроднае жыцьцё. Гэтая тайна памагае чалавеку перамяніцца ўнутрана, каб ён мог “апрануцца ў новага чалавека, які ёсьць створаны паводле Бога” (Эф. 4, 22-24).

**Наш адказ Богу:** Пайду за голасам Царквы, калі пакліча мяне рабіць пакуту.

**Прыклад малітвы:** “Зжалься нада мною, Божа, водле вялікага Твайго міласэрдзя, а па мнагаце зьмілаваньняў сатры маю неправоту. Бо неправоту сваю я знаю, а мой грэх прада мной ёсьць заўсёды. Створы, Божа, у-ва мне чыстае сэрца і аднаві ў-ва мне сілу духа. Не адкідай мяне ад Свайго аблічча і не адбірай ад мяне Свайго Сьвятога Духа” (Пс. 50, 3-13).

**Божае Слова:** “Трубіце ў трубу на Сыёне, наладзьце пост, аб’явіце збор. Збярыце людзей, склікайце сьвятую супольнасьць, збярыце старэйшых, згуртуйце дзяцей аж да грудных улучна, хай малады выйдзе са свайго пакою, а маладуха са сваёй дзявочай. Паміж ганкам і аўтаром няхай плачуць сьвятары, слугі Ягвэ! Няхай кажуць: Даруй, Ягвэ, Свайму народу і не давай Сваёй спадчыны на зганьбаваньне, каб паганцы не запанавалі над намі. Чамуж маюць гаварыць між народамі: Дзе ж ёсьць іхні Бог?” (Яіль. 2, 15-17). – “Пакайцеся, бо прыблізілася Нябеснае Валадарства” (Мац. 3, 2). – “Гора табе, Харазін! Гора табе, Бэтсаіда! Бо калі-б у Тыры і Сыдоне выявілася сіла, што была выяўлена ў вас, то даўно-б яны ў валасяніцы і ў попеле пакаяліся-б” (Мац. 11, 21). – “Учыніце-ж плады, дастойныя пакаяньня” (Мац. 3, 8). – “Пакайцеся – сказаў да іх Пётр – і няхай кожны з вас ахрысьціцца ў імя Ісуса Хрыста дзеля адпушчэньня грахоў; і вазьміце дар Сьвятога Духа” (Дз. 2, 38).

**Навука Царквы:** “Дзеля таго, што ўсе мы шмат грашым, патрэба нам Божае міласэрнасьці і штодзень павінны мы маліцца: адпусьці нам нашы грахі” (Канстытуцыя аб Царкве 40). – “Маці-Царква, кіраваная Сьвятым Духам, безупынна заахвочвае сваіх дзяцей ачышчацца ды абнаўляцца, каб

знак Хрыста яшчэ выразьней ясьнеў на твары Царквы” (Пастаральная Канстытуцыя, 43).

**Пытаньне да сто сёмае катэхэзы:**

229) Чым ёсьць хрысьціянская пакута?

**Адказ:** Хрысьціянская пакута ёсьць унутранай пераменай, калі хрысьціянін, зварушаны Божаю ласкаю, адварачваецца ад граху ды вяртаецца да супольнасьці з Богам у Царкве.

*“Ня саромся прызнацца да сваіх грахоў” (Сыр. 4, 26).*

КАТЭХЭЗА CVIII.

## 108. Хрыстос аказвае міласэрнасьць ў тайне пакуты

*“Мацуйся, дзіця! Адпускаюцца табе твае грахі” (Мац. 9, 2).*

Хрыстос ёсьць аб’яўленьнем любові Бога адзінага ў Тройцы да людзей. Гэтую любоў мы асабліва бачым у адносінах Хрыста да грэшнікаў.

Не аднойчы закідвалі Хрысту, што Ён не цураецца грэшнікаў. На гэты закід Ён адказваў: “Не здаровым патрэбны лекар, а хворым. Я прыйшоў паклікаць да пакуты не справядлівых, але грэшнікаў” (Мац. 9, 12-13). – “Сын Чалавечы прыйшоў знайсьці і ратаваць загінуўшае” (Лук. 19, 10). Калі да Яго прыходзілі грэшнікі, Ён не адганяў іх і не судзіў: “І Я не асуджаю цябе” – сказаў Ён чужаложнай жанчыне (Ян. 8, 1-11). Бо яна пакутавала, дык Хрыстос дараваў ёй грахі. Адносіны Бога да грэшнікаў Хрыстос вобразна выразіў у прыповесьці аб марнатраўным сыне (Лук. 15, 11-32).

Найясьней Божая любоў да грэшнікаў аб’явілася ў цярпеньнях і сьмерці Хрыста. Бог “Сам палюбіў нас і паслаў Свайго Сына дзеля зьмілаваньня над нашымі грахамі” (1 Ян. 4, 10). А гэтае зьмілаваньне аб’явілася на крыжы, які стаўся “Божай сілай для нас, што збаўляемся” (1 Кар. 1, 18), крыніцай усякага прабачэньня.

І цяпер Хрыстос прымае грэшнікаў у Тайне Пакуты. Ён выступае тут як праслаўлены Богам пасрэднік перад Айцом дзякуючы Пасхальнай Містэрыі. Прымае Ён грэшнікаў і адпускае ім грахі праз сьвятароў, бо ўстанаўліваючы Тайну Пакуты пасьля свайго ўваскрасеньня, Ён сказаў апосталам: “Мір вам! Як Айцец паслаў Мяне, так і Я вас пасылаю”. Сказаўшы гэтае, дыхнуў на іх і сказаў ім: “Прыйміце Сьвятога Духа! Каму адпусьціце грахі, таму будуць адпусканы; на кім пакінеце, на тым астануцца” (Ян. 20, 21-23). Гэтая ўлада перайшла да архірэяў або біскупаў, а цераз іх на сьвятароў.

У Тайне Пакуты Хрыстос прымае ізноў грэшнікаў да ўдзелу ў Сваім жыцьці ды ў Сваім Целе – Царкве. Як і тады, калі яшчэ жыў з намі на зямлі, так і цяпер у гэтай тайне Хрыстос адносіцца да грэшнікаў з надзвычайнай дабратой і цераз гэта Ён аб’яўляе нам любоў Бога адзінага ў Тройцы да нас людзей.

Каб грэшнік мог атрымаць дараваньне грахоў у Тайне Пакуты, ён павінен супрацоўнічаць з Хрыстом, Які прабачае яму грахі. Гэтае супрацоўніцтва абымае пяць умоваў тайны Пакуты.

Грэшнік найперш мусіць прыпомніць сабе, чым саграшыў Богу ад апошняй Тайны Пакуты, робячы гэтак званы экзамін сумленьня. Найлягчэй гэта зрабіць пытаючыся сябе: Чым я саграшыў супраць Бога? супраць бліжняга? супраць самога сябе?

Пазнаўшы свае грахі, трэба пачуць сум і воляй адвярнуцца ад граху. Трэба пачаць брыдзіцца грахамі. Тут самае важнае, каб сумаваць з прычыны граху і брыдзіцца ім толькі з узгляду на Бога і на Божае жыцьцё ў нас, аб якім мы

ведаем толькі верай, што яго мы атрымалі ў Тайне Хросту, што грэх забівае ў нас гэтае жыцьцё і што Хрыстос верне яго нам у Тайне Пакуты, калі мы вырачымся граху. Як аб граху мы ведаем толькі верай, што ён забіў нашую душу і яна перад Богам выглядае як памёрлая, так і Божага жыцьця ў сабе мы аніякім пачуцьцем у сабе пачуць ня можам, а толькі верай можам даведацца аб тым, што мы ізноў сталіся Божымі дзяцьмі пасьля таго, як пачуем, што сьвятар дараваў нам усе нашыя грахі. Таму патрэбны тут вонкавы знак, каб вера наша мела на чым абапёрціся і гэтым знакам будзе споведзь. Але перш яшчэ трэба споўніць трэцюю ўмову Тайны Пакуты, якой ёсьць моцная пастанова паправіцца. Трэба сапраўды хацець ужо больш не грашыць і гэта перадусім будзе залежыць ад таго, ці грэшнік патрапіць абрыдзіць сабе грэх. Таму і важна тут пытацца не сваіх пачуцьцяў, не свайго цела, а сваёй душы, свайго розуму, які павінен абаперціся на веры, прыпамінаючы сабе, што грэх супраціўляецца Богу, што мы нарушылі нашыя прырачэньні дадзеныя Богу ў Тайне Хросту супрацоўнічаць з Хрыстом, хто грэх быў прычынай цярпеньняў і сьмерці Хрыста ды што нас за яго чакае кара. Калі хто любіць Бога так, што аж ненавідзіць грэх і брыдзіцца ім, такому чалавеку грахі даруюцца і бяз Тайны Пакуты. Трэба вучыцца часта сумаваць і брыдзіцца грахамі з любасьці да Бога, бо чалавеку часта пагражае небясьпека сьмерці, а не заўсёды ёсьць магчымасьць прыняць Тайну Пакуты. Дык гэткі дасканалы сум з грахоў можа нас ратаваць. Да самой Тайны Пакуты лічыцца дастатковым такі сум з грахоў, калі чалавек пастанаўляе не грашыць, каб ня быць на векі адкінутым праз Хрыста. Ня хопіць толькі не хацець грашыць таму, што гэта чалавеку не карысна ў гэтым жыцьці: можна папасьці ў вастрог, заразіцца паганай хваробай і гэтак далей. Тут няма зусім думкі аб душы, а толькі аб целе. А Хрыстос вучыць думаць перш аб душы, а толькі пасьля можна і аб целе.

Чацьвёртай умовай Тайны пакуты ёсьць споведзь. Каб пачуць ад сьвятара, што грахі ўжо дараваныя Богам, трэба гэтаму сьвятару сказаць свае грахі, каб ён ведаў, што дараваць, а што можа трэба пакінуць, бо чалавек духова яшчэ не прыгатаваўся на тое, каб яму маглі быць дараваныя грахі. Можа напрыклад ён ня мае веры, або зусім ня хоча паправіцца. Хрыстос, як Бог, ведаў, каму маглі грахі быць дараваныя. І тым Ён адразу адпускаў грахі. А сьвятар можа даведацца толькі ад самога грэшніка аб усім гэтым, дык грэшнік павінен яму сказаць усё, што патрэба. А трэба сказаць на споведзі кожны цяжкі грэх. Толькі малых грахоў можна на споведзі ўсіх не гаварыць, бо можа быць гэта проста не магчыма. Яны ўсе будуць разам з вялікімі дараваны, калі чалавек іх хоць агульна ня любіць. На споведзі сьвятар кантралюе, каб усе ўмовы Тайны Пакуты былі выпаўнены, вучыць, як трэба з грахамі змагацца, каб паправіцца і назначае пакутны ўчынак або эпіцімію, гэта значыць направу шкоды ці крыўды зробленай грэшнікам Богу, бліжняму ці нават самому сабе. Эпіцімія ёсьць пятай умовай Тайны Пакуты. Пасьля гэтага сьвятар адпускае грахі асобай малітвай, якая таксама ёсьць вонкавым знакам для грэшніка, каб на ім ён мог абаперці сваю веру і даведацца, што ў імя Хрыста яму ўсе грахі сапраўды дараваны.

З усіх умовін Тайны Пакуты найважнейшымі, як бачым, ёсьць тры: сум з грахоў такі, каб аж чалавек больш не хацеў грашыць, споведзь і выпаўненьне таго, што сьвятар назначыў, гэта значыць эпіціміі, званай часам пакутай. Сьвятар павінен мець ад біскупа дазвол спавядаць.

Пасьля цяжкага граху трэба як найхутчэй пайсьці да споведзі, бо нам самім вельмі трудна пазнаць, ці мы сапраўды так любім Бога, што Ён дараваў нам наш грэх і ўжо ізноў мы належым да лічбы Ягоных дзяцей. Пакуль чалавек жыве ў цяжкім граху, ён ня можа зьбіраць заслугаў на вечнае

жыцьцё, бо ён ня ёсьць злучаны з Хрыстом. А Хрыстос выразна кажа: “Бяз Мяне вы нічога ня можаце рабіць”. Дык нават добрыя ўчынкі грэшніка не заслугоўваюць, каб за іх Бог узнагародзіў вечным жыцьцём і вечным шчасьцем. За іх грэшнік можа мець узнагароду толькі ў гэтым жыцьці. Дык, у граху жывучы, чалавек сам ня ведае, нашто жыве, бо не павялічвае штодзень свайго вечнага шчасьця, як той, хто злучаны з Хрыстом пасьля тайны Хросту або Пакуты. Прыпомнім сабе знаныя словы Хрыста: “Будзьце-ж у-ва Мне і Я ў вас. Як галіна ня можа даваць плоду сама сабою, калі ня будзе на лазе, так і вы, калі ня будзеце ў-ва Мне. Я лаза, а вы галіны; хто прабывае ў-ва Мне і Я ў ім, той прыносіць багата пладоў; бо без Мяне ня можаце рабіць анічога. Хто ня будзе ў-ва Мне, будзе выкінены вон, як галіна, і засохне; а гэткія галіны збіраюць і кідаюць у вагонь, і яны згараць” (Ян. 15, 4-6). Царква вымагае, каб кожны хрысьціянін прынамсі раз у год прыняў Тайну Пакуты. Найлепш перад Вялікаднем, як найлепшае прыгатаваньне да Пасхальнае Містэрыі. Але можна прымаць гэтую тайну, калі ёсьць толькі малыя грахі, бо яна павялічвае Божую ласку, супакой душы і лучнасьць з Богам у Хрысьце ды Ягонай Царкве.

**Наш адказ Богу:** Буду помніць, што тайна Пакуты ёсьць дарам Божае любові і буду ахвотна прымаць яго.

**Прыклад малітвы:** О мой Божа, сумна мне, што я гэтулькі разоў саграшыў Табе, бо зьняважыў я Цябе, бясконца добрага, якога я люблю больш за ўсё на сьвеце. Брыджуся вельмі сваімі грахамі і пастанаўляю ніколі больш не грашыць. Памажы Божа мне слабому.

**Адпусты:** Адпустамі называюцца залікі або амністыі, якія Царква раздае веруючым, каб скароціць час іхнае пакуты за грахі ўжо дараваныя на споведзі. Ня можна атрымаць дараваньня пакуты за грахі, якія яшчэ ня былі дараваныя ў Тайне Пакуты.

Царква мае права дараваць кару за грахі, бо Хрыстос сказаў выразна: “Што разьвяжаце на зямлі, будзе развязана і ў небе” (Мац. 18, 18). Даруючы кару за грахі Царква ахвяруе Богу ў замен заслугі Хрыста, Божае Маці і сьвятых, якія ёсьць “багацьцем” Царквы.

Поўны адпуст ёсьць дараваньнем усёй кары за ўжо адпушчаныя грахі. Частковы адпуст даруе толькі частка гэтае кары. Бог ведае колькі гэта ёсьць.

Поўны адпуст можна атрымаць толькі адзін раз у дзень.

Адпусты можна ахвяраваць за памёрлых, просячы, каб Бог, замест нам, дараваў ім кару за грахі.

Каб атрымаць адпуст, трэба ня мець на душы цяжкага граху і ня быць прывязаным да найменшага граху. Трэба таксама споўніць умовы, загаданыя праз Царкву.

**Божае Слова:** “Калі-б вашыя грахі былі як пурпур, выбяляцца як сьнег і калі б былі чырвоныя, як кроў, будуць як белая воўна” (Іс. 1, 18). – “Мытнік, стануўшы здалёк, не адважаўся нават падняць вачэй на неба; але б’ючы сябе ў грудзі, гаварыў: Божа, будзь міласьцівы нада мною грэшным!” Кажу вам: гэты пайшоў апраўданы” (Лук. 18, 13-14). – “Ніхто не асудзіў цябе?” Яна адказала: “Ніхто, Госпадзе!” Ісус жа сказаў ёй: “І я не асуджаю цябе. Ідзі і больш не грашы” (Ян. 8, 10-11).

**Навука Царквы:** “Тыя, што прымаюць Тайну Пакуты, атрымліваюць ад Божай міласэрнасьці прабачэньне знявагі зробленай Богу і адначасна мірацца з Царквой, якую зранілі сваімі грахамі, а якая памагае ім навярнуцца любоўю, прыкладам і малітвай” (Канстытуцыя аб Царкве 11).

**Пытаньне да сто восьмае катэхэзы:**

230) Што робіць Хрыстос у Тайне Пакуты?

**Адказ:** У Тайне пакуты Хрыстос аднаўляе цераз Царкву супольнасьць сужыцьця з Сабой і з Царквой пакутуючаму хрысьціяніну.

# ЧАСТКА ЧАЦЬВЁРТАЯ - Хрыстос жыве і дзее ў Божым народзе

*“Я ёсьць Шлях і Праўда, і Жыцьцё. Ніхто не прыходзе да Айца інакш, як толькі цераз Мяне” (Ян. 14, 6).*

## *I. Хрыстос, Царква і сьвет**

*(у а.Т.П. – загаловак адсутнічае)*

КАТЭХЭЗА CIX.

## 109. Хрыстос дзее ў Царкве і фармуе сьвет

*“Ідзіце і навучайце… І вось я з вамі ў-ва ўсе дні да сканчэньня веку” (Мац. 28, 19-20).*

Людзі ўсьцяж працуюць, каб паправіць сваю долю. Яны стараюцца апанаваць прыроду, і выкарыстаць ейныя сілы. Робяць вынаходніцтвы, каб сабе аблягчыць працу; хочуць лепш жыць, мець выгаднейшы дом, прыгажэйшую вопратку, лепшую ежу. Змагаюцца з хваробамі, шукаюць палёгкі ў цярпеньнях. Разьвіваюць камунікацыю ды робяць яе што раз то выгаднейшай – адсюль узаемная помач становіцца хуткай і выдатнай.

Людзі з вялікімі талентамі твораць духовыя творы. Яны дзеляцца сваімі думкамі і пачуцьцямі: пішуць, малююць, разьбяраць і будуюць, выклікаюць у другіх глыбокія перажываньні славамі, музыкай і мастацтвам.

Цывілізацыя, культура робіць уплыў на духовае развіцьцё чалавецтва. У сьвеце існуе прагрэс, які ўсьцяж выраўнівае розьніцы паміж людзьмі ды памалу лучыць усіх у еднасьці думкі, жаданьняў і дасягненьняў. Людзі твораць адну вялікую сям’ю ды імкнуцца да роўнасьці, усеагульнага дабрабыту і міру.

Усё гэтае дзеіцца згодна з воляй Бога-Стварыцеля, Які даў загад першым людзям: “Засяляйце зямлю і рабіце яе падданай вам” (Быць. 1, 28). Бог даў чалавеку розум, які можа тварыць духовыя і матэрыяльныя вартасьці ды пераказваць свае дасягненьні іншым людзям.

Калі грэх адарваў людзей ад Бога і парозьніў іх паміж сабою, Бог не перастаў любіць людзей. Даўшы ім даволі часу пажыць у няволі граху, у якую яны дабравольна пайшлі, Бог паслаў у канцы Свайго Сына, каб іх ратаваць і прыпомніць ім адзіны плян адзінае Божае сям’і, ды ізноў аб’яднаць іх у Божым Валадарстве. Хрыстос, Сын Божы, сабраў навокал Сябе грамаду вучняў і староньнікаў і стварыў Сваю “супольнасьць”, Сваю “Царкву” (Мац. 16, 18). Ён вучыў іх і лучыў, заклікаў, каб любілі адзін аднаго (Ян. 15, 12), ды адыходзячы ад іх маліўся, “каб усе былі адно” (Ян. 17, 21).

У сьмерці і ўваскрасеньні Хрыста нарадзіўся новы Божы народ. Ад сасланьня Сьвятога Духа расьце Містычнае Цела Хрыста, Ягоная Царква. Яна ёсьць “знакам і прыладай унутранага злучэньня з Богам і адзінства ўсяго чалавечага роду” (Канстытуцыя аб Царкве 1). Царква, у якой далей жыве і дзее Хрыстос, ёсьць для ўсяго сьвету і для ўсіх людзей знакам і паказальнікам дарог. Царква імкнецца злучыць увесь чалавечы род з Хрыстом і Ягоным дзелам, гэта значыць з Ягонай сьмерцю і ўваскрасеньнем.

Гэтае “новае чалавецтва” Царква ўсьцяж гуртуе, аж покуль створыцца “адзіны статак і адзін пастыр” (Ян. 10, 16). Царква працуе, каб накіраваць чалавека да Бога, прыблізіць яго да праўды, справядлівасьці і любові, а праз гэта самае да сапраўднага шчасьця.

Царква безупынна абвяшчае Хрыста і Ягоную Добрую Навіну і сьведчыць аб Ім сваім існаваньнем. Гэткім спосабам яна накіроўвае сьвет да Бога і прыпамінае, што ў Ім чалавецтва атрымае сапраўднае і поўнае адзінства.

Царква гуртуе і лучыць веруючых навокал Эўхарыстыі, якая ёсьць тайнай сьмерці і ўваскрасеньня Сына Божага. Тут людзі сапраўды лучацца, забываюцца аб тым, што іх дзеліць, а Хрыстос становіцца іхнім цэнтрам як адзіны Пасрэднік. Сьвяты Дух адраджае сьвет абнаўляючы людзкія сэрцы і гэтак мяняецца выгляд зямлі.

**Наш адказ Богу:** Праз жыцьцё ў Царкве і з Царквою буду працаваць дзеля адзінства людзей у Богу.

**Прыклад малітвы:** Няхай Тваё міласэрдзе, Госпадзе, безупынна ачышчае і ўзмацоўвае Тваю Царкву. А як бяз Цябе яна ня можа непахісна трываць, дык няхай Твая ласка заўсёды ёю кіруе.

**Божае Слова:** “Я ўпрашу Айца і Ён дасьць вам другога Суцяшальніка, каб быў з вамі да веку – Духа Праўды, Якога сьвет ня можа прыняць бо Яго ня бачыць” (Ян. 14, 16). – “Мір пакідаю вам, Мой мір даю вам. Даю-ж вам ня так, як сьвет дае” (Ян. 14, 27). – “Ужо ня многа мне асталося гаварыць з вамі; бо йдзе князь гэтага сьвету” (Ян. 14, 30). – “Калі сьвет вас ненавідзіць, дык ведайце, што ён Мяне раней за вас зьненавідзіў. Калі б вы былі з сьвету, то сьвет любіў бы сваё” (Ян. 15, 18-19).

**Навука Царквы:** “Бог паклікаў згуртаваньне тых, што з верай паглядаюць на Хрыста Выратавальніка і крыніцу пакоры ды адзінства. Ён зрабіў гэтае згуртаваньне Царквой, каб гэтая Царква была для ўсіх разам і для кожнага паасобку бачнай тайнай таго выратавальнага адзінства. Маючы пашырыцца на ўсе краі, Царква ўваходзіць у гісторыю чалавецтва, выходзячы адначасна паза граніцы і гісторыю народаў” (Канстытуцыя аб Царкве 9).

“Дзеля таго, што Хрыстовае Валадарства ня ёсьць з гэтага сьвету, таму Царква, або Божы народ, устанаўляючы Валадарства ня робіць ніякае шкоды, калі йдзе аб карысьць тут на зямлі, якому-колечы народу, але, наадварот, падтрымлівае і прысвайвае сабе здольнасьці ды багацьці, як і звычаі народаў, паколькі яны ёсьць у сабе добрыя, а прыймаючы – ачышчае іх, узмацоўвае ды ўзвышае” (Канстытуцыя аб Царкве 13).

“Да гэтага каталіцкага адзінства Божага народу, якое ёсьць знакам будучага ўсеагульнага міру і да яго вядзе, усе людзі ёсьць пакліканы і на розны спосаб. Да яго належаць і яму падпарадкаваны як веруючыя каталікі, так і ўсе іншыя веруючыя ў Хрыста ды наагул усе людзі з Божае ласкі пакліканыя да выратаваньня” (Канстытуцыя аб Царкве 13).

**Пытаньне да сто дзевятае катэхэзы:**

231) Чаго жадае Царква ў сучасным сьвеце ў сувязі з вялікім развіццём цывілізацыі і культуры?

**Адказ:** У сучасным сьвеце, у сувязі з вялікім развіцьцём цывілізацыі і культуры, Царква хоча аб’яднаць усіх людзей навокал Хрыста ды Эвагнельля.

КАТЭХЭЗА CX.

## 110. Надпрыродная любоў ёсьць фундамантам жыцьця Божага народа

*“Даю вам новы загад, каб вы любілі адзін аднаго; як Я палюбіў вас, так і вы любеце адзін аднаго. Па гэтым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адзін да аднаго” (Ян. 13, 34-35).*

“Бог ёсьць любоў” (1 Ян. 4, 8). Бог стварыў чалавека, каб падзяліцца з ім Сваім жыцьцём і шчасьцем. Калі чалавек саграшыў, Бог захацеў яго ратаваць і направіць. З любові выбраў гэбрайскі народ і апекаваўся ім, каб праз гэты Божы народ прыгатаваць выратаваньне чалавецтва.

Найбольшую любоў паказаў Бог людзям пасылаючы на сьвет Свайго Сына Ісуса Хрыста (1 Ян. 4, 9). Божая любоў аб’явілася і ў асобе Хрыста і ў Ягоным жыцьці поўным любові да людзей: “Ён хадзіў робячы дабро і аздараўляючы” (Дз. 10, 38). Ён Сам аб Сабе сказаў, што “не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць” (Мар. 10, 45), а найбольшую любоў Ён паказаў у Сваёй ахвярнай сьмерці: “Ніхто ня мае любві большай за тую, калі хто аддасьць сваё жыцьцё за сваіх другаў” (Ян. 15, 13). І выразна загадаў сваім вучням: “Гэтае загадваю вам: любіце адзін аднаго” (Ян. 15, 17).

Царква ёсьць тайнай або знакам Хрыста. У Царкве і праз Царкву ўсьцяж дзее Хрыстос. Божая любоў, аб’яўленая ў Хрысьце, цяпер павінна дзее і паказвацца ў Ягонай Царкве, бо толькі тады Царква ёсьць знакам Хрыста, калі ў-ва ўсіх сваіх членах яна жыве любоўю. Таму Царква ад самага пачатку заўсёды прыпамінае сваім веруючым абавязак любові. Любоў стварыла і развіла шматлікія дзелы міласэрнасьці, як бальніцы, прыюты, дамы для старыкоў, прытоны для невылечна хворых, лепразорыі, сірацінцы і ўстановы для пакінутай моладзі, апеку над палоннымі і вязьнямі. Царква хоча служыць усеагульнаму дабру чалавецтва, бо верыць, што ўсе мы ёсьць дзеці Айца, Які ёсьць у небе (Мац. 5, 45). Царква хоча ў духу любові супрацоўнічаць з усімі людзьмі, нават з тымі, што думаюць інакш. Яна прапаведвае і практыкуе талеранцыю, падтрымлівае ды аблягчае дыялог з людзьмі іншай веры. “Законам Божага народу стаўся новы загад – каб любіць, як Хрыстос нас палюбіў” (Канстытуцыя аб Царкве 9). Любоў у жыцьці Царквы паказваецца і ўзбагачаецца безупынна ў тайне Эўхарыстыі. Тут любоў кожнага хрысьціяніна ўзмацоўваецца, ачышчаецца і робіцца больш ахвярнай. Перад Хрыстовай Ахвярай кожны ўчасьнік Эўхарыстыі мае магчымасьць дасьледваць сваё жыцьцё, ці яно адказвае і наколькі Божай любові да нас. З гэтае эўхарыстычнае Ахвяры хрысьціянін набірае таксама сілы, каб штодзень праводзіць у жыцьццё любоў у сваім асабістым, сямейным і грамадзкім жыцьці.

**Наш адказ Богу:** Буду штодзень старацца зрабіць нешта добрае для другіх: памагчы, парадзіць, пацешыць, падмяніць у працы, пачакаць цярпліва, увайсьці ў палажэньне, дараваць…

**Прыклад малітвы:** Божа, Што праз дар Сьвятога Духа напоўніў душы Тваіх веруючых любоўю, дай Сваім слугам, за якіх мы молімся, здароўе цела і душы, каб яны любілі Цябе з усіх сілаў і з любоўю рабілі тое, што Табе падабаецца.

**Божае Слова:** “Божая любоў вылілася ў нашыя сэрцы Сьвятым Духам, Які нам ёсьць дадзены” (Рым. 5, 5). – “Божая любоў да нас у тым выявілася, што Бог паслаў на сьвет адзінароднага Свайго Сына, каб мы жылі праз Яго. У тым любоў, не што мы палюбілі Бога, але што Ён палюбіў нас і паслаў Свайго Сына дзеля зьмілаваньня над нашымі грахамі. Умілаваныя! Калі Бог палюбіў нас гэтак, дык і мы павінны любіць адзін аднаго” (1 Ян. 4, 9-11).

**Навука Царквы:** “Тых, што ў справах грамадзкіх, палітычных або нават рэлігійных інакш чым мы думаюць і дзейнічаюць, трэба таксама паважаць і любіць: бо чым глыбей у хрысьціянскім духу ветлівасьці і любові зразумеем

іхны спосаб думкі, тым лягчэй можна будзе з імі навязаць дыялог” (Пастаральная Канстытуцыя 28).

“Бо Божае Слова, праз Якое ўсё сталася, Само сталася целам і прабываючы на чалавечай зямлі ўвайшло ў гісторыю сьвету, як дасканалы чалавек, – прыняло яе ў Сябе і ў сабе яе змясьціла. Яно нам аб’яўляе, што “Бог ёсьць любоў” (1 Ян. 4, 8), ды адначасна вучыць, што асноўным законам дасканальнасьці чалавечай, а праз гэта самае і законам перабудовы сьвету, ёсьць новы загад любові. Дык тых, што верань у Божую любоў, упэўнівае, што шлях любові адчыняецца для ўсіх людзей і што не надарэмна траціцца намаганьне, каб аднавіць усеагульнае братэрства. Адначасна прыпамінае, каб шукаць гэтае любові не ў адных толькі вялікіх справах, але таксама, і то перадусім, у штодзённых абставінах жыцьця” (Пастаральная Канстытуцыя 38).

**Пытаньне да сто дзесятае катэхэзы:**

232) Калі новы Божы народ ёсьць знакам Бога ў сьвеце?

**Адказ:** Новы Божы нарож ёсьць знакам Бога ў сьвеце, калі ён жыве любоўю і паказвае яе сьвету.

## *II. Шлюб і сям’я*

КАТЭХЭЗА CXI.

# 111. Любоў ёсьць фундамантам сямейнага жыцьця

*“А панадусім майце любоў” (Кал. 3, 15).*

Усе знаныя нам народы маюць сям’ю. Людзі засноўваюць сем’і, каб у іх жыць, радзіць і ўзгадоўваць дзяцей. Дзіця расьце і разьвіваецца павольна. Праз многа гадоў патрабуе помачы і апекі. Знаходзіць яе якраз у сям’і, дзе бацька і матка, а таксама і старэйшыя браты і сёстры вучаць яго ды ўзгадоўваюць, не шкадуючы сіл, працы, а, нават, здароўя, апякуюцца ім столькі часу, аж пакуль яно само не пачне даваць сабе раду ў жыцьці.

Бацька, маці, сёстры і браты застаюцца для чалавека найбліжэйшымі зь людзей і тады, калі ён стане дарослым. Дарослы чалавек думае і помніць аб іх, успамінае пражытыя зь імі радасныя і сумныя хвіліны, моліцца за іх і выражае ім сваю ўдзячнасьць. Памагае ім і сам да іх зьвяртаецца ў патрэбе. Пакуль яны жывуць, ён не адчувае адзіноты. Ахвотна адведвае родную хату, прыводзіць туды сваіх дзяцей, часта свой собскі дом уладжвае так, як быў калісь уладжаны бацькаўскі дом. Гэтак дзеецца тады, калі ўсе ў сям’і любяць адзін аднаго, калі любоў ёсьць асновай сямейнага жыцьця. Яна запэўнівае бацькам і дзецям, а таксама і ўнукам і іншым членам сям’і сямейнае шчасьце.

Сьвятое Пісьмо апавядае, што Бог даў мужчыне жанчыну, каб яна была ягонай жонкай. Яны мелі ўладзіцца на сьвеце, любіць адзін аднаго, мець дзяцей і быць шчасьлівымі. Узаемная любоў запэўнівала ім шчасьце, покуль яе ня зьнішчыў эгаізм. Ад часу, калі чалавек зрабіўся схільным любіць сябе больш, чым другіх, яму трэба ўжо прыпамінаць, што ён ніколі ня будзе шчасьлівым, калі не навучыцца любіць і другіх як самога сябе. Сьвяты Павал піша: “Хто любіць сваю жонку, любіць самога сябе… Няхай кожны з вас так любіць сваю жонку, як сябе самога” (Эф. 5, 28-33). І загадвае старацца, каб старэйшыя жанчыны вучылі малодшых, як трэба любіць мужоў і дзяцей (Цім. 2, 4). Таксама і Царква прыпамінае ў літургіі, што любоў ёсьць асновай, на якой абапіраецца сямейнае жыцьцё. У сьвята Сьвятой Сям’і Царква паказвае сьвятую Сям’ю з Назарэту як прыклад сямейных цнотаў асабліва любові. На Літургіі ў гэты дзень чытаецца Пасланьне сьвятога апостала Паўла да

Каласянаў: “Апраніцеся, як выбранцы Божыя, сьвятыя і ўмілаваныя, міласэрнасьцю, дабратой, ціхай мудрасьцю, ласкавасьцю, доўгацярплівасьцю, церпячы адзін аднаго і выбачаючы сабе, калі хто да каго мае жаль: як Хрыстос дараваў вам, гэтак і вы. А панад усім – (апрануўшыся) любоўю, якая ёсьць злучэньне дасканаласьці, і няхай у вашых сэрцах гаспадаруе Божы мір, да якога вы і пакліканы ў адным целе” (Кал. 3, 12-15).

**Наш адказ Богу:** Буду старацца, каб лепш любіць бацькоў, братоў і сясьцёр.

**Прыклад малітвы:** Няхай, Госпадзе, дар Сьвятога Духа асьвеціць нашыя сэрцы ды няхай узмацуе іх пацехай сапраўднае любові.

**Божае Слова:** “Хто з вас бацька, калі сын папросіць хлеба, дасьць яму камень? Ці калі папросіць рыбы, дасьць яму зьмяю замест рыбы? Ці калі папросіць яйка, дасьць яму скарпіона?” (Лук. 11, 11-12).

**Навука Царквы:** “Ужо па самой сваёй натуры сямейная інстытуцыя і любоў у сужэнстве ёсьць накіраванымі на тое, каб радзіць і ўзгадоўваць патомства, што становіцца іхнім як бы найвышэйшым дасягненьнем. Гэткім спосабам мужчына і жанчына, якія цераз сужэнскі дагавор “ужо ня ёсьць двое, але адно цела” (Мац. 19, 6), праз найцясьнейшую лучнасьць асобаў і дзеяньняў аказваюць сабе ўзаемна помач і паслугаваньне ды адкрываюць сэнс свайго адзінства і здабываюць яго ў штораз паўнейшай меры. Гэтае глыбокае злучэньне, якое ёсьць узаемным адданьнем, дзьвух асобаў, як і дабро дзяцей вымагаюць поўнае вернасьці з боку мужа і жонкі, як і вынікаючага адсюль натуральна неразрыўнага адзінства іхнага сужыцьця” (Пастаральная Канстытуцыя 48).

**Пытаньне да сто адзінаццатае катэхэзы:**

233) Што ёсьць падставай сямейнага жыцьця?

**Адказ:** Падствай сямейнага жыцьця ёсьць любоў.

КАТЭХЭЗА CXII

# 112. Хрыстос асьвячае шлюб

*“Тайна гэтая вялікая; я-ж кажу аб Хрысьце і Царкве” (Эф. 5, 33).*

Сямейная любоў ня ёсьць лёгкай рэчай, бо вымагае змаганьня з эгаізмам, які нахіляе нас да таго, каб на першым месцы заўсёды ставіць сябе, сваё собскае дабро ці прыемнасьць. Тымчасам чалавек павінен любіць сябе на раўні з другімі. Эгаістычная любоў самога сябе робіць, што чалавек думае толькі аб сабе, а забываецца аб іншых, крыўдзіць іх, бо любіць іх менш чым сябе. У сям’і тым больш трэба думаць аб другіх, каб іх любіць ня менш чым сябе.

Сьвятое Пісьмо апавядае, як узаемная любоў першых людзей аслабела пасьля граху. Замест таго, каб прыняць адказнасьць за свой учынак, Адам звалівае адказнасьць за грэх на Эву (Быць. 3, 12). Пасьля гэтаксама людзі крыўдзілі адзін аднаго, шукаючы толькі сваёй карысьці без агляданьня на другіх. Не патрапілі перамагчы свайго эгаізму. Ня чулі ў сабе сілы, бо воля, якую аслабіў грэх, зрабілася больш схільнай да граху, чым да дабра.

Хрыстос Сваёй сьмерцю і ўваскрасеньнем вярнуў усё Богу. Выслужыў нам помач патрэбную, каб перамагчы эгаізм. Гэтым ён асьвяціў усё стварэньне, а з ім разам і шлюб, зрабіў яго тайнай Новага Запавету, гэта значыць знакам і крыніцай унутранай помачы, праз якую ўдасканаліў натуральную любоў, узмацаваў неразрыўнае адзінства і асьвяціў мужа і жонку. “Бо гэтая тайна, у тых, што не супрацiўляюцца Божай помачы, ня толькі ўзмацоўвае трывалую аснову надпрыроднага жыцьця, якой ёсьць асьвячаючая ласка, але паверх гэтага нясе з сабой асобныя дары: добрае натхненьне, зародкі ласкі;

узмацоўвае і дасканаліць натуральныя сілы, каб сужэнцы маглі ня толькі зразумець сваім розумам, але і ўнутрана пачуць смак, моцна сьцерагчы, пасьпяхова жадаць і праводзіць у практыцы ўсё тое, што адносіцца да сужэнскага стану, ягоных мэтаў і абавязкаў. У канцы гэтае тайны дае ім права атрымліваць учынковую ласку, колькі разоў яна будзе ім патрэбная, каб выпаўніць абавязкі свайго стану” (Пій XI, Энцыкліка аб Шлюбе).

Помач Божая, якую выслужыў Хрыстос, дае мужу і жонцы магчымасьць адносіцца адзін да аднаго, як Хрыстос адносіцца да Царквы. Як Хрыстос любіць Царкву так, што “выдаў Сябе Самога за яе”, або памёр за яе на крыжы, гэтак і сужэнцы любяць адзін аднаго. Як Хрыстос ахвяраваў Сваё жыцьцё, каб асьвяціць Царкву, гэтак і сужэнцы памагаюць адзін аднаму імкнуцца да сьвятасьці (Эф. 5, 25-27). Стараюцца, каб быць як Захар і Альжбета “праведнымі перад Богам, жывучы паводле прыказаньняў і законаў Госпада беззаганнага” (Лук. 1, 6).

Царква рэкамэндуе браць шлюб у часе сьвятой Літургіі, пасьля Эвангэльля і пропаведзі, перад “малітвай вернікаў” (Канстытуцыя аб Літургіі 78). Гэтым яна хоча зьвярнуць увагу на сувязь Шлюбу з крыніцай Божае помачы, якой ёсьць сьвятая Літургія і выратавальная Пасхальная Містэрыя Хрыста. Бо гэта з яе выплываюць усе надпрыродныя формы Божае помачы, якія асьвячаюць шлюб. У Тайне Шлюбу Хрыстос кіруе ўсё жыцьцё сужэнцаў, а таксама і сямейнае жыцьцё да Бога.

**Наш адказ Богу:** Буду думаць і гаварыць аб шлюбе з пашанай.

**Прыклад малітвы за маладых:** Бог Абрагама, Ісаака і Якуба няхай будзе з вамі, а Ягонае блаславенства хай зробіць, каб вы ў канцы асягнулі вечнае бязмежнае жыцьцё з дапамогаю Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**Божае Слова:** “Шлюб хай будзе ў пашане ва ўсіх і ложа беззаганнае” (Гэбр. 13, 4).

**Літургія:** Бласлаўленьне шлюбных пярсьцёнкаў: “Няхай тыя, што будуць іх насіць, трываюць у Тваім супакою, згаджаюцца з Тваей воляй, жывуць і ўзрастаюць у Тваей любові...”

**Навука Царквы:** “Хрысьціянскія сужэнцы цераз Тайну Шлюбу, якім яны выражаюць тайну адзінства і плоднай любові паміж Хрыстом і Царквою ды ў ёй прымаюць удзел, у сямейным сужэнстве ды ў раджэньню і ўзгадаваньні патомства памагаюць адзін аднаму ў здабываньні сьвятасьці, а гэтак у адпаведным для сябе стане і парадку жыцьця маюць собскі дар сярод Божага народа” (Канстытуцыя аб Царкве 11).

“А сужэнцам і бацькам хрысьціянскім выпадае, каб ідучы сваім шляхам праз усё жыцьцё падтрымлівалі сябе ўзаемна ў ласцы з помаччу вернае любові” (Канстытуцыя аб Царкве 41).

“Сапраўдная сужэнская любоў улучаецца ў Божую любоў і ёсьць кіраванай і ўзбагачаецца праз выратавальную сілу Хрыста ды збаўчую дзейнасьць Царквы, каб пасьпяхова вясьці сужэнцаў да Бога ды памагаць ім і падбадзёрваць іх ва ўзвышаным абавязку бацькі і маткі. Таму асобная тайна ўзмацоўвае і быццам высьвячае хрысьціянскіх сужэнцаў на абавязкі і годнасьць іхнага стану; выконваючы сілай гэтай тайны свае сужэнскія і сямейныя абавязкі, пранікнуўшыся Хрыстовым духам, які ажыўляе ўсё іхняе жыцьцё верай, надзеяй і любоўю, сужэнцы прыбліжаюцца што раз больш да асягненьня собскай дасканаласьці, узаемнага асьвячэньня, а праз гэта і да супольнага праслаўленьня Бога” (Пастаральная Канстытуцыя 48).

Хрыстос Госпад падняў да годнасьці Тайны сам сужэнскі дагавор паміж ахрышчанымі (Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1012 §1).

**Пытаньні да сто дванаццатае катэхэзы**

234) Чым ёсьць з волі Хрыста шлюб ахрышчаных?

**Адказ:** З волі Хрыста шлюб ёсьць Тайнай.

235) Што дае Хрыстос сужэнцам у Тайне Шлюбу?

**Адказ:** У Тайне Шлюбу Хрыстос дае сужэнцам помач, каб яны маглі спаўняць свае абавязкі і задачы верна, сьвята і вытрывала аж да сьмерці.

КАТЭХЭЗА CXIII.

## 113. Узаемная любоў двух людзей разьвіваецца і дасьпявае ў шлюбе

*“Мужы, любіце свае жонкі, як і Хрыстос палюбіў Царкву” (Эф. 2, 25).*

Узаемная любоў мужчыны і жанчыны дае пачатак шлюбу. Яна абыймае ўсяго чалавека, ягонае цела і ягоную душу. Любячая пара прыходзіць у сьвятыню. Аднак шлюб гэта не канец іхняга сужэнскага шляху, але толькі яго пачатак. Яны толькі яшчэ выбіраюцца ў дваіх у падарожу на ўсё жыцьцё. Любоў для іх толькі яшчэ пачынаецца, а шлюб – гэта старт. Яна як зерне, пасеянае ў зямлю, з якога мае вырасьці збажына і як зерне вымагае догляду.

Сьвятое Пісьмо Старога Запавету вобразна апісвае ўстанаўленьне шлюбу праз Бога. Каб чалавек ня чуўся адзінокім, Бог стварыў зьвяроў і птушак, але між імі не было адпаведнага таварыша для чалавека. Тады Бог стварыў жанчыну. Убачыўшы яе мужчына сказаў: “Вось гэта дык косьць з маіх касьцей і цела з майго цела” (Быць. 2, 23).

Ад гэтага часу мужчына жыве з жанчынай, разам уладжваюць сьвет, любяцца, маюць дзяцей. Любоў лучыць іх так сільна, што яны становяцца як бы адным чалавекам. Яны, як кажа Сьвятое Пісьмо, “двое ў адным целе”. Гэткая любоў ёсьць роўнай з любоўю да сябе самога. “Кожны з вас няхай любіць сваю жонку як самога сябе” (Эф. 5, 33).

Сужэнская любоў лучыць мужа і жонку. Муж ёсьць верны жонцы і жонка мужу ў думках, у жаданьнях і паводзінах. Гэтая любоў ёсьць ахвярная, бо муж і жонка выракаюцца ўсяго, што магло б яе аслабляць або зьнішчыць, хаця б гэта было прыемна ці выгадна. Тут ахвяра можа часам быць настолькі цяжкай, што Эвангельле яе прыраўнівае да прыпадку, калі трэба выкалаць сабе вока або адсячы руку, каб ратаваць вечнае жыцьцё. Бо нявернасьць у сужэнстве ёсьць грахом супраць двух загадаў Дэкалогу (шостага і дзевятага).

Муж і жонка стараюцца што раз лепш пазнаваць адзін аднаго, духова і фізычна зблізіцца і зжыцца з сабой, жывуць разам, каб іхная любоў магла ўзрастаць і паглыбляцца, ажыўляць дом, у якім прыходзяць на сьвет дзеці, плод іхнай сужэнскай любові. Супольная турбота аб іхным узгадаваньні і развіцьці яшчэ больш пашырае і паглыбляе іхную любоў.

Сужэнская любоў ёсьць самай поўнай. Яна абымае душу і цела ды прымушае рупіцца ня толькі пра дабро тут на зямлі, але таксама пра душу і выратаваньне адзін аднаго. Гэта вядзе да супольнага рэлігійнага жыцьця, да супольных практыкаў такіх, як сьвятая Літургія, Прычасьце, пакута, малітва, вера, надзея ды дружба з Богам. Яна ўлучаецца ў вялікую Божую любоў, якая кіруе сьветам і хоча ўсіх ратаваць. Яна бярэ пачатак з любові, якую дае Хрост, разьвіваецца ў Тайне Шлюбу ды дасьпевае ў жыцьці падтрымліваным Божай помачай. Прыракаючы сабе ўзаемную любоў, муж і жонка прыракаюць, што будуць памагаць адзін аднаму ў сваім сужэнскім і сямейным жыцьці, як і ў імкненьні да сьвятасьці, каб гэткім спосабам сьведчыць аб любові Хрыста да Царквы і да ўсіх людзей, ды быць знакам гэтае любові.

У абрадзе Тайны Шлюбу маладыя даюць адзін аднаму пярсьцёнкі кажучы: “Прымі гэты пярсьцёнак знак сужэнскай вернасьці”. А пасьля носяць іх як знак, што праз любоў належаць адзін да аднаго толькі і вылучна, ды што гэтую любоў жадаюць разьвіваць аж да сьмерці.

**Наш адказ Богу:** Памалюся, каб Бог даў любоў усім сужэнствам на сьвеце.

**Прыклад малітвы:** Усемагутны, вечны Божа, Што стварыў нашых першых бацькоў Адама і Эву ды злучыў іх у сьвятой супольнасьці, асьвяці і паблаславі душы і целы гэтых сваіх слугаў, ды злучы іх сувязяй сапраўднае, надпрыроднае любові.

**Божае Слова:** “Жонкі, слухайцеся сваіх мужоў, як прыстойна ў Госпадзе. Мужы, любеце жонак і ня будзьце для іх прыкрымі” (Кал. 3, 18-19). – “Мужы, разумна жывеце з імі, аддаючы ім, як найслабейшай судзіне жаночай, пашану, бо і вы сунасьледнікі ласкі жыцьця” (1 Патр. 3, 7).

**Літургія:** “Дай нам, Госпадзе, каб мы любячы Цябе, любілі адзін аднаго і жылі паводле Твайго сьвятога закону” (Ян XXIII надзяліў гэтую малітву індульгэнцыяй (адпустам) 300 дзён тым сужэнцам, якія ў гадавіну шлюбу пацалуюць пярсьцёнак і адмовяць гэтую малітву).

**Навука Царквы:** “Другім дабром, якое дае шлюб, аб якім – як мы ўжо казалі – успамінае сьвяты Аўгустын, – гэта заставацца верным, што складаецца на ўзаемную вернасьць мужа і жонкі ў выпаўненьні сужэнскага дагавору, каб тое, што паводле гэтага дагавору, зацьверджанага Божым правам, належыцца толькі другому сужэнцу, не было яму забаронена, ці дазволена каму іншаму; ды каб не было дазволена сужэнцу тое, на што ніколі нельга згадзіцца, бо яно супярэчнае з законамі і засадамі Божымі ды зусім нязгодна з сужэнскай вернасьцю” (Пій XI, Энцыкліка аб Шлюбе).

“Божае Слова неаднойчы заклікае жаніхоў і сужэнцаў, каб заручыны ўмацоўвалі чыстай, а шлюб непадзельнай любоўю. Гэтак сама шмат сучасных людзей высока ацэніваюць сапраўдную любоў паміж мужам і жонкай, якая праяўляецца ў розны спосаб адпаведна да высокародных абычаяў дадзеных народаў і эпохаў. Гэтая любоў як выдатна чалавечая, бо накіраваная праз асобу да другой асобы пад уплывам дабравольнага пачуцьця, абыймае сабой дабро ўсяе асобы. Яна можа надаць асобную годнасьць сваім цялесным і духовым праявам і падняць іх вартасьць як элементаў і характэрных знакаў сужэнскае дружбы. Гэтую Любоў наш Госпад зажадаў асобным дарам Сваёй ласкі і любові аздаравіць, удасканаліць і ўзвысіць. Гэткая любоў, лучачы з сабой Божыя і чалавечыя элемэнты, вядзе сужэнцаў да дабравольнае самааддачы адзін аднаму, якая выражаецца ў шчырых пачуцьцях і гэстах і пранікае цэлае іхняе жыцьцё. Больш таго, яна сама дасканаліцца і павялічваецца ад свайго высокароднага імкненьня. Дык рашуча перавышае чыста эратычны нахіл, які з прычыны сваёй эгаістычнай натуры хутка і жаласна знікае.

Любоў выражаецца і дапаўняецца асаблівым спосабам цераз сужэнскі акт. Таму акты, праз якія муж і жонка лучацца з сабой інтымна і чыста, ёсьць дабрасумленнымі і ўзвышанымі, абазначаюць і падтрымліваюць узаемнае самаадданьне, цераз якое сужэнцы радасным і ўдзячным сэрцам узбагачаюцца. Гэтая любоў, пацьверджаная ўзаемнай вернасьцю, а перадусім асьвячаная Хрыстовай тайнай, застаецца нязломна вернай целам і духам у долі і нядолі, і таму яна недаступнай застаецца для ўсякага чужажонства і разводу. З узгляду на роўную годнасьць асобы жанчыны і мужчыны, якую трэба браць пад увагу пры ўзаемнай і поўнай любові сужэнцаў, выступае ў поўным сьвятле патверджанае Госпадам адзінства сужэнства. Аднак, каб заўсёды выпаўняць абавязкі гэтага хрысьціянскага

пакліканьня, патрэба незвычайнае цноты. І таму сужэнцы, узмацаваныя ласкай на сьвятое жыцьцё, павінны пільна даглядаць і малітвай выпрошваць сабе трывалую любоў, велікадушнасьць і духа ахвяры.

Вышэй будзе цаніцца сапраўдная сужэнская любоў і вырабіцца аб ёй здаровая публічная апінія, калі хрысьціянскія сужэнцы адзначацца ў гэтай любові пасьведчаньнем вернасьці і гармоніі, як і рупнасьцю аб узгадаваньні дзяцей, ды калі прымуць удзел у культурнай, псыхалагічнай і грамадзкай абнове шлюбу і сям'і. Маладых трэба зараньня яшчэ ў самой сям'і вучыць у адпаведным часе аб годнасьці, заданьні і дзеле сужэнскай любові, каб навучыўшыся пашаны для чыстаты, маглі ў адпаведным часе перайсьці ад дабрасумленных заручынаў да шлюбу" (Пастаральная Канстытуцыя 49).

**Пытаньні да сто трынаццатай катэхэзы:**

236) Дзе разьвіваецца і дасьпевае любоў дваіх людзей?

**Адказ:** Любоў дваіх людзей разьвіваецца і дасьпевае ў шлюбе.

237) Што ўплывае на разьвіцьцё і дасьпеласьць сужэнскае любові?

**Адказ:** На развіцьцё і дасьпеласьць сужэнскай любові ўплывае вернасьць, узаемнае зразуменьне, супольнае жыцьцё ў адным доме і дзеці.

КАТЭХЭЗА CXIV.

# 114. Хрыстос запрашае бацькоў да нараджэньня дзяцей

Узаемная любоў, якую муж і жонка прыракалі сабе ў Тайне Шлюбу і якая ў шлюбе развіваецца і дасьпявае, прыгатаўляе іх і вядзе да пераказу жыцьця. Дзіця прыходзіць на сьвет у выніку ўзаемнае любові бацькоў, якая ўжо дасьпела да таго, каб прыняць адказнасьць за новага чалавека, і ёсьць так сільнай, ахвярнай і трывалай, што патрапіць запэўніць дзіцяці ўмовіны памыснага развіцьця. Стварыцель, які Сам ёсьць любоў і ўсё стварыў з любові, звязаў перадачу жыцьця з сужэнскай любоўю і ад яе ўзалежніў жыцьцё. Тых, што прыракаюць жыць у любові, упаўнаважвае і кліча пераказваць жыцьцё, радзіць дзяцей.

Паводле вобразнага апісаньня Бібліі, стварыўшы першых людзей, Бог "блаславіў іх, кажучы: "Пладзіцеся ды размнажайцеся, каб напоўніць зямлю" (Быць. 1, 28). Гэтымі славамі Бог, Стварыцель усякага жыцьця, ня толькі даў людзям здольнасьць размнажацца, але і паклікаў іх да супрацоўніцтва з Сабой у пераказе жыцьця. Калі ў Эвы нарадзіўся сын, яна сказала: "Я спарадзіла мужчыну з помаччу Ягвэ" (Быць. 4, 1). Сьвятыя Кнігі прадстаўляюць гэтае пакліканьне як Божы загад, які абавязвае сужэнцаў, а ў патомстве яны бачаць выпаўненьне гэтага загаду.

Сьвяты Павал рэкамэндуе, каб маладыя ўдовы выходзілі замуж, радзілі дзяцей ды былі гаспадынямі дому (1 Цім. 5, 4). Павал бацычь у мацярынстве шлях, які вядзе жанчыну да выратаваньня, дык піша, што жанчына "збаўлена будзе праз раджэньне дзяцей" (1 Цім. 2, 15).

У літургіі Тайны Шлюбу сьвятар у імя Царквы пытае маладых, ці яны жадаюць прыняць патомства, якім Бог захоча іх абдараваць. Бо да важнасьці хрысьціянскага шлюбу неабходнай ёсьць воля супрацоўніцтва з Богам у павялічваньні чалавечага роду. Атрымаўшы пацьверджаньне, ён моліцца, каб маладыя дачакаліся ня толькі сыноў і дачок, але таксама ўнукаў і праўнукаў. Ва ўрачыстым блаславенстве, якое даецца ў шлюбнай сьвятой

Літургіі, сьвятар моліцца: “Няхай яны ўбачаць патомства сваіх дзяцей аж да трэцяга і чацьвёртага пакаленьня ды дачакаюцца пагоднае старасьці”. У іншай малітве ён просіць: “Бог Абрагама, Ізаака і Якуба няхай будзе з вамі, а Ягонае блаславенства хай зробіць, каб вы бачылі патомства вашых дзяцей аж да трэцяга і чацьвёртага пакаленьня, а ў канцы асягнулі вечнае жыцьцё без граніц”.

Даючы жыцьцё патомству, бацькі супрацоўнічаюць з Богам, ад якога бярэ пачатак усякае жыцьцё. Яны даюць дзецям цела, а Бог стварае душу. Даючы жыцьцё бацькі ня толькі павялічваюць чалавечы род, але яны таксама пабольшваюць лік Божых дзяцей, родзяць дзяцей Божай Царкве ды выдаюць на сьвет суграмадзян сьвятых і дамачадцаў Божых (Пій XI, Энцыкліка аб Шлюбе).

**Наш адказ Богу:** Падзякую Богу за Тайну Шлюбу, якое дало мне бацькоў. Буду ўдзячны бацькам, што далі мне жыцьцё.

**Прыклад малітвы:** Просім Цябе, Госпадзе, узглянь на гэтых Сваіх слуг і падтрымай ласкай супольнасьць, якую Ты ўстанавіў дзеля разпаўсюджваньня чалавечага роду. Няхай тыя, якія па Тваей волі лучацца, з Тваёй помаччу шчасьліва вытрываюць.

**Божае Слова:** “Сыны – гэта дар Госпада, а плод улоньня – гэта ўзнагарода. Чым ёсьць стрэлы для ваяўніка, тым ёсьць сыны, зроджаныя ў моладасьці. Шчасьлівы бацька, які напоўніў імі свой сайдак” (Пс. 126, 3-5).

“Каронай старыкоў ёсьць сыны сыноў, а гордасьцю сыноў ёсьць бацькі” (Прып. 17, 6). – “Жонка твая, як плодная вінаградная лаза ў тваім доме. Твае сыны як аліўныя галінкі навокал твайго столу. Гэтак блаславіцца чалавек, што баіцца Бога” (Пс. 127, 3-4).

**Навука Царквы:** “З хрысьціянскага шлюбу выводзіцца сям’я, а ў ёй родзяцца новыя грамадзяне чалавечае супольнасьці, якія ласкай Сьвятога Духа праз Хрост становяцца Божымі сынамі, каб Божы народ трываў да веку” (Канстытуцыя аб Царкве 11).

“Шлюб і сужэнская любоў з натуры сваёй накіраваныя, каб пладзіць і ўзгадоўваць дзяцей. Дык дзеці ёсьць найкаштоўнейшым дарам шлюбу ды бацькам прыносяць найбольш дабра. Гэта Бог сказаў: “Ня добра быць чалавеку аднаму” (Быць. 2, 18) і “зрабіў ад пачатку іх як мужчыну і жанчыну” (Мац. 19, 14); жадаючы даць чалавеку нейкі асобны ўдзел у Сваім собскім творчым дзеле, блаславіў мужчыну і жанчыну кажучы: “Пладзіцеся і размнажайцеся” (Быць. 1, 28). Таму сапраўдная пашана да сужэнскай любові ды ўвесь сэнс сямейнага жыцьця накіроўваюцца да таго, каб сужэнцы, не забываючыся аб іншых мэтах шлюбу, былі схільнымі адважна супрацоўнічаць з любоўю Бога і Выратавальніка, Які праз іх усьцяж пабольшвае ды ўзбагачае Сваю сям’ю.

Бацькі ведаюць, што спаўняючы абавязак, якім ёсьць пераказ жыцьця ды ўзгадаваньне, абавязак, які трэба ўважаць за сваю галоўную місію, яны ёсьць супрацоўнікамі Бога – Стварыцеля ды як бы перакладчыкамі Ягонае любові. Дык трэба ім выпаўняць сваё заданьне з пачуцьцем чалавечай і хрысьціянскай адказнасьці ды з пашанай поўнай пакорнасьці перад Богам, згоднай радай і супольным намаганьнем выраблять сабе справядлівы погляд на гэтую справу, маючы на ўвазе як сваё собскае дабро, так і дабро дзяцей, ці зроджаных ужо, ці прадбачаных; і пазнаючы гэтак сама ўмовіны часу ды жыцьцёвай сытуацыі, як матэрыяльнай, так і духовай; а ў канцы лічачыся з дабром сям’і, грамадзянства і самой Царквы. Гэты пагляд бацькі павінны аканчальна вызначаць перад Богам. Няхай хрысьціянскія бацькі ведаюць, што ў сваім спосабе дзеяньня яны ня могуць кіравацца собскім капрысам, але павінны заўсёды кіравацца сумленьнем, дапасаваным да Божага закону,

слухаючы настаўніцкага ўраду Царквы, які аўтэнтычна тлумачыць гэты закон у сьвятле Эвангельля. Божы закон паказвае поўнае значэньне сужэнскай любові, бароніць яе ды пабуджае, каб чыста па-людзкі яе дасканаліць. Дык вось хрысьціянскія бацькі, маючы надзею ў Божы Провід і выпрацоўваючы ў сабе духа ахвяры, аддаюць славу Стварыцелю дый імкнуцца да дасканаласьці ў Хрысьце, калі ў пачуваньні высокароднай, чалавечай і хрысьціянскай адказнасьці спаўняюць заданьне нараджэньня патомства. З паміж бацькоў, якія гэткім спосабам выпаўняюць паручанае ім праз Бога заданьне, асабліва трэба ўспомніць аб тым, што паводле разтаропнага супольнага замеру бяруцца за супольнае ўзгадаваньне як трэба таксама шматлікага патомства.

Аднак шлюб ня ёсьць устаноўленым вылучна, каб радзіць патомства; бо сама прырода неразрыўнага дагавору паміж дзьвумя асобамі як і дабро патомства вымагае, каб таксама ўзаемная любоў мужа і жонкі законна выражалася, каб развівалася і дасьпевала. Таму шлюб трывае як злучэньне і супольнасьць усяго жыцьця і ня траціць сваёй вартасьці і неразрыўнасьці нават тады, калі няма так часта жаданага патомства” (Пастаральная Канстытуцыя 50).

**Пытаньні да сто чатырнаццатае катэхэзы:**

238) Да чаго Хрыстос кліча мужа і жонку?

**Адказ:** Хрыстос кліча мужа і жонку радзіць дзяцей.

239) З кім супрацоўнічаюць бацькі, даючы жыцьцё патомству?

**Адказ:** Даючы жыцьцё патомству, бацькі супрацоўнічаюць з Богам.

240) Для каго хрысьціянскія бацькі родзяць дзяцей?

**Адказ:** Хрысьціянскія бацькі родзяць дзяцей ня толькі для грамадзтва, але і для Хрыстовай Царквы.

КАТЭХЭЗА CXV.

## 115. Хрыстос кліча мужа і жонку да ўзгадаваньня Божых дзяцей

*“Бацькі, не дражніце сваіх дзяцей, але выхоўвайце іх у навуцы і ў Гасподнім напамінаньні” (Эф. 6, 4).*

Дзіця прыходзіць на сьвет у сям’ю. У сям’і праводзіць і першыя гады свайго жыцьця. Бацькі дбаюць аб ягоным фізычным і духовым разьвіцьці, яно мае дзе жыць, што есьць, гыгіену, здароўя. Яно вучыцца. Бацькі прыгатаўляюць яго да самастойнага жыцьця, перш у сям’і, а пасьля ў грамадзтве. Залежна ад веку дзіцяці яму даюць перш загады, пасьля пераконваюць, а як падрасьце, ужо толькі радзяць. Залежна ад патрэбы да яго пасуюць узнагароды, або і кары. Словам стараюцца выхаваць яго на дасьпелага, добрага, вартаснага і поўнага чалавека. Бацькі ёсьць першымі натуральнымі выхаваўцамі сваіх дзяцей.

У тайне Шлюбу Хрыстос кліча бацькоў да ўзгадаваньня Божых дзяцей. У літургіі Тайны Шлюбу маладыя прыракаюць па-каталіцку ўзгадоўваць дзяцей, якіх ім Бог захоча даць. Яны прымаюць забавязаньне, што ня толькі пастараюцца даць дзіцяці ўмовы да фізычнага і духовага развіцьця, але што будуць яго ўзгадоўваць рэлігійна. Бо-ж яны родзяць дзяцей Хрыстовай Царкве і выдаюць на сьвет “суграмадзян сьвятых і дамачадцаў Божых”, “каб народ аддадзены на службу нашаму Богу і Выратавальніку з кожным днём узрастаў у шматлікасьці” (Пій XI, Энцыкліка аб Шлюбе).

Таму адразу пасьля нараджэньня дзіцяці бацькі шукаюць кумоў, якія папросяць Царкву ахрысьціць дзіця, а пасьля будуць памагаць бацькам узгадоўваць свайго хрэсьніка. Цераз Тайну Хросту дзіця становіцца Божым дзяцём, атрымлівае Божае жыцьцё, якое разьвіваць Хрыстос паручае рупнасьці і апецы бацькоў. Яны ёсьць першымі і безпасярэднімі настаўнікамі рэлігіі. Ад бацькі і ад маткі дзіця даведваецца аб Богу. Гэта яны словам і прыкладам свайго собскага жыцьця вучаць яго пацераў, паслухмянасьці, дабрасумленнасьці, любові да Бога і да людзей як і да ўсяго, што жыве, а таксама адказнасьці. Разам з бацькамі дзіця перажывае сьвяты літургічнага году. Яны вядуць дзіця шляхам сужыцьця з Хрыстом і Ягонаю Царквою ў тайнах, вучаць як трэба жыць верай, надзеяй і любоўю аж да другога прыходу Хрыста. Бяручы на свой спосаб удзел у Хрыстовым Сьвятарстве, бацькі пашыраюць і развіваюць Божае Валадарства.

**Наш адказ Богу:** Буду ўдзячны Богу за ўсынаўленьне мяне цераз маіх бацькоў.

**Прыклад малітвы:** Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Бога Жывога, Які, зроджаны перад вякамі, зажадаў аднак аб’явіцца ў часе як дзіця, і Які любіш нявіннасьць гэтага веку; Ты, што з любоўю бласлаўляў і абдымаў дзяцей, якіх да Цябе прыносілі, абдымі і гэтае дзіця ласкай Свайго блаславенства ды зрабі, каб злосьць не перамяніла яго, але пазволь яму ўзрастаць з гадамі ў мудрасьці, ды ў ласцы, каб заўсёды падабацца Табе.

**Божае Слова:** “Хто выхоўвае свайго сына, будзе з яго мець пацеху і будзе ім ганарыцца перад знаёмымі” (Сыр. 30, 2).

**Навука Царквы:** “Бацькі дзеля таго, што далі дзецям жыцьцё, найбольш абавязаны ўзгадоўваць іх і таму павінны быць прызнаны першымі ды галоўнымі выхаваўцамі. Гэтае ўзгадаваўчае заданьне мае настолькі вялікую вагу, што калі б прыпадкам засталося ня выпаўненым, трудна было б чым-колечы яго заступіць. Бо да бацькоў належыць стварыць такую атмасфэру ў сям’і, пранікнутую любоўю і пашанай да Бога і людзей, каб яна спрыяла цэламу асабістаму і грамадзкаму ўзгадаваньню дзяцей. Таму сям’я ёсьць першай школай грамадзкіх цнотаў, якія патрэбны кожнаму грамадзтву. Асабліва-ж у хрысьціянскай сям’і, узбагачанай ласкай і абавязкамі Тайны Шлюбу, трэба ўжо ад найранейшага веку вучыць дзяцей згодна з атрыманай з Хростам верай пазнаваць Бога і пакланяцца Яму ды любіць бліжняга. Там гэтак сама маюць яны і першую практыку здаровага грамадзкага жыцьця і адносінаў да Царквы; цераз сям’ю яны ўваходзяць памалу ў сьвецкую чалавечую супольнасьць і ў Божы народ. Дык няхай бацькі добра сабе ўсьведамяць, якое вялікае значэньне мае хрысьціянская салідная сям’я для жыцьця і развіцьця самога Божага народу” (Дэкларацыя аб Хрысьціянскім Узгадаваньні 3).

“У гэтай хатняй Царкве (гэта значыць у сям’і) бацькі пры помачы слова і прыкладу павінны быць для сваіх дзяцей першымі прапаведнікамі веры ды развіваць спецыяльнае пакліканьне кожнага з іх, асабліва пакліканьне да Божае службы” (Канстытуцыя аб Царкве 11).

**Пытаньні да сто пятнаццатае катэхэзы:**

241) Да чаго Хрыстос кліча бацькоў, якія маюць дзяцей?

**Адказ:** Хрыстос кліча бацькоў, маючых дзяцей, да ўзгадаваньня Божых дзяцей.

242) Чаго бацькі павінны вучыць Божых дзяцей?

**Адказ:** Бацькі вучаць Божых дзяцей жыць верай, надзеяй і любоўю, што прыгатаўляе на прыход Хрыста.

КАТЭХЭЗА CXVI.

## 116. Хрыстос вяртае шлюбу неразрыўнасьць

*“Дык што Бог злучыў, чалавек хай не раздзеляе” (Мац. 19, 6).*

На пачатку стварыў Бог аднаго мужчыну і адну жанчыну. Цераз злучэньне аднаго мужчыны з адной жанчынай Бог паказаў Сваю волю, каб шлюб быў неразрыўным і лучыла сваіх членаў любоўю так цесна, што абое стануцца адным чалавекам.

Першародны грэх аслабіў любоў першых бацькоў. Іхныя патомкі ня ўмелі любіць аж да сьмерці, увялі разводы і мнагажонства. Хрыстос вярнуў парадак, устаноўлены Богам і скасаваў развод і многажонства. Ён сказаў, што ў шлюбе Бог лучыць мужа з жонкай і ніякая чалавечая сіла не павінна іх разлучаць: “Дык што Бог злучыў, чалавек хай не раздзеляе” (Мац. 19, 6).

Апосталы вучылі веруючых гэтак сама. Сьвяты Павал пісаў да Карынцянаў: “Тым-жа, што пажаніліся, ня я загадваю, але Госпад: Жонцы – не разлучацца з мужам, калі ж разлучыцца, то няхай застаецца бяз мужа, ці пагодзіцца з мужам сваім; і мужу – не пакідаць жонкі” (1 Кар. 7, 10-11). Гэты самы апостал тлумачыць Рымлянам, што толькі сьмерць разрывае шлюб: “Замужняя жанчына прывязана законам да жывога мужа; а калі муж памрэ, яна звальняецца ад мужа… калі памрэ муж, яна вольная ад закону” (Рым. 7, 2-3). – Гэтак сама піша да Карынцянаў: “Жонка зьвязана законам, дакуль жыве ейны муж; калі ж ейны муж памрэ, вольна выйсьці, за каго хоча, толькі ў Госпадзе” (1 Кар. 7, 39). Гэтыя выясьненьні Паўла адносяцца гэтак сама да мужоў, як і да жонак.

У літургіі Тайны Шлюбу сьвятар пытае кожнага з маладых: “Ці хочаш вытрываць у гэтай супольнасьці ў добрай і дрэннай долі, покуль сьмерць вас не разлучыць?”, а яны выражаюць згоду на гэта і прыракаюць адзін аднаму любоў, вернасьць і сужэнскую дабрасумленнасьць, а таксама і тое, што не пакінуць адзін аднаго аж да сьмерці. У часе гэтага абраду сьвятар, калі блаславіць дагавор, моліцца аб вытрываласьць маладых у сужэнстве. У блаславенстве, якое даецца ў часе сьвятой Літургіі для сужэнцаў, сьвятар успамінае аб неразрыўнасьці Шлюбу славамі: “Божа, Што… ўсё стварыў з нічога, завёўшы парадак на пачатку існаваньня сусьвету, даў чалавеку створанаму на Божы абраз як помач жанчыну, фармуючы ейнае цела з цела мужчыны, каб навучыць нас, што ніколі нельга разлучаць таго, што Ты пастанавіў зрабіць з аднае істоты”.

Царква ў працягу стагодзьдзяў аб’яўляла неразрыўнасьць шлюбу, як волю Хрыста. Трыдэнцкі Сабор акрэсьліў: “Вечнасьць і неразрыўнасьць сужэнскага кантракту была сьцьверджана бацькам чалавечага роду славамі сказанымі пад натхненьнем Сьвятога Духа: “Гэта вось косьць з маей касьці і цела з майго цела”. Таму пакіне чалавек бацьку і матку і прылучыцца да сваёй жонкі ды будуць двое ў адным целе”.

А таго, што сужэнскі вузел можа лучыць у адно толькі дваіх людзей выразна вучыў Хрыстос: “І так ужо ня ёсьць двое, але адно цела” і ў наступных далей славах пацьвердзіў трываласьць гэтага злучэньня: “Дык што Бог злучыў, чалавек хай не разлучае”.

У выняткавых прыпадках у Царкве можа быць дапушчана сэпарацыя, гэта значыць звальненьне сужэнцаў ад супольнага жыцьця, якое нармальна ёсьць іхным абавязкам. Аднак сэпарацыя не дае права ані мужу, ані жонцы ўступаць у другое сужэнства. Аб гэтым сьвяты Павал піша: “Калі-б жонка адышла ад мужа, павінна аставацца бяз мужа або пагадзіцца з сваім мужам” (1 Кар. 7, 11). Духоўны суд вырашае ў кожным выпадку, калі трэба дапусьціць сэпарацыю.

Хоць у каталіцкай Царкве няма разводаў, аднак здараюцца прыпадкі, калі сам шлюб быў несапраўдным. Ён не дае права мужчыне і жанчыне жыць з сабой, як муж з жонкай. Такі шлюб можа здарыцца праз памылку і калі гэтая памылка адкрыецца, тады сужэнцы павінны разыйсьціся, каб кожны для сябе пашукаў, калі зажадаюць, новага, сапраўднага шлюбу. Духоўны суд павінен вырашыць, ці шлюб быў несапраўдным, напрыклад, калі вянчаньне адбылося пад прымусам і пакрыўджаная старана ніколі з гэтым не пагадзілася і не дала ўнутранай згоды. Або калі адна старана была і застаецца няздольнай да выпаўненьня сужэнскіх абавязкаў.

Дзяржаўныя законы дапускаюць разводы, але толькі тады, калі гэта ня шкодзіць дзецям. Нармальнае развіцьцё дзіцяці, ад якога залежыць нармальная дасьпеласьць чалавека – грамадзяніна, ляжыць як аснова дзяржаўнага сужэнскага заканадаўства.

**Наш адказ Богу:** Буду маліцца аб вытрываласьці да сьмерці для каталіцкіх сужэнстваў.

**Прыклад малітвы:** Прыхіліся, Госпадзе, да нашых просьбаў і міласьціва падтрымай саюз, які Ты ўстанавіў для распаўсюджаньня чалавечага роду, каб заключаны з Тваей волі трываў дзякуючы Тваей помачы.

**Божае Слова:** “Усякі, хто разводзіцца з сваёй жонкаю і жэніцца з другой, блудзіць, і кожны, хто жэніцца з разьведзенай з мужам, блудзіць” (Лук. 16, 18). “А Я кажу вам, што ўсякі, хто глядзіць на жанчыну з блуднымі думкамі, ужо блудзіць з ею ў сваім сэрцы” (Мац. 5, 28). – “Хто разлучаецца з сваёй жонкаю апрача віны блуду, той робіць яе распусьніцаю, і хто ажэніцца з разьведзенаю, блудзіць” (Мат 5, 32; 19, 9).

**Навука Царквы:** “Неразрыўнасьць сужэнскага саюзу падкрэсьлівае моцна сам Хрыстос у наступных славах: Што Бог злучыў, чалавек хай не разлучае” і “Кожны, хто пакідае сваю жонку і жэніцца з другой, чужажоніць, і хто жэніцца з пакінутай праз мужа, чужажоніць”.

У гэтай вось неразрыўнасьці сьвяты Аўгустын бачыць тое, што ёсьць дабром тайны, кажучы: “Сутнаю прыкметаю тайны ёсьць тое, каб шлюб ня быў разрываны і каб муж, які пакіне жонку, або жонка, якая адышла ад мужа не заключалі новага сужэнства з узгляду нават на патомства” (Пій XI, Энцыкліка аб Шлюбе).

“Глыбокая супольнасьць жыцьця і сужэнскае любові, устаноўленая Стварыцелем і ўнармаваная Ягонымі законамі, завязваецца праз сужэнскі дагавор, або праз неадменную асабістую згоду. Гэткім спосабам цераз акт асобаў, якім муж і жонка аддаюцца адзін аднаму і прымаюць адзін аднаго, паўстае з Божай волі інстытуцыя, якая і перад грамадзствам аказваецца трывалай. Гэты сьвяты саюз з узгляду на дабро як сужэнцаў і патомства, так і грамадзтва ні ў чым не залежыць ад суду грамадзтва. Бо Сам Бог ёсьць Стварыцелем шлюбу, надзеленага рознымі багацьцямі і мэтамі. Усё гэта мае агромнае значэньне для трываласьці чалавечага роду, для асабістага развіцьця і вечнае долі паасобных членаў сям’і, для годнасьці, сталасьці, міру і памыснасьці самой сям’і ды ўсяго чалавечага грамадзтва” (Пастаральная Канстытуцыя 48).

**Пытаньні да сто шаснаццатае катэхэзы:**

243) Што Хрыстос вярнуў шлюбу?

**Адказ:** Хрыстос вярнуў шлюбу пачаткавую неразрыўнасьць.

244) Як доўга трывае шлюб неразрыўным?

**Адказ:** Шлюб трывае неразрыўным аж да сьмерці аднаго з сужэнцаў.

КАТЭХЭЗА CXVII.

# 117. Хрыстос вымагае пашаны для бацькоў

*“Шануй свайго бацьку і сваю матку” (Вых. 20, 13).*

Калі бацька і матка даюць жыцьцё дзіцяці, яны разам з ім твораць сям’ю. Сям’я ёсьць найменшай аснаўной клеткай грамадзтва. Грамадзтва складаецца з сем’яў. Бацька і матка кіруюць жыцьцём сям’і. Гэтага вымагае дабро ўсіх членаў сям’і. Яны дбаюць аб тым, каб дзяцей узгадаваць на добрых, здаровых, разумных і вартасных членаў грамадзтва. Яны не шкадуюць намаганьняў ані коштаў, каб іх прыгатаваць да самастойнага жыцьця. Як прадстаўнікам Бога, ім належыцца паслухмянасьць. Гэтага вымагае дабро грамадзтва. За труды і намаганьні бацькам належыцца прызнаньне і пашана, а на старасьць помач і апека.

У Старым Запавеце Майсей аб’явіў выбранаму народу Божы загад: “Шануй свайго бацьку і сваю матку” (Вых. 20, 13). Пашана аказвалася бацькам цераз паслушэнства. Адсюль у Кнізе Прыповесьцяў мы чытаем: “Трымайся, сыне, бацькаўскіх радаў, не пагарджай навукай маткі. Запішы іх назаўсёды ў сэрцы” (6, 20).

У Тайне Шлюбу Хрыстос кліча сужэнцаў стацца бацькамі ды даверае ім кіравецтва сям’ёй. Аддае ім пад апеку дзяцей, якія праз Хрост сталіся Божымі дзяцьмі. Дае ім сьвятло і сілы, перавышаючыя сілы прыроды і загадвае прыпамінаць дзецям аб Божых загадах. Бацькі ёсьць настаўнікамі і ўзгадаваўцамі з пакліканьня і волі Хрыста. Таму паслушэнства і пашана аказаныя бацькам, адносяцца таксама да Самога Хрыста і да Бога.

Хрыстос паўтарыў загад любіць бацькоў. Дзецюка, што пытаўся, якія загады трэба выпаўняць, Хрыстос павучыў таксама і аб загадзе: “шануй свайго бацьку і сваю матку”. Пашану да бацькоў Хрыстос аказваў цераз паслухмянасьць. Сьвяты Лука коратка апісаў жыцьцё Хрыста з Маткай і сьвятым Іосіфам славамі: “І быў ім паслухмяны”. Як ведама, любоў Хрыста да Свайго Айца ў небе выразілася тут на зямлі як паслушэнства, так што сам Ён казаў аб Сабе: “Маёй ежай ёсьць спаўняць волю Таго, Хто мяне паслаў”. Дык і бацькам Сваім на зямлі Ён быў паслухмяны не таму, што іх баяўся, а таму, што іх любіў.

Уміраючы на крыжы Хрыстос думаў аб Сваёй Матцы, якая аставалася сама адна на сьвеце, бо сьвяты Іосіф ужо памёр, а дзяцей Яна ня мела апрача аднаго Сына Божага. Хрыстос аддаў Яе пад апеку Свайму любімаму вучню, Яну. Гэтак аказаў Ёй пашану, удзячнасьць за ўсё, што Яму дала і забяспечыў Ёй спакойную старасьць.

Пашана аб’яўляецца таксама ў думках, славах і ўчынках. Добра думаць аб бацьку і матцы, добра гаварыць аб іх, бараніць іхнае славы ды адносіцца да іх з пашанай вымагае любоў і ўдзячнасьць за іхны даўгалетні труд, апеку і рупнасьць аб дзяцей.

**Наш адказ Богу:** Буду старацца паказаць у паслухмянасьці сваю любоў, а ў думках, славах і паводзінах пашану сваім і чужым бацькам.

**Прыклад малітвы:** Ойча ўсіх людзей, узглянь на дзіця, якое моліцца да Цябе за сваіх бацькоў. Блаславі іх, Госпадзе, у здароўі, у працы і добрых імкненьнях. Узнагарадзі іх за ўсе труды і турботы, якія дзеля мяне пераносяць. Не дапусьці, Госпадзе, каб я ім калі-колечы зрабіў прыкрасьць, але дай мне ласку, каб я стаўся для іх пацехай і гордасьцю. Прадоўж ім жыцьцё на Сваю славу. Дай, каб у старасьці я быў для іх падпорай, а ў небе разам з імі славіў Цябе на векі. Праз Госпада нашага Ісуса Хрыста. Амін.

**Божае Слова:** “Будзеш шанаваць свайго бацьку і сваю матку, як табе загадаў твой Бог Ягвэ, каб ты доўга жыў і каб табе добра паводзілася на зямлі, якую табе дае твой Бог Ягвэ” (Паўт. Пр. 5, 16). “Дзеці, слухайце сваіх бацькоў у Госпадзе, бо гэта справядліва. Паважай свайго бацьку і матку, –

гэта першая запаведзь з прырачэньнем: каб табе было добра, і быў ты даўгалетнім на зямлі (Вых. 20, 12)” (Эф. 6, 1-2). – “Дзеці, будзьце паслухмянымі бацькам у-ва ўсім, бо гэтае ўгодна Госпаду” (Кал. 3, 20).

**Навука Царквы:** “Шанаваць кагось, гэта значыць: думаць аб кімсь з пашанай, цаніць як найвышэй усё, што да яго адносіцца; з гэткай пашанай лучыцца любоў, паважаньне, паслухмянасьць і апека” (Рымскі Катэхізм, ч. III, р. 5, н. 7).

**Пытаньне да сто семнаццатае катэхэзы:**

245) Як дзеці павінны шанаваць бацькоў?

**Адказ:** Дзеці павінны бацькоў слухаць, любіць, аказваць ім удзячнасьць і апекавацца імі ў старасьці.

КАТЭХЭЗА CXVIII.

# 118. Хрыстос вымагае прыгатаваньня да шлюбу

*“Моцны фундамант шчасьлівага шлюбу і згуба, да якое вядзе нешчасьлівага, творыцца і будуецца ў душах хлопцаў і дзяўчат ужо ў дзіцячым і юнацкім веку” (Пій XI, Энцыкліка аб Шлюбе).*

Шлюб накладае на чалавека важныя і трудныя заданьні. Яно вымагае ўзаемнае любові або ахвярнасьці і пашаны, а таксама вернасьці да сьмерці. Таму да шлюбу трэба прыгатавацца. Гэтае прыгатаваньне пачынаецца яшчэ ў дзіцячых гадох і трывае праз усю маладосьць. Асабліва прыгатаўляюцца маладыя людзі ў часе ад заручынаў, да шлюбу.

Першай школай любові ёсьць жыцьцё ў сям’і. Таму мы вучымся перамагаць свой эгаізм і панаваць над нахіламі. Там гэтаксама вучымся любіць нашых найбліжэйшых як самых сябе. У сям’і мы вучымся адказнасьці за тых, каго любім. Цераз жыцьцё ў сям’і паглыбляецца нашая прывязанасьць і пашана да бацькоў, братоў і сясьцёр ды да ўсіх найбліжэйшых. Гэткім спосабам сям’я прыгатаўляе нас да будучых сужэнскіх і бацькоўскіх абавязкаў.

Асабліва мы прыгатаўляемся да шлюбу, перасьцерагаючы вымаганьні чыстаты. Яе дамагаецца любоў самога сябе і любоў бліжняга. Чысты чалавек разумна кіруе сэксуальным інстынктам, шануючы сваё цела і цела другога чалавека. Гэтую пашану ён аказвае ў думках, славах і ўчынках. Аб гэтым піша сьвяты Павал: “А блуд і ўсякая нячыстата або прагавітасьць няхай і не ўспамінаюцца ў вас, як і гожа сьвятым” (Эф. 5, 3).

Гэтак сама і заручаныя маюць абавязак любіць і шанаваць адзін аднаго. Сапраўдная любоў павінна памагаць ім рупна захаваць чыстату.

Каб добра прыгатавацца да шлюбу яны павінны радзіцца перш у бацькоў, пасьля ў выхаваўцаў, душпастыраў і таксама дахтароў. Ёсьць і адпаведныя для іх, усьведамляючыя кніжкі. На пытаньні равесьнікаў, ці малодшых калегаў няхай адказваюць паважна і згодна з праўдай. Бо мы нясём адказнасьць ня толькі за тое, як самі адносімся да гэтых справаў, але таксама за тое, які ўплыў маем у гэтым на іншых.

Праступкі супраць чыстасьці нарушаюць аснаўны маральны закон – закон любові – і нарушаюць два загады Дэкалогу: шосты і дзевяты; таму, калі яны сьведамыя і дабравольныя, яны ёсьць цяжкімі грахамі.

Хрыстос узгадоўвае ўсіх ахрышчаных да любові. Ён улучае іх у ахвярную любоў, якая завяла Яго на крыж дзеля выратаваньня ўсіх людзей. Кожная эўхарыстычная ахвяра пазваляе ім на нова перажываць Пасхальную Містэрыю, якой зьместам ёсьць любоў Хрыста да людзей. Дае ім таксама

магчымасьць узрастаць у любові, якой яны, асягнуўшы дасьпеласьць, будуць абдзяляць найбліжэйшых у сваім сужэнстве і ў заснаванай імі сям'і. Таму Царква так настойліва жадае, каб шлюб быў заключаны ў часе сьвятой Літургіі, а сямейнае жыцьцё каб было падтрымлівана супольным і частым удзелам у Найсьвяцейшай Ахвяры.

Любоў у Хрысьціянскім шлюбе ёсьць знакам любові Хрыста да Царквы; таму хрысьціяне прыгатаўляюцца да гэтае любові праз чыстае ды ахвярнае жыцьцё ў Царкве. У чыстым перадсужэнскім жыцьці Царква бачыць прадказаньне і гарантыю сапраўды хрысьціянскага шлюбу, а таксама шчасьця сужэнцаў і сям'і. Таму яна заахвочвае і заклікае практыкаваць чысьціню. Аказвае асаблівую пашану Найсьвяцейшай Дзеве ды тым сьвятым, якія адзначыліся гэтай цнотай. Радзіць асьцярожнасьць і прадбачлівасьць, частае прыманьне сьвятых тайнаў і малітву аб чысьціні. Загадвае таксама, каб дзеці і моладзь атрымалі “пазытыўнае і растаропнае сэксуальнае ўзгадаваньне адпаведна да ўзросту” (Дэкларацыя аб Хрысьціянскім Узгадаваньні 1). Для заручаных ладзіць курсы прад шлюбам.

**Наш адказ Богу:** Аб любові ды аб шлюбе буду гаварыць з пашанай.

**Прыклад малітвы:** О Прачыстая Дзева, Маці Хрыстова, мая ласкавая Заступніца! Паручаюся Тваей апецы і цэлай сваёй істотай Табе аддаюся. Барані мяне, добрая Матухна, ад спакусаў нячысьціка і цялеснай напасьці ды выпрасі ласку ў Наймілейшага Свайго Сына аглядаці і славіці Бога на векі вечныя.

**Божае Слова:** “Уцякайце ад блуду; ... Ці ня ведаеце, што целы вашыя ёсьць храм Сьвятога Духа, Які ў вас, Якога вы маеце ад Бога, і вы не свае? Бо вы купленыя дарагою цаною. Дзеля гэтага выслаўляйце Бога ў вашым целе і вашым духу, якія ёсьць Божымі” (1 Кар. 6, 18. 19-20).

**Навука Царквы:** “Наступныя справы заўсёды належылі да абавязкаў мужа і жонкі, а сёньня становяць іхняе галоўнае апостальскае заданьне: прыкладам собскага жыцьця прапаведваць і даказваць неразрыўнасьць сужэнскага вузла; сільна падкрэсьліваць права і абавязак бацькоў да хрысьціянскага ўзгадаваньня дзяцей; бараніць годнасьці і належнае аўтаноміі сям'і... Сярод шматлікіх відаў сямейнага апостальства трэба назваць... памаганьне заручаным, каб яны лепш маглі прыгатавацца да шлюбу...” (Дакрэт аб Апостальсьве Сьвецкіх 11).

“Маладых трэба перадусім у самой сям'і адпаведна ды ў сваім часе навучаць аб годнасьці, заданьні і дзеле сужэнскай любові, каб навучыўшыся пашаны для чысьціні, маглі перайсьці ў адпаведным веку ад дабрасумленных заручынаў да шлюбу” (Пастаральная Канстытуцыя 49). “Сям'я ёсьць школай багацейшае чалавечнасьці. Дык каб яна магла асягнуць паўнату свайго жыцьця і сваёй місіі, патрэба прыхільнай духовай дружбы ды супольнага абмену думкамі паміж мужам і жонкаю, як і рупнага супрацоўніцтва таксама ў узгадаваньні дзяцей. Актуальная прысутнасьць бацькі вельмі памагае іх вырабіць; але і хатняя прысутнасьць маткі, якая патрэбна асабліва малодшым дзецям, павінна быць запэўнена, што аднак не павінна перашкодзіць пажаданаму грамадзкаму авансу жанчыны. Дзяцей трэба так узгадоўваць, каб дайшоўшы да дасьпелага ўзросту яны маглі з поўным пачуцьцём адказнасьці пайсьці за паклікааньнем, таксама і духовым, ды выбраць сабе такі стан жыцьця, у якім, калі зьвяжуцца шлюбам, яны магліб заснаваць собскую сям'ю ў памысных для сябе маральных, грамадзкіх і гаспадарчых умовінах. Да бацькоў або апекуноў належыць, каб зрабіцца правадырамі для маладых у засноўваньні сям'і цераз растаропныя рады, якіх маладыя павінны слухаць ахвотна; аднак трэба асьцерагацца, каб не

нахіляць іх безпасярэднім або пасярэднім прымусам да шлюбу або да выбару партнэра ў шлюбе” (Пастаральная Канстытуцыя 52).

**Пытаньне да сто васемнаццатае катэхэзы:**

246) Праз што хрысьціянін прыгатаўляецца да шлюбу?

**Адказ:** Хрысьціянін прыгатаўляецца да шлюбу, вучачыся любіць бліжніх як самога сябе, пануючы над сваімі нахіламі ды жывучы ў чысьціні.

КАТЭХЭЗА CXIX.

# 119. Хрыстос кліча некатарых да бязжэнства дзеля Божага Валадарства

*“І ёсьць скапцы, якія самі сябе зрабілі скапцамі дзеля нябеснага валадарства. Хто можа паняць, няхай пайме” (Мац. 19, 12).*

Ня ўсе людзі жэняцца. Ёсьць такія, што жывуць у бязжэнстве, бо хочуць прысьвяціць свае сілы і жыцьцё вялікім справам, ня толькі адной сям’і, але ўсім людзям бяз вынятку, на колькі хопіць сілы. Адны з іх аддаюцца навуцы, досьледам і адкрыцьцям, другія мастацкай творчасьці, іншыя грамадзкім і палітычным справам. Ёсьць дахтары і санітаркі, якія ня жэняцца, каб магчы ўсё жыцьцё працаваць для хворых. Ёсьць настаўнікі і ўзгадаваўцы, якія жывуць адзінока, каб цалкам аддацца дзецям і моладзі. Ёсьць жанчыны, што не выходзяць замуж, каб заняцца ўзгадаваньнем малодшых братоў і сясьцёр або апекавацца старымі, пакінутымі бяз апекі. Ёсьць і такія, што не заснавалі сям’і, хоць і думалі аб гэтым. Яны таксама могуць ахвяраваць сваё жыцьцё і часта ахвяруюць яго на службу бліжнім.

Людзі, якія перакананыя, што іх да бязжэнства кліча Хрыстос, прысьвячаюць сваё жыцьцё справам Божага Валадарства. Яны служаць выратаваньню людзей у Царкве як сьвятары, манахі і манашкі, а таксама як сьвецкія, што працуюць для дабра чалавецтва. Яны аддаюцца непадзельна, цалкам і на ўсё жыцьцё Хрысту, памагаюць людзям пазнаваць і любіць Бога ды накіроўваць сьвет да Бога. Яны робяць гэта з любові да Хрыста і да людзей. Яны любяць з такой самай ахвярнасьцю, як Хрыстос і гэтак становяцца сьведкамі найважнейшай справы Божага Валадарства – Хрыстовае любові.

Сьвятое Пісьмо кажа, што Бог устанавіў шлюб для людзей. І большасьць людзей пераважна засноўвае сем’і. Аднак ёсьць і такія, якіх Хрыстос кліча да жыцьця ў бязжэнстве. Аб гэтым Ён так казаў Сваім вучням: “Ня ўсе разумеюць гэтыя словы, але каму дадзена. Бо ёсьць няздатныя да шлюбу, якія такімі радзіліся, і ёсьць няздатныя да шлюбу, якіх людзі зрабілі такімі; а ёсьць і такія няздатныя, якія самі сябе зрабілі такімі дзеля Нябеснага Валадарства. Хто можа паняць, няхай пайме” (Мац. 19, 11-12).

Гэтак сама і нехрысьціяне, калі выракаюцца собскага шчасьця ў сямейным жыцьці, каб аддацца на службу другім, на свой спосаб прычыняюцца да будаваньня Божага Валадарства. Бо ўсякая добрая творчасьць з Бога бярэ пачатак і вядзе да Бога.

**Наш адказ Богу:** Буду шанаваць тых, што выбралі бязжэнства дзеля Божага Валадарства.

**Прыклад малітвы:** Зрабі, Божа, каб слугі выратаваньня, якіх Ты выбраў, чыстым розумам служылі Тваей бязмернай любові.

**Божае Слова:** “Добра чалавеку не дакранацца да жанчыны… Але кожны мае свой дар ад Бога, адзін так, другі гэтак… нежанатым жа і ўдовам кажу: добра ім, калі астануцца, як я” (1 Кар. 7, 1. 7-8). – “Нежанаты клапаціцца аб Гасподнім, як дагадзіць Госпаду… гэтак і незамужняя клапаціцца аб

Госпадзе, каб дагадзіць Госпаду, каб быць сьвятой і целам і духам” (1 Кар. 7, 32. 34).

**Навука Царквы:** “А сужэнцам і хрысьціянскім сем’ям прыстойна, каб ідучы собскім шляхам, праз цэлае жыцьцё падтрымлівалі адзін аднаго ў ласцы з помаччу вернай любові, а патомству, што прыймаюць з любоўю ад Бога, прышчаплялі хрысьціянскія навукі ды эвангельскія цноты. Бо гэткім спосабам яны даюць усім прыклад нястомнай і высакароднай любові ды становяцца сьведкамі і супрацоўнікамі пладнасьці Маткі Царквы, на знак і ўдзел у той любові, якой Хрыстос палюбіў Сваю нявесту і выдаў за яе Самога Сябе. Падобны прыклад ужо іншым спосабам даюць удовы і ўдаўцы а таксама не звязаныя шлюбам, якія таксама ў немалой ступені могуць прычыніцца да сьвятасьці і працы ў Царкве” (Канстытуцыя аб Царкве 41).

“Духовасьць сьвецкіх людзей разнародна фармуецца ў залежнасьці ад умовін жыцьця: шлюб і сямейнае жыцьцё, ці бязжэнства або ўдавецтва, хвароба ці напружаная прафэсіянальная і грамадзкая праца” (Дэкрэт аб апостальстве сьвецкіх 54).

**Пытаньне да сто дзевятнаццатае катэхэзы:**

247) Якое заданьне маюць людзі пакліканые да бязжэнства?

**Адказ:** Заданьнем людзей пакліканых да бязжэнства ёсьць будаваньне Божага Валадарства цераз любоў і самаахвярнасьць для другіх.

## *III. Хрысьціянін у грамадзтве*

*“Каб былі адно” (Ян. 17, 11).*

КАТЭХЭЗА CXX.

# 120. Усе людзі ёсьць братамі ў Хрысьце

*“Няма ўжо гэбрая, ані грэка; няма нявольніка, ані свабоднага; няма мужчынскага полу, ані жаноцкага; бо ўсе вы адно ў Хрысьце Ісусе” (Гал. 3, 28).*

Усе людзі твораць адну вялікую сям’ю. Усе маюць тую самую чалавечую прыроду. Хоць розняцца паміж сабою расай, нацыянальнасьцю, рэлігіяй, ступеняй цывілізацыі і культуры, аднак усе яны ёсьць людзьмі. Лучыць іх супольнасьць паходжаньня ад Бога цераз стварэньне. Чалавек мае ў сабе сацыяльны нахіл, каб быць з другім чалавекам. Прабываньне з другімі вымагае ад чалавека, каб ён з імі лучыўся, каб стараўся зразумець другога чалавека ды памагаць яму. Гэтае імкненьне завецца альтруізмам. Яно выражаецца ў найпрасьцейшай узаемнай помачы адзін аднаму. У нашых часах яно прымае што раз то больш агульначалавечыя формы.

Прызнаньне другога чалавека і ягоных правоў лучыцца з паняцьцем, што ўсе людзі роўныя паміж сабою, што кожнаму належыцца тое самае права. Гэтыя імкненьні выразіліся ва Ўсеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека, прызнанай праз Арганізацыю Злучаных Нацыяў і прынятую амаль праз усе дзяржавы.

Аднак здараецца, што асобныя адзінкі, а нават групы людзей, грамадзтвы, заражаюцца эгаізмам. Тады яны імкнуцца да дабра толькі адной групы, ня лучачыся з усеагульным дабром і нават выступаюць супраць яго. Узаемная любоў, якая павінна панаваць паміж усімі, бо лучыць іх супольная доля, пераходзе тады ў нянавісьць. І гэта ёсьць адзін з вынікаў першароднага граху.

Сапраўдная роўнасьць існуе толькі перад Богам, Стварыцелем і Судзьдзёю. Бог жадае, каб паміж людзьмі была любоў: “Будзеш любіць бліжняга як самога сябе” (Лев. 19, 18).

Бог паглыбляе гэтую роўнасьць, клічучы ўсіх у Божае Валадарства. Ён “хоча, каб усе людзі збавіліся і дайшлі да пазнаньня праўды” (1 Цім. 2, 4). Каб гэтае зрэалізаваць Божы Сын стаўся чалавекам і памёр на крыжы за ўсіх людзей і гэтак зьвязаў іх з Сабою. Ён хоча, каб быў адзін аўчарнік і адзін пастыр. Гэтак чалавецтва асягне сапраўдную еднасьць.

Гэтаму адзінству супраціўляецца эгаізм адзінак і грамадзкіх групаў. Змагацца з эгаізмам асабліва ёсьць пакліканымі хрысьціяне, злучаныя праз Хрост у адно з Хрыстом. Гэта ў іх і цераз іх Хрыстос вядзе далей Сваё дзела злучэньня ўсіх людзей: “Умілаваныя! Калі Бог палюбіў нас гэтак, дык і мы павінны любіць адзін аднаго” (1 Ян. 4, 11).

Адзінства павінна быць перадусім у самой Царкве. Тады Царква ёсьць для ўсіх людзей знакам адзінства.

Хрысьціяне павінны сапраўды любіць таксама нехрысьціян, няверуючых і ўсіх бяз вынятку людзей, шануючы іхныя прақананьні, народныя звычаі, культуру, як і ўсё, што адносіцца да ўсяго чалавецтва.

Надпрыродная супольнасьць у Хрысьце ёсьць вышэйшай, чым супольнасьць у адным толькі стварэньні, бо ў ёй дасканалей выразілася Божая любоў, якая абымае ўсіх людзей. Дык у Хрысьце ўсе, ахрышчаные і неахрышчаные, ёсьць братамі і павінны жыць у сапраўднай любові.

**Наш адказ Богу:** У кожным чалавеку хачу бачыць брата ў Хрысьце.

**Прыклад малітвы:** Дзе ўзаемная любоў і дабрата, там знойдзеш Жывога Бога. Калі мы ўсе тут зьбіраемся, сьцеражэмся таго, што нас дзеліць. Хай спыняцца гнеўныя спрэчкі ды споры, а між намі хай будзе Хрыстос (З літургіі на Вялікі Чацьвер).

**Божае Слова:** “Служыце адзін аднаму кожны тым дарам, які хто атрымаў, як добрыя будаўнічыя рознароднае Божае ласкі” (1 Пятр. 4, 10).

**Навука Царквы:** Царква ёсьць у Хрысьце як бы тайнай, або знакам і прыладай унутранага злучэньня з Богам ды адзінства ўсяго чалавечага роду (Канстытуцыя аб Царкве 1). – “Да гэтага каталіцкага адзінства Божага народа, якое ёсьць знакам будучага ўсеагульнага міру ды да яго вядзе, ёсьць пакліканымі ўсе людзі ды да яго ў розны спосаб належаць або ёсьць яму падпарадкаванымі, як і веруючыя каталікі так і іншыя веруючыя ў Хрысьце, ды як і ўсе наагул людзі, з Божае ласкі пакліканыя да выратаваньня” (Канстытуцыя аб Царкве 13). – “Адзінства чалавечае сям’і выразна дапаўняецца і ўзмацоўваецца, калі яно абапіраецца на адзінства сям’і Божых сыноў у Хрысьце” (Пастаральная Канстытуцыя 42).

**Пытаньне да сто дваццатае катэхэзы**

248) Чаму ўсе людзі ёсьць братамі ў Хрысьце?

**Адказ:** Усе людзі ёсьць братамі ў Хрысьце, бо Хрыстос за ўсіх памёр і ўваскрос, каб іх злучыць з Богам.

*“Маліся і працуй”*

КАТЭХЭЗА CXXI.

# 121. Хрысьціянін творыць і развівае цывілізацыю і культуру

*“Ты зрабіў чалавека гаспадаром над творамі Тваіх рук і ўсё Ты паклаў яму пад ногі” (Пс. 8 7).*

Бог ёсьць паўнатой праўды, дабра і хараства. Адбіцьцём Божае прыгожасьці ёсьць сьвет, які Бог-Стварыцель паддаў чалавеку. Дзеля таго, што чалавек уважаў бы за меншае дабро для сябе жыць у Бога толькі на ўсім гатовым, Бог абяцае яму гэта толькі ў вечнасьці, калі чалавек на гэта дабравольна згодзіцца. А тымчасам у гэтым жыцьці чалавек мае сам сваёй собскай працай здабываць сабе ўсё патрэбнае і гэтак вясьці далей Божае дзела стварэньня.

Развіцьцё цывілізацыі і культуры якраз і ёсьць гэтай працай чалавека. Чалавек дасканаліць сьвет і адначасна дасканаліць сам сябе. Ён развівае здольнасьці свайго духа і цела, пазнае што раз лепш гэты сьвет, паглыбляе веду аб ім.

Гісторыя чалавецтва кажа, што навукі ўсьцяж развіваюцца. Кожнае стагодзьдзе прыносіць новыя адкрыцьці, паднімаецца ўзровень веды, навука становіцца з часам уласнасьцю ўсіх. Зьяўляюцца школы, развіваюцца, разпаўсюджваюцца. Развіцьцё цывілізацыі і культуры служыць на карысьць усіх людзей.

Гэтае развіцьцё павінна таксама абымаць узаемную і ўсеагульную любоў ды вясьці людзей да Бога. Аднак на перашкодзе стаіць чалавечы эгаізм – рэзультат першароднага граху. Эгаізм шукае ў цывілізацыі выгады і палёгкі жыцьця. Выкарыстоўваючы дасягненьні цывілізацыі і культуры для сваіх толькі мэтаў, часам супярэчных з агульным дабром, эгаізм засланяе людзям Бога.

Бог аб’яўляўся Свайму народу ў розных часах. Ён прамаўляў адпаведна да стану культуры, якая панавала ў тых эпохах. Ісус Хрыстос абвяшчаў добрую навіну аб выратаваньні абапіраючыся на цывілізацыю таго часу; культура, мова, параўнаньні, прыповесьці Хрыста былі добра зразумелымі для людзей у тым часе.

Царква гэтак сама ўва ўсей сваёй гісторыі карыстала з цывілізацыі і культуры. Адначасна яна ўплывала на культуру, уводзячы ў яе Хрыста. У часах, калі дзяржавы не займаліся асьветай, Царква засноўвала школы. Пад ейнай апекай паўставалі унівэрсытэты. Нават і ў нашыя дні ў шматлікіх краёх, дзе культура толькі яшчэ пачынае развівацца, Царква памагае арганізаваць школы.

Царква адыграла вялікую ролю ў развіцьці мастацтва, выкарыстоўваючы дзеля Божае службы творы архітэктуры, малярства, скульптуры і музыкі. Адначасна Царква апекавалася мастакамі і давала ім магчымасьць тварыць.

Аднак найважнейшым заданьнем Царквы ня ёсьць тварыць самую культуру, але ператвараць чалавека. Царква абвяшчае Эвангельле. Змагаецца з памылкамі і злом. Яна ачышчае і падымае норавы і звычаі людзей, узмацоўвае і папраўляе ўсё ў Хрысьце ды гэткім спосабам ператварае, паляпшае і дасканаліць культуру. Гэтую місію Царква выпаўняе да нашых дзён у ва ўсіх краёх цераз сваіх членаў, жывучых у сьвеце, якіх сёньня завуць лаікатам.

Помнячы аб тым, што ў сваім штодзенным, прафесіянальным жыцьці яны рэалізуюць Божае Валадарства, хрысьціяне павінны старацца, каб іхная прафесіянальная праца была магчыма найлепшай і гэтак спрычынілася да развіцьця цывілізацыі і культуры. Адначасна памятаючы, што яны ёсьць сьвятлом сьвету, хрысьціяне павінны развіваць сваё духовае жыцьцё ды працаваць над тым, каб развіцьцё цывілізацыі і культуры было згоднае з правам справядлівасьці і любові.

**Наш адказ Богу:** Буду стараца добра падрыхтавацца да сваёй прафесіі ды здабываць унутраную хрысьціянскую дасканаласьць.

**Прыклад малітвы:** Божа, што бароніць маючых у Табе надзею, памнож над намі Сваё міласэрдзе, каб пад Тваей уладай і Тваім кіравецтвам мы так пераходзілі сярод багацьцяў гэтага сьвету, каб ня страціць вечных.

**Божае Слова:** “Усё ёсьць вашае, вы-ж – Хрыстовыя, а Хрыстос – Божы” (1 Кар. 3, 22). – “Дык, калі вы ўваскрэсьлі з Хрыстом, шукайце-ж узгорнага, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога. Аб узгорным думайце, а не аб зямным” (Кал. 3, 1-2).

**Навука Царквы:** “Добрая Хрыстовая Навіна безупынна абнаўляе жыцьцё і культуру зьнясіленага чалавека ды перамагае і папраўляе памылкі і зло, якое родзіцца з усьцяж пагражаючага чалавеку ашуканства праз грэх. Яна ўсьцяж ачышчае і падымае звычаі народаў, скарбы і добрыя якасьці духа кожнага народу ці стагодзьдзя, быццам удабрае з натуры багацьцям з вышыні, узмацоўвае, дапаўняе ды папраўляе ў Хрысьце” (Пастаральная Канстытуцыя 58).

**Пытаньне да сто дваццаць першае катэхэзы:**

249) Як хрысьціянін спрычыняецца да развіцьця цывілізацыі і культуры?

**Адказ:** Хрысьціянін спрычыняецца да развіцьця цывілізацыі і культуры праз удасканальваньне сваёй прафэсьянальнай працы і сваёй духовай выпраўкі.

КАТЭХЭЗА CXXII.

# 122. Хрыстос устанаўляе законы сужыцьця паміж людзьмі

*“Аддавайце кожнаму належнае: каму падатак, падатак; каму мыта, мыта; каму страх, страх; каму пашану, пашану. Не аставайцеся віннымі нікому нічога, апрача таго, каб вы адзін аднаго любілі; бо, хто любіць другога, выпаўняе закон” (Рым. 13, 7-8).*

Бог стварыў чалавека як грамадзкую істоту. Дык чалавек з сваёй прыроды жыве сярод іншых людзей. З канечнасьці сужыцьця з другімі вынікаюць законы: справядлівасьць і любоў. Закон справядлівасьці можна выразіць сказам: Даць кожнаму тое, што яму належыцца. А прынцыпам любові ёсьць здольнасьць учувацца ў патрэбы другога чалавека.

Дзеля таго, што ўсе людзі ёсьць роўнымі, іх усіх роўна абавязуюць тыя самыя законы. Гэтага вымагае справядлівасьць. Яна выводзіцца з прыроды чалавека, таму аб ёй ведаюць усе людзі. Справядлівасьць абавязвае нават у такіх прыпадках, аб якіх нічога не гаворыцца ў законах, выданых людзьмі. Нарушэньне справядлівасьці заўсёды крыўдзіць каго-колечы, дык вымагае, каб гэтая крыўда была напраўлена.

Гэтак сама і закон любові ёсьць ведамы ўсім людзям. Мы знаходзім яго ў ва ўсіх рэлігіях і ў шматлікіх філязофіях. Любоў бліжняга выражалася ў гісторыі ў гуманных адносінах да чалавека ды ў філантрапіі або практыкаваньні дабрачыннасьці. Нягледзячы на тое, што людзі ведаюць аб гэтых дзьвох галоўных падставах маральнасьці, яны ўсьцяж пасьля першароднага граху адчуваюць нахіл да эгаізму, з якога родзяцца несправядлівасьць і нянавісьць. Нават паганскія філосафы заўважылі, што чалавек, калі каго скрыўдзіць, дык пачынае яго ненавідзець. А хрысьціянскія сьвятыя адкрылі, што каб навучыцца любіць другога чалавека, трэба пачаць рабіць яму дабро і з гэтага сама сабой зродзіцца любоў.

Божыя загады, у якіх выразіўся прыродны закон, а значыцца справядлівасьць і любоў, пацьвердзіў Хрыстос Сын Божы. Хрыстос больш падкрэсьліў закон любові. Ён сам сваёй сьмерцю за ўсіх людзей даў найвышэйшы прыклад любові. А Сваім вучням загадаў ісьці сьледам за Ім: "Даю вам новы загад: каб вы любілі адзін аднаго; як Я палюбіў вас, так і вы любеце адзін аднаго" (Ян. 13, 34).

Апостал Павал вучыў, што ў выпаўненьні гэтага закону зьмяшчаецца ўсё маральнае жыцьцё: "Бо загады... зьмяшчаюцца ў гэтым вось слове: любі бліжняга свайго як самога сябе. Любоў на робіць зла бліжняму. Дык любоў ёсьць выпаўненьне закону" (Рым. 13, 9-10).

Пасхальная Містэрыя Хрыста ёсьць пачаткам Божага валадарства любові. Атрымаўшы надпрыродную любоў ахрышчаныя павінны ў лучнасьці з Хрыстом вясьці далей Ягонае дзела. Іхныя адносіны да бліжніх павінны быць абапёртымі на справядлівасьці, а перадусім на любові. Гэткія адносіны будуць для неахрышчаных знакам Божае волі, якая ўсіх хоча злучыць у любові. Дый самі ахрышчаныя па меры магчымасьці павінны старацца, каб усё чалавецтва кіравалася Божым законам справядлівасьці і любові.

**Наш адказ Богу:** Як ахрышчаны буду да ўсіх адносіцца з любоўю і справядлівасьцю.

**Прыклад малітвы:** Госпадзе Ісусе Хрысьце, Што сказаў: "Прасеце і атрымаеце, шукайце і знойдзеце, стукайце і адчыняць вам", дай нам, просім, адчуваньне Тваей Божай любові, каб мы любілі Цябе ўсім сэрцам, вуснамі і дзелам, ды ніколі не пераставалі слухацца Тваіх загадаў.

**Божае Слова:** "Браты! ня новы загад вам пішу, але старадаўны загад, які вы мелі ад пачатку: гэтым старадаўным загадам ёсьць навука, якую вы чулі ад пачатку. Аднак жа і новы загад вам пішу, які ёсьць праўдзівым і ў Ім, і ў вас: што праходзе цемра, і сьвеціць ужо праўдзівае сьвятло. Хто кажа, што ён у сьвятле, а ненавідзіць свайго брата, той у цемры дагэтуль. Хто любіць свайго брата, той прабывае ў сьвятле" (1 Ян. 2, 7-10). – "Кожны, хто ня робіць праўды, ня ёсьць ад Бога, таксама як і той, хто ня любіць свайго брата" (1 Ян. 3, 10). – "Мы пазналі любоў, якую мае да нас Бог, і паверылі ў яе. Бог ёсьць любоў, і той, хто прабывае ў любві, прабывае ў Богу, і Бог у ім" (1 Ян. 4, 16).

**Пытаньні да сто дваццаць другой катэхэзы:**

250) На якіх законах абапёрта сужыцьцё паміж людзьмі?

**Адказ:** Сужыцьцё паміж людзьмі ёсьць абапёрта на справядлівасьці і любові.

251) Чаго вымагае Хрыстос ад ахрышчаных?

**Адказ:** Хрыстос вымагае ад ахрышчаных, каб яны прычыняліся да рэалізаваньня ў сьвеце справядлівасьці і любові.

*"Выслаўляйце Бога ў вашым целе" (1 Кар. 6, 20).*

КАТЭХЭЗА CXXIII.

## 123. Хрысьціянін служыць Божаму Валадарству сваім здароўем і жыцьцём

*"Ці ж вы ня ведаеце, што вашыя целы ёсьць храмам Сьвятога Духа, Які ёсьць у вас, Якога вы маеце ад Бога?" (1 Кар. 6, 19).*

Кожны чалавек уважае сваё жыцьцё і здароўе за найвялікшы скарб на зямлі. Каб ратаваць жыцьцё, ці вярнуць здароўе, чалавек гатовы бывае аддаць усю сваю маемасьць.

Чалавек павінен дбаць аб цела, каб яно было здаровым. Таму ён павінен перасьцерагаць загады гігіены, дбаць аб адпаведную ежу і вопратку. Ён таксама мае абавязак гартаваць цела і рупіцца аб адпачынак для яго.

Адным са спосабаў шанаваньня здароўя ёсьць спорт. Аднак трэба ў ім знаць меру. Спорт мае быць толькі сродкам, а не мэтай сам для сябе.

Чалавек не павінен шкодзіць свайму здароўю цераз ужываньне наркотыкаў (алькаголь, табака). Яны могуць паважна зашкодзіць здароўю ў дзіцячым ці юнацкім веку, у часе хваробы або ў іншых абставінах.

Рупнасьць аб здароўя можа быць часам злучана з эгаізмам. Гэта здараецца тады, калі чалавек за шмат думае аб сваім здароўі, асабліва са шкодай для другіх. Напрыклад, калі не спаўняе сваіх абавязкаў каб часам не пашкодзіць свайму здароўю. Бо здараюцца ў чалавечым жыцьці і такія абставіны, калі чалавек павінен нават жыцьцё сваё, а тым больш здароўе, пасьвяціць для агульнага дабра, як напрыклад жаўнер на вайне або пры выпаўняньні свайго абавязку, як дохтар, палісмэн ці сьвятар.

Дзеля таго, што чалавек ня сам даў сабе жыцьцё, дык і адбіраць яго ў сябе ня мае права. Самагубства ёсьць заўсёды грахом, бо ёсьць крыўдай для грамадзтва і для самога чалавека.

Увесь, цэлы чалавек, выратаваны і ўлучаны цераз Хрост у Хрыста, павінен будаваць Божае Валадарства. Чалавек не належыць вылучна да сябе: “Ці-ж вы ня ведаеце, што вашыя целы ёсьць сьвятыняй Сьвятога Духа, … і што вы не свае? Бо вы куплены дарагою цаною. Дзеля гэтага выслаўляйце Бога ў целе вашым і ў духу вашым, якія ёсьць Божымі” (1 Кар. 6, 19-20).

Хрысьціянін мае разьвіваць культуру і цывілізацыю, павінен працаваць для агульнага дабра, на карысьць для другіх, асабліва сям’і. Дык чым ён будзе здаравейшы, тым лепш выпаўніць гэтыя свае абавязкі. Таму і павінен ён дбаць аб сваё здароўе ды разьвіваць сваё цела, каб павялічыць свае сілы.

У першую чаргу хрысьціянін ёсьць пакліканы каб рэалізаваць любоў. Любоў вымагае ахвяры. Дык хрысьціянін больш ад другіх павінен быць прыгатаваны да ахвяры са свайго здароўя ды жыцьця, каліб гэтага вымагала дабро бліжніх.

Здараецца, што Бог кліча некатарых людзей да будаваньня Божага валадарства праз хваробы і цярпеньні. Выбар гэтага шляху – хваробы ці цярпеньня – залежыць толькі ад Бога. Надта трудны ён, як на чалавечыя сілы, дык сам чалавек не павінен шукаць яго. Але Божую волю хрысьціянін заўсёды прымае ў Хрыстовым духу, ахвяруючы свае цярпеньні за другіх. У здароўі як і ў хваробе хрысьціянін імкнецца да вечнага жыцьця з Хрыстом у дзень Ягонага другога прыходу.

**Наш адказ Богу:** Хачу сваім здароўем служыць Богу і бліжнім.

**Прыклад малітвы:** Просім Цябе, Божа, пазволь нам, Сваім слугам цешыцца трывалым здароўем цела і душы, а заступніцтва Найсьвяцейшай Дзевы Марыі няхай нас высвабадзіць з цяжкасьцяў гэтага жыцьця і абдарue вечнай радасьцю.

**Божае Слова:** “Той, Хто ўваскрасіў Хрыста з мёртвых, ажывіць і вашыя сьмяротныя целы Сваім Духам, Што жыве ў вас” (Рым. 8, 11). – “Ці ж ня ведаеце, што вашыя целы ёсьць Хрыстовыя члены?” (1 Кар. 6, 15). – “Ня ўпівайцеся віном, бо ў ім распуста, але напаўняйцеся Духам” (Эф. 5, 18).

**Навука Царквы:** “Для гэтага ўзгадаваньня існуюць у сучасных грамадзянствах аблягчэньні, асабліва цераз павялічанае прапанаваньне кніжак ды новыя сродкі грамадзкага культурнага пераказу, якія могуць спрыяць усеагульнай культуры. Бо дзеля скарочваньня то тут то там часу працы, з кожным днём будзе ўзрастаць для многіх людзей зручная магчымасьць вучыцца. Няхай свабодны час будзе належна выкарыстаны на

духовае адпружаньне, узмацаваньне псыхічнага і фізычнага здароўя праз свабодныя заняткі і студ'яваньне, праз падарожы ў чужыя краі (турызм), дзякуючы якім розум дасканаліцца ды людзі ўзбагачаюцца цераз узаемныя кантакты. Далей праз спартовыя практыкаваньні ды імпрэзы, якія таксама ў грамадзтве прыслужваюцца да падтрымліваньня раўнавагі духа як і да братэрскіх адносінаў паміж людзьмі ўсялякага стану, народнасьці і розных расаў. Дык няхай хрысьціяне ў гэтым супрацоўнічаюць, каб чалавечы і хрысьціянскі дух пранікаў уласьцівыя для нашае эпохі праявы культуры і калектыўныя дзеяньні" (Пастаральная Канстытуцыя 61).

**Пытаньне да сто дваццаць трэцяе катэхэзы:**

252) Чаму хрысьціянін павінен дбаць аб сваім здароўі і жыцьці?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен дбаць аб сваім здароўі і жыцьці, каб магчы поўнасьцю служыць Богу і людзям.

*"Усё, што вы зрабілі аднаму з гэтых найменшых Маіх братоў, вы зрабілі Мне" (Мац. 25, 40).*

КАТЭХЭЗА CXXIV.

# 124. Хрыстос загадвае шанаваць чужое здароўе і жыцьцё

*"Ня забівай" (Вых. 20, 13).*

Усе людзі ёсьць братамі. Усе маюць аднольковыя правы. Іхняе ўзаемнае жыцьцё павінна абапірацца на любоў і справядлівасьць. Аднак людзі паддаюцца эгаізму, які іх пацягвае да нарушаньня законаў сужыцьця. Яны паддаюцца нянавісьці, крыўдзяць адзін аднаго ды дапускаюцца злачынстваў. Прычынай гэтага ёсьць першародны грэх. Таму Бог загадаў: "Не забівай" (Пяты загад).

Забіць здараецца часам цераз легкадумнасьць або абыякавасьць. Аднак і ў гэткіх прыпадках чалавек мае віну.

Супраць здароўя і жыцьця бліжняга выступае той, хто раніць і забівае бліжняга або ў іншы спосаб падвяргае яго небясьпецы страты здароўя ці жыцьця. Забойства належыць да найцяжэйшых грахоў. Нельга забіваць другога чалавека, ані нават скарочваць яму жыцьця на ягоную просьбу (напрыклад раненага на полі бітвы, ці хворага, які мучыцца. Можна толькі старацца аблягчыць яму цярпеньне). Таксама нельга забіваць старых, калекаў, невылечна хворых (эўтаназыя) ды ненароджаных дзяцей (аборт).

Грэхам супраць здароўя і жыцьця бліжняга ёсьць легкадумнасьць, якая можа выклікаць выпадак, напрыклад неасьцярожная язда, неперасьцерагаsuccessivelyньне правілаў бязпечнасьці ды гігіены працы. Пашкодзіць здароўю, а нават забіць, можна чалавека дрэнным, дакучлівым і грубым трактаваньнем яго, асабліва ў старасьці або ў хваробе.

Ісус Хрыстос вярнуў парушаны Божы парадак у душы чалавека. Хрысьціянін злучаны з Хрыстом цераз Хрост і Эўхарыстыю павінен для ўсіх быць братам. Любоўю ён будзе перамагаць у сабе праявы эгаізму такія, як гнеў, заздрасьць, недахоп пашаны для другога чалавека. Гэтага вымагае Хрыстос: "Усякі, хто гневаецца на свайго брата дарэмна, падлегае суду … а хто скажа грэшнік, падлягае агнявой гэхэньне" (Мац. 5, 22).

Ня хопіць, калі ахрышчаны будзе толькі паўстрымлівацца ад таго, каб не рабіць другому крыўды. Хрыстос вымагае, каб браць бліжняга ў абарону, бараніць ягонае жыцьцё і здароўе, каб шукаць нагоды да аказаньня помачы. Хрысьціянін мае дбаць пра здароўе і жыцьцё свайго бліжняга перадусім у сваёй прафэсіянальнай працы. Будзе выконваць яе як найлепш з думкай аб

тых, якім яна мае служыць, каб цераз яе стварыць умовіны карысныя для абароны і падтрыманьня іхняга здароўя і жыцьця.

**Наш адказ Богу:** У тым, што раблю, буду помніць аб карысьці для здароўя ды жыцьця другіх.

**Прыклад малітвы:** Божа, Які праз дар Сьвятога Духа ўліў любоў у сэрцы Сваіх вернікаў, дай Сваім слугам, якіх мы паручаем Тваей ласкавасьці, здароўе цела і душы, каб яны Цябе любілі з усіх сілаў і з усёю любоўю рабілі тое, што Табе падабаецца.

***Увага: 1.*** Кожны мае права бараніць сваё жыцьцё і здароўе. Калі хто несправядліва яму пагражае, можа бараніцца ды рабіць усё, каб зрабіць няшкодным таго, хто на нас нападае а нават забіць нападаючага, калі інакш ня можна абараніць свайго або чужога жыцьця.

***2.*** Грамадзтва, напрыклад дзяржава, мае права асудзіць на сьмерць шкодную для агульнасьці адзінку.

**Божае Слова:** “Сказаў Бог Каіну: “Што ты зрабіў? Кроў твайго брата кліча голасна да мяне з зямлі” (Быцьця 4, 10). – “Помні на загады і ня мей нянавісьці да бліжняга, на запавет найвышэйшага і даруй абразу. Унікай нязгоды, і будзе менш грахоў, бо запальчывы чалавек будзе пачынаць сваркі” (Сыр. 28, 7-8). – “Сонца хай не зайдзе над вашым гневам” (Эф. 4, 26).

**Навука Царквы:** “Шмат людзей у розных краёх адносіцца абыякава да закону і грамадзкіх правілаў... не зьвяртаюць належнае ўвагі на пэўныя нормы грамадзкага жыцьця, напрыклад на правілы аховы здароўя або рэгулюючыя вулічны рух, ня лічачыся з тым, што цераз гэткую абыякавасьць выстаўляюць на небяспеку сваё і чужое жыцьцё” (Пастаральная Канстытуцыя 30).

“Дык увесь працэс працы трэба дастасаваць да вымаганьняў чалавечай асобы і кіруючых нормаў ейнага жыцьця, і перадусім хатняга жыцьця, асабліва калі ідзе аб матак сем’яў, маючы на ўвазе і пол і век. Звыш таго працаўнікі павінны мець магчымасьць развіваць свае здольнасьці ды індывідуальнасьць якраз пры помачы самой працы. Як з аднаго боку яны павінны з належным пачуцьцём адказнасьці аддаць свой час і сілы на выкананьне працы, гэтак з другога – яны павінны ўсе мець у сваім распараджэньні дастатковы адпачынак і вольны час, так каб маглі аддацца сямейнаму, культурнаму, грамадзкаму і рэлігійнаму жыцьцю. Перадусім яны павінны мець нагоду свабодна развіваць тыя сілы і здольнасьці, якіх не развівае праца ў іхнай прафесіі” (Пастаральная Канстытуцыя 67).

**Пытаньне да сто дваццаць чацьвёртае катэхэзы:**

253) Як хрысьціянін павінен дбаць аб здароўі і жыцьці бліжняга?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен дбаць аб здароўе і жыцьцё бліжняга ў-ва ўсіх абставінах, а найбольш у прафесіянальнай працы.

*“Я на тое прыйшоў на сьвет, каб сьведчыць аб праўдзе” (Ян. 18, 37).*

КАТЭХЭЗА CXXV.

# 125. Хрыстос загадвае жыць у праўдзе

*“Калі застанецеся ў Маім слове, дык сапраўды вы будзеце Маімі вучнямі, і пазнаеце праўду, і праўда зробіць вас вольнымі” (Ян. 8, 31-32).*

Кожны чалавек імкнецца да праўды і хоча яе пазнаць. Чалавек шукае праўды ўва ўсіх галінах жыцьця. Ён хоча знаць праўду аб сьвеце, у якім ён жыве, аб людзях, з якімі сустракаецца. Ён дамагаецца ад людзей, каб яны гаварылі яму заўсёды праўду. Ён асуджае тых, каторых жыцьцё, учынкі або словы не згаджаюцца з праўдай. Аднак здараецца, што чалавек, які ад другіх вымагае праўды, сам не жыве ў праўдзе. Ён ведае, што ягоныя

паводзіны не згаджаюцца з ягоным унутраным перакананьнем, аднак-жа дзеля розных матываў, дзеля асабістае карысьці або іншых менш высакародных уважлівасьцяў адступае ад праўды. Такія паводзіны людзі наагул уважаюць за немаральныя.

Праўда ёсьць канечнай у грамадзкім жыцьці. Зусім немагчымым былоб узаемнае сужыцьцё людзей між сабою, каліб яны не кіраваліся праўдай. Ніхто нікому ня мог бы тады верыць. Паміж уладай і паасобнымі людзьмі дый сярод людзей між сабою запанавалаб тады мана, ашуканства і недавер.

Жыцьцё ў праўдзе не вымагае, каб заўсёды гаварыць усю праўду. Бог, Які ёсьць Праўдай, гэтак сама не аб’явіў людзям усіх Сваіх тайнаў.

Ня можна гаварыць праўды, калі хто сказаў нам яе пад сакрэтам. Гэтак сама маюць абавязак захаваць сакрэт некатарыя прафесіі, напрыклад сьвятары, палітыкі, дахтары, афіцэры. Гэта ёсьць гэтак званыя ўрадовыя або прафесіянальныя сакрэты. Іх можна нарушыць толькі дзеля вялікага дабра, якое можна асягнуць праз выяўленьне такога сакрэту, або каб не дапусьціць вялікага няшчасьця, ці калі гэтага справядліва дамагаецца найвышэйшая ўлада. Толькі аднаго сакрэту ніколі нельга нарушыць, гэта сакрэту споведзі.

Ня дазваляецца таксама гаварыць бяз важнай патрэбы аб памылках ці заганах бліжняга, бо гэтым можна яго зьняславіць і скрыўдзіць. Яшчэ большай крыўдай было б сказаць аб другім штосьці няпраўдзівае.

Жыцьцё ў праўдзе вымагае, каб спаўняць калі што абяцаем і датрымаць прырачэньняў а таксама выканаць прынятыя на сябе абавязкі. Карысьць з праўды мае ўсё грамадзтва, перадусім з яе карыстае той, хто жыве ў праўдзе. Бо паляпшае самога сябе і робіць добры ўплыў на другіх. Жыцьцё ў праўдзе, як кожнае дабро, з натуры пашыраецца і можа абымаць што раз то большы круг людзей.

Нялёгка жыць у праўдзе. Эгаізм, які пасьля першароднага граху лёгка апаноўвае чалавека, накіроўвае яго да маны. Таму Хрыстос ману лучыць з чортам: “Чорт ёсьць вашым бацькам і вы хочаце рабіць пажаданьні свайго бацькі. Ён душагубцам быў ад пачатку і ў праўдзе не ўстаяў, бо няма ў ім праўды. Калі гаворыць ману, ад сябе гаворыць, бо ёсьць абманшчыкам і бацькам маны” (Ян. 8, 44). Мана заўсёды ёсьць грэхам, нават тады, калі нікому ня шкодзіць (Дз. 5, 1 і д.). Яна выступае супраць Бога, Які ёсьць Праўдай і супраць Ягонай волі, выражанай у восьмым загадзе Дэкалогу.

Хрыстос сказаў аб Сабе, што Ён ёсьць Праўдай (Ян. 14, 6). Прыйшоў на сьвет каб гаварыць праўду: “Я на тое нарадзіўся і на тое прыйшоў на сьвет, каб сьведчыць аб праўдзе” (Ян. 18, 37). Ён жыў у праўдзе і вучыў праўды. Праз Сваё жыцьцё і пакуту направіў шкоду зробленую чортам. Цераз Сваю Пасхальную Містэрыю “сьведчыў аб праўдзе”.

Хрыстос хацеў, каб і Царква жыла ў праўдзе. Ён маліўся да Айца за Сваіх вучняў: “Асьвяці іх у праўдзе. Тваё слова ёсьць праўдай” (Ян. 17, 18).

Ахрышчаны, які цераз Хрост выракся чорта – бацькі маны – будзе заўсёды гаварыць праўду і жыць у праўдзе: “Няхай вашае слова будзе: але, але; не, не; а што больш таго, тое ад злога” (Мац. 5, 37).

Жыць у праўдзе абазначае йсьці сьледам за Хрыстом і жыцьцё ў Царкве, якая кіруецца праўдай: “Дык адкінуўшы ману, гаварыце кожны праўду свайму бліжняму, бо мы члены адзін аднаму” (Эф. 4, 25).

**Наш адказ Богу:** Помнячы аб тым, што я ахрышчаны, буду старацца жыць у праўдзе, каб пашыраць праўду ў сваім асяроддзі.

**Прыклад малітвы:** “Навучы мяне, Госпадзе, шляху Твайго, каб хадзіў я ў Тваей праўдзе” (Пс. 86, 11).

**Божае Слова:** “І ня ўвойдзе ў неба нішто нячыстае і робячае агіду і ману” (Ап. 21, 27).

**Пытаньні да сто дваццаць пятае катэхэзы:**

254) Што значыць жыць у праўдзе?

**Адказ:** Жыць у праўдзе азначае дзейнічаць і гаварыць згодна з унутраным перакананьнем.

255) Чаму хрысьціянін павінен жыць у праўдзе?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен жыць у праўдзе таму, што цераз Хрост ён улучаецца ў Хрыста, Які ёсьць Праўдай.

КАТЭХЭЗА CXXVI.

# 126. Хрыстос вучыць аб уласнасьці

*“Шукайце перш Божага Валадарства і ягонае справядлівасьці, а тое ўсё дасцца вам” (Мц. 6, 33).*

Бог стварыў сьвет і людзей. Сьвет і людзі ёсьць Божай уласнасьцю. Бог паручыў людзям гаспадарыць у сьвеце і перамяняць яго. Дык людзі могуць карыстаць з усяго, што толькі добрага ёсьць на сьвеце, але згодна з Божай воляй.

Кожны чалавек мае нешта, што ён называе сваім. Аснаўной падставай уласнасьці ёсьць праца. Ёсьць і іншыя спосабы набываньня ўласнасьці, як падарунак, спадчына, купля. Уласнасьць патрэбна чалавеку, каб ён мог заспакоіць асабістыя і сямейныя патрэбы. Магчымасьць павялічваньня ўласнасьці, палепшваньня жыцьцёвых умоваў, забязпечваньня іх ёсьць для чалавека натуральным імпульсам да працы.

Чалавек ня ёсьць абсалютным валадаром сваёй уласнасьці. Ён ня мае права неразумна яе нішчыць ані ўжываць яе процiў Божай волі. Ягоная ўласнасьць можа быць аграніччана, калі гэтага вымагае агульнае дабро, дабро грамадзтва. Бо ўсё дабро на зямлі належыць да ўсяго чалавецтва. “Таму чалавек карыстаючы з гэтага дабра павінен уважаць вонкавыя рэчы, якія мае, ня толькі за свае, але і за супольныя ў тым значэньні, каб з іх карысьць была ня толькі для яго, але і для другіх” (Пастаральная Канстытуцыя 69).

Як рэзультат першароднага граху на сьвеце зьявіўся эгаізм, а з ім разам хцівасьць. Яна ёсьць крыніцай крыўды цераз нарушаньне чужога права ўласнасьці, калі хто незаконна прысвайвае сабе дабро другога чалавека або грамадзтва. “Корань усякага зла – прагавітасьць, якой аддаўшыся некатарыя ўхіліліся ад веры і самі сябе аддалі на многія мукі” (1 Цім. 6, 10).

Хцівасьць вядзе да калатні і разбіцьця ў сем’ях. Неапанаваная або яшчэ і разбуджаная прагавітасьць у сацыяльнай грамадзе або ў народзе, можа выклікаць вялікія няшчасьці, асабліва войны. Ва ўзаемным сужыцьці хцівасьць вядзе да парушэньня чужой уласнасьці, чым дзеецца крыўда бліжняму або грамадзтву. Парушэньнем права ўласнасьці ёсьць крадзеж, затрыманьне знайдзенай ці пазычанай рэчы, затрыманьне ўзнагароды за выкананую працу; гэтак сама можна скрыўдзіць ашуканствам, прадаваньнем кепскага тавару, нядбайным выкананьнем працы, сьведамым, а нават хоць бы легкадумным, знішчэньнем чужой уласнасьці.

Хто скрыўдзіў другога, павінен шкоду направіць. Прыкладам можа быць мытнік Закхей, які навярнуўся, калі яго адведаў Хрыстос: “Госпадзе, палову сваёй маемасьці аддаю на ўбогіх, а калі я скрыўдзіў каго, дык аддам у чатыры разы больш” (Лук. 19, 8).

Хрыстос прыйшоў, каб направіць зло, якім ёсьць эгаізм і прагавітасьць. Ён радзіўся і жыў у беднасьці. “Будучы багатым… стаўся ўбогім” (2 Кар. 8, 9). Ён вучыў, што матэрыяльнае дабро на зямлі псуецца. Трэба лепш старацца аб вечнае дабро: “Ня зьбірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль ды іржа

нішчаць, і дзе зладзеі падкопваюцца і крадуць, але зьбірайце сабе скарбы на небе, дзе ні моль ні іржа ня нішчаць, і дзе зладзеі не падкопваюцца і не крадуць” (Мац. 6, 19-20). Чалавека, які ахвотна жадае багацьця ды прывязваецца да яго, Хрыстос называе багатым і кажа, што яму вельмі трудна збавіцца: “Лягчэй вярблюду перайсьці скрозь ігольчына вуха, чым багатаму ўвайсьці ў Божае валадарства” (Мац. 19, 24). Хрыстос называе шчасьлівымі тых, што ня любяць багацьця: “Шчасьлівыя ўбогія духам, бо іх ёсьць Нябеснае Валадарства” (Мац. 5, 3). Ганіць тых, што занадта рупяцца аб матэрыяльныя рэчы: “Ня турбуйцеся аб сваім жыцьці, што вам есьці і што піць, ні аб сваім целе, у што адзецца. Ці-ж душа ня большая за ежу, і цела – за адзежу?” (Мац. 6, 25).

Хрыстос заахвочвае некатарых да дабравольнае беднасьці. Багатаму дзяцюку, які ад дзіцячых гадоў выпаўняў загады, сказаў: “Калі хочаш быць беззаганным, пайдзі, прадай сваю маёмасьць і раздай убогім; і будзеш мець скарб на небе; і прыходзь ды ідзі за мною” (Мац. 19, 21).

У Царкве ахрышчаныя выпаўняюць Хрыстовую навуку, апаноўваючы прагавітасьць і прывязанасьць да матэрыяльных рэчаў.

**Наш адказ Богу:** Хачу апанаваць у сабе прагавітасьць і прывязанасьць да матэрыяльных рэчаў гэтага сьвету.

**Прыклад малітвы:** “Госпадзе, каму будзе дадзена гасьціць у Тваім доме, або жыць на Тваей сьвятой гары? Таму, хто жывець беззаганна і робіць справядлівасьць і ад усяго сэрца праўду гаворыць, хто языком сваім не абмаўляе, нічога дрэннага другому ня робіць і ня ўзводзіць ганьбу на свайго бліжняга” (Пс. 14, 1-3).

**Божае Слова:** “Хто абкрадае бацьку або матку кажучы: “Гэта ня грэх”, той ёсьць сябрам разбойніка” (Прып. 28, 24). – “Бо ведайце, што аніякі распусьнік, ці нячысты, ці хцівец што ёсьць ідалапаклонствам – ня мае спадчыны ў валадарстве Хрыста і Бога” (Эф. 5, 5). – “Дык мярцьвіце вашыя члены, што на зямлі: блуд, нячыстасьць, юр, злое пажаданьне і хцівасьць, якая ёсьць ідалапаклонствам” (Кал. 3, 5).

**Навука Царквы:** “Бог прызначыў зямлю з усім, што на ёй знаходзіцца, на карысьць усіх людзей і народаў, так каб створанае дабро даходзіла да ўсіх у роўнай меры – ў духу справядлівасьці, з якой у пары ідзе любоў. Якія-б не былі формы ўласнасьці, датасаваныя залежна ад розных змянлівых абставін да законнага ладу розных народаў, то аднак заўсёды трэба браць пад увагу ўсеагульнасьць празначэньня матэрыяльнага дабра. Таму чалавек карыстаючы з гэтага дабра павінен уважаць вонкавыя рэчы, якія мае, ня толькі за собскія, але за супольныя ў тым значэньні, каб ня толькі яму, але і другім яны былі карысныя. Пэўна-ж кожны мае права мець частку дабра хапаючую для яго і ягонае сям’і. Гэтак думалі Айцы і Настаўнікі Царквы навучаючы, што людзі маюць абавязак памагаць убогім, і то ня толькі з таго, што ім самім не патрэба. А хто быў бы ў крайняй патрэбе, мае права ўзяць сабе з чужой маемасьці тое, што яму канечна патрэбнае да ратаваньня жыцьця. Дзеля таго, што гэтулькі людзей на сьвеце церпяць голад, Сьвяты Сабор падганяе ўсіх, як адзінкі, так і маючых уладу, каб помнячы на сказ Айцоў: “Накармі паміраючага з галаду, бо калі ты яго не накарміў, ты яго забіў” – сапраўды дзяліліся ў меру сваіх магчымасьцяў і не скупілі выдаткаў, аказваючы адзінкам і народам перадусім такую помач, дзякуючы якой яны самі маглі б даць раду сваім патрэбам і ўвайсьці на шлях развіцьця” (Пастаральная Канстытуцыя 69).

“Прыватная ўласнасьць або магчымасьць распараджацца матэрыяльным дабром дае кожнаму канечны патрэбны прастор для асабістай і сямейнай аўтаноміі і можна іх уважаць як бы за павялічэньне чалавечай свабоды. Яны

становяць пэўнае абумоўленьне грамадзянскіх свабод, бо пабуджаюць да прыняцьця абавязкаў і цяжараў…

Прыватная ўласнасьць мае па сваёй прыродзе грамадзкі характар, абапёрты на законе ўсеагульнага празначэньня матэрыяльнага дабра. А здараецца, што праз непрызнаньне гэтага грамадзкага характару ўласнасьць часта бывае нагодай да хцівасьці ды паважных закалотаў, да таго, што дае праціўнікам прэтэкст, каб падаваць у сумніў самое права” (Пастаральная Канстытуцыя 71).

**Пытаньні да сто дваццаць шостае катэхэзы:**

256) Да каго належыць матэрыяльнае дабро?

**Адказ:** Матэрыяльнае дабро належыць да Бога, а з Ягонага дару да ўсяго чалавецтва.

257) Як хрысьціянін павінен карыстаць з уласнасьці?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен карыстаць з уласнасьці згодна з Божай воляй і для карысьці ўсіх людзей.

258) Што такое ёсьць дух хрысьціянскай беднасьці?

**Адказ:** Хрысьціянскі дух беднасьці гэта ёсьць апанаваньне прагавітасьці і прывязанасьці да багацьця, дзеля рэалізаваньня любові ў Божым Валадарстве.

*“Будзьце міласэрнымі, як ваш Айцец ёсьць міласэрны” (Лук. 6, 36).*

КАТЭХЭЗА CXXVII.

# 127. Хрыстос дамагаецца міласэрдзя

*“Тады скажа Валадар тым, што на права ад Яго: прыйдзеце, блаславёныя Майго Айца, насьледуйце валадарства, прыгатаванае вам ад стварэньня сьвету… тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых Маіх меншых братоў, вы зрабілі Мне” (Мац. 25, 34. 40).*

Члены першае хрысьціянскае грамады ў Ерусалім, каб выпаўніць Хрыстовую навуку аб любові, заняліся найперш убогімі ды ўсімі тымі, што патрабавалі дапамогі: “Усе веруючыя былі разам, і ўсё ў іх было супольнае; і прадавалі сваё дабро і дастаткі, і дзялілі між усіх, як каму трэба было… слаўлючы Бога і маючы ласку ў усяго народа” (Дз. 2, 44-47). “У грамады-ж веруючых было адно сэрца і адна душа, і ніхто нічога з сваёй маемасьці не называў сваім, але ўсё ў іх было супольнае… І не было сярод іх нікога, хто цярпеў бы недастатак, бо хто меў зямлю ці дамы, тыя, прадаўшы, прыносілі грошы за праданае і клалі к нагам Апосталаў; і кожнаму давалася тое, што яму было патрэбна” (Дз. 4, 32-34).

Хрысьціяне ў Ерусаліме давалі сваю маемасьць на ўбогіх выпаўняючы адносна іх учынкі міласэрнасьці. “У тыя-ж дні, як намножылася вучняў, узьнялося нараканьне грэцкіх гэбраяў на мясцовых, што ў штодзённым служэньні ня рупяцца аб іхніх удовах. Дык дванаццацёра, склікаўшы грамаду вучняў, сказалі: Ня гожа нам, пакінуўшы Божае слова, служыць за сталом. Вось-жа, браты, нагледзьце спасярод вас сем дазнаных мужоў, поўных Сьвятога Духа і мудрасьці, якіх паставім на гэтую патрэбу” (Дз. 6, 1-3). Дык выбралі сем і паручылі ім рупіцца аб бедных і аб аслугоўваньні сталоў. Гэткім спосабам у першай хрысьціянскай грамадзе была наладжана акцыя міласэрдзя.

Любоў аказвалася ня толькі ўбогім, якім не хапала матэрыяльнага дабра, але і тым, якім была патрэбная маральная помач – “маючы ласку ў усяго народа” (Дз. 2, 47).

Хрыстос дамагаецца міласэрнасьці або любові да тых, што маюць патрэбы. Для хрысьціян гэта абавязак. Хрыстос асуджае тых, што ня выпаўнілі ўчынкі

міласэрнасьці: “Як вы не зрабілі гэтага аднаму з гэтых меншых, то не зрабілі мне. І пойдуць гэтыя на вечную муку” (Мац. 25, 45-46). Абавязак міласэрнасьці маюць тыя, што маюць якую-колечы маемасьць. “І ў каго ёсьць ежа, рабі тое-ж” (Лук. 3, 11). “А хто мае дастатак у сьвеце, але, бачачы свайго брата ў патрэбе, зачыняе ад яго сваё сэрца, – дык як прабывае ў ім Божая любоў?” (1 Ян. 3, 17).

Царква зрэалізавала загад Хрыста. У розныя пэрыяды гісторыі засноўваліся законы і згуртаваньні, якіх мэтаю была міласэрнасьць. Засноўваліся інстытуты, якія займаліся аказваньнем помачы патрабуючым і бяздольным.

Сёньня ня гледзячы на апеку, якую дзяржава ўважае за свой абавязак засноўваючы бальніцы, дзіцячыя прыюты і прытоны для старыкоў, ёсьць яшчэ шмат людзей, якія церпяць нястачу. Часам бяда прыходзе неспадзявана і нашым бліжнім не хапае рэчаў, неабходных да жыцьця. Трэба ім памагчы.

Ёсьць на сьвеце народы, якія ўсьцяж церпяць голад. Трэба ім таксама памагчы. “Да ўсяго Божага народа належыць па меры сіл аблягчаць цярпеньні сучаснае бядоты, і пры тым, згодна са старым звычаям у Царкве, ня толькі з таго, што ёсьць лішнім, але нават з патрэбнага нам дабра” (Пастаральная Канстытуцыя 88). Міласэрнасьць можна аказаць ня толькі даючы бліжняму матэрыяльную дапамогу. Ёсьць такія, што патрабуюць часам добрага слова, усьмешкі, зацікаўленьня імі ды іхнімі справамі, рупнасьці аб іх. Гэткае міласэрдзе можа практыкаваць кожны, нават той, хто сам нічога ня мае.

Дык хрысьціянін, выпаўняючы навуку Хрыста ды йдучы за прыкладам Царквы, павінен заўсёды пытацца самога сябе, дзе, каму і як ён мог бы памагчы.

**Наш адказ Богу:** Сустракаючыся з бліжнімі запытаюся сябе, як я мог бы ім памагчы.

**Прыклад малітвы:** Божа, Якога міласэрдзе ёсьць бязмеры, і дабраты скарб ёсьць невычэрпальны, дзякуем Тваей Айцоўскай Апецы за ўсё дабро, што ад Цябе мы атрымалі.

**Божае Слова:** “Гэтак зьбярэш сабе шмат дабра на чорны дзень” (Таб. 4, 9). – “Шчасьлівыя міласэрныя, бо ім будзе аказана міласэрнасьць” (Мац. 5, 7). – “Давайце, і вам будзе дадзена: меру добрую, націсьненую, стрэсеную і з коптарам адсыплюць вам у вашае лона; бо якою мераю мерыце, такою-ж і вам будзе адмерана” (Лук. 6, 38). – “Суд бяз міласэрнасьці для таго, хто ня меў міласэрнасьці” (Як. 2, 13).

**Навука Царквы:** “Дзеля таго што гэтулькі людзей на сьвеце церпяць голад, Сьвяты Сабор падганяе ўсіх, як адзінкі, так і маючых уладу, каб помнілі пра сказ Айцоў: накармі паміраючага з голаду, бо калі ты яго не накарміў, ты забіў яго – і сапраўды дзяліліся па меры сваіх магчымасьцяў” (Пастаральная Канстытуцыя 69).

**Пытаньне да сто дваццаць восьмае катэхэзы:**

259) На чым палягае хрысьціянская міласэрнасьць?

**Адказ:** Хрысьціянская міласэрнасьць палягае на тым, каб ахвотна памагаць бліжнім у патрэбе.

КАТЭХЭЗА CXXVIII.

## 128. Хрыстос заклікае да працы

*“Усё, што-б вы ні рабілі, словам або дзелам, усё рабіце ў імя Госпада Ісуса Хрыста, дзякуючы праз Яго Богу і Айцу” (Кал. 3, 17).*

*“Рабіце ўсё на Божую славу” (1 Кар. 10, 31).*

Кожны чалавек працуе. Праца зьвязана з прыродай чалавека. Яна ёсьць падставай ягонага існаваньня, дае яму радасьць творчасьці, выклікае энэргію і здольнасьці, развівае індывідуальнасьць.

Цераз працу чалавек лучыцца з другімі людзьмі ды служыць ім. Нават вартасьць працы залежыць ад таго, у якой меры яна карысная для другіх, для ўсяе супольнасьці. У працы чалавек супрацоўнічае з другімі, каб дасканаліць створаныя Богам рэчы. Праз працу ён пакідае трывалы плод на карысьць усяго чалавецтва. Ён сам карыстае з працы папярэднікаў і адначасна нешта пакідае для другіх. Плод працы кожнага чалавека застаецца і трывае нават пасьля ягонай сьмерці. Гэтак вытвараецца як бы ланцуг, узаемная сувязь, якая лучыць усіх.

Кожны чалавек мае права на працу. Пазбаўленьне магчымасьці працаваць ёсьць няшчасьцем ня толькі таму, што чалавек траціць падставу існаваньня, але і таму, што ён траціць магчымасьць пастаянна развівацца ды палепшваць самога сябе цераз працу.

Кожны чалавек павінен працаваць паводле сваіх інтэлектуальных і фізычных здольнасьцяў. Яны пазнаюцца з упадабаньня і схільнасьці да дадзенай працы. Грамадзтва звычайна мае запатрабаваньне на дадзены род працы, які яно хоча прапанаваць. Чалавек выбірае сабе прафэсію йдучы за сваёй схільнасьцю і за патрэбай грамадзтва.

Да прафэсіі і будучае працы трэба прыгатавацца. Дык агульная і прафэсіянальная адукацыя – абавязак для кожнага чалавека.

Бог даручыў чалавеку заданьне, каб ён праз працу вёў далей Ягонае створчае дзела (Быць. 2, 15). Створаны на Божы абраз і падабенства чалавек ідзе ў працы сьледам за сваім Стварыцелем.

Цераз працу хрысьціянін лучыцца з выратавальным дзелам Хрыста, Які праз Сваю працу ў Назарэце даў ёй вялікае значэньне. Гэта ў працы мы ўсе лучымся паміж сабою ды ўсе ў Хрысьце: “Бо як у адным целе ў нас многа членаў, але ня ўсе члены маюць тую-ж работу, гэтак мы многія складаем адно цела ў Хрысьце, а паасобку адзін для аднаго члены” (Рым. 12, 4-5).

Праца для ахрышчанага ёсьць адным з галоўных шляхаў рэалізаваньня ўзаемнае любові. Бо кожны патрабуе нечага ад другіх і кожны павінен нешта другім даць. А гэта ўсё можа дзеецца толькі ў любові.

Праца, якая пасьля першароднага граху перамянілася ў труд (Быць. 2, 15), для хрысьціяніна ёсьць пакутай і задавальненьнем. Яна для яго ёсьць сродкам асьвячэньня: “Ці ясьцё, ці п’яцё, ці нешта іншае робіце, усё на Божую славу рабіце” (1 Кар. 10, 31).

**Наш адказ Богу:** Буду лучыцца з Хрыстом праз добра выкананую працу.

**Прыклад малітвы:** Божа, што ствараючы ўсе рэчы налажыў на чалавечы род абавязак працы, будзь ласкаў зрабі, каб мы за прыкладам сьвятога Іосіфа і пад ягонай апекай выконвалі працу, якую нам загадваеш і атрымалі ўзнагароду, якую нам прыракаеш.

**Божае Слова:** “Дзеля таго, што будзеш есьці з працы сваіх рук, шчасьлівы ты і добра табе будзе” (Пс. 127, 2). – “Калі мы былі ў вас, дык загадалі вам гэтак: калі хто ня хоча працаваць, той няхай і ня есьць. Але чуем, што некатарыя ў вас нягожа дзейнічаюць, нічога ня робяць, але матаюцца: гэтакім загадваем і молім (іх) Госпадам нашым Ісусам Хрыстом, каб яны, працуючы моўчкі, елі свой хлеб” (2 Тэс. 3, 10-12). – “Хто краў, далей не крадзі, а лепей працуй, робячы сваімі рукамі карыснае, каб было з чаго аддзяліць таму, хто мае патрэбу” (Эф. 4, 28).

**Навука Царквы:** “Бо праца, ці калі хто за яе бярэцца сам на свае рукі, ці будучы нанятым, бярэ пачатак ад асобы, якая ставіць як бы сваю пячаць на

прыродзе, паддяючы яе сваёй волі; праз сваю працу чалавек звычайна ўтрымлівае сваё жыцьцё і сваіх найбліжэйшых. Лучыцца са сваімі братамі і служыць ім, можа практыкаваць шчырую любоў і супрацоўнічаць у паляпшэньні створаных праз Бога рэчаў” (Пастаральная Канстытуцыя 67).

“Тыя-ж людзі, што ня раз выконваюць цяжкую працу, праз чалавечыя дзелы павінны палепшваць саміх сябе, памагаць суродзічам, а ўсяму грамадзтву ды ўсяму стварэньню памагаць у дасягненьні лепшага стану; павінны яны таксама ісьці сьледам за Хрыстом, Якога рукі трудзіліся рамесьнічай працай і Які разам з Айцом усьцяж дзее для выратаваньня ўсіх: яны павінны ісьці за Ім у актыўнай любові, цешачыся надзеяй і несучы цяжары адзін аднаго, ды праз самую сваю штодзённую працу падымацца на найвышэйшую ступень сьвятасьці таксама апостальскай” (Канстытуцыя аб Царкве 41).

**Пытаньні да сто дваццаць восьмае катэхэзы:**

260) Чым для хрысьціяніна ёсьць праца?

**Адказ:** Для хрысьціяніна праца ёсьць падставай ягонага фізычнага жыцьця ды сродкам супрацоўніцтва з Хрыстом у рэалізацыі любові ў Божым Валадарстве.

261) Якія плады прыносіць праца хрысьціяніну ў ягоным асабістым жыцьці?

**Адказ:** Праца забяспечвае хрысьціяніну ўтрыманьне, памагае асьвячаць сябе ды ісьці сьледам за Хрыстом.

КАТЭХЭЗА CXXIX.

## 129. Хрысьціянін праяўляе любоў у дружбе, сяброўстве і суседзтве

*“Паколькі гэта будзе магчыма, паколькі ад вас залежыць, будзьце ў згодзе з усімі людзьмі” (Рым. 12, 18).*

Ня ўсіх людзей мы любім аднолькава. Ня ўсе аднолькава нам блізкія. З аднымі мы часьцей і ахватней прабываем, з другімі-ж сустракаемся радзей. Найбліжэйшыя вузлы лучаць паміж сабою членаў аднае сям’і. Далей ад іх стаяць ужо прыяцелі, пасьля сябры, з якімі лучыць нас супольная праца ці заняткі, суседзі блізкія месцам пражываньня, жыхары таго самага месца або краіны.

Пасьля бацькоў найбліжэйшымі нам ёсьць прыяцелі. З імі нас лучыць супольнасьць перакананьняў, думак, зацікаўленьняў. У Дружбе важную ролю іграе падбор характараў і настрояў.

Старажытныя філосафы, як Арыстотэлес і Цыцэрон, уважалі, што падставай дружбы можа быць толькі дабро. Ня можа быць сапраўднай дружбы там, дзе людзей лучыць зло або злачынства.

Паміж прыяцелямі важную ролю адыгрывае шчарасьць і вернасьць, абапёртыя на высакароднасьці і дабрасумленнасьці: “Бо верны прыяцель – гэта магутная абарона, хто яго знайшоў, знайшоў скарб… Хто баіцца Госпада, добра пакіруе сваёй дружбай, бо якім ён сам ёсьць, такім і ягоны бліжні будзе” (Сыр. 6, 14. 17).

Дружба імкнецца даваць і рабіць дабро другому. Тады яна перамагае эгаізм і прыбліжае чалавека да шчасьця, бо адзіны вораг чалавечага шчасьця – эгаізм, які ёсьць крыніцай усіх нашых сумаваньняў. Але здараецца, што чалавек і ў дружбе шукае толькі сябе ды сваёй карысьці. Такая дружба не сапраўдная. Яна не вытрымлівае спробы жыцьця і распадаецца.

У пагаворках усіх народаў можна знайсьці сказ, што сапраўднага прыяцеля мы пазнаём у няшчасьці.

Ісус Хрыстос Сваіх вучняў зваў прыяцелямі. Падставай гэтае дружбы ёсьць любоў. Хрыстос палюбіў Сваіх вучняў і хацеў, каб яны любілі адзін аднаго, гэта значыць, каб былі прыяцелямі: “Вось Мой вам загад: любіце адзін аднаго, як Я палюбіў вас” (Ян. 15, 12). Угаворам дружбы з Хрыстом ёсьць выпаўняньне Ягонай волі: “Вы – Мае сябры, калі спаўняеце тое, што Я загадаў вам” (Ян. 15, 14). Крытэрыем, доказам дружбы, ёсьць гатоўнасьць аддаць жыцьцё: “Ніхто ня мае любові большай за тую, калі хто сваё жыцьцё аддае за сваіх сяброў” (Ян. 15, 13). Пладом гэткае дружбы ёсьць поўная шчырасьць і адкрыцьцё сакрэтаў: “Я ўжо не называю вас слугамі, бо слуга ня ведае, што робіць ягоны гаспадар, а Я назваў вас прыяцелямі, бо сказаў вам усё, што чуў ад Майго Айца” (Ян. 15, 15).

Дружба Хрыста ёсьць найбольшым прыкладам дружбы паміж ахрышчанымі. Ахрышчаны будзе імкнуцца ў дружбе да надпрыроднага дабра свайго прыяцеля. У адносінах да прыяцеляў, сяброў і суседзяў ахрышчаны выразна рэалізуе надпрыродную любоў. Дружба паміж ахрышчанымі абапёртая на любові ў Хрысьце мае быць для людзей знакам, што Божая любоў ёсьць прысутнай у сьвеце.

**Наш адказ Богу:** Буду старацца сваю дружбу і сяброўства абапёрці на любові ў Хрысьце.

**Прыклад малітвы:** “Божа, што ўмацняеш тых, якія на Цябе спадзяюцца, узглянь ласкава на нашыя малітвы і падай нам помач, каб мы ў спаўненьні Тваіх загадаў маглі Табе спадабацца нашай працай і ахвотай”.

**Божае Слова:** “Прыяцеля не пазнаеш у памыснасьці” (Сыр. 12, 8) – “Дык, пакуль маем час, будзем рабіць дабро ўсім, а найбольш сябрам па веры” (Гал. 6, 10).

**Пытаньне да сто дваццаць дзевятае катэхэзы:**

262) На чым палягае дружба між ахрышчанымі?

**Адказ:** Дружба паміж ахрышчанымі палягае на ўзаемнай любові ў Хрысьце ды на супольным імкненьні да надпрыроднага і прыроднага дабра.

КАТЭХЭЗА CXXX.

# 130. Хрыстос вучыць, як трэба любіць свой народ і Бацькаўшчыну

*“Калі я забуду цябе, Ерусалім, няхай я забуду сваю правую руку” (Пс. 136, 5).*

Людзей зьвязвае між сабою паходжаньне, мова, культура, часта рэлігія. Тады яны твораць народ або паводле лацінскае мовы – нацыю. Сувязь паміж членамі аднае нацыі гэтак сама моцная, як і паміж членамі аднае сям’і. На Ўсходзе пераважна ўсе нацыі гэтак і вытвараліся з аднае сям’і, як напрыклад гэбрайская нацыя вытварылася ад Абрагамавага ўнука – Ізраіля, які перш зваўся Якубам. На Захадзе нацыі паўставалі з дружынаў, як рымляне, або нашыя ўкраінцы. Бацькаўшчына – гэта зямля пераходзячая як спадчына з пакаленьня на пакаленьне, маючая сваю гісторыю, культуру, разьвіцьцё роднае мовы, асьвячаная крывёй абаронцаў. Для нацыі бацькаўшчына ёсьць тым, чым дом для сям’і.

Кожны чалавек карыстае з дасягненьняў свайго народу. Ён расьце ў ягонай культуры, жыве ў ягонай цывілізацыі.

Аднак адначасна чалавек мае і абавязкі адносна свайго народу і бацькаўшчыны. Ён павінен знаць ейную гісторыю, шанаваць родную мову, ды прычыняцца да развіцьця культуры свайго народа. У вялікай патрэбе ці небясьпецы, якая пагражала б бацькаўшчыне, чалавек мае абавязак пасьвяціць для яе сваю маёмасьць а нават і жыцьцё.

Дзеля таго, што нацыя і бацькаўшчына ёсьць ужо арганізаванымі дзяржавамі, грамадзянін дзяржавы павінен выконваць свае абавязкі адносна яе, перадусім перасьцерагаючы законы, плацячы падаткі ды служачы ў войску. Грамадзяне маюць таксама абавязак прымаць удзел у выбарах і аддаваць свой голас на кандыдатаў, якіх уважаюць за годных і адпаведных заняць дадзенае становішча.

Грамадзянін мае права на ўсё тое, што дзяржава можа і павінна даць яму ўзамен, як сваю апеку ды ўсе вартасьці публічнага жыцьця. Усе грамадзяне маюць роўныя правы і абавязкі, не супярэчныя з іхняй годнасьцю чалавечае асобы.

Ісус Хрыстос праз сваю сьмерць і ўваскрасеньне хоча выратаваць усіх людзей з усіх народаў сьвету. Аднак Ён выбраў адзін народ, у якім нарадзіўся і жыў. Ён працаваў і навучаў толькі ў граніцах Сваёй бацькаўшчыны, быў з ёй зьвязаны пачуцьцём як кожны чалавек, нават плакаў, калі гаварыў аб разбурэньні гэбрайскае сталіцы, Ерусаліму (Лук. 19, 41-44).

Ахрышчаны, ідучы сьледам за Хрыстом, будзе гэтак сама любіць сваю нацыю і бацькаўшчыну. Ён будзе выпаўняць абавязкі, якіх ад яго вымагае бацькаўшчына, будзе прычыняцца да развіцьця нацыянальнай культуры і цывілізацыі. А гэта мае значэньне для ўсяе Царквы. Калі нацыя, абапёршыся на сваю псіхіку, традыцыю і культуру прысвайвае сабе абʼяўленую Богам навуку, яна выражае яе ў рэлігійным жыцьці сваім, толькі ёй уласьцівым спосабам. Гэтым узбагачваецца жыцьцё ўсіх хрысьціянаў у Царкве. Хрысьціянін будзе помніць, што ён разам з усім народам і чалавецтвам ідзе ў нябесны Ерусалім.

**Наш адказ Богу:** Буду любіць свой народ і бацькаўшчыну ды служыць у ёй Богу.

**Божае Слова:** “Калі я забуду цябе Ерусалім, няхай я забуду сваю правую руку! Няхай мой язык прысохне да горла, калі аб табе ня буду памятаць ды калі не праслаўлю Ерусалім за найвышэйшую маю радасьць” (Пс. 136, 4-6). – “Убачыўшы горад Ён заплакаў па ім і сказаў: о, каб ты хоць у гэты дзень свой зразумеў, што дзеля твайго міру! Але гэта скрыта цяпер ад тваіх вачэй; бо прыйдуць на цябе дні, калі твае ворагі аблягуць цябе акопамі і акружаць цябе, і сьціснуць цябе зусюль; і зруйнуюць цябе, і пазабіваюць тваіх дзяцей у табе, і не пакінуць у табе камяня на камені” (Лук. 19, 41-44).

**Навука Царквы:** “Дык няхай усе грамадзяне помняць аб сваім абавязку і праве прыманьня ўдзелу ў свабодных выбарах на карысьць супольнага дабра. Царква прызнае за годную пахвалы і пашаны працу тых, што каб паслужыць людзям пасьвячаюць свае сілы дзеля дабра дзяржавы ды прымаюць гэты цяжкі абавязак… Хай грамадзяне разьвіваюць велікадушна і верна любоў бацькаўшчыны, аднак бяз вузкасьці духовай, так каб заўсёды мелі на ўвазе таксама дабро ўсяе чалавечае сямʼі” (Пастаральная Канстытуцыя 75).

**Пытаньне да сто трыццатае катэхэзы:**

263) Як хрысьціянін павінен любіць свой народ і бацькаўшчыну?

**Адказ:** Хрысьціянін павінен працаваць для народу і бацькаўшчыны, асабліва маючы на ўвазе надпрыроднае дабро ейных дзяцей.

КАТЭХЭЗА CXXXI.

# 131. Хрыстос вучыць пашаны да ўлады

*“Пілат кажа Яму: Ты мне не адказваеш? Ці ня ведаеш, што магу ўкрыжаваць Цябе і магу звольніць Цябе? Ісус адказаў: ты ня меў бы ніякае ўлады нада мною, калі-б табе не было дадзена з вышыні” (Ян. 19, 10-11).*

Чалавек жыве між іншым і ў грамадзтве. Кожнае ўпарадкаванае грамадзтва павінна мець уладу. Павінен быць нехта, што камандуе, якога ўсе іншыя слухаюць. Канечнасьць улады вынікае з прыроды чалавека як грамадзкай істоты. Дзеля таго, што чалавека, прыроду, законы якія кіруюць прыродай стварыў Бог, можна сказаць, што ўлада паходзіць ад Бога. Гэта не абазначае, што кожны валадар прызначаны Богам, а толькі што ад Бога бярэ пачатак сутнасьць улады.

Улада творыцца розным спосабам. Гісторыя чалавецтва знае шмат спосабаў атрымліваньня ўлады. У навейшых часах да ўлады даходзяць цераз выбары, або галасаваньне.

Кожны чалавек павінен быць паслухмяны законнай уладзе. Гэтага вымагае натуральны парадак. Гэтая паслухмянасьць абавязвае ў сумленьні. Можна было б не паслухаць улады толькі тады, калі-б яна загадвала штоколечы нязгоднае з сумленьнем.

Людзі, што маюць уладу, адказваюць перад Богам за злоўжываньні гэтым вялікім правам. Ім дазволена загадваць толькі тое, што будзе карысна для ўсяго грамадзтва. Іхныя загады павінны быць справядлівыя.

Уладаў ёсьць столькі, колькі ёсьць розных грамадзтваў. Значыцца ёсьць улада ў сям’і, у школе, у супольнай працы, у згуртаваньнях усякага роду, у Царкве і ў дзяржаве.

Ісус Хрыстос вучыў шанаваць уладу. Сам быў паслушны ўладзе Сваіх бацькоў у Сьвятой Сям’і. Калі Яго запыталіся, ці трэба плаціць падаткі, Ён перш папрасіў паказаць Яму рымскую манэту, на якой быў абраз і напіс Цэзара, а пасьля сказаў: “Дык аддайце Цэзару тое, што да яго належыць, а Богу аддайце тое, што належыць да Бога” (Мац. 22, 21). Пашану да ўлады аказаў Хрыстос, калі Яго судзілі. Ён паслушна адказваў на тыя пытаньні, якія мелі права ставіць Яму гэбрайскія судзьдзі і Пілат.

Апосталы гэтак сама шанавалі ўладу. Але калі ад іх зажадалі, каб яны перасталі вясьці працу, на якую іх паслаў Хрыстос, яны адказалі: “Больш трэба слухацца Бога, чым людзей” (Дз. 5, 29).

Хрысьціянін ставіцца да загадаў улады так, як да волі Бога. У лучнасьці з Хрыстом і Царквой ён аказвае паслухмянасьць усім, што маюць над ім уладу. А калі ён сам будзе мець уладу, будзе карыстаць з яе справядліва ды толькі для агульнага дабра.

**Наш адказ Богу:** Ідучы сьледам за Хрыстом, буду выпаўняць загады законнае ўлады.

**Прыклад малітвы:** Усемагутны вечны Божа, у Тваіх руках знаходзіцца ўсякая ўлада і законы ўсіх народаў; узглянь ласкава на тых, што намі кіруюць, каб пад апекай Тваей рукі безупынна рэлігія цешылася развіцьцём, а бацькаўшчына мірам.

**Божае Слова:** “Усякая душа няхай будзе пакорна вышэйшым уладам, бо няма ўлады, каб не ад Бога; існуючыя-ж улады ад Бога пастаўлены. Дзеля гэтага, хто працівіцца ўладзе, працівіцца Божай пастанове; хто-ж працівіцца, самі на сябе прысуд нацягнуць. Бо начальнікі страшныя не для добрых дзел, але для благіх. Ці хочаш не баяцца ўлады? Рабі дабро, і атрымаеш пахвалу ад яе; бо гэта ёсьць Божы слуга табе на дабро. Калі ж робіш благое, бойся, бо ён не надарма носіць меч: ён Божы слуга, і мсьціцель на гнеў робячаму благое. Дзеля гэтага трэба слухацца ня толькі з увагі на гнеў, але і на сумленьне. Дзеля гэтага-ж вы і падаткі плаціце; бо яны – Божыя слугі, гэтым самым заўсёды занятыя. Дык аддавайце кожнаму належнае: каму падатак, падатак; каму мыта, мыта; каму страх, страх; каму пашану, пашану” (Рым. 13, 1-7).

**Навука Царквы:** “Шмат і розных людзей зьбіраюцца ў палітычным грамадзтве і могуць мець розныя погляды. Каб у выніку ўпартага стаяньня кожнага пры сваёй апініі не распалася палітычная супольнасьць, патрэбная ўлада, якая кіравала б сілы ўсіх грамадзян да супольнага дабра, і то не механічным ці тыранскім спосабам, але перадусім як маральная сіла, абапёртая на свабодзе ды знаючая цяжар прынятага абавязку. Дык ясная рэч, што палітычная супольнасьць і публічная ўлада абапёртыя на чалавечай прыродзе і належаць да абазначанага Богам парадку, хоць форма ладу і выбар улады пакінены свабоднай волі грамадзянаў” (Пастаральная Канстытуцыя 74).

**Пытаньні да сто трыццаць першае катэхэзы:**

264) Чым для хрысьціяніна ёсьць улада?

**Адказ:** Улада для хрысьціяніна – выражэньне Божае волі.

265) Як адносіцца ахрышчаны да загадаў улады?

**Адказ:** Ахрышчаны ў лучнасьці з Хрыстом і Царквой аказвае паслухмянасьць усім, што маюць над ім уладу.

КАТЭХЭЗА CXXXII.

# 132. Хрыстос устанаўляе мір паміж народамі

*“Шчасьлівыя міратворцы, бо яны Божымі сынамі будуць названы” (Мац. 5)*

Шмат народаў жыве на зямлі. Яны маюць пераважна кожны сваю дзяржаву, якая з’яўляецца як бы членам вялікай сям’і народаў. Сужыцьцё народаў і дзяржаваў павінна ўкладацца прыблізна так, як у добрай сям’і. Таму мір у сужыцьці паміж народамі ёсьць найвялікшым дабром. Каб яго ўтрымаць і не дапусьціць да вайны, дзяржавы сёньня лучацца ў міжнародны саюз, Арганізацыю Аб’яднаных Нацыяў. Гэтая арганізацыя працуе над тым, каб адсуваць усякія магчымыя непаладкі паміж дзяржавамі і народамі. Адначасна яна стараецца злучыць іх у супольнай дзейнасьці дзеля такога дабра чалавецтва, як навука, культура, грамадзкія інстытуцыі, апека над дзяцьмі і гэтак далей.

Падставай дзейнасьці Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў ёсьць справядлівасьць. На жаль, паміж народамі не заўсёды ўдаецца дайсьці да згоды. Як у адносінах паміж людзьмі, так і там часта выступае эгаізм, які перашкаджае ў супольнай працы. Найчасьцей гэты эгаізм праяўляецца ў несправядлівым размеркаваньні матэрыяльнага дабра ды багацьця зямлі. І таму паўстаюць закалоты і войны, якія лёгка могуць выклікаць сусьветны канфлікт.

Супраць сям’і народаў і дзяржаў, а тым самым і супраць міру выступае крайні нацыяналізм, у якім лучыцца перавялічаны культ свайго народа з пагардай або і нянавісьцю да іншых. Гэта і ёсьць чысты нацыянальны эгаізм.

Эгаізм калектыўны так сама шкодны для народаў, як і індывідуальны шкодны для адзінак. Таму ён ёсьць грахом проціў любові, якая - адзінае лякарства на яго.

Ісус Хрыстос палюбіў усіх людзей. Любоў сваю даказаў на дзеле. Пасхальная містэрыя гэта плод Ягонае любові. “Мір на зямлі, які родзіцца з любові бліжняга, ёсьць фігурай і вынікам Хрыстовага міру, што зыходзіць ад Бога Айца. Бо сам уцелаўлёны Сын, Князь Міру, пагадзіў усіх людзей з Богам праз Свой крыж, а вярнуўшы ўсім адзінства ў адным народзе і адным Целе, усьмерціў нянавісьць у собскім Целе, ды ўзвышаны праз уваскрасеньне выліў Духа любові на чалавечыя сэрцы” (Пастаральная Канстытуцыя 78).

Мір ёсьць таксама дзелам справядлівасьці, якую вярнуў Хрыстос пасьля таго, як яе нарушыў першародны грэх.

У Сваёй любові да справядлівасьці Хрыстос пакінуў нам мір: “Мір пакідаю вам, Мой мір даю вам. Ня так, як сьвет дае, Я даю вам” (Ян. 14, 27).

Кожны ахрышчаны ўзмацоўвае мір, які дае Хрыстос, калі толькі выпаўняе Ягоныя загады: “Хто мае Мае загады і выпаўняе іх, той любіць Мяне, а таго, хто любіць Мяне, любіцімець Мой Айцец, і Я палюблю яго і зьяўлюся яму Сам” (Ян. 13, 21). Хрысьціянін у духу любові стараецца пазнаць гісторыю і культуру іншых народаў, каб мог іх лепш зразумець. Ён будзе таксама сьцерагчыся антыпатыі, перадузятасьці, бязпадстаўнай крытыкі адносна іншых народаў.

**Наш адказ Богу:** Буду кіравацца любоўю і справядлівасьцю, каб праз гэта працаваць дзеля міру.

**Прыклад малітвы:** Божа, ад Якога прыходзяць сьвятыя пажаданьні, добрыя намераньні ды дабрадзейныя паводзіны, дай Сваім слугам мір, якога сьвет даць ня можа; няхай нашыя сэрцы будуць паддадзеныя Тваей волі, а дні, у якіх мы жывём, хай з Тваей ласкі будуць спакойнымі (З Літургіі за мір).

**Божае Слова:** “Дык пачуйце, цары, і зразумейце, навучыцеся, судзьдзі зямных рубяжоў! Нахіліце вуха, вы, што над многімі пануеце і хваліцеся шматлікасьцю народаў, бо ад Госпада вы атрымалі ўладу і ад Найвышэйшага панаваньне: Ён дасьледуе вашыя ўчынкі і рассудзіць вашыя замыслы” (Мудр. 6, 1-3). – “Бо Хрыстос ёсьць нашым мірам. Ён, Што ўчыніў з абодвых адно і разбурыў стаяўшую пасярэдзіне загадку, зьнічтожыўшы варожасьць Целам Сваім, а закон загадаў – навукай, каб з дваіх стварыць у Сабе аднаго новага чалавека, ладзячы мір… і, прыйшоўшы, абвясьціў вам мір далёкім і блізкім” (Эф. 2, 14-17).

**Навука Царквы:** “Дзеля таго, што воля чалавека аказваецца слабой, ды пры гэтым яшчэ раненай грахом, рупнасьць аб міры вымагае ад кожнага чалавека сталага панаваньня над схільнасьцямі, а з боку законнае ўлады чуйнасьці… Таму настойліва заклікаюцца хрысьціяне, каб робячы праўду ў любові, лучыліся з людзьмі шчыра, міралюбіва працуючы над тым, каб вымаліць і ўстанавіць мір” (Пастаральная Канстытуцыя 78).

**Пытаньне да сто трыццаць другой катэхэзы:**

66) На чым абапёрты Хрыстовы мір?

**Адказ:** Хрыстовы мір абапёрты на справядлівасьці і любові.

# Заканчэньне: Хрыстос той самы на векі

*“Убачыце Сына Чалавечага, … прыходзячага на нябесных аблоках” (Мац. 26, 64).*

КАТЭХЭЗА CXXXIII.

## 133. Хрыстос атрымае аканчальную перамогу ў другім прыходзе

*“Калі прыйдзе Сын Чалавечы ў Сваёй славе, і ўсе сьвятыя Ангелы з Ім, тады сядзе Ён на пасадзе Сваёй славы. І зьбяруцца перад Ім усе народы; і аддзеліць адных ад другіх, як пастыр аддзяляе авец ад казлоў; і паставіць авец па правай руцэ, а казлоў – па левай” (Мац. 25, 31-34).*

Прарокі Старога Запавету прадказалі дзень Божае перамогі. Ягвэ ў канцы навядзе справядлівасьць у сьвеце, пераможа ворагаў, выкараніць зло ды дасьць Божаму народу мір і шчасьце (Яіль 4). Гэтыя надзеі ёсьць злучанымі з асобай Божага пасланца, Месіі, Які Сваім прыходам запачаткуе Божае Валадарства (Іс. 2, 11, 49-54).

Ян Хрысьціцель, які аб’явіў прыход месіянскіх часаў, клікаў: “Той, Што йдзе за мной, ёсьць сільнейшы ад мяне… Ён вас будзе хрысьціць Сьвятым Духам і

агнём. Ён мае веялку ў руках і будзе веяць Свой умалот: пшаніцу зьбярэ ў сьвіран, а мякіну спаліць у нягаснучым агні” (Мац. 3, 11-12). Ян выразна ўважаў Ісуса за Месіі, які будзе судзіць сьвет.

Хрыстос шмат разоў упэўніваў, што прыйдзе калісь другі раз на зямлю і што тады споўніцца цалкам Божае Валадарства. Наступіць і ўзнагарода за дабро, як і адплата за зло: “Бо Сын Чалавечы прыйдзе ў славе Свайго Айца разам са Сваімі Ангеламі, і тады аддасьць кожнаму паводле ягоных учынкаў” (Мац. 16, 27). Навуку аб другім прыходзе разьвіў і выясьніў Хрыстос у прыповесьцях, напрыклад у прыповесьці аб нясьпячых слугах (Лук. 12, 33-40) або аб дзесяці дзевах (Мац. 25, 1-13).

Прадказаньне другога прыходу паўтарыў Хрыстос таксама перад гэбрайскім судом і то вельмі ўрачыста, бо пад прысягай (Мац. 26, 64). Калі Хрыстос адыходзіў на неба, апосталы атрымалі яшчэ адно прырачэньне: “Гэты Ісус, узяты ад вас на неба, прыйдзе гэтаксама, як бачылі вы Яго ўзыходзячым на неба” (Дз. 1, 11). З навукі Самога Хрыста выходзіць, што прыйдзе Ён другі раз на зямлю ў “Апошні Дзень” (Ян. 6, 40. 44. 45). Гэта той самы дзень, які прарокі называлі “Гасподнім Днём” або “Днём Ягвэ” (Яіль 2 і 3; Мал. 3, 2).

Перад тым, як гэты “Апошні Дзень” настане, Хрыстовае Евангельле дойдзе да ўсіх людзей на зямлі (Мац. 24, 14). Ня ўсе прымуць яго – шмат хто адкіне, змагаючыся з Царквою ды перасьледуючы Хрыстовых вучняў. Будуць і фальшывыя прарокі, якія шмат каго зьвядуць і давядуць да вырачэньня (Мац. 24, 3-14). У канцы прыйдзе антыхрыст, “чалавек граху і сын пагібелі, які супрацiўляецца і вывышаецца панад усё, званае Богам ці сьвятыняй, так што ў Божым храме ён засядзе, як Бог, паказваючы сябе, што ён Бог” (2 Тэс. 3, 3). Пры помачы чорта ён будзе рабіць незвычайныя рэчы і шмат хістаючыхся людзей адвядзе ад Бога. Аднак Хрыстос Сваёй Божай сілай яго пераможа (2 Тэс. 2, 3-11). Аб тым дні, калі Хрыстос прыйдзе, “ніхто ня ведае, ані ангелы ў небе, ані Сын, толькі адзін Айцец” (Мац. 24, 36). Гэты дзень прыйдзе раптам, неспадзявана, таму трэба быць заўсёды прыгатаваным: “Дык ня сьпіце, бо ня ведаеце, у які дзень ваш Госпад прыйдзе” (Мац. 24, 42).

Хрыстос прыйдзе як Пераможца і Судзьдзя, бо “Айцец увесь суд аддаў Сыну, каб усе паважалі Сына, як паважаюць Айца” (Ян. 5, 22).

Хоць мы штодзень паўтараем, што верым у другі прыход Хрыста, Які “прыйдзе судзіць жывых і памёрлых”, Царква яшчэ спэцыяльна кожны год на заканчэньне літургічнага году прыпамінае нам гэтую праўду, каб разбудзіць у нас надзею, а нават тугу за поўнай справядлівасьцю і выратаваньнем у Хрысьце.

**Наш адказ Богу:** Буду жыць у чаканьні на прыход Хрыста.

**Прыклад малітвы:** “Неспадзявана Судзьдзя прыйдзе і выявяцца ўчынкі кожнага, дык а поўначы з страхам усклічам: Сьвят, Сьвят, Сьвят Ты, Божа, Багародзіцай, памілуй нас”.

**Божае Слова:** “Бо зьявілася Божая ласка, збаўляючы ўсіх людзей, навучаючы нас, каб, адцураўшыся бязбожнасьці і пажадлівасьці сьвету, разважна, справядліва і богабойна жылі мы ў цяперашнім веку, чакаючы шчаснае надзеі і зьяўленьня славы вялікага Бога і Выратавальніка нашага Ісуса Хрыста” (Ціт. 2, 11-13). – “Хрыстос, раз прынесшы Сябе на ахвяру, каб панясьці грахі многіх, другі раз без граху зьявіцца тым, што чакаюць Яго, на збаўленьне” (Гэбр. 9, 28). – “Прыйдзі, Госпадзе Ісусе!” (Ап. 22, 20).

**Пытаньне да сто трыццаць трэцяе катэхэзы:**

267) Калі выявіцца ў паўнаце слава Божага Валадарства?

**Адказ:** Слава Божага Валадарства выявіцца ў паўнаце, калі Хрыстос прыйдзе другі раз на зямлю.

КАТЭХЭЗА CXXXIV.

# 134. Хрыстос пакліча на апошні суд усіх людзей жывых і памёрлых

*“Не хачу пакінуць вас, браты, у няведаньні аб памерлых, каб не тужылі вы, як і іншыя, што ня маюць надзеі. Бо, калі мы верым, што Хрыстос памёр і ўваскрос, дык і памерлых у Ісусе Бог прывядзе з Ім. Бо гэтае кажам вам Госпаднім словам, што мы, жывыя, якія застаемся да прыходу Госпада, не апярэдзім тых, што памерлі, бо Сам Госпад з абвяшчэньнем, з голасам Архангела і трубой Божай зыйдзе з неба, і мёртвыя ў Хрысьце ўваскрэснуць першымі; пасьля мы, што застаемся жывымі, разам з ім будзем падхоплены на аблоках на спатканьне Госпаду на паветра, дык гэтак заўсёды з Госпадам будзем. Дык суцяшайце адзін аднаго гэтымі славамі” (1 Тэс. 13-18).*

Калі Хрыстос другі раз прыйдзе на сьвет, Ён пакліча да Сябе ўсіх людзей, добрых і дрэнных, жывых і памерлых. Сваёй Божай сілай Ён зробіць, што целы памерлых злучацца са сваімі душамі. Гэтак завяршыцца дзела Хрыста. “Ад гэтае пары сьмерці ня будзе ўжо больш” (Ап. 21, 4), а ўваскрасеньне целаў будзе на зямлі апошнім вынікам і завяршэньнем выратаваньня. Ісус Хрыстос, “першынец із мёртвых” (Кал. 1, 18), зробіць нас удзельнікамі ўваскрасеньня. Сьвяты Павал падае падставу нашага ўваскрасеньня: “Бо, як сьмерць праз чалавека, гэтак праз чалавека і ўваскрасеньне мёртвых. Бо, як у Адаме ўсе паміраюць, гэтак у Хрысьце ўсе ажывуць, і кожны ў сваім парадку: сьпярша – Хрыстос, потым – Хрыстовыя, ў Ягоны прыход” (1 Кар. 15, 21-23). Уваскрасеньне цела жыва цікавіла ўжо Карынцянаў. Гэтую тайну так выясьняў ім далей апостал: “Але скажа хто-небудзь: як уваскрэснуць мёртвыя? ды ў якім целе прыйдуць? Дурныя! Што ты сееш, не ажыве, калі не памрэ; і што сееш, сееш ня будучае цела, а голае зерне, пшанічнае, ці якое іншае, як надарыцца; але Бог дае яму цела, як хоча, і кожнаму зярняці сваё цела… Гэтак і ўваскрасеньне мёртвых: сеецца на тленьне, устае ў нятленнасьці; сеецца ў паніжэньні, устае ў славе; сеецца ў бязьсільлі, устае ў сіле; сеецца цела душэўнае, устае цела духоўнае. Калі ёсьць цела зямное, то паўстане і нябеснае… І як мы насілі абраз зямнога чалавека, будзем насіць і нябеснага” (1 Кар. 15, 35-49). Целы збаўленых падобныя будуць да праслаўленага цела Хрыста. Целы асуджнаных будуць выражаць унутраную іхную дрэннасьць і роспач.

Тады ўсе людзі пойдуць на суд Ісуса Хрыста. Ён адкупіў сьвет – Ён будзе і судзіць яго, бо Айцец увесь суд перадаў Сыну (Ян. 5, 22). Усё, што людзі рабілі, станецца цяпер ведамым і яўным: “Калі прыйдзе Госпад, асьвеціць схаванае ў цемры і выявіць учынкі сэрцаў” (1 Кар. 4, 4). Дрэнных аддзеліць ад добрых. Добрыя і справядлівыя, якія выбралі Бога і любілі Яго, атрымаюць вечнае жыцьцё ў Богу. Дрэнных, якія ад Бога адвярнуліся і да канца не навярнуліся – Хрыстос адкіне на векі. Доказам, ці хто Бога любіў, ці не, будуць ягоныя адносіны да бліжніх тут на зямлі (Мац. 25, 31-46; Ян. 1, 4, 20).

На Апошнім Судзе пакажацца ўпоўні Божая сьвятасьць і справядлівасьць, а таксама Ягоная мудрасьць і міласэрнасьць для грэшнікаў. Хрыстос сказаў: “Хто есьць Маё цела і п’е Маю кроў, мае вечнае жыцьцё, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень” (Ян. 6, 54). Эўхарыстыя – задатак будучага ўваскрасеньня. Таму Царква так жыва выражае праўду аб нашым уваскрасеньні ў Хрысьце ў кожнай сьвятой Літургіі.

**Наш адказ Богу:** Перш чым штосьці зраблю, падумаю аб адказнасьці за ўсё на Божым судзе.

**Прыклад малітвы:** Ня кліч на суд Свайго слугі, Госпадзе, бо не акажацца справядлівым перад Табой аніводны чалавек, калі Ты не даруеш яму ўсіх грахоў. Ісусе, ня будзь мне судзьдзёю, але Збаўцам!

**Божае Слова:** “Прыйдзе час, калі ўсе, што ў магілах, пачуюць голас Божага Сына, і выйдуць, што добрае чынілі, на ўваскрасеньне жыцьця, а што дрэннае чынілі – на ўваскрасеньне суду” (Ян. 5, 28-29). – “Воля паслаўшага мяне, каб кожны, хто бачыць Сына і веруе ў Яго, меў вечнае жыцьцё, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень” (Ян. 6, 40). – “Ён загадаў нам абвяшчаць народу і сьведчыць, што Бог Яго паставіў судзьдзёю жывых і памерлых” (Дз. 10, 42). – “Нашае ж жыцьццё – на нябёсах, адкуль мы чакаем і Збавіцеля, Госпада Ісуса Хрыста, Які ператворыць цела нашае зьнявагі, каб яно сталася падобным да цела Ягонае славы” (Філіп. 3, 20-21). – “Зямныя цары, і магнаты, і багатыры, і тысячнікі, і асілкі, і кожны нявольнік і вольны паўкрываліся ў пячорах і ў горных расколінах дый кажуць гарам і скалам: зваліцеся на нас і ўкрыйце нас ад аблічча Сідзячага на пасадзе ды ад гневу Ягняці: бо настаў вялікі дзень Ягонага гневу, і хто здолее ўстаяці?” (Ап. 6, 15-17).

**Навука Царквы:** “Хрысьціянін, стаўшыся падобным на абраз Сына, Які ёсьць Першынцам паміж многімі братамі, атрымлівае “зачатак Духа” (Рым. 8, 23), які робіць яго здольным выпаўняць новы закон любові. Праз таго-ж Духа, які ёсьць “задаткам спадчыны” (Эф. 1, 14), увесь чалавек унутрана абнаўляецца аж да “адкупленьня цела” (Рым. 8, 23), бо “калі Дух Таго, Хто ўваскрасіў із мёртвых Ісуса, жыве ў вас, дык Той, Хто ўваскрасіў Хрыста з мёртвых, ажывіць і вашыя сьмяротныя целы Сваім Духам, Што жыве ў вас” (Рым. 8, 11). Хрысьціяніна пэўна-ж падганяе патрэба і абавязак змаганьня з грахом сярод шматлікіх турботаў, не вылучаючы сьмерці, але ўлучаны ў Пасхальную Тайну, упадобніўшыся да Хрыстовае сьмерці, ён пойдзе падмацаваны надзеяй да ўваскрасеньня” (Пастаральная Канстытуцыя 22).

**Пытаньні да сто трыццаць чацьвертае катэхэзы:**

268) Калі адбудзецца ўваскрасеньне целаў?

**Адказ:** Уваскрасеньне целаў адбудзецца, калі Госпад другі раз прыйдзе на зямлю.

269) Хто будзе Апошнім Судзьдзёю ўсіх людзей?

**Адказ:** Апошнім Судзьдзёю ўсіх людзей будзе Ісус Хрыстос.

КАТЭХЭЗА CXXXV.

# 135. Божы народ асягне сваю мэту ў вечным жыцьці з Хрыстом

*“І ўбачыў я новае неба і новую зямлю, бо першае неба і першая зямля мінулі, і мора ўжо няма. І сьвятое места, новы Ерусалім, якое зыходзіла ад Бога з неба, прыгатаванае быццам нявеста, прыбраная дзеля свайго мужа. І пачуў я вялікі голас з неба, мовячы: Вось сьвятыня Бога з людзьмі, і Ён будзе жыць з імі; і людзі будуць Ягонымі, і Сам Бог будзе з імі, іхні Бог. І абатрэ Бог усякую сьлязу з іхніх вачэй; і сьмерці ўжо ня будзе, і ня будзе ўжо ані плачу, ані галашэньня, ані труду, бо першыя мінулі. І сказаў Сідзячы на пасадзе: Вось Я ўсё раблю новым” (Ап. 21, 1-5).*

Яшчэ ў Старым Законе Бог прадказаў праз прарока, што настане калісь новы, лепшы сьвет: “Вось Я ствараю новыя нябёсы і новую зямлю: ня будуць

ужо ўспамінаць даўнейшых падзеяў ані ў думку яны ня прыйдуць. Наадварот, радасьць і вясельле назаўсёды з таго, што Я ствару; бо вось Я зраблю з Ерусаліму вясельле, і з ягонага народа – радасьць” (Іс. 65, 17-18).

Хрыстос гэтак сама абяцаў вучням, што яны ўбачаць новы, адроджаны сьвет: “Сапраўды кажу вам, што ў новым жыцьці, пры адраджэньні, вы, што пайшлі за Мною, калі Сын чалавечы сядзе на пасадзе Сваёй славы, сядзеце таксама на дванаццацёх пасадах судзіць дванаццаць пакаленьняў Ізраілевых” (Мац. 19, 28).

Пасьля другога прыходу Госпада і пасьля Апошняга Суду Бог ня зьнішчыць сьвету, але адродзіць яго ды абновіць. Новы сьвет будзе лепшы – запануе ў ім справядлівасьць: “Мы чакаем паводле Ягонага абяцаньня новага неба і новае зямлі, на якіх справядлівасьць жыве” (2 Патр. 3, 13). Хрыстовае адкупленьне дапоўніцца аканчальна. Новы сьвет будзе ўжо бяз граху і бяз наступстваў граху. Счэзьне ўсякае зло, чорт будзе аканчальна выгнаны з Божага Валадарства (Ап. 20, 10) і закончыцца змаганьне, якое з ім пачаў Хрыстос пасьля Свайго хросту ў Ярдане (Мац. 4, 1-11). Калі счэзьне грэх, шчазьне і ягоны рэзультат – сьмерць: “Як апошні вораг будзе пераможана сьмерць” (1 Кар. 15, 26).

Божы народ, якога жыцьцё было дасюль “шляхам”, прыйдзе да мэты, “ў Доме Айца”. Скончацца труднасьці і цяжкасьці часовага жыцьця – пачнецца вечнасьць у яснасьці і славе. Пілігрымуючая Царква сярод зьменлівасьцяў і змаганьняў там будзе збіраць умалот, які ня вычэрпаецца ніколі. Ня будзе ўжо знакаў і сымбаляў, бо іх заменіць пышная рэчаіснасьць. Хрыстос дасьць Сваёй Нявесьце, Царкве, невыражальную радасьць, а ўвесь сьвет напоўніць мірам і шчасьцем.

Гэты новы, пераменены сьвет Хрыстос аддасьць Айцу: “І тады канец, калі Ён аддасьць Валадарства Богу і Айцу, калі зьнічтожыць усякае начальства і ўсякую ўладу і сілу” (1 Кар. 15, 24). Божае Валадарства станецца фактам. Бог будзе жыць з людзьмі. Так як вышлі мы ад Бога – да Бога вернемся. “Бог будзе ўсім у-ва ўсіх” (1 Кар. 15, 28).

Мы штодзень датыкаемся тайны новага сьвету, якога спадзяемся. Гэта бывае тады, калі прымаючы ўдзел у Эўхарыстыі, а нават прыватна гаворачы “Ойча наш”, мы кажам з вераю: “Прыйдзі валадарства Тваё!” Мы жадаем, каб Божае Валадарства прыйшло такім, якім яго абвясьціў Хрыстос і якое бязумоўна здзейсьніць Бог.

**Наш адказ Богу:** Жыву надзеяй Божага Валадарства, перад якім усе цяжкасьці гэтага жыцьця ня маюць найменшага значэньня.

**Прыклад малітвы:** Прыйдзі валадарства Тваё!

**Божае Слова:** “Думаю, што мукі цяперашняга часу недастойныя тае славы, што мае выявіцца ў нас” (Рым. 8, 18). – “Бо мы ведаем, што, калі зямны наш дом, хаціна, разваліцца, дык мы маем ад Бога будоўлю на нябёсах, дом нерукатворны, вечны. Ад гэтага-ж мы і ўздыхаем, жадаючы апрануцца ў нашую будоўлю, што з нябёсаў, толькі-б нам і апрануўшыся не аказацца голымі” (2 Кар. 5, 1-3). – “Але, як напісана: чаго ня бачыла вока і ня чула вуха, і што не ўваходзіла ў сэрца чалавека, тое Бог прыгатаваў любячым Яго” (1 Кар. 2, 9).

**Навука Царквы:** “Гэтую вось годную пашаны веру нашых продкаў, якая датычыць жывой лучнасьці з братамі, што ўжо знаходзяцца ў нябеснай славе або яшчэ ачышчаюцца па сьмерці, гэты Сьвяты Сабор з вялікім піятызмам прымае ды на нова прадстаўляе пастановы ў гэтай меры сьвятых Сабораў: Ніцэйскага Другога, Фларэнцкага і Трыдэнцкага. Адначасна, як гэтага вымагае ягоная душпастырская рупнасьць, ён зьвяртае ўвагу ўсіх, да каго гэта належыць, каб калі дзе закраліся якія злоўжываньні, правіннасьці або

недацягненьні, стараліся іх уціхамірыць або паправіць і каб усё абнавілі на большую славу Бога і Хрыста. Дык няхай навучаюць веруючых, што сапраўдны культ сьвятых палягае ня столькі на шматлікасьці вонкавых актаў, колькі на напружаньні нашай актыўнай любові, праз якую мы шукаем у сьвятых дзеля сваёй большай карысьці і карысьці Царквы як прыкладу жыцьця, так і ўдзелу ў супольнасьці з імі ды іхняй помачы ў іхнім заступніцтве. А з другога боку няхай усьведамляюць вернікаў, што нашая лучнасьць з жыхарамі неба, абы толькі разумець яе ў паўнейшым сьвятле веры, зусім не памяншае культу пакланеньня, якое праз Хрыста мы аддаём Богу Айцу ў Духу, а наадварот, яшчэ больш яго ўзбагачвае. Бо ўсе мы, што зьяўляемся Божымі дзяцьмі ды творым адну сям’ю ў Хрысьце (Гэбр. 3, 6), калі лучымся паміж сабою ва ўзаемнай любові ды ў адным праслаўленьні Найсьвяцейшае Тройцы, адказваем найглыбейшаму закліку Царквы і прыймаем удзел у смакаваньні наперад літургіі дасканальнае славы. Бо калі Хрыстос пакажэцца ў славе і наступіць слаўнае ўваскрасеньне памёрлых, Божая яснасьць асьвеціць Нябеснае Места, а яго ным сьветачам будзе Ягня (Ап. 21, 24). Тады ўся Царква сьвятых у поўным блаславенстве любові будзе славіць Бога і “заколенае Ягнятка” (Ап. 5, 12), клічучы ў адзін голас: “Сідзячаму на пасадзе і Ягняці бласлаўленьне, і пашану, і слава, і сіла на вечныя вякі” (Ап. 5, 14)” (Канстытуцыя аб Царкве 51).

**Пытаньні да сто трыццаць пятае катэхэзы:**

270) Што станецца з нашым сьветам пасьля Апошняга Суду?

**Адказ:** Пасьля Апошняга Суду наш сьвет будзе перароблены на нова Богам.

271) Чым будзе новы, перароблены Хрыстом Богам сьвет?

**Адказ:** Новы, перароблены Хрыстом Богам сьвет будзе поўнасьцьцю Божым Валадарствам.

# Канец і Богу слава!

# Зьмест